№4 (89)
/ліпень-жнівень/ 2017

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Проза**

**Людміла Рублеўская.**
Пантофля Мнемазіны. *Раман. (Пачатак).* / 5
**Адам Глобус.**
Парыжскія казкі. / 91
**Паліна Качаткова.**
Лядоўня ў кватэры №0. *Апавяданне.* / 110
**Аксана Спрынчан.**
Разынкавая муроўка. *Запісы.* / 123
**Зараслава Камінская.**
“Тутэйшыя”. Краткое содержание скачать. *Апавяданне.* / 143

**Паэзія**

**Людка Сільнова.**
У канцы будуць горы. *Вершы.* / 82
**Сяргей Ваганаў.**
Паэт жывы, пакуль жывы Народ... *Вершы.* / 102
**Васіль Дэбіш.**
Дзе ёсць любоў... *Вершы.* / 114
**Сяргей Сцяпан.**
Пластылінавы народ. *Вершы.* / 136

**Дэбют**

**Вераніка Міхалёва.**
Маё сэрца заўсёды тут... *Вершы.* / 149

**Пераклады**

**Чарадзейка-поўня. *Анталогія італьянскай паэзіі.*** *Пераклад Аксаны Данільчык.* / 152
***Джакама Леапардзі*** – 152; ***Джазуэ Кардучы*** – 152; ***Джавані Паскалі*** – 153; ***Карла Мікельстэдтэр*** – 154; ***Дзіна Кампана*** – 155.
**Рышард Капусцінскі.**
Кіргіз злазіць з каня. *(Заканчэнне). Пераклад Яўгена Салейчука.* / 158

**500-годнасць**

**Ірына Дубянецкая.**
*Эдэнскі сад: веда дабра і зла. Кніга Роду 3. Новая беларуская Біблія. (Працяг).* / 184

**Аляксей Каўка.**
Выйсці ў свет і застацца сабою.
*Над Скарынавым радком.* / 192

**Спадчына**

**Алесь Наўроцкі.**
Слова пра слова. *(Пачатак).*
*Падрыхтоўка да друку, прадмова і каментары Віктара Жыбуля.* / 199

**Да 100-годдзя Янкі Брыля**

**Валерый Назараў.**
Маленькая сага... *«Муштук і папка» Янкі Брыля: некаторыя разважанні над матэрыяламі пісьменніцкага архіва.* / 228

**Памяць**

**Алесь Бельскі.**
"Свой крыж".
*Слова пра Генадзя Праневіча.* / 235

**Ірына Саматой.**
"Я перад музай ніхто: адзін з тысяч яе жаніхоў..." *Штрыхі да творчага партрэта Міхася Райчонка.* / 242

**Вытокі**

**Канстанцін Тышкевіч.**
Вілія і яе берагі ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах. *Пераклад Уладзіміра Васілевіча. (Заканчэнне).* / 245

**Згадкі**

**Лія Салавей.**
Гавэнды майго краю. *(Заканчэнне).* / 272

**Кнігапіс**

**Леанід Галубовіч.**
Беларускае дзяцінства ў Таяма.
*Рэцэнзія на кнігу Вячаслава Казакевіча.* / 293

**Дзеяпіс**

*Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* / 299

Людміла Рублеўская



...беларусы
ўмеюць быць жорсткімі...

# Пантофля Мнемазіны

***Раман***

## Раздзел першы. ПРЫВІД З УНІТАЗАМ

Вы разбіраецеся ў пагонах?

Я – не.

Таму цяпер і сяджу ў закутку, дзе на адным маніторы бачу, як людзі ідуць па лесвіцы ўніз, на другім – уверх.

Як на малюнку аўстрыйскага мастака Эшэра, які любіў маляваць неіснуючыя канструкцыі, па якіх то жамяра поўзае, то чалавечкі.

Ну скуль мне было ведаць, што маленькае фота дзядзькі не з тымі пагонамі запхне мяне ў гэты закуток, да гэтай дурной працы, нібыта спецыяльна прыдуманай мне ў пакаранне.

А ўсяго толькі ў ведамаснай транспартнай газетцы, дзе я працавала дызайнерам, трэба было размясціць чарговую гутарку з Вельмі Важным Начальнікам, адначасова і ваенным, і транспартным. Раз-два, фоткі з інтэрнэта спампава-

ла... Як па мне, дык усе там на адзін твар: квадратныя сківіцы, халодныя вочы, на фізіяномію зірнеш – да варажэі не хадзі, ногі ў кірзавых ботах.

Але фота, якое я на аўтамаце паставіла на паласу, аказалася старое, і ў дзядзькі на пагонах блішчэла на адну зорачку меней, чым ён цяпер мае.

– Толькі і адчапіліся, калі запэўніў, што віноўныя паляцяць з працы са свістам, – начальнік мой, Вячаслаў Мацеевіч па мянушцы Доктар Зло, стамлёна выціраў змакрэлы лоб папяровай сурвэткай з выявамі калядных аленяў. – Вядома, што з цябе, дзеўкі, узяць. Сітуацыя дурная. Звальняць не буду, але перасядзі, пакуль усё супакоіцца, на другой пасадзе, далей ад рэдакцыі, каб на вочы нікому не траплялася.

Вось і не трапляюся. Я цяпер незаўважная, як шашаль у бярвенні.

Месца маёй высылкі – у вольным кутку службы бяспекі. Ахоўнікі вестцы, што цяпер у іх пад бокам будзе шыцца нейкая дызайнерка, асабліва не ўзрадаваліся. Тым болей міла шчабятаць не ўмею, на заляцанні рэагую, як воцат на лыжку соды.

Першая змена маіх пільных суседзяў з шасці да шаснаццаці, другая – з шаснаццаці да гадзіны ночы. У першую звычайна дзяжурыць Паша, малады белявы мент. У другую – Вадзім Максімавіч, суворы мужчына з абліччам, якое немагчыма запомніць. Паша любіць слухаць расейскі гурт “Любэ” і жаваць сушаных кальмараў, мабыць, марачы пры гэтым пра піва, немагчымае “пры выкананні”. Вадзім Максімавіч п’е біякефір і разгадвае красворды. Ягоныя тоўстыя пальцы так нязграбна сціскаюць асадку, што згадваецца Кінг-Конг за банкетным сталом. Абодва, змірыўшыся з маёй прысутнасцю, пачалі мной апекавацца. То гарбатай з тэрмасу пачастуюць, то адпусцяць прайсціся на свежым паветры – “прыкрыем, калі што”. Але я стараюся не кантактаваць з ахоўнікамі – іх вочы, здаецца, працінаюць мяне, як жамяру, а з вуснаў вось-вось прагучыць пытанне: “А ну, грамадзянка Ірына Корвус, як выглядаюць пагоны палкоўніка? Адказвайце зараз жа!”

А я абліваюся потам ды маўчу, бо зорачкі бессэнсоўна круцяцца ў галаве, як у ігральным аўтамаце “аднарукі бандыт”, а з іх аніяк не складаецца выйгрышная камбінацыя.

Дарэчы, сапраўднае маё імейка – Вірынея. Простым шляхам з савецкага серыяла, які дужа любіла мая мама. Але толькі блізкія людзі, пасвечаныя ў таямніцу маіх пашпартных дадзеных, звяртаюцца па-серыяльнаму. Тут, у нетрах метрапалітэна, я Ірына Максімаўна Корвус, у дзявоцтве Нарушэвіч.

...Тут пах нагрэтага металу, дыму, мазуту... І ціха. Як не павінна быць. Гукаізаляцыя, бы ў падводнай лодцы. Замест гукаў – вібрацыя... Праз роўныя прамежкі часу яна скаланае памяшканне, быццам я знаходжуся ўнутры істоты, якая пачынае рагатаць альбо кашляць... Мяне заглынулі і пераварваюць.

Справа ў тым, што маё цяперашняе месца працы проста над станцыяй метро. Тут, у закутку службы бяспекі, вылучылі для мяне стол з камп’ютарам, сабраным з запцацак, як стварэнне Франкенштайна. Уключаецца выспяткам у бок. Я механічна раблю чарговую рэкламную абвестку (курсы па вырошчванні трэцяга вока, супер-распродаж дзіравых шкарпэтак, студыя карэкцыі фігуры з дапамогай іспанскіх ботаў) ці прыдумляю сацыяльны плакат, які будзе заклікаць аплочваць праезд у грамадскім транспарце і трымацца за поручні. Вельмі хачу намаляваць мокрага п’янага янота, які круціцца на поручні, як стрыптызёрка на шосце. Не наважваюся. Напалоханая я, спадарства. Адбілі ахвоту сцябацца. Толькі туга бярэ, калі чую

чарговае заданне, якое яшчэ сем год таму паставіла б мяне ў позу берсерка: ды нізавошта! Ганьба! Не дам замазаць сваё імя гэтай ідэалагічнай лухтой!

Але любая поза стамляе, нават на бронзавым пастаменце пад лаўравым вянком. Цяпер я апускаю вочы, прымiраюся, што агіда да сябе і страх у бліжэйшыя некалькі дзён трывала паселяцца ўва мне, і пачынаю рабіць, што скажуць. Самапавагі ў дзяржаўных установах не прадугледжваецца.

Са свайго закутка я магу выйсці ў велізарны калідор. У падлозе, яна ж столь для тых, хто ўнізе, – зашклёныя ячэйкі, падобныя да квадратных сотаў, празрыстыя толькі з майго боку. Не ведаю, што бачыце вы, калі задзіраеце галаву – магчыма, цёмныя застрашлівыя прагалы ў жоўтых "сотах"? Асацыяцыі з сотамі непазбежныя. Бо такі густы мядовы жоўты колер там, унізе... Уся станцыя жоўтая, як мёд. Я гляджу праз квадратныя адтуліны, і пада мной, як у сне, бо шкло каламутна-цьмянае, праплываюць галовы. У капелюшах і вязаных шапачках, з валасамі ў сутаргах хімічнай завіўкі, з пакутлівымі лысінамі. Хто выдумаў, што беларусы русявыя? Сапраўды светлыя валасы сустракаюцца рэдка. І тое яны збольшага плён хімікалій. Мімікрыя характарных паненак пад рахманенькіх. Бландынка я, не бойся, падыходзь, ты дакладна разумнейшы! Яшчэ сярэднявечныя венецыянкі ды старажытныя рымлянкі асвятлялі валасы аслінай мачой. Нізавошта не высветлю свае цёмна-рудыя. І завіваць не буду. Адзіны раз завіла – на ўласнае вяселле. Гэта была кепская ідэя. І вяселле, і завіўка.

На вялікіх маніторах у сумежным пакоі, дзе сядзіць ахова, цэлы дзень праплываюць вашыя твары. Шэрыя ад недасыпу ўранку, шэрыя ад стомы ўвечары, шэрыя ад заклапочанасці ўдзень... На халеру вы ў нешта там у юнацтве верылі, змагаліся за дыпломы, пасады і ўвагу ўпадабанай пары, каб хадзіць вось такімі шэрымі, як недапрасаваная бялізна?

Думку, што я памерла і цяпер на тым свеце, у персанальным чыстцы, я ад сябе баязліва-асцярожна адганяю, як вялізнага чмяля.

Як усё далёка... Вершы ў стылі "Адвеку мы спалі, ды нас разбудзілі". "Беларусь – ганарусь", "Айчына – сына", "сумленне – пакаленне", "зоры – прасторы", "зямля – мая" і, увага, выбух крэатыву – "курганы – груганы". Гэта я так калісь крэатывіла. Нават друкавалася ў часопісе для творчай моладзі, у рубрыцы "Дэбют". На фотцы мой лоб урачыста перавязаны стужкай з беларускім арнаментам. Каб ніхто не сумняваўся, якая аўтарка свядомая.

Быццам бы гэта было іншае жыццё, з якога ўсплываюць толькі эпізоды, як пялёсткі зёлак у размяшанай гарбаце. Вось мы ляцім у самалёце на нейкі там моладзевы семінар. Маладыя абліччы, звонкі смех. Сачыняем гісторыю пра беларускага супергероя. Хто б гэта мог быць? Чалавек-зубр? Чалавек-дзік?

Не, чалавек-трактар!

А яшчэ рамантычней – Белы Трактарыст. Белы, як уваскрослы Гэндальф з "Уладара пярсцёнкаў".

Калі насядаюць ворагі-чужынцы, пакліч – і з пушчы з'явіцца Белы Трактарыст на імклівым трактары "Беларус"... А ў Белага Трактарыста ёсць каханая дзяўчына. Яе трымаюць закладніцай у сутарэнні будынка-саркафага на галоўнай плошчы, у адмысловым халадзільніку. І завуць яе Але.

Калісьці звалі Алена, а можа Алеся, а можа і Александрына. Ды чым даўжэй прыгажуня ляжыць у сутарэннях будынка-саркафага, тым болей растае яе імя. Цяпер яна – Але...

Час ад часу Белы Трактарыст у тумане, пад пошум соснаў і шоргат

сухога трыснягу выязджае на ўскраек лесу, да балота і тужліва кліча каханую: “Але-е-е!”

А калі яе імя растане да апошняй знікаючай літары – настане канец усяму, “а-а-а-а-а......”, і абрушыцца саркафаг, і Белы Трактарыст пераедзе нас цяжкімі коламі, бо не ўратавалі ягоную каханую, забыліся нават, як яе завуць...

Мы тады шмат прыдумвалі... Што адбудзецца ў “Новай Беларусі”. Томасы Моры і Кампанелы філфакаўскага разліву. Помню, газетку футурыстычную змайстрачылі на Пенціуме – былі такія кампы эпохі Тэтрыса і Doom. Навіны светлай беларускай будучыні.

“Злавілі апошняга цмока ў Свіслачы. Чорная тлустая яшчарка на кароткіх тоўсценькіх лапках. Трымаюць у тэрарыуме Менскага заапарка, выселіўшы адтуль кракадзіла ямайскага. Эксперыментуюць, чым лепей карміць. Ялавічыну не жарэ, кураціну не жарэ, нават рыбу не жарэ, хоць рачное стварэнне. Трымаюць пакуль на манга, пeратоўчаным з крэветкамі”.

“У сутарэннях Полацка ладзяцца двухдзённыя экскурсіі з начлегам у падземным гатэлі на месцы Полацкай бібліятэкі. Кніг у бібліятэцы не засталося. Кажуць, езуіты вывезлі ўпотай, калі іхні ордэн забаранялі”.

“Радзівілы вярнуліся на Беларусь і заснавалі пад Менскам завод па выпуску новай маркі аўтамабіляў “Kakhanku”. Марка заваёўвае рынак, бо ў кіраванні простая, як магнацкі дрыкгант, а ў аздабленні абавязкова пазалочаныя дэталі і чорны арол у якасці лагатыпу”.

“Аэрапорту ў Смалявічах надалі імя Янкі Купалы”.

Якія мы былі шчаслівыя... Тады я яшчэ не задумвалася, што ўсе ўтопіі застаюцца прыгожымі, пакуль якісьці фанатык не пачне іх увасабляць. І будзе ж старацца, каб дакладна ўвасобіць, а выйдзе роўненька наадварот.

Цяпер самой сабе здаюся падобнай да той “Але”. Мяне так даўно ніхто не згадваў, што імя маё растала, выпарылася ў нетры метрапалітэна, збудаванага на балотах, пясках, суглінках і могілках.

Але нават як след абурыцца не магу, бо плаваю ў рэальнасці, як муха ў кісялі. Часам, адышоўшыся, каб не бачыў Паша ці Вадзім Максімавіч, я кладуся на падлогу-соты і гляджу, гляджу ўніз, як пада мной праплываюць людзі, людзі, людзі... Ау, я тут! Я Але...!

Ды той адзіны чалавек, які б мог назваць цалкам маё імя, той, што прыдумаў там, у самалёце, Белага Трактарыста, – знік. Праз шэсць дзён пасля нашага вяселля. Паехаў на неадкладную сустрэчу з дзелавым партнёрам у Люблін. Марыў заснаваць там фірму па насценных роспісах. У яго ж спецыялізацыя была – манументальны жывапіс. Асабліва ўдавалася імітацыя антычных развалінаў. Якраз на густ сучасных нуворышаў. На зваротнай дарозе меркаваў завітаць на рынак, прывезці мне адтуль Пунсовую Кветачку... Дакладней, новы ўнітаз з іспанскага фаянсу для нашай хрушчоўкі-аднапакаёўкі. Выправіўся на ўласнай машыне. “Жыгулях”. Адмыслова ў свой час шукаў савецкую марку. Выкупіў у Ждановічах за – сорам сказаць – дзвесце даляраў, у апгрэйд уваліў, мабыць, у дзесяць разоў болей. І распісаў арнаментам калінкавіцкага народнага строю. Ідыёт. Ён жа Віталь Корвус. Мой муж цягам шасці дзён.

Згарэлы “Жыгуль” знайшлі недзе ў гарах, на мяжы са Славакіяй, у раёне Закапанэ. Мястэчка, дзе калісь памёр ад сухотаў Іван Луцкевіч. Віталь Івана Луцкевіча дужа шанаваў. Рэдактар, антыквар, масон, усё мог зрабіць дзеля беларускай справы, хоць з бальшавікамі перамовіцца, хоць кайзераўцаў у

Вільні з хлебам-соллю сустрэць. У Луцкевіча дзве магілы. Адна – у Закапане, дзе ён праляжаў ледзь не стагоддзе. Другая – у Вільні, на могілках Роса, куды яго перапахавалі (сімвалічна, бо магіла не знойдзена...) ужо ў наш час. А ў Корвуса майго, Крумкача недарэчнага, – ні магілы, ні пэўнага лёсу...

І толькі не трэба мне вашых версій. Думаеце, хоць штосьці я не чула? Мафіёзныя разборкі (знайшлі мафіёзі з парай соцень даляраў капіталу). Прыбралі канкурэнты (такі з Віталя быў бізнесмен, як з тармазной калодкі арфа. Проста марыў, каб раз – і шмат грошай звалілася). Спецслужбы дасталі маладога апазіцыянера (ну, у пастарунку Віталь пару тыдняў калісь правёў, на мітынгах свяціўся, але калі ў грамадстве ўсё пасля плошчы патроху сціхла, сціх і ён. У палітыку не лез, бухцеў сабе на кухні, як спаконвеку ў інтэлігенцыі вялося). З'ехаў да каханкі (любімая версія маёй мамы). Вывез кантрабанду і жыве на Канарах. Быў прададзены на органы. Страціў памяць і ляжыць у нейкай замежнай клініцы (версія Віталевай цётухны, адзінай радні). Трапіў у рабства, магчыма, сэксуальнае (ха-ха). Іншапланецян і паралельныя сусветы пакінем па-за падазрэннямі.

Такога я магу вам нагаварыць на сто старонак. Лепшага за мяне спецыяліста па закручванні сюжэту ўсё адно не знойдзеце. Не таму, што я Леў Талстой, а таму, што я мадэратар сайта фанфікшэна. Ну, ведаеце, гэта калі школьніцы альбо іх расчараваныя ў жыцці настаўніцы пішуць працягі прыгод Гары Потэра і Северуса Снэйпа, альбо паляўнічых на монстраў Дзіна і Сэма Вінчэсцераў з серыяла "Звышнатуральнае", альбо вампіра Эдварда і анемічнай Бэлы, ці Арагорна з Арвен, ці Шэрлака Холмса з Ватсанам, ці Жалезнага Чалавека з Халкам, зялёным і няшчасным... У свой час мяне гэтая дурата проста выратавала – пасля з'яўлення ў маім жыцці згарэлага "Жыгуля".

Спачатку чытала ўсё запар і рагатала над спробамі апраўдаць шлюб прафесара Снэйпа і Гары Потэра. Прафесар – русалка, альбо кентаўр, альбо вампір, Гары Потэр – светлы эльф, альбо васіліск, альбо галем ці ўвасабленне скандынаўскага бога Одзіна. Галоўнае, ім ну проста неабходна ажаніцца! А то фікрайтэрша плакаць будзе.

Але за вычварнымі нязграбнымі аповедамі ("он прицелился бровью в ее сторону, и они слились в страстном поцелуе"), якія нагадвалі байкі нанач у спальні летняга дзіцячага лагера, было столькі чыёйсьці тугі, спробы ўцячы ад нецікавага, балотнага жыцця, столькі таемных жарсцяў, якіх у рэале ніколі сабе не дазволіш... А часам аўтары самі з сябе няслаба сцябаліся... І я ўцягнулася. Пісаць самой, праўда, не надта атрымалася, затое сайт прыгожы зрабіла – афармленне ўсё з таямнічых, гатычненькіх такіх дзвярэй. І мадэраваць налаўчылася.

Дарэчы, я там пад сваім замужнім прозвішчам – Корвус. Дакладней, Корвус Коракс. Крумкач на лаціне.

Сайт мой не самы вядомы, Фікбуку саступае. "Пад знакам Урабораса": не сустракалі назву? Але сталых падпісчыкаў тысяч дзесяць маю, а наведнікаў, ясна, у разы больш. Так што, да майго здзіўлення, я яшчэ і трохі грошай пачала зарабляць ад рэкламы.

Магла раскруціцца і шырэй – але я не публікую ніякіх сквікаў ды кінкаў, то бок, фантазій з вычварэннямі. Высокіх рэйтынгаў таксама не люблю, па парнаграфію – не да мяне. А так – у фанфікшэне сумленней, чым на звычайным сайце пачынаючых літаратараў, які ў геніях, бы ў каросце. Мы прызнаем, што пераймальнікі, усяго толькі гуляем з чужымі

тварэннямі... Нам не свецяць месцы ў падручніках і літаратурныя прэміі. Галоўнае, ёсць чым заняць самотныя дні-вечары-ночы.

Урэшце, што такое ўсё наша жыццё, як не фанфік – нязграбныя спробы напісаць свой лёс па ўпадабаным узоры. Раздзел за раздзелам мы выкладаем гэты вечны фанфік у выглядзе запісаў у сацыяльных сетках, фотаздымкаў, рэплік да сяброў і знаёмых. І фанфік гэты такія ж мае адносіны да нашага шэрага рэальнага жыцця, як аповеды маіх аўтараў пра сустрэчу з плячыстым богам Торам на парозе ўласнай хрушчоўкі.

У маім лёсе, прынамсі, ёсць матэрыял для сюжэта. Класна гучыць: "Прыемна пазнаёміцца, я саламяная ўдава". Жонка прывіда. Толькі і чакаць, калі паўпразрысты "Жыгуль" падляціць да падаконніка ўжо толькі маёй кватэры на чацвёртым паверсе і ненатуральна бледны ў святле месяца кіроўца выгукне: "Я прыехаў па цябе, жоначка!" А ў адкрытым багажніку блісне, як адшліфаваны вятрамі чэрап, набыты на польскім рынку іспанскі ўнітаз... І саўндтрэк з "Тытаніка" гучыць... А я такая ўся ў белым працягваю рукі...

Ага, зараз... Сем гадоў прамінула. Знаёмыя да вяселля былі ўсяго год. Сутыкнуліся ў студэнцкай мастакоўска-музычнай кампаніі на фестывалі бардаўскай песні. Скакалі ў танцзоне, падпявалі, абдымаліся. Потым усёй кампаніяй чыталі вершы Сыса і Караткевіча чамусьці помніку Максіма Горкага ў дзіцячым парку.

Максім Горкі хмурыўся і змрочна маўчаў, бо з беларускай літаратуры помніў толькі простых хлопцаў Купалу і Коласа, якія пішуць шчыра, але, наколькі згадваецца, прымітыўна.

Марціні, віскі, здаецца, партвейн.

Назаўтра мы з Віталём прачнуліся на мансардзе чужога лецішча ў адным ложку. Пакуль я ўсхліпвала ад разгубленасці і галаўнога болю (вось ужо не думала, што, як у мільёнаў дурнічак, першы сэкс здарыцца ў п'яным тумане і амаль не запомніцца), Віталь клапатліва прынёс гарбаты, місу цёплай вады, аспірын, нечы жоўты махровы халат і цвёрда заявіў, што пабярэмся шлюбам. Нікуды ён такі скарб, як я, не адпусціць. Я выяўляла з сябе гордую крэпасць цэлы год. Але ўрэшце здалася.

А як было не здацца?

Віталь далучыў мяне да такога цікавага свету! Майго жаніха хапала на ўсё, нібыта паставіў сабе за мэту не абмінуць ніводзін беларускі культурніцкі праект. Літаратурныя вечарыны, вандроўкі па гістарычных мясцінах, кватэрнікі, забароненыя спектаклі ў закінутых дамах... Вершы мае на музыку сам клаў, партрэты мае ў шляхецкіх уборах маляваў... Вяселле ў нацыянальных строях, з бубначом і дударом, у аграсядзібе... І грошы ў яго былі, казаў – зарабляе прыватнымі замовамі.

Колькі мне стукнула, як жаніліся? Дваццаць адзін, другі курс інстытута. Мама ўсе вочы выплакала, запэўніваючы, што гэты доўгавалосы наркаман з Мар'інай Горкі проста пакваліўся на кватэру, што мне пакінула бабуля. Для мамы, галоўнага педагога дзіцячага садка, задачка "мастак плюс доўгія валасы" рашаецца проста: ці алкаголік, ці наркаман. А раз Віталь не піў...

Ды што ўспамінаць... Багіня памяці Мнемазіна носіць пантофлі са свінцовымі абцасамі. Ступае мякка, на дыбках, а націсне пяткай – і струшчыць усё. Здаецца, вось гэта нізавошта не забудзеш, такое важнае, такое роднае – а насамрэч застаецца толькі ўціснуты ў побыт адбітак, які ўсё больш скажаецца, растае, як малюнак прутком на пяску. Сем гадоў таму я раптам

усвядоміла, што практычна нічога пра мужа не ведаю. Дзе вучыўся да таго, як ужо дарослым з'явіўся да мар'інагорскай цётачкі, пашпартысткі па прафесіі, з кім сябраваў у дзяцінстве, нават што з ягонымі бацькамі здарылася. Цётачка-пашпартыстка мяне любіла, як больку на носе, таму ніякіх размоў не завязалася. Нібыта лёс Корвуса пачаўся адразу ў мастакоўска-музычнай тусоўцы, дзе ён узнік, як стыхійны дух.

Што я помню?

Уважлівыя вочы, цёмна-зялёныя, з украпінамі брунатнага.

Доўгія рудаватыя валасы, а калі я заплятала яму іх у таненькія коскі, там-сям на скуры галавы бачыла невялікія белыя шнары ("Любіў у дзяцінстве пабіцца").

Шырокая белазубая ўсмешка, а вочы не ўсміхаюцца.

Тонкія моцныя пальцы перабіраюць струны: "Калі раптам адчуеш камунальныя пахі, і жыццё цябе возьме ў пятлю..." Голас нізкаваты, глыбокі...

"Гэта сядзіба Наркевічаў-Ёдкаў, Вірынейка. Ведаеш, што Наркевіча-Ёдку называлі лоўчым маланак – за ягоныя эксперыменты з электрычнасцю, падобныя да тых, што рабіў Тэсла?"

"Якія ў цябе халодныя рукі, малая... Хадзі бліжэй, сагрэю..."

Я не Пенелопа. У мяне пасля столькі было каханкаў...

Перабольшваю. Усяго два. Апошні, ён жа другі, зараз чакае ў маёй кватэры. Згатаваў вячэру, хвалюецца, ці дазволю застацца нанач. Але на яго можаце не зважаць. Мацейка з тых, каго называюць "запасны варыянт". Адданы, бяскрыўдны, сябар дзяцінства, выганяй – вернецца, лекі ад самоты.

Не магу нават сказаць, што сем год таму больш мяне напаўняла – гора ці крыўда на няўдалага сужэнца. Мусіць, крыўды было больш – як ён мог так вось мяне кінуць? Што за выдумкі з бізнэсам? Ніводнай рэчы Віталевай я не захавала, акрамя прозвішча. Ну не магла развітацца назаўсёды з крумкачом, сакральнай птушкай маёй. Праз год і тры месяцы пасля нашага вяселля ўсё, што ён паспеў перавезці да мяне, перадала назад ягонай цётцы ў слаўны горад Мар'іна Горка. Да апошняга пэндзліка і апошняй фоткі. Разам з падораным на вяселле посудам і наборам пасцельнай бялізны з лебедзямі. І кола сяброў змяніла. І кола зацікаўленасцяў. І больш не спрабую замовіць у кавярні "філіжанку кавы", каб пацвеліць афіцыянтку, а толькі стандартную "чашечку кофе, пожалуйста".

Дарэчы, пра каву... Хутка абед у белай пенапластавай каробцы прынясе кабета-дастаўшчыца, цётачка з бляклым строгім тварам і сціснутымі ў нітачку вуснамі. Бачылі карціну "Амерыканская готыка"? Там фермер – лысаваты мужык у круглых акулярах, пінжаку і белай кашулі, учэпіста трымае вілы, побач кабета ў сукенцы з белым каўняром і фартуху, з пакрыўджаным выцягнутым аблічам. Нічога не адбываецца – але глядзець на гэтыя напружаныя твары, сустракацца з пранізлівым, маньячным позіркам фермера з віламі аж млосна. Стыль называецца – "цяслярская готыка". У пазамінулым стагоддзі жыхары амерыканскай правінцыі імкнуліся надаць сваім драўляным дамам абрысы віктарыянскай неаготыкі. Майстрачылі на гарышчах вузкія, вострыя наверсе акенцы. Мы, маўляў, не горш, чым фанабэрыстыя ангельцы з іхнімі таўэрамі і сярэднявечнымі абацтвамі. Атрымлівалася гэткае дольчэ і габана на Ракаўскім кірмашы.

Цётачка "беларуская готыка" размаўляе толькі пра ежу: "Значыць, назаўтра на абед боршч, катлету па-кіеўску і на гарнір вараны рыс".

Белая каробка на маім стале выпраменьвае агідны пах смажанай рыбы.

Хек у цесце. Я прабіваю мёртвую марскую істоту пластыкавым відэльцам, нібы караю за сталоўскі пах, і ўтаропліваюся ў манітор, ігнаруючы паштовую скрыню, якая забітая пасланнямі маіх аўтараў. Гэта з паралельнага свету, гэта дома разбяру... Прабягаю стужку навінаў. Самыя папулярныя – пра ўзаемаадносіны казла Цімура і тыгра Амура. Вы, спадзяюся, у тэме? Казла кінулі тубыльцу Прыморскага парка-сафары ў якасці чарговага абеду. Аднак рагач выявіўся баявітым, даў тыгру адлуп... У выніку паласаты Амур перастаў успрымаць таго як ежу і знайшоў у ім роднасную душу. У казле. "Я плакаль".

Узаемаадносіны траваежнага і драпежніка скарылі сэрцы і запаланілі розумы. Здаецца, недурныя людзі спрачаліся, хто каго з'есць, ці займаюцца яны сэксам. Вядомы дрэсіроўшчык Запашны змрочна абвяшчаў, што ў тыгра прачнуцца інстынкты, козлік мэкнуць не паспее. Другія патрабавалі ўсіх выпусціць на волю. Казла, тыгра, львоў, арлоў, курапатак і тых, хто ў нетрах акіяна...

*"Вось ужо два тыдні расейская грамадскасць назірае за імклівым развіццём адносінаў тыгра Амура і казла Цімура".*

*"Амур зжарэ Цімура!"*

*"Чаму Амур не з'еў Цімура? Пяць падстаў".*

*"Казёл Цімур і тыгр Амур не могуць есці адзін без аднаго".*

*"Амур вучыць Цімура рэакцыі флемен. Фле́мен — назва характэрнага руху губ у некаторых сысуноў".*

*"Тыгр Амур і казёл Цімур навучыліся разам гуляць з мячом".*

*"У казла Цімура і тыгра Амура з'явіліся старонкі ў кітайскіх сацыяльных сетках".*

*"Тыгр Амур і казёл Цімур спяць разам".*

*"Тыгра Амура і казла Цімура звінавацілі ў прапагандзе гомасэксуалізма"*

*"Казёл Цімур учыніў паляванне на тыгра Амура".*

*"Амур пакусаў нахабнага Цімура".*

*"Амур і Цімур, апошнія навіны: казла вылечылі".*

*"Кранальная сустрэча казла Цімура і тыгра Амура".*

*"Цімур дараваў Амуру прачуханку, з-за якой патрапіў у ветблок".*

*"Прыморскі сафары-парк адчыніў спецыялізаваную інтэрнэт-краму па продажы сувеніраў, прысвечаных цёплым адносінам тыгра Амура з казлом Цімурам".*

*"Амур ды Цімур, апошнія навіны: нявеста казла".*

Любы ідэолаг ведае, што калі ў дзяржаве людзі даведзеныя да адчаю, жывуць у страху сказаць штосьці не тое і згубіць апошняе, яны ахвотна ўцягваюцца ў масавыя гульні. Радуюцца відовішчам і перажываюць за выдуманых герояў, замест таго, каб спрабаваць выправіць сваё жыццё.

Людзі, вайна ідзе! Бязглуздая, несправядлівая, крывавая... Вы апраўдваеце яе ўра-патрыятычнымі лозунгамі. Вы глядзіце ў інтэрнэце відэаролікі пра чужыя смерці, заядаючы чыпсамі. Вам не хочацца думаць, што вы ў чымсьці вінаватыя. Вам хочацца зоны камфорту. І вуаля – вашу ўвагу паглынае раман між тыграм і казлом.

Цікава, ці пішуць фанфікі пра Амура і Цімура? Мае аўтары маглі б раскруціць сюжэт. У логвішчы Ураборaса ёсць такі Fairy, ён мог бы пасяліць у цела Амура дух бога Тора, а ў Цімура – дух валькірыі... Але не, Fairy любіць катэгорыю слэш, таму ў казла ўсяліўся б Локі. А рамантычная Fljor Delakur, студэнтка-біёлаг з Баранавіч, якая працуе ў рэйтынгу джэн (без эротыкі), жанры "раманс" і катэгорыі "гет" (традыцыйная арыентацыя герояў),

сачыніла б, што тыгр і казёл – пярэваратні. Разлучаныя злой вядзьмаркай закаханыя па начах вяртаюцца ў свае аблічча. Толькі ў яе застаюцца рогі, а ў яго – паласаты хвост. А можа, наадварот, мужык у яе казёл. А аматар сцёбу і сцімпанка Grjaznyj Ubljudok, пра якога я не ведаю нічога, акрамя ніка, прыдумаў бы, што казёл і тыгр – мутанты, вывучаюць людства на прадмет заваяванняў і самі пішуць пра сябе скандальныя навіны ў сацыяльных сетках.

Прыкрываю вочы – перад павекамі разыходзяцца жоўтыя колы, адлюстраванне беднага майго сонца на паверхні лужыны. Побач агідна запіпікаў кампутар, быццам сігналізацыя аўто. Кідаю погляд направа, дзе за маніторамі дзяжурыць Паша. “Рубят лес мужики”, – ціха напявае брутальны карузлік з Пашавага кампа, не зважаючы на віск сістэмы. Малады бялявы мент вяла калупае пластыкавым відэльцам катлету. Ейны пах з’ядноўваецца з пахам майго хека ў смяротна-смуродны дуэт. А на маніторах рухаюцца чорна-белыя людзі.

Кожны экран падзелены на шэсць квадрацікаў, па колькасці камер. Здаецца, над пасажырамі станцыі праводзяць пачварны эксперымент, рассадзіўшы па шкляных скрынях.

Адкідваюся ў крэсле, каб лепей бачыць: відовішча заварожвае... Потым зноў адварочваюся да свайго манітора... Пакуль па каменнай падлозе штосьці не загрукатала. Аказалася, Паша скінуў бляшанку “Фанты”... Мой погляд зноў чапляецца за карцінкі знізу... Якраз у гэты момант адзін з мінакоў, што пакідае станцыю, падымае галаву і чамусьці глядзіць уверх, проста ў камеру... Нядоўга, на адно імгненне, ягоныя вочы ўзіраюцца ў мяне... Палец нервова трэ лоб, наўскос, нібыта намацвае шнар, як у Гары Потэра...

Гэтага імгнення хапае, каб і відэлец выпаў з маёй рукі, і ад сутаргавага руху на падлогу, пад якой ездзяць цягнікі і ходзяць шэратварыя зомбі, пляснуўся хек у цесце разам з дзвюма лыжкамі парашковага бульбянога пюрэ.

Я глядзела, як на правым маніторы ў скрайнім верхнім квадраціку аддаляецца постаць у чорнай скуранай куртцы, з намотаным на шыю доўгім піжонскім шалікам, і спрабавала ўдыхнуць прапахлае мазутам паветра, бо яно чамусьці не ўдыхалася.

Бо мужчына ў чорнай куртцы з шалікам, з моднай хіпстэрскай бародкай і паголенай галавой быў Віталь Корвус.

Мой муж.

Якога, між іншым, прызналі мёртвым.

Па рэйках метрапалітэна прагрукатаў Белы Трактар.

## Раздзел другі. КУДЫ НЕ ДАЙШОЎ ФРАНЦЫСК АСІЗСКІ

Сайт “Пад знакам Ураборaса”.
Назва фанфіка: Ордэн захавальнікаў.
Фандом: арыджынал.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: у працэсе.
Рэйтынг: NC-17.
Катэгорыя: гет.
Аўтар: Grjaznyj ubljudok.
Бета: шукаю.
Папярэджанні: асабліва жорсткія сцэны.
Анатацыя: Ты думаў, што ты на дне, але нехта пастукаўся знізу.

## Раздзел 1

Альберт Вялікі сцвярджаў у сваім трактаце, што калі хочаш вызваліцца з нейкіх путаў, трэба знайсці гняздо сарокі з птушанятамі. Залезь да таго гнязда і абвяжы яго спрэс вяроўкамі. Сарока прыляціць, пабачыць, што справы дрэнь, і прынясе чароўную траўку, якая разарве ўсе абвязкі. Не забудзься толькі пасцяліць пад дрэвам анучу, на якую павінна ўпасці выкарыстаная чароўная расліна, альбо жабер-трава, і з ёю ты заўжды вольны!

Гэх, не пашкодзіла б цяпер тая траўка – на горшы выпадак. Сарокі вунь скачуць з елкі на елку, стракочуць у прыцемку ды золі, так і чуваць у іхнім пранізлівым голасе лаянку “Каб вам духі выперла, як вы праз наш лес прэце! Каб вас спруткавала, чалавекі, як вы адзін аднаго пруткуеце!”

Рэм падпёр нагой у брудным боце галаву Люцыяна. Непрыемна глядзець, як ківаецца з боку ў бок на дошках кузава, калі грузавік падскоквае на выбоінах і карэннях. Каб была тут Малгося, прысела б з непрытомным чалавекам побач, паклала галаву яго сабе на калені, абцерла запечаную кроў... Але Рэм абедзвюма рукамі ўчапіўся ў борт кузава, каб не вылецець на дарогу – Малгося была ў кабіне і гнала машыну, як авадзень ашалелае жарабя. Нічога, не да сантыментаў. На фронце ды ў партызанцы звыклі да бруду і крыві. Урэшце, усё, што сёння можна было ўтварыць з аблíччам спадара Люцыяна Корвуса, зроблена, страшней не стане. Пазнаць іхняга былога настаўніка біялогіі можна цяпер хіба па шнары на шчацэ, які нагадвае абрысам птушку ў палёце. Калісьці яны, дзевяцікласнікі Старавежскай сярэдняй школы, гадалі, адкуль у іх новага выкладчыка, маладога, але з пасівелымі скронямі, загадкава-змрочнага, гэткае ўпрыгожванне, тады яшчэ барвовага колеру. Жэнька Равіновіч, ужо тады закаханая ў старшыню школьнай камсамольскай ячэйкі Рыгора Самуся, высунула зусім дэкадэнцкую версію. Шнар – першая літара імя нешчаслівага кахання таварыша Люцыяна Станіслававіча. Той у адчаі сам выразаў на сабе літару “Л”, каб вечна помніць здрадлівую альбо памерлую Лену, Лілю, Лізавету.

Ну яны і пасмяяліся з дурных фантазій дзеўкі. Начыталася буржуазных раманаў! Дзед Жэнькі быў калісьці выкладчыкам настаўніцкай семінарыі, і ад яго ў доме засталася дыхтоўная бібліятэка. Асабліва шмат кніг з серыі для юнацтва. Майн Рыд, Фенімор Купер, Жуль Верн, Вальтэр Скот, Аляксандр Дзюма... Усе з іхняй кампаніі час ад часу выпрошвалі ў аднакласніцы томікі ў скураных пацёртых вокладках, з яцямі і непралетарскай рамантыкай. Ясна, што Жэнька, сінявокая, таненькая, пышнавалосая, была самай начытанай, хаця яе версія пра выразаную на шчацэ літару не прыжылася. Але спытаць пра паходжанне прыкметы ў настаўніка не наважыліся. Так, з Люцыянам Корвусам было цікава. І на ўроках, дзе расказвалася пра незвычайныя эксперыменты з прыроды і чалавека, кшталту як змусіць мозг працаваць на сто адсоткаў з дапамогай электрамагнітных імпульсаў. І па-за ўрокамі. Створаны Корвусам археалагічна-біялагічны гурток – самы яркі ўспамін даваеннага жыцця. Напачатку вывучалі ўсялякія там скамянелыя трылабіты. Нацягалі ў маленькі кабінет, прапахлы фармалінам, шэрых каменьчыкаў з паверхнямі рабрыстымі, хвалістымі, у маленькіх дзірках, як застылая пена. Потым з’явіліся іржавыя наканечнікі дзідаў, вышчарбленыя медныя манеты, аскепкі старажытнага посуду, знойдзеныя вучнямі на бацькоўскіх гародах. Настаўнік спісаўся са знаёмцам з Акадэміі навук, адтуль прыслалі інструктара, і школьны гурток атрымаў дазвол на раскопкі.

Вучыліся размерваць участкі, прасейваць культурны слой, класіфікаваць экспанаты. Мінулае прыадчыняла браму, за якой біліся з панскімі войскамі адчайныя паўстанцы, скрыжоўвалі мячы з тэўтонцамі крывіцкія рыцары, свісталі татарскія стрэлы і грымелі французскія гарматы...

Так, вакол маладога біёлага гуртаваліся, яго слухалі. Але было ў спадары Люцыяне штось адчужданае. Рэму часам здавалася, што настаўнік увесь час трымае напагатове вострую зброю, кшталту таго кінжала мізэрыкордыя, што яны адкапалі на Татарскім гарадзішчы. Падыдзеш бліжэй – уколешся.

Цяпер Рэму зразумела, адкуль настаўніцкая насцярога і адкуль шнар у форме птушкі. Прыклаўся, відаць, Корвус, трацячы прытомнасць у яшчэ адным кабінеце следчага, аб рог стала. А можа, спецыяльна, трымаючы за валасы, аб той рог прыклалі, каб гонар збіць. Бо цяпер побач, бліжэй да вуха, быў такі самы шнар, толькі свежы.

Яны, дзеці, не задумваліся, чаму сталічны вучоны, супрацоўнік навуковага інстытута, аўтар дзвюх кніг пра нервовую сістэму апынуўся школьным настаўнікам у маленькім гарадку. Чаму трымаецца як дзяк на шабашы, дый іншыя выкладчыкі ад яго наводдаль, бы ад сухотнага, баяцца доўгую размову без сведкаў завесці. Неяк Рэм, калі крадма вярнуўся ў школу па сканфіскаваную рагатку, падслухаў размову Рыгорава бацькі, сакратара Старавежскага гаркама, з дырэктарам школы, адзіным, хто з Корвусам быў у сяброўстве.

"...Асцярожней з кадрамі, вы надта паблажлівы. Начальнік інстытута, дзе працаваў Люцыян Корвус, асуджаны. Уяўляеце, спланаваў батанічны сад у Менску такім чынам, каб дарожкі падказвалі накірунак для варожых самалётаў, гад! У тым змяіным гняздзе шмат шпіёнаў вылавілі. Корвусу пашанцавала, выпусцілі. Але, цалкам магчыма, ненадоўга. Самі ведаеце, якая зараз абстаноўка – польскія шпіёны і нацдэмы распаўзаюцца, у давер уваходзяць. Пільней трэба быць, асабліва да гурткоў усялякіх".

Рэм Цвічок быў заняты вельмі важнымі хлапечымі справамі, дарослая размова праслізнула паўз яго халодным ветрыкам. Можа, і добра. Бо мог прызнаць настаўніка за ворага. І не было б у ягоным жыцці археалагічнага гуртка, кахання да дзёрзкай Малгосі, шчырых размоў з сябрамі каля вогнішча, на ўскрайку лесу, дзе раскопвалі гарадзішча чатырнаццатага стагоддзя. Тады ў іх і ўзнікла гэтая жартоўная ідэя – назвацца Ордэнам рыцараў-захавальнікаў, даследчыкаў слаўнага мінулага народа, якому яшчэ нядаўна адмаўлялі ў праве на існаванне.

А Люцыян Станіслававіч у іх Магістр.

Сказаліся чытанні з Жэнькавай бібліятэкі.

Корвус слухаў пражэкты падлеткаў, утаропіўшыся ў вогнішча, у якім адбывалася свая Грунвальдская бойка паміж святлом і цемрай, і ўсё змрачнеў. Але шчаслівыя рыцары-захавальнікі, якія надоечы адкапалі сапраўдны каваны шлем, сталь якога нават за стагоддзі не ўзяла іржа, не звярнулі ўвагі на трывожнае: "Выкіньце з галавы ўсялякія таемныя таварыствы. Не варта нават гаварыць пра такое!"

Колькі чароўнага адкрылася рыцарам наваспечанага ордэна! Іх маленькі Старавежск збудаваны раней за Вільню! Людзі на берагах дробнай рачулкі Наўкі пасяліліся, мусіць, яшчэ калі па тутэйшых узгорках тупалі калматыя маманты. Высіўся на адным з тых узгоркаў сапраўдны замак, камяні з якога гаспадарлівыя старавежцы даўно прыстасавалі ў падмуркі сваіх хатаў ды адрынаў. Мелася войска, што сустракала ворагаў дажджом стрэлаў і

лесам дзідаў. Адбівалі тут нашэсці татараў, шведаў, войскаў маскоўскага цара. Горад спальвалі дашчэнту дзевяць разоў – чорныя праслойкі ў глебе пра гэта сведчылі. Тры разы летапісы занатавалі страшную пошасць. Была ратуша – праўда, каржакаватае зернясховішча, у якое яна ператварылася, мала нагадвала рыцарскія часы. А Рэм і ўявіць тыя часы не ўмеў, у сям'і Цвічкоў спаконвеку размаўлялі адно пра надзённае. Дзе ўзяць грошай на боты Лёньку ці Міцьку, ды як расцягнуць тры кілі мукі на месяц. Суседзі жартавалі, што іх прозвішча з'явілася, бо дзяцей у родзе заўсёды было як цвікоў у плоце. Рэм восьмы, малодшы. З гордым імем, якое расшыфроўвалася Рэвалюцыя Міравая – матцы ды бацьку, пралетарыям з цагельні, так падказалі ў ЗАГСе.

У мястэчку вельмі не любілі корпацца ў мінулым. Старавежцы лаяліся на маладзёнаў-гурткоўцаў і на прыхадня-настаўніка, маўляў, няма чаго чапаць старыя косткі, гай з іх не вырасце. Дырэктар школы, па прафесіі гісторык, па паходжанні – сын мясцовага шаўца, аднак, не здаваўся, падазронага біёлага з ягоным гуртком падтрымліваў і сам час ад часу далучаўся да таемных рыцараў у справах раскопных. Ён тлумачыў насцярогу местачкоўцаў водгуллем яшчэ дарэвалюцыйнай гісторыі. Калісь старавежскія падлеткі пасвілі свіней на гарадзішчы дый заўважылі, што дзёдзя дастала лычом срэбную манетку... Ну й пачалі глебу ледзь не зубамі грызці. Уладальнік зямлі, аматар старажытнасцяў, даведаўся, што нейкія хамы раскрадаюць гістарычныя каштоўнасці, раз'юшыўся... Жандары тады і малых скарбашукальнікаў адлупцавалі бязлітасна, і бацькам іх дасталося – штрафы, допыты, ці не ўтаілі каштоўныя экспанаты... Карацей, людзі зарakліся праклятае месца чапаць.

А Корвус пра кожную адкапаную рэч расказваў цэлую гісторыю... Ягоны твар маладзеў, хударлявая постаць выпроствалася, нібыта з плеч зваліўся жорнаў. Голас гучаў зусім не як у класе ці ў сухіх размовах. Нізкаваты, глыбокі. І вочы светлыя, аж празрыстыя глядзяць проста кудысь у цябе... Рэму заўсёды бабуля казала, што ў чараўнікоў вочы чорныя. Гэта яна вочы Люцыяна Станіслававіча ў пэўныя моманты не бачыла. Вось бярэ ў руку іржавую нейкую жалязяку, што Ромкава бабуля на дошку клала, каб сыр адціснуць, і давай казані казаць. Гэта, маўляў, сякера бронзавага веку, якая называецца кельт. Яе прывязвалі да дзяржальна накрыж раменьчыкам. Валодалі такой толькі князі ды войты ўсялякія... Бо на Беларусі ў той час не ўмелі такой зброі рабіць, гэта ж тысячу гадоў да нашай эры... Таму прывозілі гэткія сякеры здалёк, на лёгкіх стругах, па рэках... Гэтую, мабыць, з Дунаю. І аддаў за яе наш далёкі продак дзесяць сабаліных скурак... І вось аднойчы напалі ворагі на паселішча, і паспеў стары вой адняць некалькі жыццяў чужынцаў – пакуль у сэрца яго не патрапіла страла з бронзавым наканечнікам.

Праўда, рэдка прарывалася ў настаўніка такая ўзрушаная гаворка. Вось распавядае натхнёна пра лёс папа Лявонція Карповіча, як той у Вільні беларускія кнігі друкаваў у пачатку сямнаццатага стагоддзя ды як яго езуіты катавалі, раптам кране рукой шнар на шчацэ і быццам абсячэ штосьць ягоны голас. Зробіцца гаворка зноў сухаватай, роўнай, як на ўроку.

Дзіва што, з іх чацвярых – Рэм Цвічок, Жэнька Равіновіч, Малгажата Ракуцкая, Рыгор Самусь, рыцараў Ордэна захавальнікаў, – любы мог закласці Магістра. Са шчырай душой праявіць пільнасць, паведаміць хоць каму са школьнага камітэта, што настаўнік вядзе рэлігійную ды нацдэмаўскую прапаганду. Але ж не заклалі. У галаву не прыйшло.

Ды аднойчы раскопкі давялося перапыніць самім... За рачулкай Наўкай, там, дзе раней шумеў пракаветны лес, з якога даўно выстругалі шафы альбо труны, Ордэнцы знайшлі сляды дзіўнага паселішча. Агароджы няма, па ўсім перыметры праз роўныя прамежкі каменныя крыжы. Уласна кажучы, дзякуючы гэтым крыжам, якіх яшчэ не паглынула зямля, і адбылася знаходка. Папрацавалі на пробу рыдлёўкамі, адкапалі некалькі дзіўных званочкаў, незразумелай формы жалязякі... Люцыян Станіслававіч доўга маўчаў, змрочна разглядаў знаходкі.

– Параюся са знаўцамі, але думаецца мне, што мы, таварышы, дарэмна тут капаемся. З такімі бразготкамі і званочкамі перасоўваліся пракажоныя, каб людзі да іх не набліжаліся. Мне паказвалі рыхтык такія ў Менску, у музеі.

Больш яны туды не хадзілі. Рэм нават рыдлёўку, апаганеную заразнай зямлёю, выкінуў.

Корвус пасля распавёў вынікі сваіх роспытаў. Туды, у гіблае месца за рэчкай, сапраўды адсялялі са Старавежска і ваколіцаў смяротна хворых. І не толькі. Здаралася, падчас чумы захварэлы ацаляўся. Яго маглі палічыць вечным увасабленнем пошасці, і ацалеламу небараку даводзілася сыходзіць да такіх жа ізгояў. Вар'ятаў таксама адпраўлялі ў страшнае паселішча... Таму і агароджы няма: хто ж пойдзе да заразных і шаленцаў? Хіба якісь Францыск Асізскі. Італійскі святы адмыслова жыў у такіх вось суполках, каб сцвердзіць міласэрнасць Божую.

Затое тут усе былі роўныя. І князь, і жабрак. Прыгонны больш не належаў пану. Жонка не належала мужу. Злачынца мог не баяцца праследу за былыя грахі. Ніхто, акрамя Смерці, не меў улады над жыхарамі праклятага паселішча.

Грузавік тузануўся, кола ледзь не загразла ў глыбокай калюжыне. Матор зарычэў, як звер, што рвецца з пасткі... Дзякуй лёсу, выехалі. Галава Корвуса зноў стукнулася аб дно кузава. Рэм, трымаючыся адной рукой за борт, падсунуў настаўніку пад патыліцу ўласную шапку і пастараўся галаву непрытомнага трохі павярнуць набок, як Малгося вучыла. А то столькі высілкаў, а яшчэ і жывым не давязем. У Люцыяна нос пераламаны, ён можа ў крыві захлынуцца. Н-да... Вочы запухлі. Ілбом як мур таўклі... Вусны разбітыя. Якія там яшчэ пашкоджанні, лепш не гадаць, Люцыян прыкрыты да падбароддзя выпэцканым у крыві шынялём.

А ўсё ж так добра пачыналася... Не трэба было слухацца Малгосю. Трэба было паслаць упартага Корвуса на сухі лес з ягонай навуковай апантанасцю. Але Малгося ўпёрлася: мусім дапамагчы. Урэшце, жыццём Корвусу абавязаныя. А ён за праўду змагаецца, за развіццё савецкай навукі, супраць сабатажнікаў і фальсіфікатараў.

Вось і арганізавалі Магістру сустрэчу з самім начальнікам аддзела па барацьбе з сабатажам, таварышам Рыгорам Піліпавічам Самусем. Былым рыцарам Ордэна захавальнікаў. Які здабыў у сістэме дзяржбяспекі мянушку Касталом і рэпутацыю чалавека непадкупнага, вернага сталінца і непераўзыдзенага дазнавальніка.

Праўда, Малгося, якая працавала ўрачом у вайсковым шпіталі, сцвярджала, што Рыгору ні ў якім разе не варта было займаць пасаду, дзе ёсць нервовая напруга і дзе ён мае ўладу над людзьмі. Яму пралячыцца добра трэба. Атрыманыя на вайне пашкоджанні прагрэсуюць. Рэм і бачыў падчас усё радзейшых сустрэч, што сябрук раптам робіцца сам не свой, вочы пустыя, як гільзы, праз сціснутыя сківіцы толькі адно: “Сволачы.

Ворагі. Недабіткі праклятыя". А яшчэ чуў Рэм ад таго-сяго з саслужыўцаў, што гэткі стан – нічога, яшчэ нармальна для Касталома. Вось калі ў яго сапраўды штось перакліньвае ў галаве, асабліва падчас допытаў...

Але Цвічок адмахваўся. У ягонай натуры, на шчасце ці няшчасце, такое было: прапускаць міма вушэй непрыемнае, тое, што разбурае звыклую карціну свету. Ну які Рыгор Касталом? Ён герой, які можа захінуць сабою сябра ад кулі, з адным пісталетам бяжыць на ўзвод фашыстаў... Добры, верны Рыгорка... Як шкадаваў, што ім не васямнаццаць, не бяруць на фронт! Калі сям'ю сакратара гаркама эвакуявалі сярод першых, збег, застаўся са сваім Ордэнам захавальнікаў, каб усім разам далучыцца да чырвонаармейцаў. Хто ж ведаў, што апынуцца ў акупацыі... І Корвуса выратаваў, пасля вайны ўжо, калі таго хацелі арыштаваць як фашыстоўскага паслугача. Усім сумнеўным даў перцу з імберцам, даказваючы, што Люцыян працаваў у немцаў перакладнікам па заданні партызан. Сведкаў прывёў, дабраўся ў маскоўскі шпіталь да камандзіра партызанскай брыгады, які з Магістрам справы вёў. Урэшце Корвуса нават узнагародзілі медалём "За адвагу" – але тут нічога не скажаш, заслужыў. Калі сышоў у атрад, колькі жыццяў выратаваў, як доктар, і колькі адняў, як жаўнер... Рэм таксама мае на сабе дзве латкі Корвуса – той зашываў яму раны на правым баку і на левай лытцы.

Цяпер жыццё лёгка падзяліць на серыі, як кінастужку. Да вайны. Ад пачатку вайны да вызвалення Старавежска. Ад прыходу нашых – да Перамогі.

Старавежск... Дымяцца руіны... Танкі з чырвонымі зоркамі... Корвуса ўзялі на працу ў палявы шпіталь. Малгося і Жэнька запісаліся на курсы санінструктараў. Рэм – на фронт. Рыгор – на камандзірскія курсы. Шляхі рыцараў Ордэна захавальнікаў нібыта разышліся назаўсёды. Але пасля Перамогі Рэма знайшла ў вайсковай частцы паштоўка: Рыгор і Жэнька запрашалі на вяселле ў Менск!

Якой файнай яны былі парай, маладыя героі! Таненькая, яснавокая Жэнька з тоўстай касою, якую яна ўмудрылася захаваць праз усю вайну, прыгожая, як артыстка, і плячысты, упэўнены Рыгор з буйным цёмным чубам, з ордэнамі на афіцэрскім кіцелі... Маладая сям'я атрымала службовую кватэру ў сталіцы, у ацалелым ад бамбёжак доме ў Траецкім прадмесці. Рэм некалькі разоў у іх начаваў – нішто сабе харомы, нават з паркетам і ляпнінай на столі, у лазенцы – цэлы басейн, а не ванна. Праўда, пляткарылі, што недарэмна ў тым доме ўваход у падвал цэглай закладзены. На пачатку вайны тут жылі сем'і камандзіраў. Пачаліся бамбёжкі. Дзеці з маткамі, чалавек паўсотні, мусіць, пахаваліся ў бамбасховішчы ў падвале. Усчаўся пажар, а дзверы заваліла нейкай бэлькай... Так усе там і задыхнуліся, згарэлі, і засталіся да канца вайны... А пасля вызвалення вырашана было на страшную гісторыю забыцца... Тым больш, ніхто з бацькоў з фронту не вярнуўся. Усе дзверы ў сутарэнні заварылі, замуравалі... Вядома, забабонныя людцы, асабліва прыслуга, распавядалі пра прывідаў, плач ды крыкі, якія даносяцца часам з падвалаў...

Цвічка ўзялі працаваць на вайсковы склад, не без дапамогі Самуся. Далі месца ў інтэрнаце... Рэм прыкідваў, што калі Малгося нарэшце згодзіцца стаць ягонай жонкай, то вылучаць ім асобны пакой. Але Малгажата адnеквалася: вось закончыць інстытут... Хаця Жэньцы той жа інстытут не перашкодзіў пабрацца з Рыгорам!

Рэм лічыў кавалкі мыла, боты і гімнасцёркі. У Малгосі пачалася дактарская практыка. Раз на месяц хіба ўдавалася ў кіно сяброўку выцягнуць.

А год таму Жэнька знікла. Кінула Рыгора і з’ехала. Самусь сціскаў зубы, сіпеў: “Так трэба”. Ці ў Казахстане працуе, ці на Алтаі. Прынамсі, са слоў Малгосі.

Прызнацца, у Рэма мільгала думка, што нястрыманую на язык Жэньку, якая не зносіла найменшай несправядлівасці, маглі – вядома, па памылцы, – арыштаваць... Урэшце, зараз столькі ўрачоў-шкоднікаў выкрываюць, атручвальнікаў! Яшчэ з сорак восьмага году пачалі казаць пра страшную змову наймітаў сусветнага сіянізму, якія забілі таварыша Жданава. У Малгосі на працы двух загадчыкаў аддзяленняў забралі. Але Жэнька ну ніяк не магла аказацца ворагам! Яны ж разам былі ў партызанах, яе ж фашысты катавалі... Але нават Жэньчына маці, якая адна засталася з сям’і, сухенькая, рана пасівелая бібліятэкарка, пра лёс дачкі маўчала, як камень, а пры згадцы пра зяця бялела і адварочвалася.

Корвуса Рэм за гэтыя гады хіба пару разоў бачыў. Гэта Малгося з былым настаўнікам па іхніх медыцынскіх справах сутыкалася, хваліла за кансультацыі па складаных выпадках з усялякімі неўротыкамі. А так ён быццам ад іхняй кампаніі хаваўся. Што зразумела. Як кажуць, срэбныя лыжкі знайшліся, а асадачак застаўся.

Абараніўшы сваю доктарскую, Люцыян Станіслававіч узначаліў нейкую сумнеўную лабараторыю... Вось пра яе лёс і прыйшоў гаварыць. У іх там ажно трох шкоднікаў арыштавалі. А Магістр заступацца лезе!

Пачатак размовы паміж Магістрам і маёрам быў цалкам добразычлівы. Паціснулі адзін аднаму рукі. Корвус усеўся, як на імянінах, у крэсла, у якім столькі ворагаў народу пераседзела, ператрэслася. Паперкі расклаў... І давай алей ліць. Пра тое, якімі важнымі справамі ў іхняй лабараторыі займаюцца. Пасля вайны надта шмат людзей з пашкоджанай псіхікай, з нервовымі захворваннямі. Таму даследванні нервовай сістэмы, эксперыменты з жывёламі і лекавымі раслінамі, аднаўленне старажытных забытых рэцэптаў такія важныя! Толькі невукі могуць назваць гэта шарлатанствам...

Бяда ў мірную лабараторыю, дзе навукоўцы мучылі няшчасных пацукоў, прыйшла нечакана. Корвуса паслалі ў Маскву на якуюсь там канферэнцыю, і ён пазнаёміўся са знакамітай Вольгай Барысаўнай Лепяшынскай, паплечніцай самога Леніна і Крупскай, старой бальшавічкай і выбітной навукоўкай. Лепяшынская абвяргала клетачную тэорыю і лічыла, што жыццё спараджае нейкае “жывое рэчыва”. Узнікае яно само па сабе, а з яго ўзнікаюць клеткі.

Што гэта было за рэчыва, удзельніца дзвюх рэвалюцый так і не растлумачыла, але атрымала за свае даследванні Сталінскую прэмію.

Дэлегацыю навукоўцаў з усіх рэспублік павялі ў лабараторыю васьмідзесяцігадовай рэвалюцыянеркі. Экскурсія нагадвала блёкат. Дзве маладыя лабаранткі таўклі ў парцалянавых ступках насенне буракоў. Для чаго? А каб атрыманы пыл пасеяць. А калі ён узыдзе, гэта будзе доказ, што прарастаць можа і найменшая часцінка семя, дзякуючы ўтрыманню “жывога рэчыва”. Дачка Лепяшынскай, Вольга Панцеляймонаўна, з захапленнем распавяла гасцям, як яны даследуюць чарназём, узяты з-пад пазногцяў яе маці. Там жа таксама цуд-рэчыва ёсць! А яшчэ яно можа праявіцца, калі расцерці перламутравыя гузікі і ўвесці іх у арганізм жывёл...

Гэта быў нават не дылетантызм, а суворае сярэднявечча, калі трактат “Picatrix” раіў для выклікання сардэчнай схільнасці ўзяць дзве драхмы крыві белага сабакі і столькі ж яго мозгу, а таксама па чатыры драхмы

мозгу аль-газелі і чалавечай крыві, а эпілептыка лячыць парашком з чалавечага чэрапа з сіропам марской цыбулі.

Беларускі дэлегат Люцыян Корвус якраз пра такія асацыяцыі і распавёў. Сівенькая Вольга Барысаўна міла ўсміхнулася, ад чаго астатнія госці збялелі і пачалі азірацца ў пошуку дзвярэй. І запыталася, якой навуковай тэмай і дзе займаецца шаноўны крытык. Ён, дарэчы, упэўнены, што ў ягоных занятках нічога няма ад прафанацыі і сярэднявечча? А як у яго з партыйнай лініяй? Яна асабіста гэта ўдакладніць.

Начальнік дэлегацыі, мажны дзядзька з Міністэрства аховы здароўя, выштурхнуў Корвуса за дзверы, як вадавоза з губернатарскага балю, і ў калідоры параіў шэптам сушыць сухары.

А па вяртанні ў Мінск пачалося. Якія-такія нервы, таварышы? Якія псіхозы? Савецкі чалавек, загартаваны ў пераможных бойках, вам не істэрычная паненка! А ці не прытулак тут шкоднікаў-касмапалітаў? Ды вы дакладна "антыпаўлаўцы"!

У выніку лепшых спецыялістаў арыштавалі ні за што. Лабараторыю расфармоўваюць. Корвуса адпраўляюць на Палессе, таксама ў лабараторыю, але ўжо не навуковую, а тую, куды савецкія грамадзяне па накіраванні ўрача свае "жывыя рэчывы" здаюць у бутэлечках ды карабках ад запалак. Нічога, што ён спецыялізуецца ў іншай галіне. Таварыш кандыдат медыцынскіх навук сам увесь час гаварыў пра сумежжа спецыяльнасцяў, шырокі профіль, сінтэз псіхіятрыі і неўралогіі, біялогіі ды медыцыны. Вось хай і папрацуе сярод народа са сваім шырокім профілем.

Бачыць ганарысты нос Корвуса вечна схіленым над чужым г...ном – гэта хтось з выдумкай падышоў да помсты. Рэм не адмовіўся б паназіраць.

Рыгор спачувальна ківаў... Пакуль Корвус, пільна ўглeдзеўшыся сваімі светлымі, як лядзяш, вачыма ў ягоныя, пачырванелыя ад стомы, не прамовіў:

– Вам таксама патрэбная дапамога спецыяліста, таварыш Самусь. Я якраз працую над метадам, як купіраваць наступствы кантузіі... Наткнуўся на адзін яшчэ сярэднявечны рэцэпт, удасканаліў. У вас праблемы з памяццю, ці не так? Галава баліць? Нематываваныя прыступы агрэсіі бываюць?

Твар Самуся пачырванеў. Рыгор абедзвюма рукамі ўпёрся ў край стала, набычыўся.

– З памяццю ў мяне ўсё добра. Вось ты стаіш і глядзіш, як мне па галаве далі. Жэньку вывалак на пакуты. Моцна трымаеш. Каб не ўцякла.

Магістр уздрыгнуў і апусціў галаву з рана пасівелымі скронямі, яго плечы вінавата абсунуліся. Самусь перавёў позірк на Рэма:

– Старшына Цвічок, выйсці з кабінета!

Голас глухі, з нейкім змяіным прысвістам... Быццам і не Рыгорка гаворыць.

Рэм паслухмяна ўзяў пад казырок. Камандзір з былога камсорга атрымаўся добры, не аслухаешся.

Цвічок ведаў, што зараз успомнілася Рыгору. Такое не забудзеш.

...Іх трое, маладых падрыўнікоў, з лесу. Стаяць на каленях у снезе, абяззброеныя, са звязанымі рукамі. Нарваліся на засаду ў хаце на ўскрайку Старавежска, дзе мусіў быць надзейны прытулак і чакаў сувязны. Нямецкі афіцэр аддае загад, і здраднік у чорным паліто і фацэтным капелюшы прыводзіць танклявую дзяўчыну ў адной падранай, заляпанай сукенцы, з доўгай рудой касою... І таксама змушае стаць на калені! Проста ў брудны снег!

Учэпістыя пальцы нягодніка моцна сціскаюць дзявочы плячук... Нянавісць падымаецца хваляй... А Рыгор побач рвецца, штось крычыць... Яго б'юць па галаве прыкладам вінтоўкі, цячэ кроў, але Самусь працягвае, лежачы, лаяцца... А здраднік, які прывёў дзяўчыну, пра нешта гергеча з афіцэрам і па-ранейшаму не адпускае плячо дзяўчыны – нібыта крумкач ухапіў кволае птушаня... Чамусь менавіта гэта запамінаецца – уладныя пальцы, як кіпцюры крумкача, пад імі змінаецца тканіна такой знаёмай сукенкі ў сінія кветачкі, у якой уладальніца кружылася ў вальсе на школьных танцах...

Потым Жэнька – яна, сувязная, чакала іх у хаце – патлумачыць, афіцэр западозрыў у ёй габрэйку. Як толькі ўгледзеў, нелюдзь? Хадзілі чуткі, што бацька Жэнькі, якога ніхто ў Старавежску не бачыў – яны з Жэньчынай маці нібыта разам вучыліся на педфаку, і праўда меў габрэйскую кроў. Але дачка ў любым выпадку да яго зусім не падобная, бо ўся ў маці. Таму Корвусу ўдалося пераканаць пачварын, што дзеўка – беларуска, вучыў яе ў школе, можа пацвердзіць.

На месцы палонніцу не прыстрэлілі, але афіцэр прыдумаў выдатны сродак разгаварыць савецкіх фанатычных недарасцяў. І Корвус атрымаў загад: распрануць партызанку да споднята... І пакуль яе змоўшчыкі-партызаны не скажуць, якое мелі заданне, дзе іх атрад – фройлейн давядзецца памерзнуць.

Корвус паспрачаўся, але потым загад выканаў. Абыякава, як аўтамат.

Гэта было невыносна: бачыць, як яна, прыгожая, быццам фея, дрыжыць у адной белай споднняй кашульцы, абдымаючы сябе тонкімі рукамі, як пераступае скалелымі нагамі ў бруднай калатушы... Як ворагі юрліва аглядаюць яе постаць, захоплена прыцмокваюць, груба жартуюць... А Корвус стаіць спакойна і глядзіць. Толькі пра нешта гергеча з фашысцкай навалаччу... Гергеча незадаволена. Неахвотнае "яволь"... А потым ён, Магістр, прывязвае былую вучаніцу да слупа агароджы. Старанна, моцна... У адной кашульцы на марозе. Навалач. А насупраць сядзяць, навязаныя, як шчанюкі да плота, яны...

Тады першы раз Рэм пабачыў, як Рыгор плача. Злымі, адчайнымі слязьмі, што вымывалі няроўныя дарожкі на твары, спрэс залітым крывёй. Не, гэта была не слабасць. Яны ўсе гатовыя былі памерці, але не здрадзіць.

Але памерці ім не далі. Той жа Корвус. Які напляваў на інструкцыі, што мусіць да апошняга, цаной любых ахвяраў падтрымліваць легенду, заставацца перакладнікам пры фашыстоўскім штабе. Прайсці любыя выпрабаванні – кшталту таго, што яму ўчынілі, узяўшы на карную аперацыю.

Ноч... Здрадлівае святло поўні... Мёртвыя ахоўнікі на снезе... Магістр мые, мые, выцірае снегам акрываўленыя рукі, а рукі трасуцца – чыстаплюй... Вяроўкі пераразаныя, у руках зброя...

Жэньку Корвус амаль усю дарогу да лагера нёс на руках. На хаду расціраў, захутваў, нечым паіў з маленькіх бутэлечак... Цуд, але рукі-ногі не адмарозіла, толькі два пальцы на левай назе давялося потым адняць. Затое пнеўманія надарылася. Люцыян лячыў, стараўся, але поглядам сустракацца з вучаніцай пазбягаў.

Яны ўсе, і Жэнька таксама, разумелі, ён не мог паводзіць сябе інакш. Каб выявіў спачуванне да палонных, не меў бы магчымасці ім пасля дапамагчы. Але зараз Рыгор успамінаў менавіта той момант, які засеў у галаве. Здраднік Корвус ставіць на калені ў снег іх сяброўку...

Рэм дайшоў да канца калідора, калі пачуўся глухі ўскрык і грукат. Ці

не ў кабінеце Самуся? Заазіраўся, мо вярнуцца, але службовец, які ішоў следам, строга кінуў:

– Ідзіце, ідзіце, таварыш старшына. Тут нельга затрымлівацца. Чакаць можна толькі ўнізе. Спатрэбіцеся – выклічуць.

І Рэм цярпліва чакаў на першым паверсе, ля бюро прапускоў. Пакуль не прыбегла Малгося. З такім тварам, быццам зноў пачалася вайна.

– Рыгор мне ў шпіталь патэлефанаваў. Здаецца, бяда...

Яны доўга стукаліся, пакуль Самусь не адчыніў дзверы. А Бож-жа... Увесь у крыві, каўнер гімнасцёркі расшпілены... Далонямі выцірае твар, размазваючы чырвоныя пісягі...

А Малгося кінулася на калені ля стала... Люцыян Станіслававіч Корвус, які гадзіну таму прыйшоў сюды ў дыяганалевым касцюмчыку пры гальштуку, у белай кашулі, з акуратным партфельчыкам, з засяроджанаважнай інтэлігенцкай фізіяноміяй, і чалавек, які ляжаў у лужыне крыві на падлозе кабінета начальніка аддзела барацьбы з сабатажам, былі падобныя, як кошык яблыкаў і звараны з іх кампот.

– Я ж казала... Табе трэба пралячыцца... – у адчаі мармытала Малгося, аглядаючы непрытомнага Магістра, але звяртаючыся да гаспадара кабінета. Ды яшчэ страшней было глядзець на гэтага гаспадара. Той стаяў, шырока расставіўшы ногі, сціснуў кулакі, напружыўся, ажно жылы набухлі на шыі, нібыта ў смяротнай сутычцы з нябачным дужым супернікам. Прасіпеў:

– Неадкладна забірайце Корвуса... А то зноў у мяне пачнецца. Не стрымаюся. Заб'ю... Афармяць арышт заднім чыслом, і ўсё... На яго ж справы заведзеныя – вагон можна паперамі загрузіць.

Матлянуў галавою, зарычэў. Рэму здавалася, ён бачыць, як штосьці цёмнае, бязлітаснае б'ецца знутры ў грудную клетку маёра. Яны дзецьмі назіралі, як з яшчэ жывога вусеня вылупляюцца маленькія лічынкі асынаезніка, прагрызаюць знутры млявую зялёную плоць... Ненатуральнае, агіднае да ванітаў відовішча – як цяпер...

– Забірайце Магістра! – зноў рыкнуў Рыгор. – Вось прапускі... Паперка з паўнамоцтвамі... Можаце машыну ўзяць... Галоўнае, не гаварыце мне, дзе яго схаваеце! Бо пасля... – голас Самуся знізіўся да шэпту. – Пасля я буду яго шукаць, каб арыштаваць і дабіць. Гада... Падлюку...

Апошнія словы гаварыў ужо не Рыгор, а той звер, які ў ім узгадаваўся. І Рэм, ужо не саромеючыся свайго страху перад найлепшым сябрам, схапіў Магістра пад пахі...

Вось так яны і апынуліся ў гэтым грузавіку. Які відавочна зведаў франтавыя дарогі, вунь на дошках сляды асколкаў. Цямнее. Туман згушчаецца, дробныя кроплі вісяць у паветры, ліпнуць на твар вільготным павуціннем. Сосны змяніліся чорнымі ў прыцемку елкамі. Быццам сцяна крэпасці, з-за якой паказваюцца шаломы, дзіды, мячы абаронцаў.

Куды яны едуць? Малгося не сказала.

Святло фар яшчэ больш насыціла чарнатой цені. Здавалася, дрэвы з абодвух бакоў дарогі прысоўваюцца бліжэй, каб раздушыць іншародную металічную істоту, якая парушае цішу і раніць цемру. Ды лес Рэма даўно не палохаў – некалькі год знаходзілі ў ім ратунак. І нярэдка малілі ўсёй душой, чуючы далёкі брэх сабак, стрэлы, чужыя галасы, каб сталася яшчэ цямней, яшчэ гусцей было кустоўе ды вецце, яшчэ далей апынуцца ў нетрах...

Між тым грузавік збочыў, марудна, перавальваючыся ў калюжынах, на вузкую дарогу. Цяпер голле ледзь не біла па твары, Малгося перастала

гнаць машыну. Падалося ці не – наперадзе засвяціўся слабы агеньчык. Цвічок прыўзняўся, угледзеўся: сапраўды, набліжаюцца да нейкага будынка. Дрэвы расступіліся. Забраны ў жалезныя краты ліхтар – паўжывая зняволеная жарынка – паказваў жалезныя вароты, высокі пабелены плот, паўзверх – некалькі радоў калючага дроту.

І шыльда: "Інфекцыйная спецбальніца. Уваход строга забаронены".

Малгося выскачыла з кабіны, загрукала кулаком у жалезныя дзверы... Яе каротка стрыжаныя русявыя валасы зліпліся ў неахайныя пасмы. У жалезным палотнішчы ўтварыўся чорны прагал – з агідным рыпам адчынілася акенца. Малгося ціха перамовілася з нябачным ахоўнікам, падала дакументы...

Вароты раз'ехаліся па сталёвых пазах. Іх ахоўвалі двое ўзброеных салдат, але, што палохала больш за зброю – у белых марлевых павязках на тварах. Што за праклятае месца?

Наколькі можна было разгледзець у святле рэдкіх ліхтароў, за варотамі цэлае паселішча. Аднапавярховыя будынкі. Некаторыя – са светлай сучаснай цэглы, а былі цёмныя, з вялікімі аркамі-ўваходамі, магчыма, былыя панскія стайні. Малгося спыніла машыну перад адзіным двухпавярховым будынкам – нецікавы светлы простакутнік з закратаванымі вокнамі, два вакны на першым паверсе свяціліся мёртвым цьмяным святлом. У тым доме яна прабыла хвілін пяць. Вярнулася не адна. Двое ў белых халатах, з насілкамі, прычым адзін кульгавы, другі гарбаты – як у нейкай прыпеўцы. І жанчына, танклявая, з укладзенай на галаве цяжкой касой, з ганарыстай паставай і ўладнымі рухамі:

– Бярыце хворага і ў аперацыйную.

Рэм саскочыў з грузавіка на вільготную зямлю, якая незадаволена чмякнула пад ягонымі ботамі.

– Жэнька! Ты?

Жанчына ў белым халаце азірнулася, вусны трошкі-трошкі кранула былая шчырая ўсмешка:

– Прывітанне, Рэм! Давай усе пытанні пасля, а?

Калі Корвуса занеслі ў дом, Рэм агледзеўся вакол і, як ні дзіўна, нават памятаючы пра бетонную агароджу і калючы дрот, марлевыя павязкі і невядомыя страшныя хваробы, адчуў сябе незвычайна свабодным.

## Раздзел трэці. ГНЯЗДО КРУМКАЧА

Я дачытала фанфік Grjaznogo ubludka і, не адрываючы вачэй ад манітора, паспрабавала адпіць з пустога кубка каву. Прычым не адразу зразумела, што ён пусты. Вось жа, супакоіла сябе пасля сузірання на станцыі метро ўваскрэслага мужа.

Тое, што чарговы дасланы мне як адміну тэкст апавядаў пра нейкага Корвуса, падавалася дурной містыкай. Нашэсце крумкачоў...

Я неслухмянай рукой паставіла на стол кубак з лагатыпам метрапалітэна, падобным да чырвонага нязграбнага птаха з квадратнымі крыламі. Шкада, што, выходзячы з сеціва, нельга ляснуць дзвярыма.

З чаго б гэты Ублюдак даслаў раптам не фанфік пра якогась Тора альбо джэдая Люка Скайуокера, а арыджынал, гэта значыць, цалкам самастойны твор? Чаму на гэты задрыпаны сайт, запаведнік няпужаных графаманаў, а не на якую Прозу.Ру? І што мне з тым аповедам рабіць, выстаўляць ці

не на агульнае прачытанне? Я, вядома, не літаратурны крытык, але магу адрозніць опус пра палкае каханне Мэры Сью і Арагорна, усе гэтыя "Трепеща, как птичка на проводах высокого напряжения, я приблизилась к предмету своего вожделения", ад сапраўднага мастацкага твора, а "Ордэн захавальнікаў" ім быў. А можа, Ублюдак сплагіяціў?

Вы спытаеце – чаму гэта я такая спакойная пасля з'яўлення нябожчыка і рэфлексую пра фанфікі...

Напэўна, мне належала загарлаць, тыцкаючы пальцам у манітор, кінуцца даганяць... Каго? Чалавек, якога я бачыла, мог быць Корвусам. А мог быць страшэнна да яго падобным. Кажуць жа, што ў кожнага з нас ёсць двайнік. Допельгангер. Гі дэ Мапасан аднойчы бачыў яго – вярнуўся дадому, а двайнік у фатэлі ля каміна сядзіць. Гётэ таксама допеля сустрэў, калі ехаў у карэце на Страсбург. Той стаяў на ўзбочыне, апрануты ў шэры сурдут з залатой вышыўкай, які ў стваральніка Фаўста з'явіцца праз восем гадоў. Імануіл Кант, Персі Бішы Шэлі, лорд Кавендзіш, Сяргей Ясенін... Ведаюць пасланцы Аіда, каму з'яўляцца. Часам мы бачым двайніка як цёмны сілуэт альбо празрыстую смугу...

Але ніякай містыкі я не адчула. Віталь быў цалкам рэальны. Нават куточак вуснаў прыўзняў, як заўсёды рабіў, калі ў галаву прыходзілі невясёлыя думкі – гэткая саркастычная паўусмешка...

Лагічнае апраўданне майго бяздзеяння – пабаялася, каб у дурку не забралі. Але нічога такога я не думала. Мазгі завіслі, як кампутар на пірацкім сайце. У мяне ў стрэсавых сітуацыях такая вось рэакцыя: замерці, і няхай усё само рассмокчацца, развеецца, выпарыцца.

Перажываць пачынаю пасля. Як боль вяртаецца ў сцерхлую руку, калі пачынаеш ёю варушыць.

Галоўная прычына маёй стрыманасці: раптам Віталь хаваецца? Выглядаў ён цалкам здаровым. Знешнасць змяніў да непазнавальнага: замест доўгіх валасоў – пад нуль, бараду адгадаваў, дый рудым раней не быў. Каб не характэрны жэст – паціраць пальцам лоб, не пазнала б. Калі раптам я папрашу сваіх мянтоў знайсці патрэбны кадр, прасачыць, дзе пасажыр сеў... Ці не падстаўлю Корвуса? Што б ні сачыніла тыпу "падобны да аднаго чувака, які мне пазыку не вярнуў", прагоняць жа па базе дадзеных, запомняць, зацікавяцца... Гэта ж сістэма, Вялікі Брат, які глядзіць на ўсіх нас!

Мент Паша зноў уключыў "Любэ", і я сыходзіла пад "Не валяй дурака, Америка".

Ехаць давялося ў вагоне, абклееным шпалерамі з кніжнымі паліцамі – рэклама электроннай бібліятэкі. Якраз патрапіла ў "аддзел класікі". Тамы на фоташпалерах здаваліся сапраўднымі, хацелася правесці пальцамі па карэньчыках з залатымі паскамі і адчуць іх выпукласць... Вось толькі ні на водным карэньчыку не было назвы. Кніжкі без іменаў, са сцёртым мінулым. Быццам Корвус. Як можа апынуцца жывым чалавек, які сем год таму загінуў у аўтакатастрофе? Як мае аўтары гэта б вырашылі?

Галоўныя спецыялісты – тыя, што ажыўляюць прафесара Снэйпа з фандома паводле "Гары Потэра". Іх галоўны аргумент – цела не знайшлі. Вісклівы Дамок, дзе супершпіён прыняў смерць ад жудаснай змяюкі Цёмнага Лорда, згарэў. Зусім як "Жыгуль" майго Віталя. Таму верагодна, што прафесар споўз. Інсцэнаваў сваю смерць, сціскаючы ў кішэні супрацьяддзе і кровасцынняльнае зелле, і падпаліў дэкарацыі. Альбо яго непрытомнае цела забралі змоўшчыкі. Ён ачуняў, змяніў імя і знешнасць... Жыве як

іншы чалавек, бо не хоча ў турму за старыя грахі. Альбо не памятае, хто ён, страціў магію. Альбо хаваецца ад няшчаснага кахання (да Гары Потэра, вядома).

Але каб хацеў Корвус проста знікнуць – ён і так за мяжой быў... Навошта вярнуўся на Беларусь і якім чынам?

Тут хутчэй падыходзіць аналогія з фандомам Шэрлака Холмса. Геніяльны слядак зваліўся ў Рэйхенбахскі вадаспад разам з прафесарам Марыярці. А насамрэч таксама інсцэнаваў сваю смерць і вярнуўся праз нейкі час у Лондан, каб давершыць справу выкрыцця злачыннай арганізацыі. Статус нябожчыка дазволіў лягчэй праводзіць расследванні.

Якая ж важная недавершаная справа ў Корвуса?

Я ледзь успомніла, што зараз трэба выходзіць, давялося людзей расштурхоўваць. Нават значок з заплечніка, самы прыкольны, з няшнай постаццю прафесара Снэйпа ў стылі анімэ, з надпісам "Не хвалюйся, я бессмяротны" адчапіўся і застаўся дзесьці за жалезнымі дзвярыма цягніка.

Я завярнула за шэра-мармуровую калону станцыі і сутыкнулася з маладой чарнявай кабетай у паношанай балоневай куртцы колеру капуснага ліста. Кабета, сагнуўшыся, старанна лічыла грошы. Ад майго штуршка адна паперка паляцела на падлогу. Маё "прабачце" непрыкметна растала ад палючай нянавісці чорных вачэй. А гэтую спадарыню я ж нядаўна бачыла ў вагоне – яна гнюсавым плачучым голасам старанна выгаворвала: "Выбачайце, што я адцягваю вашу ўвагу. Я не падманваю вас, дарагія людзі. Збіраю грошы на аперацыю дачцэ. Дапамажыце, хто чым можа, блаславі вас Гасподзь". Плач у голасе гучаў занадта прафесійна. Акцэнт сведчыў, што спадарыня не мясцовая. І я, гэтак жа, як многія пасажыры, утаропілася ў шпалеры з кнігамі і праігнаравала пацёрты поліэтыленавы пакет з міласцінавымі купюрамі, які на пару імгненняў затрымаўся перада мной.

Кабета не дала сіняй паперцы ўпасці на бетонную падлогу, спрытна падхапіла, быццам птушка матыля.

– Што лупішся? – цяпер яе голас зусім не плакаў і не маліў. – Будзеш, красунька, з нябожчыкам цалавацца!

Мой погляд зачапіўся за танныя завушніцы ў выглядзе птушыных пёркаў з белага металу, што пагойдваліся ў вушах чарнявай жабрачкі. Я яшчэ раз мармытнула абсалютова непатрэбнае "Прабачце" і бегма пакінула станцыю. "Цалавацца з нябожчыкам"... Гэта праклён, прадказанне ці прапанова?

Я нацягнула на галаву капюшон талстоўкі – красавіцкі вецер насвістваў у вушы штось сімфанічнае. Мокры асфальт, белыя захляпаныя красоўкі з калісь жоўтымі шнуркамі... З чаго ж пачаць росшукі свайго нябожчыка?

Ясная справа, з мінулага. Раптам мар'інагорская цётачка штосьці ведае? Месяц таму сама мне патэлефанавала, прычым двойчы. Пыталася, чаму не прыязджаю. Маўляў, у рэчах пляменніка, пакінутых у яе доме, маецца адрасаваная мне рэч. Пакет, канверт... Не памятаю. Але я па-ранейшаму хацела пазбавіцца ўсялякіх успамінаў і нават не падумала ехаць забіраць, у той час, як сама ўсё Віталева аддала. А цяпер з'езджу. Таму што калі не ўпэўнюся, жывы Корвус ці не... Самае страшнае – няпэўнасць.

Першы пацалунак пасля сустрэчы з чарнявай жабрачкай, аднак, дастаўся не ад нябожчыка. Мацейка ў вітальні маёй кватэры крануў цёплымі вуснамі шчаку... Хоць я адразу раздражнёна адхілілася. Не да сантыментаў. З варыўні пахла тушанай рыбай. Бэ-э... Зноў рыба... Успомніўся хек у белай

пенапластавай скрыначцы, з’едзены на абед. Ну, але сам факт – хлопец гатуе мне вячэру, вунь пантофлі падае...

– Дзякуй... – мармытнула я, усунуўшы ногі ў вязаныя сіне-белыя пантофлі са скандынаўскім арнаментам.

– Ірынка, што здарылася?

Ён заўсёды адчувае мой настрой. Мацей глядзеў уважліва-трывожна, гэтак жа, як Кафка з ягонай майкі, якая абцягвала даволі шырокія плечы. Вы, напэўна, сказалі б – прывабны хлопец, спартыўны, стылёвы. Прычоска з доўгім русявым чубам і каротка стрыжанымі скронямі, на абедзвюх руках – скураныя фенечкі, іх уладальнік не здымаў нават дома, плюс “татушка” на загрыўку ў выглядзе лацінскага выслоўя “*A probis probari, ab improbis improbari aequa laus est*”. “Аднолькава вартыя ўхвала ад годных і ганьба ад нягодных”. Што значыць, фіялетава мне на вашую крытыку.

Мне зразумела, адкуль гэтая дэманстрацыя незалежнасці ад чужога меркавання. Нацярпеўся Мацей... Я дасюль, як на яго гляджу, бачу не шыракаплечага падцягнутага мужчыну, а поўненькага хлопчыка з наіўным ружовашчокім тварам, аж хочацца ўшчыкнуць за пухлую шчаку. Ці штурхануць у спіну, каб не глядзеў так, быццам увесь свет з цукерак і сонечных зайчыкаў. Што ж, з ім, нізенькім пухлявым навічком, усё гэта ў нашым чацвёртым “Б” і рабілі. І не толькі гэта. Штурхалі, шчыкалі, лупілі, падкладалі кнопкі на крэсла... Клас наш быў паскудны. А што вы хочаце, рабочы раён. Побач – зона строгага рэжыму, чыгунка, ля якой мы бавілі вольны час, скачучы па застылых грудах шлаку. А хлапцы бегалі да зоны, хваліліся, што вось учора ледзь вартавыя з вышак не падстрэлілі. Кідалі праз калючы дрот пачкі з чаем, цыгарэты. Атрымлівалі ўзамен нажы з наборнымі ручкамі, адмысловыя бранзалеты з жалезных ланцужкоў... І ў класе парадкі былі, як на зоне. Нават спіс іерархіі па партах хадзіў. На чале – Атаманша, самая высокая і мажная дзяўчынка, дзве яе шасцёркі, і ўжо не памятаю, як там ролі размяркоўваліся. Я з дзвюма сяброўкамі апынулася ў асобнай партыі, анархістаў. У мяне спісвалі ўрокі, мы разам з усімі ўцякалі з заняткаў і пляваліся гарохам з трубачак. Але ўдзельнічаць у “цёмных”, кагосьці няўгоднага лупіць, падтрымліваць байкоты я наадрэз адмаўлялася. Атаманша паблажліва дазволіла мне быць трохі паасобку – і за тое, што рабіла хатнія заданні за ўвесь клас, і за тое, што маніць не ўмела. Прынамсі, такое меркаванне пра мяне склалася.

Галоўнае было – не патрапіць да ізгояў, якім згаданыя “цёмныя” і ўчынялі. А вось Мацей якраз – у тых ізгоях... Мілы такі хлопчык, разумненькі, настаўнікі не нахваляцца. З добрай сям’і – тата і мама медыкі. Акуратненькая вопратка, акуратненькая стрыжачка, у музычную школу ходзіць, грае на флейце...

Не, вы падумайце, у класе, дзе палова бацькоў пабывала ў калоніі, вучыцца флейтыст! Не хачу ўспамінаць, як яго абзывалі. А ён яшчэ да ўсяго і заікаўся. “Ад-д-д-чап-п-піцеся...”

Вядома, ніякіх рамантычных пачуццяў Мацейка ні ў каго з дзяўчатаў не выклікаў. Наадварот – нават побач з ім затрымацца грэбавалі. Сесці за адну парту з Саломай – мянушка ад ягонага прозвішча Саламярэцкі... Нізавошта! Задражняць. Таму нясмелыя спробы Саломы заляцацца да мяне (“Хочаш ц-цукерку? П-пайшлі ў к-кіно?”) былі сустрэтыя, як заляцелыя ў хату мухі: хуценька прыбіць, каб не дзумкалі.

Але флейтыст не здаўся. Замест таго, каб да канца вучобы шыцца па кутах і пазбягаць увагі якога-небудзь Валодзькі з паламаным носам і пудовымі кулакамі, пазапісваўся ў спартовыя секцыі. І ўжо ў восьмым класе канчаткова развітаўся з пухлявасцю, флейтай і кончыкам мезенца на левай руцэ. Мезенец яму падкараціла ў бойцы заточаная жалезная палоска, здабытая нейкім Вовам ці Мішам у добрых зэкаў. Заіканне засталося толькі калі моцна хваляваўся. Але нават калі я нечакана сустрэла Мацея ў Акадэміі мастацтваў – ён паступіў на кампутарны дызайн, я вучылася на камунікатыўным, усё роўна бачыла ў ім таго ж поўненькага хлопчыка з наіўнымі вачыма, з якім няёмка падтрымліваць знаёмства, бо засмяюць.

Былы флейтыст доўга ў акадэміі не пратрымаўся. Мусіць, курса з другога перайшоў на айцішныя тэхналогіі ў другі інстытут. Хаця маляваў цікава. Графічка такая сюрэалістычная чорнай тушшу, цмокі, эльфы – хоць зараз у раздзел арту на маім сайце.

Некалькі год я анічога пра заікастага Саламярэцкага не чула. Ажно да абароны дыплома – яна ў нас была ў музеі сучаснага мастацтва. І калі я ціха ікала ад хвалявання – дыплом мой быў на тэму “Промапрадукцыя Мінскага трактарнага завода”, я абыграла вобраз трактара-супермэна і баялася, што выкладчыкі не ацэняць сцёбу... Адгадайце, хто падаў мне каву-латэ, прынесеную з суседняй кавярні?

У адрозненне ад мяне, Мацей хутка зрабіўся знакамітасцю ў сваіх прафесійных колах. Далучыўся да стварэння папулярнай кампутарнай гульні са смешнымі круглымі монстрыкамі, павыйграваў нейкія прэстыжныя конкурсы... Урэшце, і мяне дабіўся. Ну, дазволіла ж я яму ўвайсці ў маё жыццё, выцягнуць з дэпрэсіі... Праўда, ягонае мармытанне пра замежныя перспектывы толькі раздражняла: ён там будзе геніяльнічаць пры якім Білу Гейцу, а мне што рабіць? Посуд мыць у Макдональдсе? А на ролю хатняй гаспадыні я не падпішуся нават пры наяўнасці роты прыслугі. Маім мужам Салому не быць, я сказала.

Мой расповед пра сённяшнія падзеі развесяліў Мацея прыкладна як Гамлета – з’яўленне прывіду ягонага бацькі.

– Д-дык т-ты збіраешся яго шукаць? Т-таго каламутнага Корвуса?

Ажно сківіцы сціскае і заікаецца... І не падумаў запэўніваць – “Падалося табе, Ірынка, папі валяр’янкі”. Адчуў, што Адысей падплывае да Ітакі і трэба вызваляць нагрэтае месца на ложку Пенелопы дзеля законнага сужэнца.

– Паслухай, Салома, я табе нічога не абяцала, – я адсунула талерку з недаедзенай рыбай. – Мы ж дамаўляліся... Не будзем ускладняць.

Мацей глыбока ўздыхнуў, бы апошнім паветрам, і з сілай правёў абедзвюма далонямі па твары, нібыта спадзяваўся сцерці рысы, якія не выклікалі ў мяне палкага пачуцця, і набыць іншае, больш прывабнае ў маіх вачах аблічча.

– П-прабач, забыўся пра нашу... канвенцыю. Мір, дружба, сэкс. І ўсё ч-часова, як нумар у гатэлі.

На імгненне зрабілася сорамна ад горычы, што гучала ў ягоным голасе. Але ў наступнае імгненне я раззлавалася. Дакараць, што цябе не кахаюць – усё роўна што сцябаць вецер. Хопіць, што мне маці мазгі вынесла, калі ж мілы Мацейка са мной ажэніцца, нібыта ўсё залежала ад яго жадання. Але Салома, відаць, і сам зразумеў недарэчнасць прэтэнзій і іранічна ўсміхнуўся – найлепшы сродак хаваць крыўду.

– Ну што, Холмс, паехалі лавіць сабаку Баскервіляў ля Грымпенскай... пардон, Мар’інагорскай, дрыгвы? Цябе пакінь – зноў наламаеш трыснягу.

Гэта ён намякаў на маю першую спробу забыцца на Корвуса – раман з адным байкерам. Раман скончыўся тым, што я ўцякла ад з выгляду брутальнага (гара цяглiцаў, татухі, касухі), а на справе страшэнна зануднага меланхалічнага каханка на ягоным жа байку. Які праз дзесяць хвіль уцёкаў па няўменні загнала ў балота, зарослае сухім трыснягом. Патлумачыць тое, што байкер мяне не прыбіў, калі дабег да таго балота, магу толькі ягоным захапленнем будызмам і філасофскім раманам Роберта Пірсінга “Дзэн і мастацтва догляду за матацыклам”.

– Мушу канстатаваць, Ірына Максімаўна, што ў нашых адносінах прасочваецца глабальная дысгармонія, – толькі і змог прасіпець небарака, шалёнымі вачыма ўтаропіўшыся на жалезнага дрыкганта, які адчайна задзіраў руль угару з твані.

Байкер нават моўчкі давёз мяне, зарумзаную, у панцыры з падсохлай гразі, да горада на выратаваным з дрыгвы байку.

Харошы быў чалавек у прынцыпе. Толькі надта павучаць любіў ды аналізаваць чужую карму.

Тады я змагла сабе прызнацца. Мне патрэбны толькі Корвус. Крумкач, чорны птах смерці.

Добра, што заўтра субота, і можна не адкладаць росшукі. Тут жа патэлефанавала цётачцы Віталя – шчасце, што стары нататнік з нумарамі не згубіўся, дамовілася на візіт. Цётачка гаварыла праз зубы, але прыехаць заахвоціла. Маўляў, даўно трэба было спраўдзіць волю зніклага. Салома ўгаворваў пачакаць, пакуль машыну з рамонту забярэ, але я толькі паціснула плячыма: не хочаш – не едзь, мне і грамадскі транспарт падыдзе. І ўвогуле, гэтай ноччу хачу адна пабыць.

Калі Мацей пасунуўся дахаты, я залезла на свой сайт. Ага, падазроны аўтар у сеціве. Я папрасіла Ублюдка ўдакладніць біяграфічныя звесткі. Запоўніць урэшце анкету, а то не выстаўлю ягоны тэкст.

Вядома, нараніцу менавіта Салома пабудзіў мяне, каб выправіцца, як запланавалі. З’явіўся хвіля ў хвілечку, бы піянер на ранішнюю лінейку. Праўда, не ў чырвоным гальштуку і шортах, а ў байцы з чорным капюшонам, падобным да манаскага клабука. Змрочны, нявыспаны, нібыта схуднелы за адну ноч. Ледзь плячом усе малюнкі ў вітальні са сцяны не змахнуў, хоць раней такой няўклюднасці за ім не заўважалася. У мяне ж усе сцены завешаныя акварэлькамі, керамічнымі пано, батыкамі, фотаздымкамі – іншага багацця ў хрушчоўцы няма. Затое атмасферненька. А што? Кажуць, Ігар Севяранін завешваў сцены сваёй жабрацкай кватэры букецікамі і паштоўкамі, атрыманымі калісь ад прыхільніц. Уявіце сабе... Рэвалюцыя. Усім начхаць на ягоныя “ананасы ў шампанскім” і славу выкшталцонага дэндзі. І сам ён – пастарэлы, у пацёртым аксамітным пінжаку і ні разу не арыстакрат. Букецікі пажоўклі, асыпаюцца, але дапамагаюць захаваць Пачуццё Уласнай Значнасці. Вось і я – гляджу на псіхадэлічныя малюначкі, што натхнёна малявала па начах у студэнцкім юнацтве, і забываюся на кабінет над станцыяй метро і транспартную газетку з чыноўніцкімі пысамі. І здаецца, усё яшчэ будзе. Персанальныя выставы, вялікія карціны, гучныя перформансы. Белы Трактарыст прыедзе і забярэ мяне з саркафагу...

А ў галаве круцілася пытанне, якое Мацей умудрыўся задаць, як нож загнаць: “А ты ўпэўнена, што Віталь хоча, каб ты яго знайшла?”

Сюжэтаў, як закаханая дзяўчына ідзе па слядах свайго зніклага прынца, хапае. Старажытныя немцы верылі, што віхура – няшчасная жонка, якая шукае мужа, нават і цяпер называюць тую з'яву *Windsbraut*, «нявеста ветру». Пяшчотная прыгажуня Псіхея, каб вярнуць свайго Амура, аж у царства мёртвых датупала па ваду са Стыкса. Наша Вужыная Каралева, дарэчы, таксама мужа страціла і жаласна клікала яго з дрыгвы. О, а вось згадаўся эксклюзіў! Сука Фініст Ясны Сокал з расейскай казкі. Калі ад жонкі сыходзіў, заявіў: бывай, маўляў, красунька, калі надумаеш шукаць мяне за трыдзевяць земляў, стопчаш тры пары жалезных чаравікаў, тры жалезныя кавенькі зломіш, тры прасвіры каменныя згрызеш, тады і знойдзеш мяне, добрага малойца. Красунька, вядома, стоптвае, згрызае і знаходзіць... Потым, у палацы сукі Фініста, лечыць раматус і харчуецца кашкамі. Суставы застуджаныя, зубоў няма...

Каму сокал, каму крумкач.

Кажуць, каб даведацца, па якім сцэнарыі жывеш, трэба ўспомніць улюбёную казку з дзяцінства. Але ж у мяне гэта дакладна не той навалачны Фініст. А – не можа быць! – “Снежная каралева”. Герда ў пошуках Кая. Збяры слова “вечнасць” з падручных матэрыялаў і прамяняй палову свету на канькі.

У электрычцы на Асіповічы я купіла ў дзядзечкі-карабейніка сінюю накідку ад дажджу. І каб Салому пазлаваць, які прыхапіў для мяне, бездапаможнай, парасон з чорнымі катамі на гарчычным фоне. І шкада зрабілася дзядзечку, які відавочна зусім нядаўна, мусіць, пасля вылету на пенсію, паспрабаваў гандлярскай долі. Рэкламаваць тавар свой толкам не навучыўся, ажно голас зрываўся і ад сораму, і ад страху, што ні капейкі не заробіць.

І як адчувала... Толькі выйшлі ў той Мар'інай Горцы, дождж абрынуўся, нібы спазняўся на спатканне з зямнымі нетрамі. Так што мне ў сінім шаргатлівым “доміку” было куды выгодней, чым Мацею хай бы і з двума парасонамі. Корвусава цётка-пашпартыстка, сур'ёзная кабета з па-мужчынску буйнымі рысамі твару ў карэ фарбаваных пад каштан валасоў, злосна зыркнула на наш мокры абутак, які пакінуў абуральныя сляды на ламінаце пад мораны дуб у вітальні ейнай кватэры, хоць мы адразу разуліся да шкарпэтак (пантофляў нам не прапанавалі). Алена Рыгораўна – ёй бы іграць улюбёную дачку злой мачыхі беднай сіроткі, тую, дзеля якой у сіроткі адбіраюць усё, ад напрадзеных нітак да багатага жаніха, буркатнула: “Праходзьце”. Тоўсты кацяра на канапе скрывіў пляскатую пысу і адвярнуўся. У серванце бялеў падораны нам з Корвусам на вяселле сервіз, з кучаравымі пастушкамі і кветкавымі гірляндамі. Пахла таннай пудрай і карвалолам. Фотаздымка зніклага пляменніка не відаць нідзе.

Алена Рыгораўна так і не спытала, што за фацэт прыйшоў з жонкай пляменніка, нават не кінула на Мацея ніводнага цікаўнага позірку. Раздражнёна дастала з шуфляды пакет, загорнуты ў цэлафан:

– Зрабіла ласку завітаць, дык бяры. Віталь перад ад'ездам свае рэчы спакаваў, каб у Мінск перавезці, так і стаялі валізы ў кладоўцы. Перад новым годам вырашыла перабраць, падалося, што моль там развялася. А ў валізе зверху вось гэта... Табе адрасавана. Вырашыла, варта перадаць, хоць табе, даражэнькая, відаць, усё роўна.

Пляскатвары кацяра лена саскочыў з канапы і ці сослепу, ці ад шкод-

насці зрабіў спробу патачыць кіпці аб Мацееву лытку. Камуфляжная тканіна нагавіцаў разышлася з агідным трэскам.

– Б-брысь, жыв-вёла!

Алена Рыгораўна падхапіла на рукі раскормленага хатняга бажка:

– Не бойся, Магнацік!

Баяцца відавочна належала непачцівым гасцям, пра што сведчыў раз'ятраны выраз твару гаспадыні. Мы паспешліва развіталіся, нават шнуркі не сталі завязваць на красоўках. На развітанне Магнат падарыў нам здзеклівае "Мрмяў".

Пакет я разадрала проста на ганку, пад стрэшкай перад непрыветным пад'ездам (я так і не змагла ўявіць, што Корвус сюды заходзіў, падымаўся па вышчарбленых прыступках, вячэраў на цётчынай кухні).

Канверт... Почырк Віталя... Там перадсмяротная цыдулка?

Мацей рашуча забраў спадчыну з маіх рук, што трэсліся, як у алкаголіка са стажам. У канверце аказаўся ключ – пляскаты, з дзіркай, падобнай да выскаленай усмешкі, з бліскучымі зубчыкамі. І папера. Якая ва ўсёй юрыдычнай красе сведчыла, што ласкай Корвуса мне ўжо сем год як належыць дом у маленькім гарадку Старавежск. Вуліца Энгельса, 24.

Каб жа я хоць раз чула ад зніклага мужа пра той Старавежск! І пра тое, што ў яго ёсць там маёмасць!

Паштоўка, якую аздабляла гравюра пачатку дзевятнаццатага стагоддзя з краявідамі нейкага павятовага мястэчка, мусіць, таго Старавежска, трохі з'ясавала сітуацыю.

"Дарагая Вірынейка, прабач, што з'ехаў адразу пасля вяселля. Але хачу ўсё кампенсаваць. Мядовы месяц у нас будзе самым рамантычным. У мяне ёсць для цябе сюрпрыз. Нядаўна я атрымаў спадчыну ад далёкага сваяка – сапраўдны старасвецкі дом, такі, ведаеш, з кафлянай печчу, рыпучымі драўлянымі сходамі, пазелянелым чарапічным дахам і, магчыма, з прывідамі. Я хачу, каб ты прыняла яго ў падарунак. Няхай гэта будзе маім пасагам і месцам, дзе мы пражывем самыя цудоўныя дні!

Твой Крумкач".

Значыць, Корвус перад апошняй вандроўкай заязджаў на сваіх "Жыгулях" да цёткі. Канверт пакінуў тут, каб я не знайшла ды не папсавала сюрпрыз – усё роўна збіраўся па вяртанні перавезці свае рэчы да мяне. А вось ці быў ён у Старавежску? Можа, паспеў і там штось пакінуць, нейкі знак? А можа... А можа, ён у доме з прывідам і хаваецца? Можа, там пад чужым імем сем год і жыве?

Чакаць і даганяць – самыя паскудныя справы, казала мая бабуля. З Мар'інай Горкі да Старавежска, як сведчыў тысячавокі Гугл, можна было дабрацца за якія паўтары гадзіны на рэйсавым аўтобусе.

Дождж паныла малаціў па бляшаным навесе, як быццам адпрацоўваў належны тэрмін на нелюбімай працы.

– Паслухай, Вірка... – Мацей стамлёна пацёр двума пальцамі пераноссе, быццам там намулялі нябачныя акуляры. – Давай не ламаць... трыснёг. У мяне ўвечары важнае паседжанне. Я абяцаў вярнуцца...

– Вяртайся, не пытанне! – я выцягвала з заплечніка шаргатлівую сінюю накідку, быццам пакамечанае неба з водгуллем навальніцы.

Я зусім не хацела да чагось змушаць Саламярэцкага. Праўда.

Праўда і тое, што ў глыбіні душы ведала, што ён усё роўна пацягнецца за мною.

Так і здарылася. Мы трэсліся ў маленькім аўтобусіку, мусіць, яшчэ савецкага часу, і нашы выпадковыя спадарожнікі амаль усе везлі з сабой саджанцы. Здавалася, гэта транспарт для дрэваў-перасяленцаў, яны тут паўнавартасныя пасажыры, а мы так, аўтаспыншчыкі. Кволыя шэрыя пруты, як сапраўдныя мігранты, не ведалі свайго лёсу. Хтось з іх прыжывецца, закрасуе, а хтось і не знойдзе сіл зрадніцца з чужой непрыветнай глебай.

А ўсцяж вузкай, не магістральнай дарогі мільгалі на шыльдах рознай ступені іржавасці незнаёмыя, але такія старасвецкія, з водарам стагоддзяў назвы. Людвісарава... Падняводдзе... Жухавічы... Наўе... Волатава Пушча... Мне падалося, што дарога з Мар'інай Горкі да Старавежска – шлях з рэалу ў фэнтэзі, дзе іншыя законы быцця і іншая гісторыя, дзе жывуць ваўкалакі і прывіды і адкуль ніхто не вяртаецца ранейшым.

Вось каб быў са мной Корвус – колькі б ён распавёў цікавага! Пра тое ж Людвісарава, уладальнік якога быў сынам магната, але пайшоў у інсургенты... Пра Наўе, сама назва якога адсылала да Краіны Мёртвых. Наўе і Праўе, між якімі жылі продкі...

Мацей у прывіды не верыў. Ён гаварыў па смартфоне. Нудна і стамлёна.

– Так, я памятаю, што абяцаў вярнуцца. Так, мы адна каманда. Не, я не Ланцэлот. Я айцішнік з асабістым жыццём. Паслухай, Марго, усё роўна эплаўцы будуць размаўляць па скайпе. У мяне з сабой планшэт, падключуся – і айс.

Марго – ягоная калега. Ні разу яе не бачыла. Увогуле, ніколі не хацела ведаць падрабязнасці працы майго бойфрэнда. Але гэтая дамачка мяне ненавідзіць, факт. Не здзіўлюся, калі закаханая ў Мацея. Не тое, каб мне было ўсё роўна, нат калі тваю котку хтось звядзе, прыкра. Але Салома і праўда заслугоўвае большага, чым я магу яму вылучыць. Таму трымаць не буду.

Між тым на экране Мацеева планшэта зміргалі фізіяноміі суразмоўцаў у асобных квадрацiках, зусім як на маніторы відэаназірання ў метро. Саламярэцкі надзеў навушнікі і залапатаў па-ангельску. Здольнасць да моў у мяне прыблізна як у індыка да балета. Ды каб і разумела – што мне да іхніх тэхналогій, дый усім астатнім пасажырам таксама. Вось дзядзечка наперадзе абдымае худы саджанец з двума кволымі лісцікамі на макаўцы і распавядае спадарожніцы ў вязаным берэцэ бурачнага колеру страшную гісторыю. Ляжаў у бальніцы, у артапедыі. Прывозяць ноччу ў палату мужыка са зламанай нагой. Той наадрэз адмаўляецца расказваць пра свой няшчасны выпадак. Разгаварыць удалося пасля кантрабандай прынесенай у палату бутэлькі піва "Аліварыя прэміум"... А было так. Аднойчы сніць той мужык, што жонка мые падлогу, поўзае ракача... І так зручненька павярнулася да яго задам, што ён проста не мог не даць дарагой сужонцы выспятка. Прачнуўся ад болю, бо з усяе соннай моцы ўдарыў нагой у сцяну.

Кабета ў берэце павучальна гаварыла пра неадкладнае пакаранне за злыя намеры... А я трэслася ад істэрычнага смеху. У апошнім сваім сне я даганяла Корвуса, які ў чорным манаскім балахоне слізгаў між соснаў – іх ствалы былі шэрымі, як стары асфальт, а іголкі фіялетавымі. А я такая бягу, на сосны натыкаюся... А потым Корвус паварочваецца, а ў яго пад чорным капюшонам замест твару – страшная белая маска, як у Паядальнікаў Смерці з сагі пра Гары Потэра. І дае мне ў рукі жалезную бразготку на доўгай ручцы... Я тую жалязяку хапаю... І цікава, за што б

гэта я ўхапілася, каб рухалася ў сне, як той мужык? Можа, прачнулася б з адарваным ад сцяны свяцільнікам?

А паводле Фрэйда свой сон трактаваць не хачу, не спадзявайцеся.

Мацей скончыў перамовы, якраз калі аўтобус затросся на брукаванцы, як ад ведзьмінай корчы альбо скокаў святога Гі.

Можа, калісь Старавежск і быў горадам слаўным ды квітнеючым. Засядала ў ратушы важная гарадская рада, учыняліся рыцарскія турніры, урачыстыя каптуровыя суды крычалі "Ганьба!". Дзеля прыезду вялікага князя вось на гэтым пляцы, дзе слепавокі гіпсавы Ленін пагражае небу зацiснутай у кулак кепкай, ладзіўся карнавал альбо містэрыя на духоўныя сюжэты...

Але сёння гэта было звычайнае мястэчка, якое за апошні век зведала дзясятак розных уладаў, кожная з якіх апантана падчышчала ўсе сляды папярэдняй, а гэта значыць людзей, будынкі і ідэі. Пра што сведчыла хаця б вось гэтая мураўёўка, царква, што сустрэлася нам па дарозе да вуліцы Энгельса. Такія ўзводзілі ў краі пасля ўціхамiранага паўстання, пры Мураўёву-вешальніку, каб распаўсюдзіць правільную веру. Непарушным застаўся толькі выкладзены з мясцовых каменняў падмурак. А верхні ярус разам з купаламі зрэзалі, як крэм з торта, і замянілі на пляскаты бляшаны дах. Вокны напалову заклалі цэглай, каб пазбавіць аркавай формы, збілі карніз над дзвярыма... Цяпер, відаць, архітэктурнага калеку зноў перадалі вернікам: сцены свяціліся свежай пабелкай, на бляшаным даху ўзвышалася недарэчна маленькая новенькая вежачка з ярка-сінім купалам-цыбулінай, падобнай да чупа-чупса.

З-пад асфальту паказвалася брукаванка – быццам праз прарэхі лахманоў шляхецкая вопратка. Вясна, усюдыісная, як пошасць, вытыркалася з кожнай шчыліны зялёнымі дзюбкамі травы, прабівалася з галінак падманліва-кволымі лісцікамі. На баку іржавай пажарнай машыны ў нечым двары красаваўся надпіс "Старовежск". Дзесьці паблізу загарлаў самотны певень. Няшмат субраццяў-сонцапаклоннікаў падхапіла ягоны адчайны крык. Месцічы відавочна аддавалі перавагу перад жывымі квактухамі спачылым бройлерным курыцам, што свяціліся ружова-сінімі голымі бакамі ў цэлафанавых упакоўках і лагодна маўчалі.

Вуліца Энгельса заканчвался жывапісным тупіком. Якраз тут і распраўляў цагляныя плечы дом Корвуса. Праўда, пастава была не надта ўражлівая, старэчая, прыгорбленая. Да цаглянай паловы дома прыбудаваная драўляная частка, пафарбаваная аблезлай зялёнай фарбай. Мансарда нядобра лупілася падслепаватым чорным вакном з брудна-белай рамай. Самотны вазон, як каламутная зрэнка. Высокі плот з шэрых дошак рознай вышыні, быццам наторкалі на хуткую руку, у чаканні нападнікаў. За плотам шчыміліся бэзавыя кусты, якія яшчэ і не думалі зелянець, толькі тапырыліся шэрым голлем. Паштовая скрынка на слупе вясніцаў падмазаная сіняй фарбай, на ёй нехта зусім нядаўна вывеў белым няроўныя лічбы "24", на кволай веснавой траве яшчэ бялелі кроплі фарбы. Са шчыліны скрынкі тырчэў стракаты край рэкламнага буклета. Замест замка ці клямкі слуп агароджы і штыкецiну весніцаў з'ядноўвала пятля з дроту.

Я нерашуча азірнулася на Мацея. Той змрочна пацiснуў плячыма і за няйменнем лепшага пастукаў па паштовай скрынцы.

– Ёсць хто ў хаце?

Дом нібыта стаіўся, прысеў на заднія лапы, як звер, загнаны лоўчымі ў самы гушчар. Салома сцягнуў пятлю са штыкецiны і штурхнуў весніцы. Тыя адчыніліся самі, ажно грукнулі ды загайдаліся. Уніз, на забрукаваны двор, вялі дзве няроўныя прыступкі. Цяпер, з двара, можна было палюбавацца і на белыя фіранкі на вокнах, падвязаныя ружовымі стужачкамі, і на высокі ганак з дзвюма драўлянымі калонамі – аб іх, падобна, ранейшыя ўладальнікі вастрылі сякеры ці шаблі, шэрыя слупы спрэс у шнарах. Шыба ў левым вакне трэснула. Расколіна, заклееная знутры белым медыцынскім пластырам, нагадвала па форме руну наўціз (сімвалізуе энергетыку Сатурна, цёмны час і ўвогуле тармазнутасць).

На стук у дзверы зноў ніхто не азваўся. Хаця нібыта пачулася асцярожнае пагрукванне... Ці не Корвус там трывожна прыслухоўваецца да нашых рухаў?

Ключ паварочвацца ў замку не захацеў. Таму што дзверы не былі замкнутыя. Варта павярнуць металёвую ручку, падобную да наверша састарэлай у бойках булавы...

Так магло пахнуць у старой аптэцы і адначасова бібліятэцы. Калі вочы прывыклі да цемры, высветлілася, што пад драўлянай столлю доўгай вітальні прымацаваны шост, на якім павіслі кветкамі ўніз букеты зёлак, ссохлыя, сівыя, брунатныя... Быццам назапасілі іх яшчэ ў тыя часы, калі ў кожнай аптэцы мусіла вісець чучала кракадзіла. Уздоўж сцен – старасвецкія этажэркі, заваленыя стосамі пажаўцелых часопісаў і кніг... І адчуваецца выразна, як поўха на шчацэ, нечая прысутнасць...

На наша галёканне штось зноў грукнула ў глыбіні дома... Рыпнулі дзверы, у прастакутніку святла нясмела вымалявалася незразумелая, застрашлівая постаць. Цяжкія крокі, як людзі не ходзяць...

Не, гэта быў не Корвус. Нават пасля зомбі-апакаліпсісу ён не змог бы так выглядаць.

Як я не закрычала, не плітанула прэч – не ведаю. Істота, што выходзіла да нас з прыцемку старасвецкага дома, пагрукваючы мыліцамі, абрыньвала ў сярэднявечныя жахі.

У ашалелых мазгах круціўся вершык-“парашок”, дасланы адным з маіх аўтараў, які парадзіраваў вядомы фільм пра мушкецёраў. Памятаеце, герой таго мюзікла ўвесь час бадзёра пытаўся таварышаў: “А колькі ў нас шпаг? – Чатыры! – А колькі ў нас мушкетаў? – Чатыры! – А колькі ў нас бутэлек бургундскага? – Чатыры!” “Парашок”, напісаны, як належыць, без знакаў прыпынку, выглядаў так:

а колькі шпаг у нас чатыры
а сцёгнаў сем а пальцаў сто.
давайце з самага пачатку
мы хто

У свой час я здорава рагатала. Вось толькі цяпер мне ні разу не было весела. Дзве галавы, прыціснутыя адна да адной, чатыры, здаецца, рукі, тры нагі, адна сукенка...

Істота, цяжка абапіраючыся на мыліцы, наблізілася. З-пад прыполу сукенкі ў дробны гарошак паказваліся сапраўды тры нагі ў бясформных пантофлях. Яны перасоўваліся з цяжкасцю, нібыта блыталіся, якой чарга хадзіць. Сівыя валасы, укладзеныя акуратнымі косамі, маршчыністыя бледныя твары, трохі прыплюснутыя з бакоў, вялікія пукатыя светлыя

вочы... А ў вачах – спалох. Што надало мне моцы папытацца... Дакладней, прапішчэць апошні радок вершыка-парашка:

– Вы... хто?!

– А вы? – прамовіла... скажам так, левая галава.

Звычайны насцярожаны голас немаладой жанчыны.

Што змусіла мяне ўсё-ткі ачомацца... Я ж дзіця інтэрнэта, саламяная ўдава, нават дзесьці феміністка і спецыялістка па віртуальных монстрах. А перада мной проста чалавек... Дакладней, два чалавекі. Сіямскія блізнюкі. З'ява прыроды. Вунь расказвалі мне пра аднаго паэта... Калі ён нарадзіўся, у яго ў грудзіне апынуўся яго брат-блізнюк, які не развіўся з зародку... І паэт так і жыў доўгія гады, ніхто не ведаў пра ягоны "бонус"... І ён доўга не ведаў. Я сама бачыла: мужык як мужык, лысаваты, сціплы...

Мацей ачомаўся хутчэй за мяне. Пасля ягоных тлумачэнняў кабеты, што дзялілі тры нагі на двух, як антычныя багіні паркі на траіх – адно вока, цяжка ўздыхнулі і паспрабавалі перазірнуцца адна з адной, для чаго ім давялося скасавурыць пукатыя вочы, якія ў адной былі зусім ужо на розных узроўнях, як на малюнку сюрэаліста.

– Што ж, Люба, перабярэмся назад, да сястры... — мармытнула левая блізнючка, нервова шкрабануўшы мыліцай па падлозе.

– Яна тут, за сценкай жыве, сястра наша Маруся, у драўлянай прыбудове, – палумачыла правая блізнючка, з перасунутымі вачыма. – Мы ў яе і прапісаныя. Проста доктар Люцыян Корвус, упакой Гасподзь яго светлую душаньку, перад смерцю казаў, каб мы карысталіся ягонай паловай дома. За камунальныя паслугі плацім...

– Мы ўсяго адзін пакой займаем, у кабінеце толькі пыл выціраем. Як доктар пакінуў, так усё і стаіць, – запэўніла левая, падобна, з больш мяккім характарам, яе голас жаласна задрыжэў. У мяне ажно шчокі запалалі: выглядала, нібыта я збіраюся выганяць няшчасных пажылых калек з дому, на які мае правы па-чалавечы вельмі няпэўныя. А тут яшчэ з боку дзвярэй пачуўся ўладны жаночы голас:

– Як не сорамна толькі! Хто дазволіў турбаваць інвалідаў? Чаго ўваліліся? Не людзі пайшлі – звяры! Адны вокны б'юць, другія падаткі вымагаюць...

Ваяўнічая старая ў блакітнай балоневай куртцы, напэўна, тая самая сястра Маруся, настаўляла на нас складзены мокры парасон з вострай металёвай "дзюбай".

– Крыжа на вас няма!

Дарчая Віталя Корвуса ўражання на кабету, падобную да зрослых сёстраў хіба светлымі пукатымі вачыма, не зрабіла.

– Круцялі вы ўсе! Не было ў Люцыяна Станіслававіча ніякіх пляменнікаў, ні родных, ні ўнучатых. Як жонка памерла, адзін дажываў. Толькі круціліся ўсялякія... пройды. Ён іх на ганак не пускаў.

Мацей ад націску кабеты ледзь не паваліўся на этажэрку з падшыўкамі старых газет.

– Даша і Люба нікому не замінаюць! І сябе могуць пракарміць. Яны швачкі, працуюць на камбінат... Вышываюць для царквы... А ў краму і я для іх магу схадзіць! Не аддам у інтэрнат! Досыць, што яны там усё дзяцінства правялі, а я і не ведала! – кабета паставіла на падлогу накрыты кавалкам цыраты кошык, адкуль чуўся вохкі пах свежага хлеба, які пякуць толькі на раёне. – Бог ведае што робіцца... То нікому не трэба былі, задушыце-

ся на свае капейкі інвалідскія, а з пачатку гэтага года Любку з Дашкай ажно тры разы ў шпіталь клалі на абследванне. Якое абследванне? Што, іх раздзяліць хтось возьмецца? Каб мяне з імі там не было, ні памыцца бедным, ні апрануцца... Хамуйлы лупяцца, пальцамі паказваюць, каб ім пальцы тыя павыкручвала...

Я старалася не глядзець на Дашку з Любкай.

– Чакайце... Хіба спадчыннік, Віталь Корвус, тут ні разу не з’яўляўся? Ён мой муж... Знік сем год таму... Мацей, пакажы!

Айцішнік паслухмяна ўлучыў планшэт і адкрыў на экране выяву Корвуса. Пакуль цёткі вывучалі аблічча доўгавалосага маладога чалавека з фанабэрыстым ротам і вясёлымі зялёнымі вачыма, я працягвала ліхаманкавую прамову.

– Калі ласка... Мне не дом трэба, мне хоць што пачуць пра Віталя трэба! Бачылі вы яго? Высокі такі... Калісь насіў доўгія чорныя валасы... А можа, нядаўна хтось заходзіў? Падобны да яго, толькі з паголенай галавой і рудой барадой?

Мусіць, у маім голасе дастаткова адчувалася хвалявання, таму што сястра Маруся адказала больш лагодна:

– Пасля смерці Люцыяна Станіслававіча хто тут ні швэндаў... Можа, і твой доўгавалосы быў. Хату апячатвалі... Потым пячаткі зрывалі... Пераварнулі ўсё. Доктар жа вучоны быў. Кніжкі пісаў.

Твар старой прасвятлеў ад успамінаў пра Корвусава сваяка.

– Мог вар’ята нармальным зрабіць – размовамі ды зёлкамі. Такіх вылечваў, ад якіх усе дактары іншыя адмаўляліся... Нават з-за мяжы да яго прыязджалі. А ён грошай не браў. Усё жыццё ў тубдыспансеры... Намеснікам дырэктара... У цэнтр колькі разоў звалі – не паехаў. Любу і Дашу выратаваў.

Сіямскія блізнючкі, каб маглі, захівалі б галовамі. Левая, больш рашучая Даша, пацвердзіла:

– Каб не доктар, мы б у бальніцы памерлі. Як два качаны капусты, згнілі б. Ён нас і гаварыць навучыў, і свет бачыць.

Правая сястра, Люба, нясмела працягнула мне назад планшэт, з якога ўсміхаўся Віталь. “Сярэднія” рукі сясцёр былі кароткія, недаразвітыя, бо плечы ж зросліся, мне ледзь удалося здушыць дрыготку агіды пры поглядзе на бледныя пальчыкі без пазногцяў, што трымалі Корвусаў гаджэт.

– Мы табе, Маруся, не казалі, але тут хтось бываў, дакладна. Калі пасля бальніцы вярталіся, рэчы паперасунуты, пыл павыціраны.

Сястра Маруся захвалявалася.

– Знікла што?

Люба вінавата скасавурылася на сваю палову.

– Наадварот... Гэта Дашка заўважыла. Кніг прыбавілася, сшыткаў у кабінеце.

У шыбы між тым зноў лупянуў дождж, як у шаманскі бубен. Апошні аўтобус на Мінск сышоў... І гэта была выдатная падстава застацца нанач. Вядома, я збіралася адшукаць хоць штось пра Корвуса... Майго, вядома. Ну і пра старога даведацца. Мацею было ўжо ўсё адно, што воля, што няволя.

Сёстры павесялелі, калі я запэўніла: выганяць іх ніхто не стане, жыць збіраюся ў сваёй кватэры ў Мінску. Сіямскія блізняты паведамілі, што на гэтую ноч пяройдуць назад да сястры, каб гаспадарам не замінаць. Цётка Маруся нават дэкляравала пакарміць вячэрай... А, яшчэ мне падалося,

што ўсе трое неяк дзіўна ў мяне ўглядаліся. Вышуквалі ў спадчынніцы падабенства з гаспадаром дома, ці што?

А для начлегу цалкам падыдзе кабінет таямнічага доктара: там і зручная канапа, абцягнутая чорнай патрэсканай скурай, і раскладное крэсла.

У прапахлай зёлкамі і старымі газетамі хаце, куды мяне занесла, як пацерку з разарваных караляў у выёміну падлогі, я прытулілася плячом да чалавека побач і адчайна захацела, каб гэта быў хтось іншы. І каб ён меў прозвішча Корвус.

## Раздзел чацвёрты. ПУШЧАНСКІ ПРЫТУЛАК

Сайт "Пад знакам Урабораса".
Назва фанфіка: Ордэн захавальнікаў.
Фандом: арыджынал.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: у працэсе.
Рэйтынг: NC-17.
Катэгорыя: гет.
Аўтар: Grjaznyj ubljudok.
Бета: шукаю.
Папярэджанні: асабліва жорсткія сцэны.
Анатацыя: Ты думаў, што ты на дне, але нехта пастукаўся знізу.

Каментары: *Racional*. Аўтар занадта заглыбляецца ў нацыяналізм.

*Тор Магутны*. Згодны, на лекцыях па сучбелліце надакучыла гэтая байда пра замкі, крывічоў ды рыцарскія іржавыя мячы. Аўтар, пішы лепш пра "Вайну тронаў".

*Fljor Delakur*. Ubljudok, калі пазначаеш у шапцы гет, у тэксце павінна быць каханне. Пакуль ніводнага вартага героя для рамантычнай лініі не бачу, нейкія ўсе пакоцаныя. Хіба што гэтага пабітага біёлага зробіш падобным да прафесара Снэйпа. Тады я ўсё дарую:)

## Раздзел 2

Грае лера...

Тужлівы пранізлівы голас, нібы трохі надтрэснуты ад старасці.

Павольна, быццам наматваючы нітку твайго лёсу, круціцца ручка, нацёртая да бляску далонямі лірнікаў...

У каралеўскім войску тры палкі стаяць,
У першым палку ды конікі іржуць,
У другім палку ды малайцы пяюць,
У трэцім палку ды шабелькі звіняць.

Гэта ж яшчэ да вайны... У дзяцінстве... Менская Сляпянка. Бацька павёў слухаць апошняга лірніка, забытага богам і ўладамі сляпога старэчу. У хаце з зялёнымі разьблёнымі аканіцамі пахне сушанымі яблыкамі, сонца прасяваецца скрозь выцінанкі на шыбах, рассцілаецца па нефарбаванай драўлянай падлозе сляпучымі вітражамі... Ля абвіслых сівых вусоў музыкі шыецца надакучлівая муха, быццам хоча першай перахапіць словы песні.

...Ой вазьміце ж Байду да й звяжыце,
На гак рэбрам перачапіце.
Вісіць Байда ні дзень, ні дзень, ні два,
Ні адну ночку, ні гадзіначку.

Гук ліры, ці як называлі яе даўней, леры ўсё гучней. Сонечныя вітражы гаснуць, згушчаецца цемра, так, што здаецца, яе можна пакратаць, зачэрпнуць даланёй. Лера ў тае цемры гудзе сурмамі нябёснага суда... Але не заглушае разважліва-сумных слоў:

– Слухай, сынку, голас народа свайго. Запамінай. Не засталося больш на Беларусі лернікаў, Люцыянка. І батлейшчыкаў няма. І пры цары забаранялі, і пры новай уладзе. Усё, што змушае народ асэнсоўваць сваё права на ўласнае імя, гісторыю і асабістую прастору, у імперыях лічыцца шкодным.

У памяці ўсплывае працяг размовы, які адбыўся праз колькі гадоў...

– Памятаеш, як мы хадзілі да лірніка, як ты быў малы? Вось і да ўкраінскіх бандурыстаў дабраліся, сыне. У Харкаве склікалі іх на з’езд. Самых лепшых, галасістых, памятлівых... Ну, паспявалі тыя хорам Шаўчэнку... Паабмяркоўвалі асаблівасці старажытных балад... А потым з’явіліся ў зале тэатра, дзе адбываўся з’езд, людзі ў форме, загналі бандурыстаў у вагоны, адвезлі трохі ад горада дый пастралялі. Граюць цяпер разам з нашымі лірнікамі ў нябёсным аркестры.

І батлейку бацька вадзіў яго глядзець, крадма ад мачыхі, якая аніяк, вядома, не ўхваляла “нацдэмаўскія перажыткі” бацькі. Не для таго яна, пралетарка, супрацоўніца камісарыята, уратавала яго калісь ад растрэлу, прыняла разам з сынам, каб цяпер зноў за буржуазнымі нацыяналістамі і польскімі шпіёнамі крочыў.

Батлейку ўдалося паглядзець ажно ў Прылуках. Сам батлеечнік памёр, і ў запыленым, аблупленым вертэпе, знятым з гарышча, вадзіла лялькі і гаварыла на розныя галасы ягоная дачка, звычайная вясковая кабета ў паркалёвай хустачцы. Згадзілася за два рублі і абяцанне таямніцы пацешыць таварыша доктара з сынам “цемрашальскай забавай”.

*...О Ірадзе, цару, магутны гасудару, пашкадуй мяне ды маіх дзетачак малых...*

Калі ў батлейцы памірае вялікі грэшнік, да яго прыходзіць Смерць з чорным кошыкам за спінай. Касою ш-шах – і галава грэшніка злятае з плеч... Але не зусім, павісае на нітачцы. Для таго, каб да наступнага спектакля лялька была зноў гатовая грашыць і памерці. Бедная лялечная Смерць – яе кошык мусіць заўсёды заставацца пустым...

А вось і наяве халоднае лязо дакранаецца да горла... Смерць, мусіць, падставіла пад тваю патыліцу чорны кошык. Вядома, марна ўцякаць ад яе касы, але столькі ўжо разоў яна чыркала побач, а ты ўхіляўся... Дык чаму б і цяпер не паспрабаваць патузацца яшчэ на мізэрнай сцэне сваёй батлейкі? Па вачах рэзанула святло, боль апёк падбароддзе...

– Люцыян Станіслававіч, ну вы проста напрошваецеся на той свет. Больш зручнага моманту ачуняць і прыдумаць не маглі, чым падчас галення, калі брытва ля горла. Так тузануліся, што я і прырэзаць магла...

Жаночы голас... У ім раздражненне... Насмешка... Прытоеная збянтэжанасць...

Павекі дрыжаць, расплюшчваюцца цяжка, як быццам расчыняеш заржавелыя вароты. Перад вачыма плаваюць сонечныя рыбы з вогненнымі хвастамі... Пакупова з пратуберанцаў святла вымалёўваецца аблічча, ад

якога чамусь адразу сэрца сціскаецца ад пачуцця віны. Тонкія бровы з яшчэ ледзь заўважнай зморшчынкай між імі, вочы зялёна-брунатныя – колер незвычайны, марскі і лясны, няспелыя арэхі і мокрыя марскія каменьчыкі... Белая скура, пяшчотныя рабацінкі на пераноссі, мядзяныя валасы схаваны пад белую шапачку. Бялюткі халат, на якім мсцяцца вогненныя спалохі. І лязо брытвы ў тонкіх моцных пальцах, паднятае ўверх, як антычная паэтка ў задуменні прыўзнімае стыло.

– З вяртаннем, Магістр!

Памяць, самая плыткая і таямнічая субстанцыя... Ну вось чаму зараз Мнемазіне не збіцца б з хады, не зламаць абзац на брукаванцы ягонага лёсу... Які б ён быў шчаслівы, каб забыўся на сваё мінулае, ператварыўся ва ўсмешлівага аптымістычнага ідыёта.

На жаль, у кінастужцы мінулага захаваўся кожны кадр... Фільм абрываўся ў кабінеце начальніка аддзела барацьбы з сабатажам.

– Дзе я? Колькі я...

Уласны голас спалохаў: не голас – карканне, зусім як у старога крумкача. Да вуснаў даткнулася халоднае шкло кубка.

– Піце... І не спрабуйце адразу ўскочыць, праваляліся вы ў трызненні месяц. Вы ў шпіталі. Інфекцыйная спецбальніца з закрытым рэжымам. У прастамоўі – лепразорый.

Ён заперхаўся, распырскваючы ваду... Ад істэрычнага смеху. Ажно скабы забалелі, відаць, у месцах пераломаў. Ле-пра-зо-рый... І з такім задавальненнем расцягнула гэтае слова... У ягонай колішняй вучаніцы, выдатніцы-разумніцы Яўгеніі Равіновіч раней не назіралася сарказму.

Суровы рушнік, прапахлы карболкай, хутка, нібыта з нейкай грэблівасцю, прайшоўся па твары, выціраючы рэшткі пены і кроў са свежай драпіны.

– Вас галіў санітар, Пятро Сымонавіч, але ў яго часам прыхоплівае сэрца... Я была на абходзе, я галоўны ўрач гэтай установы, Сымонавічу зрабілася кепска, ён і сунуў мне лязо... Людзей у нас катастрафічна не хапае.

Апраўдваецца... За што ёй так няёмка – за тое, што рабіла нявартую справу, галіла пацыента, як простая санітарка, за няўмелае сваё галенне ці за парушэнне нейкай мяжы блізкасці да яго, ката, здрадніка, вінаватага ў яе калецтве?

Даўно Люцыяна не галіла жанчына. Хаця Корвус ніяк не мог успрымаць былую вучаніцу, вачастую дзяўчынку, падобную да феі-мятлушкі, сталай жанчынай...

Яна яшчэ нешта пытаецца, здаецца, ці не баліць галава... Але столь з чорнай трэшчынай у выглядзе скандынаўскай руны, што прадвяшчае безвыходнае становішча, цямнее, хаваецца за дымам... Бацька ў палінялым фрэнчы задумліва пыхкае люлькай, гэта нельга, у яго сухоты. Але ён працягвае курыць і гаворыць, гаворыць, ціха, каб не чула мачыха...

Да твару дакранаецца нешта мокрае, халоднае... Рушнік.

– Люцыян Станіслававіч, вы так спалохаліся нашай бальніцы, што зноў страцілі прытомнасць?

Нават адценне крыўды ў голасе.

– Ведаеце, Яўгенія... – праклятая задышка, – калі аднаму прафесару, спецыялісту па рускай літаратуры... пасля рэвалюцыі прапанавалі з'ехаць з савецкай Расіі, ён адмовіўся... са словамі “Месца ўрача ў чумным бараку”.

Насцярога ў зялёна-брунатных вачах.

– Як вы можаце паўтараць словы ворага?

– Я ў лепразорыі. Чаго мне яшчэ баяцца?

Адвярнулася да вакна, за якім танклявая бярозка гайдаецца, нібыта адбіваецца ад калючага галля сасонкі-падлетка, што вырасла побач.

– Паверце, паўсюль знойдзецца чаго баяцца. Нават у яміне можна ўпасці.

Не, у гэтай стамлёна-строгай жанчыне няшмат ад наіўна-захопленай дзяўчынкі... Стараннямі і яго, Корвуса. Віна зноў абрынула сэрца, як з гары.

– Спадзяюся, што я ўсё-ткі не хворы на лепру... Удакладніце мой дыягназ, калега.

Сухія факты, сухі тон... Множныя пераломы рэбраў з флатацыяй... Паравертэбральная навакаінавая блакада... Пашкоджанне брушыны... Траўма забрушыннай прасторы... На шчасце, без разрываў. Не, несцероідныя прэпараты я не прызначала... Не спрачайцеся, вы цяпер больш тэарэтык, а я – практык. Пеніцылін – так, уводзілі.

Як быццам усё гэта яго, Корвуса, не тычыцца, не ў яго пабіта, зламана, зраслося, а ў нейкага абстрактнага пацыента.

За вакном усё махала лапамі маладзенькая вясёлая сасна і абурана дрыжэла бярозка. Пастараль з прысмакам карболкі. А на пальцы ў доктара Равіновіч востра блішчэў заручальны пярсцёнак.

– Прабачце, Яўгенія, а як вы самі сюды...

– Пра гэта пасля.

Жэнька (ён не мог у думках назваць яе іначай) рашуча ўзнялася з зэдліка, сунуўшы рукі ў кішэні белага халата, нібыта каб сагрэць.

– Я ж не пытаюся ў вас, хто такая Мірачка, і чаму вы ўвесь час прасілі ў яе прабачэння, калі трызнілі.

Такімі бязлітаснымі могуць быць толькі дактары і жанчыны, якім самім балюча.

– Дарэчы, пра лепразорый я трохі перабольшыла, – відаць, пабачыўшы, як ён зблажэў ад згадкі пра сваю горкую таямніцу, Жэнька загаварыла больш мягка. – Цяпер тут усяго адзін хворы на праказу. Больш туберкулёзнікаў. Увогуле тут цэлая калекцыя малавывучаных хвароб. Хутка пабачыце самі... Я змясціла вас у ізалятары адміністратыўнага корпуса, так што тут нічога не падчэпіце. Толькі, Люцыян Станіслававіч... – яна крыху запнулася, – Папрашу вас асабліва не распытвацца, не лезці да людзей. У нас кожны такое пражыў – аўтарам прыгодніцкіх раманаў у начных жахах не снілася. І не спрабуйце звязацца з, так бы мовіць, знешнім светам. Урэшце, калі мы рызыкуем, хаваючы вас, маем права разлічваць хоць на нейкую ўдзячнасць.

За вакном залівалася аўсянка звычайная. Меланхалічны, нескладаны напеў. Зень, зень, зень... І напрыканцы, быццам крык гора, высокая нота...

– Я не буду ўцякаць, я не вар'ят.

Тое, што з-за яго рызыкуюць, гучала непрыемна... Значыць, на яго завялі справу. Зноў. Але распытаць далей не ўдалося. Дзверы спалохана грукнулі, шырокі, як старасвецкі рыдван, мужчына з кароткімі чорна-сівымі валасамі і грубаватым тварам, здавалася, сваёй прысутнасцю адразу паменшыў пакой. Шэрыя калючыя вочы зірнулі на пацыента з грэблівай непрыязнасцю.

– Яўгенія Міхайлаўна, у Саколкі зноў кровацячэнне.

– Іду.

Сяброўка Ордэна захавальнікаў нават не азірнулася на пацыента.

Корвус неслухмянай рукой правёў па падбароддзі, намацаў свежы шнар, нібыта знак вяртання да жыцця, калючае шчэцце... Жэнька ўсё-ткі не дагаліла яго.

Аўсянка зноў сумна заценькала. Людзі калісь верылі, што калі над калоніяй пракажоных ідзе снег, ён робіцца ружовага колеру. Можа, і аўсянка тут не зеленкаватая, а з чырвонымі ці ружовымі пер'ямі? Каб верыў у містыку – сказаў бы, недарэмна калісьці раскапаў з Ордэнам захавальнікаў сярэднявечнае пасяленне ізгояў, адгукнулася тая бронзавая бразготка.

Ён не любіў заставацца бездапаможным. Як перавернуты на спіну жук – з усяе моцы шкрэбся, адштурхоўваўся ад пляскатай паверхні смерці, абы не выглядаць жаласна, смешна, не хрумснуць пад чужым абцасам, склаўшы лапкі... Хоць якая розніца таму, хто растопча жамяру, колькі ў яе заставалася годнасці? У наступнае абуджэнне ён пастараўся даўжэй застацца ў прытомнасці.

Прысесці, падпёршы неслухмянае цела падушкамі.

Узяць у руку лыжку, цяжкую, як вясло.

Без дапамогі справіць фізіялагічныя патрэбы.

Пазнаёміцца са сваім цырульнікам, змрочным Пятром Сымонавічам – той не вельмі быў падобны да санітара, хутчэй да старога воя, моцна кульгаў і адмоўчваўся. Шваркаў анучай па нефарбаванай падлозе палаты, размерана і абыякава, нібыта размячаў месца для магілаў. А вось і знаёмыя хуткія крокі на калідоры. Жэнька... Прабачце, выконваючая абавязкі галоўнага ўрача спецбальніцы Яўгенія Міхайлаўна Равіновіч. Нават змрочнае аблічча санітара прасвятлела, як пабачыў начальніцу.

– А вы нібыта і не выпадкова тут апынуліся, Магістр! – голас звонкі, ні следу колішняй сарамяжлівасці. – Шпіталь знаходзіцца непадалёк ад Старавежска, у былым маёнтку Корвусаў-Дзякловічаў у Волатавай пушчы. Ці не вашы продкі?

Яўгенія закрыла яшчэ даваенны бухгалтарскі гросбух, які выкарыстоўвала для запісаў падчас абходаў хворых, і запытальна-насцярожана ўтаропілася зялёна-брунатным позіркам у аблічча былога настаўніка. Корвус спадзяваўся, што выглядае не страшней за Гуінплена – нос, прынамсі, склалі дастаткова ўдала.

– Не ведаю. Бацька да рэвалюцыі працаваў звычайным павятовым урачом, маці вучыла дзяцей у вясковай школе. Хаця яны і праўда... з былых. Арыстакраты. Але ў бацькоў дэмакратычныя перакананні.

Як жа ён гэта ненавідзеў – зноў і зноў апраўдвацца за не тое паходжанне. Дзякуй Богу, што ўдалося не ўзненавідзець родных бацькоў за гэткі "даважак" у выглядзе няправільнай біяграфіі. Бо ўсялякае давялося бачыць. Адзін сукамернік аб сцены біўся, пазногці абдзіраў, праклінаючы ўласных продкаў да сёмага калена за тое, што мелі сядзібу ды шляхецкія карані... Хаця быў той бядак пасля допытаў не зусім адэкватны.

І Яўгеніі не надта спадабаліся вінаватыя мармытанні Магістра.

– Дарэмна вы ракаецеся такога сваяцтва. Як казала бабця, паглядзіся ў ваду, якога ты роду. Тутэйшыя Корвусы былі людзьмі... неардынарнымі, так скажам. Яшчэ ў васямнаццатым стагоддзі ўладальнік маёнтка, Жыгамонт Корвус, зладзіў тут лякарню, а ягоная жонка практыкавала як акушэрка. Прымалі ўсіх, багатых, бедных, грошай не бралі. Зразумела, вучонага пана лічылі ведзьмаком, пра што і па сёння ў навакольных вёсках вам распавядуць. Здабыў жабер-траву, нячысціка Фарона ў кішэні насіў у выглядзе залатой яшчаркі, гадзюкам ды жабам загадваў. А жонка ягоная, пані Люцында, сапраўдная гаёўка.

– Хто, прабачце? – разгубіўся Люцыян.

– Мясцовая міфалагічная істота, – усміхнулася Жэнька ценем былой гарэзнай усмешкі. – Гаёўкі – прыгажуні, што жывуць, адпаведна, у гаі. Зімой абрастаюць белай поўсцю, адзін твар відзён. Летам... хм... ліняюць. Вам было б цікава для вашых доследаў над беднымі жывёлкамі.

А сказала з непрафесійным асуджэннем... Акадэміку Паўлаву, мусіць, вочы выдрапала б за скалечаных сабачак.

– Да гаёвак хадзілі лячыцца – яны маглі загаіць любую рану, ацаліць нат смяротную хваробу. Вось і пані Люцында Корвус нібыта з-за гаёўскага паходжання доктаркай добрай была, і мужа навучыла, які яе аднойчы ў лесе высачыў ды злавіў. Не ўяўляеце, як нам надакучылі тутэйшыя забабоны. Здаралася, адмаўляліся заставацца на лячэнне, маўляў, праклятае месца.

Дзесь за вакном грукаталі калёсцы, мерна стукала сякера. І раптам загарлаў певень, такі самотны на гэтай выспе пасярод лесу.

– Праўда, паданне пра жабер-траву і рэцэпты ад смяротных хваробаў маюць нейкую глебу, – задумліва прамовіла Яўгенія. – Корвусы-Дзякловічы тут дэндрарый заснавалі, батанічны сад з рэдкімі лекавымі раслінамі.

Гэта ўжо цікава, не старыя байкі...

– І што адметнага расце?

– Няма каму асабліва батанікай займацца. Шмат перабудавана, парушана, дзе якія экзатычныя зёлкі засталіся, не ведаю. Будзе імпэт – паходзіце, паглядзіце...

Але хадзіць ён пакуль што мог толькі па сваёй палаце, трымаючыся за сцены, як старац за кавеньку. Добра Рыгор Самусь папрацаваў...

І пра гэта не пагаварыць было нельга. Калі Магістр камсамольска-блюзнерскага ордэна нарэшце змог выйсці на вуліцу і бяссіла плюхнуўся проста на бетонны ганак, відовішча абкружаных калючым дротам шэрых будынкаў на фоне змрочных сосбаў падалося яму мілым ды натхняльным, быццам усплылі з нетраў вадзяных запаветны востраў Авалон альбо Кер-Іс старажытнай Армарыкі. Толькі з электрычнасцю, якую забяспечвала дынама-машына, што гула, як гняздо гіганцкіх чмялёў, у бетонным будане.

Нарэшце можна было хоць здаля пабачыць насельнікаў шпіталя. Нізенькая кабета ў белым халаце, па-качынаму перавальваючыся, штурхае перад сабой вазок з захутаным у клятчастую коўдру чалавекам-абрубкам. Ля аднапавярховага корпуса, з-пад аблезлай тынкоўкі якога паказвалася старасвецкая чырвоная цэгла, застыла, пагойдваючыся, фігура ў ватніку паўзверх паласатай піжамы. Твар тубыльца прыкрывала марлевая павязка. Чаго чалавек з павязкай чакаў? Куды ўглядаўся?

Доктар Рабіновіч моўчкі прысела з другога краю ганка, як мага наводдаль, але не ўзялася выгаворваць, што хворы парушыў распарадак, не дачакаўся яе ў палаце. Ды яшчэ без ваганняў падклала пад сябе, каб не сядзець на халодным бетоне, гросбух для медаглядаў. Корвус першым парушыў маўчанне.

– Вы ж з-за хваробы Самуся ўцяклі сюды, Яўгенія, так? Баюся адгадаць – сталі ахвярай ягоных прыступаў?

Жэнька нейкі час працягвала вывучаць уплыў пагойдвання сосбаў на хмарнасць беларускага неба.

– Вы ж не адчэпіцеся, праўда? Так, адгадалі. Але адразу засвойце – Рыгор не вінаваты!

Яна выгукнула гэта ваяўніча, быццам Жана д'Арк суддзям, што не ведзьма.

– Я ж яго не віню, – паспешліва запэўніў Корвус. – Я сустракаўся з такімі наступствамі траўмаў... Правалы ў памяці... Хворы раптам засяроджваецца на нейкім фрагменце мінулага, самым балючым, які можа апраўдаць агрэсію, і – раптоўны гнеў... Пасля прыступу часта нічога не памятае. Такое нават у некаторых рымскіх імператараў зафіксавана – а мы дзівімся, якія бессардэчныя злачынцы яны былі. Але цяпер такіх хворых звычайна трымаюць пад наглядам, ізалююць, не дапускаюць нервовага напружання...

Жэнька раптам горка засмяялася, абхінуўшы сябе рукамі.

– “Пад наглядам”... Ды начальства хвароба Рыгорава цалкам задавальняе! Ім патрэбна, каб ад адной згадкі пра бязлітаснага Касталома злачынцы сціналіся. Ягонае ўменне дапытваць у прыклад ставяць! Самы высокі працэнт раскрыцця спраў! А хвароба прагрэсуе... Самае гнюснае, калегі добра вывучылі, як можна ўвесці Касталома ў патрэбны стан. І карыстаюцца, як Шчаўкунком, якому засоўваюць між сківіцаў арэх за арэхам. Я аднаго не разумею, чаму Малгося так легкадумна адправіла вас да Рыгора!

Корвус збянтэжана памаўчаў, падняў каўнер сіняга фланэлевага халата – скупеча-чэрвень пільна ашчаджаў цяпло са сваіх зялёных скрыняў.

– Гэта я вінаваты. Прасіў, настойваў... Урэшце, усё магло абысціся як найлепш. Мы... даволі плённа гаварылі, пакуль я не згадаў, што мог бы яго вылечыць...

– Праўда маглі б?

Жэнька недаверліва зірнула ляснымі вачыма на былога настаўніка.

– Палепшыць становішча ва ўсялякім выпадку мог бы, – цвёрда запэўніў Корвус. – Мы спыніліся за крок да стварэння новых лекаў. Крыўдна, што ўсё так ляснулася... І зноў мая віна. Счапіўся са старой бальшавічкай Лепяшынскай, быццам не ведаў, што глупства – паталогія невыпраўная. У кабінеце Самуся таксама не зважыў на пачатак прыступу... Неўрапатолаг называецца. Пакуль у зубы не атрымаў, не ўсвядоміў, наколькі ўсё... сур’ёзна. Прабачце, Яўгенія, што нагадваю. Я ж памятаю, як вы яшчэ ў школе... трапятліва ставіліся да Рыгора.

– Я і цяпер кахаю яго, – рудыя валасы Жэнькі неслухмяна выбіваліся з-пад белай шапачкі. – Толькі, мабыць, па-іншаму. І, каб не вяртацца да размовы, патлумачу ўсё. Рыгор пачаў збіваць мяне, калі ўзначаліў свой аддзел. Напачатку яшчэ мог стрымацца, прыйсці да розуму пасля першых жа маіх крыкаў, ці калі вадой яму ў твар плескану. Плакаў, жахаўся сам сябе, ногі мне цалаваў. Піў бром, валяр’янку, усё, што я прапісвала. Доўгі час прыступаў я не бачыла. Дома не бачыла. Але з працы ён прыходзіў прапахлы крывёй, спацелы, з такімі вачыма, што не хацела ні аб чым пытацца. Баялася пачуць адказы. Не я першая так учыняла: калі ні аб чым не пытаешся, можна рабіць выгляд, што ўсё нармальна. А потым ён збіў мяне сур’ёзна. Я была цяжарная. І страціла дзіця.

Дыханне Яўгеніі на хвілю перарвалася.

– Я спалохалася. Упершыню я спалохалася свайго мужа так, што дасюль не магу на той страх забыцца. Мяне выратавала Малгося. Змагла арганізаваць прызначэнне сюды так, каб пра гэта ведалі ўсяго некалькі чалавек. У яе ёсць... сябар у міністэрстве аховы здароўя.

Жэнька выпрабавальна зірнула на Корвуса, той толькі пацінуў плячыма: ён заўсёды падазраваў, што Ромку Цвічку ў адносінах з уладнай Маргарытай нічога не свяціла.

– У іх сапраўднае каханне. Проста той чалавек жанаты. Ён камуніст, пры пасадзе... Так што хаваюць свае стасункі і чакаюць... Я разумею, што маю мала досведу, каб узначальваць такую складаную ўстанову, зрэшты, проста "выконваю абавязкі". Але самавіты ўрач сюды і не паедзе. Пра гэты шпіталь увогуле мала хто ведае. Ён засакрэчаны.

– Чаму?

Яўгенія пакрывіла вусны з горкай іроніяй.

– Бо не варта савецкім людзям, якія толькі ачуньваюць пасля вайны, паказваць, што побач усё яшчэ існуюць такія страшныя, легендарныя хваробы, як лепра. Савецкая медыцына ж яе перамагла. Усё павінна быць прыгожа, як у фільме "Кубанскія казакі". Вы памятаеце таемны ўказ 1948-га наконт інвалідаў?

Люцыян апусціў галаву з пасівелымі скронямі.

– Я не хацеў верыць... Думаў, злыя жарты...

– Шмат гнюснасцяў адбываецца проста таму, што людзі лічаць за лепшае не верыць у іх, – прагучала жорстка. – А камусь прыйшло ж у галаву, што калекі псуюць карцінку пераможнага жыцця. Сабраць з вуліц інвалідаў-жабракоў, у большасці – франтавікоў, што не маюць сваякоў, і саслаць на Валаам... Нібыта каб забяспечыць прыстойнае лячэнне і догляд... Я ж бачыла, як іх грузілі ў вагоны. Як мяхі шпурлялі... Вунь таго, што на вазку, – Жэнька паказала на чалавека-абрубка, загорнутага ў клятчастую коўдру, якога санітарка ўжо завозіла ў аднапавярховы корпус, – таксама мусілі саслаць. У нас іх дзесяць. Выхапілі проста з вакзала, з-пад ачаплення... Пётр Сымонавіч ухітрыўся. Там апынуўся ягоны сябар, з якім разам былі ў штрафной роце. Медалёў на парадак больш, чым жывой радні... Змог неяк падаць вестку, куды трапіў... А Сымонавіч арганізаваў яшчэ некалькі аднапалчан-штрафнікоў – яны ж бядовыя, хто выжыў, нічога не баяцца. Да таго ж большасць – крымінальнікі... Калі пабачылі, як франтавікі пакалечаныя на мокрым асфальце ляжаць покатам, чакаючы цягніка, а вакол міліцыянты... Карацей, учынілі з аховай, як калісь з фрыцамі, толькі што не забівалі. І выхапілі не толькі знаёмца, але й каго змаглі панесці, хто, вядома, сам папрасіўся. Дарэчы, трое з тых вызваліцеляў ахоўваюць наш шпіталь. Таксама Малгося дапамагла аформіць, каб старонніх не прыслалі.

З дзвярэй корпуса, куды завезлі бязрукага, зноў выехаў вазок. На гэты раз у ім сядзеў сівы, як дзьмухавец, інвалід з адной, левай, рукой і адной, правай, нагой – быццам жорсткія дзеці гуляліся з лялькай... Вазок штурхаў Пятро Сымонавіч – Корвус пазнаў яго здалёк па кульганні і каржакаватай паставе. На нейкае імгненне Сымонавіч павярнуў галаву ў бок ганка, на якім сядзелі дактарыца і пацыент у сіняй піжаме, але адразу рэзка адвярнуўся.

– Ён чамусь мяне ненавідзіць, – прызнаўся Люцыян.

– Наш санітар мала каго шануе, – сумна азвалася Жэнька. – Жыццё навучыла не давяраць. Ён да вайны сядзеў на Салаўках. Не прызнаецца, за што. Там, казаў, на Сякірнай гары ёсць такая драўляная лесвіца ў трыста шэсцьдзесят пяць прыступак. Асабліва зацятых зэкаў скідвалі адтуль, прывязаўшы ў мяшку да бервяна. Сымонавіч сцвярджае, ён адзіны, хто выжыў. А пасля трапіў у спецыяльную псіхіятрычную бальніцу.

– Ясна, – уздыхнуў Корвус. – Я ведаю пра СПБ, так званую спецдурку... Таго-сяго з тамтэйшых дактароў я не хацеў бы называць калегамі...

– Выбачайце, Магістр, але Сымонавіч вырашыў, што вы з тае ж пароды...

Позірк Корвуса спыніўся на брунатным пацёртым туфліку доктаркі, з шэрым шнурочкам, завязаным на банцік. Ніхто не здагадаецца, што на назе ў гэтым туфліку не хапае двух пальцаў...

– Ваш Сымонавіч не надта памыляецца. За мной хапае гнюсных учынкаў.

Жэнька сярдзіта страсянула галавой, страпянуліся лёгкія рудыя пасмачкі, што выбіліся з-пад шапкі.

– Калі вы зноў з-за таго здарэння, калі мяне схапілі... Ну колькі можна! Апускаеце вочы, пазбягаеце размоў... Вы ж дарослы чалавек, Люцыян! Хопіць сябе дакараць. Вы рабілі, што вымагалі абставіны!

Корвус суха засмяяўся.

– Пра абставіны – самае лепшае апраўданне для любога гнюса. Ведаеце, Яўгенія, я ж мог адразу зладзіць вам уцёкі, было некалькі зручных момантаў... Але не стаў – бо давялося б сябе выкрыць, збягаць з вамі. Вы маглі пазбегнуць жаху тае начы, калі ледзь не замерзлі насмерць... Я фактычна ахвяраваў вамі, як найменш каштоўным жаўнерам.

Жэнька хацела запярэчыць, але Люцыян перарваў яе абурэнне:

– І гэта не першы выпадак у маім жыцці, калі з-за мяне гінуць. Вы зацікавіліся, хто такая Мірачка, якой я трызніў... Міраслава, мая жонка. Таленавітая даследчыца. Мы працавалі ў адной лабараторыі. І разам былі арыштаваныя.

– Ну, пытацца “за што?” у такіх выпадках я перастала даўно... – горка зазначыла загадчыца.

У пальцах Корвуса апынуўся незаўважна адарваны ад піжамы гузік.

– Я ніколі не зразумею, чаму відавочнае глупства і шэрасць заўсёды падаюцца больш пераканаўчымі, чым талент. Чаму старэнькага, геніяльнага Івана Пятровіча Паўлава, светлая яму памяць, у дыспутах прадстаўляе ягоны нелюбімы, нахабны і бяздарны вучань. Чаму са зграі такіх недалёкіх выяўляюцца “ісцінныя паўлаўцы”, якія ганьбяць і ператвараюць у ворагаў народу “няісцінных”, “антыпаўлаўцаў”. А тыя “анты” проста працягваюць далей пошукі настаўніка, нешта абвяргаючы, удакладняючы... – Корвус ажно задыхаўся ад гневу. – Любую слушную ідэю на тле некрытычнага захаплення можна развіць да абсурду. “Паўлаўская псіхалогія”, “паўлаўская біялогія”... Усё багацце псіхічнай дзейнасці цяпер мусяць тлумачыць паводле ўмоўных рэфлексаў. Замест таленавіцейшага акадэміка Рубінштэйна ставяць малапісьменную персону, якая горда заяўляе, што яе галоўны ўклад у навуку – “цягнула Рубінштэйна з балота ідэалізму”. Аграбіёлаг Лысенка, шчыры дурань, прызначаецца апосталам усяе біялогіі. Як вы ставіцеся да “лячэння сном” па методзе Паўлава?

– Чаму б і не? Здаровы сон – найлепшыя лекі... — паціснула плячыма Жэнька.

Корвус сунуў няшчасны гузік у кішэню і задумліва крануў два птушкападобныя шнары, што прыкрашалі яго шчаку: адзін даўно пабялеў, другі наліты свежай барвай.

– Здаровы сон... А як расцэньваць, калі дзяцей, немаўлятаў, каб з дапамогай сна пабольш аздараўляліся, загадалі ў прытулках трымаць на барбітуратах? І яны ператвараліся ў алігафрэнаў? Наша лабараторыя сабрала матэрыялы, кіраўнік выступіў з дакладам пра шкоднасць вульгарызацыі “методыкі сну”... Арыштавалі нас усіх. Паколькі мы карысталіся некаторымі знаходкамі нямецкіх даследчыкаў, абвясцілі нямецкімі шпіёнамі. Зацята

шукалі ў лабараторыі засланага агента, вярбоўшчыка. Так што Самусь сваімі прыёмамі мяне не здзівіў.

Корвус зноў пацёр упрыгожаную шнарамі шчаку і прыгорбіўся, як ягоны цёзка-крумкач.

– Мне пашанцавала. Сярод маіх пацыентаў быў адзін кантужаны камісар. З удзячнасці за ацаленне вырашыў выратаваць. І ўсю віну звалілі на Міраславу. Дачку менскага немца-чыгуначніка, якая нібыта падманам ажаніла мяне з сабой, каб займацца сабатажам у савецкай навуцы. Мне пасля расказалі, што Мірачка ўсё пацвердзіла, свядома ўзяла віну. Дзеля майго ратунку. Каб я тады ведаў, што адбываецца... Але я толькі ўпарта адмаўляў свае грахі. Не ведаў, не чуў... Выходзіла, як бы пацвярджаў словы жонкі. І яе расстралялі. А мяне вызвалілі. Умоўна. Пад нагляд. З забаронай займацца даследваннямі.

Корвус выплёўваў словы, як пякуча-горкія ягады.

– А мы гадалі, чаму наш біёлаг вядзе не біялагічны, а археалагічны гурток?

Жэнька няўважна круціла ў пальцах выпадкова сарваную сцяблінку, якая яшчэ нядаўна была знітаваная каранямі з зямлёй і жыццём.

– Так, я не мог, не меў права займацца хоць чымсьці падобным да сваіх ранейшых навуковых доследаў, – глуха прамовіў Люцыян, апусціўшы галаву. – Паціху вар'яцеў ад гора і пачуцця віны. Гурток – гэта ў памяць пра бацьку... Ён, калі быў гімназістам, хадзіў разам з сябрамі да менскага антыквара Генрыка Татура, на Гандлёвую ўзбярэжную. Столькі ўспамінаў пра тое, што як бы і я там пабываў. Дом як музей. Рыцарскія латы, старадрукі, абразы, пажаўцелыя мапы... Татур, лысы, барадаты, падобны да прарока Елісея, апантана збіраў усё, што тычыцца гісторыі Беларусі. Астатняе прадаваў і, калі кліент быў фанабэрыстым арыстакратам, спецыяльна цану накручваў. Князь Антоні Радзівіл так і не змог набыць у яго даспехі свайго продка, зазлаваў...

– Ваш Татур, мусіць, сам багаты быў? – трохі пагардліва папыталася Жэнька.

– У даўгах сядзеў, як лыжка ў крупах, – пасміхнуўся Магістр. – Бацька часта ўспамінаў размовы, якія там, сярод старажытнай зброі і кніг, вяліся. Пра Вялікае Княства Літоўскае, пра сапраўдную гісторыю ліцвінаў – так у летапісах называлі беларусаў, і што трэба збіраць скарбы народнай культуры...

– Тое гаварылі нам і вы, Магістр, – Яўгенія змахнула са шчакі нахабнага камара. – Ніколі не забуду сваю першую археалагічную знаходку – двузубы відэлец шаснаццатага стагоддзя...

– А ў мяне – алавяны гузік ад мундзіра напалеонаўскага жаўнера, – прызнаўся нібыта вінавата Люцыян. – На мінскім замчышчы знайшоў. Бацькаў сябра-гісторык там у студэнтаў практыку вёў. А бацька яшчэ да рэвалюцыі дапамагаў Татуру, калі той даследваў курганы ў Лошыцы. Падобна, там існаваў горад, ля старажытнага тракту між Полацкам і Кіевам. Але пан, які валодаў той зямлёй, гэткі класічны феадальны самадур, Татура разам з памагатымі са сваіх уладанняў вытурыў, гарадзішча загадаў заараць і пабудаваў там сабе летні маёнтак.

– І чаму ж вы не пайшлі вучыцца на гісторыка?

– Ну, бацька таксама не быў служкам Кліа, звычайны тэрапеўт... І мачыха страшэнна не любіла гэтай... нацдэмаўшчыны. Татка ж быў знаёмы яшчэ з часоў гімназіі са многімі... ворагамі. Аляксандрам Уласавым, акадэмікам

Ігнатоўскім, Вацлавам Ластоўскім...

Корвус прыкусіў свой доўгі язык... Хіба пра такое згадваюць, нават і ў лепразорыі, у размове з камсамолкай, савецкім урачом? Паспеў хоць уставіць слова “ворагі”...

– Мая маці аднойчы згадвала пра Ластоўскага, – няўважна прагаварыла Жэнька, нібыта адчуўшы насцярогу Магістра. – Прыходзіў да студэнтаў педфака. І мой бацька, здаецца, яго вельмі шанаваў... Але я так і не ведаю прозвішча бацькі. Хіба здабыць спісы матчыных аднакурснікаў, паглядзець, каго арыштавалі, ды вылічыць...

Зязюля закувала так трывожна, нібыта пералічвала загінулыя душы. Яўгенія ўзнялася, падняла гросбух.

– Уставайце, пацыент, з халоднага бетону. Не хапала вам да кучы яшчэ і прастатыту.

Корвус як мог паспешліва ўзняўся, пастараўшыся не паказаць, што ў вачах трохі пацямнела ад напругі.

– Вы казалі пра недахоп персаналу. Я буду дапамагаць. Вы ж памятаеце, я не такі ўжо... тэарэтык.

Яўгенія абмерыла ягоную постаць непрыемна-ацэньваючым позіркам.

– Хочаце лаўраў Францыска Асізскага? Памятаеце, распавядалі пра яго, калі мы адкапалі ў лесе лепразорый. Адмаўляцца ад дапамогі не буду. Хто ў нас толькі не працуе...

Кіўнула галавой у бок корпуса з чырвонай цэглы. Хворага з марлевай павязкай, акуратна ўзяўшы пад локаць, вёў да дзвярэй высокі чалавек у белым халаце, худы, як пуга.

– Аддзяленне сухотнікаў... Санітар – ксёндз, айцец Станіслаў. Што глядзіце так здзіўлена? Патрапіў сюды як пацыент, зарабіў туберкулёз у фашысцкім канцлагеры. Тут і застаўся. Як, зрэшты, і вы, недабіты неўролаг-антыпаўлавец.

– Толькі не кажыце, што ў вас і праваслаўны бацюшка маецца, і рабін... – Люцыян хацеў пажартаваць і зноў памыліўся. Гожы твар Жэнькі, з малочна-белай скурай з пяшчотнымі рабацінкамі, быў сур’ёзны, нават суровы.

– І поп ёсць. Серафім Мікалаевіч. Займаецца цяпліцамі. І рабін. Ногі паралізаваныя, але чалавек вясёлы і мудры, загадвае бібліятэкай. Цудам засталіся кнігі яшчэ ад ранейшых гаспадароў, на нямецкай, польскай, лаціне... А Саламон Барысавіч, мусіць, дзясяткі два моў ведае.

Корвус разгублена маўчаў.

– Ну што, вы настолькі ваяўнічы атэіст, што для вас непрымальна працаваць разам са служыцелямі культу ці лекаваць іх? – нахмурылася Яўгенія. Люцыян схамянуўся і пастараўся прамовіць як мага больш шчыра:

– Пры чым тут гэта... Я ж урач. І... кожны чалавек мае права на свае перакананні, няхай і памылковыя... калі яны не шкодзяць іншаму чалавеку.

– Добра, – Жэнька ўсё яшчэ глядзела пільна, як мытнік на магчыма фаршыраваную кантрабандай валізку. – Але ў нас усё-ткі трохі... замкнёны свет, і тут ёсць некаторыя правілы.

– Не дурань, разумею, – усміхнуўся Люцыян. – Калі здраджу – скідайце мяне з карабля проста ў хвалі!

– Скінем, не сумнявайцеся.

Доктар не жартавала.

– Толькі мы называем свой шпіталь не караблём... Гэта Прытулак. Апошні Прытулак.

## Раздзел пяты. ЯК ХАКНУЦЬ СМЕРЦЬ

Чах! Чах! Уаў!

Зялёныя монстрыкі так і разляталіся на маніторы. Мацей спрытна мітусіўся пальцамі па тач-экране, нібыта кібер-павук сплятаў кібер-сетку для кібер-панкаў. Вось дарослы ж чалавек...

Хаця галандскі філосаф Хёйзінга сцвярджаў, што ўсё на свеце насамрэч гульня – ваенныя дзеянні, рэвалюцыйныя перавароты, любошчы... пардон, каханне... А таксама страхаванне, судовая справа, філасофія і сшытак, куды запісваюць час твайго з'яўлення на працы. І ў часы перамен, клятыя яшчэ Канфуцыем, менавіта ў гульні – апірышча і апошні прытулак. А ў грамадстве выспявае пуэрацэнтрызм – культ моладзі, з усімі хунвэйбінамі і гітлерюгендамі, з прызнанем прапорцый падлеткавага цела ідэалам. Прыпомніліся радкі Бродскага, якога я даволі доўга не разумела:

Взор их неуловим.
Жилистый сорванец,
уличный херувим,
впившийся в леденец,
из рогатки в саду
целясь по воробью
не думает – "попаду",
но убежден – "убью.

Мой *homo ludens* раскроіў міфрылавым кляйморам апошняга рагатага пасланца звар'яцелага прынца Шэагарата і перайшоў на іншы ўзровень.

– Салома, можа, паглядзіш, што за ўпоратасць у гэтым сшытку? Проста рукапіс Войніча...

Мацей з неахвотай адарваўся ад планшэта, які дзіка глядзеўся на старасвецкім круглым століку, накрытым вязаным карункавым абрусам, побач са знямелым настольным гадзіннікам у выглядзе стылізаванага скафандра. Пастамент гадзінніка ўпрыгожвала пазалочаная пластыкавая ракета з таксама пазалочаным хвастом выхлапных газаў. *"Люцыяну Станіслававічу Корвусу ад калектыву супрацоўнікаў на дзень народзінаў з вялікай павагай. 1961 г."* Агульны сшытак фармату А4 у пашарпанай чорнай дэрмацінавай вокладцы, вуглы яе завярнуліся наверх, як архітэктурныя дэталі ў стылі барока, расхінуўся... І вочы пасняховага айцішніка Саламярэцкага пашырыліся, бы ў ягонага ўлюбёнага маляванага прынца Шэагарата.

– Ніфігос! Войніч адпачывае...

Калісь палітэмігрант Войніч, муж той самай Этэль Ліліян, што стварыла рэвалюцыянера-неўрастэніка Авадня, у якога і я ў тынэйджэраўскам узросце была закаханая, набыў у Ватыкане трактат. Напісаны на пергаменце на неіснуючай мове, упрыгожаны падрабязнымі каляровымі малюначкамі раслін, сузор'яў, істотаў, збудаванняў і пейзажаў, як вы здагадваецеся, таксама неіснуючых. Магчыма, пятнаццатае стагоддзе, магчыма, пазнейшая падробка, але "з тых часоў бянтэжыць розумы людзей і робатаў". Прынамсі, Салома згадваў, што ў юнацтве біўся над расшыфроўкай. Нават хакнуў для гэтага нейкія суперзасакрэчаныя базы дадзеных, дзе – не прызнаўся. Спадзяюся, не ў Ватыкане.

Сшытак прафесара Корвуса таксама прабіваў на сіндром пошукаў глыбіннага сэнсу. Чорны атрамант – не аўтаматычная самапіска, а пяро. Нейкія абракадабраўскія формулы, падобныя да рунаў. Замалёўкі каля-

ровым атрамантам незразумелых раслінаў, сімвалічныя малюнкі, даволі прафесійныя – дзве далані, мужчынская і жаночая, дакранаюцца адна да адной, у зрэнцы жаночага вока люструюцца зоры... І ўсё з такой стылізацыяй пад сярэднявечны трактат, што мімаволі ўспаміналася мая ўлюбёная кампутарная гульня “Аблівіён”. Там магі і алхімікі па такіх трактатах узровень падвышалі.

Ды яшчэ са старонкі на старонку пералятаў смешны крумкач, на патыліцы якога тапырыліся задзірыста пёры.

Саламярэцкі сцвердзіў, што гэта не ангельская мова. Нават літары толькі на першы погляд нагадваюць лацініцу. Загнаў частку тэксту ў гуглаўскі перакладчык... І кампутарны тлумач спёкся.

– Можа, доктар вельмі кепска ведаў мову, на якой пісаў, таму перакладнік і не апазнае словы? – з надзеяй спыталася я.

– Можа... — мармытнуў Салома, а вочы блішчаць, захапіўся айцішнік загадкай. – А можа, гэта штосьці кшталту эсперанта...

Ну ўсё... Фанфік закруціўся, бо з’явіўся таямнічы артэфакт. Навуковыя даследаванні дзіўнага доктара...

– Хутчэй за ўсё, канечне, містыфікацыя...

Мацей сфоткаў на планшэт яшчэ адну старонку, на якой намаляваная зялёным атрамантам расліна ваяўніча раскідвала ўбакі разлапістыя лісты, як гандлярка, што не падпускае басоту да свайго спакуснага тавару... Хаця на што там глядзець? Кветачкі стварэння божага былі дробненькія, прымітыўнага дызайну, і наўрад ці вызначаліся яркім колерам.

– Надзівачыў дзед... Ці з глузду з’ехаў. У тых, хто мае справу з псіхамі, абавязкова такое здараецца.

– Не думаю...

Якія жартачкі, якое вар’яцтва? З фотаздымка на серванце, трохі павярнуўшы галаву, быццам каб упэўніцца, што за плячыма няма пагоні, пазіраў чамусьці вельмі мне знаёмы бялявы мужчына гадоў сарака. Пінжак, белая кашуля, гальштук, акуратная стрыжка з доўгай грыўкай, адкінутай з высокага ілба. Нос, відаць, перабіты, трохі крыва зросся, тонкія ўпартыя вусны... А галоўнае – вочы. Вельмі светлыя, аж празрыстыя, трохі запалыя, ад чаго позірк здаецца яшчэ больш пранізлівым. Так мог бы глядзець Вялікі Інквізітар. Спакойна, важка, цяжка... І вой як не хочацца варушыць гэты белы попел спакою, бо як жахне адтуль полымя... Бо нават ад гэтага погляду з фотаздымка ў мяне чамусь абрынаецца сэрца.

Не, Люцыян Станіслававіч Корвус аніяк не выглядаў жартаўніком. Ні на фотаздымку, ні ў арыджынале. Так, мне было вусцішна і ад таго, што паспела прачытаць яшчэ адзін раздзел опуса Ублюдка. І не магла лічыць гэта простым супадзеннем. Я, вядома, не ведаю, наколькі арыджынал праўдзівы, але пакуль усё супадала. Імя героя, яго прафесія, нават месца дзеяння...

І яшчэ... Колькі б я ні ўглядалася ў партрэт доктара, ніякага падабенства з маім Корвусам нат на макавінку не заўважала. Хутчэй Мацейка быў да яго нечым падобны... І не, я не паказвала Салому гісторыю пра Апошні Прытулак. Можа, таму, што фанфікшн для яго – тое самае, што фан-клуб Стаса Міхайлава, дзе кабеты вышываюць на падушках азызлае аблічча куміра, і на вуснах з мулінэ трапеча “Озноб души моих голодных грез”.

Тут не фанфік і не квэст. За расшыфроўку сшыткаў правінцыйнага доктара мне дадатковае жыццё не дадуць, узровень магіі не павысяць. Было б што каштоўнае – даўно б хтось злапаў. Вунь цэлая паліца кнігамі

ды брашурамі застаўленая аўтарства Люцыяна Корвуса, значыць, нейкую вагу ў прафесіі меў, не веру, што архіў ягоны не перетрасалі. А што мне да той неўралогіі-псіхапаталогіі?

Я адвярнулася ад стоса сшыткаў на карункавым абрусе і рушыла да сакратэра, ніжнія шуфляды якога пакуль не абгледзела. Ну дзе ж хоць след Віталя!

З канвертаў вытрасаліся аркушыкі, спісаныя самымі рознымі почыркамі, чарнілам, алоўкам. “Дохтур пamажыце напрамілы бог ад сына ў бальніцы адмовіліся безнадзейны кажуць. Матку не пазнае сядзіць сабе на краваці ды хістаецца чарацінай аж страшна ды мыкае”, “Вы наша апошняя надзея, Люцыян Станіслававіч, не адмоўце”, “Няма слоў, каб выказаць нашу ўдзячнасць”...

Але было і іншае: “Доктар Корвус, вы – шарлатан, які ганьбіць савецкую навуку”.

На пальцах заставаўся папяровы пыл, нібыта пылок ад крылаў вялізных мёртвых матылёў. На самым дне шуфляды, асобна ад іншых, пажаўцелы канверт ад нейкага Станіслава Зыгмундавіча Саланевіча з Наўя з больш асабістым зместам.

“Дарагі Люцыян! Гасподзь даў табе дапытлівы светлы розум, я ўсведамляю, што ты ніколі не зможаш спыніцца на дарозе спазнання. Але далёка не ўсё, што чалавецтва можа прыдумаць у сваёй мітуслівай празе камфорту, вартае здзяйснення. Так, цялеснае здароўе – гэта важна... Але бясконца працягваць існаванне фізічнага цела, заміж духоўнага ўдасканалення? Якія пачвары ў выніку ўтворацца, Люцыяне! Гэта ўсё роўна, што штучна затрымліваць развіццё вусеня, не даючы яму ператварыцца ў кукалку, а пасля ў матыля. Людзі павінны хварэць і паміраць, баяцца і пераадольваць страх, кахаць і пакутваць ад кахання. Без болю не бывае ні жыцця, ні шчасця. Згадзіся, жыццё існуе толькі ў працэсе памірання, штохвіліннага, штосекунднага. Чалавек застаецца чалавекам, толькі калі ён здольны напоўніцу адчуваць, перажываць, а, галоўнае, суперажываць, а гэта немагчыма без увесьчаснай барацьбы звера і анёла ў душы, без усведамлення, што кожнае імгненне можа быць апошнім, і тады нічога не выправіш. Ты “вяртаеш да розуму” “няшчасных” хворых... Але паспяховы падонак у маіх вачах і ў вачах Госпада бясконца дурней за таго Яначку з Прытулка, які ведаў дваццаць словаў, затое аддана даглядаў ляжачых з Жоўтага корпуса. А які той Яначка быў шчаслівы, калі хтось яму ўсміхаўся! Хіба ягонае шчасце горшай якасці, чым у таго, хто абараніў кандыдацкую дысертацыю? Прабач за маралізатарства, якога ты так не любіш. Але мне б не хацелася, каб страта блізкага чалавека змусіла цябе загразнуць у бескарысных пошуках”.

1989 год, подпіс – “Твой медбрат”.

Не, не галема дзед прыдумваў, а філасофскі камень здабываў... Прышпільна. У тыя гады – і такі “рэлігійны” ліст... Слова “Прытулак” з вялікай літары зачапіла стрэмкай. Гэтак называлі лепразорый у фанфіку Ублюдка...

Толькі калі выйшла на двор, падвяселены веснавым сонцам, адчула, наколькі мяне за апошнія гадзіны працяў пах адсырэлай адзежы і старых папер дома на вуліцы Энгельса. Нават бялізна, якую нам учора вечарам вылучыла сястра Маруся, патыхала цвіллю і пограбам. А раніцай яшчэ далучыўся водар трохі прыгарэлай у печы бульбачкі...

Аўтэнтыка...

І прыбіральня ў Корвусавым маёнтку была аўтэнтычнай, канструкцыя – "шпакоўня". Хавалася далікатна ў густым кустоўі, ісці трэба было па вузкіх прысадах (а галінкі бэзу ўсё-ткі абселі зялёныя лісцікі, падобныя да дзюбак зялёных качанят).

На дзвярах аўтэнтычнага збудавання, збітага з пашарэлых дошак, прыляпіўся трапічным матылём рэкламны аркушык.

Рэкламавалася іспанская сантэхніка.

Унітаз, белы, фаянсавы, такі самы, які Віталь меркаваў прывезці са свайго апошняга падарожжа.

Нічога сабе знакі ў гэтым квэсце... Эстэтыка панка.

Я дрыжачай рукой сарвала рэкламку і заазіралася, нават адчайнае "Віталь!" зляцела з вуснаў. Не, у прыбіральні ён мяне не чакаў над сакраментальнай дзіркай. І не тлумачце мне, што прыляпілі гэтую рэкламу без усялякага падтэксту, ну хіба паздзеквацца з тубыльцаў, што ніколі не мелі фаянсавага сябра. Я дакладна ведала: гэта Віталь. Ён хоча, каб я здагадалася, што ён жывы. Што за мной сочыць. Калісь ён паўтараў: "Мы творчыя людзі. Для нас норма пачынаецца там, дзе заканчваецца звычайнае".

Самотная чорная птушка наўскос перакрэсліла наіўна-блакітнае неба, нібыта намячаючы шлях хуткага апакаліпсісу. І распалавініцца неба пад апошнім лязом, і выплюхнецца з разрэзу на грэшную зямлю распаленая плынь. "Слепаўрон". Герб з крумкачом называўся Слепаўрон. Адкуль ведаю? Калісь падпрацоўвала ў газеце, дзе трэба было ілюстраваць калонку пра гербы беларускай шляхты.

Чорны птах з пярсцёнкам у дзюбе.

Здаецца, ён спрабаваў стырыць той пярсцёнак у венгерскага караля Маціюша. Маціюш нахабніка прыбіў. І – каралеўская логіка! – дадаў да свайго герба, на якім ужо красавалася срэбная падкова. Можа, ад таксама ўласнаручна прыбітага каня.

Гербам "Слепаўрон" карыстаўся Шыман Касакоўскі, апошні вялікі гетман літоўскі. Цікавы персанаж... Напачатку апантана біўся за незалежнасць Рэчы Паспалітай супраць расейцаў і саюзных з імі войскаў караля Станіслава Панятоўскага. Сварыўся з магнатамі, што хацелі самі ачоліць супраціў. Потым, пасля паразы Барскай канфедэрацыі, памэнчыўшыся па Еўропах, папрасіўся ў расійскую армію. І вярнуўся на чале расійскага войска ўціхамірваць былых паплечнікаў. Паўстанцы Касцюшкі павесілі яго ў Вільні першым са здрайцаў. Проста ў жоўтым шлафроку, узяўшы з ложка.

Не надта спрыяльны герб – крылаты злодзей з чужым золатам, з герба перабежчыка...

Дом Корвусаў, магчымых уладальнікаў герба "Слепаўрон", сустрэў звыклым пахам цвілі, старой паперы і зёлак. Не паспела зачыніць за сабой дзверы...

– Вы не маеце права нішчыць нашу гісторыю! Манкурты!

Дробная цётачка ў лінялай кофце, – востры кірпаты нос, маленькія надзьмутыя вусны нібыта ўвесь час прамаўляюць скептычнае "Ну...", – наскоквала на мяне неяк па-вераб'інаму. Акуляры ў масіўнай цёмнай аправе давяршалі вобраз "у бібліятэцы мусіць быць ціха".

– Прабачце, але я не разумею...

Ненавіджу пачынаць фразу з гэтага слабога "прабачце", але ўвесь час само вылятае ў складаных сітуацыях.

– Усе вы, як што, нібыта не разумееце! – цётачка, аднак, трохі сцішылася,

можа, пачуўшы беларускую мову ад чужаніцы-захопніцы. Парфума яе пахла падвялымі астрамі. Гэтак праз тыдзень пасля пачатку навучальнага года пахне на сметніку ля школы, куды адправіліся падораныя настаўнікам букеты.

– Рукапісы Люцыяна Станіслававіча маюць гістарычную і навуковую каштоўнасць! Кожная паперка! Таму ўсё, што палічыце непатрэбным, аддайце ў наш краязнаўчы школьны музей!

Непатрэбным я мусіла палічыць увесь архіў, па перакананнях госці. Та-ак, плёткі ў мястэчку распаўсюджваліся з хуткасцю сеціўнага відэа з коцікам.

Цётачка перастала махаць рукамі і выцерла дрыготкімі пальцамі спацелы лоб. Цяпер яна сапраўды нагадвала дробную шэрую птушачку, якая нападае на больш груваcткага ворага, з усяе моцы распушыўшы пер'е, каб здавацца большай.

– Марыя Сцяпанаўна не дапускала нас да архіваў Люцыяна Станіслававіча, казала – забаронена, не мае права... Але ж вы спадчынніца, вы можаце!

– Яна пакуль яшчэ нічога не можа, дакументы не афармленыя! – сярдзіта азваўся Мацей з-за майго пляча – я мімаволі адхінулася назад, каб спінай даткнуцца да свайго абаронцы, які тут жа супакаяльна пагладзіў мяне па плячы. – Не варта нападаць на чалавека, першы раз пабачыўшы!

Мой верны паладын. Толькі вось дракон, ад якога мяне належала бараніць, выглядаў несамавіта. Хаця... такія бедныя кволыя цётачкі, валодаючы тэхнікай напісання скаргаў, не аднаго рэдактара да мікраінфаркту давялі.

– Вы не ўсведамляеце каштоўнасці гэтага архіву! Ніхто не ўсведамляе! А гэта ж Леанарда да Вінчы беларускі быў! – захаплялася цётачка. – Колькі старавежцаў з таго свету павяртаў! Людзі да яго ішлі, як да святой крыніцы. А навукоўцы-бюракраты не верылі, заціралі. Люцыян Станіслававіч аднавіў старажытныя рэцэпты. Сам расказваў, калі я яго ў школу да сваіх вучняў запрашала: можна з дапамогай адных зёлак змусіць мазгі працаваць на сто адсоткаў, спыніць працэсы старэння...

– Эліксір маладосці, значыць, доктар вынайшаў? – скептычна прагаварыў Мацей, і калі цётачка энергічна заківала, мы зусім недалікатна захіхікалі, намагаючыся не сарвацца на брутальны рогат. Справа ў тым, што пару месяцаў таму мы выпадкова натрапілі ў сеціве на ролік, які вучыў прыгатаванню эліксіра маладосці.

Гамеапатычнага.

Са здохлай жабы.

Прычым абавязкова памерлай ад старасці.

Аўтар роліка – у кадры паказваліся толькі ягоныя рукі, валасатыя і дужыя – браў квакуху-нябожчыцу, што мірна спачыла ў акварыуме ягонага сябра, і на вачах шаноўнай публікі перакручваў на фарш у старой мясарубцы. Неапетытнае месіва залівалася гарэлкай. Праз некалькі дзён бралася адна кропля і разбаўлялася ста кроплямі спірту. Потым пяць кропель спіртавога расчыння дадавалася да шклянкі вады... Пі такую шклянку раз на месяц і жыві вечна! Бо гамеапатыя заснаваная на тым, каб лекаваць падобнае падобным, а значыць, у арганізме, які памёр, так бы мовіць, ад натуральных прычын, абавязкова ўтрымліваецца таямнічы канцэнтрат старасці і смерці...

Як успомню жабу ў мясарубцы – фэ-э... Спадзяюся, эліксір доктара Корвуса прадугледжваў іншы рэцэпт.

Цётачка, пакрыўджаная нашым недаверам, запэўніла, што доктар меў справу толькі з зёлкамі. Вядома, рэдкімі, цудоўнымі, простым смяротным недаступнымі.

Язэп Драздовіч нумар два.

Згаданы легендарны мастак, які, дарэчы, жыў у адзін час з Корвусам, таксама маляваў неверагодныя расліны. Сцвярджаў, што рэгулярна вандруе ў думках і снах па іншых планетах. Убачанае старанна занатоўваў на палотнах і ў дзённіку. Свае сустрэчы з іншапланецянамі тлумачыў цікава. Маўляў, ён не ведае, ці ўбачаныя на Месяцы селяніды былі сапраўды тубыльцамі, ці нашчадкамі каланістаў Зямлі. Бо магчыма, відзежы прыходзяць з будучыні, калі палёты на Месяц стануць будзённымі. А пакуль "Я бачыў, загадзя бачыў, нашых зямлян – турыстаў, адведваючых нутро цырку Платона. Іх было дзве кампаніі – адна галубая, а другая чорна-шэрая".

Кажуць, Настрадамус быў гэткім жа візіянерам, праўда, яшчэ з дапамогай траўкі. "Я сяджу самотны ў таемным кабінеце, абапіраючыся на мядзяную падстаўку, язычок полымя выходзіць з самоты..." Бачыў нейкія карцінкі з будучыні, толькі апісаць толкам не мог. Метро, ядзерны выбух, кампутары, нью-ёркскія хмарачосы – з чым мог параўнаць? Адны драконы, каметы, караблі, мячы, жалезныя клеткі, вежы, горы...

Што ж, "А Бог заўжды даруе суцяшэнне сваім нябёсным птахам і зямным, што шчабяталі на яго каленях, не ведаючы весела аб ім"...

Між тым Мацею ўдалося супакоіць госцю абяцаннем – каштоўныя паперы не павыкідаем.

– Глядзіце ж... – буркатнула цётачка, папраўляючы вязаны ружовы берэт, які ад ваяўнічых наскокаў уладальніцы трохі быў ссунуўся набок. – А то перастрэліся з участковым ля школы, ён і кажа: "Мартынаўна, там у Корвусаў дом дзеўка сталічная прыехала, глядзі, каб сшыткі якія не павыкідала".

Вось дзіва... Хутчэй мусіў сам той мент заявіцца з праверкай, хто мы такія, а не дасылаць Мартынаўну ў ружовым берэце дзеля ўратавання экспанатаў, якія тут век нікому не патрэбныя былі...

Цётачка пакінула свой тэлефон-адрас на аркушыку з нататніка ў клетачку і восеньскі пах парфумы. Яна сапраўды аказалася бібліятэкаркай. Запрасіла заўтра на сустрэчу з мясцовай знакамітасцю, шаноўным паэтам, аўтарам зборніка "Край мой вазёрны" і лаўрэатам прэміі "Узор духапад'ёмнасці", ці неяк так...

Мы даелі прывезеныя з горада чыпсы са смакам цыбулі, запіваючы біякефірам з мясцовай крамы. Прафесар Корвус з фотаздымка няўхвальна пазіраў, як госці хрумсцелі напханым хіміяй фаст-фудам. Да аўтобуса яшчэ тры гадзіны. Заўтра панядзелак, мне ў метро, Салому – у ягоны офіс з бясплатнымі капучына і бельгійскім шакаладам і закаханай Марго.

Але хто б сумняваўся, што Мацей захоча забраць з сабой зашыфраваны рукапіс. Добра, мне не шкада. Толькі перад ад'ездам трэба паказаць сшытак насельнікам гэтага дома.

Даша і Люба сталіся ў апошнім па калідоры пакоі, на шырокім драўляным ложку з саматканай посцілкай, і штосьці спрытна вышывалі на доўгім палатне, нізка нахіліўшы галовы. І напявалі на два галасы... Ціхенька-ціхенька...

– Спявалі ўланы, дадому ідучы,
Дадому ідучы ды маршыруючы...
За імі ды войскам як мак, як мак цвіце,
За імі ды кулі
Як дождж, як дождж ідзе...

Паміж шыбай і гардзінай білася ў істэрыцы тлустая муха. Будзільнік на тумбачцы, заваленай markdown рознакаляровымі ніткамі, жорстка адстукваў секунды, нібыта маленькі бляшаны барабан ліліпуцкага войска гнаў у атаку.

Варта нам было зрабіць крок у пакой, блізнючкі перапынілі песню, страпянуліся і паспрабавалі захінуць вышыванне, ледзь не ляглі на яго.

– Гэта нельга паказваць! Асабліва мужчынам! – адчай плёскаўся ў няроўна пасаджаных вачах Дашы.

– Выйдзіце, калі ласка, а то нам наноў працу пачынаць! – Люба загароджвала працу рукою, быццам гнядзечка птушанятаў ад нахабнага тхара. Гэта выглядала так жаласна, што ў мяне аж горла перахапіла.

– Салома, выйдзі!

Калі Мацей, паціснуўшы плячыма, прычыніў за сабой дзверы, сёстры адразу ж паспакайнелі, выпрасталіся. Я падумала, можа, мая прысутнасць не такая ўжо недапушчальная, і наважылася затрымацца:

– Прабачце, а ўсё-ткі што вышываеце? Чаму нельга глядзець?

Сёстры пазіралі па-ранейшаму насцярожана, але пасля паўзы Даша ўсё ж адказала:

– Радзінны рушнік. Дапамога для парадзіх. Мужчынам і дзяўчатам, якія не чакалі дзіця, глядзець забаронена – святая рэч страціць моц.

Можна было гэтым задаволіцца і сысці... Мала мяне ў свой час мой Корвус павазіў па ўсялякіх экспедыцыях са зборам бабульчыных рушнікоў. Наглядзелася на пасажныя, аброчныя, на павівалы, завівалы, на рушнікі, на якія прымалі дзіця пры народзінах, якімі адорвалі павітуху, накрывалі немаўля падчас хросту, завязвалі маладой на правай руцэ, накрывалі нябожчыка... Афігець, якая памяць была ў прабабак, кожны рушнік адпаведна выткаць-вышыць. Але мне важная была любая дэталь у гэтай не маёй гульні.

Я глыбока ўздыхнула... Азірнулася на дзверы, за якімі дзесьці быў мой спадарожнік разам са сваім планшэтам і непатрэбнай вернасцю... І распавяла тое, пра што яшчэ нікому не гаварыла. Ні бацькам, ні сябрам, ні вам... І нават са сваёй памяці выкрасліла. Вытрасла, як насыпанае ў туфлік варагіняй бітае шкло.

– Я... чакала дзіця. Праўда. А потым мой муж загінуў, і я... ад перажыванняў...

Відаць, у маім перарваным голасе, у твары было штосьці такое, што сёстры паверылі, іх вочы напоўніліся слязьмі спачування, а рукі павольна разгарнулі выраб...

Рушнік быў вузкі, у дзве далані, і даўжэзны, метры са два. Нічога падобнага да звычайнага арнаменту. Маленькія фігуркі ў сярэднявечных строях...

– Жыццяпіс святой Маргарыты! – патлумачыла шэптам Люба, "левая сястра". – Святая Маргарыта заўсёды парадзіхам дапамагала!

– У Старавежску і навакольных вёсках без такога павоя ніхто не нараджаў, – пацвердзіла Даша. – Але мала іх засталося. Вось, копію робім з матчынага. Замовіла нам, упрасіла адна кабета харошая...

Я заўважыла на ложку згорнутую, пажаўцелую, месцамі ледзь не сатлелую тканіну... Так, гэта быў аўтэнтычны рушнік з вышытым жыццяпісам малавядомай мне святой. Мяркуючы па малюнках, святая была вялікай пакутніцай. І цвікі ў яе забівалі. І трызубцамі паролі. І нават цмок яе глытаў, а яна пасля з яго пашчы бесперашкодна выходзіла, трымаючы ў руках крыж. Ніткі, якімі крыж быў вышыты, не страцілі бляску. Не

выключана, што менавіта гэты эпізод са шчаслівым збаўленнем з чэрава страшыдлы і ўвязваўся ў сярэднявеччы з родамі...

Краі рушніка былі вышытыя кветачкамі. І мяне торкнула: гэта ж тая разлапістая расліна, якую намаляваў у сваім сшытку доктар Корвус!

– Магрэткі, – упэўнена патлумачыла Даша.

– Маргарыткі?

– Не, магрэткі!

Што ж, у кожнай мясцовасці свае назвы... Я асцярожна паднесла да вачэй стары рушнік: там-сям ля вышытых кветак бачыліся абарваныя ніткі і цёмныя плямы.

– А вось сабраныя магрэткі сюды і прышывалі, – Люба пяшчотна кранала пальцам з бледным пазногцем пажаўцелы рарытэт. – Павой абкручвалі парадзісе вакол жывата. А магрэткі на ім і вышываныя, і нашытыя, і палілі іх, каб дымам дыхала кабета, а яшчэ запарвалі, піць давалі. Толькі няма больш у лесе тых зёлак, звяліся.

Ці не быў настой з таямнічай кветачкі тым самым эліксірам маладосці, пра які казала ваяўнічая Мартынаўна? Трэба ж, які просты квэст... Расшыфруем нататкі вар'ята-вучонага, знойдзем цуд-зёлку, прыгатуем эліксір, атрымаем плюс тысячу да кармы, будзем жыць вечна і мець мільёны.

Стоп, а чаму гэта я раптам пачала ў думках казаць гэтае "мы" ды яшчэ планаваць светлую прышласць разам з Мацейкам – бо менавіта ён і меўся зараз на ўвазе? Я адчула сябе вінаватай, нібыта па дарозе за Граалем збочыла ў касметычную краму.

– Наша маці нас з гэтым павоем нараджала! – уздыхнула Даша. – А дапамагаў ёй Люцыян Станіслававіч. Без яго б...

Ясна, што без дасведчанага доктара такія роды дабром не скончацца.

А вось з чорным сшыткам атрымалася цікава... Абедзве сястры сцвярджалі, што сшытка гэтага ў доме раней не бачылі. Нібыта з'явіўся сам па сабе, калі вярнуліся апошні раз з бальніцы.

Калі я выйшла з пакоя, мне ўслед гучала ціхае:

– Ля галавы воран
Ды воран там крача...
У нагах ды ягоных
Усё сівы конь скача.

...Мяне ажаніла
Ды куля быстрая,
Мяне абвянчала
Ды шабля вострая.

Калі крумкач забівае хамелеона, дык з'ядае лаўровы ліст для ачышчэння. Гэта не трызненне, гэта Леанарда да Вінчы ў сваім "Бестыарыі" пісаў.

Я зірнула за вакно, падзеленае брудна-белай рамай на шэсць раўнюткіх квадратаў. У кожным крывілася пагардліва чужое беларускае мястэчка. Мсціцца, ці праўда, на слупе агароджы з'явілася яркая пляма?

Выскачыла на вуліцу, не абуўшы да канца красоўкі, змяўшы заднікі, адтоптваючы незавязаныя шнуркі... Яшчэ адна абвестка пра продаж іспанскай сантэхнікі. Але на гэты раз адрас крамы быў дапісаны ад рукі ярка-зялёным маркерам. Энгельса, 34. Зусім побач. Апошняя лічба мела прымаляваны хвост – тры стылізаваныя пёркі, і нагадвала птушку з вялізнай дзюбай.

Калі крумкач з’ядае хамелеона, навучаецца хавацца на самым відочным месцы.

Я ліхаманкава прыдумляла, па што я зараз – незадоўга да аўтобуса – магу зганяць у краму. Мы паспелі па прыездзе наведаць мясцовы пункт гандлю, набыць неабходныя спешчаным гараджанам для нечаканага начлегу рэчы, ад зубной пасты да аднаразовых пракладак (апошнія, вядома, для мяне).

Хачу пітны ёгурт “Актывіл”. Аж не магу без яго ехаць. І не трэба мяне праводзіць, не маленькая... Нікога сваім целаахоўнікам не наймала.

Мацей сумна глядзеў з ганка Корвусавага дома мне ўслед, трохі расплеценая фенечка звісала з яго рукі без кончыка мезенца, якой ён абапіраўся аб вушак дзвярэй, нібыта абарваны ланцуг кайданоў.

Я бегла, раз-пораз трапляючы красоўкамі ў лужыны з пяшчотным бензінавым небам. Ведаю, што мяне разглядалі – рэдкія мінакі, людзі за вокнамі дамоў, пасажыры сіняга “жыгуля” ў воспінах іржы. Можа, хтось па правінцыйным звычаі спрабаваў вітацца – гэта было дзесь паралельна. Свет набыў дакладныя рысы толькі ля крамы на Энгельса, 34, нібыта хтось нарэшце падкруціў акуляр у сапсутым цікаўнымі школьнікамі тэлескопе. Аднапавярховы брудна-жоўты дамок, закратаванае вакно, шыльда з юлёвым на белым “Светлана”. Дробнымі літарамі – “Промтовары”.

Крама была вузкай, бы карцэр для правінавачаных рэчаў. Вузкі стэлаж з абуткам – казачнае дрэва, аброслае гумовымі пантофлямі і чаравікамі. Побач вешалка, аблепленая шурпатымі майкамі фабрыкі “Світанак”. Танны парцалянавы посуд, бессаромна яркія пластыкавыя міскі, бензапіла, сенакасілка, лядоўня ў труне з рэдкіх негабляваных дошак, у празрыстым цэлафанавым саване. Белыя бліскучыя бакі лядоўні праглядалі між дошак, і хацелася правесці на гладкай дарожцы пальцам, рызыкуючы падчапіць стрэмку.

Я нічога не стала пытацца ў прадавачкі ў камізэльцы са штучнага чорнага футра, магчыма, той самай Святланы з шыльды. Цётка была паглынутая размовай з мужыком у паношаным брунатным плашчы і куртатым капелюшы, у якім можна ўявіць парыжскага вулічнага мастака. А я ўжо сама прыкмеціла за лядоўняй і шэрагам пральных машын, што здзіўлена лупілі адзінае вялізнае вока на несамавіты інтэр’ер, калідорчык, у якім паблісквалі пачэпленыя на сцены краны і серабрыстыя змеі душавых шлангаў. Прадавачка слізнула па мне абыякавым поглядам.

– Ды халера бяры гэтыя капейкі... З кашалька выслізваюць, як блохі. Дастаеш дваццаць капеек і доўга думаеш, ці гэта дзве тысячы на старыя, ці дзвесце рублёў...

Старавежцы лена лаялі наступствы дэнамінацыі. А я прасоўвалася між кранаў туды, дзе бялелі фаянсавыя артэфакты тэхнагеннай эпохі.

Дзверы ў канцы калідорчыка былі расчыненыя на абгароджаны задні двор крамы. За няйменнем месца туды выставілі частку грувасткага і няпсотнага тавару: чыгунныя ванны, стосы металачарапіцы ды яшчэ нейкія будаўнічыя штукі...

Я знерухомела на траве пасярод чыгунных ванн і звыродлівых гіпсавых гномаў. Іх крывава-чырвоныя ўсмешкі змушалі ўспомніць пра звязкі часнаку і асінавы кол. З шэрага неба зноў сеяўся амаль незаўважны дождж. І чаго я сюды прыпёрлася... За якім прывідам... Дурніца...

Хтосьці апусціў на мае плечы цяжкія рукі і прашаптаў на вуха – аж валасы на патыліцы заварушыліся ад гарачага дыхання:

– Ну, прывітанне, малая...

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ. З'ЯЎЛЕННЕ ЧЫРВОНАГА ДРАКОНА

Сайт "Пад знакам Урабораса".
Назва фанфіка: Ордэн захавальнікаў.
Фандом: арыджынал.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: у працэсе.
Рэйтынг: NC-17.
Катэгорыя: гет.
Аўтар: Grjaznyj ubljudok.
Бета: Kobaabba.
Папярэджанні: асабліва жорсткія сцэны.
Анатацыя: Ты думаў, што ты на дне, але нехта пастукаўся знізу.

Каментары: *Fljor Delakur*. Пакоцаны док не падобны да Снэйпа. Чытаць не буду(((

*Racional*. Аўтар відавочна мае няслабыя прэтэнзіі на падняцце глабальных праблем. Хто-небудзь, уключыце камінную сетку і перакіньце чувака кудысь на проза. ру. Сюды прыходзяць па рамантыку, чувак, ну ці паржаць.

*Тор Магутны*. Аўтар, сам падумай. Санітар голіць непрытомнага хворага. Веру. Заходзіць дактарыца. Не абы-хто – загадчыца шпіталю, хай і в.а. Санітару трэба адбегчыся, і ён вось так запанібрата суне сваёй галоўнай начальніцы брытву: дагалі, маўляў, за мяне, даражэнькая. І тая паслухмяна падпарадкоўваецца. Не веру. Твая бета мышэй не ловіць.

### Раздзел трэці

У антычнасці верылі, што кроў багоў цячэ з зямлі. Мусіць, за яе прымалі нафту. А яшчэ можна было ўторкнуць братаў нож у дрэва каля роднага дома, і калі пацячэ з-пад кары кроў – жывы братка, калі вада – згінуў на чужыне...

У пакоі, куды зазіраў Ромка, было шмат крыві – здавалася, нехта шчодра рассыпаў спелыя журавіны на светла-гарчычнай кафлевай плітцы падлогі ды патаптаўся па іх. Не тое, каб Ромка Цвічок баяўся, хто ж, пабачыўшы вайну, баіцца крыві... Але тут было ўсё неяк вусцішна і няёмка: стогне цяжарная кабета на кушэтцы, да яе агромністага жывата пад сінім байкавым халатам у цёмных плямах мімаволі прыцягваецца погляд. У барвовым рукі дактароў і іх халаты... А побач страшнае – крэсла-распорка, як для катавання, на ім змятая белая прасціна, і таксама ў крыві. Чаго папёрся неадкладна шукаць Жэньку, не пачакаў? Тут справы такія, кабечыя, забароненыя мужчынскаму воку...

Праўда, Жэнька, кінуўшы сярдзіты позірк на няпрошанага візіцёра, які застыў слупом у дзвярах, ужо адышла ад пацыенткі і моўчкі мыла рукі. Вада з грукатам білася ў бляшанае дно ўмывальніка, быццам залева шумела ў рынах.

– Доктар, а дзіцятка жыць будзе? Яно ж невінаватае, хто ягоны бацька...

Цяжарная павярнула збялелы твар – рысы тонкія, рахманыя – да другога ўрача, які паспеў вымыць рукі і засяроджана выціраў іх рушніком.

– У вас будзе двойня, Ганна Апанасаўна... Двайное шчасце. Дзеці – заўсёды шчасце, ад каго б ні нарадзіліся. Тут ніхто не нашкодзіць ні вам, ні ім.

Такі спакойны, ветлівы голас – хоць замест валяр'янкі прымай ад нерваў. Корвус! Трэба ж, які і быў. Размераныя рухі, выпрастаная постаць, трохі запалыя светлыя, аж празрыстыя вочы... Толькі відаць, што нос ламаны, і не раз.

Ромка выскачыў у калідор, прыціснуўся спінай да халоднай сцяны, працягваючы праз прыадчыненыя дзверы чуць надрыўныя стогны жанчыны.

– Дзіцятка не вінаватае... Яго бацька не немец нават, ён з Румыніі аднекуль... Маладзенечкі... І нікога не забіваў. Музыкант ён... Дудачкі такія рабіў зграбненькія з кары, а граў, як Лель...

Нешта ў кабінеце агідна забразгала, мусіць, страшныя жалезныя інструменты. Жэнька ціха перагаворвалася з Люцыянам, лацінскія тэрміны ператварылі гаворку ў неразборлівае булькатанне ручаіны. А потым Корвус зноў загаварыў сваім пераконваючым голасам:

– Яшчэ пару тыдняў трэба пачакаць, Ганна, і можна рабіць кесарава. Заснеце, а прачнецеся – каля вас ужо дзеці. І рушнік гэты чароўны абавязкова каля вас будзе, і кветачкі...

Пад ціхія падзякі Люцыян, ужо ў іншым, чыстым, халаце з накрухмаленымі складачкамі, выйшаў на калідор, трымаючы пад пахай пажаўцелую звернутую тканіну. Падобна, ледзь утрымаўся, каб не патрэсці Ромку, як восеньскую ігрушу:

– Вы ж у шпіталі, Раман, як можна вось так, без халата, урывацца ў аперацыйную... А калі б мы не скончылі маніпуляцыі? У нас вельмі складаны выпадак.

Але Цвічок адразу выгукнуў абуранае:

– Дык яна, ваша пацыентка, ад фашыста дзіця чакае? І вы вакол яе таньчыце?

Корвус узяў былога вучня цвёрда за перадплечча, адцягнуў далей па калідоры, загаварыў ціха і строга:

– Кожнае дзіця мае права на жыццё! Нават калі з'явілася ад гвалтаўніка – з яго можа вырасці цудоўны чалавек. А тут зусім іншы выпадак, і не нам судзіць. Ганна – са Старавежска, суседка Яўгеніі. Яе мужа, чыгуначніка Ахрэма Саколку, немцы павесілі за сувязь з партызанамі.

– Ну, пра Саколку чуў... І яе бачыў у горадзе... – буркатнуў Ромка. – Тым жахлівей, муж – герой, а яна...

– А яна з немаўлём апынулася ў канцлагеры, – змрочна перабіў Люцыян. – Як яны выжылі – цуд... Каб не хуткае наступленне нашых... А ў мінулым годзе брыгаду ваеннапалонных прыслалі ў Старавежск адбудоўваць завод. Вось і... пазнаёмілася наша ўдава з тым музыкам-Марыкам, пашкадавала. Калі гараджане даведаліся пра яе цяжарнасць, зацкавалі. А аднойчы падпільнавалі нейкія падонкі і збілі, цэлячы ў жывот. Небарака пакінула дачку ў сваякоў. Сюды дайшла сама, сцякаючы крывёй. І мае права на прытулак, як усе мы.

Цвічок хмыкнуў, ні ў чым не перакана照ы.

– Дарэчы, пра прытулак. Я ж не проста так прыпёрся, у кабінет ламіўся... Мяне Малгося прыслала. Такія справы робяцца...

– Раман, не варта расказваць тут... Давайце выйдзем на вуліцу, дачакаемся Яўгеніі.

Мяркуючы па ўсім, Магістру цяпер паўсюль мсціліся віжы.

На вуліцы было ціха, як у зачараваным царстве. Быццам тут спыняліся ўсе гадзіннікі, люстэркі нічога не люстравалі, а словы ў кнігах пераварач-

валіся, як вусені, і распаўзаліся па старонках. Лес гайдаў на вершалінах неба, а можа, спрабаваў яго прабіць сваімі вострымі дзідамі... Пахла хлёркай і печанай бульбай. Вакол павольна пamiралі людзі – бо чалавек памірае заўсёды, ад моманту нараджэння.

Цвічок праводзіў вачыма таўсманую кабету ў белай хустцы, якая па асфальтавай дарожцы нетаропка несла вядро з чырвоным надпісам “Кампот”. Палову твару кабеты хаваў агідны юлёвы нараст. Быццам прыліпла луста сырога мяса.

Магістр і Ромка прыселі на лаўку з негабляваных шэрых дошак пад кустом адцвілага бэзу. Люцыян беражліва, быццам снарад, паклаў побач з сабой тканевы скрутак.

– А што гэта ў вас за палатно? – няўважна папытаўся Ромка, намацваючы ў кішэні папяросы. Пакуль урачыха не прыйшла, трэба паспець пакурыць. Жэнька шкодная, адбярэ цыгарэту, палохаючы сухотамі.

– Гэта рытуальны рушнік, – сур’ёзна прамовіў Магістр. – Лічыцца, што дапамагае парадзіхам. Ганна Саколка з сабой прынесла.

– І вы дазваляеце такое цемрашальства? – пагардліва пыхнуў дымам “беламорыны” Ромка.

– А чаму не? – Люцыян падставіў худы твар сонцу і стамлёна прымружыў вочы. – Падчас фізічных пакутаў чалавеку можа дапамагчы вера хоць бы і ў чароўны гузік... Калі прабабчын рушнік заменіць лыжку брому – хай будзе.

– Вера... – пакрывіўся Цвічок. – Як поп гаворыце...

Люцыян скасавурыўся на былога вучня.

– А памятаеце, Раман, як я ў партызанскім лагеры вам рану зашываў? Цяжка было выцерпець боль?

Цвічок ганарыста выпрастаў спіну:

– Камсамольцы болю не баяцца! Падумаеш, асколак са сцягна дасталі... Вы ж тады і абязбольваючае мне ўкалолі, так што я амаль нічога і не адчуваў, так, быццам пчала ўкусіла.

– І што, вы памятаеце ўсе падрабязнасці аперацыі? Як я, напрыклад, вам тое абязбольваючае даваў? – працягваў допыт Корвус.

– Памятаю, канечне, я ж без прытомнасці валіцца не збіраўся! – дым ад Ромкавай пралетарскай “беламорыны” звіваўся ў арыстакратычныя вензелі. – Вы доўга пыталіся, ці адчуваю, як нямее ступак, пасля галёнка, пасля сцягно, ды яшчэ патрабавалі, каб, адказваючы, глядзеў вам у вочы. Спадзяваліся на мане падлавіць, ці што?

– Ну і лякарства добра зняло боль?

Ромка раздражнёна паціснуў плячыма.

– Я ж сказаў...

– Справа ў тым, Раман, – гэтак жа роўна працягваў Люцыян, – што тады ніякага абязбольваючага ў мяне не было. Медыкаментаў амаль не засталося, параненых шмат... Так што я проста змусіў вас, як змушаў іншых пацыентаў, паверыць, што боль знік.

Цвічок ажно забыўся на цыгарэту.

– Ну як жа... У мяне ж праўда тады нага знямела, як аднялася, хоць рэж... Гіпноз, ці што? Як у Вольфа Месінга? Мне загадчык склада нашага расказваў, бачыў хлапчуком яшчэ да рэвалюцыі, як малады Месінг выступаў у Гомлі і пратыкаў сабе спіцай шыю.

– Скажам так, у мяне навуковая методыка ўнушэння... – ухіліста адказаў

Корвус. – І прыдумана яна не сёння. Каб ты, Цвічок, любіў Шэкспіра, я б працытаваў: "Ёсць шмат на свеце, дружа мой Гарацыё..." Але штось мне падказвае, што з Вільямам і ягоным дацкім прынцам ты знаёмы не блізка, таму паўтару ўлюбёнае выслоўе майго бацькі: "Цуд — гэта тая рэальнасць, якая адкрываецца нам хутчэй альбо ў большым аб'ёме, чым мы здольныя зразумець і прымірыць са сваімі ведамі".

Корвус асцярожна разгарнуў рушнік – вузкі, у дзве далані, і даўжэзны, як зімовая песня:

– Бачыш, тут, акрамя вышыўкі, сухія кветкі прымацаваныя?

Ромка, раздражнёны нечаканай лекцыяй з антысавецкімі дацкімі прынцамі, недаверліва крануў пальцам шорсткае сцябло незразумелай расліны.

– Якаясь цудоўная папараць-кветка альбо разрыў-трава?

Корвус хмыкнуў, успамінаючы, відаць, уласныя квяцістыя расповеды Ордэну захавальнікаў пра спамянутыя зёлкі.

– Не чароўная, а дужа рэдкая. Тутэйшы гаспадар, Жыгімонт Корвус-Дзякловіч, учыніў у маёнтку дэндрарый і сад лекавых раслін. Цікавы персанаж, дарэчы... Такі... прагрэсіст і дысідэнт свайго часу. Гэта – адна з зёлак, здабытых ім у вядомага батаніка Станіслава Юндзіла. Яна расце толькі на Далёкім Усходзе. У шпіталі ёсць медбрат, ён былы ксёндз. Не крывіся, таварыш ваяўнічы атэіст, ён добры чалавек, фашысты яго за адмову супрацоўнічаць у лагер смерці кінулі... Дык вось, ён распавёў, што на рушніку вышыты жыццяпіс святой Маргарыты, апякункі парадзіх. А кветачка называецца чырвоны дракон: святая Маргарыта перамагла цмока, які яе праглынуў, таму вось такая кветка ёй адпавядае. Расліна – моцны рэлаксант. Корвус-Дзякловіч і ягоная жонка-лекарка гэта добра ведалі і ўжывалі ў лячэнні. А я ў адной старой кнізе – тут захаваліся рэшткі бібліятэкі Дзякловічаў – знайшоў звесткі, што гэты чырвоны дракон даваўся нат у лекі ад праказы. А наконт навукі і цемрашальства...

Корвус крануў кончыкамі доўгіх пальцаў радзінны рушнік.

– Калі нараджала ўлюбёная жонка караля Генрыха Восьмага Джэйн Сэймур, кароль парушыў усе звычаі і даслаў да парадзіхі двух сваіх лепшых дактароў. Мужчыны дагэтуль не дапускаліся ў пакой, дзе адбываліся роды, усё рабілі павітухі. І Джэйн Сэймур памерла. Таму што дасведчаныя дактары пачалі камандаваць цёмнымі кабетамі. Напэўна, і не апрабаваныя імі самімі травы не далі ўжыць. І не дазволілі дастаць рэшткі плацэнты з маткі... Назапашаная стагоддзямі практыка, нават калі на нейкім этапе абвяргаецца навукай, з развіццём тае навукі можа быць пацверджаная і тэорыяй.

Ну вось, паехаў Магістр лекцыі далдоніць... Расліны-рэлаксанты Цвічка цікавілі не больш, чым назва птушкі, што сумна ценькала дзесь непадалёк.

На шчасце, паказалася Жэнька. Яна трохі пакульгвала, значыць, канкрэтна замарылася. Корвусу, які лёгка падхапіўся з лаўкі пры яе набліжэнні, суха кіўнула – маўляў, усё ладам з пацыенткай.

– У горадзе сходы пачалі праводзіць, прысвечаныя ўрачам-шкоднікам... – спяшаючыся, Ромка выкладваў навіны. – Шкоднікі паўсюль, і іх трэба выяўляць. Там адзін дзядок ёсць... з Малгосяй працуе. Ну, нібыта яго і выявілі. Малгося кажа, памылкова, папрасіла тэрмінова сюды адвезці. Кажа, калі арыштуюць, памрэ. Ён хворы, сардэчнік. Восіп Мацеевіч Візін... Візінтанк, здаецца.

– Прафесар Візенталь? Восіп Мацеевіч? – перапытала Жэнька, і Ромка заківаў галавою. Жэнька і Люцыян агаломшана пераглянуліся.

– Мы па ягоных падручніках вучыліся, – скрушна ўзгадала загадчыца шпіталя.

– Не адно пакаленне ўрачоў падрыхтаваў. А колькі пацыентаў выратаваў... — з горыччу мармытаў Корвус, скручваючы чарадзейны рушнік. – Жывая легенда.

– Ну, здаецца, была нядаўна жывая... – з няёмкасцю перхануў Цвічок. – Прафесару вашаму ў дарозе кепска стала. Твар пасінеў, што ў нябожчыка. Як прыехалі, яго ў той корпус забралі, што адразу ля варотаў. Чакайце, яшчэ не ўсё...

Корвус і загадчыца, гатовыя бегчы да яшчэ магчыма жывой легенды, трывожна ўтаропіліся ў госця.

– Тут у лясах банда аб'явілася, фашысцкія недабіткі. Спецыяльны атрад паслалі іх лавіць. Ну, і сюды могуць атрадаўцы хутка завітаць. Трэба ж праверыць, ці няма ў каго сувязі з бандытамі, ці не чулі чаго. А ў вас тут немаведама што за тыпы... – Ромка раздражнёна цыркнуў скрозь зубы. – На вашым КПП да мяне бандзюк нейкі прычапіўся, усе рукі ў татуіроўках... Прафесара "бацыльным" называў, мяне – то "гаўрыкам", то "ваньком". А я ведаю, што гэта значыць. У нашай роце быў адзін крымінальнік. Ён казаў, што "ванькамі" блатныя называюць звычайных людзей, якія не ведаюць, што маюць справу са злодзеямі. Так што на месцы ястрабкоў я б гэтага тыпуса з КПП добра патрос, ён жа з вінтоўкай ходзіць.

Гэта была кепская навіна... Спецатрадаўцы-"ястрабкі" – не медкамісія. Могуць не пабаяцца заразы...

– На КПП – гэта двое былых штрафбатаўцаў, Гаўрылкін і Дрыжка, сябры санітара Сымона Пятровіча. Яны надзейныя хлопцы... – патлумачыла няўважна Жэнька і змрочна дадала: – Трэба дакументы на ўсіх нашых да ладу прывесці.

Сапраўды, дакументы – важней за людзей. У гэтай краіне паперка губіць, паперка ратуе.

Размову перарвалі крыкі. У Прытулку разгаралася нежартоўная баталія: лямантавалі, як на Старавежскім кірмашы, калі сярод цыганскіх коней хтось заўважыць свайго, скрадзенага. Пазнаваўся нізкі голас Пятра Сымонавіча, віскілвы – санітаркі...

– Што ж такое...

Загадчыца Прытулка і суразмоўцы кінуліся туды, куды падцягваліся, хто цішком на мыліцах, хто бегма на адносна здаровых нагах, і іншыя насельнікі. На лаўцы застаўся ляжаць скручаны чароўны рушнік.

Віры віравалі ў шэрым аднапавярховым будынку, узведзеным ужо за савецкім часам, тым самым, куды адправілі хворага прафесара. І прафесар, сухенькі старэча, як выразаны з пергаменту, быў тут жа, сядзеў ля вакна на пашарпаным венскім крэсле. Блакітныя, трохі выцвілыя вочы разгублена паглядалі праз старамоднае пенснэ на гармідар. Рэшткі сівых кучаравых валасоў – быццам дым над загасаючым вогнішчам, а вусны аж пасінелі, медыкам не трэба быць, каб зразумець, што сардэчнік.

– Паслухайце, таварышы, я лепей пайду ў другі корпус...

– Не, дзед, ты застанешся тут. А пойдзе прэч гэты гадзёнак, фашысцкі паслугач!

Дужы мужык у гімнасцёрцы, з паголенай галавой – на загрыўку хоць снапы малаці, з вытатуіраваным сонцам на запясці навісаў над дробным маладзёнам, што сядзеў на ложку. На плечы хлапца паўзверх бальнічна-

га халата была накінутая ватоўка, нягледзячы на лета. Пераляканы твар белы, як тварог, пальцы, пачварна скрыўленыя, з распухлымі суставамі, учапіліся ў матрац.

– Я нікога не хацеў крыўдзіць. Я проста паставіў перад фактам, што гэты пакой заняты. Мной. І мне ў свой час гарантавалі, што я буду жыць без суседзяў.

Голас непрыемна надтрэснуты, але і з адчайнай упартасцю. Нават з выклікам. Так гавораць тыя, каму няма чаго губляць, і таму небяспечныя, нягледзячы на сваю мізэрнасць.

У пакойчыку, дзе толькі і змяшчаўся ложак, крэсла ды медыцынскі металічны столік на калёсах, дзясятак чалавек – гэта ўжо натоўп... Ромка мог толькі ў дзверы зазіраць праз чужыя плечы.

– Мусіць, яшчэ не забыўся, Стахевіч, як такіх, як гэты дзед, у гета зганяў? – гэта ярыўся Пятро Сымонавіч. — І цяпер гатовы, дай табе волю?

– Я нікога не зганяў! Я, наадварот, аб аблавах папярэджваў!

– Што тут адбываецца? – Яўгенія праштурхалася наперад з дапамогай Корвуса.

– Гэта, Яўгенія Міхайлаўна, зноў з-за Стахевіча шум! – раздражнёна засакатала санітарка з юлёвай плямай на твары. – Новага хворага прывезлі з сардэчным прыступам, трэба было тэрмінова яго пакласці. А месцаў няма, не сунеш жа да сухотнікаў ці іншых інфекцыйных, вырашылі сюды. Палата зручная, ціха... А Стахевіча... – санітарка скасавурылася на прыхіленыя да ложка мыліцы, – можна перасяліць да Яначкі. Там якраз каля вакна ўлезе яшчэ адзін ложак. А гэты... паліцай крычыць, не саступлю законнае месца. Мужыкі пачулі, ну і...

– Я не паліцай! Вы ўсе толькі і чакалі падставы, каб на мяне накінуцца! – вусны хлапца трэсліся, але запалыя сінія вочы зыркалі з зацятасцю загнанага ў кут звярка. – Я нічога кепскага не зрабіў! У атрад самапомачы пайшоў, каб маці не чапалі, і таму, што партызанскі камсорг загадаў звесткі для партызан збіраць...

– Баек пра партызанскі загад, і як той камсорг ад цябе падступна адрокся, мы ўжо начуліся! – раўнуў мужык з прыплюснутым носам, зусім сівы, хаця яшчэ не стары, у пілотцы і выцвілай жаўнерскай форме. – Лечаць цябе тут, гада, заміж таго, каб да сценкі паставіць... Ды яшчэ, як пану, трэба асобную палату!

– Яўгенія Міхайлаўна, вы ж ведаеце... – адчайна прамармытаў Стахевіч, умольна пазіраючы на доктарку. – Я не магу жыць з кімсьці... У мяне адразу нервовы прыступ... Пасля таго, як шэсць год адзін у пограбе...

– Думаеш, зараз шкадаваць возьмемся? – злосна прагаварыў Пятро Сымонавіч. – Усё пра цябе ведаем, баягуз. Калі прыйшлі нашы, маці цябе схавала. Каб не арыштавалі разам з іншымі паліцаямі. Сядзеў, як пацук, у падполлі. Там табе косці і перакруціла. Мог не сядзець, мог здацца. Адкупіць віну. Няма ў тваёй пакуце нічога, вартага спачування. Бібліятэкар наш Саламон таксама, у падвале седзячы, здароўе страціў. Але ж яго там ад фашыстаў хавалі, ад такіх, як ты.

– Яшчэ раз кажу, я нікога не забіваў і не здаваў... — Стахевіч нацягнуў на плячо ватоўку – відаць, мёрз нават у самую гарачыню.

– Проста не паспеў здаць, падла! – злосна прамовіў сівагаловы. – Колькі табе было, сямнаццаць?

– Пятнаццаць! І, каб маці не памерла, я б і далей хаваўся! Толькі дзе-

ля яе, каб быць побач! – калі Стахевіч і быў баязліўцам, дык, падобна, найбольш баяўся застацца без чужой злосці. – Што вы ведаеце пра наша жыццё? Бацьку перад вайной арыштавалі – ні за што. Мяне ў піянеры не прымалі, хоць я лепей за ўсіх вучыўся. Маці магла ў тэатры спяваць, але голас ад перажыванняў страціла і ў вёску вярнулася. І вы мяне яшчэ будзеце ўпікаць, панове крымінальнікі ды белагвардзейцы?

Паветра ў пакоі запаўняла нянавісць, як дым ад атрутных зёлак.

– Так, зараз жа супакоіцца і разысціся! – Жэнька абвяла вачыма тых, што набіліся ў палату, і – дзіва – нават дужыя раз'юшаныя мужыкі пад позіркам зялёна-брунатных вачэй сумеліся. – Тут шпіталь, а не зона. Для доктара ўсе хворыя маюць роўныя правы. Хто не згодны – не трымаю. Усвядомце адно: мы як на караблі пасярод буры. Калі каманда пачынае высвятляць адносіны – карабель тоне. І я гэтага не дапушчу. Зразумелі?

Танклявы капітан з валасамі колеру спелага каштана, забранымі ў важкую касу-карону, яшчэ раз ганарыста зыркнула на прыціхлую каманду. Сымон Мацеевіч раптам усміхнуўся ды праспяваў радок нейкай замежнай песенькі:

– *Our Captain Was A Lady...*

Як ёсць белагвардзеец!

– Вы, Восіп Мацеевіч, застанецеся ў гэтай палаце. Вам, Стахевіч, прыйдзецца перасяліцца ў падсобку ля кухні.

– Падабаецца здзекавацца з бездапаможных хворых? А "падцісьнуць" сваю начальніцкую жылплошчу не спрабавалі?

Невядома, чаго ў нахабным тоне скалечанага хлапца было больш – нянавісці да іншых ці пагарды да сябе, але мэты ён дасягнуў. Супакой, якога дабілася Жэнька, парваўся, як ветразь у шторм. Бо нават Ромку, які першы раз бачыў гэтага абарыгена матчынага пограба, карцела адвесіць яму добрую плюху.

– Не паддавайцеся! Гэты чалавек вас правакуе! Ён сам хоча, каб яго збілі ці забілі! – Корвусу на хвілю ўдалося аднавіць цішыню. – Вы ж дужыя, дарослыя, вайну прайшлі... Чаму вядзецеся на выбрыкі маладзёна з хворай нервовай сістэмай? Дазвольце, я пагавару з ім сам-насам, і ўсё спакойна вырашыцца.

– Я не прасіў вас за мяне заступацца! – выкрыкнуў парушальнік шпітальнага парадку. – Прыстаяце, як салома ў лазні, а вашы давяральныя бяседы, Люцыян Станіслававіч, дарэчы толькі для баранаў, накшталт слінявага Яначкі. Усё роўна я ведаю, што вы мне не верыце. Ніхто не верыць. А гэтага ўрача-шкодніка прывезлі, і ніхто не пытаецца, мо ён і праўда пацыентаў са свету зжывае? Вы тут усе забойцы! Акрутнікі!

Двое з КПП, сівы і з паголенай галавой, сцягнулі нахабніка з ложка... Корвус дарэмна штосьці даводзіў, усё павышаючы голас – ага, слабы твой гіпноз, Магістр, далёка да Месінга, куды там з раз'юшанымі штрафбатаўцамі справіцца. Прафесар Візенталь парываўся ўстаць і сысці, санітарка ўладна яго спыняла... Хтосьці перакуліў у куце вядро, і яно загрымела, пакацілася па падлозе, утвараючы ручай з рэшткаў не дапітага пацыентамі кампоту. Пантофлі і боты прысутных зараз жа размазалі салодкую вадкасць.

– Зараз усім ушпілю супакойваючае! – вочы Жэнькі свяціліся зялёным гневам. – Што вы ўчыняеце? Хіба варта пытанне – хто на якім ложку пераначуе – такой буры? А вы, Стахевіч, майце павагу да прафесара! Які вас жа вылечыць можа.

– Можна падумаць, я дам яму сябе лячыць. Па радыё пра змову габрэяў-урачоў з раніцы да вечара гавораць.

І дадаў такое гнюснае... Што і Яўгенія страціла раўнавагу ды ледзь не ірванулася да правакатара. Корвус супакаяльна прытрымаў былую вучаніцу са спіны за плечы...

Ад ягонага дакранання Жэнька раптам абрынулася на падлогу. Скурчылася, прыкрыла зверху рукамі галаву...

Гэта выглядала так недарэчна, так неверагодна – гордая прыгажуня Яўгенія Равіновіч, строгая ўладарка Апошняга Прытулку – на бруднай, ліпкай ад кампоту падлозе, у становішчы спалоханага дзіцяці, якое чакае ўдару, – што ўсе разгублена замоўклі. Корвус увогуле застыў саляным слупом, яго твар збляднеў горш, чым у Стахевіча.

Цяжкое маўчанне зацягвалася... Нарэшце Жэнька варухнулася, павольна-павольна адняла ад галавы рукі. Устала таксама вельмі павольна, не паднімаючы вачэй. Шчокі яе палалі. Першы, на каго яна падняла позірк, быў Магістр.

– Не чапайце мяне, вы! – маладую жанчыну калаціла, як ад моцнага холаду. – Недастаткова палапалі мяне ў сорак трэцім?

Збялелы Корвус моўчкі адступіў на крок. Доктарка, ні на кога больш не гледзячы, выйшла з палаты, цвёрда ступаючы па залітых кампотам дошках.

Санітарка дакорліва выгукнула:

– Зусім давялі Міхайлаўну, ырады!

Менавіта так і прамовіла, “ырады”, а не “ірады”...

Але было зразумела, што за гэтым здарэннем штосьці большае, чым рэакцыя на бунт нервовага пацыента. Сведкі апускалі вочы з няёмкасцю, быццам падгледзелі штось вельмі асабістае...

Корвус, прамарудзіўшы пару імгненняў, выбег на вуліцу, не зважыўшы на падазроныя позіркі сведкаў непрыемнай сцэны. І Ромка памкнуўся быў за сяброўкай, ды Люцыян на бягу так зыркнуў на няпрошанага памагатага, што той вырашыў не ўмешвацца. Урэшце ён ніколі не ўмеў суцяшаць баб, за што Малгося не аднойчы дакарала. Вечна штось не тое ляпне...

Жэнька ішла па-ранейшаму цвёрдым крокам, без кульгання, сунуўшы рукі ў кішэні халата і ганарыста задраўшы галаву. Звярнула з асфальтавай дарожкі ў лес. Прадралася, не запавольваючы хады, праз ядловец і крапіву, і цяпер бегла, між соснаў мільгаў белы халат...

– Яўгенія, пачакайце! Калі ласка!

Задыханы Магістр дагнаў былую вучаніцу на невялікай палянцы, зарослай чарнічнікам. Праз кусты праглядаўся шэры бетон агароджы і калючы дрот. У дэтэктыўных раманах у падобных закутках звычайна знаходзяць труп.

– Ідзіце прэч! Бачыць вас не хачу!

Жэньку зноў калаціла... Люцыян умольна падняў рукі, быццам здаючыся ў палон.

– Яўгенія, дазвольце пагаварыць з вамі! Не праганяйце мяне! Я цяпер бачу, што вінаваты перад вамі куды больш, чым мог падумаць...

– Адчапіцеся! Што вам трэба?

Жанчына дыхала цяжка, быццам прабегла цэлую вярсту. Па ілбе каціліся кроплі поту.

Корвус стаяў нерухома пад яе напружаным позіркам.

– У вас звычайная рэакцыя псіхікі на моцную траўму. Я з гэткім

сустракаюся часта. Такое праяўляецца праз месяц, праз год, і без лячэння не праходзіць. Свядомасць не можа прымірыцца з перажытым. Чалавек не хоча ўспамінаць страшны момант, заганяе ўспамін глыбей... Але калі трапляе ў падобную сітуацыю – пра яе можа нагадаць гук, дотык, пах – прыступ панікі. Некантраляваны.

Люцыян падбіраў словы асцярожна, як друзачкі каляровага шкла для складанага вітража.

– Вы ўжо дыягназ мне паставілі. Ну так, я ж здуру прызналася вам, што Рыгор мяне біў.

Голас Жэнькі быў хрыпаты і перарывісты, быццам яна толькі што доўга крычала, зрываючы горла.

– І цяпер я, такая вось зацюканая, запалоханая кабета, шугаюся любога дотыку... Вартая жалю, ці не так?

– Мне ў галаву такое не прыходзіла! – Корвус гаварыў ціха і мякка. – Урэшце, тут у нас з вамі шмат агульнага – Рыгор і на мне кулакі выпрабоўваў, а я не супраціўляўся. Не будзем казаць пра ягоную хваробу. Пагаворым пра вашую. Сітуацыя з мужам – гэта працяг, а пачатак сапраўды ў сорак трэцім...

– Я не павінна была вас вінаваціць, прабачце, – прамармытала Жэнька. – Вы рабілі, што мусілі...

Але Корвус закруціў галавой.

– Гэта якраз і ёсць – адмаўляць сапраўдныя перажыванні... Вы – разумная, ураўнаважаная жанчына. Ведаеце, як належыць ацэньваць сітуацыю. Але ваша траўмаваная ўнутраная сутнасць гэтага не ведае. Уявіце – у вашай душы жыве дзіцё, яму балюча і страшна, для яго зноў і зноў паўтараецца жах... І пакуль вы, дарослая, не пражывеце тую жахлівую сітуацыю, не прымеце, не агучыце пачуцці ўнутранага дзіцяці – яны будуць раз'ядаць вас знутры...

Яўгенія сунула рукі ў кішэні і злосна пасміхнулася. Да ніжняга гузіка яе халата прычапілася зялёная травінка, быццам лясныя русалкі паслалі візітоўку будучай сяброўцы.

– Што вы ад мяне хочаце, калега? Споведзі? Маральнага распранання?

– Вось, вы адразу згадалі наконт распранання... – тужліва ўздыхнуў Люцыян. – Той жах, які вы перажылі па маёй віне. Выкажыце мне тое, што стрымліваеце. Вы павінны ўпэўніцца, што я бяспечны для вас, што вы можаце справіцца са мной!

Корвус гаварыў амаль умольна.

– З чаго гэта вы вырашылі, што я вас баюся? Пасля таго, як састаўляла вашы паламаныя косці і месяц сузірала ваш амаль труп у ложку свайго шпіталя? Не шмат пра сябе думаеце?

Жэнька гаварыла скрозь зубы, з выклікам, мімаволі нагадаўшы Стахевіча. Корвус раптам зрабіў хуткі крок наперад, працягнуўшы руку, і жанчына інстынктыўна адхінулася, адступіла, ледзь не паваліўшыся на нейкай купінцы. І зараз жа раззлавалася за гэтую сваю слабасць.

– Бачыце, фобія мацней за вас... Вы ж доктар, Яўгенія! Павінны разумець, што нельга саромецца хваробы! І нельга яе замоўчваць.

Люцыян зноў адступіў назад, душачы чаравікамі пыльна-чорныя чарніцы, якім ужо не лёс быў патрапіць у бальнічны кампот.

– Вы хочаце, каб я зноў пражыла тую сітуацыю, калі мяне схапілі немцы, а вы мяне прывязвалі амаль голую да плота? – нават вусны Жэнькі дрыжэлі. – Вы адгадалі, самае страшнае для мяне было не пагроза смерці, не холад, а тое, як вы здзіралі з мяне адзежу. Кофту, сукенку... Абыякава,

груба... Як быццам я прадмет, рэч. А потым... Потым вы сцягнулі з мяне панчохі...

Жэнька пачала задыхацца...

– Ціха, ціха... – Корвус раптам укленчыў, схаваўшы рукі за спіну. – Паглядзіце, вось ён я – цяпер вы маеце нада мной уладу. Вы моцная. Вы можаце ўсё выправіць.

– Балаган нейкі... – загадчыца шпіталя страсянула галавой у кароне каштанавых кос. – Я разумею, што каб вы не выканалі загад нямецкага афіцэра, гэта ўсё са мной зрабіў бы іншы, і было б куды горш... Але... Я помню вашы рукі на сабе... Халодныя мужчынскія пальцы... А я ж нават не цалавалася да гэтага ні разу!

Яўгенію перасмыкнула.

– І вось цікава – да мяне дакраналіся іншыя... Фашысты, паліцаі... Штурхалі, білі... А ўрэзаліся ў памяць менавіта вы, які мяне пасля выратаваў.

– Таму і ўрэзаўся... Што нібыта свой, а раблю ганебнае... — з горыччу зазначыў Люцыян.

– А потым, калі ўсё скончылася, вы неслі мяне на руках у партызанскі лагер, расціралі, каб не абмарозілася... А мяне ванітавала ад агіды да вашых дотыкаў. Я дрыжэла не ад холаду, а ад вашай блізасці.

Корвус на імгненне прымружыў вочы, як ад сляпучага сонца, але працягваў сваё лячэнне.

– Як часта вы гэта ўспаміналі?

Жэнька адвярнулася:

– Часам... Звычайна ў сне... І не трэба пытацца, ці не перашкодзіла мне гэта ў зносінах з Рыгорам.

Корвус прамовіў вельмі асцярожна:

– Але ў вас была падобная да сённяшняй рэакцыя на дотык мужа, ці калі ён... замахваўся на вас?

Яўгенія за імгненне захінула твар тонкімі рукамі.

– Я не хачу пра гэта гаварыць. Пакіньце мне хаця б лапік самапавагі. У нас з ім усё было проста цудоўна. Пакуль ягоная хвароба ўсё не сапсавала...

– Але каб не траўма той начы ў сорак трэцім, калі ў вас замацавалася роля ахвяры – магчыма, вы б адразу не далі сябе збіваць! Не баяліся б даць адпор, папрасіць дапамогі... – Магістр усё гэтак жа стаяў на каленях. – Праўда, ва ўсіх нас, беларусаў, сядзіць гэтая клятая згода на роль ахвяры. І рана ці позна гэта абрыдае. І тады... Беларусы ўмеюць быць жорсткімі. Калі я апрытомнеў у Прытулку, першае, што пабачыў – вас і бляск ляза брытвы... А вочы вашы былі... Быццам з водбліскам таго ляза.

Жэнька адмахнулася ад тлустай звяглівай мухі, у якой, напэўна ж, не было праблем з некантраляванымі прыступамі панікі.

– Я вас падманула. Пятро Сымонавіч не прасіў мяне дагаліць вас. Яму б у галаву не прыйшло такое. Але калі я пабачыла пакінутую ім брытву, я... Думаю, спрабавала пазбавіцца ад пачуццяў, якія лічыла няправільнымі. Гляджу на вас, непрытомнага, бездапаможнага, і дзесьці ў глыбіні душы хочацца змусіць вас расплаціцца. За памяць пра дотык халодных пальцаў... За сцягнутыя панчохі... Мне ж па-ранейшаму было гідка дакранацца да вас. Рабіць перавязкі. І я саромелася гэтага – недапушчальнае для ўрача. А трымаць лязо ля вашага горла... Гэта было так... прыемна. Варта трохі мацней націснуць... Так яскрава ўяўлялася... Я змушала сябе проста акуратна галіць вас – і тым пераадольвала цемру ў сабе.

– Вам няма чым сябе папракнуць, – Магістр трохі запалымі светлымі вачыма пазіраў знізу ўверх на былую вучаніцу. – Я заўважаў, што вы стараліся трымаць між намі фізічную адлегласць. Але вы заўсёды карэктна сябе паводзілі. А траўматычныя наступствы для псіхікі можна падкарэктаваць. Зараз я ўстану...

Люцыян нетаропка ўзняўся з каленяў, ягоны медыцынскі халат быў выпацканы расчаўленымі чарніцамі, быццам пасля аперыравання істоты з юлёвай крывёй.

– Пакуль не прайшло эмацыйнае ўзрушэнне, правядзем эксперымент. Я падыду і зноў паспрабую да вас дакрануцца. А вы не дайце мне гэтага зрабіць.

Загадчыца шпіталя трохі разгубілася.

– Ну, Яўгенія, вы зможаце!

Ад адчайнага штуршка Корвус паваліўся спінай на траву.

– Вы... як, Люцыян Станіслававіч? Я моцна вас?..

Жэнька перастала дрыжэць, толькі часта дыхала і расчырванелася.

– Выдатна! – усміхнуўся Магістр, прыўзнімаючыся на локцях, але не робячы спробы ўстаць. – Цяпер, спадзяюся, у вас пачне замацоўвацца іншая сітуацыйная мадэль.

– І калі да мяне хтось груба датыкнецца, той жа Рыгор, я не запанікую, а развярнуся і добра ўрэжу? – нявесела пасміхнулася Жэнька.

– Ну, можна сфармуляваць і так.

Равіновіч скінула сцябліну, што зачапілася за гузік.

– Гэта як малое дзіцё паб'ецца аб зэдлік, і бабуля, каб супакоіць малечу, пачынае стукаць па зэдліку-крыўдзіцелю: атата, злыдзень, Піліпку нашага пабіў... Не думаю, што вашу методыку дазволяць шырока ўжываць. Для такіх эскперыментаў трэба быць замарожаным унутры, як вы.

– Замарожаным, каб зэдліку не было балюча? – удакладніў Корвус, сеў на траве, абняўшы калені, нібыта грэўся ля вогнішча. – Дык вы лічыце мяне... чэрствым?

Дзесьці далёка загарлаў самотны певень, тубылец шпітальнай гаспадаркі. Яму адказаў не такі ж сонечны вястун, а хрыпатая насмешка крумкача.

– Ну не тое што чэрствым... — Яўгенія прыкусіла губу, падумала. – Мы проста ніколі не маглі вас зразумець да канца. Нібыта і захапляліся вамі – легенды, раскопкі, размовы ля вогнішча, Ордэн Захавальнікаў... Гэтакі засланец у наш правінцыйны гарадок з іншага, вялікага свету. Мы ж з Малгосяй і ў медыцыну пайшлі з-за вас. Але вы як у панцыры. Малюск. Незразумела, што адчуваеце. Не, калі тычыцца навукі, медыцыны – адкуль толькі тэмперамент бярэцца. Полымем пыхкаеце, як доменная печ. А ў зносінах з людзямі... У вас хоць адзін блізкі сябар ёсць? Па кілішку выпіць, на бабскія капрызы паскардзіцца? Дарэчы, а жанчыны вас увогуле цікавяць? І ўстаньце, нарэшце, па вас мурашкі поўзаюць...

Мужчына толькі пасунуўся ўбок на траве, не ўстаючы.

– І праўда, мурашкі... Нават у кішэню запаўзлі, хоць у мяне там заўсёды бутэлечка нашатыру валяецца. Малюск... Што ж, Яўгенія, я заслужыў гэткую мянушку. Даўно не... прыадчыняў створкі ракавіны. Я таксама не магу назваць сябе цалкам псіхічна здаровым.

– Ого! Наш гіпнатызёр Магістр прызнае сябе псіхам? – цяпер Яўгенія была такой жа, якой яе ведалі ў Прытулку – трохі іранічнай, упэўненай.

– У мяне таксама хапае траўм featureless рознага кшталту, – спакойна прызнаў-

ся Магістр. – З тых часоў, як усе мае самыя блізкія загінулі, я свядома трымаю дыстанцыю. Тут і вывучка мачыхі сказваецца: я не такі, як усе, з заганам, дваранскі вырадак. Даведаюцца, хто насамрэч – адвернуцца. І яшчэ... Пасля смерці Міраславы... – Корвус занадта лёгка вымавіў гэтае імя, толькі не змог стрымаць уздых, – я прысягнуў сабе, што больш ніколі ў жыцці не дакрануся да жанчыны... у пэўным сэнсе.

– І колькі прайшло ад тае прысягі часу?

Люцыян памаўчаў, шпурнуў шышку ў зарасці крапівы, быццам выкарыстаную бутэлечку з атрутай.

– Сямнаццаць год.

Жэнька стрымала непатрэбныя каментары. З ледзь заўважнай горкай насмешкай працытавала:

– С той поры, сгорев душою,
Он на женщин не смотрел,
И до гроба ни с одною
Молвить слова не хотел.
С той поры стальной решетки
Он с лица не поднимал,
И себе на шею чётки
Вместо шарфа привязал...

Корвус слаба ўсміхнуўся.

– Ну неяк так...

І нарэшце ўзняўся, канчаткова пазбаўляючы мурашоў магчымасці даследаванняў прапахлага лекамі і горам аб'екта.

– Ну што, пойдзем глядзець, ці не разнеслі нашы пацыенты шпіталь? А лячэнне пасля працягнем.

– Будзеце дазваляць мне лупіць сябе? – прыўзняла тонкія бровы Жэнька.

– Вось жа ў вас якія вычварныя фантазіі! – ва ўсмешцы Люцыяна нарэшце не было горычы. – Можна паспрабаваць гіпноз. Не хочаце? Ну і карысць медыкаментознага лячэння таксама ніхто не адмяняў... Дарэчы, вы зусім не выпадкова шпурнулі мяне на траўку менавіта тут...

Люцыян нахіліўся, рассунуў чарнічнік...

– Бачыце, тая самая таямнічая кветачка, з рушніка нашай Саколкі! Чырвоны дракон!

Яўгенія прыгледзелася:

– І праўда...

Корвус асцярожна рыхліў зямлю вакол чырвонага дракона завостранай палкай.

– Халера, я ж той рушнік на лаўцы пакінуў... Ну, тут ніхто не скрадзе, тут нават злодзеі свае. А першы рушнік з жыццяпісам святой Маргарыты, мяркую, прывезла жонка Жыгімонта Корвуса-Дзякловіча, пані Люцында. Наколькі Саламон Барысавіч змог разабрацца ў мемуарах, яна француженка. І расліну не выпадкова гэтую замовілі ў Юндзіла. Якое абязбольваючае і супакойваючае можна на аснове чырвонага дракона паспрабаваць зрабіць!

– А гэта што? – Жэнька тыцнула наском чаравіка ў востры вугал каменя, што паказваўся з-пад моху.

– Надмагілле, – запэўніў Магістр, нахіліўся ўбок і некалькімі рухамі імправізаванай матыкі трохі расчысціў шэрую паверхню. – Тут поўна магіл.

За жоўтым корпусам, і злева ад КПП, ля агароджы. У маёнтку здаўна шпіталь быў, хворыя мерлі. Вунь там, сярод хмызняку, рэшткі капліцы. Так што зямля была асвячоная. Могілкі.

Корвус выпрастаўся, урачыста трымаючы перад сабой у далонях выкапанага з кавалкам дзёрну чырвонага дракона. Някідкія цёмна-ружовыя кветачкі дракона пазіралі са змрочным падазрэннем, а чорная зямля з карэнняў, угноеная людскімі парэшткамі, абсыпала і без таго брудны халат здабытчыка.

– Паладын з Граалем па-беларуску... Есці вам больш трэба, Люцыян Станіслававіч, вы худы, як штыкецiна, — нечакана зазначыла Жэнька і, апусціўшы вочы, дадала:

– Дзякуй вам. Мне... сапраўды было з сабой не справіцца.

– Я не заслугоўваю вашай удзячнасці, – вельмі сур'ёзна адказаў Корвус. – Я проста вельмі хачу, каб у гэтым свеце стала меней болю і болей спакою.

Па вызваленым з-пад моху кавалку шэрай каменнай пліты поўз мураш. Яму было з-за чаго выказаць абурэнне дзвюм гіганцкім цеплакроўным істотам. І гадзіны не пабылі – а ўжо ўквэцалі зямлю сіняй крывёю чарніц, парвалі метры тры стаpaннa сплеценай мясцовай Арахнай павуты, прытапталі ладны лапік травы разам з казюркамі. Парушылі зямную плоць, калі выкопвалі няшчасную кветачку. Адна карысць – пакармілі трох камароў.

Недарэчныя істоты і небяспечныя.

І руды мураш пабег сабе далей па шэрай надмагільнай пліце, на якой немагчыма было прачытаць ніводнай літары.

## Раздзел сёмы. АВАНТУРЫ ЗБЕГЛЫХ НЯБОЖЧЫКАЎ

У паўднёвых славянаў ёсць звычай паўторнага пахавання.

Праз колькі гадоў магілу раскопваюць, дастаюць косткі, мыюць асвячонай вадой і віном, заносяць у гаршчку ў царкву, а затым хаваюць нанова, з належным адпяваннем...

Мо каб упэўніцца, што нябожчык не ператварыўся ў вупыра і асінавы кол не спатрэбіцца. Мо каб выказаць павагу памерламу сваяку...

Дарэчы, гэтак жа ўласнаручна ўчыніла з косткамі праваслаўнага выдаўца і фундатара Астрожскай акадэміі Канстанціна Астрожскага ягоная ўнучка Ганна Алаізія. Унучка была фанатычнай каталічкай і хацела загладзіць дзедаў грэх схізмацтва.

Вох, не ляжыцца нашым нябожчыкам... Парэшткі Купалы туды-сюды вазілі, Еўфрасінні Полацкай, Сафіі Слуцкай, нат Івана Луцкевіча ўмоўна перазахавалі ў Вільні, хоць ягоная магіла ў Закапанэ не знойдзеная, да парэшткаў Максіма Багдановіча на Ялцінскіх могілках падбіраюцца... Нядаўна будавалі ў менскім Верхнім Горадзе дзіцячую філармонію на падмурках старажытнага кляштара, дык косткі і чарапы будаўнікі цішком у мяхі ссыпалі. Супрацоўнікі архіва, што побач, праз вокны бачылі, кудысь паведамлялі, а толку... Каму ў нас трэба памяць даўніх часоў? Яшчэ ідэалагічную карцінку сапсуе.

Вось і блукаюць нябожчыкі, несупакоеныя... У мяне дык дакладна свой такі ёсць. Несупакоены. І я дасюль да канца не ўпэўненая, што ён з плоці, крыві і васьмідзесяці кіль звычайнай чалавечай няўдачы. Не вупыр, не пярэварацень, не глюк майго хворага мозгу.

Я няўважна павялічыла чырвоны спектр карцінкі, над якой працавала. Во так... Цяпер плакацік што трэба. Чарговае “спасібадзедузапабеду”. Сівы, але яшчэ крэпкі, ветэран, крамяны ўнучак у старой салдацкай пілотцы, якая неадменна прапахла порахам... Як жа афіцыёз губіць нат самае балючае і важнае. І ўражанне, нібыта акрамя апошняй вайны ў беларускай гісторыі нічога істотнага не здаралася. А калі войскі Менглі Гірэя альбо ваяводы Шарамецьева пад Менск прыходзілі, хіба менш мужнасці праяўлялі месцічы, баронячы горад, чым іх савецкія нашчадкі? Хіба менш жорсткімі былі ворагі? Ды ў летапісах толькі і чытаеш, як горад выразалі, пару дзясяткаў пакінуўшы. І абрыдзела мне гэтае постсаўковае “якую дзяржаву развалілі”. Вялікі Савецкі Саюз, разумееш. Бог ты мой, ды што такое семдзесят год існавання нейкай дзяржавы для гісторыі? Змірг павекаў. Былі цывілізацыі, якія існавалі тысячы гадоў – іхнія гарады занесла пяском і бляшанкамі з-пад кока-колы.

Я дадала блакітнага колеру ў вочы гераічнага дзеда. Цікава, мой прадзед, якога немцы спалілі разам з сям’ёй і ўсёй вёскай за дапамогу партызанам і які не дажыў да права на бясплатны праезд і каўбасу сыравэнджаную “Маскоўскую” ў спецзаказах, таксама, здаецца, быў блакітнавокі. Адзіны фотаздымак чорна-белы, але вочы прадзеда светлыя-светлыя. Нібыта ззяюць...

Як у таго таямнічага Люцыяна Станіслававіча Корвуса.

Не, пра гэта я падумаю пасля... Пра Корвусаў, мёртвых і ўваскрэслых... У мяне вось незразумела чые вочы – нешта сярэдняе паміж брунатнымі і зялёнымі.

Гісторыю пішуць пераможцы. Дакладней, ацалелыя. А ў штабістаў ды каптэнармусаў куды болей шансаў перажыць вайну, чым у якога пехацінца. Чым далей, тым больш стракаты кантынгент тых, хто абазначаецца словам “ветэран”. Бабуля расказвала, у нашым доме калісь жыў дзед па мянушцы Сліва. Празвалі яго так за адпаведны колер носа. Высокі, худы, змрочны, маўклівы, але трымаўся заўсёды прама, з вайсковай выпраўкай. Не прасыхаў, вядома. Жонку лупіў. Дзеці яго дражнілі, дзверы кватэры скрэмзвалі непрыстойнымі надпісамі. Але кожны год на Дзень Перамогі Сліву запрашалі ў школу. Ён прыходзіў цвярозы, урачысты, але з нейкім адценнем няўпэўненасці. Расказваў пра візіты ў партызанскі лагер. І як немцы скідалі з самалётаў пустыя каністры, і тыя свісталі больш страшна, чым сапраўдныя бомбы. Калі Сліва памёр, пайшлі размовы, што быў ён энкавэдыстам і шмат “ворагаў народу” ўласнаручна пастраляў. Таму і піў.

Я дадала на плакацік духапад’ёмны лозунг і адправіла начальству. Гэта яшчэ нічога, шэсць балаў па шкале агіды. Вось калі ў нашай транспартнай газетцы вырашылі рабіць рубрыку для аматараў садоў-гародаў, я намучылася. Усё патрабавалі ілюстраваць, а для мяне дасюль слова “мульчыраванне” гучыць, як цытата з шумерскага пісьма без перакладу. Помню, чытала ў паласе артыкул пра малінавых даўганосікаў. Фантастыка! У даўганосікаў ёсць галаватрубка (мутанты). Выбіраюць для харчавання кветкі толькі мужчынскага тыпу, а жаночых пазбягаюць (і каментаваць не хачу). Маладняк адпраўляюць зімаваць у халодную глебу (суровае юнацтва). Хоць фанфік пішы.

Цікава, а кветку чырвоны дракон, альбо магрэтку, у нас хто-небудзь вырошчвае?

У пакоі з маніторамі зноў надрываўся гурт “Любэ”, распавядаючы штось-

ці пра расейскія бярозкі. Смярдзела чыпсамі са смакам курыцы. Значыць, дзяжурыць мент Паша. На маніторах відэаназірання соўгаюцца людцы. Шэрыя. Бляклыя. Жывыя нябожчыкі. Мае браты і сёстры. Такія ж, як я.

Гарадскі тэлефон заверашчаў, быццам хтось укусіў яго за шнур.

– Ірына Максімаўна, з вамі хоча гаварыць дырэктар. З'ядноўваю.

Голас сакратаркі быў надзвычай падобны да таго, што час ад часу абвяшчаў "Отойдите от края платформы".

– Ты што вытвараеш? Я цябе пашкадаваў, пакінуў на працы, пад нагляд добрых хлопцаў прыстроіў... А ты мяне падставіла!

Доктар Зло разышоўся не на жарт. У мяне пад лыжачкай заварочаўся халодны слімак. Мы ж усе такія, напужаныя... Кожнаму бюджэтніку ўбілі ў галаву: вытураць з працы, і прападзеш, як рудая мыш. Здаецца, без гэтай працы, хоць ты яе ненавідзіш, жыццё закончыцца. А што можна іншую пашукаць, і, магчыма, лепшую – думка не заходзіць.

– А што такое, Вячаслаў Мацеевіч? Я ж нічога не зрабіла кепскага...

А галасок мой дрыжыць. І падумаць толькі, збіралася калісь маляваць карціны ў стылі Бэнксі, тусавацца на Елісейскіх палях і чхаць на філісцёраў усіх нацыянальнасцяў.

– Што за гешэфты з правінцыйнымі бэнээфаўцамі? Сталічных мала? Што ты там наабяцала цётцы са Старавежска, як яе там, Арыядна Мартынаўна Падпека? Які музей раскрадаюць, якія пікеты?

Я з цяжкасцю сабрала думкі ў больш-менш завершаную ікебану. Ну бібліятэкарка, ваяўнічы верабей... Да майго рэдактара дабралася. З напамінам, што ягоная падначаленая абяцала падтрымку ў аднаўленні гістарычнай справядлівасці. Дык дзе ж тыя матэрыялы пра стварэнне музея слыннага доктара Корвуса? А калі іх не будзе, мясцовыя змагары за праўду пяройдуць на іншыя метады, а ўвесь свет дазнаецца наконт прадажнасці газеткі...

Давялося апраўдвацца. А што Ірына Корвус? Ірына ні пры чым... З цётачкай пазнаёмілася выпадкова, калі паехала глядзець дом, што застаўся ў спадчыну ад мужа. Спадарыня Падпека – мясцовая вар'ятка. Спадчынны дом належаў сваяку мужа, старому доктару-дзіваку, цётачка яго абагаўляла і хоча зладзіць музей у памяць куміра.

– Вячаслаў Мацеевіч, я абяцала толькі, што аддам для экспазіцыі непатрэбныя паперы і рэчы з дому Корвусаў. Ні пра якія артыкулы і пікеты гаворкі не йшло...

Не ведаю, ці паверыў мне Доктар Зло, магчыма, наступная размова вялася для прафілактыкі, але атрымала я поўную місу поліўкі. Да работы стаўлюся фармальна, ілюстрацыі ў час не здаю, цешуся ідэяй, што вялікая мастачка, а такімі мастакамі можна гаці гаціць. Ды яшчэ з усяго вартага пасміхаюся. Хвігу ў кішэні трымаю. Змагарка сраная. Цані, што дзяржава вывучыла, працу дала. Памятаем, як артыкул пра гэтых... малінавых даўганосікаў праілюстравала фота з форума маладых ідэолагаў. Мала што на першым плане была талерка з ягадамі. Каму трэба, пазналі, што там на заднім плане за мерапрыемства.

Пад канец Доктар Зло, відаць, змарыўся мяне выхоўваць, а я супакоілася, зразумеўшы, што не пачую сакраментальнае "Збірай манаткі".

– Думай, што робіш са сваім жыццём, – буркатнуў напрыканцы мой начальнік нейкім зусім іншым тонам, амаль спачувальным. – Не ведаю, у якія гульні ты патрапіла, але любая гульня выключае давер. А ты як

каценя. Патузай перад табой фанцік на нітачцы – і паскакала. Не ўсё такое, якім падаецца.

“Совы не тое, чым падаюцца”, – прагучала ў галаве фраза з містычна-зануднага серыяла “Твін Пікс”. Дзіва, але нехта піша і на яго фанфікі.

Тэлефон змоўк, а я нейкі час глядзела яшчэ на ягонае белае пластыкавае цела. У апошніх словах Доктара Зло прагучала штосьці трывожнае для мяне...

Але засяродзіцца на гэтым не атрымлівалася. Як і ўвогуле на чымсьці. Таму што... таму што я лічыла гадзіны і хвіліны да вечара пятніцы, калі нарэшце зноў выпраўлюся ў Старавежск. Дзе мяне знойдзе Віталь.

Гэта неверагодна – але нават ягоная куртка пахла дакладна так, як я запомніла, хаця гэта была, зразумела, зусім іншая куртка. І галава мая круцілася гэтак жа, і вусны гарэлі ў прадчуванні пацалункаў... Усё, што раздзяліла нас, што не дае цяпер быць разам, уяўлялася нейкай агромністай бязлітаснай глыбай... І хацелася гэтае, ненавіснае, неадкладна разбіць, узарваць, разнесці на малекулы – з чаго б ні складалася. Палітыка, грошы, людзі – пляваць. Я хачу быць з Віталём Корвусам. І дзіўна, але “выбуховым прыстасаваннем”, інструментам для знішчэння перашкоды апынуўся чалавек самы непадыходзячы.

Я зноў скасавурылася на маніторы, за якімі сядзеў мент Паша і хрумстаў чыпсамі. І зноў у адным з квадрацікаў пабачыла тую самую карцінку, што і тры гадзіны таму.

На адной з лавак платформы сядзеў, прыгорбіўшыся, малады чалавек. Валасы на скронях стрыжаныя, на патыліцы заплеценыя ў танюткую касу. Рукі хаваюцца ў кішэнях чорнай скуранной курткі. Вакол горла стыльны шалік у палоску. Побач сіратліва прыхіленая сумка для ноўтбука. У смартфон пальцам не тыцкае, вушы без навушнікаў. Цягнікі сыходзяць і прыходзяць. На лаўку цяжка апускаюцца мажныя кабеты і лёгка прысаджваюцца, выцягнуўшы худыя ногі, птушкападобныя тынэйджэркі. Кожная такая птушка косіць зацікаўленым вокам на смуткуючага маладзёна.

Ну вось што за... пікет на станцыі. Дурасць нейкая.

Між тым мент Паша нарэшце зацікавіўся падазроным пасажырам. Шаргатлівая ўпакоўка ад чыпсаў адправілася ў сметніцу. Паша пачаў перагаворвацца наконт таго, што варта праверыць мужчыну ў чорнай куртцы, які ўжо тры гадзіны тырчыць на станцыі...

Што ж, трэба ўмешвацца.

– Прабачце, Павел, я гэтага хлопца ведаю. Ён мяне чакае. Зараз я спушчуся і разбяруся, не турбуйцеся.

Калючы пільны позірк ментаўскіх вачэй... Але сусед па кабінеце неахвотна адмяняе трывогу і ківае. Ідзі, маўляў... Ясна, будзе назіраць па маніторах.

На станцыі якраз быў зацішак, можа, чалавек пяць мэнчыліся па кутах платформы, бы лядашчыя рыбкі ў акварыуме гандляра, які толькі што распрадаў лепшы тавар. Жоўтыя сцены і калоны свяціліся спелай антонаўкай. Дзеўка з рэкламнага плаката адціскалася ад падлогі з гантэлямі ў руках і агітавала заходзіць у фітнэс-клуб. Дзеўка з другога плаката трымала пук сцяжкоў і запрашала на моўныя курсы са зніжкамі. На табло над чорнай пашчай тунеля міргалі секунды нашага памірання.

– Што ты тут робіш?

Мацей нават не падняў галавы.

– Думаю...

– Спадзяюся, над разгадкай чорнага сшытка доктара Корвуса?

Пацепнуў цяжка плячыма, нібы на іх нешта звалілася, зірнуў на мяне. Вочы стамлёныя, і пагаліцца не пашкодзіць...

– Ведаеш, я к-калісьці мучыў сябе, перабіраючы ў д-думках, што не так зрабіў, чаму ты не са мной... Ці, наадварот, што мог бы зрабіць, каб ты мяне п-пакахала. Качаўся, цюаньфа займаўся... У акадэмію мастацтваў п-паступіў, каб побач быць. І ўсё, як казала мая бабуля, "на псы".

Мне сталася ніякавата... Вось ужо не прыходзіла ў галаву, што ў акадэмію Салома пайшоў дзеля мяне... Маляваў жа файна. Хвалілі. Можа, сам сабе прыдумаў, каб апраўдаць, што не давучыўся? Хаця... Чаму менавіта ён не давучыўся? Мне раптам стала горача. Ён жа кінуў вучобу на другім курсе, якраз тады, калі я выйшла замуж.

– Што, і сышоў з акадэміі з-за мяне?

У маім голасе не хапала належнай долі іроніі.

– Д-дурань таму што.

У людзей дурні мруць, а ў нас як з вады ідуць.

Мацей пацёр запясце, абматанае вечнымі фенечкамі, і неяк надта злосна пакрывіў рот... Непрывычна злосна.

– А потым я п-проста зразумеў, што гэта ўсё не мае значэння. Што раблю, што не раблю... Хоць са скуры вылузаюся. Гэта як спрабаваць п-прарасціць зерне, у якім няма зародку расліны. Бес-ка-рыс-на...

Жалезны цмок страшэнна загрукатаў, выпаўзаючы з тунеля на святло. З ягонага чэраваываліўся натоўп. Некаторыя цікаўна на нас азіраліся: нешта такое, адчайнае, было ў застылым твары майго... ну, не зусім майго, айцішніка. Бач, як разьбу сарвала ў чалавека... А проста я ўжо тыдзень не дазваляла яму прыходзіць. І ўвогуле... Так, без дапамогі Мацея нельга выратаваць Віталя... Але ну не магу я зараз быць з іншым. Дазваляць нават датыкацца да сябе. Толькі не цяпер, калі мяне нібы ахутвае так і не забыты за сем гадоў пах мокрай ад дажджу курткі, мроіцца дотык іншых вуснаў... Прабач, Мацейка, але закаханыя – самыя страшныя эгаісты.

Я ўспомніла Юдзіф... Тую, біблейскую, што пайшла ў шацёр да варожага ваяводы Алаферна, каб пасля ночы кахання адсячы яму галаву.

– Давай на вуліцу выйдзем, пагаворым... Ну што ты як маленькі.

І ён пайшоў за мной. Як на вяровачцы. І мне зусім-зусім не было сорамна. І зараз я скажу яму ўсё, як прасіў Віталь...

– Ты здагадаўся, як расшыфроўваць доктараў сшытак?

Мацей недаверліва ўгледзеўся ў мае вочы, можа, думаў, што я жартую. Бог мой. Я яшчэ ніколі не адчувала такой страты пачуцця гумару.

– Ведаеш, неяк настрою ў мяне не было т-той лабудой займацца.

Мы стаялі на праспекце, ля плота з алюмініевых шчытоў, за якімі стукала-грукала будоўля на замежныя грошы. Хутка ў гэтых груваcткіх вуллях усе соты запоўняць грашавітыя па нашых мерках прыхадні. На банеры, прымацаваным да плота, красаваўся праект будучай забудовы, якую наш далёкі продак прыняў бы за загон для цмокаў.

– Калі расшыфруеш, я паеду з табой за мяжу, як ты марыў.

Мацей ускінуў галаву, ягоныя вочы незразумела бліснулі.

– Г-гэта як у казцы, бязглуздае заданне для малодшага царскага сына? Вырасціць к-каменнае дрэва, прынесці грэбень русалкі, узараць п-поле на запрэжаных у плуг медзвядзях... Навошта табе тыя запісы? Фармацыяй занялася?

Корвус сказаў – даць праўдападобнае тлумачэнне.

– Ну, лічы бязглуздым заданнем. Тым больш самому ж цікава яшчэ нядаўна было. Але... Люцыян Корвус – рэпрэсаваны пры Сталіне. Сядзеў, напэўна ж, з іншымі беларускімі навукоўцамі ды творчай інтэлігенцыяй. Памятаеш, я казала наконт праекта сайта пра ахвяр рэпрэсій? Уяўляеш, колькі важнага дзед Віталя мог зашыфраваць! Імёны катаў і ахвяр, падрабязнасці допытаў...

Салома пацёр нявыспаны твар. Канцы паласатага шаліка біліся ў паветры. Сёння быў адзін з самых халодных дзён лета, збольшага спякотнага да адурэння. Вецер штурхаўся, як ахоўнік у вельмі дарагім клубе, куды лезе шантрапа.

– У мяне п-пакуль і здагадак няма наконт шыфру. Ніякай сістэмы...

– А ты скарыстай тую праграму, што вы распрацоўваеце. Як яе... “Агата”?

Спадзяюся, мой голас прагучаў дастаткова абыякава. Але Салома напружыўся:

– Ты ж ніколі не цікавілася маёй п-працай... З чаго ўзяла, што “Агата” можа штосьці расшыфраваць?

Я апусціла вочы.

– Ты сам казаў...

Спазяюся, што і праўда казаў, я ўсе айцішныя размовы прапускала міма вушэй.

Мацей змрочна маўчаў. Ледзь паспеў адхінуцца ад чарговага раварыста – дарожкі для ровараў на новым праспекце парабілі, а пазначыць забыліся. Вось і мяшаюцца пешаходы і ездакі, кожны перакананы, што ў сваім праве.

– “Агата” напэўна дапамагла б. Але я не магу ёй скарыстацца. Я – т-толькі адзін з яе стваральнікаў. Ну, як бы табе пат-тлумачыць... – Мацей паварушыў у паветры пальцамі, нібыта хацеў злавіць нябачную павуцінку. – П-памятаеш свой улюбёны серыял “Грым”, пра паляўнічых на пярэваратняў? Сем ключоў, на кожным – частка карты, і т-толькі склаўшы ўсе, можна знайсці скарб. Нас не сем, нас чацвёра. Кожны распрацоўваў сваю ч-частку праграмы. А ўсё ўцале ведае т-толькі кіраўніцтва. Ды каб я і ведаў... Гэта ж яшчэ ў стадыі т-тэставання, карпаратыўная таямніца.

У мяне ажно слёзы навярнуліся на вочы ад крыўды – няўжо ўсё ляснецца! І Корвус змушаны будзе хавацца надалей і, каб уберагчы мяне, адмовіцца ад сустрэч...

– Слухай, не трэба мяне грузіць. Ключы, таямніцы... Проста зрабі мне падарунак. І... я з табой паеду.

– У якасці к-каго?

Салома быў амаль жорсткі. Мне аж сталася няўтульна. Ён ніколі не быў жорсткім са мной.

– Ты зрабі, а пасля вырашым.

Ці было мне сорамна за падман?

А чаму мне мусіла быць сорамна? У Мацея ў любым выпадку застанецца прэстыжная праца, слава, грошы. Урэшце, невядома, наколькі ягоная апантанасць мною праўдзівая. Я ж для яго яшчэ са школы – прыз. Пацвярджэнне статусу. Дзяўчынка, якая насміхалася і грэбавала. А ён яе дабіўся.

– Мне т-трэба яшчэ які рукапіс твайго доктара Люцыяна мець, – змрочна прамовіў Мацей, чамусьці не спяшаючыся радавацца маёй міласці. — На гэты раз – чытэльны.

У маёй душы не проста птушка радасці ажыла – а рознакаляровыя калібры затрапяталі крылцамі над слоікам нектару. Ёсць надзея... Ён зробіць. Ён такі, упарты....

– Паехалі ў пятніцу са мной у Старавежск. Сам падбярэш, што трэба.

Я адчула сябе дасведчанай шпіёнкай. Нікому ў галаву не прыйдзе, што планую сустрэцца з былым мужам, раз еду з актуальным каханкам.

– Гэта ж д-дзеля яго, дзеля К-корвуса?

Шэрыя вочы Мацея былі зусім хворыя. Вочы, якія я так часта бачыла побач, прачынаючыся, і ведаю кожную зморшчынку ля іх.

Але ж узор на шпалерах над сваім ложкам я ведаю яшчэ лепей. Шафа, збор твораў Картасара, Мацей Саламярэцкі з ноўтам на каленях... Фон, на якім цеплілася маё жыццё – нецікавае мне самой... Пакуль не гукнуў маё імя Белы Трактарыст.

Мне належала ўсміхнуцца і супакоіць Салому. Але я маўчала, і калібры патроху бляклі, шарэлі і падалі ў сухую траву. Мой позірк быццам дажджом прыбіла да асфальту, на якім была намаляваная белая тлустая паласа, але незразумела, з якога боку ад яе можна ісці, не баючыся патрапіць пад колы.

– Не п-пераймайся. Ты ўсё роўна маніць не ўмееш. Дык і не т-трэба. Зраблю, што магу. П-паедзем у Старавежск, я машыну сваю ўжо забраў.

Зноў моцна заікаецца... Які горкі голас... Быццам палын, што вырастае на падмурку разбуранага дома.

Усё будзе, як раней... Нічога не будзе, як раней.

Што я раблю? Што я ведаю? У што веру?

Ведаю – Корвус у небяспецы. З-за сваёй клятай спадчыны. Дзед Віталя, той самы Люцыян Станіслававіч, герой арыджынала “Апошні прытулак”, здаецца, усё ж зрабіў небяспечнае акрыццё. Магчыма, псіхатропнае рэчыва. І нейкія магутныя сілы (хто канкрэтна, мне лепш не ведаць), упэўненыя, што дзед перадаў рэцэпт у спадчыну ўнуку разам з усім астатнім.

Віталя ледзь не забілі. Падрабязнасці раскажа пасля.

Мусіў хавацца за мяжой, але ўжо не паспявае замятаць сляды.

Пераследнікі паведамілі: атрымаюць рэцэпт – назаўсёды пакінуць у спакоі. Вось і прыехаў, каб разабрацца. Бо вырашыў, што сакрэт у чорным сшытку, які разам з некаторымі іншымі паперамі яму калісь аддаў дзед на захаванне. Сам Віталь не мог даць рады ў расшыфроўцы і падкінуў сшытак назад. Хай забіраюць, хто захоча... Яны ж там усё ператрасаюць час ад часу.

Не дапамагло... Сшытак не забралі. Пакінулі на самым відочным месцы. Відаць, не змаглі прачытаць і падумалі, як і мы, што гэта проста гульня. А можа і адмысловы здзек. Якая сур’ёзная праца будзе выглядаць, як ілюстрацыя да кампутарнага квэсту?

А тут цётка мар’інагорская, адзіная сувязь з мінулым, паведаміла, што я еду па спадчыну... Што не веру ў яго смерць, бо пабачыла і пазнала. І Корвус не мог утрымацца, прыехаў... Прыдумаў трук з рэкламнымі абвесткамі...

Вядома, калі я пачула пра кляты сшытак, адразу ўспомніла пра Мацея. Тым больш сам сшыткам зацікавіўся, і досвед мае ў такіх квэстах. І, аказваецца, ягоная айцішная кампанія настолькі крутая, што Корвус і пра яе чуў, і пра цуд-праграму.

– Павер, ты мне жыццё перавярнула... – шаптаў Віталь голасам, якім не маняць. – Я б з’ехаў назусім, схаваўся – але не магу без цябе. У мяне

за гэтыя сем гадоў нікога іншага не было. А каб застацца з табой – трэба пазбавіцца пагрозы.

Нашае спатканне ў Старавежску, пад наглядам гіпсавых гномаў з вампірскімі ўсмешкамі, было абрывістым, быццам сонечным днём едзеш па прысадах, і сонца выглядае між чорных сілуэтаў дрэў, і слепіць цябе да млосці чаргаванне святла і ценяў...

А, так, па пысе я яму заехала. І не адзін раз. За сем гадоў гора. Ён толькі жаласна ўздыхаў, не спрабуючы адсунуцца ці прыкрыцца. А я заўважала ягоныя шнары – адзін забягаў па запясці ў рукаў, другі паказваўся з-пад барады... Ён праўда патрапіў у аварыю... Мог загінуць...

Тая кабета ў метро, цыганка, мусіць, нагадала правільна, што лёс мне цалавацца з нябожчыкам.

Дарэчы, Віталь запэўніў, што ніякіх фанфікаў пра дзеда не піша. Ён увогуле мала пра яго ведае. І лепш бы не ведаў ніколі...

У фанфіках пра патраплянцаў часта сустракаецца няўмелы прыём: сяджу я, фікрайтэрша, нікога не чапаю, раптам бац – цямнее ў вачах, я падаю, стукаюся галавою і прачынаюся ў целе Гары Потэра. Альбо Герміёны Грэйнджэр. І панеслася... Бо патраплянка, вядома, усё пераробіць на свой капыл, каго трэба, пакарае, каго хоча, спакусіць.

Можа, і Корвус – ужо не той Віталь, які вучыў мяне спяваць калядкі, а нейкі падсяленец? Альбо я, калі пастараюся, успомню сябе сапраўдную, якую закінулі ў гэты нязграбны фанфік, у якога нават беты няма...

Усю дарогу да Старавежска мы з Мацеем прамаўчалі. Шыкоўны “Форд” колеру шампанскага падскокваў на шнарах прасёлкавых дарог, што мусілі скараціць нам шлях. Бавіць час дапамагала чытанне на планшэце каментаў да арыджынала “Апошні прытулак”. Бруднага Ублюдка лаялі за сцэну з апошняга раздзела, дзе герой праводзіць тыпу сэанс псіхатэрапіі для Яўгеніі Равіновіч, загадчыцы шпіталя. Дазваляе сябе пабіць. Ха-ха, фемдом на такім ханжаскім сайце! Тлумачылі грубыя памылкі, раілі аўтару, якія падручнікі пачытаць па псіхалогіі... Парады былі відавочна прафесійныя. Мяне заўсёды здзіўляла, колькі сярод маіх пацыентаў, пардон, фікрайтэраў людзей з медыцынскай адукацыяй. Вось ужо дзе патрэба ў эскапізме... Затое як рэалістычна апісваюцца забойствы, смяротныя хваробы і катаванні! На месцы Ублюдка я б выдаліла пасля такіх здзекаў свой фанфік, але гэты аўтар не выдаліць. Дарэчы, пасля маіх патрабаванняў ён удакладніў, што таксама медык. Можа, працаваў разам з Люцыянам Корвусам і слухаў ягоныя расповеды?

Дом на Энгельса сустрэў цішай. Стары будынак нікога не вычэкваў, не спаў, ён быў мёртвы, нібыта апошняга дамавіка накармілі перасоленай яечняй, і той перабег да больш рупных гаспадароў. Ні блізнючак, ні іх сястры. У пакоі, дзе Люба і Даша вышывалі сакральны радзінны рушнік, прыбрана ўсё, пакрывала на ложку нацягнутае раўнютка. Хіба што на падваконні самотна зелянее забыты скрутак нітак мулінэ.

Пах старой паперы і зёлак...

Мацей моўчкі прыцягнуў у залу ноўт і кампактную штуку, якая магла сканаваць, друкаваць і, магчыма, выконваць бальныя танцы. Расклаў на белым карункавым абрусе па падлеткаваму яркія рознакаляровыя флэшкі... Я гэтак жа моўчкі – хоць маўчанне ўжо канкрэтна напружвала – дастала з шуфлядаў рукапісы і лісты Люцыяна Корвуса. Доктар з фотаздымка зноў працяў мяне чамусьці знаёмым позіркам, ад якога замірала сэрца...

Цікава, а ён сам хацеў, каб ягоныя паперы расшыфравалі? Вунь Тэсла спаліў свой архіў, сцвярджаючы, што чалавецтва не гатовае да ягоных вынаходніцтваў. Чытала гіпотэзу, што не Тунгускі метэарыт паклаў тайгу, а эксперымент Тэслы з электрамагнітнымі хвалямі. Віталь калісь, у часе сумесных вандровак, сцвярджаў, што наш Наркевіч-Ёдка па мянушцы "лоўчы маланак" быў не менш магутны за Тэслу і ў сваіх маёнтках на менскай Цнянцы і ў Наднёмане цэлыя палі займаў металічнымі штуковінамі для гульняў з электрычнасцю.

Мацей між тым пачаў штосьці сканаваць, загружаць. А я ціхенька выйшла з дому ў вецер, дождж і шчасце. Таму што на мой мабільнік прыйшла кароткая эсэмэска. Тры літары і клічнік. "Але!"

...Рудая барада калолася, як шчотка для абутку, густое вецце бэзавых кустоў чаплялася за швэдар, а я ледзь магла ўцяміць сэнс словаў.

– Нікому не вер, мне вер... Каралеўна мая...

Па дарозе назад я дарэмна рыхтавала адказ – дзе так затрымалася, Мацей нават галавы не павярнуў. На маніторы ноўта мітусіліся знаёмыя значкі з дзедавага сшытка, а Салома перагаворваўся тым жа нязвыкла злым голасам па гарнітуры айфона.

– Я ведаю, што гэта сакрэтная інфармацыя. Я ўсведамляю, што гэта п-парушэнне. Уся адказнасць на мне, Марго. Т-так, я ведаю, што раблю. Не крычы.

Цікава, што адчувалі тыя прынцэсы, дзеля якіх на рысталішчы біліся рыцары? Ты такая сядзіш у зацягнутай шоўкам ложы, трымаеш спіну выпрастанай, а набеленую фізіяномію – ганарыстай. І хтосьці з гэтых мужыкоў унізе, скрываўлены, потны, злы, смярдзючы – хутка падымецца сюды і атрымае цябе. Ці не было якой-небудзь прынцэсе невымоўна брыдка?

Мне дык дакладна было б. Як і ад Мацеевых гераічных намаганняў прывязаць мяне да сябе.

– Ірынка, т-трэба загрузіць больш малюнкаў. Штосьці не сыходзіцца. Нібыта нейкай ст-таронкі ў сшытку не хапае.

Пальцы Мацея пырхалі над клавіятурай. Канцы фенечак на запясцях матляліся. Я зачапілася вокам за абсечаны мезенец.

– Варта на могілкі схадзіць. Там на помніку доктара, кажуць, якраз такая выява, як у ягоным трактаце, і напісана штось.

Інфармацыю зліў Корвус – ён жа даўно над сшыткам біўся. Але нават намаляваць не браўся, як знайсці помнік у некропалі, дзе захаваліся магілы яшчэ сямнаццатага стагоддзя. Трэба звяртацца да мясцовых...

Цяпер Арыядна Мартынаўна сустрэла нас як дарагіх людзей. Тым больш я прынесла ёй стос грамат і газетных выразак з архіва ейнага куміра. А пачула пра адведванне магілы – ледзь не расплакалася расчулена. Умудрылася яшчэ і напаіць нас кампотам з трускавак і напхаць мне ў кішэні грыбочкаў з цеста – кранальнае правінцыйнае печыва.

Старавежскія могілкі нагадвалі крэпасць, якая ўсур'ёз збіраецца бараніцца. Агароджа з чырвонай цэглы, там-сям пачарнелай. Высокія цёмныя дрэвы шчыльнай сцяной, шаты да шатаў. Пабеленая брама з гербам, ад якога засталася толькі замазаная цэментам пляцоўка і кавалачак геральдычнай лілеі, што вытыркаўся з-пад цэменту. Калі прыгледзецца, па ўсім версе брамы цямнелі сляды ад збітых літар "Никогда не забудем подвиг народа".

Спадарыня Арыядна па-свойску раскруціла дрот на кcovaных варотцах брамы і энергічна тузанула іх, нібыта запускала на ўласны падворак.

Ціша, прыцемак і тужлівы спакой... Цёмныя ствалы таполяў, з-за якіх, здавалася, нехта выглядае. Каменныя анёлы са сляпымі вачыма быццам паварочваюць за табой галаву... Палын і дзядоўнік на закінутых магілах нахабна прытуляюцца да іржавай агароджы, быццам тубыльцы з-за плота назіраюць за нежаданымі прыхаднямі. Ды яшчэ і цяжкі туман падымаецца ад зямлі, робячы пейзаж ідэальным для здымкаў містычнага трылера.

Я сто разоў паспела пашкадаваць, што абула не красоўкі, а чорныя скураныя туфлі з раменьчыкамі, якія па-школьнаму перацягвалі ступакі. Трава была мокрай, гліна слізкай. Я спатыкалася аб камені, што калісьці, можа, роўненька ляжалі на сцежках між магіл, пакуль нябожчыкі не выштурхнулі іх наверх.

Крумкачы і вароны лена абсыпалі нас лаянкай, хаця што ім было да нас. Яны ў густых шатах мелі горад і вырашалі асабістыя справы. Цяпер, падобна, кагось са свайго племя судзілі, а той упарта адмаўляў віну, яшчэ больш злуючы супляменнікаў.

Спадарыня Арыядна адчувала сябе ў гэтым дэкадансным свеце цалкам утульна. Мне падалося, што са многімі магіламі ветла віталася – кіўком галавы, усмешкай, лёгкім ласкавым дакрананнем да парослага мохам каменя.

– У такіх месцах самыя няверуючыя пачынаюць верыць, – амаль весела шчабятала ваяўнічая краязнаўка, да яе ружовага вязанага берэта прыліп брунатны лісток. – Вунь там капліца стаяла, зруйнавалі... А вунь ля той магілы што здарылася...

Бібліятэкарка кіўнула на сучасны помнік з чорнага граніту, які нібыта праштурхаўся на сваё месца між магіл пазамінулага стагоддзя.

– Хавалі адну нашу жанчыну, у рэстаране адміністратарам працавала. Сваякі купілі тут участак, на месцы закінутага пахавання. Ненавіджу гэтый звычай – хаваць нябожчыкаў над нябожчыкамі...

У гэтым я са спадарыняй Ружовы Берэцік была згодная.

– Дык вось, на пахаванне прыехаў сваяк з Мінска, мастак. Калі труну апускалі ў яму, адна вяроўка абарвалася. Мастак кінуўся падтрымаць, паслізнуўся і ўпаў сюды, на агароджу...

Агароджа нагадвала іржавыя дзіды.

– Яму прабіла сэрца... Проста на могілках і памёр.

Твары нябожчыкаў на патрэсканых, пабляклых медальёнах, здавалася, маюць у рысах штосьці нечалавечае. Раса перапляла павуцінне, што аплятала хмызы і быльнёг, у знізаныя перлінамі карункі, нібыта злодзеі груба здзіралі срабрысты строй са схопленай князёўны і раскідалі паўсюль ашмёткі.

Доктар Корвус спачываў на ўскрайку могілак, над адхонам. Унізе цякла непрыветная ручаіна, зарослая аерам. Здавалася, гэта ў цёмнае цела цмока паўтыкалі зялёныя стрэлы і дзіды. Гранітная пліта была разлічана на дваіх. Люцыян Станіслававіч Корвус, 1911 – 2005, Яўгенія Міхайлаўна Корвус, 1925 – 1989. Ніякіх фотаздымкаў. Затое выграваваны надпіс на латыні і тыя незразумелыя загагуліны, што і ў сшытку. І малюнак разлапістай расліны.

Мацей пачаў фоткаць планшэтам, ледзь не наскокваючы на гранітную пліту. Толькі спытаў нашу Арыядну, што з багавейлівасцю папраўляла кветкі, штучныя і жывыя, якіх было багата на магіле:

– А чаму такі малюнак?

– Гэта сам Люцыян Станіслававіч распарадзіўся. Жонка ж раней за яго памерла, дык на двох і падрыхтаваў месца. От бедаваў ён па ёй, ажно счарнеў...

– А хто яна была, Яўгенія Міхайлаўна? – я старанна адганяла падазрэнні, што пагражалі змяшаць рэал і трызненні.

– Таксама дактарыца, родам адсюль. Разам з мужам працавала ў дыспансеры. Дом, у якім яны з Люцыянам Станіслававічам жылі, яшчэ яе прадзед будаваў. Яўгенія Міхайлаўна ад раку памёрла. Доктар Корвус да апошняга спадзяваўся вырataваць.

Арыядна Мартынаўна скрушна ўздыхнула.

– Толькі ад смерці яшчэ ніхто не адкупіўся. Яўгенія Міхайлаўна апошнія гады так пакутвала, так пакутвала... Муж яе ўжо і ў бальніцу не аддаваў, сам лячыў. Каб не ягонае лячэнне, яна б гады на тры раней памерла. Марына, суседка, расказвала, што тая ўжо і прасілася ў яго – адпусці, не мучай мяне і не мучайся сам...

Сярод кветак ляжалі самыя дзіўныя рэчы: плюшавы мядзведзік, наскрозь вымаклы, кніжка ў мяккай вокладцы, старонкі пажаўцелі і пайшлі хвалямі... Зрэлі два апельсіны... Блішчэў танны спартыўны кубак з дзвюма скурчанымі ў бегу фігуркамі, нават маленькі глобус павярнуўся да нас дзвюма Амерыкамі.

– А гэта пацыенты пакідаюць, якім Люцыян Станіслававіч дапамог! – заўважыла маё здзіўленне Арыядна. – Кубак Генка калісь прынёс. Ягонай матцы ў Мінску, у бальніцы, сказалі – сын ніколі хадзіць не будзе. А Люцыян Станіслававіч на ногі паставіў... Ды так, што Генка ў дзясятым класе раённыя спаборніцтвы па бегу на доўгія дыстанцыі выйграў. А там кніжка Артура Пагранчука. Паэт, у мінскім выдавецтве працуе. Доктару Корвусу нізку вершаў прысвяціў.

– Фетышызм нейкі... – прамармытала я. А Мацей нечакана рэзка азваўся:

– Не варта асуджаць людзей, якія хочуць матэрыялізаваць сваю ўдзячнасць на адрас таго, каму дзячыць запозна.

Скажыце, які спачувальны...

– А... як Яўгенія Міхайлаўна выглядала? Чаму яе партрэта няма? Нават у доме ніякіх яе фотаздымкаў.

Я ніяк не магла пазбавіцца ад здагадкі, падказанай фанфікам "Ордэн захавальнікаў", наконт асобы Корвусавай жонкі.

Бібліятэкарка задумалася:

– Мусіць, Люцыяну Станіслававічу было цяжка глядзець на яе выявы, вось і схаваў. А выглядала Яўгенія Міхайлаўна...

Арыядна кінула зацікаўлены позірк на мяне.

– Ды вось як вы! Кажуць, у маладосці і валасы ў яе былі, як у вас, рудаватыя. Яна зусім рана ссівела. А так – вы вельмі падобныя... Мы думалі, што вы стрыечная ўнучка Яўгеніі Міхайлаўны, пакуль Марына не расказала, што гэта ваш загінулы муж быў унучатым пляменнікам Люцыяна Станіслававіча.

Мацей скончыў фоткаць і выпрастаўся.

– А як сам доктар памёр?

Арыядна паправіла пасму сівых валасоў, што выбілася з-пад берэціка.

– Дакладна невядома.

Мацей здзіўлена хмыкнуў:

– Як гэта – невядома? А што медэксперты ў заключэнні напісалі?

Арыядна разгублена глядзела на нас светлымі блізарукімі вачыма праз тоўстыя акуляры.

– Хіба вы не ведаеце? Гэта, так бы мовіць, сімвалічная магіла...

– Што?

Мне зрабілася вусцішна: няправільныя нябожчыкі працягвалі містычнае шэсце па маіх нервах...

– Люцыян Станіслававіч да апошняга быў рухавы, моцны, хоць і хударлявы. Часта хадзіў вунь туды, збіраць зёлкі...

Арыядна махнула рукой у бок адхону, дзе за рэчкай туманілася поле, парослае хмызамі, а ў далечы сінела крапасная сцяна лесу...

– Тут балаты, далей – Волатава пушча, – патлумачыла Мартынаўна. – Там, у пушчы, і працавалі Корвусы. Далекавата, са Старавежска службовы аўтобус хадзіў да шпіталя. Зачынілі яго яшчэ ў дзевяностых, без працы людзі пазаставаліся. Там жа рэспубліканскі туберкулёзны дыспансер быў, плацілі добра, не тое, што ў раённай бальніцы. А Люцыян Станіслававіч любіў пешкі дабірацца. Кіламетраў пятнаццаць – а ён, нават ужо на пенсіі, з кульбачкай, за пару гадзін даходзіць напрасткі. Ведаў сцежкі ўсе праз балаты, ногі доўгія, не хадзіў – лётаў...

Арыядна расчулена ўздыхнула.

– А ў дзевяноста чатыры ўвага ўжо не тая, сілы не тыя... А ён усё травы збіраў. Аднойчы пайшоў – і не вярнуўся. Бачылі, як кіраваўся ў саменькую дрыгву... Потым, як палезлі самыя адчайныя шукаць, знайшлі на купінах кульбачку, торбу, шапку...

Не хапала яшчэ знайсці сляды ад лап сабакі Баскервіляў альбо капытоў дзікага палявання караля Стаха. Я адвяла позірк ад злавеснага туманістага пейзажу, што зацягваў позірк, як любое злавеснае бяздонне, ці гэта старая студня, ці бясконцы серыял “Звышнатуральнае”.

Можа, доктара загубіла магрэтка, чырвоны дракон? Рэдкая кветка, за якой пацягнуўся ў гіблае месца.

– А што цяпер у тым дыспансеры?

– Ды разваліны, мусіць, – паціснула плячыма Ружовы Берэцік. – Хадзілі чуткі, хтось хацеў выкупіць пад пансіянат адпачынку, тады меркавалі адчыніць у ацалелым корпусе вытворчасць кукурузных палачак... Нібыта нейкія бандыцкія разборкі там адбываліся. Цяпер узялі пад ахову... Гэта ж гістарычная каштоўнасць, маёнтак Дзякловічаў. Хоць ад даўніны нічога не засталося. Гісторыкі прыязджалі, археолагі, пасля ледзь не плакалі ад таго, што ўбачылі. І аднаўляць, кажуць, няма чаго. Я толькі ў маладосці там была: муж да Люцыяна Станіслававіча вазіў, калі ў мяне пнеўманію вылечыць не маглі.

Апошні Прытулак набываў дужа канкрэтныя рысы.

– А вы ніколі не спрабавалі пісаць на гэтую тэму? Скажам, раманы? – вусны мае знямелі ад трывогі. Мартынаўна ахвотна заківала галавой:

– А як жа, пісала! Колькі разоў пісала! І я, і наш вядомы краязнавец Пётр Піліпавіч Калейка, і сам Люцыян Станіслававіч, і ксёндз айцец Станіслаў з суседняга Наўя! Пра тое, што Старавежск памылкова апушчаны да статуса райцэнтра – у яго ж Магдэбургскае права раней чым у Мінска з’явілася. Што ратушу трэба ратаваць. Рэстаўраваць, а не аддаваць дзялкам пад гатэль. І пра маёнтак Дзякловічаў пісалі... Раёнка друкавала,

“Краязнаўчая газета” друкавала... Карэспандэнты прыязджалі. Вядомая журналістка Ганна Барэцкая нават цэлае расследванне пра лёс ратушы ўчыніла!

Арыядна Мартынаўна расчырванелася, уся такая натхнёная, ваяўнічая – Мацей нават трохі адсунуўся ўбок. Не любіць ваяўнічых энтузіястаў.

Не, цётачка Ружовы Бярэцік не падобная да заўсёднікаў інтэрнэту і аўтара сумна-іранічнага і такога шчымлівага аповеду пра Ордэн Захавальнікаў і ягонага Магістра... І ўжо наўрад назвалася б яна Брудным Ублюдкам. Да гэтага панкаўскага ўзроўню яе самаіронія відавочна не сягае.

– А я чытала, што Дзякловічы мелі падвойнае прозвішча, другая частка – Корвус, – закінула апошнюю зачэпку я.

– Люцыян Станіслававіч казаў, проста цёзкі, – няўважна азвалася Арыядна. Яна ў гэта верыла. А вось я пасля ўсяго – не.

Могілкі я ўвогуле люблю, старыя, дэкадансныя, але адсюль гатовая была проста бегчы. Вусцішна, нібыта над месцам уласнай магілы прайшлася.

Мокры ад дажджу і расы плюшавы мішка ля помніка звар’яцеламу доктару на развітанне падміргнуў мне гузічным вокам.

Нават Корвусаў дом, прапахлы цвіллю і лекамі, падаўся ўтульным пасля мясцовага некропалю. Мы з Мацеем ужо ведалі, што тут зусім адны – Дашу і Любу зноў паклалі ў бальніцу, і сястра Марына адправілася прыглядаць за імі. Таму абед быў на мне – не таму, што месца кабеты на варыўні, а таму, што мужчына, які не ленаваўся гатаваць, заняты. У лядоўні знайшліся яйкі, у шафцы – алей “Мечта козацкая”. Старая патэльня са здымнай ручкай была старанна вышмараваная. А хлеб і каўбаса засталіся з ссабойкі. Я смажыла яечню і ўяўляла, што раблю гэта для Віталя... Цікава, дзе ён зараз? Уяўленне намалявала Корвуса, які ляжыць у кустах, ухутаны ў гэткі спецназаўскі плашч-халат, і глядзіць на гэтае вакно з бінокля, і думае пра мяне... Ледзь яешню не спаліла.

Калі я прынесла патэльню ў залу, заціскаючы ў кулаку два відэльцы – а аблом талеркі халоднай вадой мыць, з патэльні з’ямо, – Мацей, прыўзняўшыся, навісаў над кампутарам, як дрэсіроўшчык над насваволіўшым тыграм. На маніторы шалёна беглі радкі... І на гэты раз яны былі кірыліцай. Няўжо атрымалася?

Я паставіла, ледзь не кінула, патэльню на вольны край стала, не заўважыўшы, што брудныя кроплі тлушчу ўпалі на бялюткі абрус.

У той жа момант бег радкоў спыніўся.

“Quod nocet, non est poena mortis et sic vita – suus, a dolore vero – id est vitaque morsque – mendacii”.

“Ісціна – гэта боль, але адсутнасць болю азначае смерць, а значыць, жыццё – гэта боль, а смерць – гэта мана”.

Ніфіга сабе заблытаныя дэфініцыі... І, здаецца, гэта надпіс з надмагілля Корвусаў. Значыць, недарэмна схадзілі...

Я падняла на Мацея шчаслівыя вочы. Той змрочна кіўнуў.

– Вось ён, т-твой т-трактат... Зараз выведу, к-калі паперы хопіць...

Я ледзь не раздушыла мабільнік, калі пасылала эсэмэску... Усяго дзве літары: “ОК!”

Не паспела аддрукавацца апошняя старонка, у дом увайшлі. Трое самавітых мужчын у плашчах, пры гальштуках. Мацей быў зрабіў хуткі рух

да флэшкі, што тырчэла ў худым баку ноўтбука, але адзін з прыхадняў яго апярэдзіў, прытрымаўшы за руку.

– Не спяшайцеся, Мацвей Аляксандравіч. А то яшчэ што-небудзь выпадкова можаце сцерці.

Саламярэцкі рэзка вызваліўся, так што фенечка садралася... Краем вока я заўважыла пад ёю доўгі белы шнар, быццам яшчэ адна фенечка, што ўрасла пад скуру. Асэнсоўваць, што адбываецца, не выпадала. Нехта абняў мяне за плечы і вёў да дзвярэй, нашэптваючы на вуха штось надзвычай захапляльнае... Я паспела яшчэ пачуць кінутае мне ў спіну горкае:

– Д-дарэчы, Ірынка, Віталя К-корвуса ніколі не існавала. Сп-пытай пра гэта ў спадара Яўгенія Кап-пытко.

Апошняе, што я ўсвядоміла, аказаўшыся за весніцамі, – са мной Віталь, які не збіраецца нікуды знікаць, а да грудзей я прыцiскаю каштоўны трактат. Які ў мяне чамусь ніхто не парупіўся адабраць.

Над балотам да Волатавай пушчы поўз туман, нібыта вялізны прывід неахвотна вяртаўся да сваёй магілы.

*(Заканчэнне будзе).*



Людка Сільнова



...ад сузірання, мілы брат, –
да дзеі слоў!..

# У канцы будуць горы

## СВЕЖАЕ ІМЯ

Кіслы, як антонаўка ўлетку,
Гарадок...
Вёска Селівонаўка –
Сіні васілёк.

Асвяжае памяць мне
Імем – маладым, свежым –
Ад Адама як! –
Зялёны наліў.

Кусь! – і Маладзечна аж
Мне відаць здалёк!..
Вёска Селівонаўка,
Сіні васілёк.

*2017 г.*

## *БЕЛАЯ РУЖА*

*Таццяне Сапач,*
*беларускай паэтцы*

А магло ўсё быць іначай: святы
Доўжыцца, і цешыцца бабуля ўнучкай...
Мы па Тані гучна плачам: я, ты, –
Адкідаем снег – нагой, а хто анучкай.

Гэтак сумна на кладах вясною!
Гэтак традыцыйна і фармальна:
– Ты фарбуй, а я пакуль пастою,
Абцяру яе партрэт авальны...

– Малады зусім памёр, за сорак...
– А да гэтага ніхто не ходзіць.
Божа ж божа! Бачыш, зарасло як?..
Тыя словы рэхам доўга бродзяць

У душы маёй, яшчэ не сталай –
І не маладой ужо пры гэтым...
Гэтак плакалі, Таццяны як не стала,
Беларускім нашым колам-светам!

Без яе лістка рудога, Вільні,
Без Шапэна, траў сухіх, тэатра,
Дому і дзвярэй, што адчынілі
Нам дарогу ў Сад, – не далі б рады.

Вобраз твой і створаная казка –
Як чытанне перад сном дзіцятку! –
Застануцца ў памяці нязгаслай
Белай ружай і канцом пачатку.

А магло ўсё быць іначай; Таня,
Ты жывая, ездзіш разам з намі!..

Кажуць – лепшых забірае неба!
Мы ўсе – з горшых, і, відаць, так трэба.

*2016 г.*

## *ЧАСОПІС “ДЗЕЯСЛОЎ”*

Ад сузірання, мілы брат, – да дзеі слоў!
Містычнай, рэлігійнай пагатоў!

Глянь, лодачкі з артыстамі плывуць,
Каб нас у рух містэрыі ўцягнуць...

Каторы год, каторы горад мы
Збіраемся як дочкі і сыны –

Аціхлыя – на свята Дзеі слоў...
– А ты чытаў апошні “Дзеяслоў”?

*2017 г.*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ДА КНІГІ “ГОРАД МІЛАГРАД”

Каб кожны пагартаць быў рады
“Бульвары”, “вулачкі”, “прысады”,
Хадзіць па бруку Мілаграда,
Глядзець з мастоў на вадаспады,
Вам аўтар “места” гэта ўзвёў
З найлепшых сноў сваіх і слоў.

*21.01.2017 г.*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ДА ЗБОРНІКА “ТАМ, ДЗЕ УША СЕРАБРЫЦЦА”

*(Верш, напісаны ў Аўтобусе вандроўных літаратараў)*

Там, дзе Уша серабрыцца, –
Сонца ўстае і садзіцца,
Вецер так сэрца трывожыць,
Кніга старонкамі ходзіць.
Гэта празрыстая кніга –
Тонкім лядком у адлігу,
Шкельцам блакітным і звонкім...
З ранку да ночы старонкі
Нехта нябачны гартае,
Пра Маладзечна чытае.
Потым – кладзе на парог
Чысты, драўляны... Мо – Бог?

Недзе на небе – таксама
Кліча маленькага мама:
“Сынку мой! Сонейка села.
Хутка ўжо ноч... і вячэра
Стыне... ў талерку табе я
Цёплай заціркі надзеі –
Белай і поўнае сілы,
Глянь, апалонік наліла...”

*22-23.05.2016 г. Мінск – Маладзечна – Кушляны – Заскавічы*

## СІНЯЕ І ЧЫРВОНАЕ

Бэз, шыпшына, званочкі,
Васількі і півоні –
Усё Сіняга дочкі
І сыны ўсё Чырвонага.

Мая любая гама!
І любімая музыка!
Мае Тата і Мама,
І сцяжыначка вузкая.

Цераз лес, цераз поле,
Над балотам матэрыі
І над Бібліі горадам –
Новым – у Эзатэрыку.

Барбарыс і вяргіні,
Гладыёлусаў пашчы,
Касачоў пысы львіныя...
У чырвоным і сінім,
Фіялетавым, “зімнім”
Сімвал Тайны гарачай.

## ВОСЕНЬСКІ ЭЦЮД

Пліткі тратуарнай краты.
І лістоўка кандыдата
(“А-чатыры”) ў дэпутаты

На зямлі валяецца,
Смеццем называецца...

Я ўся мокрая іду,
Каб схавацца ад дажджу.

У празрыстым магазіне
Скрозь цуркі на свет гляджу...

## ТРЫ ГАЛУБКІ ЛЯ ПАД’ЕЗДА

Галубкі мне
Нізкім голасам-
Стогнам
Прабурчэлі: “Скончылася ўсё.

Скончылася ўсё. Бур-бур!

У будучыню
Ты глядзі:
Там – яшчэ будзе ўсё!..”

*4.04.2016 г.*

### ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ

Да чаго б гэта вершы так пішуцца –
Нібы самі з асадкі спускаюцца?
На аркушыку дробненька крышацца,
Па магнітных радках разбягаюцца...

Вось разбегліся ўсе! Нібы ластаўкі,
Занялі правады электрычныя,
Што багі ці хлапцы так нацягвалі
Ўсю вясну між слупамі карычневымі...

*2.04.2016 г.*

* * *

Мне здаецца, я мора энергіі,
Яно ў ёлачнай цаццы качаецца
Майго цела, такога нягеглага:
Ледзь кранеш – і нічога не маецца!

*2.04.2016 г.*

### ЦЫРКАЧКА

Ты – хто?
Я – цыркачка з вандроўнага цырку “Шапіто”.

Уцякачка
У тоненькім зялёна-ружовым трыко...

Бога заначка,
Калі пад новыя планы тут не падыдзе ніхто.

*28.05.2017 г.*

### ГАРБАТАЯ ЧАРА

Знайсці ў сабе сілы – і подзвіг зрабіць.
Па-нашаму сёння – той зрух сатварыць,
Які перайначвае ў нечым быццё
(Ці хоць бы прыватнай асобы жыццё)

У бок да Задумы, Закона, Святла...
Дзе ў Людкі – ужо ні двара, ні кала,
Што значыць – адсутны і дом мой, і лёс,
І страшная чара паэткавых слёз...

Гарбатая чара: слязінку яшчэ
Дадаць – і ўся вільгаць у бездань сцячэ.
Расколецца чара, і спрахне метал
Так хутка... як ціхі пралёт матылька.

*6.11.2015 г.*

## *СЁМЫ ЎЗРОСТ*

Дзясятак сёмы размяняла,
Нібы купюру я на днях
З такім вось дзіўным наміналам –
“Сямёрка”... Проста на вачах
Калег сваіх, з радні найродных
І незнаёмцаў Богу ўгодных.

Адна як перст. Сціскаю ў жмені
Гады – манеты без наймення...

Як вецер дзьме! У пераходзе
Падземным гулка. Думкі ў лёдзе,
Нібы ў глазуры белай рыба:
З далечыні, на продаж хіба...

Ўсё гэта я?.. Паэт ва ўзросце
Складаным робіцца ці простым –
Як немаўля, што, без адзення,
Увесь – адчай, увесь – здзіўленне
Перад чужой магутнай сілай?..

Я ў сёмы ўзрост жыцця ўступіла.

*3.05.2017 г.*

## *ЗВАРЫЛА КАШУ-ГАРБУЗЯНКУ*

***I***

Зварыла кашу-гарбузянку,
Бо сёння Ўсіх Святых гулянка!

І моладзь (“гэткая й такая!”)
У страшных мерцвякоў гуляе.

Аматарцы жывых мелодый,
У двор мне лепей не выходзіць...

***II***

Нячысцікі і крывасмокі,
Да раніцы ім будуць скокі!

У клубах языкі развяжуць
Ім журналісты і пакажуць

На хатнім – днём, а ноччу – яркім
Экране косці, кроў, падвязкі...

***III***

Згадаю бабу-партызанку.
Вайной Абрэмку, ці Абрамку,

Жыдоўскага падлетка (збег ён
Тады з "Даўгінаўскага пекла"),

Шмат дзён у лазні ратавала
І людзям іншым перадала –

Святым папраўдзе! – хутаранскім
Шматдзетным сем'ям падпалянскім...

***IV***

Зварыла кашу-гарбузянку,
Бо сёння – ўсіх святых гулянка.

Успамінаць я буду ціха
Сялян-ратаўнікоў усіх тых.

*1.11.2015 г.*

## ЁЛКА

Маці ёлку паламала
На галіны і сучкі,
На пляцоўцы іх запхала –
Ўсе! – у чорныя мяшкі.

Я да сметніцы па снезе
Доўга ёлку-цуд нясу:
Лёсам сімвалаў і брэндаў
Развярэджваю душу...

Ёлка паміргала ў хаце –
Ціха ў Вечнасць адышла.

Бацька-Час, Прастора-маці,
Вам не адагнаць Дзіцяці
Ад Святочнага стала!..

Маці ёлку паламала –
У жаданні чысціні.
Нешта важнае прапала...
Без маёй – яе? – віны.

*23.01.2016 г.*

## ПРЭЧ З БАЛОТА!

Лепей – неяк,
Чым – ніяк;
Крок і дзея,
Чым "чмяк-чмяк!",

У балоце дзён сваіх
Гінуць з енкам: "А!.. цьфу!.. чмых!.."

І шукаць чыіхсьці рук,
Як у сне – пра Беларусь

У гады Другой сусветнай,
Фільм бы ўспамінаць пра гэта.

У нябыт цягнулі боты...
Ўсіх усмоктвала балота:

Партызан, дзяцей і баб,
Афіцэраў і салдат...

Сёння – і цябе хацела
Ў часе Трэцяй, звар'яцелай

І апошняй, мусіць, з войнаў.
Прэч з балота! Стань героем!

*28.03.2016*

## ПАМЯЦІ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Сышоў цягнік з нябачных рэльсаў:
Вагоны, людзі, рэчы ў кашы...
Хто нават мог бы – не паспелі
Ўжо на Парнас, дзе "дачы нашы";

Дзе людзі ў строях – тонкіх, белых,
Ля кніг – бліскучых, нават страшна!..
Бывай, наш геній, Ніл Гілевіч,
Яшчэ ў якіх стагоддзях нашых!

Быў Ніл – ракой і Сфінксам-стражам
Ля Пірамід, што з кніг без клею...
Каго яшчэ так абавяжам?
Памёр Народны Ніл Гілевіч.

*1.04.2016 г.*

## У КАНЦЫ БУДУЦЬ ГОРЫ

...І вось жа нехта –
Уключыць рэха
Ў між гор прарэхах!

Я скамянею,
Як быццам Рэрых...
Ці рэйнджар з прэрый.

"Як вецер плача!
Вось мая ўдача!
Фінал..." Задача –

Навек запомніць,
Што вочы бачаць...
Так. Не іначай.

*22.11.2016*

## НЕПАМЯРКОЎНАСЦЬ

У кнізе не люблю змяшання жанраў
Пад вокладкай адной.
Мне бачыцца – імчыць разлік пажарны
Ў смяротны бой!

За дом драўляны, супраць чаду, барвы.
За прынцып мой!

*30.05.2017 г.*

Адам Глобус



...здавалася б, што гісторыя
павінна была скончыцца добра,
але ў яе сумнае заканчэнне...

# Парыжскія казкі

## Зялёны сом

У Сене пад Парыжам вырас велізарны, як бервяно, сом. Вырашыў той зялёны сом ажаніцца. Ён прыплыў у Парыж і запатрабаваў тры нявесты, каб было з каго выбіраць. Сом быў такі вялікі, а Парыж тады быў яшчэ такі маленькі, што парыжане спалохаліся рачной пачвары. Збаяліся, што выпаўзе на бераг і разбурыць горад, а жыхароў усіх чыста зжарэ. Таму і кінулі парыжане ў рачныя хвалі трох найпрыгажэйшых маладых парыжанак.

Тры дні і тры ночы зялёны сом разглядаў сваіх палонніц, а потым узяў і вярнуў іх на бераг Сены жывымі ды вясёлымі. Прыгажуні былі вясёлыя, бо атрымалі ад зялёнага сома па куфэрку з золатам і каштоўнымі ўпрыгажэннямі. Менавіта пасля гэтага здарэння Парыж і пачаў расці, мацнець ды квітнець.

## Чырвоная шапка

Да мінскага мастака Гены аднойчы падляцеў анёл у чырвонай шапцы.

– У мяне ёсць для цябе падарунак! – сказаў той мастаку. – Я падару табе сваю чырвоную шапку. Ты надзенеш яе і паляціш у Парыж!

Гена, як і ўсе мастакі на свеце, марыў злётаць у мастацкую сталіцу. Праўда, у мужчыны не было грошай, і ў той даўні час самалёты яшчэ не лёталі з Мінска ў Францыю.

Гена з двух кавалкаў мыла зрабіў муляж бомбы і пранёс яго ў салон самалёта, які збіраўся ляцець з Беларусі ў Растоў. Мастак паказаў сцюардэсе «бомбу» і загадаў накіроўвацца ў Парыж. Самалёт не змяніў курсу. У выніку Гена трапіў у растоўскую турму. Туды да мастака прыляцеў анёл.

– Ты чаму не ўзяў у падарожжа чырвоную шапку? – злосна спытаў анёл.

– Пасаромеўся! Калі я хадзіў па Мінску ў тваёй шапцы, усе знаёмыя і незнаёмыя з мяне насміхаліся!

– Мог бы і патрываць кепікі. Мог бы і паслухацца анёла-ахоўніка!

– Я паслухаўся, паспрабаваў паляцець у Парыж – і цяпер я сяджу ў турэмнай камеры!

– Не перажывай моцна. Доўга ты тут не затрымаешся. Я зраблю так, што цябе з растоўскай турмы перавядуць у мінскую вар'ятню. Паходзіш пару месяцаў па ёй у чырвонай шапцы – і цябе выпусцяць.

Так і адбылося. Гену этапавалі ў Мінск, дзе з турмы перавялі ў бальніцу. Пакуль мужчына вёў рэжымнае жыццё за кратамі, у састарэлай савецкай імперыі адбылася рэвалюцыя. З бальніцы мастак выйшаў у незалежную Беларусь.

Гена ўзрадаваўся, што цяпер можа спакойна паехаць у Францыю. Ён узяў білет у Парыж, сеў на цягнік і выправіўся ў сталіцу мастацтваў. Усю дарогу Гена праехаў, як раіў яму анёл, у чырвонай шапцы. Яна і зараз захоўваецца ў атэлье паспяховага парыжскага партрэтыста Генадзя Чыжа-Мінскага. Час ад часу мастак расказвае пра падарунак анёла і паказвае цікаўным чырвоную шапку.

## Чорная патэльня

Людаед Валерый Дзік не любіў галіцца. Ён насіў кароткую бараду. Калі Дзік еў смажаную чалавечыну, тлушч цёк з рота па губах на сівую шчэць. Людарэз гучна чвякаў, стагнаў, соп. Без сапення, пастогвання, пачвяквання і без перапэцканасці ў гарачы чалавечы тлушч гэтаму нелюдзю было кепска.

Свае апошнія тры гады Дзік жыў толькі тым, што паляваў на дзяўчатак-падлеткаў. Ён усыпляў ахвяру хлараформам, грузіў яе ў аўтафургон з надпісам «Рамонт і рэстаўрацыя мэблі», дзе душыў. Задушанае дзіця злачынца прывозіў у сваю сталярную майстэрню. У людаеда была раскошная, добра абсталяваная майстэрня.

На фургоне з мэбляю людаед праездзіў па Парыжы ажно тры гады. Валерый задушыў, разабраў і падсмажыў на вялікай патэльні трыццаць тры дзяўчынкі. Усе яны былі з розных раёнаў горада. Адна з вострава Сітэ, другая з Елісейскіх Палёў, трэцяя з Манмартра... Барадаты людаед ніколі не паляваў двойчы на адной і той жа вуліцы.

Злавілі пачвару на жыўца. Прынадзілі мілавіднай дзяўчынкай у чырвонай сукенцы. Схапілі ў Лацінскім квартале. Калі людаед Дзік зрабіў напад,

куля, выпушчаная са снайперскай вінтоўкі, прабіла яму сэрца. Вобшук у мэблевай майстэрні даў самыя неверагодныя вынікі, бо маньяк захаваў усе рэчы сваіх непаўналетніх ахвяр.

Чорная патэльня, на якой людаед смажыў чалавечыну, стала адным з самых каштоўных экспанатаў музея крыміналістыкі. Вядома, лабаранты старанна адмылі з яе ўвесь чалавечы тлушч, але і без яго глыбокая чорная патэльня пакідае жудаснае ўражанне. Глядзіш на яе чорнае дно – і ўяўленне малюе табе смажаныя дзявочыя ручкі з лакіраванымі пазногцямі.

## Белыя канверты

Стары блазан П’ер Гусак жыў на баржы. Ён з дзяцінства марыў жыць на вадзе, каб у любы момант можна было ўзяць і паплыць у далёкі райскі край. За сваё доўгае і цяжкае жыццё П’ер так і не завёў сям’ю. Нават сяброў у яго не завялося, акрамя хіба што баржы з назваю «Адэлаіда».

У адзін з цёплых майскіх вечароў П’ер вячэраў на палубе «Адэлаіды». Ён няспешна еў срэбнай лыжачкай запраўленую сметанковым маслам грэчневую кашу. Еў з апетытам. Глядзеў на спакойную Сену і ўяўляў сябе маленькім хлопчыкам, якога маці корміць смачнай кашай. Уяўленне было такім яркім, што Гусак ажно спалохаўся, калі пачуў чужы голас з набярэжнай:

– Шаноўны! Паслухайце... У мяне ёсць бутэлька цудоўнага віна. Бутэлька ёсць, а сабутэльніка няма. Можа, вы, шаноўны, пагодзіцеся выпіць са мной?

П’ер спакусіўся дарагім віном. Такога каштоўнага і смачнага напітку ён яшчэ не піў у сваім жыцці. Бутэлька была невялічкай, але віно ў ёй чамусьці не заканчвалася. Гусак хацеў спытаць у госця пра дзівосную якасць бутэлькі, але не паспеў. Госць, які назваўся Янам з Турава, дастаў з кішэні невялічкі белы канверт. «У нашай кампаніі не хапае жанчыны!» – сказаў мужчына і вытрас з канверта папяровую ляльку. Маленечкая цацка вокамгненна ператварылася ў маладую прыгожую жанчыну. Ян наліў прыгажуні поўны келіх віна.

– Я так доўга спала ў белым канверце, што мне абавязкова трэба патанцаваць!

– Пакуль ты патанцуеш, я крыху пасплю. Дарога з Турава ў Парыж мяне моцна стаміла. Думаю, што П’ер дазволіць мне гадзінку паспаць на палубе ягонай «Адэлаіды».

Стары блазан прынёс свайму новаму сабутэльніку падушку з коўдрай, і Ян заснуў, седзячы ў шэзлонгу. Прыгажуня, якая назвалася Нінай з Мазыра, пратанцавала амаль усю ноч. Пад раніцу яна дастала з кішэні белы канверт, рыхтык такі, як у Яна, і вытрасла з яго на стол папяровую ляльку. Тая імгненна ператварылася ў маладога чалавека, які назваўся Анатолем з Гомеля. Ніна пацалавала Анатоля і папрасіла ў П’ера дазволу адасобіцца з маладым чалавекам у каюце. Захмялелы стары дазволіў Анатолю і Ніне схавацца ад чужых вачэй у сваёй каюце.

Як толькі сонца пазалаціла Сену, Анатоль і Ніна выйшлі на палубу. Мужчына ператварыўся ў папяровую ляльку, і Ніна схавала яго ў свой белы канверт. П’ер раптам заўважыў, што віно ў бутэльцы нарэшце скончылася. Ён пабудзіў Яна: «Можа, у цябе, дарагі сябра, ёсць яшчэ віно?» Той папрасіў прабачэння, бо віна ў яго больш не было. Ян загадаў

Ніне ператварыцца ў папяровую ляльку, якую акуратна паклаў у свой белы канверт. Развітваючыся, госць пакінуў П'еру трыста еўра за арэнду «Адэлаіды», чым вельмі ўсцешыў старога і моцна п'янага блазна.

## Залаты парк

Рэзчык па каменю Арцюр Дзяцел быў даволі пасрэдным майстрам у звычайным жыцці, але ён меў адметныя і непаўторныя здольнасці ў жыцці патаемным. Арцюр лавіў на парыжскіх вуліцах рудавалосых дзяцей і ператвараў іх у залатыя скульптуры. Ён толькі дакранаўся да спіны дзіцяці шурпатай далонню, як яно камянела і рабілася залатым. Незвычайныя скульптуры Дзяцел ставіў у зімовым садзе, які прыбудаваў да сваёй майстэрні.

Сярод пальм і фікусаў назбіралася ажно трынаццаць залатых дзяцей, калі рэзчыка Дзятла затрымала паліцыя. Ён нічога ўцямнага сказаць не змог, бо і сам не ведаў, адкуль займеў свае неверагодныя здольнасці. У час апазнання бацька аднаго з залатых хлопчыкаў звар'яцеў. Ён пазнаў свайго сямігадовага Рамэна. Мужчына абняў скульптуру, заскавытаў і заплакаў... І бацькоўскія слёзы ператварылі залатую скульптуру зноў у жывога хлопчыка. Іншыя бацькі таксама сваімі горкімі слязьмі вярнулі дзецям жыцці.

Здавалася б, што гісторыя павінна была скончыцца добра, але ў яе сумнае заканчэнне, бо рэзчык Дзяцел уцёк з-пад варты. У яго з'явілася новая здольнасць: ён цяпер можа ператвараць у ржавыя жалезныя скульптуры рыжых паліцэйскіх.

## Сіняя гадзюка

Франсуа Бык меў высокі рост, і вагі ў ім было на асілка. Дарма людзі кажуць, што вялікі чалавек мусіць быць добрым. Бык быў злы як цэрбер. Сваю лютасць ён накіроўваў на людзей маленькіх. Франсуа проста шалеў, калі бачыў ліліпута або карліка. Ён біў недамеркаў і недаросткаў, біў смяротным боем, збіваў іх да страты памяці... Увесь Парыж ведаў, што Франсуа Бык забаўляецца тым, што б'е і калечыць карлікаў. Ведаць ведалі, а злавіць на гарачым не маглі. Здавалася, што ўжо ніхто і ніколі не знойдзе ўправы на велікана Быка. Але знайшоўся і на гэткага цэрбера наморднік!

Карлік Андрэй Вуж трымаў у тэрмасе сінюю гадзюку. Ён яе злавіў недзе ў Амазоніі, калі разам з цыркам ездзіў на гастролі ў Бразілію. Як толькі Бык высачыў Андрэя, наблізіўся да яго і нахіліўся, Вуж адкрыў свой тэрмас і прыцiснуў яго да твара злачынцы. Гадзюка ўкусіла велікана за шчаку пад правым вокам. Ад змяінай атруты Франсуа і сканаў.

Карліка судзілі, але ў судзе не знайшлося сведак, якія маглі б абвінаваціць Андрэя ў забойстве. Вуж выйшаў з судовай залы свабодным чалавекам, і ўсе парыжскія ліліпуты і карлікі віталі яго як героя.

## Сінія нагавіцы

Марсэль Рог пашыў сабе сінія нагавіцы. Яшчэ з дзяцінства яму хацелася мець у сваім гардэробе пашытыя на заказ нагавіцы. Марсэль не быў моднікам, апранаўся сціпла, рэчы купляў на скідках. Жаданне наведацца ў атэлье пайшло ад дзеда, той шмат разоў расказваў унуку, як пашыў сабе

нагавіцы і пасля гэтага яго жыццё змянілася да лепшага. Каб не пашытыя з сіняга аксаміту нагавіцы, ніхто з дзяўчатак і не зірнуў бы ў бок Марсэля. (Унук насіў імя ў гонар дзеда.) У сініх нагавіцах Марсэль Рог-старэйшы пачаў карыстацца вялікай папулярнасцю. Яе ён скарыстаў цалкам і поўнасцю. Выбраў сабе прыгажуню з багатымі бацькамі і ажаніўся з ёю. Дзякуючы сінім нагавіцам Марсэль-старэйшы стаў галоўным інжынерам, а пазней і дырэктарам фабрыкі па вытворчасці фарфоравага посуду. Унук, як і дзед, працаваў на гэтай фабрыцы, але звычайным рахункаводам. Вёў сціплае самотнае жыццё і ў адзін цудоўны дзень нарэшце вырашыў пашыць з падоранага дзедам аксаміту сінія нагавіцы.

Пашыў. Надзеў. Выйшаў прайсціся. Каля ўваходу ў метро яго перанялі сіняносыя бэйбусы. Іх было двое. З белазубых ратоў яны выплёўвалі на Марсэля Рога-малодшага брыдкаслоўныя кепікі. Той спрабаваў абысці п'яных, але яны нахабна загароджвалі дарогу. Рог раззлаваўся. Ён так моцна ўзлаваўся, што стаў павялічвацца ў памерах. Ён рос – і ўся адзежа на ім пачала разрывацца на шматкі. Нават чаравікі парваліся на кавалкі. Адно сінія нагавіцы павялічыліся разам з гаспадаром.

Калі Марсэль-малодшы займеў пяціметровы рост, ён голымі пятамі патаптаў зубатых бэйбусаў. Відавочцы, што засталі гэткае дзіва, атрымалі шок. Ніхто не змог пераадолець здранцвенне і зняць метамарфозы хоць бы на тэлефон. Пасля бойкі з бэйбусамі цела рахункавода вярнулася ў свае звычайныя сціплыя памеры. Сінія нагавіцы таксама зменшыліся.

Дамоў Рог-малодшы пайшоў басанож. Ідучы па вуліцах, Марсэль думаў пра дзеда, які меў рацыю, сказаўшы, што ў чалавека ў сініх нагавіцах пачынаецца зусім новае жыццё.

## «Чорны хвост»

«Чорны хвост» – так называлася атэлье ў Парыжы. Яно мусіла называцца «Чортаў хвост», бо там майстар на ўсе рукі Ізідор Шпак абсякаў навостранай сякерай даўжэзныя, брудныя, кудлатыя і смярдзючыя хвасты ў чарцей. Замест абсечаных хвастоў над валасатымі азадкамі Ізідор навешваў кароценькія шаўковыя і зручныя ў карыстанні штучныя хвосцікі.

Справы ў атэлье ішлі выдатна. Шаўковыя хвосцікі сталі моднымі, і яны карысталіся неверагоднай папулярнасцю ў чарцей і чарціх. Шпак наняў цэлую брыгаду ветурачоў, якія сяклі хвасты з раніцы да вечара. Здавалася, што Ізідор у хуткім часе адсячэ ўсе чорныя чортавы хвасты на белым свеце. Яно так толькі здавалася...

У атэлье «Чорны хвост» наведаўся сам Д'ябал. Ён прыйшоў зусім не дзеля таго, каб адсекчы сабе хвост. Ён прыйшоў, каб раз і назаўжды забараніць адсяканне хвастоў чарціхам і чарцям, бо такую справу лічыў антыпрыроднай, а таму і шкоднай. Ізідор Шпак хацеў запярэчыць Д'яблу, але той ператварыў яго ў птушку. Між іншым, Д'ябал не любіць і не прымае ніякай штучнасці. Нават простыя шпакоўні ён называе турмамі для птушак і, дзе іх убачыць, абавязкова разломіць і скіне на зямлю.

## Чорны абмен

Парыжанін Эдгар Кіт узяў сабе за жонку маладзенькую правінцыялку з далёкага беларускага мястэчка Ліда. Эдгар шукаў нявесту на сайтах для знаёмстваў, знайшоў, з'ездзіў па дзяўчыну ў Ліду і прывёз у Парыж.

Анжэліка... Менавіта гэтак звалі новую парыжанку. Анжэліка была выдатніцай у ложку, але хатняя гаспадыня з яе атрымалася нулявая. Эдгар асабліва не перажываў з-за гэтага, лічыў, што Анжэліка маладая і яшчэ навучыцца як след весці хатнія справы. Зусім іншае думала маці Эдгара – старая карга Маргарыта.

Яна пачала біць Анжэліку арэхавым дручком. За разбітую талерку, за непамыты кубак, за незасланы ложак Анжэліка атрымлівала ўдары дручком па галаве. Маргарыта Кіт так моцна лупіла нявестку, што праз нейкія тры месяцы забіла дзяўчыну. Эдгар пахаваў жонку ў сямейнай капліцы і штодня ездзіў на могілкі, каб паплакаць. Пэўна, Эдгар Кіт сплакаўся б ушчэнт, каб не рашучасць Маргарыты.

Старая карга пайшла да гаспадара могілак і папрасіла ўваскрасіць Анжэліку. Гаспадар запатрабаваў велічэзныя грошы за свае паслугі, а калі Маргарыта пагадзілася іх заплаціць, ён сказаў, што нават з вялізнымі грашыма ў яго не б'е лічба ў бухгалтэрыі. Не б'е, бо не хапае цела! Старая пагадзілася легчы ў магілу замест забітай нявесткі і лягла, а перад гэтым яшчэ па трайным тарыфе аплаціла сваё ўласнае пахаванне. У чорнай касе могілкавай бухгалтэрыі ўсе лічбы пачалі біць – і Анжэліка атрымала дазвол на вяртанне да Эдгара Кіта, з якім яна пражыла доўгае і шчаслівае жыццё парыжанкі ў першым пакаленні.

### Белая Дзева

Шафёр-дальнабойшчык Эміль Верабей марыў пра жонку. Яму хацелася, каб дома жонка чакала свайго Эміля. Верабей спадзяваўся, што з кожнай камандзіроўкі будзе прывозіць сваёй любімай падарункі. Вераб'ю было пад пяцьдзясят, а жонка ўсё ніяк не знаходзілася.

Аднойчы недзе паміж Парыжам і Марсэлем дальнабойшчык спыніў фуру, выйшаў у поле і папрасіў у высокага сонечнага неба жонку. «Неба, дай мне жонку!» – сказаў Эміль Верабей. Неба злітавалася і паслала шафёру Белую Дзеву. Тая стала жонкай дальнабойшчыка, але папрасіла нікому не расказваць пра яе і пра ласку неба. Эміль даў клятву трымаць язык за зубамі. Пратрымаўся тры гады.

Цэлыя тры гады Верабей вазіў падарункі для Белай Дзевы і быў самым шчаслівым чалавекам у Парыжы. Толькі шчасця ў Эміля было значна болей, чым ён мог панесці. З-за гэтага ён і прагаварыўся. Дзесьці паміж Марсэлем і Парыжам у прыдарожнай забягалаўцы шафёр расказаў недаверлівым калегам-дальнабойшчыкам пра сваё вялікае шчасце.

Была месячная ноч. Было прахалодна. Неба адклікала Белую Дзеву. Эміль Верабей вярнуўся з камандзіроўкі ў цёмную і пустую кватэру старога халасцяка.

### Ружовая пашча

Здарылася тое пад раніцу, можа, а пятай, а можа, і а палове на шостую... Таксістка Элеанора Лінь дакладна не памятае. Недалёка ад залатога помніка Жанне д'Арк Элеанора пабачыла голага мужчыну з галавой ката. Лінь спачатку падумала, што мужчына надзеў карнавальную маску. Яна прытармазіла каля яго, тут кацiная галава і пазяхнула на ўсю сваю ружовую пашчу. Жанчына спалохалася. Зачыніла акно і праехала метраў сто.

Таксістка стамілася. Ёй страшэнна балела галава, хацелася сцішыцца

і паспаць. Яна пазяхнула і пабачыла маладога чалавека, які паклікаў яе рукой. Пасажыр назваў адрас у раёне Дэфанс. Па дарозе Элеанора вырашыла расказаць пасажыру пра голага чалавека з кацінай галавой. Калі яна сказала пра ружовую пашчу, малады чалавек пачаў смяяцца. Ён смяяўся так нахабна і гучна, што таксістка спыніла машыну і азірнулася. У смяшлівага пасажыра была чалавечая галава, а ўсё астатняе цела зарасло шэрай поўсцю, нібыта кацінае. Перапалоханая Элеанора Лінь выскачыла з таксі і пабегла. Яна бегла ад Елісейскіх Палёў праз Сену да Эйфелевай вежы, дзе ледзь змагла спыніцца.

Аддыхаўшыся, жанчына злавіла таксі і вярнулася да сваёй кінутай машыны. Год яна нікому не расказвала гісторыю пра ружовую пашчу, а калі аднойчы расказала сяброўкам, тыя з яе здзекліва пасмяяліся.

## Чорны бурак

Каля начнога клуба «Ду-ду» грузчык Марсэль Бей пачаў лупіць студэнта Сержа Бурака. Серж пакурваў электронную цыгарэту і думаць не думаў, што некага тым пакурваннем раздражняе. Бей, пабачыўшы, што ў «Дуду» зусім няма жанчын, што вечарынка зладжана выключна для хлопцаў, узлаваўся. Марсэль спадзяваўся паскакаць з дзяўчаткамі, а тут – адны мужыкі толькі для мужыкоў. А самы нахабны з іх стаіць і пускае з рота паднікаціненую пару! У лыч яму! Наском чаравіка ў пячонку! Абцасам ў лабэшнік! Таптаць, качаць, затаптаць такога! Качаць па тратуары! Каб заліўся крывёю! Каб зубы павыплёўваў! Каб здох!

Бей біў Бурака і гарлапаніў: «Ненавіджу вас, педаў! Заб'ю галубца! Затаўку выродка!!!» Пад градам удараў Бурак страціў прытомнасць, праваліўся ў кому, а праз тыдзень памёр. Драўляную скрыню з прахам Сержа Бурака закапалі пад каменны крыж.

Праз тры тыдні пад крыжам вырас вялікі чорны бурак. У час моцнай навальніцы маланка ўдарыла ў каменны крыж. Чорны бурак выскачыў з зямлі і паляцеў у турэмны двор, дзе прагульваўся арыштант Марсэль Бей. Чорны бурак ударыў Марсэля ў скронь, праламаўшы чэрап, і забіў.

## Белатвары Акцёр

Габрыэль Кот прыехаў у Парыж, каб вывучыцца на артыста. Свой першы намер – зрабіцца кінаакцёрам – Габрыэль адкінуў, спужаўся вялізнай канкурэнцыі. Нават тэатральныя студыі напалохалі правінцыяла, таму ён і апынуўся ў маленькім цырку. Каб атрымаць там месца навучэнца, Габрыэлю Кату давялося прайсці выпрабаванні...

Першым і, бадай, самым цяжкім было выпрабаванне камаром. Усю першую ноч у цырку Габрыэля прамучыў камар. Ён зунзоніў над вухам. Сядаў на нос. Але знікаў, калі Кот запальваў лямпачку. І з'яўляўся зноў, калі лямпа згасала. Пад раніцу Габрыэль здагадаўся, што камар яго выпрабоўвае. Ці з'явіцца неадольная лютасць? Ці заб'е хлопец насякомае? Ці здагадаецца, што іспыты пачаліся? Габрыэль здагадаўся, лютасць на камара прапала – і хлопец заснуў.

Другі іспыт быў з Асілкам. Ён назваў Габрыэля Ката сабакам. Асілак быў братам Гаспадара. Ён быў асноўным артыстам у цырку. На ім трымаўся кожны другі нумар. Таму Габрыэль змаўчаў. Асілак узрадаваўся

маўчанню вучня і абліў Ката вадаспадам найбруднейшай лаянкі. Зразумела, што Габрыэль ледзь стрымаўся, калі яго назвалі брудным і смуродным сабакам. Але ў Ката хапіла розуму адкінуць уласную пыху і такім чынам прайсці другі іспыт.

Трэцяе выпрабаванне атрымалася самым лёгкім. Асілак пакінуў пад люстэркам у грымёрнай кашалёк, у якім Габрыэль знайшоў яго крэдытную картку і паперку з кодам да яе. Ідзі і бяры грошы. Ідзі і раскашуй за чужы кошт. Спакуса была. Яшчэ не ачахла злосць на лаянку Асілка. Яшчэ хацелася помсціць. Яшчэ шмат пра што падумалася, але сквапнасць Габрыэль Кот перамог. Кашалёк з карткаю і наяўнымі грашыма застаўся ляжаць пад люстэркам.

Чацвёрты іспыт прайшоў цяжка, бо быў эратычным. Габрыэль Кот быў цнатлівым хлопцам. Вопыту ў стасунках з распуснымі жанчынамі ў яго не было. Таму з'яўленне аголенай акрабаткі Ані агаломшыла Габрыэля. Ані, дачка Гаспадара, была прыгажуняй. Яна любіла сваё цела і любіла разгульваць аголенай. Ані сказала Габрыэлю, што любіць уночы прагульвацца без вопраткі. Цела Ката гарэла агнём. Жаданне накінуцца на Ані і згвалтаваць яе з'явілася і не знікала. Кот пачырванеў. Вочы яго наліліся крывёю. Пальцы сціснуліся ў кулакі. Здавалася, што ў наступнае імгненне хлопец нападзе на дзеўку. Не напаў. Здагадаўся, што яго выпрабоўваюць на блудлівасць. Габрыэль выпіў літровую бутэльку «Вітэль» і супакоіўся. Ён нават пажартаваў, што ў наступны раз абавязкова прапануе Ані інтымныя забаўкі. Акрабатка адказала, што патрывае да наступнага разу і назвала Габрыэля Белатварым Акцёрам. Мянушка да Ката прыляпілася.

Гарачую злосць выклікала ў Ката сучачка Ані. Акрабатка знарок нацкавала сабаку на Белатварага Акцёра: «Кусі яго! Кусі гэтага фанабэрыстага імпатэнта! Кусі яго за нагу!» Раз'юшаная, нацкаваная дробная сучка скочыла на Ката і ўчапілася ў калашыну яго выхадных нагавіц. Хлопец страсянуў сучку з нагі, але на яе іклах засталіся кавалкі нагавіц. Белатвары раззлаваўся страшэнна. Як стрымаўся? Сам не ведае. Нехта яму дапамог. Каб ведаць дакладна хто... Нехта сказаў: «Ператрывай!» Котператрываў. Нагавіцы былі сапсаваны цалкам. Іх давялося зняць і выкінуць. Добра, што, выкідаючы нагавіцы, Белатвары Акцёр выдатна разумеў, што прайшоў чарговы іспыт.

Каб загладзіць сваю віну, Ані прапанавала Габрыэлю шклянку віна. Ён выпіў яе нагбом. Дзяўчына зноў напоўніла шклянку, але Белатвары Акцёр падумаў і вырашыў адмовіцца. І правільна зрабіў.

Сёмы і апошні іспыт, які выпаў на долю Габрыэля Ката, якога цяпер усе звалі Белатварым Акцёрам, быў скачок праз нябыт. Гаспадар прапанаваў вучню ўзняцца на хмарачос. Гэта быў самы высокі будынак у футурыстычным Дэфансе. Настаўнік скочыў з яго... Белатвары Акцёр скочыў з хмарачоса за сваім настаўнікам. Ён ператварыўся ў салёны дождж, а той зрабіўся воблакам, якое павольна паплыло да зямлі. Перад самай зямлёю воблака палілося салёным дажджом, які сабраўся ў Белатварага Акцёра.

Гэтым якасным скачком і скончылася цыркавая навука Габрыэля Ката. Ён стаў майстрам і пачаў зарабляць тым, што без усялякіх страховак скача з хмарачосаў.

## Белы кубак

Патомны чарадзей Франсуа Грак, як і большасць парыжскіх патомных чарадзеяў, любіў з раніцы зайсці ў якую кавярню і выпіць кубачак чорнай кавы. Грак заўжды быў ашчадным. Можна сказаць, ягоная ашчаднасць межавала са сквапнасцю. Нават за кубачак эспрэса Франсуа плаціць не хацеў.

Каб не плаціць, Грак звычайна клікаў афіцыянта і прапаноўваў яму пайсці ў заклад: калі чарадзей падкіне пусты фарфоравы кубак пад столь, а той упадзе на каменную падлогу і не разаб'ецца, за эспрэса заплоціць афіцыянт. У варыянце з пабітым кубкам заплоціць Грак, але ўжо за тры кубкі і тры эспрэса. Наіўны афіцыянт пагаджаўся. Франсуа падкідаў кубак пад столь, і той там завісаў. Кубачак вісеў у паветры, афіцыянт глядзеў на яго і чакаў, калі той пачне падаць. Тым часам чарадзей Грак сыходзіў з кавярні. Афіцыянт прайграваў, бо праз нейкія пару хвілін кубак пачынаў павольна апускацца з-пад столі на падлогу. Ён рабіў гэта так павольна і акуратна, што шанцу разбіцца ў яго не было.

## Жоўтая шафа

Гэта толькі здаецца, што ва ўсіх аптэках аднолькавя лекі. Яно зусім і не так. У адной аптэцы яны салодкія, як малінавае варэнне, а ў другой – горкія, як палын. Ну і вынік ад прымання быццам бы аднолькавых лекаў можа быць самы розны.

Калі ты набыў таблеткі з добрых рук Жыльбера Зая ў маленечкай аптэцы, што на бульвары Капуцынаў, лічы сябе здаровым. Не паспееш адну пілюлю праглынуць, а здароўе ўжо перапаўняе тваё цела. Гэта ўсё заўважыў і паліцэйскі Жэрар Цюць. Ён не проста гэта заўважыў і апісаў у чорным працоўным нататнічку, але і пачаў сачыць за аптэкарам Жыльберам.

Цюць высачыў, што Зай раз на тыдзень залазіць у сваю жоўтую шафу і там сядзіць цэлую гадзіну. Жоўтая шафа так зацікавіла паліцэйскага, што ён вырашыў сам у яе залезці і аднойчы ўскочыў туды адразу за Жыльберам. Паліцэйскі апынуўся ў лепшым свеце, у Эдэме. Там ён знайшоў Жыльбера, і той прызнаўся, што ў раі яму жывецца сумнавата, таму ён падпрацоўвае ў парыжскай аптэцы. Лекі Зай прыносіць у яе непасрэдна з Эдэма, таму ад іх такі імгненны станоўчы эфект.

Жэрар Цюць наталіў сваю цікаўнасць. Ён не перашкаджаў Заю хадзіць з лепшага ў горшы свет, але сам у Парыж не вярнуўся. Ён застаўся ў Эдэме, дзе ахоўвае ўваход у жоўтую шафу, каб абы-хто не шастаў туды-сюды.

## Чорны штатыў

Паважанаму фотамайстру Трыстану Ліню турыстычнае бюро «Спадарожнік» заказала рэпартаж пра Нотр-Дам. Трыстан тры дні запар здымаў сам сабор і ўсё, што рабілася навокал. У семдзесят сем гадоў працаваць цяжэй, чым у трыццаць тры. Цяжэй у разоў дзесяць.

За тры дні працы Лінь страшэнна стаміўся. Ён прысеў адпачыць на лаўцы каля рэчкі. Фатограф адпачываў, гледзячы на Сену, і ўбачыў на другім беразе самога сябе. Другі Трыстан Лінь быў удвая маладзейшы за першага. Ён крочыў лёгкай хадою па набярэжнай і нёс на плячы чорны штатыў. Такі ж самы штатыў стары Лінь меў у маладосці, калі працаваў

фатографам-крыміналістам. Трыстан так захваляваўся, пабачыўшы сябе маладога, што нават не здагадаўся сфатаграфаваць другога сябе з чорным штатывам на плячы.

Пра ўбачанае дзіва Трыстан расказаў у турыстычным бюро «Спадарожнік», а праз тры дні пасля гэтага здарэння ён выправіўся ў доўгае падарожжа да сваіх дзядоў, прадзедаў і прапрадзедаў.

## Срэбны дождж

Радыёжурналіст Габрыэль Карп захапляўся рыбалоўствам. Яго жыццё складалася з дзвюх рэчаў – працы і рыбалкі. Працаваў Габрыэль старанна, каб зарабіць як мага больш і мець магчымасць парыбачыць у вольныя дні і тыдні. У выхадныя ён вудзіў рыбу на рэчках і азёрах, а ў час адпачынку лётаў з Парыжа ў Нарвегію, дзе любаваўся кітамі ды лавіў тунца. Габрыэль Карп быў выдатным рыбаком, ён заўсёды вылоўліваў утрая больш за ўсіх, хто лавіў побач. Яму шанцавала, і ён быў найвялікшым майстрам у рыбалоўнай справе.

Жыццё Габрыэля Карпа скончылася нечакана. Ён ішоў на працу праз мост Марыі. Магутны вецер падхапіў Карпа пад пахі і перанёс з моста на сярэдзіну рэчкі. Сена сказала Карпу: «Ты выцягнуў з мяне столькі рыбы, што я мушу спыніць цябе. Я ператвару цябе ў чараду верхаводак і паглыну!» Сена зрабіла з журналіста Карпа чараду верхаводак, якая пасыпалася ў рачныя хвалі срэбным дажджом.

## Чырвоная галава

Цырульнік Франсуа Рак у час працы любіў гаварыць. Ён расказваў пра падарожжы, адпачынкі, тэлесерыялы і свае неверагодныя прыгоды са шматлікімі жанчынамі. Франсуа быў мужчынскім майстарам. Яго цікавілі тыповыя мужчынскія заняткі: паляванні, выпіўкі, адзюльтэры ды аўтагонкі. Франсуа так любіў гаварыць, што ўсе думалі: ён і слухаць любіць. Слухаць жа Рак не толькі не любіў, але і нават злаваўся, калі нехта пачынаў яму пра нешта расказваць. Асабліва абурэнне ў Франсуа выклікалі людзі са смярдзючым ротам. Адзін з кліентаў так шмат гаварыў і ў яго так страшна смярдзела з рота, што Рак не стрываў і адрэзаў яму галаву.

Акрываўленую чырвоную галаву цырульнік кінуў у ракавіну і выклікаў паліцыю. Пакуль паліцэйскія ехалі на выклік, смярдзючы кліент дастаў сваю чырвоную галаву з ракавіны і паставіў сабе на плечы. Галава прырасла. Кліент аблаяў Рака бруднымі і смярдзючымі мацюкамі ды пайшоў на другі бок вуліцы, каб дастрыгчыся ў іншай цырульні.

## Гора Горкае

Заможнаму гандляру вінтажнымі машынамі Эжэну Грабу захацелася паплаваць па Сене на самай простай драўлянай лодачцы з вёсламі. Увішныя сакратары арганізавалі рачную прагулку. Граб выграб на сярэдзіну рэчкі. Там з вады высунулася дзіцячая ручка, а за ёй з'явіўся і мілавідны тварык. «Дапамажы! Выратуй! Выцягні мяне з вады...» Сэрца гандляра здрыганулася, і ён выцягнуў з рэчкі Гора Горкае. Яно ўскочыла Эжэну на шыю і там замацавалася.

З таго моманту на Граба і пасыпаліся непрыемнасці. Падатковая інспек-

цыя праверыла яго аўтамабільныя крамы і наклала вялізныя штрафы. Паліцыя ўзбудзіла супраць Эжэна крымінальную справу і абвінавaціла ў забойстве, якога ён, вядома, не рабіў. Суд прызначыў неверагодна жорсткае пакаранне. Граб апынуўся ў турме, дзе яго за непаслухмянасць пасадзілі ў карцар. Толькі там Гора Горкае злезла з шыі асуджанага гандляра і пераскочыла на тоўстую шыю начальніка турмы.

Праз які тыдзень Эжэна з турмы выпусцілі і абвінавачванні з яго знялі. Самай казачнай падзеяй для Граба ў гэтай драматычнай гісторыі была знаходка латарэйнага білета. Эжэн вырашыў пасля турмы наведаць касцёл і запаліць свечку, каб такім чынам адзначыць нечаканае выратаванне ад Гора Горкага. Выйшаўшы з касцёла, Граб знайшоў на прыступках латарэйны білет, па якім атрымаў выйгрыш у мільён еўра.

## Зялёныя гузікі

Сціплы бібліятэкар Альфрэд Тур закахаўся ў прадаўшчыцу гузікаў. Пайшоў набываць гузікі для кашаміравага кардыгана, бо карычневыя не пасавалі да смарагдавай воўны. За прылаўкам Альфрэд убачыў Жызэль. Убачыў і закахаўся. З першага погляду і назаўжды. Такое можа здарыцца адзін раз за ўсё жыццё. Яно і здарылася з бібліятэкарам Турам.

Раз на тыдзень Альфрэд прыходзіў у краму і набываў сабе некалькі зялёных гузікаў. Браў па завядзёнцы толькі зялёныя. Купляў танныя. Назбіраў цэлую бляшанку з-пад шакаладнага печыва новых і непатрэбных гузікаў. А ўсё ніяк не наважваўся прызнацца ў сваім вялікім і неадольным каханні. Альфрэд нават загаварыць з Жызэль не мог, тлумачыў усё на мігі.

Прадаўшчыца гузікаў пашкадавала сарамлівага пакупніка. Яна запрасіла яго на каву, а потым і да сябе ў кватэру, якая была якраз у доме насупраць яе галантарэйнай крамы. Там Альфрэд Тур распрануўся і лёг на аголеную Жызэль. Ён лёг на яе і памёр ад шчасця. Каханка моцна спужалася. Пачала плакаць і прасіць неба, каб яно вярнула жыццё яе сарамліваму Альфрэду. Ці то неба зрабіла ласку, ці то сам Тур знайшоў у сабе сілы, але ён ажыў. Альфрэд Тур вярнуўся да Жызэль так надоўга, што яны разам пражылі да праўнукаў, якіх назвалі ў гонар прадзеда і прабабы – Альфрэд і Жызэль.

*(Працяг будзе).*



Сяргей Ваганаў



...Яшчэ нам рана – “Так трымацца!”
Яшчэ не позна – “Так трымаць!”...

# Паэт жывы, пакуль жывы Народ...

* * *

Скрабе ад раніцы лапата у двары.
Напэўна, снег.
Святло ў маім акенцы.
Які на сёння дзень ў календары
Пад белай вокладкай, што ціха зранку тчэцца?
Які, будзь ласкавы, Часоў няпэўны збег
Ў жытло ўвайшоў стагоддзя нараджэннем?
А снег ідзе.
Ідзе вялікі снег –
Святлом ў акенца, роўным абуджэнню.
Бясконцы ж мой перадсвітальны сон,
Не змучаны ні навіной, ні датай...
Які ж ён лёгкі!
Безжурботны ён...
А дворнік ўсё скрабе сваёй лапатай.

*2000 г.*

* * *

Над Рыгай подых снежнае зімы.
Гудзе пажар сярэднявечнай сцюжы...
Гараць саборы, ліхтары, дамы...
А цемра у завулках вочы мружыць.
Пажар! Пажар!
Згараюць ліхтары
На плошчы, дзе завея з гулам жахавым
Чытае вершы ажно да зары
Дый грае на аргане фугі Баха...
Вось так ўсю ноч,
Да раніцы,
Датла
Згараць
І, нібы прысак,
Узгараць нанова...
Вядзерца... шуфлік... шэры снег... мятла...
Заціхла Музыка.
Замоўкла Слова.

*2010 г.*

* * *

Галінка прарастае у Сусвет.
Адкуль, скажыце, тут яна з’явілася?
З якога зерня, што сярод планет
Блукала, ды за нашу зачапілася?

Ёй цёпла тут –
Між веснавых прыкмет.
Пупышка... лісцік...
Простая галінка...
Галінка прарастае у Сусвет.
Туды, дзе Вечнасць, што адна хвілінка...

*2017 г.*

* * *

Пытаннем скончыцца жыццё,
Ці ўрэшце рэшт паставіць клічнік?
Адно застанецца лісцё...
Акно.
Чырвонае лісцё.
І гэты сонечны кастрычнік...

*2015 г.*

### ПАМЯЦІ БАРЫСА НЯМЦОВА

Чатыры кулі,
Шэсць смярдзючых гільзаў...
І цела, распасцёртае на фоне
Крамля,
Дзе утаропіў зрэнкі ўніз
Забойца, стаўшы, як той цар на троне...
Ні да чаго ўжо прыгажосць манер
І цьмяныя выгібы лабірынта...
Адліты кулі ў СССР.
Расія тымі кулямі забіта.
Ўсяго чатыры...
Шэсць смярдзючых гільзаў...
Зусім няшмат, каб вынішчальна-здзеклівa
Вар'яцтва страху вырвалася з
Жарала, праз якое паліць пекла.
Хаўруснікі, што вылеплены з бруду,
Паўзуць да трону звыклай каляінай...
Ім назаўжды пазаставацца Юдамі
Ля цела распасцёртае краіны...

*27 лютага 2015 г.*

* * *

Я веру ў цуд, але не веру ў Бога.
З дзяцінства, ў маладосці і дасюль.
Што, каб не Ён, дык не было б нічога?
Што, каб не Ён, дык хто б цябе пачуў?
Ад небыцця у небыццё дарога –
І гэта ўсё, што створана Адтуль?
Яго няма.
Не веру я у Бога.
Бо дзе Ён? Дзе?
Нідзе.
Бо Ён паўсюль...

*7 студзеня 2017 г.*

### З "Прысвячэнняў"

* * *

*Віктару Казько*

Каб ведаў я, што жыць мне засталося
Яшчэ палову добрую жыцця,
Паехаў бы у Вільчу я,
І спаў бясконца,
І еў клубніцы,
Як дзіця.

Лавіў бы рыбу,
Плёскаўся б на плёсе,
Пісаў бы вершы Віктару Казьку...
Не вельмі клапаціўся б я аб лёсе
На белым-белым на Случы пяску.
У тых бы вершах біў бы я паклоны
Старым, магутным вільчынскім дубам.
І пасылаў шалёныя праклёны
Усім “Знамёнкам”, “Нёманам”, “Трудам”...
І, цяпнуўшы гарэлкі, сэрца зрушу, –
Няхай язык што хоча, то пляце! –
Я б цалаваў заветраную грушу,
Што на Палессі кожны год цвіце.

*15 жніўня 1977 г.*

* * *

Год Дзевяноста шосты, красавік,
Дзень Дваццать трэці, сонечны аўторак...
Яшчэ не ўбіты ў дах апошні цвік,
Яшчэ не затупіўся твой аловак.
І да нашчадкаў ласціцца рака,
Вышынь празрыстых непаўторна рэха.
Чаромха, быццам струмень малака,
Яшчэ надзеяй цешыць чалавека.
І цеплынёй бруіць цяжар зямлі,
І першай кропляй набрыняе неба,
Чакаючы бясконцае раллі...
Ну, што яшчэ табе, мой дружа, трэба?
Як быў, так ёсць і будзе красавік,
Як быў, так ёсць і мусіць быць аўторак...
Яшчэ не ўбіты ў дах апошні цвік.
І зноў вастрыцца з ранку твой аловак...

*23 красавіка1996 г.*

* * *

Яшчэ у лесе снег трывалым мурам
Ляжыць, нібыта чый забыты верш.
Пад вечар думаў пра “Ката...”, каторы з гумарам.
Ад ранку думаў пра цябе найперш.
І пра гадоў імклівых плынь адвечную,
І пра калыску матчынай зямлі...
Падвесіў Бог яе да шляху Млечнага,
Каб зоркі калыхаць яе маглі...
Ну, што яшчэ табе сказаць, мой дружа?
Здаровы будзь!
І, як заўсёды, дужы!

*23 красавіка 2011 г.*

* * *

*Генадзю Бураўкіну*
*з нагоды выдання кнігі “Лісты да запатрабавання”*

Я Вашыя лісты патроху
Чытаў у позняе цішы.
Нібыта нехта ў дарогу
Паклікаў з таямніц душы –
Праз цемру да святога рання,
Праз лес, рачулку, сенажаць...
“Лістам да запатрабавання”
Ніколі ў скрынях не ляжаць...

*2010 г.*

* * *

*Уладзіміру Някляеву*

Пратаколы, позвы, суддзі...
Ўсё гэта праміне калісьці.
Паэт заўжды Паэтам будзе!
Анёлам з Боскае калыскі.

*28 сакавіка 2016 г.*

Не сапсуе ніводзін прайдзісвет
Наш свет прыветны,
Нашы святы,
Калі працягнем праз душы сусвет
Святло сяброўства ў нашы хаты...

*28 ліпеня 2016 г.*

Хоць пачынаўся шлях праз менскі Брод,
Ты броду не шукаў – ні малады, ні сівы...
Твайму жыццю няма альтэрнатывы:
Паэт жывы, пакуль жывы Народ.
Народ жывы, пакуль Паэты жывы...

*9 ліпеня 2017 г.*

* * *

*Уладзіміру Сцяпану*

Хай будзе пэндзаль падуладным Мастаку!
А вуда – падуладнай Рыбаку!
Хай нараджаецца з вушацкіх рэчак Слова –
Жыцця і Вашай творчасці аснова...

*22 студзеня 2017 г.*

* * *

*Андрэю Хадановічу*

Зайздрошчу Вашай маладосці
Ажно з часоў СССР!
А мо яшчэ зайздросціць хтосьці?
Вядома хто – Charles Pierre Baudelaire...

*13 лютага 2017 г.*

## КАРАНІ

*Анатолю Рэпіну*

Якая восень!
Чырванее лес.
Прымоўк на варце вартаўнік ядловец.
Такі неперакладны ціхі змест
Ва ўсім.
Такая, Толя, споведзь...
Чаму ж, скажы, то стрыт, то авеню
Так вабяць нас?
Але ж на сэрцы горка.
Мо быццам нейкі цвік у кораню,
Якім спрадвеку ёсць твая Мар'іна Горка...
Калі пачуцці прагнуць цішыні,
Як той крынічны свет на небасхіле,
Не авеню нас цягнуць – карані.
Той родны кут, які табе так мілы.

*1992 г.*

## ТЭРОР

*Сяргею Жадану*

Навошта ім памежны той кантроль,
Калі яны ва ўсялякім разе –
Мо не заб'юць –
Праб'юць па іхняй базе
Паэта, што нясе у сэрцы боль...
Нібы ваўка, загоняць у аблогу,
Развесіўшы чырвоныя сцяжкі...
Няхай галовамі заб'юцца аб падлогу,
Не перакрыць паэтаву дарогу.
Не дапамогуць ні сцяжкі, ані бажкі –
Іх сталіны з іванамі жахлівымі.
Іх пуціны...
Астатніх чорт бяры.
Гарэць у пекле ім з усімі ксівамі
Не з сённяшняй, дык з будучай пары...

Паэту ж вольнаму – заўжды Спакой і Воля.
Сяброўства спеў і боскіх зорак хор...
Што, напужаў паэтавы тэрор?
Тэрор Любові ўперамежку з Болем...

*11 лютага 2017 г.*

## *“Ў”-ЗВАНОК*

*Генадзю Бураўкіну*

Вось гэты ходзіць ў Інтэрнэт,
Той не вылазіць з Рацыі...
Такі малы ста“**Ў**” белы свет
Ад іх глабалізацыі!
Адно праз мары, мроі, сны,
Нябёс бусліны клёкат
Плывуць Паэзіі званы
Высока  і далёка.
Між тым паблізу, ці здалёк,
Ці то “**Ў**”нутры, ці звонку
Пачуйце Вы і мой званок,
Хоць і не вельмі звонкі.
Ён не заве натоўп на веча,
Ды мае голас чалавечы...
Прыміце “**Ў**” дар, каб зно“**Ў**” і зно“**Ў**”
Склікаць усіх сваіх сябро“**Ў**”...

*Галерэя “Ў”, 14 верасня 2011 г.*

## *ТЭСТ*

Не ведаю, якім ты кіраваўся рухам,
Фэйсбук.
Але – у кропку.
Бо так яно і ёсць:
Не па крыві, але адзіным духам
Яднаюцца Народ, Айчына, Лёс...

* * *

Чакаем у снежні снега мы,
Без снега снежань – спрэс маркота...
Мо не хапае толькі крока
Ад беларускае зімы
Да апельсінаў...
Як з Марока.

* * *

Хоць з шабляй ты якісь Чапай,
Хоць з кулямётам Анка,
А Беларусі не чапай,
Бо спаліць ВЫШЫВАНКА!

* * *

Як выглядае ён убога –
Той звышзацягнуты працэс
У гэтых "веруючых у Бога",
Як некалі ў КПСС...

### *ЁСЦЬ ТАКІЯ ПАРТЫІ*

У Амерыцы я быў бы дэмакрат,
Калі б і там я жыў, як галадранец.
Ў краіне ж роднай не цярплю дыктат.
Таму я тут пакуль рэспубліканец.

* * *

Столькі словаў аб свабодзе!
А свабоды ўсё няма...
Штосьці зламалася ў прыродзе –
Затрымалася зіма...

* * *

Сябры, не будзем заракацца
І на хваробы наракаць.
Яшчэ нам рана – "Так трымацца!"
Яшчэ не позна – "Так трымаць!"

Паліна Качаткова



...напалоханымі людзьмі лягчэй кіраваць...

# Лядоўня ў кватэры №0

***Апавяданне***

*Працяг. Пачатак – "Кватэра №0", "Наша Ніва" ад 07.01.2013; "Хлопчык у кватэры №0", "Дзеяслоў" №83.*

Белая лядоўня літоўскай фірмы "Снайге".

Некалі, пад настрой, на ёй змясцілі пераводныя малюнкі – матылі, жукі, стрылаткі.

З часам выявы інсектаў абляцелі – фрагментамі. Асабліва пацярпелі стрылаткі – іх тонкія лапкі ды тулавы амаль знікілі, засталіся пункцірныя кропкі на белай паверхні.

З 1985 года лядоўня была ў кватэры, дзе дзяўчына жыла разам з сяброўкай.

Сяброўка выйшла замуж. Дзяўчына выехала, а пасля даведалася, што лядоўню муж сяброўкі прадае.

Купіла лядоўню з напаўсцёртымі матылямі, стрылаткамі ды жукамі

Набыла лядоўню, бо не хацела, каб лядоўня, якая рытмічна гула па начах, не перайшла ў чужыя рукі.

Дзяўчыне даводзілася спаць на кухні побач з лядоўняй, ёй падабаўся гул і гук, з якой лядоўня марозіла, уключалася і выключалася.

Гук лядоўні супакойваў. Дзяўчына забрала лядоўню з сабой у новае жыццё. Як тое, што суцяшае.

Лядоўню перавозіў кіроўца, з прозвішчам Бабло, з прозвішчам па пашпарце, а не мянушкай.

Бабло дапамог не толькі перавезці, але і выгрузіць, і зацягнуць лядоўню на першы паверх.

– Толькі не кажыце нікому, дзе я цяпер жыву, – папрасіла дзяўчына.

– Чаму? – запытаўся ён у дзвярах. І адразу ж супакоіў: – Добра, не скажу.

Пры гэтым так загадкава і ўсміхаўся. Так былыя вяскоўцы ўсміхаюцца – не зразумела, што чалавек думае. А калі зразумееш, то ўсё – ужо позна.

Лядоўня пераехала на новае месца.

Цяпер пад падлогай грукацела метро, а ў кватэры – лядоўня "Снайге".

Кухня, стол. Над сталом лямпачка ў чырвоным плафоне... Яе можна паварочваць ва ўсе бакі – як зручна.

Дзяўчына на кухні за сталом.

Бярэ з лядоўні лімон з цукрам. У лядоўні загараецца лямпачка.

Люты. Першы паверх. Грукнула ў шыбу. Вільготна ляснула і расцяклося. Цемра за вакном. Толькі цьмяны ліхтарык зверху – ля ўвахода ў пад'езд.

Бліскучая слоць на шкле. Крышталікі снегу ў святле ліхтара над пад'ездам.

Дзяўчына зразумела – аб шыбу разбілася снежка. Лютаўскі снег страціў сваю зімовую структуру, быў яшчэ ў буйных крышталях, але неўзабаве мусіў ператварыцца ў слоць, пасля ў ваду, і потым – у туман.

Знікне туман, застанецца празрыстая ўрачыстасць.

Сплывала снежка на шкле – разбіты срэбны шарык зімы.

У двары цёмна, на кухні светла, зразумець, хто там – цяжка. Шэрая постаць.

Чалавек.

Пабачыў дзяўчыну, узрадаваўся, пачаў махаць рукамі – паказваў, каб адчыніла пад'езд, бо там кодавы замок – трэба ведаць спалучэнне лічбаў.

У дзяўчыны быў сябра, які любіў спрачацца з мінскімі помнікамі пісьменнікам, асабліва з адным – падобным да Фантамаса. Але гэтым разам прыйшоў не ён.

Дзяўчына адчыніла, добраму сябру, амаль сваяку, які прынёс 50 даляраў. На гэтыя грошы трэба было набыць прадукты і рэчы, а пасля зрабіць перадачу чалавеку, які знаходзіўся ў Следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Мінску.

Дзяўчына грошы ўзяла, але як рабіць перадачы, не ведала. Што адбываецца ў спратах Валадаркі, не ўяўляла. Гэты іншы свет не меў нічога супольнага з яе ўяўленнем пра жыццё і людзей

Дзяўчына праводзіла свайго вечаровага госця.

Выйшла з ім у двор. Друзлы снег... лютаўская слота.

Двор. Усё ў двары было пампезным: высокія аркі з брамамі – спалучэнне сталі і чыгуна – стойкі, рамкі, дзіды сталёвыя, а аздабленне, завітушкі – чыгуннае ліццё.

Дзяўчына падумала і ўявіла, што квадрат двара з брамамі пад уплывам злой волі мог ператварыцца і ў пастку ў цэнтры горада, куды можна загнаць шмат людзей. Зачыніць браму і паставіць ахову. А з вуліцы – нічога не бачна.

У двары і без таго ставілі аўтобусы з АМАПам, – таксама не бачна звонку. АМАПаўцы, якія ўжо зранку сядзелі ў аўтобусах, гулялі ў карты, чакаючы свайго часу.

Люты. 1997 год. Метамарфозы снегу і лёду.

Адліга. Плошча Свабоды. Лёд ператвараўся ў ваду, сплываў пад асфальтам па сырым бруку з Верхняга горада да Свіслачы.

Тое, што ўзімку было моцным, гладкім, коўзкім і цвёрдым, ператваралася ў ваду. Белае ператваралася ў шэрае, шэрае – у бясколерную празрыстасць. Халодная слоць уздымалася туманам.

Туман ахінуў Плошчу Свабоды.

Дзяўчына пайшла даведацца, як трэба рабіць перадачу ў спраты Валадаркі.

Людзі з вялікімі абшарпанымі торбамі зварочвалі з праспекта Францыска Скарыны на вуліцу Валадарскага.

Неслі перадачы.

Чарга да акенца.

Каля акенца ў сцяне адбываецца дзея: жанчына сталага ўзросту перадае для сына вялікі цэлафанавы мех добрых цыгарэт, замацаваных гумкамі, каб не паламаліся – у пачках перадаваць нельга. І яшчэ большы празрысты мех з ліставой гарбатай:

– Хай чыфірыць сабе на здароўе, – гаворыць і, задаволеная, сыходзіць. Не драматызуе.

Маладая жанчына ў акенцы перадач усе рэчы перабірае, прадукты ўзважвае і закідвае ў адмысловыя мяхі, якія пасля развязуць па камерах.

Адна жанчына з чаргі просіць, каб прынялі газету з крыжаванкамі і анекдотамі.

– Вазьміце, калі ласка, красворды, дэградуюць жа там хлопцы.

– Не дэградуюць, – адказваюць з акенца, – будуць чытаць тое, што мы даем. У іх там тэлевізары стаяць.

Газеты з анекдотамі не прымаюць, не прымаюць і адзенне колеру “хакі” – гэта колер ахоўнікаў. Заношаная і рваная бялізна не прымаецца:

– Яны не прызнаюць гэтае адзенне за сваё і кажуць, што мы памянялі новае на старое.

Прымаюць перадачу ў старой жанчыны. Адзін батон лішні. Атрымалася больш за 5 кілаграмаў.

– Батон. Вазьміце, батон, – нясецца над чаргой рэзкі крык з плачам, – хай паесць батону. У яго сёння дзень народзінаў!

– У іх дзень народзінаў 12 разоў на год, – адказваюць з вакенца. – Як бацькі прыйдуць, адразу дзень народзінаў.

Батон не прымаюць.

– У дзяцінстве батонамі трэба было карміць і казкі добрыя расказваць, – гаворыць нехта з чаргі, вельмі ціха, як бы сабе.

Чаканне.

Цяжка вытлумачальны стан у тоўстых мурах.

Ціск.

Аб’ява пра тое, што дазвол на перадачы можна падпісаць у начальніка ўстановы.

Гэты замак вежамі і мурамі пасярод Мінска – установа?

Установа, у якой ёсць начальнік? Валадар цемры і муроў.

Як можа выглядаць начальнік установы? Як сатана які? Чым ён там займаецца ў спратах Валадаркі? Дзе кабінет яго? У вежы? Паглядзець бы на яго.

У слове СУМленне адчуваецца сум.

Адчуванне страты – у адзін момант чалавек стаў недасягальным, нібыта памёр. Але ён жывы. Мур. Паміж зняволенымі і воляй.

“Няма нічога страшней, апрача самога страху”, – сцвярджаў Луцый Аней Сенека – рымскі філосаф-стоік. Страх мае адценні – ад самага слабога страху да жаху. Нават у старажытнагрэчаскай міфалогіі адрознівалі двух багоў, адзін Фобас – бог Страху, другі Дэймас – бог Жаху. А яшчэ быў бог лесу Пан, які мог наганяць на людзей невытлумачальны жах, калі чалавек уцякаў, не разбіраючы дарогі, – адсюль слова “паніка”. Напалоханымі людзьмі лягчэй кіраваць. Але ўлада, якая абапіраецца на страх, няўстойлівая, бо страх – пачуццё невыноснае.

Вяртанне ў кватэру.

Трывожны сон.

Трызненне праз сон.

Перад вакном цені размытыя хістаюцца. Нерэальныя, размытая. Не цень ад дрэва, а згустак. У вакне брунатныя згусткі, абрысы. Ад якіх сыходзіць пагроза. Як размытыя фарбы, але не на шкле, а ў паветры. Як нехта мазануў фарбай у паветры, а яна так і засталося ў паветры палоскай. І хістаюцца злёгку за вакном у час світання.

Вісяць у вялікім старым вакне – займаюць усю прастору акна.

Страшнае, жудаснае, незразумелае, расплывістае. Без пэўнай формы.

Адчуванне жудасці.

Можна адчуваць і не баяцца, а можна бачыць і баяцца.

Як у густым тумане на гары.

Ці ў тумане на Плошчы Свабоды, калі міліцыянты ў доўгіх плашчах цягнуць у машыны маладых людзей, якія ўпіраюцца і не хочуць ісці.

Менавіта з гэтай сітуацыі вылучаецца формула ўлады: “Без падпарадкавання няма ўлады” і “Ёсць падпарадкаванне – ёсць улада” .

У зграях пацукоў, як і ў супольнасці людзей, дзейнічае выразная іерархія. У пацукоў ёсць важакі і тыя, хто падпарадкоўваецца.

Калі важак падыходзіць да любога з пацукоў і прымае пагрозлівую паставу, то пацук мусіць прыняць позу падпарадкавання – прыпасці ўсім целам да зямлі.

Пры гэтым у важака ўздымаецца поўсць на шыі – раздзімаецца “каўнер”. Пераканаўшыся ў сваёй поўнай уладзе, важак адыходзіць, цалкам задаволены. Пачуццё камфорту і бяспекі ў зграі наўпрост залежыць ад ступені блізкасці да важака зграі.

Пацукі-прыстасаванцы люта б’юцца паміж сабой за права быць бліжэй да важака.

Навукоўцы-этолагі, якія вывучаюць жыццё і паводзіны жывёлаў у прыродных умовах, заўважылі, што ў пацучыных зграях часам з’яўляюцца пацукі-дысідэнты. Яны не рэагуюць на позу пагрозы паставай падпарадкавання, як ні імкнецца раздзьмуць важак свой “каўнер”.

Калі ў зграі з’яўляецца шмат дысідэнтаў, то сэрца важака не вытрымлівае і ён гіне ад інфаркту. Так адбываецца змена важака ў пацучынай зграі.

Пра гэта пісаў Конрад Лоранц (1903-1989) – адзін з заснавальнікаў эталогіі – навукі пра паводзіны жывёл, нобелеўскі лаўрэат.

*30 траўня 2017 года*

Васіль Дэбіш



...“Калі ты мяне пакінеш,
я цябе заб’ю!”
І забіла...

# Дзе ёсць любоў...

* * *

Я з болем быў сваім сам-насам,
Між гарадскога тлуму жыў:
Без гэтых дрэў, без гэтых красак,
Якія змалку палюбіў.

Я выйшаў з цеснага пакоя
Пад неба, воля дзе жыве.
Цячэ туман густой ракою,
І птах купаецца ў траве.

Дзе ціхаплыннай рэчкі плёсы
П’юць самасць з келіха нябёс.
Дзе хлапчуком гарэзным, босым
Збіваў нагамі бомы рос.

Вясёлым і шчаслівым крокам
Іду, дзе так даўно не быў.

Між гэтых траў і дрэў высокіх,
Між залацістых гэтых ніў.

### НОЧ

Ноч апранулася ў вохкую ціш,
Сцеле дыван саматканы.
Раптам, спалохана, піскнула мыш
Недзе з палеткаў аўсяных.

Хрушч неўтаймоўны над бэзам гудзе.
Неба бяздонная квецень.
Плешчацца месяц у чыстай вадзе,
Злоўленай рыбай у сеці.

Вунь нехта думны па травах ідзе
Ў белым – бязважкі і босы.
Бусел з буслíхай на дубе ў гняздзе
Дзюбкамі ладзяць нябёсы.

За кіламетры – чутна далячынь.
Думкі – напятыя струны.
Зоркаю стыне на любым плячы
Палкі, як звон, пацалунак.

### БЕРАГІ

#### *1.*

На беразе, дзе пахкія маліны,
Схаваўся я: вунь пекная жанчына
Купаецца (стаіўся, каб не спудзіць),
Ваду кідае жменямі на грудзі –

Так шчасна, па-дзіцячаму, нясмела...
Бліскучая вада мілуе цела:
То горнецца, дарэшты паланяе,
То з плюскатам, імклíва адступае.

Пад сонцам залаціцца зелле-лісце...
Так ты ў бязмежнай радасці калісьці
Свяцілася, калі шаптаў: “Кахаю!”,
Бы поўня, што на небе, маладая.

Хавалася бы ў хмарах, то ўсплывала.
Жыццё цвіло паўсюль, аж дух займала
Ад злоўленых лятункавых вабнотаў,
Здавалася, вось-вось, і быць палёту.

Цягнулася да неба ўсё жывое.
Мы ў час такі сустрэліся з табою.
Світала. Ранак наступаў гаючы.
Да рэчкі крочыў я праз хмыз калючы.

І раптам, чую: плюхнула вадзіца –
Дзяўчына між гарлачыкаў ірдзістых.
Убачыла мяне, запалымнела,
Далоньмі, як магла, прыкрыла цела...

*2*

Сціх шум дажджу. Заняўся новы дзень,
І ранак промнем ясным абуджае.
Нас абмывае сонейка струмень.
Са мной ты побач, светлая такая.

Вачэй агмень, аголеных калень
Праменьчыкі. Твая краса жывая,
Як свежы ранак. Кожны новы дзень
Крыніцай чыстай, ў думках ажывае.

*3*

Прачнулася жыццё. А ў хаце ціш,
Душа трапеча птушкаю. Кранаю
Твой стан рукою. Побач ты ляжыш,
Як кацянятка, мяккая такая.

“Не руш!..” – мне шэпчаш. – Нават вецер сціх...”
І радасцю бязмежнай ззяюць вочы.
А на грудзях аголеных тваіх
Прамень застыў і пакідаць не хоча.

*4*

Прэч – сорам, забароны! Прэч багоў!
Спляліся нашы целы. Ад таго,
Што сэрцы падуладныя гарэнню,
Агонь успыхнуў. І ў адно імгненне
Ён ахапіў твой любы стан і косы.
І вось ужо гарадь – зямля, нябёсы.
Няма ані спачыну, ні збавення...
Згараем мы ў вогненнай геене!

*5*

Заціснула ў грудзях гарачае дыханне,
І радасць, і здзіўленне – у вачах,
І цела гібкага шалёнае звіванне –
Бы злоўлены ў цянётах б’ецца птах.

І ўсплёск пачуццяў, буры што падобны, –
Узнік раптоўна і раптоўна знік.
З-пад завіткоў валос бахматых, цёмных,
Птах выпырхнуў – чырвоны маладзік.

* * *

У старажытным Бярэсці, дзе стары горад,
шляхі крыжуюцца,

злучаючы Сёння і Вечнасць.

Дзе нават я
драбнейшы
за найменшую пылінку.

## ЯБЛЫНЯ Ў НЕБЕ

У небе я пасадзіў яблыню,
на якую раніцай, да ўзыходу сонца,
прылятае галубка

і пачынае шчасна буркаваць
песню кахання,
абуджаючы думкі пра цябе.

Кожную ноч
на маёй яблыні
выспяваюць зоркі.

## ПРЫСУТНАСЦЬ

Я адаслаў ліст –
світальную знічку, каб распавесці,
як моцна я цябе кахаю.
Ды ты не прачытаеш яго, бо не ўмееш чытаць нябёсы.
Ты соладка спіш
у абдымках змея,
які цябе
спакусіў
танным вінам і
ліvернай каўбасой...
Стаю каля твайго пад'езда
адзінокім стаўпом.
І з кожнай хвіляй
цьмянее пад німбам ліхтара
прысутнасць твая.

* * *

Сняжынкі на кратах аконных.
Цагляны плот,
усцяж якога растуць таполі,
разрываючы асфальт.
Трэск кававаркі.
Танчыць шчасна агонь на пліце.
Змолатыя зёрны дасюль пахнуць тваімі далонямі.
Гэты пах робіцца непамысным,
Як і ўсё, што ўчынена табой,
Да болю знаёмае,
Незнікомае. Стала попелам, прыскам,
ды, здаецца, вось-вось ажыве.
І я вымаўлю ўслых імя тваё,
Бо інакш
Разарве напалам –
мяне, цішыню, зямлю.
Як ні дзіўна,
я павінен ненавідзець цябе,
а нянавісці няма ў маім сэрцы,
толькі любоў.
Помніш, я абдымаў цябе,
і ў нашых зрэнках цвіла вясна.
Я прыкладаў вуха да грудзей тваіх,
слухаючы, як тухкае тваё сэрца
а ты смяялася:
"Калі ты мяне пакінеш, я цябе заб'ю!"
І забіла.
Цяпер я мёртвы.
І нішто больш не пагражае тваёй незалежнасці,
тваёй свабодзе.
Ды цябе гэта больш не клапоціць.

* * *

Мая багавянка, з табой быць жадаю.
Прыйдзі на спатканне, – цябе запрашаю.
А ты казырышся: "І думаць не думай!"
Сукенка шыкоўнаю пахне парфумай.

Карціць да цябе дакрануцца рукамі.
Абняць стан твой любы, а ты, нібы камень.
Маўчыш. І пагляд твой халодны, зацяты.
Сустрэчы са мной унікаеш, бы кляты.

Нібыта не бачыш, нібыта не чуеш,
Сама ж патаемна за мною цікуеш.

Каханая, досыць вялебнага гневу:
Ёсць іншыя, помні, яшчэ каралевы.

* * *

Цябе кахаў! А можа, і кахаю.
Не ведаю, рэальнасць ты ці здань?
За небакраем вобраз твой знікае...
Цяпер нас падзяляе часу грань.
Нябачная празорліваму воку,
А толькі сэрцу, здатнаму любіць.
Як і раней здаешся ты далёкай.
І мне цябе ніколі не забыць.
Ты будзеш назаўжды маім сакрэтам;
Усё жыццё і мучыць, і здзіўляць.
Мо гэта сон, альбо вар'яцтва гэта?..
Якое шчасце – хай і так – кахаць.

### ***ВЯТРАК***

Калі з шаленствам круціць жарнавы,
Звонку прывідны, падобны да містычнага кола часу,
Я адчуваю голад жыцця,
Што пульсуе ў ягоным чэраве.

Я чую яго звольнены стогн,
Калі ён змалочвае маладыя спелыя зярняты.
Сваёй бязмежнай уладай надае новы выгляд
Даўно ўжо забытым пачуццям.

Я адчуваю на нюх яго потых,
Спавіты водарасцямі і рэшткамі жаданняў,
Якія прымушаюць ад шчасця трымцець,
Абуджаюць з глыбіняў заснулыя прывіды-мары...

Ён шэпча ў сне, варушыцца – і маўчыць.

### ***ДУША***

За поўнач. А душа не спіць.
Вядзе з нябёсамі гамонку.
Імгненне – і яна ляціць,
Парвала цела абалонку.

Крычу: “Вярніся!” Не ўтрымаць.
Яе палоніць свет дзівосны.
Яна мяне не хоча знаць.
Ей краты цела невыносны.

Яшчэ ёй невядомы страх, –
Страх вышыні і адзіноты.
Усё магутней крылля ўзмах
І ўсё мацней жаданне лёту.

* * *

*Лявону Валасюку*

Цвік паржавелы. Рамачка. Пейзаж.
Буг. Востраў. Лодка на адной назе
Люструецца ў вадзе, якая нас
На мыс высокіх дум перавязе.

Віры бурляць. Сыпучы схіл наўсцяж.
Вунь насып асыпаецца, зірні.
Нібы пясчынкі, паглынае нас
Зямля... І вырастаюць камяні.

## ВАРОНЫ

На снезе белым – чорныя вароны.
Галгочуць. З учарашняга яшчэ...
Глядзяць на свет, нібыта шлюць праклёны
Спусцелымі палонкамі вачэй.

Пранізаны завеямі ліхімі,
Іх крылы б'юцца ў такт, як ветракі.
І добра бачна, скамянеў пад імі
Глыбокі снег. Ім хлеб даю з рукі.

Дык не бяруць. Глядзяць – нібыта судзяць –
З прамёрзлых дрэў, сцяжынак і слупоў,
Нібы смяюцца: "Прыйдзе час, і будзем
Мы піць нябёсы з вашых чарапоў".

## МАНАЛОГ М. КУПРЭЕВА.

Не быў я белым пацуком,
Прывыклым да пакоры.
Не рупіўся пра ўласны дом, –
Ды неба меў і зоры.

Галодным быў, не баляваў.
Еў, што расло на ніве,
Ды рук ніколі не лізаў
Гаспадарам "зычлівым".

Парою сіверна было,
Даймаў скразняк бясконцы.
З нары – праз дрот калючы, шкло –
Я выпаўзаў да сонца.

Мяне травілі – не маліў
Даць літасці ніколі.
І больш за ўсё ў жыцці цаніў
Я скарб адзіны – волю.

* * *

Маці мне кашульку вышывала,
Пазірала ў цёмнае акно
(Ноч глухая за сцяной стаяла)
І слязьмі бяліла палатно.

Сівер замятаў дарогі ў полі.
“Божа, сына ты абарані!”
Выплакаць хацела шчасце-долю,
Светлую, як сонца прамяні.

Той узор мазольнымі рукамі
Гладзіла з пяшчотаю, дабром,
Нібы да галоўкі любай самай
Прыкладала рук сваіх цяпло.

Нітачку за нітачкаю клала
Тонка, хоць у сны па іх плыві.
Маці, мне кашулку вышывала
Светлымі жарынкамі любві.

* * *

Я веру, што ў жыцця канца няма.
Ёсць забыццё, ды і яно мінае.
За восенню прыходзіць зноў зіма,
І белы снег над горадам кружляе.

Не наскі вецер ловіць крык варон,
Па вуліцах спустыненых блукае.
Страх смерці – невядомасці палон,
Які нас вабіць і які лякае.

Мароз такі, нібыта праз далонь
Цвікі прайшлі, запёкшыся крывёю.

Ды ў сэрцы нараджаецца агонь,
Ён птушкай б’ецца, джаліць ён змяёю.

Пад вечар прыйдзеш ты. Ад цёплых слоў
Дом цуда-дыяментамі заззяе...
Там прышласці няма, дзе ёсць любоў.
Паўторыцца нанова ўсё, я знаю.

### *ЗОЛАК*

Абудзіўся, чапурыцца ранак.
Прытуліў да шыбы голле бэз.
Цёхкаюць салоўкі апантана,
Іх харал сягае да нябес.

Сонейка ўсміхаецца зычліва.
Гойсаюць па залацістым шкле
Прамяні гарэзліва, імкліва.
Прыварак духмяны на стале.

На абрусе горкаю прысмакі:
Вафлі з абаранкамі ды ўрук.
Шчасна завіхляў хвастом сабака.
Скігатнуў у хляўчуку япрук.

Між высокіх траў прачнуўся мятлік.
Узляцеў на кветку, як на трон.
Золак. Маці цэдзіць далікатна
Сонейка праз сіта дня ў вядро.

### *ЗІМОВЫ НАКЦЮРН*

У чыстым белым полі
нас слепіць сонца.
Снег, наліты да неба,
настроены на спеў.

Я вандрую ў неба.
Шлях дадому такі мяккі.
Ад снегу і сонца
марскі, свежы дыхае брыз.

Змружыўшы вочы, тоне ў прадонні прасторы
аголеная цішыня,
загорнутая ў промні сонца.



Аксана Спрынчан



...не магу зразумець, чаму паўсюль
пішуць альбо кажуць пра найлепшых мамаў?
Найлепшая – гэта ж ты!..

# Разынкавая муроўка

***Запісы***

*Усё меней людзей, якім я веру.*
*Але тым, каму веру, веру болей. Веры не меншае.*

## Бачыш

Мне невядомае ягонае імя. Яму нязнанае маё. Я ведаю: ён Беларус. Ён ведае: я Беларуска. Мы сустрэліся тады, калі зазвычай і сустракаюцца беларусы. Сустракаюцца, бо вандруюць. Я вандравала з сям'ёю, а Беларус быў з сям'ёю дома. Спыніліся зірнуць на каня. "А скуль?" "З ..." "Яблыкаў ураджай, вазьмеце". Бярэм. "Во яйка, толькі з-пад куркі". "Дзякуй, вандруем". Пакет прысмакаў дачцэ, няможна адмовіцца. Пакуль жонка іх збірае, гаспадар сядае і гладзіць ката, на пяшчоту бягуць дзве коткі. Мы не запытваемся пра імёны. І таму не кажу дачцэ: "Бачыш, які добры дзядзька

Разынкавая муроўка – тая, у якой дробныя каменьчыкі цёмнага колеру (здалёк падобныя да разынак), уторкнутыя ў больш светлую рошчыну, паміж вялікіх камянёў утвараюць адметны каменны арнамент.

Янка ці дзядзька Якуб!" Затое зноўку маю гонар паўтарыць: "Бачыш, якія добрыя беларусы!"

## З'езд анёлаў

Калі ты жывеш у Вяснянцы і спазняешся на з'езд, цябе неадменна затрымае праезд Лукашэнкі. Потым выявіцца, што аўтобус ціха паехаў іншым маршрутам, бо сёння – сотыя ўгодкі міліцыі (добра што паспела выскачыць). Пасля ты ўзгадаеш, як любіла міліцыю ў савецкіх фільмах і ледзьве не марыла стаць следчай. І зразумееш, што гэтак, як міліцыя, цябе не расчараваў ніхто, нават пісьменнікі, з якімі ты з маленства і ведаеш дакладна, што расчароўваць яны здольныя.

А на з'ездзе Уладзімір Някляеў апавядзе, як сорак гадоў таму Рыгор Барадулін казаў яму: "Цяпер ты сябра арганізацыі, дзе кожны табе вораг". Але, сутыкнуўшыся за шмат гадоў з палітыкамі, Уладзімір Някляеў зразумее, што пісьменнікі ў параўнанні з палітыкамі – анёлы з белымі крыламі.

Настрой такі, нібыта я цэлы дзень была з анёламі, і нават шкада, што яны ў гэткай колькасці збіраюцца раз на пяць гадоў.

Мо яны ў іншы час і не такія ўжо анёлы, але ж у параўнанні...

## Разуменне

Еду ў родны чыгуначны вузел – Лунінец. Мой спадарожнік, лунінецкі заатэхнік, вяртаецца з курсаў падвышэння кваліфікацыі. Ён жыве на вуліцы, дзе нарадзілася я. Размаўляем пра малако і кароў, бо маё маленства – не толькі цягнікі, гэта яшчэ і каровы-малако-сена. Пра сена, праўда, не згадваем. Затое спадарожнік просіць пачытаць мае вершы. "ЖываЯ" называецца кніга, але я амаль мёртвая. "Нічога не зразумела", – чую і ўсё разумею... Ды раптам спадарожнік аджывае, бо сустракае: Белае возера, Лунінец, чырвоная царква. Мне лягчэй дыхаць. Спадарожнік чытае, урэшце выносіць вердыкт: "Калі доўга чытаць, дык можна зразумець". А я ўдзячная Лунінцу, бо каб не ён, хто б мяне чытаў далей?

*

"Мама, ты такая добрая, бо нарадзілася ў Лунінцы", – кажа мне дачка. І толькі тады я разумею, чаму мая мама такая добрая...

## Дачыталася

Выправілася на Лысую Гару па арэхі, грыбы і на прыбіранне пляшак.
Арэхаў 8, баравік 1, пляшка 1, канопляў у гаршчэчках 6...
Міліцыянт, выкліканы ў сувязі з міні-плантацыяй:
– Скуль Вы ведаеце, што гэта каноплі?
– Што я – кніг не чытала?!
У пратаколе занатавалі: расліна, падобная да канопляў.

## Цётка – не Цётка

На святкаванні юбілею бібліятэкі Цёткі была Цётка. Муж не мог адвесці ад яе вачэй, захапляўся і захапляўся, урэшце наважыўся выказаць ёй сваё захапленне, а яна яму "большое спасибо" сказала. І вярнуўся засмучаны муж да мяне.

## Песні-жальбы – казкі жыцця

Забалела ў мяне страшэнна галава на працы, паклала я яе на кнігу "Песні-жальбы. Казкі жыцця" Якуба Коласа і ў хвіліны прасвятлення думала, што нават калі начальства ўвойдзе ў кабінет – дык што яны здольныя ўчыніць з рэдактаркай, якая ляжыць на кнізе, і што робяць тыя, у каго на працы нямашака ні "Казак жыцця", ні "Песняў-жальбаў", і як цудоўна, што ў мяне ёсць Якуб Колас.

## Слухаю крокі

Звініць мабільнік. «Алё», — кажу я. А ў адказ — ані слова, ані закаханага дыхання.

А ў адказ — крокі. Так, так – крокі.

Тыя, у каго я занатаваная, як Аксана, часам выпадкова націскаюць і тэлефануюць мне, не ведаючы пра гэта.

І я не кладу адразу слухаўку. Слухаю крокі. Яны такія розныя, як і самі пісьменнікі — ціхія і філасофскія, імклівыя і прыгодніцкія, лёгкія і касмічныя.

Сёння былі крокі аўтаркі паралельных раманаў. Якія яны? Калі я скажу «гатычненькія», яна пагодзіцца. Першая ейная кніга называлася «Крокі па старых лесвіцах»...

Пісьменнікі ідуць, лятуць, думаюць, а я іх слухаю. І гэта адна з найарыгінальных магчымасцяў мабільніка.

## Някляеў і мама

Чытаю Альжбэце Уладзіміра Някляева, вершы з кнігі "Так". Колькі слоў пра яго сказала, ну і, вядома ж, і пра кандыдата ў прэзідэнты, Плошчу, вязніцу... Слухае Альжбэта, слухае: "Мама, вершы цудоўныя, але апавядзі мне пра яго болей". Укласці спаць было немагчыма, вось жа сапраўды біяграфія – гэта моц. Скончылася ўсё слязьмі, але не па Някляеве, а па маме. "Ну навошта ты хадзіла – цябе ж маглі забіць"...

## Дыханне зямлі

Як ідзем дваром, дачка перыядычна спыняецца і робіць у снезе паглыбленні з тлумачэннем: "Трэба ж дапамагаць зямлі дыхаць, раптам яна душыцца".

## Дзяўчынка і драматург

Па сканчэнні вечарыны, прысвечанай 30-годдзю "Тутэйшых", у заснежаным Менску кумпанія з дзесяці дарослых і адной непітушчай дзяўчынкі пастанавіла адсвяткаваць эпахальную падзею адной пляшкай гарэлкі.

Гарэлку празаік выцягнуў з партфеля і хуценька схаваў назад. Але гэта не дапамагло. Падышоў міліцыянт: "Альбо спраўджванне торбаў і пратакол, альбо – вылівайце". Паэтка натхнёна нешта казала пра паэтаў, празаік гэтаксама марудна, як пішацца проза, выліваў гарэлку на снег, музыкі і жонкі моўчкі назіралі. Дзяўчынка радасна падказала: "А снег можна есці!"

Заслона ўзнялася (міліцыянт сышоў), на сцэну выйшаў драматург: "Міліцыянт — інфернальная істота, яна нагадала: трэ было напачатку пачаставаць тых, каго ўжо няма". І гэта сапраўды быў пачатак.

*

Некалі Віка Трэнас напісала на кафлі маёй грубкі свой верш.
І цяпер гэта першы верш Вікі, які вывучыла мая дачка:

*я дурная,*
*ты дурны.*
*і нашто нам дзеці*

## Жыццё з варажбою і без

Пайшлі ў грыбы ў далёкі лес. Я з дачкою і сябра з дачкою. Дзяўчат восы джгнулі. Грыбоў нямашака. Сябра з дзецьмі выбіліся на шашу і чакаюць мяне. А я знайшла прыгажуню-бабку і спрабую падабраць ёй пару. Урэшце здаюся – выходжу.

Усе варожаць на рамонках, сябра працягвае і мне: “Паваражы!”

Але дачка высмыквае кветку і выкідае: “Не трэба табе варажыць!” “Чаму ж не, дачушка?” “Цябе тата і так любіць, бо ж раптам атрымаецца “не любіць”, давядзецца разводзіцца”.

Амаль побач з хатаю наразаю вядро малюпаткіх маслякоў. Паўночы абіраю, рукі чорныя, грыбы сонечныя, як сэрцы рамонкаў.

Першая патэльня – любіць.

Другая – не любіць.

Трэцяя – любіць...

*

З таго часу, як я вырасла, мама раз-пораз паглядзіць на мяне і запытаецца: “І за што цябе ўсе так любяць?” Перабіраю варыянты, адзін з апошніх: “Бо закаханая!” І сапраўды – няма ж ніякіх прычынаў мяне гэтак любіць.

## Просты беларускі здымак

Ты едзеш дарогамі сваёй краіны, а цябе з раскінутымі рукамі сустракаюць пудзілы. Ты – не злодзей, табе нічога не трэба скрасці, таму ты можаш спакойна ўсміхацца і фатаграфаваць іх, яны не супраць. Нават заклікаюць гэта зрабіць, бо хоць і самотныя, ды не робяць сэлфі.

І як файна ў глухой палескай вёсачцы Ліпск сфатаграфаваць грамаду пудзілаў. Гэтыя – не такія самотныя, бо пільнуюць не ўраджай, а сонечных куранятак. І ты цешышся за куранятак, за пудзілаў, за гаспадыню, за тое, што яшчэ цёпла, а на зіму табе застанецца просты беларускі здымак.

## Гаўбец

У кабінеце Міхась Казлоўскі размаўляе з маім калегам, чую, як абураецца словам “гаўбец” (маўляў, чым “балкон” горшы?).

– Спадар Міхась, – звяртаюся я, – дык Вы пойдзеце са мною на гаўбец, ці будзеце самотны на сваім балконе.

– Пайду на гаўбец!

## Шатан

Аўтар пагаджаецца з усімі маімі выпраўленнямі, адно просіць пакінуць “сатану”, бо турбуецца, што слова “шатан” ніхто не зразумее.

– Добра, – пагаджаюся я, – няхай адзін “сатана” застаецца з Вамі.

І аўтар пагаджаецца на “шатана”.

## “Патрабуюць знішчэння…”

У 1916 годзе рэдакцыя часопіса “На берегах Невы”, змясціўшы верш Змітрака Бядулі “Облита лунным светом круглая поляна...”, зазначала, што іншыя вершы названага цыкла “патрабуюць знішчэння ў вашых жа інтарэсах”.

Нават страшна ўявіць, каб такое некаму прапанаваў сёння.

*

Восень у Вільні зусім не такая, як восень у Вільнюсе.

## Вераванні беларусаў

Цэлы тыдзень хварэю «на нагах». Прачынаюся ў суботу, усё нутро баліць, думаю пра флюараграфію. Дачка-першакласніца, якая даўно не спіць, адразу пачынае мне ўголас чытаць Біблію. Потым кажа: «Мама, найгалоўнае — неяк да лецішча даехаць, а там Лысая Гара, дубы, камяні табе моцы дадуць, дапамогуць».

Пакуль збіраюся, дачка чытае мне ўласную замову ад маёй хваробы: «Зайчык, зайчык, паскачы, маю маму палячы. Зайчык, зайчык, паскачы, хваробу лапамі забі. Зайчык-зайчык паскачы, маёй маме памажы».

Дабіраемся да Лысай Гары. Дождж, халадэча... Во, думаю, зусім гамон мне!

Наступнага дня прачынаюся амаль здаровай, толькі катар трохі яшчэ назаляе. І хто дапамог? Бог? Багі? Лысая Гара? Замова? Дачка?

## Дом, у які можна лятаць

Мой двухпавярховы дом стаўся трохпавярховым, бо паміж першым і другім паверхам звілі гняздо малінаўкі. Калі б мой дом быў дасканалым, вядома ж, яны не здолелі б зладзіць гняздзечка. У недаробленым і непрыгожым закрасавала дароблена і прыгожае. У мой дом цяпер можна лятаць. Хіба гэта не падарунак Нябёсаў?!

## Кабінет 1203

Калега апавядае, як у выдавецтве “Юнацтва” быў кабінет, а ў ім стаяў стол смерці. Напачатку пры ім сядзеў і памёр пісьменнік Уладзімір Машкоў, пасля Анатоль Чаркасаў, трэцім стаўся Міхась Зарэмба. Ці каналі ў гэтым кабінеце надалей, невядома, бо выдавецтва “Юнацтва” расфармавалі, і супрацоўнікі ягоныя сталі працаваць у “Мастацкай літаратуры”.

Паслухаўшы гэтую гісторыю, я вырашыла, што плюс ў знікненні выдавецтва ўсё ж такі ёсць.

## Ластаўка і голуб

Рыхтую да друку аповесць Міхася Зарэмбы "Дзень магнітнай буры", дзе галоўная гераіня – Вера Ластаўка. У працягу "Рыжая ластаўка" Вера ў стане комы трапляе на планету ластавак. Каляжанка, якая некалі працавала пад кіраўніцтвам Міхася Зарэмбы, узгадвае, што калі той памёр у 2002, яны сядзелі з Уладзімірам Мазго пры сваіх сталах насупраць, і раптам у фортку заляцеў руды голуб і пачаў хадзіць па іхніх сталах. Яны моўчкі глядзелі на яго, а потым у адзін голас выгукнулі: "Зарэмба!"

## "Жыве Беларусь! Жыве Швецыя! Рай на Готландзе!"

Пасля першага класа бацькі павезлі мяне ў Кіеў. Я гэтак уразілася сталіцай Украіны, што шмат гадоў марыла там жыць. Пасля першага класа лёс паслаў нам звазіць Альжбэту ў Стакгольм, і я вельмі баялася, што яна пачне марыць там жыць. Пры канцы вандроўкі я асцярожна запыталася ў яе і атрымала поўны адлуп. Альжбэта не здавалася падчас усяе вандроўкі. У кожнай бажніцы альбо музеі, дзе ляжалі кнігі водгукаў, яна імкнулася пакінуць запіс. Але колькі я ні тлумачыла, што мы ў гасцях, што ў такіх кнігах трэба выказваць захапленне той мясцінай, дзе ты знаходзішся, Альжбэта пісала "Жыве Беларусь!" і ўсё. Мне даводзілася дапісваць далей. Калі не ставала часу, я проста маліла яе не пісаць нічога, бо ўсё адно – "Жыве Беларусь! Жыве Швецыя! Рай на Готландзе!"

## Вошы. А я іх люблю

Вошы ў "Беларуска-польска-расейска-лацінскім батанічным слоўніку" Зоські Верас – гэта "пастушья сумка". І мне сумна, што гэтак доўга я не ведала тае назвы. І мяне зусім не напружвае, што яна нагадвае пра непрыемных істотаў. Я адразу яе люблю, проста так і яшчэ за тое, што знайшла мяне, дарогу да майго сэрца і не кусае мяне за тое, што жыла з чужым словам.

Кожны свае вошы хваліць, і я хвалю.

## Бульбяныя пацеркі

"Нешта мы набылі занадта дробнай бульбы", – кажу мужу, які меўся абіраць яе перад Першымі Калядамі. "Затое як гаспадар нашай моваю файна размаўляў, заслухаешся! Бульба дробная, ды мова вялікая!" – адказвае муж. Я забіраю ў мужа нож, бо разумею, што з такой бульбы пасля ягонага абірання застанецца толькі вялікая мова. Потым надыходзіць 31-га, я зноў абіраю дробную бульбу і ўзгадваю гаспадара з вялікай мовай, які выратаваў мужа. Тады прыязджае Кум з Украіны, пасля завітваюць сваякі. Надыходзяць Другія Каляды. Штораз абіраю найвялікшую з дробнай, таму ўрэшце з'ядаем бульбяныя пацеркі.

Няхай у гаспадароў з вялікай мовай расце бульбачка вялікая і маленькая. На святы.

## Наша(я)

Задумляюся, як напісаць: "наша" ці "нашая". Каляжанка адразу распачынае спяваць: "Улада нашая, ды савецкая! Улада нашая, ды савецкая!"

Узгадвае, як у 1967-м, калі яна вучылася ў чацвёртым класе, настаўніца спеваў Клаўдзія Лукашэвіч стаяла пасярод класу, расцягвала акардэон, прытупвала нагою і спявала. Болей са спеўных заняткаў не запомнілася нічога. За шмат гадоў каляжанка даведалася, што ейная настаўніца музыкі – пісьменніца Клаўдзія Каліна. Гісторыя чапляе, я занатоўваю словы песні. З якой нагоды ўзнік успамін, каляжанка па нейкім часе забываецца і запытваецца: “Не магу даўмецца, навошта Вам савецкая ўлада, Аксана?” “Ды не трэба мне савецкая ўлада, мне б разабрацца: “наша” свабода ці “нашая!”

## Сучасны варыянт

Як падыходжу да ліфта на працы, якога заўжды трэба досыць доўга чакаць, узгадваецца паэт Віктар Стрыжак, які каля гэтага ліфта сканаў, бо ні ў “Юнацтве”, ні ў “Мастацкай літаратуры” яму ніхто не даў апахмяліцца.

“Памёр раптоўна на лесвічнай пляцоўцы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»” – напісана ў ягонай біяграфіі. Хіба гэта “раптоўна”: абыходзіў чалавека за чалавекам...

Калі не далі тады, дык зараз бы дакладна не далі.

Вось проста пэўная, што я сканала б каля ліфта, калі б спрычынілася са мною гэткая сітуацыя. Бо альбо поўная цвярозасць у людзей, альбо поўная сквапнасць, альбо поўная абыякавасць. І сучасны варыянт – “у мяне грошы на картцы”.

## Як добра

Месяц над хатай, нібыта над выспай... Дачка чытае “Рабінзона Круза”! І не можа даўмецца, чаму дзікуны ядуць дзікуноў, і хіба чалавек смакуе? Не смакуе... Усё нясмачнае карысна...

Месяц рыхтык вуха, што слухае, і не раўнуючы сэрца, якое б’ецца ад радасці: “Як добра, што яны ўсе разам лятуць да зор, а не да мяне!”

## Глобус расквітнеў

Запыталася ў дачкі назву кветкі. Паглядзела яна на бутон і кажа: “Глобус”.

За чатыры дні глобус стаўся півоняй.

## Ціс і каменнае сэрца Вераціла

Пасадзіла ціс, які расце тры тысячы гадоў.

Пра тысячы гадоў даводзіцца казаць кожнаму, хто глядзіць на яго, бо ўражваюць тры тысячы значна болей за малюпаткае дрэва.

Тым, каму тры тысячы замала, паведамляю, што побач ляжыць каменнае сэрца Вераціла – вечнае...

## Фоташоп і памідоры

Іду з фотаапаратам на пісьменніцкіх лецішчах каля Лысай Гары. І, вядома ж, сустракаю пісьменніка.

– Аксана, а ці валодаеш ты фаташопам?

– Ды мне сапраўдныя здымкі даспадобы...

– А я... – і пісьменнік апавядае, да якой ступені авалодаў фаташопам. – Вось нядаўна зялёныя памідоры сфатаграфаваў і зрабіў чырвонымі.

– Навошта?

– Каб зайздросцілі!

Пераказваю фаташопную гісторыю мужу, і ён не можа ўцяміць “навошта”. А я разумею, бо пісьменнік з вёскі, а ў беларускай вёсцы зайздрасць – гэта традыцыя, мо і някепская, бо змушае намагацца нешта рабіць.

Але сама зялёныя памідоры не фатаграфую, кладу іх на белае падваконне, і на ім пачынае выспяваць беларускасць.

## Няцотны

Тэлефануе знаёмы, хоча параіцца: у Максіма Багдановіча Дзень народзінаў, сто дваццаць пяць гадоў.

Дык вось ён у сумневах і разгубленасці — трэба абраць, колькі ж кветак прынесці да помніка: цотную колькасць ці няцотную? Ён жа не ўчора памёр...

Вядома ж, няцотную — як працяг, незавершанасць... Максім Багдановіч жывы, як і ягоная творчасць...

Знаёмы ўсцешваецца, і мы разам ляцім да зор...

І ўсе пісьменнікі жывыя...

## Шпалеры і філасофская лірыка

Перыядычна мне карціць кінуць чытаць прозу, і чытаць толькі вершы і філасофскія трактаты. Тлумачу гэта ўплывам шпалераў, набытых і наклееных за грошы, якія атрымала ў намінацыі “За філасофскую лірыку”.

## За што забіваюць паэтаў

Прыляцела неяк на лецішча, а шарай гадзіне, спяшаюся – трэба яшчэ паспець папрацаваць. А тут паэт завітвае, прапаную кавы, ён таксама спяшаецца да сваёй зямлі, але згаджаецца выпіць. Я п’ю каву без цукру, таму ўсё, што ёсць – непачаты пачок “белай смерці”. Паэту патрэбны цукар, таму пачок адчыняю і стаўлю перад ім. Паэт уражана глядзіць: “А хіба можна лыжкай з пакета?” “Можна!” “Мяне б ужо жонка забіла!” – выдыхае паэт і ўчыняе злачынства. Хутка выпівае і ляціць да сваёй зямлі. Я лячу да сваёй, і пакуль яна не забрала ўсе кепскія думкі, здзіўляюся, як шмат існуе рэчаў, за якія можна штодня забіваць паэтаў.

## Слухайце сваіх мужоў

Завітваеш у вёсачку разам з навукоўцамі, якія цікавяцца камянямі і крыніцамі, гарамі і дрэвамі.

Распытваць у вёсачцы асабліва і няма каго – бабуля пасля інсульту і бабуля, у якой муж тры гады таму памёр.

“Мой муж усё ведаў, – з гонарам апавядае ўдава, – чаму тая горка праклятая, дзе каменныя магілы знаходзяцца, як кожны лясок называўся... Яму ўсё цікава было. Цэлымі днямі, бывала, апавядаў, а я завіхаюся па хаце і не слухаю...”

## Вершы і могілкі

*Пасля доўгіх расстанняў і далёкіх вандровак*
*Я вярнуўся навекі ў засень клёнаў тваіх.*
*Толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве –*
*Як не дрэвам, хоць кветкай прарасту для жывых.*

Гэтыя радкі народнага паэта прачытала на помніку аднаму з жыхароў Слонімскага раёна. "Ён вельмі любіў Ніла Гілевіча", – тлумачыць дачка.

Каб на помніках у "краі паэтаў" былі вершы ўлюбёных паэтаў, могілкі былі б больш паэтычнымі, а паэты сапраўды на(роднымі).

## Быў бы цуд!

Едзем маршруткаю на лецішча. Настрой цудоўны, толькі вярнуліся са Швецыі. Дачка ўзгадвае пабачанае, апавядае, што зразумела прымаўку: "паўсюль добра, а дома лепей", і чакае сустрэчы з Лысай Гарою. Ціха гутарыць мы не ўмеем, таму ўсе пазіраюць на нас і ўсміхаюцца. А тут яшчэ Альжбэта песні пачынае спяваць. Вось і вёсачка ў гонар бога Вялеса – Малая Валоўшчына. "Спыніце, калі ласка!" "Шкада, што вы выходзіце!" – чуем галасы. "Выходзьце разам з намі!" – прапаную. Ніхто не выходзіць, але дачка ўдакладняе: "А каб раптам ўсе выйшлі? Што было б?" "Быў бы цуд!" "А чаму ім гэтак даспадобы нашая мова?" "Бо яна і іхняя".

## Бывай, родная хата!

Сваякі прадалі хату, у якой я нарадзілася. Даўно ўжо я так не румзала, пакуль іншыя дзялілі грошы і забіралі тое, што нібыта можна забраць. Хата старэнькая, і ўсё там трэба абнаўляць, рапараваць, але калі новая гаспадыня радасна сказала, што "вось, дзякуй Богу, падлога яшчэ добрая", я зірнула на падлогу і залілася слязьмі яшчэ болей, узгадаўшы, як бабуля прымушала мыць гэтую найлепшую ў свеце падлогу, не згінаючы ног. Вядома ж, як толькі бабуля адварочвалася, ногі адразу згіналіся, бо гэтак было лягчэй. Цяпер, здавалася, шаравала і шаравала б гэтую падлогу, не згінаючы ног, ды не лёс. Так што схіляйцеся ў нізкім паклоне да сваіх падлог, пакуль яны ў вас ёсць.

## Ці магчымая любоў без кахання?

"Аксана, чаму ты так любіш свой Лунінец?" – запытваецца каляжанка. Здзіўлена гляджу і не паспяваю разявіць рот, як мяне папярэджваюць: "Толькі не кажы, што гэта тваё роднае места, што ты там нарадзілася!" "А што ж казаць, калі гэтак і ёсць: і нарадзілася, і родны, і любы?!" "Усе нарадзіліся ў родным месце, ці мястэчку, ці вёсачцы, але так, як ты, не любяць, – тлумачыць каляжанка. – Прызнайся: такое замілаванне праз тое, што з Лунінцам знітаванае вялікае каханне. Мо, першае?" Так, усё ад першага. Першае жыло на вуліцы Катукова ў Маскве, і я не стамляюся дзякаваць Богу, што яно было няшчасным, і яшчэ болей любіць Лунінец.

## Натхняльная памылка

Начальнік паказвае раздрукаваную казку і запытваецца:

– Ты рэдагавала?

– Не я.
– Гэта твой стыль рэдагавання.
– Мо і мой, але я гэтай казкі ніколі не бачыла.
Выявілася, што казка – у перакладзе Рыгора Барадуліна.

## Непрыстойная памылка

Дачка знайшла памылку ў кнізе Людмілы Рублеўскай пра мышку Пік-Пік: замест “і” ў кнізе “и“. Сядзіць і разважае:
– Мама, а як ты думаеш, усё ж такі гэта вельмі непрыстойная памылка?
– Чаму?
– Ну, ведаеш, было б больш прыстойна рабіць памылкі беларускімі літарамі.
І як тут не пагадзіцца. Павесіла на працы каляндар з Вітаўтам, падышоў калега:
– Дык тут жа, як Альжбэта кажа, памылка непрыстойная.

## Музей дзіцячай літаратуры і машына часу

Прыехаўшы сям’ёю ў Стакгольм, адразу прапануем дачцэ завітаць у музей дзіцячай літаратуры. Яна адмаўляецца, мы наведваем музей карабля “Ваза”, блукаем старымі вулкамі. Наступнага дня ўсё-ткі зацягваем Альжбэту ў музей, дзе жывуць героі шведскіх кніг. Дачка шчаслівая, цяпер ужо мы не можам выцягнуць яе, запытваемся:
– Чаму ж ты ўчора не хацела ісці?
– Дык я ж думала – там кнігі за шклом, якія ніхто не чытае...
Што і казаць, не стае ў Беларусі такога цудоўнага музея, дзе можна было б пасядзець у чоўне з Палескімі рабінзонамі Янкі Маўра, залезці ў норку мышкі Пік-Пік, ускараскацца на цягнік Міколкі-паравоза. Але ўсё адно ўсе думкі Альжбэты – пра тое, што яна вырасце, створыць такі музей у Беларусі, а заадно вынайдзе і машыну часу, каб самой стацца маленькай і патрапіць у гэты музей. І маму возьме, і тату, і ўсіх, хто любіць беларускія кнігі. І неадменна з героямі кнігі “Таташ Яраш, мамана Аксана і дачэта Альжбэта. Поўны эксклюзіў” можна будзе смажыць вожыкаў і апавядаць гісторыі пад фіялкавым парасонам.

## Галоўная мастацкая якасць

Некалі Уладзімір Бярбераў апавёў мне, як ягоны дзед Аркадзь Куляшоў казаў пра вершы, прысвечаныя яму: “У гэтага верша ёсць галоўная мастацкая якасць – ён прысвечаны мне“.
Верш, прысвечаны “мне”, сапраўды кранае – і калі ён геніяльны, і калі ён недасканалы.

*

Ем каштэлі з Лысай Гары, дрэва саджала Еўдакія Лось.
Што яшчэ трэба для шчасця, калі дачка таксама мяркуе, што нам шанцуе.

## “Быў час, быў век, была эпоха...”

Днямі каляжанка па Беларускім калегіюме ўзгадала, як некалі мы

сустрэліся на полі Пяці Дубоў каля майго лецішча пад Заслаўем. Я яе не чакала, а хадзіла па полі і збірала ў вядро карысныя скарбы, што пакідалі кароўкі.

Гэта вам не грыбы ці ягады збіраць, якія прыйдзеш дахаты і з'ясі. Тут уся праца на далёкую перспектыву: сабраў, падкарміў, чакай ураджаю. І ніхто не ўсцешыцца, сустрэўшы цябе з поўным вядром. Таму, хто гародам не займаецца, – смярдзіць. Таму, хто займаецца, – зайздросна.

Але цяпер гэткай сустрэчы і быць не можа. І не таму, што шляхцянкай стала, з шляхціцам пабраўшыся, і не праз тое, што разленавалася.

Няма ўжо і апошняй кароўкі, скарбы ад якой былі на вагу золата апошнім скарбашукальнікам.

## Найлепшае непаразуменне ў свеце

– Мама, ніяк не магу зразумець, чаму паўсюль пішуць альбо кажуць пра найлепшых мамаў? Найлепшая – гэта ж ты!

## Багдановіч як люстэрка

У кабінеце на працы да люстэрка ісці далёка. Люстэрка на стале ўважаю за “некультурную” з'яву. У шуфлядцы люстэрка неяк не займела. Таму калі мне хочацца зірнуць у люстра, гляджу на партрэт Максіма Багдановіча, які вісіць насупраць на сцяне. Багдановіч заўжды прыгожы.

*

Хацела набраць “зорнае неба”, а набрала “зорная мова“. А яна ж і сапраўды – зорная, свеціць у цемры.

## Ровар і кіпцюры ГПУ

Гульня ў “Ровар” адбываецца гэтак. Заснуламу вязню ўторкваюць паміж пальцаў ног кавалачкі паперы і запальваюць іх. Ахвяра ад болю пачынае рабіць нагамі рухі, якія нагадваюць рухі раварыста падчас язды. Неаднойчы здаралася, што ахвяру гэткае гульні – пры агульным смеху вязняў – вязуць у бальніцу з папаленымі нагамі. Гэта “гульня № 46” у раздзеле “Гульні без інвентара або з выпадковымі спадручнымі прадметамі: Забавы, пацехі” ў кнізе “Гульні, забавы, ігрышчы” (з серыі “Беларуская народная творчасць” пад грыфам Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі). Нешта жахліва знаёмае, але не магу прыгадаць. Зазіраю ў каментары: “Аляхновіч, 1937, “У кіпцюрах ГПУ”. Во каб падпаліць паперу паміж тымі кіпцюрамі!

## Радыё для размоў з прэзідэнтам

У час адной з вандровак зазірнулі ў хату да цудоўнай бабулі. Муж ейны памёр, два сыны таксама памерлі. І засталася яна ў хаце зусім адна. Тэлевізар выкінула, бо калі ў свеце самотна, немагчыма глядзець бясконцую ненатуральную весялосць. Засталося толькі радыё, якое некалі ёй падаравалі за добрую працу.

– Вось я сяду, слухаю, слухаю, а калі Лукашэнка выступае, дык і запытваюся: “Калі ж ты мне пенсію падвысіш?”

## Кніжнае падарожжа для дзяцей

Як толькі Альжбэта даведалася, што едзем у Швецыю, яна радасна сабрала ўсе кнігі шведскіх пісьменнікаў, якія ў яе ёсць. Вядома ж, я вельмі ўсцешылася, бо можна было сабраць і шмат розных рэчаў, прывезеных з гэтай краіны. Усцешылася і таму, што калі б мы ехалі ў іншую краіну, наўрад ці б Альжбэце ўдалося сабраць гэткі стос дзіцячых кніг, ладная частка з якіх перакладзеная на беларускую мову. Ехаць у краіну Піпі і Карлсана, Мамы Му і Крумкача, Малога і Білан – гэта цуд.

Дарогаю назад дачка запыталася:

– Мама, ты верыш у Карлсана?

– Анягож!

– Я думаю, што ён жыве на даху дома Стэфана Эрыксана.

Я таксама так думаю, бо ў гэтым доме шмат кніг на нашай мове.

## Знакава-прыпынкавае жыццё

Атрымала рукапіс кнігі пасля прачытання карэктаркі. А ў ім на кожнай старонцы па дзясятку клічнікаў, шматкроп'яў і працяжнікаў. І яшчэ перыядычна два сказы, аб'яднаныя ў адзін.

Гляджу з жахам (гэта ж столькі заціраць гумкай давядзецца), і ў галаве круціцца адна думка: што з карэктаркай? І раптам, разглядаючы ўсе гэтыя вычварэнскія праўленні, разумею: чалавек самотны, нявызначаны, таму безліч шматкроп'яў; ён шчыры на пошук, праз тое вакол бясконцыя працяжнікі; ён імкнецца стварыць радзіну, таму злучае два сказы ў адзін; ён прагне сэксу – столькі фалічных клічнікаў я не бачыла ніколі. Апавядаю свае меркаванні каляжанцы, а яна мне і кажа: "Дык гэта ж відавочна, навошта на знакі прыпынку глядзець – вы б лепей на яе паглядзелі, як яна рухаецца..."

Напачатку я вельмі замаркоцілася, што жыву ў віртуальна-прыпынкавым жыцці, што ўгледжанае чалавечымі вачыма мне трэба ў знаках прыпынку знайсці. Але потым запэўніла сябе, што гэта таксама праўдзівае жыццё – метады розныя, а вынік такі самы.

*

Калі ў вас зусім няма часу, і вы бяжыце ў лес па грыбы на паўгадзінкі, найгоршае, што з вамі можа здарыцца, – назбіраць цудоўных малюпаткіх маслякоў.

## Я не магу без цябе

Распавёў неяк Віктар Казько гісторыю, пра тое, як пісьменнік прынёс у рэдакцыю раман пад назвай "Я не магу без цябе". "А я магу!" – мовіў Андрэй Макаёнак і вярнуў рукапіс.

Кожны рэдактар і чытач можа ўсе свае кнігі падзяліць на "Я не магу без цябе" і "Я магу без цябе". Але гэты падзел можа быць адно ў таго, хто любіць літаратуру.

## Грыбы і рукапісы

Шмат разоў мяне частавалі грыбамі, сцвярджаючы, што ў іх няма чарвякоў. Але чарвякі былі. Гэтым грыбнікі і грыбы нагадваюць мне аўтараў і рукапісы.

## Асва

Дзякуючы казцы Эдуарда Валасевіча, даведалася цудоўнае слова – асв*а*.
Улюбёная ў словы, якія файна розняцца ад расейскай.
І няхай вас ніколі не джгне гэтая істота.

*

Мыю вакно ў хаце ля Лысай Гары, выціраю лунінецкай газетай. Не кожная газета вартая несці святло ў мой свет.

## Раніца і ранак

У нас – адзін дзень, адзін вечар, адна ноч. І толькі раніца з ранкам. Мажліва, і параненыя, але – разам. Словы ёсць, таму дужа цяжка даводзіць зрусіфікаваным людзям, што беларусы не кажуць “Добрай раніцы!” альбо “Добрага ранку!”, а, калі б ні прачнуліся, у іх адразу “Добры дзень!” Многія не вераць нават такому знаўцу мовы, як Юрась Бушлякоў, з якім мне пашэнціла быць аднакурснікамі. А я, аматарка паспаць, гэтак і чую голас бабулі Надзеі: “Уставай, дзень ужо даўно”. А дзень распачынаецца з раніцы і ранку – закладзенага ў мову імкнення схаваць сваё пяшчотна-інтымнае ад усіх. Таму лепей і не чапаць іх, раніцу з ранкам.

## Вера, Надзея, Любоў і Надзея

У маёй прабабкі была дачка з цудоўным імем – Надзея. Пасля прабабка нарадзіла тройню і назвала дзяўчынак цудоўнымі імёнамі, якімі раней называлі тройні – Вера, Надзея, Любоў. Так у сям’і атрымаліся дзве Надзеі. Вера і Любоў памерлі маленькімі. Засталіся дзве Надзеі. Гэтая сумная, але жыццесцвярджальная гісторыя заўсёды асвятляе маё жыццё. Калі вельмі цяжка, я ўзгадваю, што ў маім родзе дзве Надзеі могуць быць адначасна. Часам я пераношу гэтую гісторыю на сваю краіну. Нарадзіла Беларусь дачку і назвала Надзея, а потым нарадзіла тройню і назвала Вера, Надзея і Любоў. У аптымістычным варыянце Любоў і Вера не памерлі, а Надзеі ў маёй краіны дзве.

Сяргей Сцяпан



...І вось ужо ў ціхай, зялёнай старонцы,
Дзе ўлетку над хатамі клёкат буслiны
І дзе над палямі рассеяны стронцый,
Жыве мяккацелы народ з пластыліну...

# Пластылінавы народ

### *БАБУЛЯ МАКРЫНА*

*Светлай памяці бабулі Макрыны*

Зноў восень на могілках
дожджыкам сыпле,
замшэлыя літары:
“...памяць ад сына”,
ты сорак гадоў тут
пад помнікам сціплым,
у роднай старонцы,
бабуля Макрына.

Быў доўгім твой век –
дзевяноста чатыры,
няпростай была тут
твая пуцявіна,
збалела душа,
запрасілася ў вырай –

бліжэй каб да Бога,
бабуля Макрына.

Жылося нялёгка...
такое бывала –
трапляла ў хлеб
і сляза,
і мякіна.
Муж рана памёр,
ты дзяцей падымала –
шасцёра было іх,
бабуля Макрына.

Ты перажыла
ці не восем уладаў,
і ўсім з сваёй працы
была ты павінна.
О, колькі было іх
нягоднікаў, гадаў –
сваіх і чужынцаў,
бабуля Макрына.

Усё адабралі:
зямліцу і волю...
Кацілася гвалту
і злосці лавіна,
а ты не кляла
сваю цяжкую долю –
душу ратавала,
бабуля Макрына.

Ты ведала сілу
і веры, і слова,
і знала:
астатняе ўсё –
хуткаплынна.
Якая была ў цябе
чыстая мова
і чыстае сэрца,
бабуля Макрына!

## СОН

Зорнай ноччу прыснілася маці –
Увайшла і сядзіць ля ваконца.
Быццам коткі гулялі па хаце
Залатыя праменьчыкі сонца.

Ах, які быў у сне я шчаслівы!
Ну а мама была – маладая,
Гэты свет стаў ізноў справядлівым,
Справядлівым, бо мама – жывая!

Ды праз сон напаўзала трывога –
Чорнай хмарай завісла над хатай
І змяёю паўзла ад парога –
Адчуваннем і болю, і страты.

Я прачнуся, у хаце – нікога,
Спатыкаецца сэрца-падранак
І скрабецца дзесь мыш пад падлогай,
Устрывожаны, выйду на ганак.

Затаілася вёска пустая,
А на сэрцы – балюча і горка,
Паміж хмараў высока міргае
Памінальнаю свечкаю зорка.

## ***ПОЛЕ***

Ад здрады сяброў,
Ад уласных грахоў,
Ад цяжкіх дарог я стаміўся.
На полі, якое амаль перайшоў
Я ў роздуме горкім спыніўся.

Атуліць мяне хай вячэрні туман
І ветрык прылашчыць сустрэчны,
Мне хочацца верыць у светлы падман,
У зацішку думаць аб вечным.

Ды толькі няўтульна сам-насам з душой
Чамусьці мне ў полі прасторным,
У сэрца паўзе халадком неспакой
І страх ажывае
Пад небам бяззорным.

І звыкла ў бяссонні душа мая зноў
Трывожнаю птушкай начуе...
На полі, якое амаль перайшоў
Гады мае
Час застагуе.

## БЯСКОЛЕРНАСЦЬ

Як сёння пакутліва, доўга світала,
Шарэла халоднай імжой вышыня.
Праз мутныя вокны ў пакой запаўзала
Скупое святло чорна-белага дня.

Згарэла даўно залатая лістота,
Дажджы гаспадараць у голых садах.
На сэрцы аб хлебе штодзённым турбота
І сум па пражытых бяздарна гадах.

Прывык я даўно да няўдач і паразаў
І восень мая ўжо на тым рубяжы,
Дзе быццам жабрачкі, дзве сходзяцца разам –
Бясколернасць дня і бяскрыласць душы.

## НАЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА

Праб'ецца крыніца ў засушлівы жнівень
З пад грузу гадоў – яна доўга так спала.
Пад вечар на поле абрынуўся лівень
І ноч навальнічная свет разгайдала.

За рэчкай патухне агеньчык далёкі,
І сон адлятае спалоханай птушкай,
І б'юць па зямлі, што самлела ад спёкі,
Буйнога калібру нябесныя пушкі.

Ах, як разышліся прыродныя сілы!
Распорвае цемру агнямі маланка,
І хмарам апальвае чорныя крылы,
І град, як карцеч, рыкашэціць ад ганка.

Трывогай вясёлай заходзіцца сэрца,
Здаецца, зямлю напалам гром расколе,
І зноў у душы на яго адзавецца –
І страх першабытны, і дзікая воля.

## ДОМ НА МЯЖЫ

Гэты край, быццам дом на варожым узмежжы,
Тут, дзе нашыя продкі зжыліся з бядой,
Дзе ў руінах ляжаць старажытныя вежы
І дзе спадчыны страх, як туман над вадой.

Тут не раз пралятаталі знішчальным галопам
Часу суднага вершнікі, сеючы смерць.
Азіяцкі Усход не мірыўся з Еўропай –
Д'яблаў млын не спыняў тут сваю кругаверць.

Задыхаліся пенай крываваю коні
І звінеў пад падковамі Віленскі брук...
Хто ж адняў у вас меч старадаўняй Пагоні,
Беларусы-ліцвіны, з аслабленых рук?

І цяпер мы без памяці, мовы і славы
Адбудоўваем дом на ўсё той жа мяжы...
Між Усходам і Захадам – дрот зноў іржавы
І ляціць вараннё на старыя крыжы.

## *ПЛАСТЫЛІНАВЫ НАРОД*

*А мужчыны, як скалы — ударыш і зломіцца меч...*
**Уладзімір Караткевіч**

Магчыма і ёсць яны дзесьці, як скалы,
Сапраўднага хто ж тут пакрыўдзіць мужчыну?..
Ды ёсць і такія, на жаль, іх нямала,
Як быццам бы зьлепленыя з пластыліну.

Жывот – з пластыліну, рука – з пластыліну...
І пальцы чужыя майстэрскі так лепяць
Халоднае сэрца і гнуткую спіну,
Душа з пластыліну зляцела на вецер.

Ну хто атрымаўся – мужчына ці лёкай?
Хто тут на нагах пластылінавых ходзіць?..
Яму ж – хоць бы што! З пластылінавай жонкай
Жыве і дзяцей пластылінавых плодзіць.

І вось ужо ў ціхай, зялёнай старонцы,
Дзе ўлетку над хатамі клёкат буслíны
І дзе над палямі рассеяны стронцый,
Жыве мяккацелы народ з пластыліну.

Жыве ж у Еўропе, кагосьці выбірае –
Парламент у іх пластылінава-гнуткі.
Галоўны начальнік ім рай абяцае –
Народ пластылінавы ласы на чуткі.

Ах, як яго вабіць нябесная манна!..
Начальнік жа зноў у цары хітра меціць,

І зноў пластылінавы лёкай аддана
Дыктатару трон пластылінавы лепіць.

## ПАЭТ

*Памяці Б. Д.*

*Жил художник в нужде и гордыни...*
**Андрэй Вазнясенскі**

З летуценняў і мрояў не выспелі сілы,
Прыціскала душу да зямлі мітусня,
Хоць не раз і не два апрабоўваў ён крылы –
Не давалася ўпарта душы вышыня.

Кінуў ён, як баласт, непатрэбныя рэчы
І пакінуў сям'ю, адцураўся сяброў,
Ды няўдачы ізноў абяскрыльвалі плечы
І астуджвала восень гарачую кроў.

Ён змарнеў і схуднеў, гордасць зайздрасцю стала,
Халадзела душа ад няспраўджаных мар.
А прапала надзея – віно ратавала,
І распальвала ў сэрцы пякельны пажар.

Сталі горкімі дні без надзеі і хлеба,
Крыўда межы сцірала між злом і дабром.
І, вярэдзячы раны, свяцілася неба
Недасяжным сузор'ем над бедным жытлом.

Каб не стала нянавісцю лютай бяскрыласць,
Не згубілі душу безнадзейнасць і страх.
Памяняў нейк Гасподзь непрыхільнасць на літасць –
Ноччу зорнаю знічка зляцела на дах.

Ненатольнае полымя ў неба шугала,
Іскры доўга не гаслі над чорнай сасной.
З горкім дымам душу вышыня забірала,
Пры жыцці ненатоленую вышынёй.

* * *

Зямны наш шлях цяжкі, кароткі...
О, колькі болю ў ім, хлусні!
На нас глядзяць з жальбою продкі
З той незваротнай вышыні,
Адкуль і бачна ўсё, і чутна,
Куды іх душы адышлі,

Дзе пазнаюць зямную сутнасць,
Ды ўжо далёка ад зямлі...

* * *

*Народ, што прамаўчаў сваю дзяржаву.*

**Уладзімір Някляеў**

Хто нам прынёс дурную гэту славу?
Няўжо мы самі ў рабстве з года ў год:
“Народ, што прамаўчаў сваю дзяржаву”,
Ды хопіць вам! Ці быў ён тут – народ?..

Мой родны край у восеньскай самоце,
Дажджы і гразь – не вылезці на двор.
І я ў халоднай, горкай адзіноце
Палю на кухні танны “Беламор”.

Палю і п’ю астуджаную каву,
Гляджу ў вакно, дзе дождж і пустата,
Туды, дзе распінаюць не Вараву,
А зноў ні ў чым не віннага Хрыста.

Ім трэба зноў відовішчаў і хлеба,
А мне, што страціў волю і спакой,
Хварэць душой пад гэтым шэрым небам
І дажываць з краінаю сваёй...

* * *

Падняцца ранкам,
Каву падагрэць,
Глядзець праз шкло
На чырвань арабінаў.
І раптам
З ціхім болем зразумець,
Што ўжо жыццё
Становіцца ўспамінам.



Зараслава Камінская



...ён заўжды гэта адчуваў:

у яго за спінаю – таварыш Сталін...

# “Тутэйшыя”. Краткое содержание скачать

***Апавяданне***

*«Как и все нормальные люди, я думал о самоубийстве.*

*Как только я о нем подумал, первая же мысль, которая меня посетила, – ну ок, вот я покончил жизнь самоубийством. Повесился, бросился с 16-го этажа, лег под поезд, наелся снотворного, порезал в ванной вены. Супер. Я помер. Все.*

*Ну а завтра что? Это уже новая жизнь. Я могу послать в жопу хоть директора школы, потому что это уже не я, а моя новая инкарнация. Это моя вторая жизнь. Мне все равно, что мне скажут, потому что я умер вчера. А сегодня это другой я».*

http://tema.livejournal.com/828579.html

* * *

Невялікі пакой, завалены паперамі і кнігамі – не было як зрабіць крок, каб не наступіць на аркуш. Двое сядзяць не ў крэслах, а проста на падлозе, побач з вялікім сталом. Таксама на падлозе – талеркі з сухімі лустамі хлеба і чорнымі кавалкамі каўбасы, кубкі з заваркай: пілі моцную гарбату і сілкаваліся бутэрбродамі, бо часу не хапала.

Другую ноч запар не спалі: чыталі, падкрэслівалі, спрачаліся. Ілля паглядзеў на гадзіннік: палова на трэцюю ночы. І як ні шкада было часу, вырашыў зрабіць перапынак, каб папаліць: адчыніў фортку, прысеў на падваконне.

– Когда он успел столько написать? Вот Гоголь свои романы жёг, – пстрыкнуў сярнічкай – полымя перакінулася на цыгарэту – зацягнуўся, – а этот нет, этот не такой. И если бы он один. Скоро утро, мы не успеваем дочитать всё по списку. А значит, нас легко подловить. Ладно, если бы только свою тему рассказывать, тогда выкрутиться можно – говори, что знаешь. А если спросят: «Что вы думаете о пьесе “Павлинка”?»

У пакой пацягнула начной вільгаццю. Мацвей не паліў, але таксама вырашыў перапыніцца: падняўся, размяў ногі і пацёр вочы, якія гарэлі ад стомы.

– Боишься? Не вижу смысла бояться. От страха только память хуже работает.

– А я не могу быть таким спокойным. Я нервный: чувствую, что засыплюсь. Предлагаю объединить усилия: давай расскажу то, что сам читал, а ты мне то, что знаешь? Так мы хоть больше охватим.

Мацвей падышоў да суседняга вакна: маўклівы горад – але, здалося, маўклівы не таму, што ўсе паснулі, а таму, што схаваліся. Як там, у лічылцы: “Адзін, два, тры, чатыры, пяць, я іду шукаць”.

– Не бойся, мы не засыпемся. Тут главное – уловить смысл, а потом уже на любой вопрос ответить можно. И кажется мне, что смысл я нашёл.

– Если спросят конкретику? И что говорить? Что не читали, одного дня вот не хватило, а так бы всё успели? Давай пересказывать, я начну с “Тутэйшых”?

Мацвей павярнуўся, каб закіпяціць вады, і Ілля прыняў маўчанне за згоду:

– Итак, краткое содержание. В начале – попойка. Персонажи: Никита Зносак, такой себе приспособленец, подстраивается под любую власть, какая ни придёт. Его мать, любит сына, сама из деревни, персонаж, скорее, положительный. Так вот, у Никиты именины, и он устраивает по этому поводу собрание.

У них на квартире живёт учитель Янка. Янка всё время Никиту подкалывает: что тот думает о ранге своём, а рангов-то уже не будет, и что лучше бы ехал в деревню пахать. Никита в ответ, что Янка голодранец, но в то же время стоит за идею, всякие там сходы и съезды. То есть, как мы понимаем, Янка – большевик, выводится автором как положительный. И можно сказать, что главный герой тут он, хотя в центре вроде бы Никита.

У Никиты есть любовь – Настя, он ей всё время делает предложения, она отказывает. В гости к Янке приезжают из деревни Горошка (дядька старый) и его дочь Алёнка. Алёнка тоже за идею, потом они с Янкой поженятся, бедняцкая свадьба, всё как надо, но это ближе к концу.

А пока – именины. Являются те, кто при старой царской власти жил

хорошо. Но они выведены как отрицательные персонажи: Поп, Дама, Исправник, Пан. Да, на фоне этого сообщается, что в город приходят немцы, никто как бы и не против, лишь бы не мешали веселиться.

Едят, танцуют, те с Янкой – сами по себе, хотя постой, Янка им играет на балалайке, и там ещё фраза: “Попляшете под мою дудку”.

Мацей счакаў, пакуль гарбата настаіцца: калі вада стала цёмна-карычневаю, кінуў тры белыя кубікі цукру, перамяшаў – лыжка скаламуціла тоўсты пласт заваркі, нібы разварушыла гнілое восеньскае лісце.

– Илья, ты меня не слушал совсем. Я тебе говорил про идею, а ты в ответ – про дудки и кто на ком женится.

– А идея вот в чём. Власть там меняется, кажется, трижды: немцы, поляки, большевики. И каждый раз Никита находит, как приспособиться. И ему в общем-то всё равно, кто при власти. И это центральный персонаж такой бесхребетный, какой он пример показывает?

Революция, я бы сказал, выведена в ненадлежащем виде. Её идеи мы слышим только из уст этого самого Никиты, притом идеи эти высмеиваются. Классовая борьба буржуазии и пролетариата подаётся как шутка.

Мацей сёрбнуў гарбаты – моцная, салодкая, гарачая – і ўзяў са стала раздрукаваную п’есу. Пашукаў другі экземпляр, перадаў Іллю:

– Уже ближе, Илья, но не то. Я был на премьере и видел, как над Никитой смеются: сложно будет доказать, что он выведен как пример для подражания, а не для осмеяния. Можно, конечно, но нужно копать глубже.

– Так ты в театре на ней был? Зачем же я тебе рассказываю, время трачу?

– Если бы я в театр не ходил и пьесу не читал, мы бы с тобой завтра, то есть уже сегодня, срезались бы, как ты говоришь. Ты мне текст пересказал, а главное опустил. Неужели умышленно умолчал? Ну-ну, шучу, ты побледнел прямо... Не нравятся мне краткие изложения, Илья: кто-то один пересказал, а за ним все повторяют. Своей головой думать надо.

– Если ты про название, то ты мне не дал договорить: я тоже хотел поднять вопрос об этом патриархальном пережитке. Купала смотрит в прошлое, тешится в заигрывании с историческим наследием, как бабка перебирает поблёкшие сокровища. “Тутэйшыя”, то есть “здешние”, – так называли себя в прошлом местные жители, своего рода – зачаток народности. А теперь мы – пролетариат! И это надо выводить в заглавие, кричать большими буквами, звать в светлое будущее, отринув прошлое!

– Ты уже и речь придумал? Обожди. Ты за деревьями леса не видишь. Он-то пишет о будущем, но о каком. Зачитаю:

*“А мэта ў нас адна: калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: «Амэрыка для амэрыканцаў». І гэта памагло: сягоння Амэрыка вольная. Павінны пайсці і мы па яе слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу: «Беларусь...»”*

То есть если они – “американцы”, которые должны сбросить “колониальное иго”, то в роли угнетающей Англии для них кто, Российская республика? И это написано в год, когда все нации и народы устремились к единению, в год, когда был образован Союз Советских Социалистических Республик. А Купала приплетает колониальный строй и борьбу за независимость. Не по вкусу ему единение, улавливаешь?

– Контрреволюция. Нацдемовщина.

– Верно определил! Ты, я вижу, далеко пойдёшь, главное, меня держись – равнение на старших товарищей! Ну, давай теперь сам.

Ілля гартаў старонкі, а рукі трэсліся: ён папракаў сябе за стомленасць, за тое, што высунуўся з гэтым пераказам папярод бацькі, а сам п’есу чытаў няўважліва.

Мацвей зірнуў у вакно: самая цемра – значыць, хутка ўжо развіднее. Таварышы чакаюць, што ён выкрые контррэвалюцыйную арганізацыю сярод пісьменнікаў – і ён яе адшукаў. Засталося выбраць, каго паставіць на чале. Купалу ён бачыў толькі аднойчы, і гэты інтэлігент яму не спадабаўся: вітаючыся, не падаў рукі.

А маладога трэба яшчэ падбадзёрыць, бо зусім зніякавеў:

– Ты правильно говорил, что им всё одно, кто у власти: немцы ли, поляки или большевики. Купале нужна независимость!

– Нашёл! А вот как он говорит про русский язык: *“Для вашага гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсея кампаніі падобных ім, а на свой, папраўдзе для вас родны, як вы кажаце, язык вам напляваць. Эх, русацяп вы, русацяп!”* А между тем, это язык Ленина, язык Горького, язык мировой коммунистической революции!

Или вот, “Усходні вучоны”, этот пасквиль на советскую науку, так характеризует Янку Здольника, который выставляет себя белорусом: *«Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці... Народность ныне распадается на две родовые ветві: племя — белорусы і племя — тоже-белорусы,ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов. Родной язык – обшчэрусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов»*.

Или вот, дарит Алёнка эта вышитую рубашку, вышиванку, говорит, что она – «настоящая». Чем это ей советская одежда ненастоящая?

– В точку! Там такого добра достаточно. Иди домой, поспи пару часиков, жду тебя к девяти. Не дрейфь, для начала этого хватит, потом проработаем детальнее.

– Слушаюсь! Товарищ Абраменко, спать не буду, перечитаю!

– Говорил же, не “выкай” мне, – Мацей падаў руку на развітанне і зноў зірнуў на гадзіннік. Не, дахаты ён усё роўна не паспее, давядзецца начаваць у кабінеце.

Звыкла саставіў крэслы, выключыў святло, падсунуў пад галаву плашч. Пэўна, трэба ўсё ж такі пагаджацца на канапу, бо ўжо не хлопчык, косці ныюць.

Пра раніцу думаў толькі тое, што варта пагаліцца – лязо схаванае ў шуфлядзе. Увогуле, у кабінеце было ўсё, што яму неабходна. Ён ганарыўся, што паходзіць з тых, у каго не было дома і каму дом непатрэбны. І сваю службовую кватэру ніколі не называў домам – хата, якая належала яму па пасадзе, амаль заўжды стаяла пустою. Тыя, у каго ёсць дом, нібы крояць сябе надвое: вось, значыцца, там – мая душа, а тут, на працы, – толькі маё цела. Мацвей быў цэльны: усё, што яму патрэбна, яго ідэя, яго думкі, яго мэта, было ўнутры, а тое, што звонку, і тыя, што звонку, – без гэтага можна абысціся.

Нават шафу загадаў вынесці: толькі стол, крэслы, гадзіннік ды шклянкі-талеркі, якія састаўляў на падваконне. На сцяне – Партрэт. Але Мацвей лічыў, што Партрэт тут не дзеля яго, а для наведвальнікаў – бо павешаны не перад вачыма, а ззаду, за сталом. І ён заўжды гэта адчуваў: у яго за спінаю – таварыш Сталін. І было прыемна, калі наведнікі падчас размовы кідалі позіркі то на яго, то на Правадыра – нібы і Ён тут, поруч з Мацеем, і робяць яны агульную працу разам.

Цемра з густой зрабілася вадкай – у ранішнім сінім змроку здалося, што аркушы, раскіданыя на падлозе, засвяціліся белым. Гэтае святло перашкаджала, але выключыць яго не было як, і апошняе, што паспеў падумаць засынаючы: “Нужно прибрать”.

* * *

*«В 1922 г. мною была написана пьеса «Тутэйшыя», в которой я задавался целью высмеять приспособляющегося чиновника и отобразить в шутливой форме некоторые моменты переходного времени. Пьеса эта была поставлена в театре наспех и непродуманно и прошла незаметно. Возможно, не все места в ней я сам как следует оформил. Вообще пьеса эта не удалась мне».*

З паказанняў Янкі Купалы ў ДПУ наконт п’есы “Тутэйшыя”, 1930 г.

* * *

Адчыніў адну шуфляду – няма, другую – таксама нічога: пэўна, дарэмна шукаў у гасцёўні, трэба пайсці на кухню. Асцярожна абмінуў, каб нічым не грукнуць і нікога не разбудзіць, вялікі стол – і на ноч засланы абрусам, бы коўдрай, спачывае ад спраў дзённых: сёння за ім харчаваліся ці не дзесяць чалавек.

Наступіў на нешта – пешка: як тут апынулася? Апошні раз гуляў з Якубам даўно. Паставіў на паліцу і навобмацак выйшаў з пакоя, прытрымаў дзверы, каб не рыпнулі.

Цемра не перашкаджала: ён мог хадзіць тут з заплюшчанымі вачыма, бо ведаў свой дом, кожны яго метр, кожную рэч, што набылі сюды ён ці жонка. Тут не было нічога чужога – чужое там, звонку, за драўлянымі сценамі, за мяжой, а тут – сваё, роднае.

Канечне ж, тое, што яму патрэбна, было на кухні. Зараз – перанесці ў кабінет. Ён чуў, як цікае ў гасцёўні гадзіннік, нібы ў дома калоціцца сэрца. Цік-так – крок-крок – цік-так.

Кабінет заўжды здаваўся абгорнуты ватай: вакол хадзілі на дыбачках, баяліся парушыць цішыню – але цяпер варта самому ўпершыню падняцца на дыбкі. На падлозе раскіданыя камяні – калі наступіш, будзе балюча, не тое, што пешка.

Куды схаваць? У стол, у шуфляду. І пакрыху – назад. І ўсё ж зачапіў камень – той адляцеў і стукнуўся аб іншы: здалося, нарабіў страшэннага грукату. Ён сам раскідаў тут камяні і прасіў жонку не прыбіраць: яны нагадвалі пра іншыя краіны, далёкія шляхі, падарожжы.

Прыслухаўся. Дом спіць. Але ўсё роўна вырашыў пакуль не рухацца – прысеў у крэсла перад сталом. І па звычцы глянуў на фотаздымак жонкі – у цемры нельга было разгледзець, але ён памятаў: усмешка, светлы каўнерык, мяккія валасы. Пасля зірнуў туды, дзе стаяў партрэт Шаўчэнкі. Намацаў стос паперы, асадку, пасунуў прэс-пап’е бліжэй да зялёнай лямпы – нібы рыхтаваўся да працы. У кожнай рэчы тут была гісторыя, якая цесна ўпляталася ў гісторыю дома, бы галінка ў гняздо – раней здавалася, што гняздо гэта добра ўмацавана.

За шыбамі – цень, на ганку – крокі, за рогам – шэпт. Падалося? Ці нехта кружляе наўкола, але пакуль не можа ўвайсці? І колькі атрымаецца нікога ўнутр не пушчаць?

Перад вачыма – светлы чатырохкутнік акна, за спінаю – цёмны чатырохкутнік шафы: заўжды побач з ім – кнігі і тыя, хто іх напісаў. І сярод каго настае час заняць належны пасад.

* * *

*«Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну, і мне туды за імі дарога.*

*Шкадую толькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Сав. улада ў БССР.*

*Няхай жа жыве гэта новае творчае жыццё для шчасця ўсяго чалавецтва.*

*Янка Купала.*

*Памылкі свае, такія ці іншыя, я збіраўся выправіць, але не паспеў.*

*Менск, 22-XI-30 г.*

*Я.К.»*

Янка Купала, перадсмяротны ліст, 22 лістапада, 1930 г.

* * *

*«В ранг художественного действа суицид возвели средневековые японцы, знающие толк в эзотерических искусствах: икэбана – это искусство аранжировки цветов, тяною – это искусство пить чай, а харакири – это искусство распарывать собственный живот.*

*...До сего момента властвовал канон, но теперь есть выбор, потому что одобренных способов множество. Классический: вонзить кинжал в левую нижнюю часть живота, довести разрез до правого бока, там повернуть клинок острой стороной кверху и вынуть, немного полоснув в направлении ребер. Можно крест-накрест. Но не возбраняется и проявить фантазию – например, взять и вырезать посреди живота хиномару, национальный флаг».*

Григорий Чхартишвили, «Писатель и самоубийство».

* * *

*«22 лістапада 1930 года Янка Купала піша перадсмяротны ліст, затым бярэ нож і заганяе яго сабе ў жывот. Паэта ўратавалі. Але гэты эпізод падзяліў лёс Купалы на дзве часткі. Першая – Апостал Адраджэння, аўтар “Тутэйшых”, “Прарока” і г.д. Другая – аблаўрэачаны, прыкормлены паэт, які піша оды таварышу Сталіну».*

http://old.zviazda.by/ru/pril/article.php?id=69608

* * *

Сустрэліся пад зямлёй – на Купалаўскай: зялёныя сцены, шэры мармур, белыя электрычныя лямпы.

– Залік праз тыдзень, часу – вагон. Дзякуй за канспекты, ты мяне выратаваў. А сам што выцягнуў?

– “Жанрава-мастацкія асаблівасці п’есы Купалы «Тутэйшыя»”. Пераказаў тое, што было ў канспекце, гэтага хапіла. Ды яшчэ задала некалькі пытанняў па змесце. Ты не чытаў?

– Мне расказвалі, але не паспелі да канца.

– Дашлю табе спасылку на кароткі змест: героі, ідэя, асноўная тэма – гэтага досыць, астатняе ведаць не патрэбна:

http://slovo.ws/izlog/bel/Yanka_Kupala/09.html

## Вераніка Міхалёва



...Родны – родны да крыку – кут,
Маё сэрца заўсёды тут...

# Маё сэрца заўсёды тут...

* * *

Я рады вітаць цябе, нашчадак мой мілы.
Мне выпаў цудоўны шанец – паразмаўляць з табой.
І хоць падарожжа ў часе нібы немажлівае,
Я ўсё-такі змог прайсці скрозь летуценняў рой.

Прыйшоў да цябе з далёкага аж 18-га...
Мажліва, я для цябе застануся адно толькі – вершам.
Але адкажы: ці не перастаў змагацца?
Ці, можа, ужо дасягнуў жыцця, долі лепшай?

Вельмі цікава, што там з маёй Беларуссю?
З народам свядомым, што так не хацеў быць скораным?
Думаю, да волі ён дайсці ўжо мусіў
І права прыгоннае вынішчыць светлым полымем.

Як там мае журавы? Блакітнае неба чыстае?
Руплівая праца і мара паўстаць з кален?
Спрадвечная думка піць вадзіцу празрыстую,
Не цешыцца бруднай жыжай з дня ў дзень.

Скажы, ці не забыліся вы на ахвяраў –
На тых, хто аддалі душу, не шкадавалі жыццё,
На кожнага, хто аб незалежнасці марыў,
Хто ў вочы глядзеў і ў смяротны час не ўцёк?

Чаму ж ты плачаш, мой дарагі нашчадак?
Хіба я пакрыўдзіў цябе? Ці нешта мовіў не так?
– Я плачу таму, што плакаць – недапушчальна.
Слёзы не выратуюць душы ўсіх небарак.

Я плачу таму, што мне прад табою сорамна,
Вялікі мой продак, о, мужны і смелы ваяр!
Вы не баяліся, вы не страчвалі гонару.
А зараз час, калі ў хаце сядзіць змагар.

Слёзы мае – ад нясцерпнага вечнага болю
За народ свядомы, што свабодным даўно быць мусіў.
Я плачу за тых, хто не дачакаліся волі.
Гэта слёзы малення. Аб прывіднай Беларусі.

* * *

З маленства вучаць нас хадзіць,
Раскладваць кубікі ды з цацкамі гуляць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

Ў садку нас вучаць ветлівымі быць,
Там пакрысе мы вучымся чытаць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

Нас вучаць ў школе складваць і дзяліць,
Нас навучаюць адымаць і памнажаць.
Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць.

Нас вучаць дома прыбіраць, падлогу мыць,
Дзяўчат матулі навучаюць гатаваць.

Але не вучаць нас, як мову палюбіць
І беларускае у Беларусі паважаць...

* * *

Маё сэрца заўсёды тут –
У гэтым месцы, паўнюткім болем,
І людзьмі, што не прагнуць Волі,
Маё сэрца заўсёды тут.

Маё сэрца заўсёды тут –
На зямлі, што крывёю паліта,
Дзе ўсе вартыя здаўна забіты,
Маё сэрца заўсёды тут.

Родны – родны да крыку – кут,
Маё сэрца заўсёды тут.



# Чарадзейка-поўня

***Анталогія італьянскай паэзіі***

## Джакама ЛЕАПАРДЗІ (Giacomo LEOPARDI, 1799–1837)

### *РАЗМОВА З ПОЎНЯЙ*

О, чарадзейка-поўня, зноў прыгадваю,
Што год мінуў, як на пагорак гэты
Прыйшоў я сумны, каб цябе пабачыць:
А ты віcела над далёкім лесам
І наваколле асвятляла, як і сёння.
Але тады туманным і дрыготкім
Тваё аблічча бачыў цераз слёзы,
Што засцілалі вочы. Якім пакутлівым
Жыццё маё было, і ёсць, і застанецца,
О, поўня блаславёная мая. Ды згадваць
Радасна мне ўсё ж, як і майго цярпення
Даўніну падлічваць. Ах, як салодка
Успамінаць пражытыя імгненні
У маладыя дні, калі яшчэ ў надзеі
Вялікі шлях, а ў памяці – кароткі,
Хоць сумна мне дасюль і смутак не мінае!

## Джазуэ КАРДУЧЫ (Giosiè CARDUCCI, 1835–1907), лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1906)

### *МІНАЮЧЫ ТАСКАНСКУЮ НІЗІНУ*

Край дарагі мой, дзе годнасць герояў
і песню спасціг я душой гарачай,
і гнеў з любоўю – вытокі маіх настрояў,
толькі ўбачу цябе, як сэрца б’ецца іначай.

*Пераклад з італьянскай Аксаны ДАНІЛЬЧЫК.*

Пазнаю абрысы тваіх звыклых строяў,
а вочы цяплеюць слязою ці ўсмешкай дзіцячай,
тут знаходжу сляды сваіх даўніх мрояў
і памылак чароўнай пары юначай.

Ах, і любоў, і мары згінулі ў плыні бясплённай,
спяшаўся заўжды, але з мэтай не змог сустрэцца;
а заўтра – загіну. Ды з далі замглёнай

пагоркі твае супакойваюць сэрца
лёгкай смугой і далінай зялёнай,
што ў ранішніх ліўнях смяецца.

*21 красавіка 1885 г.*

### *БАЗІЛІКА СВЯТОЙ МАРЫІ АНЁЛАЎ У АСІЗІ*

Браце Францішак, скольні святла абдымае
Велічны купал – стварэнне Віньёлы[1],
Дзе ў час, як агонія крыжам рукі складае,
На цвёрдай зямлі спачываў ты голы!

Ліпень спякотны, песня любові долы
Працавітыя аблятае. А сэрца шукае
У спевах Умбрыі[2] слоў тваіх водгук кволы,
У небе Умбрыі вобраз твой бачыць жадае!

На даляглядзе над гор хрыбтамі,
Дзе ў ціхай самоце высокае ззянне
Райскаю брамай тваёй залаціцца,

Гляджу, як з узнятымі ў неба рукамі
Ты славіш Бога: “Хвала табе, Пане,
Што ў нашага цела ёсць смерць-сястрыца!”

## Джавані ПАСКАЛІ (Giovanni PASCOLI, 1855–1912)

### *ЯЗМІН УНАЧЫ*

Раскрываюцца ўночы суквецці,
ў час, як згадваю родных і мілых.
На змярканні ў калінавым вецці –
матылькоў мітусня цемнакрылых.

---

[1] Джакама да Віньёла або проста Віньёла (*Il Vignola*; сапр. *Якапо дэ Бароццы*; 1507–1573) – італьянскі архітэктар.

[2] Вобласць Італіі, дзе знаходзіцца Асізі.

Ужо дзённыя крыкі прапалі:
толькі шэпчуцца ў доме да ночы.
Пад крыламі гнёзды прыспалі,
як прыспалі пад вейкамі вочы.
Над раскрытымі кветамі лёгкі
пах чырвоных ягад лунае.
Блішча ў зале агеньчык крохкі.
На магілах трава прарастае...
Запозна пчала карагодзіць
перад каморкай занятай.
На двор блакітны выходзіць
Плеяда зор-куранятаў.
Уздымаецца водар лёгкі
усю ноч і з ветрам знікае.
Вунь на лесвіцы водсвет дрогкі;
патрымцеў наверсе, згасае...
Світанак: даводзіцца кветам
пялёсткі падвялыя скласці;
у мяккім таемным схове
завязалася новае шчасце.

### *МАЛАНКА*

З зямлі і неба покрыва спала:
зямля дрыжала ў задусе тужлівай;
неба цяжэла ў адчайным сумненні:
белы белы ў трывозе маўклівай
дом то ўзнікаў то знікаў на імгненні;
як вока, раскрытае ў велькім здзіўленні,
што ў чорнай начы палахліва міргала.

## Карла МІКЕЛЬСТЭДТЭР
## (Carlo MICHELSTAEDTER, 1887–1910)

### *ПАДАЕ СУМНЫ ДОЖДЖ НЕСУПЫННА*

*I*

Падае сумны дождж несупынна
кропля за кропляй
і растае. Трымціць
святло кожнай рэчы. І кожная рэч,
здаецца, павінна
развеяцца ў ценю густым і амаль што
туманам бялёсым растаць і памерці,
пакуль ты праходзіш пажадна
за празрыстыя ніткі дажджу,
што вібруюць стальнымі лёзамі.

Так душа мая страчвае колер
і растае непрыкметна,
бо між мяккіх спіраляў сусвет
хоча абняць.

Ды дзе там! Знікла, як белы туман,
у цемры густой вечнай ночы
прырода, і разгубленая душа
б'ецца ў пакуце жахліва самотная,
самотная і збавення шукае.

***II***

"Глядзіце, куды ідзяце! Ну няўжо Вы сляпы?"
Мне выгуквае ў твар вінным духам
прасталюдзін, хістаючыся ў бакі.
Яшчэ дрыжыць святло ліхтароў
над заваротам плыўным Арно,
і шэрая дрымотная рака нясе
свае брудныя хвалі.
Паўстае пагоркаў цёмная маса
і базіліка Сан-Мініята, агорнутая туманом, –
цень у цені, –
чырвоны зніч з чорных комінаў
б'ецца ў паветры,
а цяжкое дыханне палае жыццём.
І адклікаецца з сумнага сэрца майго
прага тужлівая перамогі
і горкая патрэба ў пяшчоце:
несвядомая сіла – марнасці зніч.

***III***

О, жыццё, жыццё, трымай мяне яшчэ, марна
душа вырываецца, і марна
імкнецца спасцігнуць тваю таямніцу,
каб ахапіць у бязмежных абдоймах
тваю разнастайнасць.
Каханне і смерць, сусвет і нішто,
жорсткая неабходнасць жыцця –
ты мяне адштурхоўваеш.

*Люты 1907 г.*

## Дзіна КАМПАНА (Dino CAMPANA, 1885–1932)

### *ПАДАРОЖЖА Ў МОНТЭВІДЭА*

Я бачыў з кармы карабля
Як пагоркі Іспаніі

Знікалі, у зеляніне
Між прыцемкаў залатых цёмная зямля раставала
Быццам мелодыя:
На невядомай сцэне самотнай дзяўчынкай
Быццам мелодыя
Сіняя на ўзгорыстым беразе яшчэ дрыжэла віёла...
Лагоднеў блакітны вечар над морам:
Пазалочаных маўчанняў крылле таксама зрэдзьчас
Ляцела павольна між ценяў блакіту...
Дальнімі фарбамі колераў розных
З самых дальніх маўчанняў
Залатыя птушкі ляцелі праз вечар: над невідушчым ужо
Караблём ляцелі змагаючыся са змрокам
Разам з нашымі разбітымі сэрцамі
Змагаючыся крыллем са змрокам блакітным над морам.
Але аднойчы
На карабель узышлі паважныя жонкі з Іспаніі
З вачыма хмурнымі і анёльскімі
З грудзямі галавакружнымі. Раптоўна
У адным глыбокім заліве экватарыяльнай выспы
У адным заліве спакойным і значна глыбейшым
за неба начное
Мы ўбачылі, як узнік у магічным святле
Белы горад заснулы
Ля ног высачэзных пікаў пагаслых вулканаў
У подыху хмурным экватара: пакуль
Пасля стольких крыкаў і стольких ценяў невядомай краіны,
Пасля доўгага скрыгату ланцугоў і імпэту гарачага працы,
Мы не пакінулі экватарыяльнага горада
Дзеля неспакойнага мора начнога.
Мы плылі і плылі, дні за днямі: караблі
цяжкія ад ветразяў мокрых ад гарачых вятроў
праплывалі павольна насустрач:
так блізка, што побач на шканцах мы бачылі бронзавую
Дзяўчынку новае расы,
Вочы бліскучыя, сукня ўздымаецца ветрам! І вось, неяк
пад вечар паказаўся дзікі,
Удалечыні над марскою бязмежнасцю дзікі бераг:
І я бачыў як быццам коні
Галавакружныя беглі дзюны
Да прэрый бясконцых
Пустых без жытла чалавека,
А мы азірнуліся, уцякаючы ад дзюнаў, і вось паказалася
Над морам, жоўтым ад незвычайнай раскошы ракі[1],
Новага кантынента марская сталіца[2].

---

[1] Рыё дэ ла Плата.
[2] Буэнас-Айрэс.

Ясным свежым электрычным было святло
Вечара і высокія дамы там[1] здаваліся пустымі
Унізе ля мора, дзе некалі плаваў пірат[2],
Горад пакінуты намі
Між жоўтым морам і дзюнамі...

## КАРАБЕЛЬ У ДАРОЗЕ

Мачта рытмічна гайдаецца ў цішыні.
Падае з мачты слабое святло, белае і зялёнае.
Чыстае неба на даляглядзе, насычанае пасля буры
зялёным і залацістым.
Белы квадрат ліхтара наверсе
асвятляе начную таямніцу: за вакном –
канаты спускаюцца залатым трохкутнікам
і белы шар дыму
няіснага як музыка
над кругам дзе падаюць кроплі вады пад
сурдзінку.

## БУЭНАС-АЙРЭС

Карабель марудна рухаецца наперад,
У шэрай раніцы між туману
Над жоўтай вадою марской ракі
Ўзнікае шэры, смугою акутаны горад.
Мы зайшлі ў дзіўнаваты порт. Эмігранты
Шалеюць, штурхаюцца, вар'яцеюць
У даўкім ап'яненні будучай бойкі.
Купка італьянцаў, апранутых
Па смешнай тутэйшай модзе,
Кідае памаранчы ачмурэлым
Крыклівым землякам.
Хлопчык партовы, самы лёгкі
Парастак волі гатовы шпульнуць,
Глядзіць на іх, рукі ў напоўпе
Пярэстым, і збіраецца павітацца.
Ды злосна шчэрацца італьянцы.

[1] У Монтэвідэа.
[2] Згодна з падказкай самога Кампаны – Джузэпэ Гарыбальдзі.



Рышард Капусцінскі



...у пустыні прычынай вайны
з'яўляецца прага да жыцця...

# Кіргіз злазіць з каня

## Туркменія – рэспубліка ў пустыні

### 1.

*Пераклад з польскай Яўгена САЛЕЙЧУКА.*

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (88).*

Ашхабад – спакойны горад. Часам па вуліцы праедзе "Волга". Часам вослік працокае капытамі па асфальце. На рускім рынку прадаюць гарачую гарбату. Адзін імбрык – 20 капеек. Але ці можна так вымяраць вартасць гарбаты? Тут гарбата – гэта жыццё. Стары туркмен бярэ імбрык, налівае дзве місачкі – адну сабе, другую падсоўвае белабрысаму малому. "Ну!" – кажа ён хлопцу. "Ой, дзядзя, – адказвае малы, – увесь час кажу табе, што нельга гаварыць «ну», а толькі «на»"."Дзядзя" смяецца, можа, той самай думцы, якая і мне прыйшла ў галаву: яго ўжо нічому нельга навучыць. Туркмен, які дажыў да сівой барады, ведае ўсё. Яго галава поўная мудрасці, яго вочы чыталі кнігу жыцця. Калі ён атрымаў першага вярблюда, то спазнаў смак багацця. Калі ў яго здохла атара авечак, спазнаў няшчасце галечы. Бачыў высахлыя студні – ён ведае, што

гэта роспач, і бачыў студні з вадой – ён ведае, што гэта радасць. Ведае, што сонца прыносіць жыццё, але таксама ведае, што сонца прыносіць смерць, чаго не ўсведамляе сабе ніводзін еўрапеец.

Ён ведае, што такое смага, і што такое сытасць.

Ён ведае, што калі спёка, трэба апранульца цёпла, у халат і каракулевую шапку, а не распранацца дагала, як гэта робяць белыя. Апрануты чалавек думае, а распрануты – не. Голы чалавек можа ўчыніць любое глупства. Тыя, хто ствараў вялікую гісторыю, заўсёды былі апранутыя. У Шумеры і Месапатаміі, у Самаркандзе і Багдадзе, нягледзячы на пекла спякоты, людзі хадзілі апранутыя. Там узніклі вялікія цывілізацыі, якіх не ведала ні Аўстралія, ні Экватарыяльная Афрыка, дзе ходзяць пад сонцам голымі. У гэтым можна пераканацца, чытаючы гісторыю свету.

Можа, той стары ведае адказ на вялікае пытанне Шэкспіра.

Ён бачыў пустыні і аазісы, гэта значыць, што ён бачыў увесь свет, які ў канчатковым выніку зводзіцца да гэтага адзінага падзелу. У свет прыходзіць усё больш людзей, у аазісах робіцца цесна, нават у вялікім аазісе Еўропы, не гаворачы ўжо пра аазіс Ганга, аазіс Ніла. Ці ж чалавецтва, якое нарадзілася ў пустынях, пра што гавораць усе сведчанні, не будзе вымушанае вярнуцца туды, дзе яго калыска? І тады да каго прыйдзе па параду той спацелы мяшчанін са сваім перагрэтым “Фіятам”, са сваёй лядоўняй, якую не будзе дзе падключыць? Ці не пачне ён шукаць туркмена з сівой барадой, туарэга з навітым турбанам? Яны ведаюць, дзе студні, і, значыць, яны ведаюць таямніцы выжывання і ўратавання. Іх веды, пазбаўленыя схаластыкі і дактрынёрства, вялікія, бо яны служаць жыццю. У Еўропе прызвычаіліся пісаць пра людзей пустыні, што яны адсталыя, нават вельмі адсталыя. Ніхто не думае, што так нельга меркаваць пра народы, якія здолелі перажыць тысячагоддзі ў найстрашнейшых для чалавека ўмовах, ствараючы пры гэтым вельмі каштоўны, бо практычны, тып культуры, які дазваляе цэлым народам існаваць і развівацца, у той час як шмат аселых цывілізацыяў заняпалі і зніклі з зямлі назаўсёды.

Некаторыя думаюць, што чалавек сыходзіў у пустыню ад галечы, бо не меў іншага выйсця. Але было якраз наадварот. У Туркменіі ў пустыню маглі сыходзіць тыя, хто меў статкі, гэта значыць, найбагацейшыя, качаванне было прывілеем заможных. “Жыццё ў пустыні, – кажа прафесар Габрыель, – гэта гонар, гэта месца для абраных”. Для качэўніка пераход да аселага жыцця заўсёды быў крайняй неабходнасцю, свайго роду жыццёвай паразай, дэградацыяй. Жыць асела качэўніка можна прымусіць толькі сілай, пад эканамічным або палітычным ціскам. Ён не ведае цаны, якую можна заплаціць за свабоду, што дае пустыня.

Ці можна ўявіць сабе чалавечую цывілізацыю без таго ўнёску, які зрабілі качэўнікі? Возьмем Залатую Арду і дзяржаву Цімурыдаў. Гэта былі самыя вялікія імперыі сярэднявечча. Самы доўгі эпас сусветнай літаратуры, які называецца “Манас” і налічвае сорак тамоў, – гэта нацыянальная эпапея качавога народ, кіргізаў. Возьмем росквіт індыйскага мастацтва ў часы кіравання качавой дынастыі Вялікіх Маголаў. Варта згадаць і такую з’яву, як іслам, які трынаццаць стагоддзяў уплывае на гісторыю свету і застаецца рэлігіяй у стане экспансіі, маючы паслядоўнікаў на вялікіх абшарах, ад Сенегала да Інданезіі, ад Манголіі да Занзібара.

Але, перадусім, качэўнікі, што не ведалі самалётаў, а яшчэ раней не ведалі параходаў, цягам тысячагоддзяў былі адзіным народам, які ава-

лодаў незвычайным і небяспечным мастацтвам пераадольвання мёртвых прастораў. Самім фактам сваіх сталых вандровак яны стваралі першую ў гісторыі сапраўды сусветную сістэму *mass-communications*, пераносячы з горада ў горад, з кантынента на кантынент, з аднаго краю на другі не толькі золата, спецыі і фінікі, але кнігі і лісты, палітычныя весткі і даклады пра адкрыцці, арыгіналы і копіі вялікіх твораў думкі і ўяўлення, што ў тыя часы маланаселенасці і ізаляцыі дазваляла абменьвацца дасягненнямі, развіваць культуру.

Каля таго месца, дзе туркмен, хлопец і я п'ём гарбату, стаіць гандлярка з клункам кветак. "Гражданки – заклікае яна – не забывайте розы". Ашхабадскія ружы цяжкія, самлелыя. Ніхто не купляе кветак, у гэты час рынак пусты, гэта поўдзень у пустыні. Ашхабад, прыгнечаны спёкай, ляжыць на сонцы здранцвелы, маўклівы. Адсюль да майго гатэля сто метраў, да іранскай мяжы – гадзіна язды. А да Масквы далёка – 4 300 кіламетраў, да Варшавы – больш за пяць тысячаў. У 1935 годзе група туркменаў выправілася на конях у Маскву. Яны ехалі каля трох месяцаў, 83 дні, і гэты рэкорд быў запісаны ў "Гісторыі Туркменскай ССР".

На рынку ёсць гандляры гароднінай, гэта калгаснікі, якія прадаюць плён сваіх агародаў і ўчасткаў, прадаўцы лекаў, якія тут можна набыць на латках, нацыяналізаваныя букіністы і цырульнікі. Цырульнікаў шмат, але толькі мужчынскіх. Туркменкі заплятаюць косы, для гэтага цырульнік непатрэбны. Ёсць прадавец алоўкаў і сшыткаў, фантастычна мокры, які проста сплывае потам, нібыта бесперапынку стаяў пад душам. "Узбек! – кліча ён прадаўца гарбаты. – Дай чаю!" І пампуе гарачы напой, міска за міскай. "Грамадзяне! – крычыць ён праз момант, – павышайце культуру! Купляйце сшыткі! Купляйце сшыткі!"

Увесь рынак пакрыты асфальтам, вуліцы таксама заасфальтаваныя. Па вуліцах ходзяць тралейбусы, разагрэтыя, як мартэны. Вуліцы паабапал абсаджаныя дрэвамі, шмат газонаў і кветак, тут бачны вялікі клопат пра зеляніну, горад дагледжаны, чысты і вымыты. Дрэвы даюць цень, але выконваюць таксама іншую, псіхалагічную функцыю. Прысутнасць зеляніны ўлагоджвае пакутлівае пачуццё клаўстрафобіі, боязі закрытай прасторы, якую зазнае жыхар аазіса. Аселы чалавек баіцца пустыні, пустыня працінае яго жахам. Між тым дастаткова дайсці да мяжы горада, часта дастаткова дайсці да канца свайго падворка – і навокал пустыня. Пустыня ўрываецца ў горад, засыпае плошчы і вуліцы. Я быў у Нуакшоце, які ляжыць у Сахары, і там рэгулярна прыбіраюцца нанесеныя на асфальт завалы пяску так, як у нас з вуліцаў зімой прыбіраецца снег. У аазісе Атар я бачыў сялянаў, усе намаганні якіх зводзяцца да таго, каб адкопваць фінікавыя пальмы, якія засыпаюцца пустыняй па самыя вершаліны. Пустыня атакуе дамы, таму яны не маюць вокнаў, або вокны раз і назаўсёды зачыненыя. У гэтым клімаце! Аднак жа такім чынам чалавек бароніцца ад пылу, які знішчае памяшканне, запасы, маёмасць.

Дрэвы ствараюць ілюзію, што аазіс – гэта не маленькая выспа, якая ўвесь час атакуецца стыхіяй пустыні, а кавалак вялікай зямлі, прыхільнай да людзей і раслінаў.

Ашхабад – горад двойчы малады. Яго пачалі ўзводзіць толькі ў 1881 годзе, калі расейскія войскі, пасля таго як зламалі супраціў туркменаў, пабудавалі тут ваенны форт. Форт пачаў абрастаць вулкамі, узнікла мястэчка. У 1948 годзе, падчас землятрусу, аднаго з самых цяжкіх у сучаснай

гісторыі, за 15 секундаў горад знік з паверхні зямлі. “Раней былі адны могілкі, – узгадвае Міша, – а пасля землятрусу – шаснаццаць”. З усяго горада неразбураным застаўся толькі помнік Леніну.

Ашхабад, які я бачу сёння, – гэта горад, што паўстаў пасля бедства, уласна кажучы, з падмуркаў. Аматару даўніны тут няма чаго глядзець.

У сталіцы Туркменіі прыкладна чвэрць мільёна жыхароў. Яна раскінулася на раўніне плоска і шырока, бо такі тып забудовы павялічвае ўстойлівасць у выпадку землятрусу. У 1962 годзе да межаў Ашхабада дайшоў Каракумскі Канал, побач з горадам было створана штучнае возера. Вялікая вада ў самым сэрцы пустыні – уражвальнае відовішча. Я быў тут у нядзелю, калі да вадасховішча сцягваюцца сталічныя натоўпы. Вада цёплая, пляжы цудоўныя. Многія мужчыны маюць татуіроўкі, мода тут даволі распаўсюджаная. Я бачыў чалавека, у якога на грудзях былі татуіроўкі партрэтаў Леніна і Сталіна.

## 2.

З вандровак па Ашхабаду:

– быў у ткацкай майстэрні туркменскіх дываноў, знакамітых амаль як і персідскія, хоць у Еўропе яны вядомыя пад назвай бухарскіх, паколькі туркмены раней прадавалі іх на рынках Бухары. У іх дамінуюць розныя адценні глыбокіх, амаль цёмных чырвоных колераў пераплецены чорным або белым шыўком. Дываны ткуць туркменкі ў вялікай зале, у якой пануе поўная цішыня. Ручная праца, якая патрабуе незвычайнага спрыту. Дзяржаўная норма для адной ткачыхі: на працягу месяца выткаць 1м² дывану. Гэта азначае, што на працягу месяца ткачыха павінна заплесці 340 000 вузлоў. Здаецца непраўдападобным, але аказваецца, што гэта норма-мінімум, у майстэрні мне паказвалі такі дыван, дзе на 1м² заплецена 1 148 000 вузлоў. Я не ведаю, як гэта падлічылі, але такую лічбу мне даў дырэктар. У гэтай майстэрні пятнаццаць жанчын пад кіраўніцтвам дэпутаткі Вярхоўнага Савета СССР Байрах Хаджэдзілы, і дэпутаткі Вярхоўнага Савета Туркменскай ССР Атагі Бабаевай ткуць дыван у гонар 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жанчыны ўзяліся саткаць дыван памерам у сорак квадратных метраў за паўгода. Ён будзе налічваць шаснаццаць мільёнаў вузлоў. Уся Туркменія за год тчэ 47 000 м² дываноў. Больш за палову з гэтага тчэцца саматужна, па дамах. Амаль усе дываны ідуць на экспарт, а паколькі на іх ёсць попыт і яны каштуюць дорага, гэта прыносіць фантастычны прыбытак;

– намеснік галоўнага архітэктара Ашхабада, Віктар Кутумаў паказаў мне праекты развіцця горада. Сам Кутумаў адзін з найцікавейшых людзей, якіх я тут сустракаў. Яму 28 гадоў, скончыў політэхніку ў Ленінградзе, быў на стыпендыяльным навучанні ў Італіі. Малады энтузіяст, вельмі інтэлігентны, дасканала арыентуецца ў самых новых напрамках архітэктуры. Ён мне гаворыць, што архітэктура ў першую чаргу павінна быць функцыянальнай, што будынак – гэта кампазіцыя шкла і бетону, што формы архітэктуры акрэслівае клімат, а не прыдуманая і штучная псеўданацыянальная традыцыя. Ён паказвае мне макеты і планы праектаў, якія ўжо рэалізуюцца. Гэта творы найвышэйшай пробы, дасканалыя, сучасныя. Я кажу яму, што калі так пойдзе далей, то праз некалькі гадоў людзі будуць прыязджаць у Ашхабад, каб вучыцца будаваць сучасны горад.

Ён усміхаецца, але я адчуваю, што гэта ёсць яго мэтай. Ён захапляецца Нэрві і хоча будаваць свой Ашхабад, як Німэер будаваў горад Бразілія;

– у міністра сельскай гаспадаркі Туркменіі, Сахада Мурадава. Размаўляем у яго кабінеце, сціплым, нават строгім. На размове прысутнічае намеснік міністра, расеец. Мурадаў, у расшпіленай кашулі, малады, спакойны, закідвае мяне лічбамі. Усе мае размовы з тутэйшымі дзяржаўнымі дзеячамі па сутнасці зводзяцца да адзінага ўзору – колькі было, колькі ёсць, колькі будзе. Пытаюся ў міністра пра вярблюдаў. Справа ў тым, што раней вярблюдаў ліквідавалі як перажытак. Між тым вядома, што ў розных пустынных сітуацыях вярблюд незаменны. Міністр мне адказаў, што апошнім часам у гэтай справе перамог больш рэалістычны падыход і цяпер гадоўля вярблюдаў у рэспубліцы развіваецца ў вялікіх маштабах. Размова працягвалася паўгадзіны, з чаго пэўную частку заняў абмен рознымі ветлівымі зваротамі;

– хацеў, вельмі хацеў наведаць Інстытут пустынь. Гэта ўнікальная, адзіная ў свеце падобная ўстанова. Інстытут займаецца пытаннямі асваення пустынь, што сёння мае велізарнае значэнне для сусветнай гаспадаркі. Пра сваё жаданне я сказаў Ашыру, які суправаджаў мяне ў Ашхабадзе. З Ашырам я ніколі не мог знайсці агульнай мовы. Мне здавалася, што ён лічыў сакрэтным усё, што мяне атачае, таму, калі я сказаў яму, што хацеў бы сустрэцца з кім-небудзь з Інстытута пустынь, ён адразу адказаў, што гэта немагчыма. Але я ўпёрся. На гэта Ашыр сказаў, што патрэбная згода прэзідэнта туркменскай Акадэміі навук. Добра, кажу я, пойдзем на аўдыенцыю да прэзідэнта. Прафесар Бігам Азімаў, выбітны туркменскі мовазнаўца, па падручніках якога вучыцца не адно пакаленне моладзі рэспублікі, прыняў нас ахвотна. Гэта вельмі абаяльны і сціплы чалавек. Я сказаў яму, што хацеў бы ўбачыць Інстытут пустынь, а менавіта, як можна выкарыстаць энергію сонца для апраснення вады. Калі б гэтую справу ўдалося вырашыць, то адбылася б рэвалюцыя ўзроўню вялікай прамысловай рэвалюцыі. Праблема ў наступным: у грунтах усіх пустынь свету знаходзяцца вялікія запасы вады. Але тая вада салёная, непрыдатная для людзей, жывёл і раслін. Каб яе выкарыстоўваць, спачатку трэба выдаліць з яе соль, а для гэтага патрэбна энергія. Велізарныя запасы той энергіі ўтрымліваюць сонечныя прамяні. Адзін квадратны кіламетр пустыні штогод атрымлівае $1{,}4\text{-}10^{12}$ кілакалорый сонечнай энергіі, што эквівалентна цеплавой энергіі атрыманай у выніку спальвання 200 тысяч тон вугалю. Дастаткова гэтую лічбу памножыць на дзясяткі мільёнаў квадратных кіламетраў, якія займаюць пустыні, каб усвядоміць сабе, наколькі ашаламляльныя магчымасці тут схаваныя. Акрамя таго свет, які з прычыны развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі пачынае адчуваць недахоп прэснай вады, мае неабмежаваныя запасы салёнай вады ў марах, акіянах і пад паверхнямі пустынь. Аднак гэтая вада непрыдатная да ўжывання. Прэсную ваду з салёнай можна атрымаць рознымі спосабамі – электрадыялізам, замарожваннем, іонным абменам, дыстыляцыяй і г.д. але гэта ўсё вымагае каласальных затрат энергіі. І таму, калі б атрымалася запусціць апраснявальныя ўстаноўкі ад сонечнай энергіі, тады можна было б скіраваць развіццё свету на зусім іншыя рэйкі: накарміць мільярд людзей, засеяць цэлыя кантыненты, ператварыць пустыні ў сады. Не кожны чалавек задумваецца над падобнымі рэчамі, але яны маюць значэнне для лёсу чалавецтва.

Прэзідэнт запэўніў, што няма ніякіх праблем з тым, каб наведаць Інстытут, і патэлефанаваў дырэктару. Дырэктар чакае мяне, сказаў прэзідэнт. Але акурат у той самы час у мяне было спатканне з міністрам, якое я не мог адмяніць. А дырэктар не мог прыняць мяне пазней, бо ляцеў у Маскву. Я сказаў прэзідэнту, што мне не абавязкова размаўляць з дырэктарам, што ў Інстытуце шмат іншых навукоўцаў. Але тут пануе звычай размаўляць з самім дырэктарам.

Так што на гэтым усё і скончылася.

## 3.

Рашыд паказаў мне на мапе, дзе цёк Узбой. Узбой браў воды з Амудар'і, перасякаў пустыню Каракум і ўпадаў у Каспійскае мора. Гэта была прыгожая рака, сказаў Рашыд, доўгая, як Сена. Тая рака памерла, сказаў ён яшчэ, а яе смерць стала пачаткам вайны. Ён дадаў, што гісторыю Узбоя даследаваў археолаг Юсупаў. На яго думку, рака з'явілася ў пустыні раптоўна і адносна нядаўна, можа, пяць тысячаў гадоў таму. Разам з вадой у пустыню пацягнуліся рыбы і птушкі. Потым прыйшлі людзі. Яны належалі да плямёнаў алілі, хізр і ціведжы. Туркмены падзяляліся ў той час на сто дзесяць плямёнаў, а можа нават і больш. Людзі алілі, хізр і ціведжы падзялілі Узбой на тры адрэзкі, кожнаму племені прыпала адна трэцяя даўжыні ракі. Берагі Узбоя ператварыліся ў квітнеючы шматлюдны аазіс. Узніклі пасяленні і гандлёвыя цэнтры, сады і плантацыі. У самым сэрцы пустыні зрабілася ажыўлена і шумна. Вось што можа зрабіць вада. Вада – гэта пачатак усяго. Гэта кроў зямлі. Людзі ўяўлялі ваду, малюючы тры хвалістыя рыскі. Над рыскамі малявалі рыбу. Рыба была сімвалам шчасця. Тры рыскі плюс рыба – азначала жыццё.

Па рацэ плавалі купецкія чаўны. Па ёй ішоў тавар з Індыі да Анатоліі, з Харэзма да Персіі. Узбой ведалі па ўсім свеце. У тых краінах, дзе былі пісьменныя людзі, на гэтыя тэмы захаваліся розныя згадкі. Ёсць згадкі ў грэкаў і персаў, а таксама ў арабаў. На берагах Узбоя стаялі гасцінныя караван-сараі, дзе весляры маглі адпачыць, атрымаць начлег і страву. У Дэў-Кала, Орта-Кую і Талайхан-Ата былі базары, кожны мог там купіць тавар высокай, экспартнай якасці.

Тыя, хто жыў на Узбоі, ушаноўвалі святыя камяні. Гэта тыпова для жыхароў пустыняў, якія ўшаноўваюць усё, што пад рукой, – камяні, цясніны, студні і дрэвы. Там, дзе ляжаў святы камень, нельга было ваяваць. Камень ратаваў ад смерці. У ім сабраная таемная сіла, замкнёная ў вечнай форме, дадзенай аднойчы і назаўжды. Цалаванне каменя прыносіла людзям амаль пачуццёвае задавальненне. Рашыд гаворыць мне, каб я звярнуў увагу на гэты фрагмент тэксту "Падарожжа", дзе Абу Абдала Магамед ібн Абдала ібн Магамед ібн Ібрагім аль-Лаваці ат-Танджы, вядомы як Ібн Батута, а ў краінах Усходу – пад іменем Шамс ад-Дзіна, піша, што "вусны адчуваюць невымерную слодыч ад цалавання каменя, так, што хочацца цалаваць яго бясконца". Для тых, хто жыў на Узбоі, камень быў божай істотай.

Думка чалавека ў той час была скіраваная на такую праблему, як размеркаванне вады. Мы можам даказаць гэта з дапамогай метаду дэдукцыі. Яшчэ пасля рэвалюцыі, пакуль не было рэформы, падзел вады для туркмена быў падзеяй гэтак жа важнай, як пачатак вайны або заключэнне міру. Уласна кажучы, ад гэтага залежала ўсё. Вада падавалася на палі каналамі,

якія завуцца арыкі. Размеркаванне вады адбывалася пры галоўным арыку. Калі вясна была добрая, размеркаванне вады было святам. Але добрыя вёсны тут бываюць рэдка. Цягам усяго года тут можа выпасці столькі ападкаў, колькі ў Еўропе прыносіць адзін дождж. А можа быць і так, што ўсе гадавыя ападкі выльюцца з неба за два дні, а потым – толькі сухмень. Тады размеркаванне вады ператваралася ў вайну. Па абодва бакі арыкаў цягнуцца могілкі, на дне каналаў ляжаць чалавечыя косткі.

Багацеі мелі вялікія арыкі, а бедныя – малыя. Бедны стараўся цішком прыадчыніць застаўку, каб прапусціць да свайго арыка больш вады. Багатыр клаў канец такім спробам. Так выглядала класавая барацьба. Вада была прадметам спекуляцыі, таварам на чорным рынку. Існавала водная біржа, водная хоса, водны крах. Людзі ўзбагачаліся на вадзе ці гублялі праз яе ўсё майно. У той час узніклі розныя звычаі, якія былі знішчаныя толькі з рэвалюцый. Жанчына не мела права ўдзельнічаць у падзеле вады. Ваду атрымлівалі толькі жанатыя мужчыны. Бацька, у якога нараджаўся хлопец, жаніў немаўля з дарослай дзяўчынай. Немаўля як жанатае атрымлівала сваю долю вады – гэта быў шлях узбагачэння тых людзей, у каго нараджалася шмат хлопцаў. Толькі ў 1925 годзе І З’езд Саветаў Туркменіі ўхваліў рэвалюцыйны дэкрэт, які забараніў жаніць немаўлят і прызнаў права жанчын на ваду.

Кожны намагаўся жыць як мага бліжэй да Узбоя. Рака несла ваду, несла жыццё. Уздоўж берагоў праходзілі шляхі караванаў. У водах Узбоя армія Чынгісхана купала коней. Сюды дабіраліся купцы з Самарканда і ямуты – гандляры нявольнікамі.

Агонія ракі, сказаў Рашыд, пачалася чатырыста гадоў таму. Рака, якая раптам з’явілася ў пустыні, пачала хутка знікаць. Узбой стварыў цывілізацыю ў самым сэрцы пустыні, карміў тры племені, злучаў Захад з Усходам, на берагах Узбоя ўзніклі дзясяткі гарадоў і паселішчаў, якія адкапаў Юсупаў. Цяпер раку паглыналі пяскі. Яе энергія пачала слабець, яе плынь страціла сілу. Невядома, хто заўважыў гэта першым. Алілі, хізр і ціведжы збіраліся на беразе, каб глядзець, як сыходзіць рака, крыніца жыцця, яны сядзелі і глядзелі, бо людзі любяць прыглядацца да свайго няшчасця. Узровень вады спадаў кожны дзень, перад людзьмі адкрывалася прорва. Уся класавая барацьба вакол адкрывання і закрывання заставак страціла ўсялякі сэнс. Не мела значэння, хто які арык мае – ні ў адным арыку не было вады. Людзі бегалі да мулы, бегалі да ішана, хапаліся за кожны камень, які сустракалі. Нічога не дапамагала. Высыхалі палі і дрэвы. За мех вады можна было купіць каракулевую авечку. Караваны, якія перад гэтым затрымліваліся то тут, то там, цяпер паспешліва прабягалі міма, нібыта гэтую зямлю наведала эпідэмія. Пусцелі базары, купцы зачынялі свае крамы.

Юсупаў, які рабіў раскопкі ў аазісах Узбоя, сцвярджаў, што сярод знойдзеных там рэчаў пануе вялікі непарадак. Людзі пакідалі ўсё, што мелі. Дзеці пакідалі цацкі, жанчыны – посуд. Напэўна, іх ахапіла паніка, істэрыя, страх. Мабыць, хадзілі самыя фантастычныя чуткі. Магчыма, з’явіліся прарокі і варажбіты. Людзі адчувалі, як сціскаецца абруч пустыні, на парогах іх дамоў спяваў пясок.

Пачаўся вялікі зыход. Людзі плямёнаў алілі, хізр і ціведжы (апошніх яшчэ называлі паганятымі вярблюдаў), рушылі на поўдзень, бо ў той час гучную славу мелі паўднёвыя аазісы Мары і Тэджэн. Выгнаннікі ішлі праз

пустыню Каракум, што значыць Чорныя Пяскі, найвялікшую пустыню Туркменіі і ўсёй Сярэдняй Азіі. За плячыма была мёртвая рака, якая ляжала сярод пяскоў, як разбіты збан. Пясок засыпаў арыкі, палі і дамы.

Рашыд кажа, што плямёны мёртвай ракі сутыкнуліся з супрацівам насельнікаў паўднёвых аазісаў. Там жылі плямёны тэке і сарык. Усе яны былі туркменамі – і прыхадні, і тутэйшыя, гэта быў адзін народ, які раздзірала барацьба за ваду. Рашыд гаворыць, што ў аазісах пануе ідэальная прапорцыя паміж колькасцю вады і колькасцю жыхароў, і таму аазіс не можа прыняць новых людзей. Аазіс можа прыняць госця, купца, але не можа прыняць цэлае племя, бо гэта адразу парушыць яго баланс, ад якога залежыць жыццё ўсіх. Таму паміж пустыняй і аазісам павінна ісці вайна. Чалавек тут пастаўлены ў больш жорсткую сітуацыю, чым яго брат, які жыве ва ўмераным поясе, і таму прычыны войнаў тут глыбейшыя і, калі можна так сказаць, больш чалавечныя, чым у Еўропе, дзе гісторыя ведае войны, якія пачыналіся па такіх нязначных прычынах, як абраза прэстыжу, дынастычныя спрэчкі альбо манія праследу ўладара. У пустыні прычынай вайны з'яўляецца прага да жыцця, чалавек адразу нараджаецца ўблытаным у тую супярэчнасць, і ў гэтым палягае драма. Таму туркмены ніколі не ведалі адзінства, іх раздзяляў пусты арык.

Смерць Узбоя, якая выгнала на поўдзень плямёны мёртвай ракі, дала пачатак братазабойчым войнам туркменаў. Яны цягнуліся стагоддзямі, ажно да нашых часоў. Здараліся яны яшчэ і пасля рэвалюцыі, хоць тыя паслярэвалюцыйныя войны былі ўжо больш палітызаванымі. Рашыд сказаў, што цяпер ваду дзеліць міністэрства. Што ў 1954 годзе ў Басагу прыехалі бульдозеры. Басага знаходзіцца ў Туркменіі, на рацэ Амудар'я, непадалёку ад мяжы з Аўганістанам. З гэтага месца пачалі капаць канал. Такім чынам, рака, якая аднойчы сама з'явілася і знікла, ізноў была прыведзеная ў пустыню чалавекам. Вось як павярнулася гісторыя. Як і некалі, разам з вадой у пустыню пацягнуліся рыбы і птушкі. Берагі канала ператварыліся ў квітнеючы і населены аазіс. Канал цяпер мае восемсот кіламетраў і будзе ў два разы даўжэйшы, і дойдзе да Каспійскага мора, як некалі Узбой.

Вада ў канале салодкая, сказаў Рашыд. Ён набраў збанок і даў мне папіць. Вада была халодная і смачная. Пантон калыхаўся каля берагу, вакол была пустыня. На гэтым пантоне, у вялікай каюце, абклеенай здымкамі акторак і распранутых мадэляў, жыла брыгада Яраслава Шчавея, чатыры ўкраінцы. Рашыд і я былі іх гасцямі, зрэшты, выпадкова, бо ў нас сапсавалася маторка і мы мусілі спыніцца. Брыгада капае рукаў канала, каб вада магла дайсці да калгаса. Вялізныя грузавікі, з коламі ў рост чалавека, возяць зямлю з месца на месца. На кучы пяску стаіць яснавокая дзяўчына, якая запісвае кіроўцам рэйсы. А як запісвае? А так, каб у іх была выкананая норма. Завуць яе Паліна, яна прыехала сюды аднекуль з-пад Харкава. Калі кіроўца сімпатычны, Паліна паставіць яму столькі рысак, што ён стане перадавіком. Калі робіцца вельмі горача, Паліна адкладвае сшытак, скача ў канал, плыве на другі бераг, вяртаецца і зноў ставіць рыскі. Шчавей гоніць Паліну смажыць рыбу, а сам пасылаў адзін з тых велізарных грузавікоў некуды далёка, у калгас, па гарэлку. Прынялі нас добра. Мы ад'язджалі вечарам. Агні вадаплаваў адбіваліся на вадзе канала.

**4.**

Візіт у калгас “Масква”.

Калгас з’яўляецца часткай аазіса Мургаб, які размешчаны на ўсходняй ускраіне пустыні Каракум. У Еўропе, пры дапамозе каляровых паштовак, распаўсюджаны вобраз аазіса як зялёнага, квітнеючага раю. Гэта далёка ад праўды. Пустыня, хоць і пераможаная, прысутнічае тут паўсюль. Сярод пылу, у спёцы і гарачыні селянін змагаецца за кожны кавалачак зямлі. Там, дзе чалавек саступіць, пустыня вяртаецца. Чалавек смяротны, а пустыня – вечная. Таму на свеце столькі пакінутых і засыпаных пяскамі аазісаў. Аазіс Мургаб падзелены на дзевятнаццаць калгасаў, а “Масква” сярод іх зіхаціць як узорны калгас. Пра “Маскву” пішуць у газетах. “Маскву” згадваюць у гадавых дакладах. У “Маскву” прывозяць замежных гасцей.

Праграма візіту:

1. Наведванне плантацыі бавоўны.

Вясна, бавоўна ўзышла добра. Расце роўнымі радкамі на вялікім плоскім полі. На тым полі працуюць тры маладыя туркменкі. Яны акучваюць бавоўну матыкамі. Поўна пылу, бо зямля сухая і пухкая. Дзяўчыны апранутыя вельмі элегантна, як на выхад. На іх доўгія да пят, традыцыйныя свабодныя сукенкі, на гэтых сукенках вялікія брошкі, на руках бранзалеты, на шыях каралі, а ў валасах нейкія дыядэмы. На нагах туфлі на высокіх абцасах. Яны выглядаюць так, нібыта праз момант заспяваюць у пышнай усходняй оперы. Убачыўшы нас – адварочваюцца. Не хочуць адказваць на пытанні, маўчаць. Можа, яны не ведаюць расейскую мову, а можа, такі звычай. Яшчэ трыццаць гадоў таму было амаль немагчыма ўбачыць туркменку, якая працавала б у калгасе. Дзяўчына не магла выйсці ў поле, бо ёй нельга было паказвацца чужым мужчынам. Перамены адбыліся зусім нядаўна, у часы другой сусветнай вайны, калі мужчыны пайшлі на фронт, а жанчыны мусілі ісці працаваць. Тая тройка, якую мы бачым на полі – гэта сведчанне вялікага пералому. Мы стаім, яны працягваюць маўчаць, да апошняга моманту не скажуць ані слова. Хтосьці хоча зрабіць здымак, таму яны ізноў адварочваюцца ад нас. Пасля доўгіх угаворванняў становяцца перад аб’ектывам, выпрастаныя як струны, сур’ёзныя. Элегантнасць дзяўчынаў – гэта адбітак прыгожага звычаю, які патрабуе, каб жанчыны ўвесь час дбалі пра свой выгляд. На фабрыкі і ў поле туркменкі ідуць апранутыя як на карнавальныя забавы. У многіх краінах падобны звычай быў забыты. Там жанчыны носяць нагавіцы, кароткія спадніцы, і нават мужчынскія кашулі і швэдры. Мода падобнага кшталту, як на густ туркменкі, занадта фальшывая і нават вульгарная.

2. Візіт у калгасны дзіцячы садок.

Дзятва, пастаўленая ў два шэрагі, пранікліва спявае прывітальную песню. Потым таварыш выхавацелька паказвае нам чыстыя, дагледжаныя залы. Такія дзіцячыя садкі – гэта зноў бытавая рэвалюцыя. Раней дзіця нельга было аддаваць чужым. Смяротнасць сярод туркменскіх дзяцей была жахлівая – на кожную тысячу памірала семсот. Цяпер у калгасе свой лекар, свой невялічкі шпіталь. Клопат пра дзяцей заўважны на кожным кроку, смяротнасць знізілася да мінімуму.

3. Наведванне Дома культуры.

Гэта новы будынак, з вялікай залай, якая ў гэты час пустая. Там адбываюцца паказы фільмаў, выступы аматарскіх калектываў і сходы кал-

гаснікаў. На сценах вісяць карціны сучасных туркменскіх мастакоў, якія паказваюць радасць сацыялістычнай працы і дасягненні рэспублікі. Дом культуры мае штатнага мастака, які малюе лозунгі з заклікамі да вытворчых подзвігаў. На другім паверсе знаходзіцца прасторная бібліятэка, дзе сабраныя расейскія і туркменскія кнігі.

4. Размова з Аддам Бэгдурдыевым, старшынём Савета Старэйшынаў калгаса, размова праз перакладчыка, бо Адда не ведае расейскай.

Адда ходзіць у цёплым халаце, яму 64 гады, у яго доўгая барада і вялізная каракулевая шапка, якая называецца тэльпек. Адда кажа, што ў яго 30 унукаў: 20 хлопцаў і 10 дзяўчынак. Жанчыны побач ківаюць галовамі, прызнаючы, што гэта добрая прапорцыя. Адда таксама задаволены такімі прапорцыямі 2:1, у адваротным выпадку не было б чым хваліцца. Сын, сын быў усім. Жанчына была безыменная, пакуль не нараджала сына. Тады яна прымала яго імя: Ум-Алі, Ум-Ахмед, гэта значыць Матка Алі, Матка Ахмеда. Бацька таксама прымаў імя сына: Абу-Алі, Абу-Ахмед, гэта значыць Бацька Алі, Бацька Ахмеда. Сэнсам жыцця было мець сям'ю. "Сям'я, – піша пра азіяцкага селяніна Вуэлерс,– гэта яго бессмяротнасць. Атрымаўшы жыццё, ён павінен даць жыццё, у гэтым яго веліч і яго місія". Гэтая традыцыя жыве дагэтуль. Шмат дзяцей – гэта радасць і гонар. Жанчына, якая народзіць шмат дзяцей, атрымлівае медаль, а бацька спецыяльную даплату. Пра такіх людзей добра адгукаюцца, іх ахвотна выбіраюць ва ўладу. Савет Старэйшынаў паўстаў шэсць гадоў таму. Раней са старэйшынамі змагаліся як з феадальным перажыткам, а цяпер гавораць, што іх трэба шанаваць, бо так загадвае звычай. Адда кажа, што цяпер старэйшыны змагаюцца з перажыткамі, от, якая навіна! Я пытаюся пра гэтыя перажыткі, Адда пералічвае шэсць галоўных з іх. Такім чынам, старэйшыны змагаюцца: а) каб мужы не білі жонак, б) каб бацькі пасылалі дзяўчынак у школу, в) каб бацькі не выдавалі дзяўчат замуж насуперак іх волі, г) каб мулы не гандлявалі талісманамі, д) каб маладыя не бралі царкоўных шлюбаў, д) каб аддаючы дзяўчыну замуж, яе бацькі не патрабавалі калым. Вось з чым вядзе вайну Адда.

Адда ўзгадвае гісторыю "Масквы". Поўная калектывізацыя ў аазісе Мургаб адбылася толькі праз дваццаць гадоў пасля Рэвалюцыі, такі тут быў супраціў антыкалгасных сілаў. Баі распаўсюджвалі плёткі, што калгасы гэта "рускія хітрыкі". Потым нават абвяшчалі калгасам святую вайну. Муса Сэрдар абвяшчаў. Шалтай Батыр, Бэды Мурад і Дарыя Геок таксама абвяшчалі. Бабуль Каракулі меў сем сыноў, кожны кіраваў бандай. Яны палілі калгасы, секлі калгаснікам галовы. Адда памятае, што яшчэ ў 1935 годзе ён выходзіў у поле з вінтоўкай. Страшна было працаваць. А змагацца з бандамі цяжка. Банда пойдзе ў пустыню, а там яе цяжка дастаць. У пустыні можна схавацца лепш, чым у лесе. Барацьба з бандамі вялася за студні. У каго была студня, той кіраваў пустыняй. Потым бальшавікі павынішчалі банды. Чырвоныя атрады прынеслі Туркменіі мір. Слаўным камандзірам тых атрадаў быў таварыш Васькоўскі, токар з Лодзі. Таксама таварышы Банькоўскі і Ткачэнка. Цяпер Адда мае спакойную старасць і хваліць сваё жыццё.

5. Размова з дырэктарам калгаса "Масква".

Інжынеру Абдуле Гульназараву трыццаць два гады. Адукацыю ён атрымаў у Ашхабадзе. Цікавы, талковы, разумны. Калгас апрацоўвае больш за чатыры тысячы гектараў зямлі і мае шэсцьдзясят тысяч гектараў пашы.

Людзі жывуць добра, кажа ён, хоць праца цяжкая. У кожнага калгасніка свой дом, свой участак, свая атара авечак. Заробкі апошнім часам высокія. У калгасе шмат вады, таму ён багаты. У ім дванаццаць тысяч авечак, якія жывуць на пустынных пашах. Адной авечцы патрэбна 5-10 гектараў пашы. Гэта шмат, кажу я. А так, пагаджаецца Гульназараў, бо авечка мусіць есці без перапынку, літаральна – без перапынку. Гэта монстр!

Вяртанне ў Мары і астатні дзень у Туркменіі. Мары – гэта сталіца аазіса Мургаб і другі па велічыні горад пасля Ашхабада, налічвае 60 тысячаў жыхароў. Насельніцтва Туркменіі (менш чым два мільёны) жыве ў пяці аазісах, рэшта рэспублікі, дзевяноста адсоткаў паверхні, – пустыня. Цэнтр Мары стары, аднапавярховы, пафарбаваны ў блакітны і жоўты колеры. Некалі тут былі сотні ўзбекскіх, расейскіх і армянскіх крамаў, цяпер яны нацыяналізаваныя або пераўтвораныяў майстэрні і склады. Горача, душна, у сярэдзіне дня робіцца змрочна. З пустыні насоўваецца пясчаная бура. Рэзкі вецер і аблокі пылу, якія запаўняюць усю прастору паміж небам і зямлёй. Пыл, асляпляе і душыць, няма чым дыхаць. Жыццё замірае, спыняюцца машыны. Цяпер Паліна і Шчавей, Адда і тыя дзяўчаты, што апранутыя нібы ў оперу, хаваюцца па кутах, забіваюцца ў шчыліны, нацягваюць на галавы прасціны, коўдры, хто што мае пад рукой, каб не задыхнуцца, пясчаная бура засыпае, патоп залівае людзей і статкі (у пустыні бываюць патопы!), а пыльная віхура цісне, душыць, забівае рот насмерць. Той пыл, тыя крупінкі (гэта камень, змолаты ў пыл ветрам і вадой), якія вісяць у паветры, награюцца на сонцы, – так узнікае сухая імгла, жах усіх людзей пустыні, сухая і гарачая імгла, клубы распаленай, нібы вугаль, крошкі, гэта тое, чым пустыня загадвае дыхаць падчас свайго гневу. Я ў гатэлі, у сваім пакоі, няма святла, а перш-наперш няма вады, вецер пазрываў правады, пясок пазабіваў трубы, у мяне яшчэ ёсць глыток цёплай вадкасці ў збанку, але што будзе потым? У горадзе няма вады, тэлефоны абарваныя, дзейнічае толькі радыёсувязь. Я ляжу на ложку, але ўсё мокрае, запыленае, падушка грэе, што тая печ. Піць. У пустыні падчас буры на людзей находзіць воднае шаленства, яны раптам выпіваюць увесь свой запас вады, прагна, бяздумна, гэта менавіта ід шаленства, бо п’юць не таму, што ў гэты момант іх мучыць смага, п’юць ад страху, апантаныя думкай, што вады больш не будзе, п’юць, каб апярэдзіць удар. Вымерлыя вуліцы, цішыня ў гатэлі, пусты калідор, я сыходжу ўніз. Пусты рэстаран. Буфетчыца сядзіць, глядзіць у вакно. З вуліцы ўваходзіць расеец, запылены, вецер выцягнуў яму кашулю наверх, на галаве цёплая аблавуха, завязаная пад падбароддзем. “Дайце дзвесце грамаў”, – звяртаецца ён да буфетчыцы. Яна ўстае, налівае яму шклянку. Ён выпівае гэта і выдае з сябе такое ахххххххх! “Цяпер будзе лепш”, – кажа, і з гэтым агнём усярэдзіне выходзіць на вуліцу – у агонь пустыні. Нейкі момант буфетчыца праводзіць яго позіркам. “Наш чалавек, – адгукаецца, – такі ўсё вытрымае”. Потым глядзіць на мяне, ласкава, але крышку з іроніяй, і моўчкі падае мне бутэльку ліманаду.

## Таджыкістан, высокі, як Тыбет

### 1.

У Душанбэ Туран завёў мяне ў Саюз пісьменнікаў. Там я сустрэў паэта па імені Амінджон Шукухі. Ён паведаміў, што самы вялікі таджыкскі паэт,

Рудакі, напісаў 1 300 000 вершаў, і гэта з’яўляецца сусветным рэкордам. На жаль, амаль усе вершы загінулі. Рудакі жыў у VIII стагоддзі і акрамя паэзіі займаўся палітыкай, але займаўся няўдала і быў аслеплены сваімі ворагамі. Рудакі класік трох краін: Таджыкістана, Ірана і Афганістана, бо мовы ў гэтых трох краінах развіліся з аднаго кораня і належаць да агульнай іранскай групы. У Кабуле і Тэгеране таджык можа размаўляць на сваёй мове, і яго дасканала зразумеюць. Шукухі сказаў мне, што Авіцэна быў таджыкскім філосафам. Я запярэчыў што ўзбекі называюць Авіцэну ўзбекскім філосафам. Так, пагадзіўся ён. Узбекі лічаць яго ўзбекам, а таджыкі – таджыкам. Сваю веліч, сказаў Шукухі, Авіцэна дасягнуў не толькі дзякуючы разумовым якасцям, але яшчэ і дзякуючы сваёй незвычайнай фізічнай форме. Таямніца геніяльнасці Авіцэны заключаецца ў тым, што ён не спаў. Яму хапала паўгадзіны дрымоты ў суткі. У адным месцы ён піша, што яму паказалі вялікую бібліятэку: ён сеў і прачытаў усю. У іншым месцы апавядае, што купіў на базары кнігу. Прачытаў, але не зразумеў. “Каб зразумець гэтую кнігу, – расказвае Авіцэна, – я мусіў прачытаць яе шэсцьдзесят чатыры разы”. Ніводзін звычайны чалавек не меў бы сілаў на падобныя рэчы.

Падчас размовы, якая ў асноўным закранае тэму маёй даўняй зацікаўленасці, а менавіта, тэму асіміляцыі арабскай культуры на іранскай глебе, нехта нечакана заўважае, што ў Душанбэ жыве сябра Бруна Ясенскага. Пытаю, ці мог бы я сустрэцца з ім. Так, ніякіх праблем. Яны тэлефануюць і праз некалькі хвілінаў у пакой уваходзіць пажылы чалавек. Прадаўгаваты твар з глыбокімі зморшчынамі, раскудлачаныя валасы з сівымі пасмамі.

Прадставіўся: Гані Абдуло.

Ён пачаў гаварыць, нервова, невыразна, урэшце махнуў рукой, але я зразумеў прозвішча Ясенскі, Бруна Ясенскі, Гані стукаў кіем аб падлогу, ён быў тут, тут, у гэтым месцы. Замоўк, у пакоі наступіла цішыня. Я адчуваў, што тут адбылося нешта, пра што яны ведаюць больш, чым я. Гані не хацеў сядаць, ён ствараў уражанне чалавека, які спяшаецца, сказаў, што заўтра чакае нас у сябе дома.

Мы паехалі да яго разам з Туранам. Потым прыйшоў яшчэ Феакіст Аляксандрын. Гані жыве ў эксклюзіўным раёне Душанбэ, малыя ціхія вулачкі, закрытыя форткі, а за імі сады і прыгожыя вілы. Ён пасадзіў нас на лаўку пад вялікай вярбой. У 1934 годзе тут быў Бруна Ясенскі. Гані быў тады маладым таджыкам, які пачаў пісаць вершы. Ясенскі захапіўся тымі вершамі, узяў у Маскву, і іх там надрукавалі. “Так я стаў пісьменнікам”, – сказаў Гані. Ясенскі захапляўся Таджыкістанам. Ён прыязджаў сюды некалькі разоў, а потым напісаў аповесць “Чалавек мяняе скуру”. Ясенскі верыў, што сацыялізм зменіць натуру чалавека. “Ён нас любіў”, – сказаў Гані, маючы на ўвазе таджыкаў. Апошні раз Гані бачыў яго ў 1936 годзе. Потым Ясенскі знік. Праз некалькі месяцаў знік Гані. “Бо я быў знаёмы з Ясенскім”, – патлумачыў ён. Гані тады было дваццаць пяць гадоў.

Праз дванаццаць гадоў ён вярнуўся дамоў.

Гані захоўвае здымак Ясенскага з 1934 года. Гэты здымак ён паказвае нам падчас размовы пад вярбой. У Ленінабадзе, кажа Гані, жыве таджык, у якога цэлы музей памятных рэчаў Ясенскага. Ёсць людзі, якія добра памятаюць кнігі Бруна. Недзе ў пяцідзясятых гадах сын Ясенскага пайшоў у бібліятэку ў Ташкенце, каб памяняць кнігу. Нейкая жанчына папрасіла ў бібліятэкаркі аповесць Ясенскага. “Кнігі гэтага пісьменніка не выдаюцца

чытачам", – адазваўся сын Ясенскага. "Але не, – запярэчыла бібліятэкарка, – гэты пісьменнік рэабілітаваны, я дам вам яго кнігу «Чалавек мяняе скуру»". Сын Ясенскага напісаў у ЦК ліст з пытаннем, ці праўду казала бібліятэкарка. Яму адказалі, што так, казала праўду.

Усё жыццё Гані аказалася звязанае з Ясенскім. Гані кажа, што ён ніколі не вызваліцца ад гэтага. У 1964 годзе Гані напісаў п'есу "Мо аз Бомі Джагон" ("Мы з Даху Свету"). У гэтай п'есе чатыры героі. Два палякі – Бруна Ясенскі і чэкіст Чэслаў Путоўскі, калега Дзяржынскага. Абодва аддалі жыццё за Таджыкістан. Таксама ў п'есе ёсць два таджыкі – вязні Павяка. Гэтыя двое аддалі жыццё за Польшчу. Музычным фонам для п'есы абраныя творы Шапэна. Прэм'ера адбылася ў 1965 годзе ў Харогу, у Таджыкістане.

У той гутарцы, пад вярбой, часта запаноўвае цішыня.

З саду Гані бачны Памір, Дах Свету. Горы Паміра займаюць тры чвэрці тэрыторыі Таджыкістана. Памір высокі, амаль як Гімалаі. Частку рэспублікі пакрываюць вечныя снягі. Яны на працягу некалькіх месяцаў у год ізалююць усходнія раёны краіны, туды можна дабрацца толькі самалётам, і то не заўсёды. Самалёт не лятае над гарамі, ён лятае паміж імі, і калі насунуцца хмары, зносіны спыняюцца.

Тут ёсць вёскі, да якіх ніколі не даязджае аўтамабіль. Такія вёскі апісваў Ясенскі. Калі нехта хацеў дабрацца туды, то мусіў караскацца па прычэпленых да скал драбінах і па каранях. Зямлю ў такія вёскі прыносілі ў мяшках. Поле селяніна магло быць настолькі маленькім, што калі ён клаўся на ім крыжам, то рукі яго ляжалі на зямлі суседа. Ясенскі апісаў выпадкі, калі ў такіх вёсках сяляне кралі глебу адзін у аднаго – хапала адной ночы, каб перанесці мяшкамі зямлю з нейчага поля на сваё. Знізу заставалася скалістая мульда, бясплодная, пустая.

Ясенскаму падабалася таджыкская прымаўка: "Калі ў цябе цёплыя туфлі, то што табе да велічыні свету". Аднак жа сам ён увесь час падарожнічаў, усё хацеў ведаць. Спачатку ездзіў у Парыж, потым у Душанбэ. Душанбэ тады быў маленькім мястэчкам, зьлепленым з гліны і саломы. Душанбэ – значыць панядзелак. Караваны, якія ў пятніцу выходзілі з Бухары ў Індыю, дабіраліся да маленькага паселішча, якое цяпер стала горадам, сталіцай Таджыкістана, з насельніцтвам 340 тысяч жыхароў, у душанбэ, што азначае – у панядзелак.

Сёння караванны шлях заліты асфальтам і па ім ездзяць аўтамабілі. Туран павёз мяне па гэтай дарозе ўглыб Паміру. Я мала бачыў такіх незвычайных дарог, бо шаша ўвесь час бяжыць па пляскатай паверхні, і толькі горы ўзнімаюцца ўсё вышэй і вышэй. Едзеш па вузкім калідоры, паміж двума скальнымі сценамі, да якіх з кожным кіламетрам дадаецца ўсё больш і больш паверхаў. Такое ўражанне, быццам нехта, ідучы па дне, сыходзіць у глыбіні акіяну. Тая самая, усё большая, жудасць. Тое самае адчуванне апускання ў веліч. Усё большы стан неспакою: ці можна яшчэ будзе адступіць. Часам насустрач пакажацца грузавік. У кабіне самотны чалавек. Аўтамабілі запавольваюцца, бо тут вузка, нязручна. "Ну, пасунься крыху", – крычыць той, з супрацьлеглага боку, яго голас грукоча сярод скал. Колы слізгаюць па снезе, выюць маторы.

У Душанбэ я вярнуўся, калі ўжо змяркалася. Увечары выйшаў у горад. Цудоўны, цёплы вечар, на вуліцах шмат людзей, натоўп, які гуляе гадзінамі. На галоўнай вуліцы, алеі Леніна, неоны і шмат сучасных дамоў.

Дрэвы, траўнікі, кветкі, як у парку. Перад кінатэатрам чарга: праходзіць фестываль украінскіх фільмаў, натоўп штурмуе касы. Другая чарга перад возам з чарэшняй, чарэшні шмат, але трэба мець сваю торбачку.

Ноччу ў гатэлі чытаў кнігу Тацццяны Іванаўны Кухцікавай, якая называецца "Землятрусы ў Таджыкістане". Тацццяна Іванаўна задумваецца над дзіўнай рысай чалавечага розуму: землятрусы былі вядомыя ўжо старажытным людзям, аднак даследаваць гэтую з'яву чалавек пачаў толькі нядаўна, у канцы XIX стагоддзя. Усё тысячагоддзе людзі займаліся вывучэннем зорак. Меў рацыю Бэкан, калі сказаў, што чалавечаму розуму трэба больш свінца, чым крылаў. Чалавек не думае пра той кавалак зямлі, ад каторага залежыць яго жыццё, бо думка чалавека, якую рухае нязведаная сіла, увесь час імкнецца ў Космас.

Тацццяна Іванаўна піша, што больш за 80 адсоткаў паверхні Таджыкістана ляжыць у зоне моцных, знішчальных землятрусаў. Гэта найбольш сейсмічна небяспечны раён на ўсёй прасторы паміж Атлантычным і Ціхім акіянамі. Найбольш землятрусаў здараецца ў самім Паміры.

Горы Паміра ўвесь час растуць.

Можа, яшчэ за нашым жыццём там узнікне некалькі новых гор. У 1911 годзе быў вялікі землятрус каля Сарэза. У даліне ракі Мургаб звалілася два мільярды кубічных метраў зямлі. Узнікла новая гара. На вышыні трох тысяч метраў з'явілася новае возера даўжынёй у дваццаць кіламетраў. У 1949 годзе, падчас землятрусу, абвалілася гара Чоку-Рак, замля паглынула цэлы павет. Гэтаму землятрусу спадарожнічаў моцны грукат і магутны ўраган. Сейсмічныя хвалі разышліся па ўсім свеце. Узнікла краіна азёраў. За адну секунду вызвалілася столькі энергіі, колькі далі ўсе электрастанцыі Савецкага Саюза, пабудаваныя да 1935 года, за 10 гадоў працы. На месцы таго землятрусу яшчэ і сёння, пасля 18 гадоў, зямля не можа супакоіцца, і прыборы фіксуюць яе штуршкі.

Аднойчы зрушанай зямлі патрэбна шмат гадоў, каб атрымаць супакой.

## 2.

Раніцай чакаю Турана. Без яго я не магу пайсці, бо нікога тут не ведаю. Зрэшты, на вуліцы горача, хадзіць цяжка, а ў Турана ёсць машына. Туран заўсёды ведае, што мы будзем рабіць. Сёння, кажа ён, мы наведаем фабрыку. Або – сёння мы паедзем на камсамольскае возера. Я кажу, што мяне цікавіць палітыка і культура. Гэта нічога, адказвае мне Туран, паедзем на возера. І сапраўды – едзем на возера. Па возеры плаваюць лодкі, у ваду скачуць хлопцы. "Табе падабаецца?" – пытаецца Туран. "Вельмі" – адказваю я. "Гарбаты?" – пытае ён. Вязе мяне ў чайхану. На дыванах сядзяць узбекі, сядзяць таджыкі і п'юць гарбату. Як і ва ўсёй Азіі тут прыслужваюць малыя хлопцы, яны разносяць чайнікі, мыюць посуд. Узбекі і таджыкі бачаць госця, падыходзяць і вітаюцца моўчкі. Паціскаем адзін аднаму рукі. Потым, не гаворачы ні слова, яны вяртаюцца на свае дываны. Мы ўсе сёрбаем гарбату. Я азіраюся – дрэвы, дарога, чыясьці спіна, нечы твар. Чацвёртая гадзіна, спёка, хлопец нясе гарбату і пазяхае. "Ну што, паедзем?" – пытаю я ў Турана. "Паедзем", – пагаджаецца ён. Пад'язджаем да гатэля, аўтамабіль спыняецца. "Стаміўся?" – пытаецца ў мяне Туран. "Ды не, – кажу, – зусім не". "Хіба стаміўся", – кажа Туран. Я ведаю, у чым справа. Калі стомлены, то павінен адпачыць. Калі адпачывае, то сядзіць у

гатэлі. Калі сядзіць у гатэлі, то Туран свабодны. А ў Турана дзеці, унукі і ён хоча мець для іх час. Неразумна, што я забыўся пра гэта. Але нічога. Мы сардэчна развітваемся, і я лячу да сябе на паверх.

Ад самай раніцы выглядваю праз акно. Турана ўсё не відаць. Я сяджу і чытаю кнігу. Ці з'яўляюцца таджыкі народам? Сачу за дыскусіяй на гэтую тэму. "Таджыкскі народ, – піша М.П. Шукураў, – узнік шмат стагоддзяў таму. З лона гэтага народа выйшлі такія вялікія мысліцелі і паэты, як Рудакі, Фірдаўсі, Авіцэна і г.д." (Душанбэ 1966). Яшчэ далей ідзе Б.Г. Гафураў, які ў "Гісторыі таджыкскага народа" (Масква, 1949) выстаўляе гіпотэзу, што таджыкі сфармаваліся як народ ужо ў часы Аляксандра Македонскага. К. Сабіраў, наадварот, лічыць, што таджыкі сталі народам толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі. "Да моманту перамогі Кастрычніцкай Рэвалюцыі таджыкі не былі ў стане сфарміравацца як народ" – піша ён у сваёй кнізе "Сацыялістычны таджыкскі народ – дзеці Кастрычніка" (Душанбэ, 1967). "Да ўстанаўлення Савецкай Улады разуменне бацькаўшчыны ў таджыка абмяжоўвалася яго вёскай ці мястэчкам. Яшчэ сёння, – працягвае Сабіраў, – разуменне нацыянальнага адзінства сярод таджыкаў развіта слаба. Людзі, якія дагэтуль заражаныя перажыткамі, падзяляюць адзіны сацыялістычны таджыкскі народ па тэрытарыяльнай прыкмеце – на таджыкаў самаркандскіх, ленінабадскіх, кулябскіх, гармскіх, бухарскіх і г.д. У асобных выпадках пры падборы і размяшчэнні кадраў начальнікі кіруюцца не прафесійнымі ці палітычнымі якасцямі працаўніка, а тым, з якой мясцовасці ён паходзіць".

Хто мае рацыю ў гэтай справе: Шукураў ці Сабіраў? Не магу сказаць. Цяпер таджыкаў каля 4,5 мільёнаў. З іх 1,5 мільёна жыве ў Савецкім Саюзе, а рэшта ў Афганістане. Дзве трэці таджыкаў жыве ў феадальна-капіталістычным свеце. Калі трымацца гіпотэзы Шукурава, можна сцвярджаць, што ўсе таджыкі, савецкія і афганскія, а таксама іранскія і кітайскія (бо ў Іране і ў Кітаі таксама ёсць таджыкскія калоніі), складаюць адзін непадзельны народ. Паводле Шукурава лад – гэта адно, а народ – гэта другое. Гэта праўда, пагаджаецца Шукураў, што ёсць таджыкі сацыялістычныя і таджыкі феадальна-капіталістычныя, але тым не менш яны ствараюць адзін народ. Пазіцыя Сабірава больш асцярожная. Пасля прачытання яго кнігі адносна савецкіх таджыкаў усё ясна – гэтыя ствараюць народ. Але які статус афганскіх таджыкаў, якія не прайшлі праз рэвалюцыю? Ці па гэтай прычыне афганскія таджыкі не становяцца часткай таджыкскага народа, нягледзячы на тое, што яны таджыкі?

Перарываю разважанні: нехта грукае ў дзверы. Але гэта не Туран. Прыйшлі два таварышы з раёна. Едзем у калгас "Камінтэрн". Калгас знаходзіцца побач з Душанбэ і ахоплівае пятнаццаць вёсак. Гэта вялікі калгас, але бываюць і большыя, як цэлы павет у Польшчы. Дырэктара "Камінтэрну" завуць Абдулкарын Шарыпаў. Мажны, вялізны мужчына без нагі. Нагу страціў на вайне, абараняючы Украіну. Быў паранены нямецкім асколкам, яго забралі ў шпіталь, адтуль вярнуўся дадому. Немца ніколі не бачыў, ні на вайне, ні потым.

Шарыпаў не можа хадзіць і паўсюль возіць нас на дырэктарскім "газіку". Па дарозе ён апавядае, што можа мець калгаснік: тры каровы, дванаццаць бараноў, а аслоў і коней – колькі хоча. Добры баран каштуе 150 рублёў, новы дом каштуе пятнаццаць баранаў. Апроч жывёлагадоўлі апрацоўваюць зямлю. Збіраюць восем цэнтнераў пшаніцы з гектара. Не трэба здзіўляцца,

што так мала – палі знаходзяцца высока ў гарах. Жніво доўжыцца некалькі месяцаў, бо палі ляжаць на рознай вышыні, нізкія палі выспяваюць рана, а высокія – позна. Так па ўсім Таджыкістане, дзе сеюць і збіраюць ураджай круглы год. У чэрвені ў даліне ракі Вахш ужо ідзе жніво, а ў Паміры сяляне толькі выходзяць сеяць. У гэтую пару ў Ленінабадзе ўжо даспяваюць абрыкосы, а ў Ісфары абрыкос толькі расцвітае.

Праязджаем праз вёску. Таджыкскія жанчыны прыпыняюцца, паварочваюцца спінаю да машыны і рукой засланяюць твар. Рэвалюцыя вызваліла гэтыя твары ад заслоны, кабеты знялі паранджу, але рэфлекс застаўся. У душанбінскім універсітэце я пазнаёміўся з Рахат Набіевай, першай таджыкскай жанчынай, якая ў 1963 годзе атрымала навуковую ступень. Тэмай яе працы была барацьба за адмену паранджы. Гэтая барацьба каштавала шматлікіх ахвяраў. Загінулі сотні жанчынаў, якія адкрылі твар. Басмачы ўчынялі над такімі жанчынамі публічныя смяротныя пакаранні. Цікава, што той самы чалавек, прырода якога па сваёй сутнасці аднолькавая і нязменная, у розных шыротах стварае такія супярэчлівыя звычаі. Бо ў адных цывілізацыях мужчыны імкнуцца як мага больш адкрыць твар сваёй жанчыны, а ў іншых – як мага больш схаваць.

Шарыпаў завёз нас у канец вёскі, у цень раскідзістае чынары. Тут ён ладзіў прыём. Былі чарэшні, абрыкосы і яблыкі. Вялікія місы мясных дымлівых страваў. Копы пшанічных аладак. Нейкія супы, нацыянальныя стравы, салаты. Горы ўсялякай ежы. Скрыні гарэлкі. Шарыпаў ухіляўся ад выпіўкі, казаў, што мусульманам піць нельга. Урэшце, аднак, нешта выпіў. Потым падняўся, распрануўся, адшпіліў пратэз і ўлез у ручаіну, якая працякала побач. Сяляне ўзіраліся ў голага дырэктара. “Што ён робіць?” —-спытаў я. “Зніжае свой ціск”, – адказаў нехта.

Банкет працягваўся далей без дырэктара. Сабралася шмат таджыкаў. Адзін з іх пачаў нешта апавядаць, усе выбухалі рогатам. Я запытаўся, пра што яны гавораць. Тады настаўнік пераказаў мне гісторыю маладога таджыка, які вярнуўся ў калгас “Камінтэрн”. Ён вярнуўся з вайны і забыў сваю мову. Да ўсіх звяртаўся па-расейску. У вёсцы мала хто ведаў расейскую. Усе размаўляюць па-таджыкску. “Тавары па-таджыкску”, – сказаў яму бацька, але малады таджык рабіў выгляд, што не разумее, чаго бацька хоча. Да бацькавай хаты пачалі сыходзіцца людзі, кожны хацеў паглядзець, як выглядае таджык, які забыў сваю мову. Спачатку прыйшлі суседзі, а потым і ўся вёска. Натоўп стаяў і прыглядаўся да маладога таджыка, які вярнуўся з вайны. Нехта засмяяўся, і ўсе пачалі смяяцца. Смяялася ўся вёска, уся вёска гула ад смеху, людзі трымаліся за жываты, валіліся на зямлю. Урэшце малады таджык не вытрымаў, выйшаў з хаты і крыкнуў людзям: “Досыць!” Крыкнуў па-таджыкску, і сам засмяяўся. У той дзень малады таджык успомніў сваю мову, у вёсцы зарэзалі барана і ўсе банкетавалі цэлы вечар.

“Добра ведаць расейскую мову, – скончыў настаўнік, – але таджык таксама павінен ведаць і сваю мову”. Мы выпілі за ўсе мовы свету.

Ранкам я адлятаў у Кіргізію. Туран завёз мяне ў аэрапорт. Кожны бок свету – гэта іншы краявід. На поўначы – лагодныя, зялёныя пагоркі. На поўдні – высокія, снежныя горы. На ўсходзе – пустынныя горы, выпаленыя сонцам. І ўрэшце – патанулы ў зеляніне Душанбэ. За снежнымі гарамі – Індыя, за пустыннымі гарамі – Кітай. Уключаю свой транзістар маркі “Сельга”. Чую голас дыктаркі радыё “Пекін”, якая гаворыць, што

ўчора, у заходніх раёнах краіны, Кітай здзейсніў выбух першай вадароднай бомбы. У заходніх раёнах, думаю, гэта значыць недзе непадалёку адсюль. Дыктарка гаворыць, што правадыр Мао прадбачыў гэты выбух дзесяць гадоў таму. Пасля гэтага паведамлення граюць марш.

“Ну і што?” – пытаюся я ў Турана.

“А нічога”, – адказвае ён спакойна, і нават з усмешкай.

## Кіргіз злазіць з каня

### 1.

У Кіргізіі мяне суправаджае Рустам Умралін. Рустам негаваркі, за ўвесь дзень прамаўляе ўсяго некалькі слоў. “Я вельмі не люблю размаўляць”, – сказаў ён у першы дзень нашага знаёмства. У сувязі з гэтым мы праводзім час у маўчанні. У нядзелю вышлі ў горад. Фрунзе падобны да Ашхабада, да Душанбэ, але тут лепшы клімат і таму, расейцы, якім выпала жыць у Азіі, стараюцца пасяліцца ў Фрунзе. Сваім выглядам і атмасферай гэта еўрапейскі, расейскі горад. Галоўная вуліца, якая носіць назву XXII з’езда КПСС, служыць месцам для святочных прагулак. Тут можна ўбачыць шмат моладзі, якая шпацыруе групкамі, або парамі – пара расейская, пара ўзбекская, пара кіргізская. На вуліцы XXII з’езда КПСС можна купіць марозіва і беляшы, можна паглядзець сучасныя выставы. Можна пасядзець на лаўцы.

Перад старой поштай збіраюцца афрыканскія студэнты, нечувана элегантныя, сумныя без дзяўчатаў. Не зусім зразумела, куды пайсці. Ёсць бар, але перад барам чарга. Зазіраем на стадыён. Там гуляюць юніёры, трыбуны пустыя. Ідзем далей, але куды, навошта? Адчуваю, што Рустам не ведае, што са мной рабіць. Ён павінен гуляць са мной, бо гэта ёсць у праграме візіту. Праграма, гэта такі план: ёсць, значыцца трэба выконваць. Я не ведаю, як сабе паводзіць.

Перарваць шпацыр?

“Можа спынім шпацыр?” – пытаю я ў Рустама, але ён пратэстуе. “Як жа можна? – кажа, – не, не, будзем гуляць”. Ён ізноў замаўкае, ідзе далей, я за ім, ён нейкі нязграбны, і я нязграбны, мы не можам дапасавацца, зблізіцца, парадніцца, не можам паразумецца ў, здавалася б, самай простай справе, а менавіта, каб перапыніць шпацыр.

З вуліцы XXII з’езда КПСС збочваем на вуліцу Савецкую. Тут стаяць вясковыя хаткі, утульныя, дагледжаныя, пад вокнамі растуць мальвы і маліны. Краявід перанесены сюды, да падножжа Цянь-Шаня, жыўцом са Смаленска. На ганках сядзяць расейскія бабулі, нягледзячы на гарачыню яны ў цёплых камізэльках, у доўгіх, да пят, спадніцах, захутаныя ў квяцістыя хусткі. Бабулі гандлююць асцярожна, на віду трымаюць адну або дзве шклянкі вішняў, за шклянку бяруць па 10 капеек. Старыя сядзяць самотна, па адной на кожным ганку, уздоўж усёй вуліцы Савецкай, якая цягнецца кіламетрамі.

Фрунзе сонны, спакойны горад, жыве не спяшаючыся. Нішто не парушае яго спакою. Вялікі свет далёка: да Масквы і Кіева тысячы кіламетраў. Мясцовыя газеты займаюцца справамі Кіргізіі – які калгас пяршынствуе ў пасяўной, якая брыгада робіць без браку. Сусветным навінам адведзены малы куточак. Пытаюся пра кітайскія справы. Кіргізія мае доўгую мяжу з

Кітаем – восемсот кіламетраў, шмат кіргізаў жыве ў Кітаі, у Кіргізіі ў сваю чаргу жывуць дунгане – кітайскія мусульмане. Пытаюся пра сітуацыю на мяжы. Аказваецца, што ўсюды пануе спакой.

## 2.

Адкуль узяліся кіргізы? “Спрэчка пра паходжанне кіргізаў, – піша С.М. Абрамзон, – цягнецца паўтара стагоддзя”. Яны належаць да вялікай сям’і манталоідных народаў, што насяляюць Унутраную Азію. Але гэта не праясняе ўсяго. У свеце жыве дзве групы кіргізаў: адна на рацэ Енісей, другая ў гарах Цянь-Шань (гэта значыць, у цяперашняй Рэспубліцы Кіргізіі). Спрэчка вялася вакол таго, ці енісейскія кіргізы паходзяць ад цяньшаньскіх, ці цяньшаньскія ад енісейскіх. Доўгі час пераважала апошняя гіпотэза. Але ў ёй было слабое месца: паколькі гэтая гіпотэза ўтрымлівала перакананне, што цяньшаньскія кіргізы паходзяць ад енісейскіх, то ўзнікала меркаванне, што раней у Кіргізіі кіргізаў не было. У 1956 годзе ў Фрунзе сабралася адмысловая сесія Акадэміі Кіргізскай ССР, каб зрабіць выбар паміж дзвюма тэорыямі адносна паходжання кіргізаў, якія дагэтуль лічыліся аднолькава слушнымі. Сесія выказалася за тэорыю цяньшаньскага паходжання кіргізаў. Моцным бокам гэтай тэорыі ёсць перакананне, што кіргізы заўсёды былі ў Кіргізіі, а ўжо адсюль рассяліліся да Енісея. З таго часу гэтая версія з’яўляецца абавязковай, хоць С.М. Абрамзон піша, што “аднак гэтае пытанне канчаткова не высветленае” (Масква, 1963).

Кіргізы, падзеленыя на роды і плямёны, у мінулым качавалі. Іх называлі народам сарака плямёнаў. Доўгі час яны былі падпарадкаваныя ўзбекскаму ханству Каканд. Кожнай групе качэўнікаў хан прызначаў свайго паліцыянта. Такі паліцыянт-качэўнік называўся ільбегі. Ён вандраваў з качэўнікамі ў горы на працягу ўсяго лета, адказваў за лаяльнасць, парадак і падаткі. Цікава, што тых ільбегаў кіргізы не забівалі. Наадварот, абодва бакі добра суіснавалі разам. З часам у ільбега ў групе з’яўляліся свае віжы, у сваю чаргу група карумпавала ільбега.

Сярод кіргізаў моцна развіўся шаманізм, перажыткі якога сустракаюцца і тут, і там да сённяшняга дня. У кожнага шамана была свая спецыялізацыя. Далычы варажыў на барановых лапатках, Тэгочу варажыў на камянях, Жайчы заклінаў дождж, Шымчы прадказваў будучыню. Асабліва кіргізы ўшаноўвалі магілы. Калі хтосьці паміраў, рабілі манекен, апранаючы яго ў адзенне памерлага. Лялька стаяла ў юрце год, той, хто ўваходзіў, кланяўся манекену. Пра адсталасць кіргізаў сведчыць той факт, што яшчэ перад Рэвалюцыяй яны касілі траву конскім рабром.

Яшчэ на пачатку нашага стагоддзя кіргізам пагражала поўнае вынішчэнне. У 1903-1913 гадах колькасць кіргізаў зменшылася на дзесяць адсоткаў. У 1916 годзе распачалося вялікае кіргізскае паўстанне супраць цара. Загінула 200 тысяч кіргізаў, а яшчэ больш уцякло ў Кітай. Да 1920 года колькасць кіргізаў зменшылася яшчэ на 30 адсоткаў. Можна меркаваць, што ў той час, калі адбылася рэвалюцыя, у Кіргізіі было не больш за паўмільёна кіргізаў. Сёння іх каля аднаго мільёна. Аднак кіргізы дагэтуль застаюцца нацыянальнай меншасцю ў Кіргізіі (40,5 адсоткаў ад агульнай колькасці насельніцтва Рэспублікі). Больш за 30 адсоткаў складаюць расейцы, 11 адсоткаў – узбекі.

## 3.

Вечар я правёў у юрце Джумаля Сманава, у Цянь-Шані, у даліне Сусамыру, якая знаходзіцца на адлегласці 200 кіламетраў ад Фрунзе. Джумаль пасвіць чараду авечак калгаса "Панфілава", а паколькі ён адзначыўся на працы, дэкрэтам урада яму быў нададзены тытул "Выдатны Пастух Кіргізскай ССР". Чарада, якую пасвіць Джумаль налічвае 600 авечак. Калі распытаць дакладна, высветліцца, што ў гэтай калгаснай чарадзе толькі палова авечак калгасныя. Рэшта – гэта авечкі Джумаля, яго брата, яго дзядзькі, яго суседа і г.д. Джумаль скончыў сем класаў, яму 41 год і ў яго дзевяць дзяцей. Тут паўсюль вялікія, шматдзетныя сем'і. Усё лета Джумаль праводзіць у сваёй юрце, а на зіму вяртаецца ў калгас. Ён жыве з жонкай, з іншымі пастухамі і з вялікай грамадой сваіх і чужых дзяцей. Гасціннасць гэтых людзей надзвычайная, да майго прыезду, гэтым разам цалкам выпадковага, Джумаль зарэзаў барана і зладзіў вячэру. Уся юрта напоўнілася людзьмі, якія, апавешчаныя конным пасланцом, сабраліся з іншых пашаў. Мы сядзелі на кукішках на лямцы, абгрызаючы барановыя косткі і п'ючы гарэлку. У піцці гарэлкі кіргізы пераўзыходзяць расейцаў, не кажучы ўжо пра палякаў. П'юць таксама і жанчыны. Як правіла, падчас банкета яны знаходзяцца па-за юртай. Гаспадар налівае шклянку "Сталічнай" і называе імя жанчыны. Яна ўваходзіць, прысядае і адным духам куляе ўсю шклянку. Потым моўчкі, без закускі, устае і знікае ў цемры.

Падчас банкета госцю падаюць на талерцы прыгатаваную галаву барана. Госць павінен з'есці мозг. Потым павінен выкалупаць і з'есці вока. Трэба помніць, што вока барана вялікае, як сліва. Другое вока з'ядае гаспадар. Такім чынам завязваюцца братэрскія сувязі. Гэта досвед, які надоўга застаецца ў памяці.

Раніцай мы паехалі далей, каб убачыць будаўніцтва вялікай электрастанцыі ў каньёне ракі Сырдар'і, якая на тэрыторыі Кіргізіі называецца Нарын. Аўтамабіль доўга едзе праз Сусамыр. Няма слоў, якімі можна было б апісаць прыгажосць гэтай даліны, адной з самых цудоўных у свеце. Навокал пакрытыя снегам горы, а тут, унізе, бясконцыя лугі, сонца і цудоўнае паветра. Сусамыр ляжыць на вышыні 2800 метраў, што вышэй за нашыя Рысы, а летам тут так цёпла, як на Лазурным Узбярэжжы. Некалькі разоў стваралася ўражанне, што мы мінаем вялікія азёры. Калі пад'язджалі бліжэй, аказвалася, што гэта вялікія палі незабудак.

Быў чэрвень, статкі сцягваліся ўглыб даліны. Вярблюды неслі на спінах лямцавыя юрты. Побач з намі на конях праляталі кіргізы. Ад юрты Джумаля да месца, дзе інжынер Леанід Талкачоў кіруе будаўніцтвам электрастанцыі, – 250 кіламетраў. На гэтым шляху мінаеш тры кліматы. Спачатку Сусамыр. Потым горы – снег і ледзяныя віхуры. Потым тропік – пустынны, пануры краявід без аніводнай расліны, без следу жыцця. А далей, у гарах, паўстае электрастанцыя.

Гэта ўнікальнае збудаванне.

Дзве скалістыя сцяны ўзнімаюцца вертыкальна на вышыню амаль 500 метраў. Унізе цячэ рака. Паміж гэтымі сценамі паўстане плаціна. Будоўля выглядае так, быццам тут адбываецца масавая здача іспыту на альпініста. На самой справе работнікі спачатку праходзяць тут альпінісцкую падрыхтоўку. Многія з іх працуюць прычэпленыя гакамі і лінамі да скальнай сцяны. Зрабілі таксама драбіны, па якіх ўздымаюцца на 120 паверхаў вертыкальна

ўгару. Работнік праходзіць гэты шлях штодзённа, на вяршыню і назад. Мне стала цікава, наколькі гэта цяжка – я ўзняўся адзін раз, і ўніз вярнуўся ледзь жывы. А людзі акрамя гэтага ўзыходжання яшчэ і працуюць. Летам тут пануе сахарская спёка, зімой – сібірскія маразы. Ветры настолькі моцныя, што адрываюць чалавека ад скалы. Калі праз некалькі гадоў людзі прачытаюць нататку пра адкрыццё электрастанцыі ў каньёне ракі Нарын, яны не будуць ведаць, якім коштам гэта было зроблена.

## Більярд у бухарскім мячэце

### 1.

Эркін сказаў, што ў яго справы ў горадзе і пайшоў, а я застаўся сам у крэпасці эміра Бухары, дзе зрабілі музей. Тут можна ўбачыць залатыя халаты эміра, нож ката, счасаны настолькі, што ад ляза мала што засталося. Старыя амерыканкі бегаюць па дзядзінцы, па спальні эміра, фатаграфуюць, заглядваюць углыб лёхаў. Яны ўзрушаныя халатам эміра, выглядам нажа. “А цяпер паглядзіце”, – гаворыць настаўніца школьнай экскурсіі. Натоўп дзяцей прапіхваецца да закратаваных казематаў. Унутры, у паўзмроку відаць фігуры вязняў эміра. Адна вісіць на вяроўцы, другая сцякае крывёю. Некалькі фігураў сядзяць на зямлі, прыкутыя ланцугамі да сцяны. Пані тлумачыць, якім жахлівым уладаром быў эмір, і што ўсё гэта разам – гэтая крэпасць, гэтыя халаты, той, на шыбеніцы – называецца феадалізмам.

Быў поўдзень, я выйшаў з крэпасці на вялікі, запылены пляц, насупраць была чайхана. У гэты час чайханы запоўненыя ўзбекамі. Яны сядзяць на кукішках, у каляровых цюбецейках на галовах, і п’юць зялёную гарбату. П’юць гадзінамі, часта ўвесь дзень. Прыемнае гэта жыццё, якое яны праводзяць у цяню дрэва, на дыванку, сярод блізкіх прыяцеляў. Я сеў на траву і замовіў імбрык. З аднаго боку быў від на крэпасць, вялікую, як Вавель, толькі зробленую з гліны. Але з другога боку від быў яшчэ лепшы.

З другога боку стаяў цудоўны мячэт.

Той мячэт забраў маю ўвагу, бо быў зроблены з дрэва – надзвычай рэдкі выпадак у мусульманскай архітэктуры, дзе матэрыялам з’яўляюцца камень і гліна. Да ўсяго гэтага сярод спякотнай і здранцвелай цішыні пустыннага поўдня было чуваць, што ў мячэце нешта грукае. Я адставіў імбрык і пайшоў даведацца, у чым рэч.

Грукалі більярдныя шары.

Той мячэт называецца Бола-Хаўз. Гэта ўнікальны помнік архітэктуры Сярэдняй Азіі XVIII стагоддзя, адзіны ацалелы з таго часу. Партал і сцены Бола-Хаўза аздабляе драўляны арнамент, прыгажосць і дакладнасць якога не мае сабе роўных. Гэта павінна захапляць кожнага.

Я зазірнуў усярэдзіну. Там было шэсць зялёных сталоў, каля кожнага маладыя хлопцы з раскудлачанымі светлымі чупрынамі гулялі ў більярд. Натоўп заўзятараў падахвочваў спаборнікаў. Зняць стол каштуе 80 капеек за гадзіну, гэта танна, ахвотных шмат, перад уваходам стаіць чарга. Мне не хацелася стаяць у чарзе, з-за гэтага я не змог добра ўсё агледзець і вярнуўся ў чайхану.

Асляпляльнае сонца падала на пляц. Па ім блукалі сабакі. З крэпасці выходзілі экскурсіі, спачатку амерыканкі, потым дзеці. У мячэце грукаталі шары, хлопцы пакрыквалі. Паміж крэпасцю, ператворанай у музей,

і мячэтам, ператвораным у більярдную залу, сядзелі ўзбекі і пілі гарбату. Сядзелі моўчкі, тварамі да мячэту, бо так загадвае звычай продкаў. У маўклівай прысутнасці гэтых людзей была нейкая паважнасць і, нягледзячы на шэрыя халаты, яны выглядалі вельмі годна. Мне захацелася падысці і паціснуць ім рукі, неяк выказаць ім сваю пашану, але я не ведаў, як гэта зрабіць. У гэтых людзях, у іх паводзінах, у іх мудрым спакоі было нешта такое, што абуджала ў гэты момант маё спантаннае і сапраўднае захапленне. З даўніх часоў яны сядзелі ў гэтай чайхане, такой старой, можа старэйшай за крэпасць і мячэт. Многае цяпер змянілася, многае, але не ўсё. Можна было б сказаць, што свет мяняецца, але не цалкам, прынамсі не мяняецца настолькі, каб узбек не мог пасядзець у чайхане і выпіць гарбаты нават у працоўны час.

Яшчэ я пабачыў у Бухары шматлюдныя і каляровыя базары. Гэта старыя, тысячагадовыя базары, аднак усё яшчэ жывыя, запоўненыя чалавечым натоўпам. Эркін паказаў мне базар, па якім любіў шпацыраваць Авіцэна, базар, дзе купляў фінікі Ібн Батута. Маленькія крамкі, маткі, прылаўкі, кожны з нумарам, бо нацыяналізаваныя. Эркін сказаў, што ўзбек лічыць за лепшае пераплаціць, але купіць на базары, а не ў краме. Базар – гэта традыцыя, гэта месца спатканняў, размоваў, гэта другі дом.

Быў таксама на падворку Медрэсэ Мір-і-Араб. Медрэсэ – гэта мусульманскі ўніверсітэт. Мір-і-Араб імпазантны архітэктурны ансамбль, пабудаваны ў 1503 годзе, цяпер яго клапатліва аднаўляюць. Пасля рэвалюцыі ўніверсітэт быў зачынены, цяпер ён ізноў дзейнічае. Новая назва вучэльні гучыць так: “Духоўная Семінарыя Мусульманаў Сярэдняй Азіі і Казахстана”.

Гэта адзіная падобнага кшталту навучальная ўстанова ў Савецкім Саюзе. У 1966 годзе адбываўся прыём студэнтаў на першы год. Было шаснаццаць кандыдатаў на адно месца.

## 2.

Колер Бухары – карычневы, гэта колер абпаленай на сонцы гліны. Колер Самарканда – інтэнсіўна блакітны, гэта колер неба і вады.

Бухара – купецкая, гаманкая, канкрэтная і матэрыяльная, гэта горад тавараў і рынкаў, вялікі склад, порт пустыні, чэрава Азіі. Самарканд – натхнёны, абстрактны, узвышаны і прыгожы, гэта горад засяроджанасці і разважанняў, ён музыка і вобраз, горад звернуты да зорак. Эркін сказаў мне, што Самарканд трэба глядзець ноччу, калі поўня. Зямля застаецца цёмнай, увесь бляск забіраюць муры і вежы, горад пачынае свяціцца, а потым узносіцца ўверх, як лампіён.

## 3.

Г. Папворт у сваёй кнізе “*The Legend of Timur*” (Лондан, 1937), хацеў аспрэчыць факт, што цуд Самарканда – справа Цімура, якога таксама называлі Тамерланам. “Ёсць нешта дзіўнае ў тым, – піша аўтар, – што горад, які ўсім сваім хараством і кампазіцыяй скіроўвае думку чалавека ў бок містыкі і сузірання, быў створаны такім бязлітасным дэманам, разбойнікам і дэспатам, якім быў Цімур”.

Аднак нельга не пагадзіцца, што тое, што з’яўляецца славай Самарканда,

узнікла на мяжы XIV і XV стагоддзяў, менавіта ў часы панавання Цімура. Постаць Цімура – феномен гісторыі. Яго імя абуджала жах дзясяткі гадоў. Гэта быў вялікі ўладар, які трымаў Азію на аброці, але гэтая веліч не перашкаджала яму займацца дробязямі. Цімур прысвячаў дробязям шмат увагі. Яго арміі славіліся сваёй жорсткасцю. Там, дзе з'яўляўся Цімур, – піша арабскі гісторык Заід Васіфі, – "кроў выцякала з людзей, як з пасудзінаў", а "неба было колеру цюльпанавага поля". Цімур сам ачольваў паходы, сам за ўсім сачыў. Тым, каго захапіў, загадваў сячы галовы. З чарапоў загадваў будаваць вежы, муры і дарогі. Сам сачыў за тым, як ідуць работы. Загадваў успорваць купцам жываты і шукаць там золата. Сам сачыў, ці старанна шукаюць. Загадваў атручваць праціўнікаў і нязгодных. Сам рыхтаваў ім мікстуры. Ён нёс смерць, і гэтая місія паглынала палову яго дня. У другой палове дня яго паглынала мастацтва. Цімур прысвячаў сябе распаўсюджванню мастацтва з той самай адданасцю, з якой прысвячаў сябе распаўсюджванню смерці. У свядомасці Цімура паміж смерцю і мастацтвам ляжала нечувана вузкая мяжа, і гэта менавіта тое, што Папворт не можа зразумець. Гэта праўда, што Цімур абезгалоўліваў, але таксама фактам з'яўляецца і тое, што абезгалоўліваў не ўсіх. Ён загадваў пакідаць жыццё людзям, якія займаліся творчай дзейнасцю. У імперыі Цімура найлепшым сховам быў талент. Цімур сцягваў таленты ў Самарканд, клапаціўся пра кожнага творцу. Не даваў чапаць нікога, хто насіў у сабе божую іскру. Квітнелі творцы, і квітнеў Самарканд. Горад быў ягоным гонарам. На адной з брамаў Цімур загадаў напісаць: "Калі сумняешся ў нашай магутнасці – паглядзі на нашыя будынкі!" І гэты выраз перажыў Цімура на шмат стагоддзяў. Яшчэ сёння Самарканд агаломшвае нас сваім непаўторным харастом, дасканаласцю формы, мастацкім геніем. За кожнай будоўляй Цімур сачыў сам. Няўдалае ліквідаваў, а густ ён меў дасканалы. Прадумваў розныя варыянты арнаментаў, дбаў пра далікатнасць малюнкаў, пра чысціню лініяў. А потым ізноў кідаўся ў вір новага паходу, у разню, у кроў, у полымя, у крык.

Папворт не разумее, што Цімур вёў гульню, на якую здольныя нямногія. Цімур паказваў мяжу магчымасцяў чалавека, паказваў тое, што пазней апісаў Дастаеўскі: чалавек можа ўсё. Працу Цімура можна акрэсліць думкай, якая належаць Сэнт-Экзюперы: "Тое, што зрабіў я, не зрабіла б ніводная жывёла". І ў добрым, і ў благім. Нажніцы Цімура мелі два бакі – бок стварэння, і бок знішчэння. Гэта бакі дзеяння кожнага чалавека. Толькі звычайна гэтыя нажніцы ледзь раскрытыя. Часам раскрытыя больш. У Цімура яны былі раскрытыя да канца.

У Самаркандзе Эркін паказаў мне магілу Цімура, зробленую з зялёнага нефрыту. Перад уваходам у маўзалей ёсць надпіс, аўтар якога – сам Цімур: "Шчаслівы той, хто адрокся ад свету раней, чым свет адрокся ад яго".

Памёр Цімур у 69 гадоў, у 1405 годзе, падчас паходу на Кітай.

## 4.

Пасля Самарканда я пабачыў Ташкент. Гэты горад нагадваў вялікі порт, столькі тут пад'ёмных кранаў, якія вытыркаліся па-над дрэвамі і дахамі. У красавіку 1966 года землятрус знёс гліняныя кварталы, і сёння сталіца Узбекістана жыве ў будаўнічай ліхаманцы. Ташкент вялікі, як Варшава, тут жыве больш за мільён дзвесце тысяч чалавек. Падчас землятрусу

звыш 200 тысяч чалавек страцілі дах над галавой. Адбудоўванне Ташкента захапляе сваімі тэмпамі і размахам. Колькасць здаваемай тут жылой плошчы ідзе на мільёны квадратных метраў. Ташкент будуюць усе савецкія рэспублікі, кожная рэспубліка за свой кошт ставіць адзін раён горада. Некалькі раёнаў ужо заканчваюць. У цэнтры горада таксама ўжо паўстала шмат сучасных будынкаў. Адным з найбольш сучасных і дасканалых у архітэктурным вырашэнні будынкаў у савецкай Азіі з'яўляецца сядзіба ЦК КП Узбекістана. Ташкент вельмі чароўны, мае добрую камунікацыю, а ў першую чаргу – прыемную атмасферу. Я сустрэў тут шмат людзей, якіх заўсёды хацеў бы сустракаць у жыцці. Гэта горад, які мае традыцыю, і адначасова вельмі сучасны, адкрыты, перспектыўны.

З Ташкентам я пазнаёміўся дзякуючы Эркіну, а потым Маі.

Аднойчы я пайшоў з ёй у парк, і Мая паказала мне пусты цокаль. "Тут, – сказала яна, – калі ён памёр, стаяў натоўп і плакаў. Людзі рыдалі, трацілі прытомнасць, штохвіліны пад'язджала хуткая і забірала самлелых".

Мая замоўкла.

"А цяпер, – дадала яна праз момант, – цяпер мы ведаем, што ён рабіў памылкі".

## Уваход у пустыню

### 1.

У Самаркандзе я ўвязаўся ў спрэчку пра Магамета.

Падчас пілігрымкі, якую я здзяйсняў да маўзалея Бібі Ханум, сказаў Эркіну, што Магамет быў вялікім, бо стварыў іслам, які даў натхненне такой незвычайнай архітэктуры. Але на гэта Эркін адказаў цалкам сур'ёзна, што М а г а м е т а н і к о л і н е б ы л о.

Я ажно сумеўся.

Адразу пачаў спасылацца на Каран, на сведчанне Чатырох Халіфаў, на каментары Аль-Байдаві. Прыгадаў Эркіну, што Ібн Саада ў васьмі тамах сваёй Вялікай кнігі Клас прыводзіць бясспрэчны доказ існавання Магамета. Тое ж сустракаем і ў дзевяноста сямі кнігах Аль-Бухары, дзе ўтрымліваюцца 7300 сведчанняў, якія грунтуюцца на найбольш верагодных аўтарытэтах. Я пачаў цытаваць аўтара Чацвёртай Суны – Ібн Маджу, а таксама назваў твор Аль Гасана з Басры, якога нават скептычныя крытыкі не наважваюцца аспрэчваць цалкам.

Нічога не дапамагло.

Эркін упарціўся, што Магамета прыдумалі, што ён – гэта перажытак. Наш дыспут закончыўся нічым. Набліжаўся час ад'езду, таму мы пайшлі яшчэ на базар, каб купіць пшанічных праснакоў. У кожным горадзе Эркін купляе пшанічныя праснакі. Гэта ўзбекскі звычай, які патрабуе, каб, вяртаючыся з падарожжа, чалавек прывозіў дадому хлеб. Ва ўсіх сямі рэспубліках Закаўказзя і Цэнтральнай Азіі я заўважыў, што людзі надаюць вялікае значэнне традыцыям. Асабліва гэта тычыцца ўбрання, кухні, дамашняга быту і святаў. Туркменкі апранаюцца ў тыя самыя строі, якія насілі некалькі стагоддзяў таму, у грузінскіх рэстаранах можна атрымаць толькі грузінскія стравы, юрты кіргізскіх пастухоў захавалі сваю старажытную форму, а Свята Вясны азербайджанцы адзначаюць паводле ўсталяванага продкамі рытуалу. Не думаю, што гэта можна назваць правінцыйнай рысай.

Хутчэй гэта тыповая для пэўных абшараў свету з'ява культурнага дуалізму, кантрастнасць якой я найбольш моцна адчуваў у Японіі, а потым у Алжыры. Гэты дуалізм асабліва выразны на тых тэрыторыях, якія доўгія стагоддзі былі аддаленыя ад цэнтраў тэхнічнай цывілізацыі, а потым рэзка да іх далучаныя.

Адбылося як бы дваенне рэчаіснасці. Да існуючай рэчаіснасці традыцыйнай культуры, хоць ужо і значна дэградаванай, дайшла новая рэчаіснасць – увесь свет тэхнікі, прамысловасці, сучаснай адукацыі, іншых правілаў суіснавання. І ўсё гэта з'явілася не шляхам унутранага развіцця, а было прыўнесена звонку. Сутыкненне гэтых двух светаў часта выклікае канфлікт, сітуацыю барацьбы, але так бывае не заўсёды. Досвед нашага стагоддзя паказвае, што таксама можа ўтварыцца тып культурнага суіснавання, дуалізму, якому падвяргаецца кожны член грамадства нядаўна ўключанага ў групу прамысловых супольнасцяў. Класічнай постаццю такой рэчаіснасці будзе інжынер, які ўдзень працуе над удасканальваннем электроннага мікраскопа, а ўвечары, дома, пераапрануты ў традыцыйны строй, прысвячае сябе складанай цырымоніі піцця гарбаты паводле правілаў Акакура Какуза.

Сем паўднёвых савецкіх рэспублік даюць шмат падобных прыкладаў. Незалежна ад сувязяў, якія лучаць Грузію і Арменію з Еўропай, гісторыя народаў, што насяляюць паўднёвыя рэспублікі Краіны Саветаў, – Грузію, Арменію, Азербайджан, Туркменію, Таджыкістан, Кіргізію і Узбекістан – да апошняга часу была часткай гісторыі Азіі і азіяцкай цывілізацыі. Гэтыя абшары стагоддзямі знаходзіліся пад арабскім, мангольскім і турэцкім палітычным і культурным уплывам. Тут сутыкаліся інтарэсы найвялікшых сіл сярэднявечча, якія прагнулі ўтрымаць гэтыя тэрыторыі ў арбіце сваёй улады. Стаўка была высокая. У сярэднявеччы менавіта тут праходзіў караванны Шаўковы Шлях, адзіная артэрыя, якая злучала два канцы свету, дзве цывілізацыі – Усход і Захад. На шляху караванаў, якія вандравалі з Пекіна ў Дамаск, ляжалі славутыя аазісы і гарады – Хаджэнт, Фергана, Самарканд, Бухара, Мерв. Нейкі час тут быў цэнтр свету, дзе гандаль і навука, архітэктура і рамёствы перажывалі свой росквіт і развіццё.

Але мінулае было тут наколькі яскравым, настолькі і змрочным. Развіццё галоўным чынам адбывалася ў гарадах, а гарады былі ўсяго толькі малымі выспамі. Вёска гібела ў глыбокай беднасці, ёй не давала спакою беззаконне ўладароў, разбой качэўнікаў і пастаянныя стыхійныя бедствы, якіх мясцовы клімат ніколі не шкадуе. Сітуацыя ў гэтым выпадку была ідэнтычная і для Арменіі, і для Таджыкістана, для ўсіх сямі рэспублік.

Тое, што згаданыя землі стагоддзямі былі адкрытымі, транзітнымі тэрыторыямі, моцна ўплывала на іх гісторыю. Палітычная сітуацыя была тут, як правіла, няўстойлівай, хаатычнай, часовай. "Даследчык турэцкай і мангольскай гісторыі ў гэтай частцы свету, – піша сэр Олаф Каро, – трапляе ў сітуацыю чалавека, які з балкона назірае за хаатычнымі і непрадказальнымі паводзінамі натоўпа, сабранага з нейкай важнай нагоды. Адныя групы сустракаюцца і аб'ядноўваюцца, іншыя змешваюцца паміж сабой, а потым распадаюцца. Раптам з'яўляецца нейкі аб'ект зацікаўленасці, і ўвесь натоўп пачынае рухацца ў адным напрамку толькі дзеля таго, каб праз момант ізноў распаўзціся. Нейкі прамоўца на момант збірае жменьку слухачоў. Так палітычныя і асабістыя канфлікты тут робяцца крыніцай вэрхалу. А потым пачынаецца разня і вынішчэнне, хоць перыядычна праяўляецца здаровы розум і творчая дзейнасць".

Змяняюцца імперыі, дынастыі і ўладары. Пасля арабаў прыходзяць манголы, пасля манголаў – туркі. Сталае дамінаванне чужых элементаў на гэтых землях робіць немагчымым працэс фарміравання мясцовых народаў. У XVIII стагоддзі такая маленькая краіна, як тагачасная Грузія, была раздробненая на васямнаццаць княстваў, якія ваююць паміж сабой. Яшчэ на пачатку нашага стагоддзя туркмены падзяляюцца на сто дзесяць плямёнаў, узбекі на дзевяноста сем, а кіргізы на сорак. Адносіны паміж гэтымі плямёнамі часта характарызуе зацятая варожасць. Такім чынам, не толькі захопнікі вынішчаюць мясцовых, але і самі мясцовыя наўзаем вынішчаюць сябе. Толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя створыць варункі, якія паскораць інтэграцыйныя працэсы.

Шчаслівыя гады для Цэнтральнай Азіі заканчваюцца ў XVI стагоддзі. Лёсы гэтых абшараў былі вырашаныя далёка за іх межамі – у акіянах. Надыходзіць развіццё марской камунікацыі, марскога транспарту, і пасля сутыкнення з гэтай новай, практычнай і таннай тэхнікай міжнароднай сувязі стары, рызыкоўны і павольны спосаб транспартавання людзей і тавараў на спінах вярблюдаў страчвае сваё значэнне і выключнасць. Шаўковы Шлях засыпаюць пяскі, а Цэнтральная Азія паглыбляецца ў стан ізаляцыі і апатыі, адсоўваецца на далёкую перыферыю свету. У XIX стагоддзі гэтымі землямі авалодвае расейскі царызм. Здабытыя тэрыторыі Пецярбург трактуе як сыравінныя прыдаткі і прыбытковы, хоць і невялікі рынак збыту. Каланіяльныя ўлады робяць націск на развіццё жывёлагадоўлі і вырошчванне бавоўны, бо бавоўна, воўна і скуры патрэбныя для прамысловасці цэнтральнай Расіі. Здабываецца таксама нафта, медзь, марганец. Урад падтрымлівае рух расейскіх асаднікаў на гэтых землях.

Савецкая ўлада тут перамагае трохі пазней, чым у цэнтральнай Расіі. Яшчэ на пачатку 1920 года дзяржавай Бухара кіруе эмір, а ў Грузіі да 1921 года пануе ўрад меншавікоў. Банды басмачоў дэзарганізуюць жыццё паўднёвых рэспублік амаль усе дваццатыя гады, і спарадычна нагадваюць пра сябе яшчэ і пазней.

Але асноўныя цяжкасці, з якімі сутыкнулася тут рэвалюцыя, палягаюць у іншым – у велізарнай адсталасці Поўдня. Гэтыя землі на той час належаць да найбольш адсталых раёнаў свету. У Таджыкістане толькі палова працэнта людзей ўмее чытаць і пісаць. Ва ўсёй Кіргізіі толькі пяць кіламетраў брукаваных дарог. У Туркменіі ўсяго адзін лекар на сто тысяч чалавек. Прамысловасць, калі і ёсць, то дробная, апрацоўчая, а часцей за ўсё яе наогул няма. Мясцовы пралетарыят разам складае ўсяго некалькі тысяч чалавек. На тэрыторыі ў чатыры разы большай за Польшчу толькі адзін горад з насельніцтвам больш за сто тысяч чалавек. У Кіргізіі апрацоўваюць зямлю драўлянай прыладай, якая называецца бурсун.

У 1960 годзе археалагічная экспедыцыя адкопвае каля Фрунзе аналагічны бурсун, але ён паходзіць з VIII стагоддзя да н.э. Гэта значыць, што на гэтых землях на працягу дваццаці васьмі стагоддзяў не змяняюцца асноўныя прылады працы і апрацоўкі. Такі стан тутэйшай гаспадаркі ў 1917 годзе.

Такім чынам зыходныя пазіцыі тут былі шалёна нізкія.

Тут усё будавалі ад самага пачатку.

Гэта патрабавала вялікіх выдаткаў, шматлікіх кадраў.

Запрашалі прафесіяналаў з Расіі, з Украіны. Адтуль таксама прыбывалі і першыя машыны, абсталяванне для першых фабрык. Важным участкам

наступлення была сельская гаспадарка. Зямля тут пустынная, выпаленая сонцам, пазбаўленая вады. Каб гэтая зямля радзіла, трэба будаваць дарагія і працяглыя ірыгацыйныя сістэмы. Такія сістэмы будавалі. Сёння ірыгацыйная сетка Цэнтральнай Азіі і Казахстана складае некалькі сотняў тысяч кіламетраў. Дзякуючы гэтаму ўжо можна арашаць тры адсоткі паверхні Цэнтральнай Азіі. План на бліжэйшыя дзесяць гадоў прадугледжвае арашэнне наступных двух мільёнаў гектараў зямель, гэта значыць дзесяць адсоткаў патэнцыйна прыдатных для апрацоўкі тэрыторый. Гэта гіганцкія лічбы.

Развіццё прамысловасці яшчэ больш значнае.

Ва ўсіх рэспубліках створаны цэнтры цяжкай прамысловасці, горныя распрацоўкі, вялікія электрастанцыі. На пустках паўсталі вялікія сучасныя гарады: Руставі, Сумгаіт, Небіт-Даг, Алмалык. Адначасова імкліва разбудоўваюцца старыя і цесныя гарады. Савецкая Азія сёння з'яўляецца вялікай будаўнічай пляцоўкай, прасторай, на якой няспынна адбываецца тэхнічная рэвалюцыя, і разам з тым – гэта школа жыцця, вучэльня ста народаў.

Асабліва апошнія гады адзначаюцца ашаламляльным рухам наперад. Гэта ўжо гады збірання плёну пасля цяжкага піянерскага перыяду, які патрабаваў самаахвяравання і самаадрачэння. А планы на будучыню прадказваюць далейшае, бесперапыннае развіццё.

Але перш за ўсё тут паўстаў новы тып чалавека, вызваленага з бяды і забабонаў, чалавека адкрытых даляглядаў і вернутай годнасці. Гэта ён – самае вялікае дасягненне рэвалюцыі.

Заканчваецца вясна, мне трэба вяртацца ў Варшаву. Эркін хоча мяне яшчэ затрымаць у Самаркандзе. Але я не магу застацца, кажу, што маё начальства падлічыла, што першага ліпеня я павінен быць у Варшаве. А можа яны памыліліся, задумваецца Эркін, і ты мог бы застацца даўжэй. На гэта я адказваю яму словамі Аль-Газалі, ідэолага суфіцкай дактрыны ісламу: "І няхай ведае, – папярэджваў Аль-Газалі, – што карысць, якую ён атрымае з-за памылкі свайго Шэйха, калі б той памыліўся, будзе большай, чым тая карысць, якую мог бы атрымаць ад сваёй уласнай праўды, нават калі б сапраўды меў рацыю".

Эркін, які не верыць у Магамета, аднак, пагаджаецца з Аль-Газалі. Хітае галавой і падае мне руку.

І гэтак мы развітваемся.

Ірына Дубянецкая



...дык колькі дрэў было
"пасярод саду"...

# Кніга Роду

***Новая беларуская Біблія***

## ЭДЭНСКІ САД: ВЕДА ДАБРА І ЗЛА

## Кніга Роду 3

**Папярэднія заўвагі**

***Унутраныя сувязі гісторыі Саду***

Гісторыя, якую мы звыкла прачытваем як гісторыю пра спакусу, грэхападзенне і пакаранне, гаворыць хутчэй пра складаны працэс росту і сталення людзей ды іхнія адносіны паміж сабою і сваім светам. У гэтым сюжэце чатыры персанажы: Ягвэ Элогім, чалавек, жанчына і змей, і ўсе яны злучаныя паміж сабой – кожны з кожным – мноствам сувязяў.

Чалавек улучаны ў некалькі тыпаў бінарных сувязяў – знешніх і ўнутраных, вертыкальных (іерархічных) і гарызантальных. Усе гэтыя сувязі акцэнтаваныя лінгвістычна. У выпадку знешніх і ўнутраных сувязяў бінарныя пары афармляюцца аднакарэннымі ці алітэрацыйнымі словамі з пазначэннем роду: *ha'adam–ha'adamah* (*га-адам–га-адама́*), што значыць "чалавек–зямля" і *ha'iš–ha'iššah* (*га-іш–га-ішша*) – "мужчына–жанчына".

*Працяг. Пачатак у №1-2 (86-87).*

На вонкавым плане гэта найперш сувязь паміж чалавекам, *га-адам*, і светам, *га-адамá*, які ён пакліканы даглядаць. Бо *га-адамá* – гэта не толькі глеба, рэчыва, з якога складаецца сам чалавек, і не проста зямля, якая корміць яго і ад урадлівасці якой ён залежыць (у 3:18 Бог папярэджвае: “церне і асот яна прарасціць табе, і будзеш есьці польную траву”). Гэта ягоны, чалавечы, свет, адзіны і навечны, ягонае жыццё і ягоная смерць, мэта і змест ягонага існавання. Гэта свет, чый лёс зьнітаваны з чалавечым лёсам непарыўнай повязьзю і ўзаемазалежнасьцю: дзе адзін, там і другі. На самым пачатку гісторыі, у Кнізе Роду 2:5, на зямлі нічога не расьце, “бо не было чалавека, каб урабляць глебу”. Потым, у 3:17–19, пасьля парушэньня чалавекам забароны на дрэва веды, Ягвэ Элогім акрэсьлівае сітуацыю, у якой абое – чалавек і зямля – апынуліся: “Праклятая зямля (глеба) праз цябе, у высілках будзеш есьці з яе ўсе дні жыцьця твайго – пакуль ня вернешся да зямлі (глебы), зь якой ты быў узяты”. І нават па-за садам змест чалавечага жыцьця застаецца той самы: “І выслаў яго Госпад Бог з Эдэнскага саду ўрабляць глебу, зь якой ён быў узяты” (3:23).

На ўнутраным плане чалавек улучаны ў іншую бінарную сувязь. Гэта стаўленьне чалавека да сваёй сэксуальнасьці і да сваёй унутранай іншасьці. Жанчына ўзятая з чалавека, і ён распазнае яе як частку сябе, як свой працяг. У Кнізе Роду 2:23–24 чалавек вітае з’яўленьне яе ў сваім жыцьці і свой новы стан адмысловым сьпевам:

> Вось яна, нарэшце,
> костка ад костак маіх
> і цела ад цела майго!
> Яна будзе звацца жанчынаю,
> бо з мужчыны была ўзятая яна.
> Таму пакіне мужчына
> бацьку свайго і маці сваю,
> і прылепіцца да жонкі сваёй,
> і будуць адным целам.

Але адначасова з тым жанчына застаецца незалежным суб’ектам, з якім чалавек непазьбежна сутыкаецца твар у твар. І гэтае сутыкненьне мяняе яго: *га-адам* робіцца мужчынам, *га-іш*, у гэтай гісторыі толькі ў дачыненьні да *га-ішша*, жанчыны.

Гарызантальныя і вертыкальныя сувязі фармуюцца праз пэўнае ключавое слова, што тычыцца абедзвюх частак бінарнае апазіцыі – і толькі іх. Нечаканыя гарызантальныя сувязі разьвіваюцца паміж чалавечай параю і зьмеем. Чалавек і жанчына лінгвістычна злучаныя са зьмеем словам *‘arum /‘arom* (*‘арум /‘аром*). Гэтае слова ўпершыню сустракаецца ў сумежных фразах, у апошнім сказе другога разьдзела (2:25) і першым сказе трэцяга (3:1). На жаль, падзел паміж разьдзеламі пралёг праз сэмантычна цэласны эпізод. “Яны былі абое *‘arumim* (*‘аруммім*), чалавек і жонка ягоная, але не саромеліся” – і адразу: “Зьмей быў самы *‘arum* (*‘арум*) за ўсіх польных зьвяроў, якіх зрабіў Ягвэ Элогім”. Слова *‘аруммім* – форма множнага ліку ад *’arom*, “голы”, якая супадае з множным лікам слова *‘аруммім* – “разумны, хітры, разважны, здольны”. У перакладзе гэтая сэнсаўтваральная гульня слоў прападае, бо ў нас няма магчымасьці перадаць *‘арум* і *‘аром* адным словам. Сэнс гэтай лінгвістычнай гульні у ненавязьлівай дэманстрацыі нейкай сымэтрыі, падабенства паміж чалавекам і зьмеем. Нездарма менавіта зьмей – і толькі зьмей – можа падштурхнуць жанчыну да лёсавызначальнага выбару. Гэта той выпадак, калі тонкія, амаль незаўважныя “капілярныя” сувязі ўнутры тэксту ствараюць паралельны сюжэт, які размыкае гісторыю, размывае ў ёй усе відавочныя схемы. Такім чынам, паміж чалавечай параю і зьмеем завязваецца лёсавы вузел, які з цягам гісторыі будзе толькі шчыльнець. Так, у 3:7, пасьля парушэньня забароны, вочы ў людзей расплюшчыліся, і яны “ўведалі, што яны голыя” (*‘эрумім*), і ім стала праз гэта прыкра. Сувязь са зьмеем далей мацнее з увядзеньнем яшчэ адной алітэрацыі: выпраўляючы чалавека ў сьвет па-за садам,

Ягвэ Элогім дае яму адзеннне са скуры – *‘or* (*‘ор*). І хаця гэта, відаць, звычайная чалавечая скура на чалавечым целе, яна мае змяіныя канатацыі. Змей і чалавек – абодва з вонкава гладкай скураю. Абодва – аголеныя. Абодва – разумныя.

Вертыкальныя адносіны развіваюцца ў тэксце паміж чалавечай параю і іхнім творцам, Ягвэ Элогімам. У выпадку адносінаў чалавек–Бог, ключавым словам стаецца *jada‘* (*яда‘*) –ведаць і вытворнае ад яго *da‘at (да‘ат*) – “веда”. Веда дабра і зла належыць Богу. “Вось, чалавек стаўся як адзін з нас, хто ведае дабро і зло,” – кажа Ягвэ Элогім (3:22). Набыццём веды пазначаны і працэс чалавечага сталення. Для чалавека і жанчыны веда і жыццядайная, і смяротная.

Паняцце веды шчыльна асацыюецца з цэнтральным вобразам гісторыі – з дрэвам.

### ***Дрэва дзвюх магчымасцяў***

На пачатку гісторыі, у Кнізе Роду 2:8 Ягвэ Элогім пасадзіў “сад у Эдэне на ўсходзе, і зьмясьціў там чалавека, якога вылепіў”. Задача чалавека – даглядаць і ахоўваць гэты сад. Бог напаўняе сад адмысловым сэнсам (2:9): “І ўзрасьціў Госпад Бог з глебы ўсякае дрэва, прывабнае на выгляд і добрае на ежу, і дрэва жыцьця пасярод саду, і дрэва веды дабра і зла”.

Апроч моманту пасадкі, дзве назвы дрэва – “дрэва жыцьця” і “дрэва веды дабра і зла” – ніколі не згадваюцца разам. У кожнай сітуацыі гаворка ідзе пра адно дрэва. Дрэва жыцця было пашыраным вобразам на Старажытным Блізкім Усходзе, а вось дрэва веды дабра і зла вядомае толькі з гэтага тэксту. Ці дрэва жыцця тое самае, што дрэва веды, ці гэта два розныя дрэвы? Больш за тое, у гутарцы са змеем жанчына гаворыць проста пра дрэва “пасярод саду” – можа гэта яшчэ адно дрэва? Дык колькі дрэў было “пасярод саду”, адно, два, ці тры? Якая сувязь паміж жыццём і ведаю?

Рытмічная арганізацыя гебрайскага тэкста фармуецца паралелізмам паміж двума радкамі – тыповым літаратурным прыёмам, пакліканым паступова ўводзіць новую інфармацыю пра феномен у фокусе (2:9b):

і дрэва жыцця пасярод саду,
і дрэва веды дабра і зла.

w$^{e}$‘es̱ hahajjim b$^{e}$tok hagan
w$^{e}$‘es̱ hadda‘at tow wara‘

Рытм дасканалы – усе галосныя паўтараюцца, і аніводны не парушае адзінства. У гэтым сугуччы паўстае адзінае дрэва – дрэва жыцця, якое ёсць пасярод саду, і якое ёсць дрэвам веды дабра і зла.

Далей у тэксце кожная назва дрэва будзе згадвацца паасобку. У 2:16–17 дрэва “веды дабра і зла” стаецца фокусам боскай забароны. Жанчына, аднак, гаворыць, што з дрэва “пасярод саду” ім няможна есці (3:2–3). Ці было гэта дрэва “жыцця”, якое было такім чынам лакалізаванае ў 2:9? Відаць не, бо пасля таго, як чалавек з’еў з дрэва, Бог заклапочаны тым, каб не даць яму дапасці да дрэва “жыцця” (3:22).

І з усяе гэтае амбівалентнасці акурат і складаюцца сэнсы гісторыі. Так, дрэва адно. Але з яго можна пакаштаваць як жыцця, так і смерці, як далучыцца да боскай веды, гэтак і ўсвядоміць свой уласны канфуз. Так, дрэваў многа. Як многа шляхоў чалавечага пазнання, многа шматмерных сувязяў, з якіх тчэцца чалавечае жыццё, многа магчымасцяў зрабіць свой адзіны жыццёвы выбар. Так, Бог забараніў чалавеку каштаваць плод з дрэва. І так, Бог зрабіў усё магчымае, каб чалавек самастойна вырашыў пакаштаваць забароненага плоду.

Пераклад гісторыі саду ў Кнізе Роду 2–3 рыхтавала Караліна Мацкевіч, доктар біблістыкі, якая жыве і працуе ў Лондане. У групе мы працавалі над гэтым тэкстам доўга, узгадняючы складаныя месцы, на якія надзвычай шчодры гэты тэкст. Нават цяпер, пасля рэдактуры, зробленай для гэтай публікацыі, засталося багата пытанняў і сумненняў.

## КНІГА РОДУ 3

### Тэкст у перакладзе на беларускую мову

3:1. Зьмей быў хітрэйшы за ўсіх польных зьвяроў, якіх зрабіў Госпад Бог. І ён сказаў жанчыне: «Вось жа сказаў Бог: "Ня ежце з кожнага дрэва ў садзе!"».

2. Жанчына адказала зьмею: «З пладоў дрэваў у садзе мы можам есьці,

3. А з пладоў дрэва, што пасярод саду, Бог сказаў: "Ня ежце зь яго і не кранайце яго, каб не памерлі"».

4. А зьмей сказаў жанчыне: "Сьмерцю не памрэце,

5. бо ведае Бог, што ў дзень, калі зьясцё зь яго, расплюшчацца вашыя вочы, і будзеце як багі, якія ведаюць дабро і зло".

6. Жанчына ўбачыла, што дрэва добрае ў ежу, і што яно прывабнае вачам, і жаданае дзеля разуменьня. І ўзяла з пладоў яго і ела, і дала таксама свайму мужу, які быў зь ёю, і ён еў.

7. І вочы ў іх абаіх расплюшчыліся, і ўведалі яны, што голыя. І яны сшылі фігавае лісьце і зрабілі сабе падпаяскі.

8. І пачулі яны голас Госпада Бога, які хадзіў па садзе дзённым ветрам, і схаваўся чалавек з сваёй жонкаю ад аблічча Госпада Бога сярод дрэваў у садзе.

9. Госпад Бог гукнуў чалавека і спытаў у яго: "Дзе ты?"

10. А той адказаў: "Твой голас я пачуў у садзе і спалохаўся, што я голы, і схаваўся".

11. І *Бог* сказаў: "Хто распавёў табе, што ты голы? Ці ня еў ты з дрэва, з якога я наказаў табе ня есьці?"

12. Чалавек адказаў: "Жанчына, якую ты даў мне, каб была са мною, яна дала мне *плод* з дрэва, і я еў."

13. І сказаў Госпад Бог жанчыне: "Што гэта ты зрабіла?" Жанчына адказала: "Зьмей зманіў мне, і я ела".

14. І Госпад Бог сказаў зьмею: "За тое, што ты зрабіў гэта, пракляты ты *больш* ад усякай жывёлы і ад усякага зьвера польнага. Будзеш хадзіць на сваім бруху і есьці пыл усе дні свайго жыцьця.

15. І пакладу варожасьць паміж табой і жанчынаю, і паміж тваім нашчадкам і ейным нашчадкам. Ён паразіць цябе ў галаву, а ты паразіш яго ў пятку."

16. Жанчыне (ён) сказаў: "Моцна памножу твае высілкі і твае зачацьці, у цярпеннях будзеш нараджаць дзяцей, і тваё памкненьне да твайго мужа, і ён будзе кіраваць табой.

17. А чалавеку сказаў: "За тое, што ты паслухаўся голасу жонкі сваёй і еў з дрэва, пра якое я наказаў табе, кажучы: 'Ня еж зь яго!', праклятая глеба праз цябе, у высілках будзеш есьці *з* яе ўсе дні жыцьця твайго.

18. Церне і асот яна праросьціць табе, і будзеш есьці польную траву.

19. У поце свайго твару будзеш есьці хлеб, пакуль ня вернешся да глебы, з якой ты быў узяты; бо ты пыл, і ў пыл вернешся.

20. Чалавек назваў імя сваёй жонкі "Ева", бо яна была маці ўсяго жывога.

21. Госпад Бог зрабіў чалавеку і ягонай жонцы адзеньне са скуры і адзеў іх.

22. І сказаў Госпад Бог: "Вось, чалавек стаўся як адзін з нас, хто ведае дабро і зло; і цяпер як бы ён не працягнуў сваю руку і ня ўзяў таксама з дрэва жыцьця і ня зьеў, і ня стаў жыць вечна".

23. І Госпад Бог выслаў яго з Эдэнскага саду ўрабляць глебу, з якой ён быў узяты.
24. І выгнаў чалавека, і пасяліў з усходу ад Эдэнскага саду керубаў і палымяны меч калаўротны, ахоўваць дарогу *да* дрэва жыцьця.

## Выбраныя каментары

### *Верш 1*

• **вось жа сказаў Бог: "Ня ежце з кожнага дрэва ў садзе"**. Гэтую фразу змея амаль усе перакладаюць як пытанне ("Ці сапраўды сказаў Бог...?" і да т.п.). Аднак пытання тут няма. Змей *сцвярджае*, што Бог сказаў менавіта гэта. Блытаніна ўзнікае праз неразуменне таго, якія словы змей прыпісвае Богу. Тэкст тут наўмысна амбівалентны. Перакладчыкі і каментатары, сыходзячы з апрыёрнага пераканання ў хлуслівасці змея, разумеюць ягонае цытаванне Богавых слоў як наўмысна скажонае: "Не ежце ні з воднага дрэва ў садзе". Гебрайскі сказ можна разумець і так, і гэтак, бо па-гебрайску слова *qol* (*кол*) значыць "усё", а таксама "любы, кожны, усякі". І таму *miqol ʿes̱ hagan* (*мі-кол ʿэц га-ган*) – "з усіх дрэў у садзе" або "з кожнага дрэва ў садзе" з адмоўнай часціннаю *lo* (*лё*) – "не" можа быць зразумета як "ні з воднага дрэва ў садзе". Але самае простае разуменне гэтых слоў – "з кожнага дрэва ў садзе". І тады змей гаворыць праўду: Бог не кожнае дрэва зрабіў дазволеным для ежы. Дрэва веды дабра і зла апынулася пад забаронаю (гл. 2:17). І жанчына, калі гаворыць пра забароненае дрэва "пасярод саду" ці то пярэчыць змею, ці то проста ўдакладняе. Такім чынам сюжэт набывае дадатковую глыбіню, і змей з падманшчыка ператвараецца ў Богавы цень. І гэтая двайная гульня захоўваецца і надалей, калі змей, з аднаго боку, спрачаецца з Богам, абвяргаючы ідэю імгненнай смерці ад забароненага плода, а з другога боку – раскрывае таямніцы таго, што "ведае Элогім" (3:5). Змей абяцае, што ў людзей "расплюшчацца вочы" – і вочы насамрэч "расплюшчыліся" (3:7); ён кажа, што яны "стануцца як багі" – і яны насамрэч становяцца, паводле Ягвэ Элогіма, "як адны з нас" (3:22).

### *Верш 6*

• **І жанчына ўбачыла, што дрэва добрае ў ежу, і што яно прывабнае вачам, і жаданае дзеля разуменьня.** Тэкст прыцягвае ўвагу да таго, што выбар жанчыны быў не спантанны, але асэнсаваны. Жанчына ўважліва глядзіць на дрэва, узважвае яго якасці. Яна бачыць у ім тое, што было закладзеным у яго ад пачатку Богам: "І ўзрасьціў Ягвэ Элогім з глебы ўсякае дрэва, прывабнае на выгляд і добрае на ежу, і дрэва жыцьця пасярод саду, і дрэва веды дабра і зла" (2:9). У сваёй прывабнасці гэтае дрэва гэткае ж, як і ўсе дрэвы ў садзе. Але жанчына заўважыла ў ім і тое, чаго не бачыла раней, нешта, што адрознівала яго ад астатніх дрэў: яно было "*жаданае дзеля разуменьня*". Слова *haskil*, (*гаскіл*) азначае "розум, разуменне, мудрасць". Гэтае новае бачанне дрэва аказваецца вырашальным для жанчыны, жаданне разумець перамагае страх смерці, і яна выбірае разуменне, а не паслушэнства.

• **і дала таксама свайму мужу, які быў зь ёю, і ён еў**. Сувязь паміж мужчынам і жанчынаю падкрэсліваецца ўзаемнай прыналежнасцю праз усю гісторыю. Тут гэта праяўляецца асабліва выразна. Ён для яе не проста "яе муж" – *išah* (*ішаг*), а яшчэ "які быў з ёю" – *immah* (*іммаг*). Люстраны адбітак гэткай падвойнай прыналежнасці аб'яўляецца ў 3:12, дзе чалавек перакладае адказнасць на жанчыну, называючы яе "жанчына, якую ты даў мне, каб была са мною". Тут у дадатак да дзеяслова з суфіксам прыналежнасці "ты даў мне" – *natattah* (*нататта*) ужываецца прыназоўнік прыналежнасці "з" з суфіксам першай асобы адзіночнага ліку "са мною" – *ʿimmadi*

(*ʻіммады*). У абодвух выпадках адной формы было б дастаткова, і таму гэтае збыткавае "быццё разам" часта прапускаецца перакладчыкамі. Аднак для разумення тэкста гэта істотна. Тут, у 3:6, гэтая кароткая заўвага пра тое, што яе муж "быў з ёю", наўмысна заблытвае чытача: ці ён ёсць з ёю імпліцытна, заўсёдна, як неад'емны і неадменны складнік ейнага жыцця, ці то ён быў прысутны пры размове жанчыны са змеем? Калі так, то што ён рабіў, якая ягоная роля ў гэтай гісторыі? Ці ён таксама прагнуў разумення і, адпаведна, падзяляў выбар жанчыны, ці то ён папросту паслухмяна з'еў прапанаваны жанчынаю фрукт, не задумваючыся пра наступствы.

### *Верш 7*

• **і ўведалі, што яны голыя**. Дзеяслоў *jadaʻ* (*ядаʻ*) – "уведалі" – аднакрэнны з *daʻat* (*даʻат*) – "веда". Яго не варта перакладаць "зразумелі" або "пазналі", як досыць часта прапануюць перакладчыкі, бо тут неабходна захоўваць прычынна-выніковыя сувязі аповеду: людзі з'елі плод з дрэва веды і як вынік уведалі. Толькі вось што яны ўведалі? Жанчына прагнула разумення і мудрасці (*haskil*, *гаскіл*), а атрымала веду (*daʻat*, *даʻат*) – таго, што яны *ʻэруммім* – веду сваёй галізны, сваёй цялеснасці. А таксама сваёй сувязі са змеем, які, як мы памятаем, быў самы *ʻарум* сярод усяе жыўнасці.

### *Верш 8*

• **дзённым ветрам**. Выраз *l<sup>e</sup>ruach hajom* (*лё-руах га-ём*) звычайна перакладаюць як "у дзённай прахалодзе". Гэты верш часта цытуецца як ілюстрацыя антрапаморфнасці бостваў раннебіблійных уяўленнях: "І пачулі яны голас Госпада Бога, які хадзіў па садзе ў дзённай прахалодзе". Маўляў, Бог прагульваецца па садзе прыемнай парою, і голасам гукае чалавека. Аднак у гебрайскім тэксце ўсё выглядае крыху інакш. Слова *руах* азначае вецер, а не прахалоду. І тут яно ўжытае са шматзначным прыназоўнікам *лё-*, які можа пазначаць давальны склон, прыналежнасць (родны склон), кірунак руху да чаго-небудзь ды інш. Тут яго значэнне не відавочнае, і гэта ўскладняе разуменне сказа. Васіль Сёмуха ідзе за традыцыяй, перакладаючы "у час дзённай прахалоды", Уладыслаў Чарняўскі наогул абірае варыянт "апоўдні", і толькі Янка Станкевіч чуе тут вецер і прапануе пераклад "з ветрам дзянным". Прыназоўнік *лё-* можа азначаць, што хтосьці/штосьці стаецца або робіцца кімсьці/чымсьці. Мы прапануем разумець яго тут менавіта такім чынам. Гэта значыць, што Бог не хадзіў па садзе тады, калі там веяў дзённы вецер, але сам *быў* гэтым ветрам. Гэта мяняе ўсю карціну, разам з разуменнем "хаджэння" і голасу. Замест антрапаморфнага боства паўстае магутны ўладар стыхій – вобраз, які добра вядомы з іншых кніг Гебрайскай Бібліі.

### *Верш 13*

• **зьмей зманіў**. Дзеяслоў з асабовым суфіксам першай асобы адзіночнага ліку *hišiani* (*гішыані*) – "падмануў мяне" – гучыць алітэрацыйна са словам *hannachaš* (*ганнахаш*) – "змей", і таму мы выбралі варыянт "змей зманіў мне". Караліна Мацкевіч прапаноўвала "змей звёў мяне". Праз гэтую гульню слоў жанчына спрабуе выставіць змея прыроджаным манюкам, а сябе, адпаведна, наіўнаю ахвяраю, і такім чынам зняць з сябе віну. Яна таксама, услед за чалавекам, перакладае адказнасць за свой выбар на кагосці іншага. Іронія ў тым, што яе ніхто ні ў чым не абвінавачваў. Бог проста спытаўся ў яе: "Што гэта ты зрабіла?". Замест таго, каб адказаць на пытанне, жанчына пачынае апраўдвацца, вінавацячы змея. Гэта, відаць, і прыводзіць да нязводнай варажнечы паміж нашчадкамі жанчыны і нашчадкамі змея, пра якую гаворыць Бог ў вершы 15.

### *Верш 15*

• **ён паразіць цябе ў галаву, а ты паразіш яго ў пятку**. Тут двойчы паўтараецца рэдкі дзеяслоў *šuph* (*шуф*). Апроч гэтага верша, ён ужываецца толькі двойчы на ўсю Гебрайскую Біблію – у Кнізе Ёва 9:17, дзе Ёў кажа, што Бог "у віхуры пабівае/паражае мяне", і ў Псальме 139:11 (паводле Сэптуагінты, 138:11), дзе дзейнікам *шуф* выступае цемра: "цемра апанавала/паразіла мяне". Тут важна, што паводзіны нашчадкаў і змея, і жанчыны ў дачыненні адно да аднога сіметрычныя і апісваюцца адным і тым самым дзеяннем. Толькі змеевыя нашчадкі атрымаюць удар у галаву – гэта значыць, у тое, што наперадзе, а жанчыніны ў пятку – у тое, што ззаду. Такім чынам, жанчына і змей закруціліся ва ўраборусавы вузел.

### *Верш 16*

• **памножу твае высілкі, ...у цярпеньнях будзеш нараджаць дзяцей**. Словы *ʿissabon* (*ʿіццавон*) – "высілкі" і *ʿeseb* (*ʿэцэв*) – "цярпеньні" аднакарэнныя. Форма *ʿіццавон* ужываецца толькі тры разы ў Гебрайскай Бібліі: двойчы тут, у 3:16 і 17, і ў 5:29, дзе гаворка ідзе хутчэй пра працоўныя намаганні. Форма *ʿэцэв* сустракаецца, апроч 3:16 яшчэ 6 разоў. Як і ў 3:15 у выпадку слова *шуф* – "паражаць", тут увага тэкста на рэдкай форме *ʿіццавон* – "высілкі", паўторанай двойчы. У 3:17 гэткім жа словам апісваецца праца чалавека на зямлі: "у высілках будзеш есьці (зь) яе ўсе дні жыцця твайго". "Высілкі" будуць лёсам і жанчыны, і чалавека – і менавіта гэта лучыць іхнія лёсы. Толькі для жанчыны высілкі вынікаюць у нараджэнні нашчадкаў, а ў чалавека – у служэнні (*авад*) зямлі.

• **тваё памкненьне да твайго мужа**. Слова *t^e šuqat* (*т^э шукат*) мае цьмянае значэнне і незразумелае паходжанне. Яно ўжываецца аднолькавым чынам тут і ў гісторыі Каіна ў 4:7, дзе вельмі падобная сітуацыя тэкстуальна змадэляваная паводле гэтай. Тут памкненне жанчыны да свайго мужа вынікае ў тым, што ён ёю кіруе; там памкненне граху да Каіна, і Каін мусіць кіраваць ім. У абодвух выпадках кіруе той, да каго адчуваецца памкненне. І яшчэ адзін раз *т^э шукат* ужываецца ў Песні песняў 7:10(11) у кантэксце любоўнага жадання. Найчасцей гэтае слова перакладаецца як "жаданне". Сэптуагінта перакладае яго як "вяртанне" або "паварот", відаць таму, што прачытвае гебрайскае слова *t^e šuqat* (*т^э шукат*) як падобнае да *tešubat* (*тэшуват*) – "павяртанне". Сярод нашых варыянтаў былі "поцяг", "пажада", "(па)вяртанне" і "скіраванасць", але "памкненне" выглядае найлепшым выбарам.

### *Верш 18*

• **церне і асот яна праросьціць табе**. Побач са словам *qos* (*коц*) – "церне" ужытае рэдкае слова *dardar* (*дардар*), якое сустракаецца яшчэ толькі ў Гасеі 10:8) і таксама паралельна з "цернямі", таму перакладаецца звычайна як калючая расліна, магчыма, дзядоўнік. Роднаснае яму слова *d^e rur* (*д^э рур*) – "воля, вольны бег", што асацыюе яго з пустазеллем. Сёмуха прапануе "ваўчкі", Чарняўскі "бадзякі", а Станкевіч ужывае "асот" – паўсюднае пустазелле, але без калючак.

### *Верш 19*

• **у поце твару свайго**. Літаральна, у поце носу свайго. Хоць у арыгінале больш натуралістычная карціна, мы пайшлі за звыклай ідыёмай.

• **ты пыл, і ў пыл вернешся**. Так Ягвэ Элогім акрэслівае чалавечы лёс. Кагадзе, у 3:14, Бог сказаў змею, што той будзе "есці пыл усе дні свайго жыцьця". І вось цяпер

высвятляецца, што пыл – гэта чалавек! Дык што – ці каго – будзе есці змей? І што есць чалавека? Слова *'aphar* (*'афар*) – "пыл" лучыць чалавека і змея, закручваючы іх абодвух у яшчэ адну ўраборусавую сувязь.

### *Верш 20*

♦ **Чалавек назваў імя сваёй жонкі "Ева", бо яна была маці ўсяго жывога**. Імя *Chawwah* (*Хавва*), якое чалавек дае жанчыне, звязанае ў тэксце са словам *chaj* (*хай*) – "жыццё". Найчасцей перакладаюць "маці ўсіх жывых", бо так нібыта лягчэй зразумець, пра што гаворка. Аднак, калі *хай* прачытаць як назоўнік, сэнс фразы будзе "маці ўсяго жыцця", а калі як прыметнік – "маці ўсяго жывога". Важна, што гэтае жыццесцвярджальнае імя яна атрымлівае акурат пасля гутаркі пра нязводнае змаганне яе са змеем, пра болі і высілкі ў іх з мужам жыцці і пра канчатковае вяртанне чалавека ў пыл. Сцверджанне, што яна маці ўсяго жывога пэўным чынам спраўдзіцца ў наступнай гісторыі – у аповедзе пра Каіна, дзе пачнецца новы вітoк жыцця, не створаных людзей, а народжаных. Прычым людзей, якія здабылі веду і праз гэта сталіся *смяротнымі*.

### *Верш 21*

♦ **адзеньне са скуры**. Назоўнік *k^e tonet* (*к^e тонет*) – "адзеньне, апранаха, туніка" таксама ўжываецца ў Кнізе Роду 37:23 ў дачыненні да Язэпавага шматкаляровага плашча. Слова *'or* (*'ор*) – "скура" алітэрацыйнае словам *'арум* – "голы" і *'аром* – "разумны". Яго з'яўленне ў тэксце яшчэ больш ускладняе змяіна-чалавечыя адносіны. Пад скураю каментатары традыцыйна разумеюць скуру жывёлы. Нават высоўваліся ідэі, што Бог учыніў першае ахвярапрынашэнне, забіўшы жывёлу. Аднак ніякай згадкі жывёлаў у тэксце няма. Ёсць проста "скура", а чалавечае цела, як мы ведаем з уласнага досведу, заўсёды "адзетае" ў скуру. Мы не ведаем, як выглядалі людзі да выгнання з Эдэну, але цяпер – па-за садам – яны маюць скуру. Відаць, менавіта гэтая скура, а не скураная вопратка, маецца тут на ўвазе.

### *Верш 23*

♦ **Госпад Бог выслаў яго з Эдэнскага саду ўрабляць глебу, з якой ён быў узяты**. Цыкл завершаны. Чалавек-*адам*, зроблены з зямлі-*адама*, абрабляў зямлю ў садзе, даглядаў і ахоўваў яе. Цяпер сад для яго недаступны. Ягоны новы свет – усё тая ж *адама*, але ў большым маштабе, вялікая і нязведаная, хаця па-ранейшаму непарыўна з ім звязаная. Гэта лёс чалавека. А што ж жанчына? Дзе яна ў гэтай гісторыі? Ці яна таксама – імпліцытна – выгнаная з Эдэну? Але як можна было на яе забыцца? А можа, на яе не распаўсюджваецца выгнанне, як не распаўсюджвалася Богава забарона есці плод з дрэва, зробленая да ўзнікнення жанчыны? У папярэднім вершы, 3:22, жанчына таксама не згадваецца ў звязку з нежаданнем Бога дазволіць чалавеку пакаштаваць плод з дрэва жыцця. У наступным вершы, 3:24, дзе чалавек канчаткова выгнаны, яе таксама няма. Пасля "адзення са скуры" ў 3:21 яна прападае з поля зроку. Наратыў вяртаецца да свайго пачатку, дзе быў проста чалавек, універсальная чалавечая істота. "Маці ўсяго жывога" чакае свайго часу, каб аб'явіцца на новым вітку пракаветнае гісторыі свету.



Аляксей Каўка



...святло незгасальнае свеціць,
і цемра не схавае яго...

# Выйсці ў свет і застацца сабою

***Над Скарынавым радком***

У Коласавай паэме "Сымон-музыка" асабліва кранае мяне ўзрушлівы пасаж пра званы, што "...прад святам у касцёл, царкву завуць, каб прад Богам і прад братам віны ўсе свае пачуць".

Дзіўным далёкім звонам адгукаецца ў сэрцы маім кожнае дакрананне да Скарынавага Слова, абуджаючы светлае пачуццё ласкі да людзей, жыцця й сусвету, нахіляючы да тых найвышэйшых неспасціжных ісцін, якія, на жаль, у марнай мітусні "сегосветного жития" не заўсёды памятаем. З роздумаў, выказванняў нашага біблеіста-асветніка адно ці не найчасцей прываблівае маю ўвагу: "Прото ж я, Францишек Скоринин сын с Полоцка, знаючи сее иже ест наивышшая мудрость размышление смерти и познание самого себе и въспоминание на приидущие речи.."[1] Гэтак у першай з выдадзеных ім кнізе "Іоў" вызначыў ён сваё самапазнаўчае й асветніцкае крэда ў слугаванні дабру паспалітаму. Найвышэйшай жа мудрасцю ў хрысціянстве ёсць спасціжэнне Божае праўды ў асобе Хрыста, праз далучанасць да якое аптымізуецца й гарманізуецца працэс чалавечага спазнання й самавыхавання шляхам духоўнага прасвятлення й выбаўлення

ад свінцовага цяжару розных спакус і хімераў. “Пазнайце праўду, і праўда зробіць вас свабоднымі” (Іан. 8:32) – мабыць, таксама ў гэтым евангельскім выслоўі стоена сутнасць, азначаны маральна-філасофскі алгарытм Скарынавай творчай спадчыны, папулярызацыя якой застаецца скрозь актуальнай.

Дзейнасць нашага асветніка-першадрукара прыпадае на завяршальную эпоху кансалідацыі беларускай супольнасці. Народа з акрэсленай тэрыторыяй, матэрыяльнай і духоўнай культурай, пэўным палітыка-дзяржаўным ладам, з усведамленнем уласнае тоеснасці – люду паспалітага “рускаго (не блытаць з русским) языка”. Чыё нацыянальна-грамадскае сталенне пацверджана тагачасным заканадаўствам: “*поготовю нам, которые не обчым языком, а своим власным права списаные маем*” (Статут Вялікага Княства Літоўскага, 1588).

Першы наш доктар “вызваленых навук” і медыцыны, філосаф-бібліеіст, перакладчык і выдавец Свяшчэннага Пісьма, ён жа наш першы народны пісьменнік, стаў яскравым увасабленнем культуровай адметнасці сваіх суродзічаў, іхняе прапіскі ў сябрыне еўрапейскіх народаў. Хаця трываласць гэтае прапіскі будзе не раз падважвацца навязлівымі “апекунамі” Беларусі-Літвы з памежных бакоў Усходу-Захаду. Аднак жа свой гістарычна-сцвярджальны пашпарт беларусы займелі (хоць праз уласнае нядбальства, розныя закалоты часам, і надоўга, трацілі гэты мандат на правамоцнае прызначэнне ў цывілізацыйным развіцці). А ўсё ж. Пры вырашальных дзеятворных абставінах з-пад гарачага попелу забыцця наноў успыхвалі нязгаслыя іскры памяці і людское годнасці, будзячы з нацыянальнага летаргу прыгаломшаных насельнікаў забранага краю. Так, у 1918 годзе пры вяртанні Беларусі на сваю заплутаную было дзяржаўную пуцявіну ўрад БНР, сярод іншага, паклікаўся на імя Францішка Скарыны, на культуровую й палітыка-прававую спадчыну беларусаў[2].

Спынімся на істотных прыкметах беларускае супольнасці – колішняга народа “рускаго языка” – выкладзеных на старонках Скарынавых першадрукаў: *Родная мова. Рэлігія і нацыянальнасць. Патрыятычная свядомасць. Міжнародны дыялог. Асветніцтва.*

Такім чынам, мацярынскае слова як зыходная матывацыя Скарынавай асветніцкай парадыгмы. Сваё прызначэнне ў слугаванні грамадству – “дабру паспалітаму” – ім абумоўлена дакладна й пераканаўча: “*наболей* с *тое причины иже мя милостивы Бог* с *того языка на свет пустил*”. У шматвяковым летапісе беларускае славеснасці гэта, бадай, першая акцэнтацыя моўнае, шырэй – нацыянальнае самасвядомасці аўтара. Чаму, зрэшты, спрыялі ў тым часе як дынамізацыя пісьмовае творчасці ў краіне, так і агульная накіраванасць эпохі Адраджэння на самасцверджанне ў пісьменстве – свецкім і рэлігійным – паасобных нацыянальных моваў (у беларуска-ўкраінскім выпадку народнае “простае мовы”) перад пануючымі лацінай альбо царкоўнаславяншчынай. Вучоныя па-рознаму вызначаюць “моўную” тыпалогію Скарынавага перакладу біблійных кніг: беларуская мова, беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай, старабеларускі “высокі” біблійны стыль. Што, аднак, збліжае разыходжанні ў поглядах даследнікаў – гэта прызнанне дэмакратызму, даходлівасці й стылёвае прываблівасці Скарынавых тэкстаў. Класік філалогіі А.А. Патабня калісьці параўнаў адно трапнае слова з цэлай паэмай. У Скарыны падобных словасказаў-паэм не злічыць:

*«Для того ест человек абы Богу служил»*

*«Вдячна ест милость Божия во време печали якобы туча дождевая в часе сухости»*

*«Муж наученый ест крепок и моцен»*

*«И власную жену любити а пред чужою утекати»*

*«...ниже болей смышляй на потребу свою абы з розуму не выпал»*

*« Не сварися с мужем язычливым не прикладай на огонь его дров»*

«*Припусти к собе чужеземца и превратить тебя в бури и отведет от власных путей твоих*»

«*Вси убо умираем и яко воды плынем до земли, от нее же не возвратимся*»

Працытаваныя вышэй вытрымкі – прыклад арыгінальнага Скарынавага пісьма, узятага з яго надпісанняў (тлумачэнняў) да адпаведных раздзелаў Бібліі. Як відаць, высокі кніжна-славянскі стыль беларускі перакладчык нібы спрашчае, а фактычна – узбагачае жывой каларытнай лексікай, фразеалагічнымі зваротамі. І ў гэткай мастацкай аправе "простае" слова зіхаціць бурштынавымі блікамі, надаючы біблійнаму тэксту дадатковую экспрэсіўнасць, узмацняючы эмацыйнае ўздзеянне на чытача.

Але не толькі эстэтычнай раскошай вабіць нас Скарынава стылістыка, рытарычны пафас творцы. Не менш істотныя навукова-пазнавальныя, жыццёвыя рэаліі – зноў жа не раз перакладчыкам выказаныя адным-другім словам. Яшчэ прыклад:

«*Блядливость женьская на воздвижение очию ея и руйность ее на обочию ее познана бывает*» (Кніга Ісуса Сірахава; пар. з рускім сінадальным перакладам: «наклонность женщины к блуду узнается по поднятию глаз и век ее»). Пераклад азначаны адным, адпаведным кантэксту, словам *руйность* – у сэнсе фізічнае кволасці жанчыны лёгкіх паводзін. І гэтую пранiклівую выснову медыка-дыягноста Скарыны трапна прыкмеціў сучасны расійскі філолаг: Скарынава "руйность" – "единым словом выразило трагизм женской судьбы, часто за немногие годы превращавших юных красавиц в онкологически искалеченных старух, это проявлялось прежде всего по тому, что у женщины творилось вокруг глаз, на *обочию*"[3]. Прыкметна, што складальніку "Слоўніка мовы Скарыны"[4] не выпала лагічна спалучыць сэнс абодвух сузалежных лексем – "*блядливость*" і "*руйность*"; апошняя прыблізна патлумачана словам "рэўнасць".

Наогул, параўнальна-тэксталагічнае засяроджанне над Скарынавым перакладам міжвольна наводзіць на сумную канстатацыю. Нашыя даследнікі, не выключаючы аўтара гэтых радкоў, прыкіпелыя пераважна да вядомых прадмоў і пасляслоўяў, часам выказваюць хібныя сцверджанні адносна філасофскіх, рэлігійных поглядаў Скарыны, не асэнсаваных ва ўсёй глыбіні стоеных у самой яго Бібліі сэнсаў і каштоўнасцей, што аддаляе і ўскладняе не скажонае спасціжэнне творчае фенаменальнасці нашага мысляра-перакладчыка. Пэўна, замест бясконцага кружляння вакол чыгунка было б не менш спажыўна чэрпаць згатаванае ў ім варыва. Плённасць заглыблення непасрэдна ў сакральныя тэксты беларускага біблеіста-першадрукара давёў нядаўна нямецкі славіст Ханс Ротэ (*Rothe*) каментаром да Скарынавага "Апостала"[5], плённа абагачаючы падобны досвед папярэднікаў і сучаснікаў-скарыназнаўцаў П.У. Уладзімірава, А.В. Флароўскага, Валянціны Дышыневіч, Уладзіміра Конана, Алеся Яскевіча, Алены Яскевіч, Вітаўта Тумаша, іншых.

Аднак – адносна моўнай самаідэнтыфікацыі Скарыны. Спаконвечнае жывое слова свайго народа – "братии руси" – ён вывеў на разлеглыя абсягі айчыннай і еўрапейскай кніжнае культуры; зацікаўленне яго кнігамі яшчэ пры жыцці выдаўца адзначана ў Чэхіі, Даніі, Італіі, Нямеччыне, на Балканах, у Масковіі. Разам са скрыжаллю яго творчага натхнення: «...*наперед Богу ко чти и своему прироженому рускому языку к науце*». Перад намі, заўважым, якасна новая сацыялінгвістычная сітуацыя, пры якой навучанню й шанаванню роднае мовы надаецца павышанае педагагічна-выхаваўчае, маральнае значэнне.

Ад слыннага Палачаніна ў беларускім пісьменстве зыходзіць і мацнее традыцыя падкрэсленай увагі і заклапочанасці нашых пісьменнікаў, публіцыстаў развіццём, шанаваннем роднага слова. Ад яе ўжо ў новым часе адштурхнецца другі Францішак – Багушэвіч – з набатнай перасцярогай да суродзічаў: "Не пакідайце мовы нашай

беларускай, каб не ўмёрлі!" І, мяркуем, пакуль гэтая ерыхонская труба гучыць над беларускім лёсам і шляхам, ніякім глумцам-янычарам, з самым "чэсным і правільным" уключна, не стлуміць, не перайначыць на чужацкі капыл моўнае ўнікальнасці народа, не выпетрыць яго творчы рэсурс менавіта як з народа беларускага.

Другі, канфесійны, дакладней – *рэлігійна-нацыянальны момант*. Свой пераклад біблійных і богаслужэбных кніг Скарына адрасаваў народу "рускага языка", пераважна праваслаўнага веравызнання. Дарэчы, і яго выраз "братия моя русь" мог азначаць як этнічны, так і веравызнаўчы ("руская" праваслаўная вера) сэнс. Але што прыкметна. Тлумачэнні да свайго пераклада наш біблеіст нідзе не абставіў агаворкай кшталту "еже суть православной веры". Нават у бясспрэчна кананічных віленскіх выданнях "Апостал", "Малая падарожная кніжка"[6]. Выпадковасць? Наўрад ці. Калі згадаць адпаведны пасаж з прадмовы да Астрожскай Бібліі 1581 г. Івана Фёдарава (выдадзенай не без запазычанняў са Скарынавых тэкстаў), прызначанай *«всем глаголящим языку словенскому и объединяющиеся тое ж у церкви* ***православною****»*. З гэтага гледзішча наш перакладчык Бібліі царкву "канфесійна" не акрэслівае, успрымаючы яе абагулена – як "мати *всех* християн", што ў праваслаўным асяроддзі пры абыходжанні са свяшчэннымі тэкстамі, прынамсі, не падтрымліваўся, зацятымі ж раўніўцамі "кананічнасці" (беглы князь Курбскі) згаданы пераклад некалі быў трактаваны ледзь не ерэтычным. Між тым Скарына асабістым досведам каталіка (бальшыня прамых і ўскосных звестак сведчаць пра яго каталіцкасць) увасобіў сабой поліканфесійнасць беларускага этнасу, спалучэнне (не проціборства) на беларускай глебе візантыйскіх і рымакаталіцкіх пачаткаў. Францішак Скарына фактычна вястуе неназваны ідэал рэлігійнага сумоўя, пра неабходнасць якога выкажацца намнога пазней рускі філосаф М. Бярдзяеў: "*Не трэба стараццa злучыць цэрквы, але трэба стараццa злучыць хрысціян, імкнуцца да ўзаемнага пазнання і ўзаемнае любові між хрысціянаў усялякіх веравызнанняў, да пераадолення ўзаемнага варагавання і сваркі*"[7]. Мабыць, не памыляўся і Пётр Уладзімераў, адзін з першых і найглыбейшых даследнікаў, заўважаючы ў скарынавай творчай настраёвасці павевы уніяцтва[8].

Скарынавы кнігі адкрыты для кожнага. Яго меркаваны чытач – *"всякий человек простый и посполитый"*. Лагічна разумець – незалежна ад сацыяльнага статуса, веравызнання і г.д. Тыя першадрукі мог чытаць вялікі князь і звычайны месціч, святар і шляхціч, каталік і праваслаўны, татарын і габрэй – адпаведна сацыяльным і канфесійным рэаліям тагачаснага беларуска-літоўскага грамадства. "*Скарына працуе*, – дзеліцца слушным назіраннем сучасны польскі даследчык, – *на сутыку дзвюх вялікіх традыцый, дзвюх вялікіх культур. Выраслы з усходняга праваслаўя, ён як вучоны біблеіст ёсць чалавекам Захаду*"[9]. Можна пагадзіцца і з іншай думкаю адносна рэлігійных поглядаў Скарыны як прыкладу *"рэнесанснай міжканфесіялізацыі"*[10]. Не менш арыгінальна й пераканаўча падышоў да пытання даследнік-багаслоў а. Аляксандр Надсан пры разглядзе Скарынавых акафістаў і малітваў, давёўшы блізкасць у названых творах "як усходняй, так і заходняй традыцыі", тагачаснай "грэцкай" і "рымскай" веры. "Сёння мы назвалі б яго уніятам"[11]. Не перабольшыў, мабыць, і прафесар Іван Саверчанка, адцеміўшы скарынаву ідэю "задзіночання цэркваў" – Заходняй і Усходняй[12]. На гэтую ж праблему сузалежнасці хрысціянскіх канфесій праз гістарычны досвед Беларусі шырэй зірнуў сучасны даследнік з Віцебска. Аналізуючы Скарынаў каляндар з "Малой падарожнай кніжкі", давёў спалучэнне ў ім каталіцкай (нямецкай) астранамічнае думкі з адпаведнай праваслаўнай – грэчаскай і славянскай – тэорыяй. Канфесійнай талеранцыйнасці спрыялі ідэі Фларэнтыйскай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім на мяжы XIV-XV стст. Контррэфармацыя ў краіне пасля 1525 года, мяркуе аўтар, адмоўна заважыла на далейшых выдавецкіх праектах нашага першадрукара[13].

Да Скарыны ў пэуным сэнсе ўзыходзіць дасюль не развязаная ў беларускім грамадстве праблема рэлігійна-нацыянальнае тоеснасці, – калі б згаданая поліканфесійнасць не замаруджвала, а паскарала росквіт нацыянальнай культуры і самасвядомасці беларусаў. І тым самым спрыяла пераадоленню адчужанасці царкоўных інстытутаў ад нацыянальных інтарэсаў краіны. На вастрыню гэтага пытання звярнуў пільную ўвагу ў свой час Вацлаў Ластоўскі[14]. Наколькі Скарына, паводле меркавання Власта, засведчыў сваёй творчасцю ўзаемаповязь народнасці й веравызнання, нагэтулькі з цягам часу царква ў Беларусі – праваслаўная і каталіцкая – не выказала належнага разумення нацыянальна-культуровых інтарэсаў народа, стаючыся, пад націскам суседніх дзяржаў, апірышчам асіміляцыі беларускага насельніцтва. Альтэрнатывай такому становішчу магла б служыць Унія, аднак пры жорсткім супраціве праваслаўных і падступных намаганнях каталіцкіх структур яна стала закладніцай рыма-каталіцкага, па сутнасці "польскага" лагера. Выснова з разважанняў Ластоўскага даволі жорсткая, але наўрад ці абвяргальная: ні праваслаўныя, ні каталіцкія інстытуты не спрычыніліся да рэлігійна-культуровага сінтэзу, стварэння дзяржаўнай ідэалогіі, а нават да нацыянальнага саманазову беларусаў*.

*Патрыятычная свядомасць*. У творах Скарыны прачытваецца глыбокая інтэлектуальная эмацыйная сувязь чалавека з народам, радзімай. Само замацаванне ў беларускім пісьменстве панятка "айчына" ("отчина") як філасофска-этычнай катэгорыі найперш абавязана Скарынавым працам. Крыніцамі пач. XVI ст. слова "отчина" фіксуецца ў лакальна вузкім, дакладней, уласніцка-ўладальным значэнні ("имение отчизное", "добро отчизное и дедизное" (спадчыннае) і г.д. Пад пяром Скарыны гэтае паняцце набывае шырэйшае, агульна грамадскае гучанне: "*в добрых делех* и *в любви отчины*", "*для высвобожения отчины*". З гэтым жа выразам суадносяцца ў першадрукара і іншыя элементы патрыятычнае свядомасці – народ ("люд посполитый"), грамадскае заангажаванне ("добро посполитое"), нацыянальныя традыцыі ("подлуг обычаев земли часу и места") і, вядома, – родная мова ("прироженый язык"). У суплёце згаданых каштоўнасцей нараджаецца й гартуецца высокае грамадзянскае пачуццё, увечненае на незгасальным выслоўі беларускага патрыятызму: "*...тако ж и люди игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имаютъ*".

Не адно толькі з апрыёрных абстракцый фармавалася патрыятычная пераканансць нашага асветніка. Жывыя, часта драматычныя падзеі роднай Літвы-Беларусі наталялі яго пачуцці, светапогляд. Прыкладам, толькі на памяці Францішка-Палачаніна суродзічы на пачатку XVI ст. вытрымалі дзве жорсткія абаронча бітвы: пад Клецкам (1506), супраць нашэсця крымскіх татар, і – найбуйнейшую – пад Оршай (1514), дзе літоўска-рускія харугвы Канстанціна Астрожскага нанеслі скрышальную паразу захопніцкаму наступу маскоўскага воінства. Цалкам верагодна, што і тыя гераічныя падзеі таксама наталялі пачуцці і думкі пісьменніка – аўтара высокага запавета супляменнікам, каб тыя «*всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали*».

У гэтым жа кантэксце варта адцеміць "рускую" самаатэстацыю Скарыны. Відавочна, выразы "русь", "рускі" ў яго трактоўцы маглі адлюстроўваць этнічнае

* Гэтую ж праблему нацыянальна-рэлігійнага самасцверджання Беларусі не менш востра, з "истинно русской" шчырасцю ў тым самым часе акрэсліў расійска-беларускі філасоф-публіцыст Уладзімір Самойла: "*Оба конкурента, как западный, так и восточный, рассматривали дело белорусской церкви, дело народной религии с величайшим и одинаковым презрением к душе, духовной жизни народа, глядя на все это только с точки зрения "общегосударственных интересов" своей "окраинной" или "кресовой" политики*" (О "старой" и "новой" унии //Ксеракопія вёрсткі артыкула. – БДАМЛМ. Ф. 34О, не апрац. Гэты ж, скарочаны, тэкст гл.: "Скарыніч". – Вып. 3).

сваяцтва трох усходнеславянскіх народаў – беларусаў, рускіх (маскавітаў), украінцаў. Але ў канкрэтна этнічным разуменні “рускасць” Скарыны вынікае і падначалена яго непасрэднай радзіме – Русі Літоўскай (адзін з тагачасных этніконаў Беларусі), геаграфічныя і палітычныя пазнакі якой дакладна адбіліся на старонках яго выданняў: *«из славного града Полоцка», «во славном месте Виленском», «при держании наласкавшаго господаря Жыкгымонта Казимировича, короля полского и великого князя литовского и руского, и жомоитьского»*. Адпаведная этнічная прыналежнасць нашага палачаніна пазначана ў актах Падуанскага ўніверсітэта падчас яго экзаменавання на тытул доктара медыцыны (1512): “Францыск, сын нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін (*Ruthenus*)”. Засведчана таксама і яго дзяржаўная “ліцвінская” (*Lithuanus*) тоеснасць.

Не лішнім, лічым, будзе ўдакладненне (хаця б дзеля адэптаў “русской” прыналежнасці , “русскоязычного” характара кніг Скарыны). У тыя і больш познія часы ўласна “русский” (расійскі) народ у беларускіх пісьмовых крыніцах (беларуска-літоўскія летапісы, творы С. Буднага, М. Стрыйкоўскага, Ф. Еўлашоўскага ды інш.) выступае пад назвай “масква”, “московиты” “москвичи”, адпаведна назве дзяржавы – Княства маскоўскага. Цікава, што і рускі першадрукар, беларус з паходжання, Іван Фёдараў (Федаровіч) у бытнасць яго ў Львове названы *Иван Москвитин*. Урэшце і беларусы з таго ж перамяшання дзяржаўнасці й нацыянальнасці ўяўляліся рускім пісарчукам не толькі “белорусцами” , але і “литвинами”, “поляками”, здаралася, й “латыняноми”. Найчасцей і тагачасныя беларускія друкі ўспрымаліся ў Масковіі кнігамі “литовской печати”. Што да Францішка Скарыны, ён, падкрэслівае вядомы расійскі славіст-этнолаг, – “по языку, этнической ориентации и месту рождения является, что особенно важно, белорусом”[15].

*Міжнародны дыялог.* Скарына – адзін з нашых першых знакамітых, пасля Еўфрасінні Полацкай, падарожнікаў-арганаўтаў, які, у шырокі свет падаўшыся, застаўся сабою. Пакінуўшы па сабе ў еўрапейскіх аналах азнакі вучонага мужа – хрысціяніна – палачаніна – русіна-ліцвіна. Прапісанага ў актах, кнігасховішчах Кракава, Падуі, Прагі, Уроцлава, Познані, Караляўца (Кёнігсберга), Капенгагена, Масквы. Дзе б ні прыпыняўся нястомны пілігрым з беларускага Полацка – сведчыў нескажоную праўду пра сваю радзіму, пра свой люд паспаліты і пэўна – пра найвышэйшую, намі згаданую на пачатку, мудрасць чалавека на зямлі – “*разважанне аб смерці й пазнанне самога сябе і памятанне прышлых рэчаў”*. Прышлыя рэчы, інакш – Другое прышэсце Збавіцеля і Суднага дня. Такая вось хрысціянска-філасофская выснова дабрачыннага жыцця, згодна з антычным “Memento” (напр., лісты Сенэкі да Луцылія), з евангельскім запаветам: скрозь памятаць пра зямны сыход свой, не блазнаваць, не марнатраўнічаць, не грашыць, – каб той дзень не заспеў нас знянацку (1 Фесал. 5:4). Пра тое ж – паэтычнае літанне сучаснага Паэта:

Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём
штогодна, штодзённа, штохвілінна,
Твой кожны дзень забраны забыццём,
Лічы сваім найбольшым адкрыццём...

**Рыгор Барадулін**

Гаворка, зразумела, не пра заўчасную капітуляцыю перад трагічнай наканаванасцю чалавечага лёсу – непазбежным сыходам з зямное прасторы. Але – пра выпрабавальна прыстойнае адоленне драматызму жыццёвага шляху.

Кнігі Скарыны, паўсюдныя згадкі аб ім, а цяпер яго перавыдадзеныя тамы на радзіме – нам дасюль натхняльным прыпамінам. І – вострай засцярогай ад нематы, глухаты, духоўнае немачы: “...*абы людие святи были, отца и матерь чтили, свята святили, не крали, не лгали, не присегали, мзды не задерживали, не проклинали, глухому не злоречили, слепому на пути не перекажали, на лица в суду*

*не смотрели, справедливе чинили*"[16]. Чым не кодэкс маральны, скрозь надзённы, пяццю стагоддзямі раней выкладзены беларускім Асветнікам?..

Колькі слоў пра сутнасную дамінанту асветніцтва Скарыны, сейбіта хвалы Хрыстовай – над чым нам даводзілася запыняцца раней[17]. Як сам прадмет яго творчасці – Біблія, асабліва Евангелле, так і адпаведныя роздумы, каментары, тлумачэнні перакладчыка дазваляюць бачыць у ім пераканананага выразніка-пашыральніка богапрасветніцкай традыцыі, зыходнай ад сакральнага Святла: "Очи наши сердечные просвети, Иисусе, светом божественного Твоего сияния" (акафіст Ісусу Хрысту). Менавіта гэтае богапрасветнае служэнне падкрэслівае Скарына ў словах і чынах Апосталаў – "первосветителей", "сыновей света", праз каторых "Сын Божий... вселенную просветил" і прыклад каторых вызначыў жыццёва творчае пакліканне самога Францішка-Палачаніна: "...*яко повинен размножати хвалу Христову и посполитое доброе*".

Нядаўна брытанскі "The Economist" прысвяціў нашаму супляменніку адмысловы артыкул з аглядам жыццятворчага шляху "беларускага Марціна Лютэра". Скарына, у адрозненне ад нямецкага пратэстанта-рэфарматара, не зрушваў падваліны папскае царквы, аднак, гаворыцца ў артыкуле, паводле значнасці зробленага ў пашырэнні друкам свяшчэнных тэкстаў, беларускага слова, кірылічнага пісьма наогул ён павінен разглядацца "як адна з найвялікшых фігур еўрапейскай культуры"[18]. Што сімвалічна праілюстравана помнікам Францішку з высока ўзнятай Святою Кнігай перад Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.

Святло незгасальнае свеціць, і цемра не схавае яго.

Дасюль – пачатак XXI ст. – у Беларусі, ужо незалежна-суверэннай, па-ранейшаму моляцца "за державу нашу российскую"[19]. Малітваў за Беларусь, Богам сцеражоную, у тутэйшых цэрквах Маскоўскай патрыярхіі пакуль не чутно.

---

[1] Скарына Ф. Творы. Мн. 1990. – С. 20. Далей па тэксце – спасылкі на гэтае выданне, а таксама на факсіміле яго "Бивлии" ў 3-х т. – Мн., 1990.

[2] Доўнар-Запольскі М. Асновы дзяржаўнасці Беларусі. Гродна, 1918; рэпрынт, Мн., 1993.

[3] Мурьянов М.Ф. Несколько уточнений к словарю языка Скорины // Советское славяноведение. 1989. № 4. – С. 87.

[4] Слоўнік мовы Скарыны. – Т. 2. – Мн., 1984. – С. 191.

[5] Фрагменты ў перакладзе В. Чайчыца // Скарыніч. Вып. 6. – С.154-156.

[6] Гл.: Уляхин М. Полная биография Скорины. Полоцк, 1994. – С. 10.

[7] Бердяев Н. Аб'яднанне хрысціян Усходу і Захаду. Пераклад з нямецкай П. Татарыновіча // Да злучэньня. Беларуская рэлігійная часопісь. Альбертын, 1932. № 7-8.

[8] гл.: Каўка А. Тут мой народ. Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI – пач. XX стст. Мн., "Мастацкая літаратура", 1989. – С. 151. – Зацемка.

[9] Naumow A. Wiara i historia. Krakow, 1996. – S. 94.

[10] Мечковская И.Б. Кирилло-Мефодьевская традиция в библейской герменевтике Франциска Скорины // Славянскае адзінства і многастайнасць. Мн., 1990. – С. 70.

[11] Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі. Выд-ва "Божым шляхам". Лёндан, 1992. – С. 45.

[12] Саверчанка І. «...К доброму научению» Францыск Скарына – геній беларускага Рэнесансу // Дзеяслоў. – №4(23). – 2006. – С. 285.

[13] Лебедзеў Г. Пошук не спыняецца // Скарыніч. – Вып. 2. – С. 37.

[14] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. – С. 250-251.

[15] Мыльников А. Земля–государство–этносфера: Франциск Скорина в контексте этнографических представлений раннего нового времени // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996. – С. 68.

[16] Тлумачэнне да главы 19 кнігі "Левит" // Бивлия руска... – Т. 1. – С. 415.

[17] Кавко А.К. От Скорины до Купалы. Белорусская литература в контексте национально-культурного возрождения. М., ИМЛИ РАН, 2006. – С. 30-37

[18] http://economist.com./bloks/prospero/2017/01/slavic-scholar. – Дата доступу: 31.03.2017.

[19] Брундукоў А. Каб не падмяняць прваслаўе "россиепоклонничеством" // Наша Ніва, 22 лютага 2017.

Алесь Наўроцкі



...з'явіўся новы, небывалы паэт, які піша вершы, якія нельга назваць вершамі, але ж і прозай іх не назавеш! Нешта небывалае! Касмічнае!..

# Слова пра слова

## Творчая эмбрыялогія Алеся Наўроцкага

*Падрыхтоўка да друку і каментары Віктара ЖЫБУЛЯ.*

Сёлета споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння паэта і празаіка Алеся Наўроцкага, чый том "Выбраных твораў" убачыў свет летась у кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор". Вядома ж, гэтае выданне, нягледзячы на немалы аб'ём (640 стар.), не магло ахапіць усёй творчасці пісьменніка, у якой, акрамя вершаў і прозы, былі і п'есы, і дзённікава-мемуарныя запісы, і літаратурная эсэістыка. Апошнюю аўтар аб'яднаў у цыкл "Слова пра слова", а значнае месца ў ёй займаюць тэксты пад назвамі "Мае вершы" і "Мая проза". Калі паспрабаваць даць ім жанравае вызначэнне, то па аналогіі з крытычнымі нарысамі іх можна было б назваць самакрытычнымі. Яны, па сутнасці, аўтабіяграфічныя, а найбольшую ўвагу пісьменнік надае разгляду сваёй творчасці. Гэта спробы аўтара азірнуцца на пройдзены шлях, прааналізаваць уласныя мастацкія пошукі, прасачыць сваю творчую, як ён сам выказаўся, эмбрыялогію і далейшую эвалюцыю. Гэта расповед пра тое, як малады чалавек ішоў у літаратуру, працуючы пры гэтым у медыцынскай галіне.

Паслядоўна, шчыра, не без іроніі, а часам і самалупцавання разглядае пісьменнік у нарысе “Мае вершы” розныя перыяды свайго шляху: першыя вершаваныя спробы школьных гадоў, натхнёныя жаданнем спадабацца былой аднакласніцы; першая крытыка, пачутая на літаб’яднанні пры бабруйскай абласной газеце; нясмелая закаханасць у суседку Гэлю ў час фельчарства на Гродзеншчыне; навучанне ў Мінскім медыцынскім інстытуце, калі была напісана большасць вершаў для першай кнігі “Неба ўсміхаецца маланкаю”; нарэшце, праца доктарам у вясковай бальніцы на Хойнічыне і на станцыі хуткай дапамогі ў Мінску...

На пачатку творчага шляху Алесь Наўроцкі актыўна і нястомна шукаў сябе, звяртаючыся то да традыцыі, то да авангардызму. З аднаго боку, тое, што ён потым назваў пародыямі на Якуба Коласа, стваралася ў свой час на поўным сур’ёзе і, мабыць, не без уплыву знакамітага класіка. З другога боку, малады А. Наўроцкі эксперыментаваў з формамі верлібра і версэта, надаючы ім гратэскава-іранічнае гучанне. Аднак раннія творы, насцярожана ўспрынятыя некаторымі крытыкамі, на пэўным этапе перасталі задавальняць і самога аўтара. Разважаючы над сутнасцю паэзіі, А. Наўроцкі вылучаў у ёй два асноўныя складнікі: “музыку” (умоўна кажучы, пачуццёвасць, лірызм, драматызм) і “цырк” (версіфікацыйнае майстэрства, выштукаванасць, гульнёвасць, эксперымент). Гэтаму ён нават прысвяціў асобнае эсэ, задуманае ў час навучання ў маскоўскім Літінстытуце і напісанае на матэрыяле расійскай паэзіі, аднак выказаныя ў ім меркаванні можна спакойна дастасаваць да паэзіі, напэўна, любога народа. Такім чынам, А. Наўроцкаму з цягам часу здалося, што ў яго вершах зашмат цырку, але замала музыкі. У выніку ўжо ў другой паэтавай кнізе “Гарачы снег” цырку сапраўды амаль не засталося. Зборнік атрымаўся больш камерны, складзены пераважна з інтымнай лірыкі.

Алесь Наўроцкі не хавае, што многія раннія вершы напісаў пад уплывам У. Маякоўскага, М. Лермантава, П. Неруды, Н. Хікмета. Эксперыментуючы са словам, спрабуючы сябе то ў адной творчай манеры, то ў іншай, ён урэшце прыходзіць да высновы, што ў яго вершах зашмат запазычанага і замала свайго ўласнага. Пачаліся роздумы над праблемай творчай індывідуальнасці, упартыя пошукі сябе, адчайныя спробы вырашыць пытанне “Як мне быць арыгінальным? Не падобным ні на каго?”, на якое пісьменнік урэшце знаходзіць адказ: “А што калі б асмеліцца і пачаць пісаць пра сябе? А што калі б расказаць пра сябе ўсё тое, што **нясу я ў сабе** на працягу ўсяго жыцця?”

У нарысе “Мая проза” А. Наўроцкі спыняецца толькі на адным сваім ранім творы – аповесці “Мёртвы хватае жывога” (1955), падрабязна згадваючы спрэчку з яшчэ дастаткова маладым, але ўжо вядомым празаікам Іванам Шамякіным. У гэтай гутарцы ўсплываюць некаторыя эпізоды аповесці, якія задумваліся А. Наўроцкім як гераічныя, але ў выніку атрымаліся забаўнымі – напрыклад, пра Алесю, якая “хапае гітлераўца і падымае яго ўгору і бразгае яго, як камень, аб камень”. Праз гады аўтар мог ужо адкрыта прызнацца, які ўрывак “пахне” Кузьмой Чорным, які Якубам Коласам, а які – Міхасём Лыньковым. І, адпаведна, задумацца над тым, у якім кірунку яму ўдасканальваць сваю прозу, каб яна “пахла” Алесем Наўроцкім.

Наколькі слушным шляхам пайшоў пісьменнік – меркаваць па яго пазнейшых творах. Можна сказаць, што А. Наўроцкі знайшоў сваю нішу ў літаратуры. Хто яшчэ мог бы так падрабязна апісваць жыццё і побыт медыкаў, дзе нават рамантычныя адносіны адбываюцца на фоне шафаў з лекамі і анатамічак з трупамі? А героі – асабліва галоўны, аўтабіяграфічны – паказаныя без прыўкрасаў, з псіхааналітычнай паглыбленасцю, якая дазваляе разгледзець унутраны свет чалавека, улучна з усімі яго сексуальнымі комплексамі, акцэнтуацыямі і маніямі. Але быў у гэтым і адваротны бок. Імкненне пісаць амаль выключна “пра сябе” прывяло А. Наўроцкага да іншай крайнасці, якую можна заўважыць,

перачытаўшы рукапісы яго вершаў апошніх гадоў жыцця: у многіх з іх паўтараюцца адныя і тыя матывы, вобразы, пачуцці, хоць самі па сабе вершы напісаныя на добрым мастацкім узроўні. "Закансерваваўся" і тэматычны дыяпазон прозы А. Наўроцкага: многія з аповесцяў і раманаў, захаваных у асабістым архіве пісьменніка, з'яўляюцца фрагментамі або варыяцыямі адной вялікай эпапеі, дзеянне якой "круціцца" вакол галоўнага, падкрэслена аўтабіяграфічнага героя. І хоць Алесь Наўроцкі быў перакананы, што цяпер ён самастойны ў творчым плане, ягоныя "чыста асабістыя" вершы ўражваюць усё ж меней, чым тыя ранейшыя, напоўненыя запалам, гарэзлівасцю і непасрэднасцю. Пра яго творчы лёс можна сустрэць такія, напрыклад, вобразныя выказванні: "Ён так і застаўся чужаніцай, самотным зернем, надта, надта датклівым і далікатным, якое прарасло і дало цвет. А далей... Далей праскрыгатала касілка... Засохлая сцяблінка нібыта красуе, нібыта пахне, мы гэта бачым і адчуваем... Але колер і водар – ад той скошанай краскі, якая не ўродзіць..."[1] (Алеся Сёмуха), "...больш познія творы (зборнік "Пакаленні і папялішчы", вершы 2000-х) за некалькімі выключэннямі ствараліся ўжо без жыццядайнага агню, які іскрыў напачатку"[2] (Міхась Бараноўскі).

Нельга не звярнуць увагу і на відавочную недаацэнку А. Наўроцкім верлібра як паэтычнай формы, што выявілася, напрыклад, у яго ўспамінах пра Максіма Танка, далучаных да нарыса "Мае вершы" ў выглядзе своеасаблівага дадатку. Хоць менавіта ў верлібрах М. Танк найбольш яскрава выявіў сябе як паэт-філосаф. Сапраўды, сёння, калі гэтая паэтычныя форма набыла вялікае пашырэнне і максімальна раскрыла свае выяўленчыя магчымасці, цяжка пагадзіцца з А. Наўроцкім, што паэт-верлібрыст "...можа пра ўсё пісаць, але толькі не пра тое, што ляжыць у яго на душы... Толькі не пра сваё пережытае..."

Нарысы з цыклу "Слова пра слова" тым і карысныя, што адкрываюць нам творчы светапогляд пісьменніка і даюць адказы на некаторыя пытанні, якія даўно цікавілі прыхільнікаў яго творчасці – у тым ліку часткова тлумачаць, чаму, напрыклад, А. Наўроцкі пасля 1960-х гг. змяніў сваю творчую манеру, перарабіў нанова многія ранейшыя вершы, а шмат ад якіх і ўвогуле "адмовіўся". "Самакрытычныя" нарысы пісаліся акурат у той перыяд, калі першыя зборнікі "Неба ўсміхаецца маланкаю" і "Гарачы снег" ужо выйшлі, а наступная, "перабудовачная" кніга "Пакаленні і папялішчы" – яшчэ не. З'явіліся нарысы тады, калі пасля выдання празаічнай кнігі "Валун" (1976) у творчай біяграфіі А. Наўроцкага пачаўся шматгадовы перыяд пісання "ў шуфляду", і пісьменнік амаль не выступаў у друку. І мы пераконваемся, што ў Алеся Наўроцкага былі глыбока асабістыя прычыны змяніць мастацкую манеру, прыглушыць фарбы, сцішыцца, адасобіцца, сысці ў творчае пустэльніцтва...

Мы можам не толькі ўбачыць, як змяняўся светапогляд пісьменніка цягам 1949 – сярэдзіны 1960-х гг., але, што цікава, пачытаць яго вершы, пераважна непублікаваныя, якія А. Наўроцкі багата цытуе цягам свайго нарыса, даючы магчымасць чытачам пазнаёміцца з невядомымі старонкамі сваёй творчасці. Многія вершы сапраўды нясуць на сабе адзнаку вучнёўства і з мастацкага боку нічым не запамінаюцца. Але ёсць сярод іх і такія ("Статут гультая", "Паседжанне праўлення калгаса", "Я", "Адчуваць пачынаю", "Муж, які кінуў сваю жонку", "Лазня", "Дума", "Маленства далёкага радасць!.." і інш.), што кранаюць, нягледзячы на тое, што аўтар палічыў іх таксама пасрэднымі і "забракаваў".

---

[1] Сёмуха А. "Адзінока пляцецца мая лыжня...": Творчы лёс Алеся Наўроцкага // Роднае слова. 1995. № 3. С. 6.

[2] Бараноўскі М. Невядомыя старонкі. "Палячыце нас, доктар!" // МедВестник [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.medvestnik.by/ru/society/view/nevjadomyja-staronki-paljachytse-nas-doktar-15807-2016/. – Дата доступу: 12.02.2017.

Праўда, Алесь Наўроцкі ў сваім нарысе не напісаў, што ягонае творчае сталенне было не заўсёды натуральным, абумоўленым мастацкай эвалюцыяй, што часам ён сапраўды сам прыходзіў да пэўных ацэнак сваёй творчасці, а часам яму “дапамагалі” пільныя цэнзары і ідэолагі ад літаратуры, а зменам яго поглядаў на паэзію спадарожнічаў немалы маральны ціск. Нагадаем, што напачатку аўтар мысліў сваю другую кнігу зусім іншай. Ён меркаваў назваць яе “Усё нараджаецца з болем” і зрабіць даволі смелай і бескампраміснай, дзе савецкая сучаснасць паўставала ў выглядзе нейкай пачварыны з вашывай галавой, якая пагрозліва патрабуе, каб яе гладзілі. Але заангажаваныя крытыкі і літаратурныя чыноўнікі неаднойчы спрабавалі навязаць А. Наўроцкаму “правільны эстэтычны густ”, абвінавачвалі калі ў “арыгінальнічанні”, а калі і ў “яўна фальшывых пазіцыях” і “няправільнай ідэйнай скіраванасці”, а ўспрымальная натура паэта прымала ўсё гэта блізка да сэрца. Гэта спараджала ў ім усё большую незадаволенасць і няўпэўненасць у сабе і сваёй паэтычнай манеры – і цэнзуру, нават яшчэ большую за ідэалагічную 1960-х, ён усчыняў над сабою сам.

Пісьменніку даводзілася перыядычна сутыкацца з неразуменнем, абвінавачаннямі, пераследам з боку органаў бяспекі, а потым і ўвогуле – з савецкай “карнай псіхіятрыяй”. Хоць да таго моманту (тэкст датуецца 20 верасня 1979 г.) А. Наўроцкі пакінуў ужо і маскоўскі Літінстытут, дзе, паводле яго словаў, сутыкнуўся з псіхіятрычным шантажом, і выйшаў з Саюза пісьменнікаў, і застаўся без працы, і ўжо будаваў планы з’ехаць за мяжу, – згадваць пра ўсё гэта ў нарысах ён не наважыўся. Дый яго задачай было расказаць менавіта пра эстэтычны бок справы, пра пройдзеную літаратурную школу, пра асэнсаванне сябе ў літаратуры, мінаючы палітычныя і ідэалагічныя аспекты (за тымі выняткамі, калі яны закраналіся непасрэдна ў творах – юнацкіх вершах пра Краіну Саветаў і яе правадыроў). Хоць у эсэ “Музыка і цырк” усё ж не стрымаўся – і працытаваў выказванне Леніна пра дыктатарскую ўладу, лаканічна зазначыўшы, што “стэнаграфістка навекі вечныя прымацавала яго слова да паперы”. Гэтую самую цытату сустракаем і ў датаваным тым самым 1979 годам артыкуле “Отпор канцелярским крысам”, толькі з куды больш рэзкім каментаром: “Вот это и есть этот самый зловещий стержень. [...] Ну, а как быть с тем, кто не хочет единомыслить? Того, по-вашему, надо заставить хлебать больничную или тюремную баланду?” Менавіта гэты артыкул пісьменнік разаслаў па розных установах, пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах.

Алесю Наўроцкаму, медыку па адукацыі, збольшага адарванаму ад літаратурнай грамады, не заўсёды бывала лёгка зарыентавацца ў тым, як “трэба” пісаць і што варта зрабіць, каб палепшыць мастацкую якасць сваіх твораў. Ён то занадта паслухмяна і падатліва ставіўся да крытыкі, то наадварот упарта і настойліва стаяў на сваім, не дазваляючы ўносіць праўкі ў свае рукапісы. У чымсьці ён сябе недаацэньваў, а ў чымсьці пераацэньваў. Але, у любым выпадку, не кожны літаратар здольны вось так акінуць крытычным вокам уласныя творчыя набыткі. А Алесь Наўроцкі зрабіў гэта.

Міжволі задумваешся: а чаго дасягнуў бы Алесь Наўроцкі, калі б застаўся верным сваёй ранняй стылістыцы ў найлепшых яе праявах і надалей працягваў пісаць у духу “Элегій” або “Мужа, які кінуў сваю жонку”? Што б тады атрымалася? Можа, “гуру сучасных постмадэрністаў”? (На такое азначэнне А. Наўроцкага, паводле лекцыі нейкага выкладчыка, давялося аднойчы натрапіць у інтэрнэце.) Але – маем таго Наўроцкага, які застаўся, які ўжо адбыўся ў літаратуры: пранізліва-настальгічнага паэта (калі казаць пра познюю творчасць) і паглыбленага ў чалавечую псіхалогію празаіка. Гэта непаўторны Алесь Наўроцкі, якога і належыць нам цаніць – прынамсі, за тое, што ён паспеў стварыць.

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

# Алесь НАЎРОЦКІ

## СЛОВА ПРА СЛОВА

### МАЕ ВЕРШЫ

Зараз, калі мне пераваліла за сорак гадоў, калі я ўжо адмучыў некалькі раманаў[1], я падахвоціўся пісаць пародыі. Падбіў мяне на гэтую нялёгкую справу адзін наш даволі цікавы парадыст. Я заўсёды з цікавасцю гартаю яго кніжэнцыі, і калі ён выдасць іх таўставатым томам, то пастаўлю яго на сваю кніжную паліцу. Паспрабаваць парадыраваць? Але з каго б пачаць? Э-э, пачну-тка я з класікаў... Ну, хаця б з Якуба Коласа[2]. А што ў гэтага класіка самае-самае такое, за што б яго можна было дзеўбануць... Ну, канечне, гэта паэма "Суд у лесе"[3]. І вось я сеў за стол і напісаў на гэтую паэму ды і на другую яго партызанскую паэму[4] наступную пародыю.

**ДАЧКА НАРОДА**

*(партызанская паэма)*

Ноч развешвае чорныя шаты,
пад нагамі снег белы хрусціць.
Неба ўсё ў брыльянтах-дукатах,
лес стаіўся-прыціх, нібы спіць.

Але вам гэта толькі здаецца,
гэта вашага слуху абман...
І калі ж добра вам прыглядзецца,
вы ўбачыце тут партызан...
. . . . . . .

З доту вылезці фрыц не ахвочы,
апрануты ў лахманы, дрыжыць...
Цемнату разразаючы ночы,
кулямётная траса ляціць.
. . . . . . .

"За Радзіму! За Сталіна!" – словы
партызанаў вядуць за сабой.
Кліч нясецца навокал суровы,
падымае на смертны ён бой.
. . . . . . .

*1*

Была яна разведчыцай
у атрадзе "За Радзіму".
Яе сяляне ведалі,
яе, Шаршнёву Рыму[5]...
. . . . . . .

Завея кружыць, кружыць,
усіх збівае з ног.
Усё занесла снегам
і не відно дарог.

Але Шаршнёва знае,
кудой і як прайсці,
як вызначыць напрамак,
як вёску абысці.
. . . . . . .

Пастукае ў шыбу
прадрогшаю рукою,

гасцінна адчыняюцца
ёй дзверы, як сваёй.

. . . . .
. . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

Прынесла я лістоўкі
і Сталіна прамову.
Сядзяць удвух, чытаюць
ягонай праўды словы.

. . . . . . .

*2*

Зямлянка даволі бальшая,
на століку карта ляжыць.
Яе камандзір праглядае,
задачку якуюсь рашае,
на стуле драўляным сядзіць.

. . . . . . .

Зайшоў камісар. – Ну, як планы?
Так... так... Мысліш ты наляцець?
Мо будзе ў чым тут загана?
Падарак, эх, зробім паганым,
каб толькі ўсё прадглядзець!

. . . . . . .

– Разведку я слаў. Там сказалі,
тры дзоты відны ўсяго.
– Было б значна лепш, каб паслалі
другую... Мы б болей узналі...
– Ідзе хай Максім і Сярго...

. . . . . . .

* * *

Плячо да пляча партызаны
натоўпам вялікім стаяць,
на сходку яны тут сабраны,
як вулей пчаліны шумяць.

З іх кожны вінтоўку трымае,
рэвальвер або аўтамат
і кожны за поясам мае
па пяць ці па восем гранат.

Вялікія ленты патронаў
па грудзях шырокіх прайшлі.
Стаяць грамадою, гамоняць.
Стаптаны ўвесь снег на зямлі.

Заціхла ўсё раптам. Выходзіць
камбрыг перад строем сваім.
– Гатовы вы к бою? – гаворыць –
Фашыстам як, перцу дадзім?

– Дадзім! – гэта палкае слова
на вуснах у кожнага з іх...

. . . . . . .

*3*

Узвілася ў неба ракета
і павісла на міг над зямлёй.
Сігнал для атакі быў гэта,
сігнал паднімацца ў бой.

. . . . . . .

Узрывы зямлю скалатнулі,
і дзоты замоўклі ізноў.
– Наперад! – ўсе голас пачулі.
Ланцуг у атаку пайшоў.

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . .

– За Сталіна! – Рыма Шаршнёва
упала ўсім целам на дзот.
Стрымала яна сваё слова,
закрыла грудзьмі кулямёт.

*Эпілог*

. . . . . . .

Высока гайдаюцца хвоі
па-над магілай героя.
Мінуліся тыя часіны,
аб іх нам гавораць быліны.
. . . . .

Сюды часта ходзяць жанкі,
прыносяць жывыя вянкі.
. . . . . . . . . . . . . .

Каб пераканацца, што пародыя, якую я напісаў, атрымалася не такой ужо і паганай, я яшчэ раз перагартаў нашага класіка. Нельга не ўсміхнуцца, калі сустракаеш:

Нелюдзі, нелюдзі – зверы,
якіх свет не бачыў.
Звярыныя ў вас манеры,
голас – брэх сабачы[6].

Прыгледзеўшыся да свае пародыі, я раптам падумаў, што яна цаляе не толькі ў дуба Якуба, але і... Але не будзем называць па імені тых, у каго яна яшчэ цаляе.

Жаданне пісаць пародыі так мяне захапіла, што я напісаў яшчэ іх некалькі штук. Вось яны:

**ЧАГО ВАМ ЗАХАЦЕЛАСЯ, МАГНАТЫ?**

Плывуць па хвалях бурных акіяна
з Амерыкі праклятай караблі.
Нясуць наказ яны, што Вашынгтонам даны,
знішчаць народ карэйскае зямлі.

. . . . . . . . . . . . . .

Гараць, палаюць карэянак хаты
і дзе ні паглядзі: агні... агні...
Над полем рысавым дым сцелецца калматы,
ляцяць і свішчуць бомбы з вышыні.

Чаго вам захацелася, магнаты?
І што вам трэба ў зямлі чужой?
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

**СЛОВА МІРУ**

Банкіры зноў вайною пагражаюць,
гатовяць свету зноў яны ўдар.
– Вайне не быць! – наш лозунг пралятае,
змяцём з зямлі падпальшчыкаў-пачвар.

– Вайне не быць! – французскі докер зброю
скідае на марское дно.
Не прапусціць каб да В’етнама поезд,
лажыцца Дз’ен грудзьмі на палатно.

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

Квітнее і крэпне Краіна Саветаў,
свабодна жыве наш народ.
Да камунізма, да светлае мэты
ідзе несупынна ўпярод.

. . . . . . . . . . . . . .

Ну, я думаю, кожны пагодзіцца з тым, што апошняя пародыя – гэта пародыя на шмат пасляваенных тамоў.

Зараз, калі вы азнаёміліся з маімі пародыямі, я хачу паведаміць вам, што ніякія гэта не пародыі, а што ўсё гэта я накрэмзаў, калі мне было пятнаццаць-шаснаццаць гадоў. Ёсць такая навука – эмбрыялогія. Навука аб развіцці зародыша. Калі зазірнуць у эмбрыялогію, то можна адтуль вычытаць, што ў першы месяц жыцця зародыш чалавека вырастае да памераў пазногця мезенца і ў гэтага зародыша ўжо ёсць зачаткі рук і ног, дзве пары жабраў і хвост... Калі хочаце, можна сказаць і так: у першы месяц ужо з’яўляецца “пародыя” чалавека. Ужо на другі і на трэці, а тым болей на восьмым і дзявятым месяцы “пародыя” гэтая ўсё меней і меней становіцца “пародыяй”. Пытанне, што такое талент і што такое талент геніяльны (не блытаць з геніем) я для сябе вырашаю яшчэ і так: талент – гэта зародыш, якому так і не суджана нарадзіцца. Чым мацнейшы талент, тым ён бліжэй да моманту, калі акушэрка перавязвае пупавіну... Той жа момант, калі пупавіна перавязана, гэта таксама яшчэ талент, але ўжо ёсць нейкая надзея на нешта большае... Спраўджваецца ж гэтая надзея прыкладна адзін на тысячу. Тысяча чалавек, і толькі адзін з іх прымушае цябе сваім раманам забыцца, што на газавай пліце кіпяціцца чай... Усё, што б ні напісаў талент, – гэта як бы своеасаблівая пародыя, і чым меншы талент, тым бліжэй ён да “жабраў і хваста”... З упэўненасцю магу назваць геніяльным талентам Максіма Багдановіча[7]...

Хачу азірнуцца на пройдзены шлях...

Прыкладна канец снежня 1949 года. Белай ватаю выбелены платы, гароды, стрэхі хат. Усе заварушыліся з санкамі. Ноччу сляды ад палазоў дапаўзаюць да калгасных стагоў, а самі стагі пасля аднае-дзвюх начэй становяцца падобнымі на грыб. Сляды ад палазоў днём пракладваюцца ад хмызняка да дрывотні, дзе звонка перастукваюцца сякеры. Сляды палазоў бягуць да суседняга сяла, да ганку сельмага. Відаць, і нам у хуткім часе прыйдзецца паставіць пусты буталь на саначкі і дабірацца да гэтага ганку, каб вярнуцца адтуль з поўным бутлем, бо газы для лямпы хопіць усяго на якія пяць вечароў. Без яе нам жа ніяк немагчыма: бацькі ж мае – настаўнікі. На чыстым снезе побач са слядамі палазоў выціснуты сляды бахіл, валёнак і лапцей. Эх, як лёгка лепяцца з бухматых прыгаршчаў мокрага снегу тоўстыя – з глыбокімі канаўкамі ад пальцаў – снежкі, як высока ўзлятаюць яны і, падаючы на белую страху, не скочваюцца з яе.

Я толькі што рашыў алгебраічнае ўраўненне з двума невядомымі і хачу таксама аставіць свой знак на снезе, а таму дастаю з цёмнага кутка сянец доўгія, з амаль разагнутымі насамі, самаробныя лыжы. Некалі мой старэйшы брат, што зараз прысылае пісьмы не абы адкуль, а ажно з Бабруйска, з фельчарскай школы, некалі мой брат выгаблёўваў-вычэсваў гэтыя лыжы з доўгіх дубовых плашак, а потым распарваў іх, перш чым загнуць, у гарачай вадзе. Эх, як лёгка адпіхвацца гэтымі доўгімі палкамі, на якіх бляшаныя вострыя наканечнікі. Жалезным вастрыём на белай роўнядзі я, спыніўшыся, выводжу ініцыялы[8]. Ніхто ніколі не здагадаецца, што гэта ініцыялы той, хто побач са мною сядзела за партай, ці, дакладней сказаць, сядзела за сталом на козлах, за якім я ўпотай ад настаўніцы чытаў на ўроку арыфметыкі "Ціхі Дон"[9]. Ці ўбачу я калі-небудзь яе? Бо гэтым летам мы пераехалі жыць у другое сяло[10]. Нейкае чужое яно для мяне. Мабыць, я ніколі не прывыкну да гэтага сяла, хоць тут і няма такіх бандзюкоў, як там, дзе раней мы жылі, хоць тут я і не прыходжу заплаканы і ў парванай рубашцы дадому, хоць тут мяне ніхто і не думае цкаваць сабакам. У тым ранейшым сяле, дзе мы жылі, засталася **яна**. От бы добра было падаць ёй вестку. Але як? Напісаць ёй пісьмо? Не, гэта немагчыма. Засмяюць. Што ж рабіць? Што ж зрабіць такое, каб яна ўспомніла пра мяне? Але, здаецца, здаецца, выйсце ёсць. Трэба сёння ж паспрабаваць! Зараз жа! І я яшчэ раз успомніў, як некалі, калі я вучыўся яшчэ ў другім класе, бацька як бы папракнуў мяне, як бы падзадорыў: "Эх ты, а Пушкін[11] у твае годы..." А што калі б паспрабаваць? Праўда, я спазніўся, бо Пушкін за мяне пачаў раней, але ўсё ж... А што калі мне пашанцуе і я напішу? Яна ж разгорне тады нумар "Піянера Беларусі"[12] і аж спалохаецца ад радасці і здзіўлення.

І я паварочваю на лыжах дадому, рашуча адштурхоўваюся лыжнымі палкамі... Вось я заходжу ў хату, саджуся за стол, уціскаю пяро-жабку ў аловак...

...Няўжо? Няўжо гэта я напісаў гэты верш? А які складны! Ды ён жа нічуць не горай тых, што задаюць нам вучыць!

Вось ён, першы мой верш. Шмат вершаў пасля яго я напісаў, амаль усе яны забыліся, але гэты, самы першы, не забуду, мабыць, да самага скону.

**НА ЛЫЖАХ**

Пасля школы, кончыўшы ўрокі,
на лыжах выязджаем мы з дзвярэй.
Вясёла робім першыя мы крокі,
ляцім навыперадкі адзін аднаго быстрэй.

І выезд робім мы за вёску,
дзе далячынь, прастору шмат,
дзе ззяе поле ўсё ў бляску...
Цудоўнымі мясцінамі наш край багат.

Раскінулісь разлогі перад намі,
здалёк віднее нам сасновы бор.
Блішчаць вакол аснежаныя далі,
халоднае паветра поўніць хор.

Ах, як горка мне было, што на гэтую тэму ў газеце змясцілі верш Нядзведскага[13], а мой адпрэчылі. Горка, але і радасна: канверт жа са штэмпелем рэдакцыі цяпер жа навечна будзе захоўвацца ў мяне. На ім жа маё прозвішча. Не кожнаму выпадае такое шчасце.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У мяне ўжо цэлы сшытак вершаў, а я ўсё ніяк не магу падаць ёй вестку, што я паэт. Сам-насам я прыгожым почыркам перапісваю гэты сшытак у яшчэ больш тоўсты. У мяне ўжо цэлая пачка адказаў з “Піянера Беларусі”, “Бярозкі”[14], “Чырвонай змены”[15], “Звязды”[16]... Ну чым, чым мае вершы горш за тых, што друкуюцца?

**ВЫЗВАЛЕНАМУ БРАТУ**

Хто з вас забудзе тую дату,
калі самкнулі мы штыкі,
прынесці каб свабоду брату,
што у кайданах быў вякі.

Мы павуцінне агароджы,
што раздзяляла нас дваіх,
змялі. І ўбачыў тады кожны
святло праменняў маладых.
. . . . . . і г. д.

**СУСТРАКАЙ ТЫ НАС, РОДНАЯ ШКОЛА**

Сустракай ты нас, родная школа!
З падарожжа к табе мы прышлі.
Сустракай нас здаровых, вясёлых
падарожнікаў роднай зямлі.

Стоіць нам успамінам аддацца –
мы ўспомнім лясы Белавежы...
. . . . . . і г. д.

Чамусьці не бянтэжыла, што з падарожжа я не прыходзіў і Белавежу бачыў толькі на малюнку.

Квітнее і крэпне Краіна Саветаў,
свабодна жыве наш народ.
Да камунізма, да светлае мэты
ідзе несупынна ўпярод.
. . . . . . і г. д.

**НА РЭЧЦЫ**

На небе – ані хмары,
стаіць гарачыня.
І сонца ўладарыць
такой часінай дня.

Замерлі дрэў макушкі,
не калыхнецца ліст,
замоўклі нават птушкі,
замоўк іх шчэбет-свіст.

Бягуць рачныя хвалі
імкліва, чарадой,
бягуць кудысь у далі,
гамоняць з асакой.

Вясёлыя заўсёды
да берага ракі,
каб пакупацца ў водах,
прыходзяць хлапчукі.

Ляцяць навокал пырскі,
расходзяцца кругі.

Ырца то з кручы нізкай
адзін дае... другі...

А вось верш пра таго, хто звычайна хадзіў у хромавых чобатах, якімі не баяўся наступіць і на асобнага чалавека, і на цэлыя народы.

За мір стаяць мы клятву далі,
каб быў спакой на ўсёй зямлі.
Вядзе ўсіх нас наперад Сталін,
аб нас ён думае ў Крамлі.

Праз ліўні куль да самага Бярліна
мы міру сцяг пабедна пранясл.
Ўздыхнула вольна нашая краіна –
аплот свабоды, міра на зямлі.

У бітвах права наша адстаялі,
мятлой ваякаў Гітлера змялі.
Вядзе ўсіх нас наперад Сталін,
аб нас ён думае ў Крамлі.
. . . . . . і г. д.

Дома мае вершы можа напаткаць горкі лёс, асабліва ў тыя моманты, калі між бацькамі вядзецца гаворка, што я слабаваты ў алгебры, і таму я хаджу натхняцца да свайго сябра. Вось я сяджу ў яго хаце, у куце, дзе звычайна вісяць ручнікі... Расчыненае акно... Пахне гародам, дзе зелянеюць мак, гуркі, морква... Гаспадыня ўваходзіць з даёнкаю... Дзеці кідаюць забаву з катом і збягаюцца да белага ручая, што бяжыць праз цадзілку ў гладышку... “Акыш, чаго вы пасталі? Трэба вунь несці здаваць...” – гаворыць гаспадыня і стаіць у нерашучасці: а што, калі б у тое малако, якое яна панясе здаваць, падліць трохі вады, авось пранясе і сёння не будуць правяраць на тлустасць... Я нейкі момант пазіраю на ўсё гэта, а потым пішу:

Прасцерла ты воды, Цымлянскае мора,
злучыла навекі пяць бурных марэй.
Гуляць больш ніколі не будзе ў прасторах,
сушыць больш не будзе палі сухавей.

Ідуць цеплаходы, яшчэ дзе нядаўна
бярханы ўскіпалі, як хвалі тых рэк,
ідуць, дзе работалі гэтак мы слаўна,
дзе ўсё сваёй воляй стварыў чалавек.
. . . . . . і г. д.

А вось ужо прызадумаўся рэдактар раённай газеты: а што калі б надрукаваць? Хоць гэтай газеты каханая і не прачытае, але ж можна будзе паказаць ёй гэтую газету пры сустрэчы... Рэдактар вагаўся-вагаўся і так і не памясціў гэты верш, пад якім быў пастаўлены і подпіс майго сябра: двума плячамі лягчэй будзе прабіваць гэтую непрыступную сцяну.

**ЖНІВО**

Сонца свеціць ярка,
не відно ні хмаркі, –
гарачыня.

Сягонні на полі
людзей як ніколі.
Час ля паўдня.

Ветрык ласкавы,
шумлівы, рухавы
збожжа кранае
    чуць-чуць.

Жытнёвыя хвалі
ў бязмежныя далі
    плывуць і плывуць.

І ўдзень і ўночы
камбайны ракочуць,
    малоцяць і жнуць.

Машынкі-трохтонкі
і пяцітонкі
    збожжа вязуць.

Чакай, калі ж гэта было? Летам пяцідзясятага ці летам пяцьдзясят першага года? Трэба будзе калі-небудзь удакладніць гэты год з сябрам.

## Студзень, 1952 год

Над комінамі дахаў горада Бабруйска пазыбваюцца ў марозную сіняву ружовыя слупы. Шчокі і насы ва ўсіх колеру медзі. У шынялях і кухвайках людзі спяшаюць да таго прылаўка, дзе хлеба можаш урваць, але не заўсёды вырвешся на волю: людскія спіны ператруць буханку на кашу... Аднойчы ля такога натоўпу ў мяне, студэнта фельчарскай школы, свіснулі з галавы кепку... Скрыпіць пад нагамі снег, топае нейкі дзядзька, цягнучы мяшок на спіне, які брыкаецца і прарэзліва вішчыць...

Поцемак насоўваецца даволі хутка, і я наддаю хады, паціраючы вушы. Ля абшарпана-ружаватых дзвярэй я спыняюся, выцягваю марозам папечаную руку з кішэні, падношу яе да ручкі. Вось зараз мяне тузане нехта ззаду: ты куды? чаго табе сюды трэба? Урэшце ад майго штуршка дзверы прарыпелі... Каменная лесвіца нікольвi не пярэчыць, каб я ступіў на яе, і я асцярожна стаўлю на шчарбатыя прыступкі свае ногі, абутыя ў салдацкія чаравікі. Анучы на гэты раз не вытыркаюць з іх. Паволі ўзношу сябе на прыступках, і кожны мой крок выбухае пад нагамі. Здаецца, каўнер рубашкі маёй не вельмі чысты. І гэтая чарнільная пляма на руцэ. Ах, гэтыя плямы! Вечна яны прыліпаюць да маіх пальцаў... На мяне ж будуць пазіраць...

У рэдакцыйным пакоі[17], куды я зайшоў і прымасціўся, на мяне пазіралі. Уздоўж сцяны ўселіся на крэслах ужо даволі паважаныя дзядзькі, нехта ў шынелі без пагонаў, а нехта з пагонамі, на якіх аж тры зорачкі... Ух ты! Куды маім вершам раўняцца з іхнімі вершамі... Прымасціўся збоку і нейкі чорнабароды старэнькі з кавенькаю, ён прынёс верш пра тысяча дзевяцьсот пяты год. Нехта падкалоў яго: а вы не ў дзевяцьсот пятым годзе пісалі яго? “Што ві, што ві, я не пісаў да левалюцыі”, – закхекаў старэнькі.

Георгій Шчарбатаў[18], ружавашчокі і сталічны пісьменнік, седзячы за сталом, асвяціў мяне на міг сваімі акулярамі і прачытаў мой верш:

**БЯРОЗА**

Стаіць яна белая ў полі,
галіны прасцёршы свае,
адзін толькі вецер-свавольнік
макушку яе дастае.

Тут сведкай вялікага бою
яна ў дні тыя была...
І вораг паганы не ўстояў,
быў выгнаны ён з сяла.

Убіт быў чаргой з аўтамата
ля гэтай бярозы баец...
Ды многа фашыстаў праклятых
навекі паклаў ён, храбрэц.

Убіт!.. І звязда над магілай
рубінам чырвоным гарыць.
І ветрык такі лёгкакрылы
З ліствою бярозы шуміць.

А вокал раскінуліся нівы,
багаты шуміць ураджай
і песняю славяць шчаслівай...
. . . . . . . . .

Георгій Шчарбатаў рашуча адсек радкі, якія ішлі далей:

. . . . . . . . .
Табе не прыждаці, матуля,
любімага сына свайго.
Урэзаліся ярыя кулі...
. . . . . . . . .
Родная, радуйся сынам,
ён паў за савецкі народ...
. . . .
Бразгочуць зноў зброяй банкіры
і бойню рыхтуюць ізноў.
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .

– Гэтыя строфы трэба выкідаць, яны зусім лішнія! Трэба верш закончыць фразаю: "А вокал раскінуліся нівы, багаты шуміць ураджай". І думка будзе такая: баец аддаў жыццё за Радзіму... – упэўнена загаварыў Георгій Шчарбатаў.

Далей сталічны пісьменнік спыніўся на паасобных выразах і словах. Няўдала, аказваецца, слова "храбрэц". Няўдалы і выраз "звязда рубінам гарыць".

Але самае галоўнае, самая вялікая радасць была для мяне, што над вершам гэтым можна працаваць!

– Я думаю, што калі ён яго адшліфуе, дапрацуе...

І члены літаб'яднання згодна загаварылі галавою...

Але няўжо здзеецца самы вялікі ў свеце цуд, і мой верш, і маё прозвішча?.. Не, не можа быць!..

А наконт таго, што звязда рубінам гарыць, дык жа гэта прыгожа! Ну, не пісаць жа мне, што зорачка была драўляная ці бляшаная... Яшчэ чаго не хапала, каб я напісаў, што была яна з бляхі, ды яшчэ іржавай... Тут трэба абмазгаваць, раз мне ўпікае такое сталічнае свяціла ў акулярах...

## Жнівень, 1955 год

Я фельчар, але не той, які прыстаўляе фанендаскоп да балячкі ў правым ці левым баку якой-небудзь крывой і гарбатай бабулькі... Не, я фельчар, але які павінен прытопнуць на лавашніцу, калі ў яе за прылаўкам прадаюцца разам з селядцом і другія жывыя стварэнні, называць па прозвішчу якіх неэстэтычна.

Словам, я фельчар санітарны... А зімою было і такое: мяне нейк адразу ўпіхнулі ў сані, накінулі на мяне кажух і загадалі шпарыць у суседняе сяло... Дзядзька ў заінелым кажусе нокнуў на коніка, а я задрыжаў, сціскаючы каробачку, у якой была камфара... "Зробіце яму ўкол камфары!" – загадала мне доктарка, і я, глытаючы марозны ветрык на імклівых санках, дарэмна тужыўся ўспомніць, куды ж уводзіцца камфара – пад скуру ці ў мышцу?

Вось калі б мяне папыталіся пра Маякоўскага[19]! Я ўжо таксама магу здзіўляць свет, як ён! Але што на гэта скажа літкансультант з "Полымя" Эдуард Валасевіч[20]?

Я люблю адысці трохі падалей ад платоў, ад калодзежаў і стрэх. Паволі плятуся ўздоўж каляін, дзе кусцяцца тысячаліснікі. Спыняюся ля разгалістай грушыдзічкі, у голлях якой застралі ламачыны і нават камень. Хаця б не пекануў па галаве. Я таксама шпурляю ў галлё гнілаватую сукаватку, і некалькі жаўтлявых і чарвівых ігрушак прапокала па зямлі. Смакуючы кіславата-салодкую мякаць, я сунуся ў кусты шыпшыны і прымасціўся на пяньчук. На каленях маіх сшытак з вершамі... Я і сам адчуваю, як я пасталеў, вырас за гэтыя шэсць гадоў... Мой "Ранак ідзе"[21] зайграў нават на старонцы "Полымя". І калі б мне трапіўся той сшытак з вершам "Бяроза", я здорава б узрадаваў бы пані Анэту[22] ў той момант, калі яна брыдзе на трасочнік, каб нагрэбці на падпал трэсак... Я ўжо абрадаваў яе так колькі разоў, і толькі мой сябар можа пацвердзіць, што ў мяне і праўдзе была паэма даўжынёю з "Рыбакову хату"[23] нашага Якуба. Так, так, мае вершы ўжо набываюць хрэстаматыйны глянец.

**ЦІШЫНЯ**

Клёнаў стромкіх застылі кроны
і святло сваё месяц пеніць.
Чуеш? Лопнулі кветак бутоны,
сок па жылах яблынь струменіць.

Зрух найменшы ўловіць вуха,
шэпт ліста, калыханне галінкі.
Так, здаецца, стаяў бы і слухаў
цішыню, нібы музыку Глінкі[24]...

Праўда, нешта мне не помніцца ні аднаго твора Глінкі, але ж яна, мабыць, не абы-якая. Ды і хто мяне будзе пытаць, каб праверыць, слухаў я гэтую музыку ці не?

А вось яшчэ верш.

**ПРЫКМЕТЫ ВЯСНЫ**

Згінуў снег шляхамі патайнымі
і прыхарашыліся дамы.
Вата белая за вокнамі двайнымі
мне напамінае снег зімы.

Чую я: крычыць на Мішу маці,
каб пінжак ускінуў, не замёрз.
Дзеўчыны скульптуру ў летнім плацці
раніцой прыхватвае мароз.

Я – у лес, што недзе над ракою,
хоць той лес ліствою не пакрыт,
нездарма жартуюць, што вясною
я – жалеза, сонца – мой магніт...

Праўда, скульптуры ў летнім плацці нешта я не помню, каб бачыў, але ж, канечне, яны ёсць...

Я сяджу сярод кустоў шыпшыны са сшыткам сваіх вершаў. Я чую, як тарахцяць колы і фыркае конь. Воз саломы калываецца па каляінах, а за дышлем тэпае Гэля з перакінутымі цераз плячо віламі... Гэля!.. Ты не ведаеш ніякіх там ямбаў, але ты ведаеш тое, чаго не ўведаць мне, мабыць, ніколі-ніколі... Нездарма ж перашэптваюцца, што ты з Грышкам... Мне нават паверыць было цяжка, але ж Антон, мой сябар... Ён цябе не раз праводзіў, і хіба мог ён вытрымаць, каб не пахваліцца... О, каб я мог пахваліцца, як Антон, але таго, мабыць, ніколі-ніколі... Не, ніколі, дурэючы, я не падбягу, не сарву з тваё галавы белую касынку, а ты ніколі, пагражаючы мне не віламі, а жмутом саломы, ты ніколі не кінешся адбіраць у мяне сваю касынку... Тарахціць воз, Гэля ідзе за возам, і недзе ў душы маёй ажываюць не самыя радкі, але як бы прадчуванне іх:

*Я хацеў засмяяцца, калі Гэля ішла за возам...*

Але ж хіба будзеш пісаць пра тое, што жыве ўва мне? Пра тое нават падумаць боязка – не тое, што і пісаць... Значыць, трэба свае пачуцці нейкім чынам звязаць з... вайною...

Я схіліўся над сшыткам, і хутка пачалі прарывацца наступныя радкі:

Я хацеў засмяяцца, каб мой смех усюды пачулі, –
але замест смеху ад гора зайшоўся плачам.
Я вочы свае адкрыў, каб убачыць усмешку матулі, –
але акрываўлены нож над вачыма ўбачыў...[25]
. . . . . . . . . . . . . .

## 1956 – 1962 гг.

Анатамічны зал, дзе на сталах ляжаць **тыя**, каго па нейкай прычыне не апусцілі ў зямлю пад гукі духавога аркестра. Да **іх**, з васковымі тварамі, можна падысці са скальпелем, разрэзаць скуру на плячы вострым лязом, і праз нейкі час будзе выразна відаць дзвюхгаловая мышца пляча і нервы ля гэтай мышцы, якія падобны на белаватыя шнуры. За сталом – лабарантка ў белым халаце. Да яе раз-пораз падыходзяць таксама ў белых халатах студэнты:

– Дайце мне лапатку...

– Дайце мне бедраную костку...

– Дайце мне пазванок...

– Дайце мне мозг...

Па ўсёй велізарнай прасторы анатамічнага зала расстаўлены сталы, а на іх у гранёных шкляных пасудзінах, падобных на шафкі, заспіртаваныя галовы, рукі, ногі... Вельмі выразна відаць, дзе мышца бярэ свой пачатак, куды яна прымацоўваецца...

Ля сталоў папырхвае смехам мілая слаўная Козачка[26]. То адзін, то другі забіяка хапае яе за тонкую гнуткую талію, хапае і кружыць... Яе несупыннае шчабятанне, яе смех нібы гаворыць мне: я такая для ўсіх, а значыць, а значыць... Але гэтаму ніколі не бываць, журбою туманяцца мае вочы... Мне наканавана толькі шаптаць адзіне тваё імя... Гэтак жа шаптаць, як і некалі шаптаў я імя той далёкай-далёкай і напаўзабытай пяцікласніцы... Няўжо і ты адплывеш назаўсёды? Але ж наперадзе столькі разоў яшчэ [будзе] папырхваць твая постаць то ля гэтых шкляных банак, то ў хімічнай лабараторыі, то ў бальнічным калідоры, па якому вязуць некага на каталцы ў аперацыйную...

Мілая, слаўная Козачка! Далоў звычайныя чалавечыя словы, якімі раней я пісаў вершы! Я зараз буду пісаць незвычайна!

І я пісаў незвычайна...

І, азіраючыся зараз на мінулае, я бачу, што я пісаў усё тыя ж пародыі.

Вось яны:

**РУКІ**

Рукі мазалямі пакрыты век цэлы.
мазалёў тых хапіла б, каб усіх гультаёў надзяліць.
Варта абхапіць даланямі кацёл вады зледзянелай –
і кацёл вады закіпіць.

Плугам узараны на іх маршчыны.
Жылы – канаты ўздоўж і папярок.
Пальцы – жалеза гатовы камячыць, як гліну.
Пальцы – камень скрышаць на парашок.

Мыюцца яны машыннымі маслямі.
Ручнік замяняе само лета, сама зіма.
Калі рукі ў цябе такія, значыць ты – з рукамі,
калі іншыя – рук у цябе няма[27].

Янка Брыль[28], праслухаўшы мой верш у рэдакцыйным пакоі “Полымя”, папытаўся ў мяне тады:

– Ну, а скажам, рукі хірурга? Яны ж не мыюцца машыннымі маслямі? Выходзіць, што гэта ўжо не рукі?

Я толькі моўчкі каўтнуў сліну, не ведаючы, што мне сказаць на гэтае пытанне.

Уладзімір Уладзіміравіч[29] не баяўся ніякіх тэм, і я таксама не павінен баяцца. Чаму б не напісаць верш пра тое, што вораг узбройвае Нямеччыну? І вось я напісаў пра бізнесмэна. Нібы з плаката Кукрыніксаў[30] па волі маёй фантазіі сходзіць заакіянскі бізнесмэн з доўгай сігараю ў роце, і я з гэтага бізнесмэна здзекуюся. Лупцую яго... Так з’яўляюцца вершы: “Пра мужчыну з сахарынавай усмешкай” і “Дзве дарогі Сому”.

**ПРА МУЖЧЫНУ З САХАРЫНАВАЙ УСМЕШКАЙ**

Сонечны зайчык у хату заскочыў,
Пабег па сцяне, а потым па сталі.
Бегаў, стаміўся, пачаў разважаць:
Дзе б спыніцца, дзе б адпачыць крышку.
У хлопчыка Джона на шчоках – ямачкі.
Ямачкі – надзейнае месца: няма ў іх нікога.
Сонечны зайчык падкраўся да ямачак,
Заскочыў у іх, стаіўся, не дыша,
Вады захацеў папіць пасля дарогі, –
Аж бачыць: паўзе слязінка да ямачак.
Гэта Джон пусціў напаіць ёю зайчыка,
Ён прымарозіў пальчык, яму балюча...

Праз трыццаць гадоў Джон – мужчына,
Сядзіць у крэсле і смокча сігару.
На твары – сахарынавая ўсмешка,
Мужчына носіць страшнае імя – Вайна;
Ён ужо вырашае, жыць ці не жыць хлопчыкам,
У якіх на твары – ямачкі,
А ў ямачках – сонечныя зайчыкі.
Вырашае: жыць ці не жыць?

Зайчык, зайчык! Эх, чаму ж ты воўкам не стаў,
Глоткі тады яму не перагрыз?![31]

**ДЗВЕ ДАРОГІ СОМУ**

Вы амерыканец?
Вы любіце вудзіць рыбу?

Давайце паглядзім пільна
За вудзільнам, якое пакуль што нерухома.
Ура! Нам з вамі пашанцавала.
Тузанула штосьці вудзільна;
Мы цягнем яго і выцягнулі, скажам, Сома.
Я даю прапанову: Сом – рыба
Драпежнай пароды.
Перш чым Сома засмажыць на скаварадзе –
Трэба яго забіць. А для гэтага
Адзін сродак:
Жывога Сома затапіць у вадзе.
Вы – амерыканец. Вы трымаеце сябе дастойна
І на мяне глянулі,
Нібы я ў гарэлачным тумане.
Я з глузду не з'ехаў. Спакойна,
Спакойна, пане!
Вось вы і папаліся тут нарэшце,
Вы абяззброены. Вам няма чым крыць.
Скажыце, калі вы ўзбройваеце Нямеччыну,
Ці не гаворыце, што рашылі ў вадзе...
Жывога Сома затапіць?

Наша думка, гэтаму Сому або гэта,
або тая дарога:
Ці выкінуць з вады,
Ці затапіць мёртвага,
А не жывога.

*1959 г.*[32]

Чамусьці мяне зусім не бянтэжыць, што каб пагаманіць з Джонам, трэба спыніцца не перад плакатным Джонам, а перад жывым... Трэба спачатку і на самай справе пагаманіць з ім, а ўжо потым перадаць гэтую гаворку...

Сёння вершы пра Джона, а заўтра

**СТАТУТ ГУЛЬТАЯ**

§ 1

Ад сну яшчэ нікога не лажылі ў труну.

§ 2

Куды? На працу? Не спяшай, мой дарагі!
Яшчэ атрымаеш вывіх нагі.

§ 3

Не працуй у час, калі свеціць сонца старанна:
Для здароўя карысна сонечная ванна.

§ 4

Крычы: "Раз-два-ўзялі!", каб усім было чутно.
А падымаюць другія хай бервяно.

§ 5

Цяжка стала рукам – не маўчы,
хапайся за сэрца, за аналіз крыві і мачы.

*4.VII.1959 г.*

А што калі б паспрабаваць напісаць пра паседжанне праўлення калгаса? Але чамусьці не ўзнікае нават і думка перадаць сваё адчуванне-ўражанне ад таго паседжання, на якім і папраўдзе мне даводзілася быць. Не, замест гэтага я спрабую нешта прыдумаць, а калі прыдумаць, то трэба і ўспомніць: а што ж на гэты конт пісаў, скажам, Кандрат Крапіва[33]...

**ПАСЕДЖАННЕ ПРАЎЛЕННЯ КАЛГАСА**

"Трэба пасеяць проса і крыху грэчкі..."
Папяросы і спрэчкі.

"Пад проса – загон меншы, пад грэчку – вялікі..."
Цыгаркі і крыкі.

"Пачакаем крыху... холад – ходзяць чуткі."
Заўвагі і самакруткі.

"Проса сеем ля Лога, грэчку – ля Глёва..."
Недакуркі і прапановы.

"Паспрабуй толькі на гэтыя культуры плюнь..."
Бас сярдзіты і тутунь.

У гэты час пешаход пытае:
"Заблудзіўся я, дарогі не відно,
скажыце, шляхам прайсці якім?"
– "Трымай, дзядзька, вунь на тое акно,
з якога валіць сіні дым".

Я павінен пісаць незвычайна. Цікава, што свой першы зборнік я хацеў назваць спачатку "Я". Якое ж было маё здзіўленне, калі я пазней даведаўся, што так і назваў свой першы зборнік Уладзімір Уладзіміравіч. Хацелася мне, каб зборнік адкрываўся і вершам

**Я**

Я – гэта паветра і зямля, пранізаныя корнямі і лісцямі.
Я – акуляры, якія выпраўляюць Блізарукасць.
Я – той, хто ўсё сваё жыццё выпраўляе памылку бацькі, які выправіў некалі памылку дзеда.
Я – той, хто маланку прывязаў да грамаадвода.
Я – фатограф. Фатаграфую Месяц і рух электрона.
Я – стрэл у вочы смерці.

Я павінен пісаць незвычайна. А гэта немагчыма, калі я не буду прыглядацца, як пісаў **ЁН**.

А таму вось яшчэ адна падробка пад **ЯГО**.

**МІЛЬЁННЫ ГОД СОТАЙ ЭРЫ**

Ложак – чатырохногі. На ложку ляжу я – двуногі.
І пішу на кавалку чыстай паперы:
Сёмае ліпеня, мільённага года, сотай эры.
. . . . . . . . . . . . . .

(Вучоны звоніць свайму калегу на Марс)

Ало! У чым прычына, дружа? Чаму да Сонца не даляцеў
і вярнуў назад карабель з расплаўленым хвастом?
Я ж прасіў з палётам пачакаць. А ты і слухаць не захацеў
і панёс раней тэрміну галаву на злом.

Дарэчы, мне паведамілі, што Сонца табе падпаліла бровы.
Нічога, жонка цябе і бязбровага будзе кахаць, як раней.
А калі не вырастуць праз месяц новыя,
мы пратэзы-бровы прыладзім да тваіх вачэй.

А вось яшчэ чатырохрадкоўе:

**НАРЭШЦЕ**

Бегала, бегала, абнюхала ўсе магазіны...
Прыйшла дадому з пудрай, грэбнем, карункамі...
Адны толькі вусны рамантавала паўгадзіны,
каб абсыпаць каханага падрамантаванымі пацалункамі.

Ад Маякоўскага часам мяне кідала да Пабла Неруды[34] і Назыма Хікмета[35].

**АДЧУВАЦЬ ПАЧЫНАЮ**

Адчуваць пачынаю,
як за акном падае кропля вады,
прабіваючы і паветра і камень;
як лётае вецер, хоць і без крылляў,
і чысціць ластаўкам пер'е;
як у полі ідзе брыгадзір і трактар
(стук сэрца брыгадзіра мацней, чым стук матора);
як упаў дуб і лопнула почка на маладзенькім дубе
(почка лопнула мацней, чым падзенне трухлявага дуба);
як хлапец цалуе дзяўчыну, – о, залатыя хвіліны,
а іх адстуквае іржавы маятнік...

Ад хікметаўшчыны раптам мяне парыў ветру кідаў да нечага такога, што належала ўжо невядома каму: ці то Танку Максіму[36], ці то Броўку Петрусю[37], ці то Глебку Пятру[38], ці то Бялевічу Антону[39]...

**НЕ БАЮСЯ**

Не баюся пылам трактара прапыліцца,
бо ў нас рэчка цякучая і вада ў ёй жывіца.
Не баюся смагі нагнаць. У кожнай хаце з'ясі
антонаўку,
у кожнай хаце квасам напоўніш конаўку.

Не баюся песню зацягнуць. Не будзе маркотна.
Маю песню падхопяць сябры ахвотна.
. . . . .
Не баюся з брыгадзірам пасварыцца.
За абразу атрымае абразу хай,
але ніхто з нас не носіць камень запазухай.

Не баюся на танцах прыстукнуць, пацешыць масы,
не адарвуцца ад бота абцасы.

Ці вось яшчэ верш, які належыць адразу сотні паэтам.

**ВОКНЫ ЗВІНЯЦЬ**

Ціха вокны звіняць, ці мяцеліца шурхне ў аконную раму,
ці хто стукне абухам па сцяне,
ці хто цвік забівае, ці стукне дзвярамі,
ці вецер знячэўку акяніцу рване.
Ці коні б'юць капытамі, бегучы на сенажаць,
вокны ціха звіняць, ціха вокны звіняць.

Ранак росны. А я ўжо прачнуўся даўно.
“Эй, на сена выходзіць!” Лёгкі стук у акно.
І Марына выходзіць на лёгкі мой стук.
Ну й загар на плячах! Ну ж і выгібы рук!
Позірк свой ад яе не магу адарваць.
Ціха вокны звіняць... Вокны ціха звіняць...

А быў час... Былі выбухі ля сяла.
І выляталі асколкі разбітага шкла,
і дым засцілаў поле і сенажаць...
. . . . . . . . . . . . . .
Ціха вокны звіняць, мірна вокны звіняць.

А вось яшчэ адзін верш, які таксама належыць паэту, прозвішча якога Дзірка ад Абаранка:

**ПРЫЗНАННЕ**

За тое, што яблыкі краў я, біў мяне пасечнік Мікодзій,
але ж я не злачынец і не злодзей.

П’яны разбіў нейк пасуду, перакуліўшы столік,
але ж я не п’янчуга, не алкаголік.

Добры хлеба акраец з’еў учора,
але ж я не абжора.

Баюся гадзюк. Атрутай бруіцца ўкус.
Але ж я не палахлівец, не трус.

Сена зграбалі. Я крыкнуў: “Хлопцы, прыляжам давай!”
Але ж я не лежань, не гультай.

Не пазычыў я грошай суседу, хоць была сторублёвак пара,
але ж я не заграбайла, не скнара.

Гультайства рукі баяцца мае, як баяцца каросты,
і я працую ўвесь свой век.
Я самы звычайны, самы просты ...... (Ну, тут, спадзяюся, зарыфмаваць лёгка.)[40]

Або яшчэ верш, які напісаў паэт Ніхто.

**У ГОСЦІ**

Чакаюць людзі гасцей, чакаюць. Узіраюцца праз акно...
Падагрэлі кашу, падрыхтавалі гарэлку, віно,
ускіпяцілі чай, памачылі ў масла бліны,
апранулі новыя спадніцы, кашулі, штаны...

Камсамольцы, паплечнікі маёй маладосці,
рыхтуйся на Марс у госці!

*9/VII-1959 г.*

Не на жарты перапалоханы, што я пішу так, як пішуць усе, я ў адчаі кідаўся зноў да Маякоўскага. Ён пісаў з рыфмаю вершы. А што калі б паспрабаваць і пісаць гэтак жа незвычайна, але без рыфмы? І тады ў мяне з’яўляліся вершы наступныя:

**НА ТЭМУ САМААБСЛУГОЎВАННЯ Ў СТАЛОВЫХ**

Галіфэ і Клёш нясуць падносы.
Недавараная галава пеўня як закрычыць у талерцы: “Кукарэку!”

Перапалоханы Клёш выпусціў паднос, і суп праліўся на памост.
Спадніцы таксама павыпускалі падносы.
Мора супоў і баршчоў пачало шугаць праз вокны і дзверы.
.........

*7/VII-1959 г.*

**МУЖ, ЯКІ КІНУЎ СВАЮ ЖОНКУ**

“Галубка мая! Я кіну яе! Я буду з табою!”

Мужчына ў жоўтых туфлях адрывае ад зямлі сваю ахвяру і ўпіваецца вуснамі.

Доўгі пацалунак.

Адчыніліся аканіцы, і на губы закаханых выліўся кіпяток едкіх слоў.

Губы не адрываюцца.

Ідзе рабочы. Прыставіў да вуснаў долата крытыкі і б’е па гэтаму долату, а вусны не адрываюцца.

Не адрываюцца губы.

Выйшла жанчына. Ёй трэба павесіць сушыцца бялізну. Адзін канец шнура яна зачапіла за сук яблыні, а другі канец падумала-падумала і наматала на губы закаханых, а губы не адрываюцца... Яна павесіла пяць пудоў бялізны, а губы не адрываюцца...

Не адрываюцца губы...

Але вось праходзіць паўз закаханых адна прыгажуня і заспявала песеньку.

І... бялізна паляцела на зямлю...

Ён кінуўся следам за песенькай...

Кажуць, што нехта павесіў ужо не пяць, а дзесяць пудоў бялізны...

*8/VII-1959 г.*

Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін[41], якому я паказаў свае вершы, прамоўчаў, як бы яму было няёмка праз тое, што я напісаў іх... Значыць, мае вершы не пройдуць! Але ж ад іх павінен уздрыгнуць увесь свет! З’явіўся новы, небывалы паэт, які піша вершы, якія нельга назваць вершамі, але ж і прозай іх не назавеш! Нешта небывалае! Касмічнае! Зараз на мяне ўсе заглядзяцца, як на спадарожнік! Вы чулі? Вы чыталі? Тысячагоддзі як існуе паэзія, і нікому не стукнула вялікая і ашаламляльная ідэя злучыць паэзію і прозу ў адно... На сутыку гэтых двух жанраў з’явілася... нешта такое...

“Новый мир”[42] стукнуў мяне абухом, вярнуўшы мне маё бяссмерце і падкрэсліўшы чырвонымі палоскамі сям-там граматычныя памылкі. Я, доўга не думаючы, заканвертаваў сваю ідэю і... Не, не буду нават паведамляць, якога чалавека я адважыўся патурбаваць сваім бяссмерцем, таму што мяне трасе ліхаманка ад няёмкасці... Поўны збор твораў таго чалавека, а збор гэты бясспрэчна будзе, поўны збор твораў яго не будзе папоўнены лістом-адказам да мяне.

Што я думаю зараз наконт тых пасланых прозавершаў? Я толькі што разам з цэлым мехам іншых папер занёс і выкінуў іх у сметніцу, і толькі адзін з іх палічыў патрэбным перапісаць для сябе. Што я думаю? А думаю я зараз так. Калі б маю ідэю ды разам з маім васьмідзесяцікілаграмовым целам падхапілі дужыя рукі, падхапілі ды падкінулі ўгору, дык я быў бы ўгары на вышыні, і каб на мяне зірнуць і пабачыць мяне, трэба было б высока задзіраць угару галаву. Адтуль, з вышыні, я мог бы чуць і воклічы захаплення, і цьхуканне: цьху, маўляў, падла, крамзоліць нейкае паскудства... Вельмі можа быць, што гэтае “цьху” заглушалі б вокрыкі “Ура!”. У нас ёсць тысячы паэтаў, якія лічаць сябе паэтамі і не лічаць паэтам Андрэя Вазнясенскага[43] – адзін час і я не лічыў – але ж Вазнясенскага ўсе ведаюць, а гэтыя тысячы – каму яны патрэбны? Ці ўдасца мне раскусіць гэты арэх? Наконт жа сваіх прозавершаў скажу, што сама думка пісаць іх была не ложнай, сведчаннем чаму з’явіліся мае элегіі, надрукаваныя ў першым зборніку. Дзякуй Васілю Сёмуху[44], які падтрымаў мяне. Зерне ўпала не на камень.

Доўга круціў-вярцеў я гэтыя прозавершы, разоў з дзесяць выкідаў іх у сметніцу, шматуючы на дробныя акрамэскі, потым даставаў тыя акрамэскі са сметніцы, злучаў беражліва іх разарванымі краямі і дзівіўся, што гэтыя шматкі жывуць, не выкідаюцца... Значыць, у іх нешта ёсць... А ёсць у іх вось што. Паэзія ж – гэта не толькі музыка. Паэзія – як я зразумеў гэта зараз, – паэзія – гэта яшчэ і цырк. Вы можаце не любіць цырка, але чаму вы павінны адмовіць права цырку ў яго існаванні? Паэзія-цырк – вось што аб'ядноўвае Хлебнікава[45], Маякоўскага, Кірсанава[46], Вазнясенскага... Да паэзіі-цырка адносяцца і мае прозавершы...

Вось як гучыць адзін з маіх вершаў, у якіх ёсць элементы паэзіі-цырка.

**КВАХТУХА ЗНЕСЛА ЯЙКА**

Зіма-квахтуха знесла яйка –
з яйка вылупілася куранятка-вясна
і пачала раўчуком
ціўкаць каля хаты.
Ціўкала-ціўкала, і гэтае ціўканне разбудзіла мяне.
Я ляпнуў клямкаю весніц.

Усюды пахне гноем, раскрытымі паграбамі і капцамі.
Я фельчар. Мне сямнаццаць. Чэпаю з брыгадзірам.

Гэля кінула ўслед брыгадзіру прыпеўку:

У брыгадзіра непаладкі:
жонка не спякла аладкі.
Ходзіць і сумуе зноў...
Не сумуй! Спяку бліноў!

Смех.
Як ад толькі што зваранай і адцэджанай бульбы
падымаецца пара,
так падымаецца пара з каня...

Тады, калі я пісаў сваю паэму "Стрэл у вочы смерці" (назва ранейшая "Стрэл у твар смерці" няўдалая)[47], я не ўсведамляў тады так выразна, як зараз, што **працую ў цырку**. Праз шмат гадоў пазней, калі мяне занесла ў **музыку**, мне доўгі час здавалася, што ўсё, што было звязана з **цыркам**, гэта – не маё. Аднак жа я бачу зараз, што і паэма мая, і прозавершы мае... Чалавек звычайна піша правай рукою, але калі дзіця з самага малку прывучыць пісаць і левай рукою, то ён будзе абедзвюма рукамі валодаць у аднолькавай меры (так, здаецца, дзяцей і прывучаюць у Японіі). Працаваць і ў цырку, і ў музыцы можна адначасова, у той жа час застаючыся самім сабою. Па гэтай прычыне я са сваіх вершаў не выкідаю ні "Стрэла", ні элегій... Нават калі ўявіць, што гэтыя творы застануцца ў адзіночным ліку, то сваёй дысгарманіяй яны яшчэ больш будуць падкрэсліваць агульную гармонію цэлага...

Жахліва нават падумаць, пра што толькі не будзе пісаць чалавек, калі ён не асмельваецца ці проста ў яго не хапае здольнасці пісаць пра тое, што ён носіць у сабе праз усё жыццё...

Ён будзе пісаць пра лазню:

**ЛАЗНЯ**

Я ў лазні.
Узвышаюцца мыльныя багі-стагі.
Высяцца мыльныя бажкі-стажкі.
Нейкага папа схавала мыльная капа.
А вунь у тумане дзве мыльныя кропкі-копкі.

“Параю нас не страшы!” –
смяюцца двое падобных на ружовыя карандашы.
“Ну ж і пара! Хай ты згары!” –
вухкаюць трое падобных на ружовыя шары.
“Ану, яшчэ ўдар!” –
просіць падобны на шар.
“Уніз ляж тварыкам!” –
Карандашык з шарыкам.
“Ой, зробіш капут!” –
мыльны стог наваліўся на мыльную капу.

. . . . . . . . . . . . . .

Я з лазні выходжу. На працу спяшу.
Сілаю кроў закіпела.
Нясу чыстую душу
і цела.

*9/VII-1959 г.*

Чалавек, які не можа “из пережитых горестей” скласці сваю песню, будзе пісаць і такое:

. . . . . . . . . . . . . .

Там каркае варона. Там молат б’е па дну каністры.
Нехта плача. Нехта раве, трапіўшы ў капкан.
Прачнуўся і стотысячным громам выстраліў
вулкан.
Браткі мае! Колькі гукаў! Гукаў колькі!
Які тут думак размах для цябе, паэт!
Але, затаіўшы дыханне, адзін толькі,
адзін толькі гук слухае свет.

. . . . . . .

слухае свет, як цурчыць малако ў дайніцах
у Амерыцы і ў нас.

Чалавек, які не можа выказаць пражытае сваімі словамі, раптам пашкадуе пустыры, якія б маглі стаць палямі:

. . . . . . .

Захацеў паляўнічы паспрабаваць удачы.
Стрэліў угору і сам прылёг на мурог.
Авось якая-небудзь качка
падбітай упадзе ля ног.

Ты, хто кінуў у зямлю авёс ці жыта
і на пасеянае не глянуў вокам,

чым рознішся, скажы ты,
ад паляўнічага-лежабокі?

Поле без догляду і пустыр! Даўно ўжо трэба
ускаласіць іх каласамі!
Гэта ж лішнюю лусту хлеба
людзі топчуць нагамі!

Чалавек, які не можа “перапісаць” тыя вершы, якія носіць у сабе ўсё жыццё, вымушаны вечна падглядваць у чужыя вершы, і тады з’яўляюцца такія радкі:

. . . . . . . . . . . . . .

Апошнія грошы магілу сабе ў агні знаходзяць.
Золата, ты куды падзелася? Дзе ты?

І кожны прывык, што ён па сваёй патрэбе ходзіць
у залатыя клазеты.

Хтосьці выказаў думку: трэба ляцець на сонца.
Яму запярэчылі: "Яшчэ не прыспела пара".
Ужо мільён год, як вучоныя вывучаюць на плёнцы
кваканне жабы і звон камара.

. . . . . . . . . . . . . . .

Што я раблю? Трэба быць арыгінальным! Трэба быць па-грамадзянску смелым! І тады з'яўлялася:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Высока ўзняў галаву касцюм за 4000 рублёў і індычыцца:
са мною толькі міністр у касе разлічыцца.

А касцюм картовы за 40 рублёў апусціў галаву і вочы:
са мной разлічыцца можа толькі рабочы.

Два касцюмы вісяць і вачэй з пакупнікоў не зводзяць.
Міністр і рабочы ўваходзяць.

Толькі што гэта? Я ад здзіўлення разявіў рот:
міністр купляе касцюм рабочы, а рабочы – наадварот.

Яй-богу, міністр. Я добра яго запомніў у твар.
Не апраўдаў сябе ля тэлефона і зараз ён залатар.

. . . . . . . . . . . . . . .

*11/VII – 1959 г.*

Вялікі паэт, прозвішча якога XX век, навечна зарыфмаваў два імені. Вось яна, гэтая рыфма: Іосіф Гітлер і Адольф Сталін. А калі так, значыць нельга не думаць і пра фіялетава-чорны дым, які расплыўся пасля стрэлу крэйсера "Аўроры"[48]... Гэта ад яго, ад гэтага дыму, пачалі пазней расплывацца фіялетава-чорныя дымкі куцых руляў, накіраваных у патыліцу... Тады ўпершыню і ўскрыкнуў адзін ружовы камячок... Зараз, калі гэтаму камячку пераваліла за сорак і ён, гэта значыцца я, Алесь Наўроцкі, піша гэтыя радкі. Зараз яму страшна пры думцы, як позна прыйшла да яго сталасць. Тады, у 1960 годзе, калі ён пісаў "Размову з Уладзімірам Ільічом"[49], тады да сталасці было яшчэ далёка-далёка...

**РАЗМОВА З УЛАДЗІМІРАМ ІЛЬІЧОМ**

Ад той сцюдзёнай зімы
не адна мінула зіма,
Гады
за гадамі
ідуць.
Нельга ніяк прымірыцца,
Што Вас няма:
У дзевяноста ж гадоў
людзі яшчэ жывуць.
О, я адчуў,
Якая любоў да Вас і вера.
Адзін калгаснік
бачыў Вас
на станцыі Дно.
Ён пацвердзіў,
Што Ваш голас,
Трымацца Ваша манера

Якраз такія,
як паказваюць у кіно.
Ён помніць:
Вы былі ў кароткім пальто
І гаварылі
аб вялікай
камуне.
Шчаслівы чалавек!
Метраў якіх за сто
Ён бачыў Вас на трыбуне.
А вакол салдаты
лавілі
кожнае
Ваша слова,
Вашай рукі
кожны рух.
...Адной гэтай весткі
Было для мяне дастаткова,
Каб ад хвалявання
заняло
дух.
Уладзімір Ільіч,
Мы шлях немалы праклалі.
Вы хмурыце бровы?
Забылі
адну з Вашых
перасцярог.
Той чалавек заняў
толькі тое месца,
Дзе Вы стаялі,
А цалкам Вас
Замяніць не мог.
Чалавек з характарам,
Як сталь, цвёрдым,
Пра якога казалі –
усяму аснова.
Я сам бы даў у морду таму,
Хто супраць яго
вымавіў бы слова.
Я ж думаў, ён –
гэта Вы.
Усёй душою
Быў адданы яму
кожны з нас.
Паміраючы за яго
на полі бою,
Ведайце –
Памiралі за Вас.
Уладзімір Ільіч,
Аб асабістым жыцці распытваць
Ваша звычка.
І вось я думаю,
Ці варта пра сябе гаварыць?
Чакайце, я лепш раскажу Вам
Пра грушу-дзічку,
Якая недалёка ля хаты маёй стаіць.
Звычайная дзічка,
Якіх на свеце шмат.
А восенню не галіны,
а грушы адны.
Іх не раз калацілі і я, і Валерык,
мой брат,
У імжыстыя дні.
І не перавяліся яшчэ душы,
На тым баку планеты
Моршчаць лоб,
Крычаць: “Карэнні тваёй грушы
Шар зямны прараслі
І перакуляць вось-вось небаскроб”.
Што ж, каму пагібель прыйшла –
Тыя розум згубілі.
А жыць пачынае той,
Хто жывы.
Смерць нясуць ім карэнні
Дрэва,
Якое садзілі
і любоўна расцілі Вы.

Эх, як папрацавалі мы,
Каб не сагнуцца!
І ўжо не завеяй гадоў
Наша даль
Віхурыцца.
Уладзімір Ільіч,
Як бы маглі Вы ўсміхнуцца
І задаволена прыжмурыцца!
Зямля!
Колькі гукаў ты нараджаеш!
Якое гукаў клакатанне!
Але ўжо некалькі зім і лет
Як адзін толькі гук – затаіўшы дыханне –
Адзін толькі гук слухае свет.
Адзін ён прымушае
сэрцы біцца,
Заглушае астатнія.
Такая эпоха.
Такі час.
Слухае свет, як цурчыць
Малако ў дайніцах
У Амерыцы і ў нас.
Кукуруза ў яслях нашых кароў
Ляжыць.
Мы верым –
Наша перацурчыць!

Часам выйдзеш на луг.
Росаў зіхаценне,
Крыкі чуеш,
ад якіх асыпаюцца
Пялёсткі акацыі.
Крыкі: “План усеагульнага раззбраення –
Гэта толькі ношка дроў,
Кінутая
ў агонь
агітацыі”.
Вось бы выступіць Вам!
Як галасы
і змоўклі б,
і аслаблі!
Вы ж можаце так заганяць
Працiўніку клін,
Так біцца,
як у шабельнай бойцы

Шабляй не біўся
яшчэ
ні адзін!
Уладзімір Ільіч,
Нас – мільярд.
Хай нос каго выпнецца –
Адсячом.
Гарыць світанне
нашага дня,
І сыплецца, сыплецца
Ад каланіяльнай палітыкі парахня!

Я не ведаю, але ўпэўнен,
Што Вы марылі таксама
Пабываць
на планеце другой.
Нашая ж планета – гэта мама,
А дзеці не вечна
трымаюцца
за спадніцу
Маці сваёй.
Ці рана,
ці позна,
але шлях праляжа
У таямнічую далеч – імглу.
Калі будуць там людзі,
Мы
пра сваіх людзей
раскажам.
А пра Вас –
у першую чаргу.

*1960 – 1961 гг.*

Зараз бы, калі б я пачаў Размову з Вамі, Уладзімір Ільіч, я напомніў бы Вам Вашы ж словы. На 2 Усерасійскім з’ездзе горнарабочых у 1921 годзе (том 42, стр. 247) Вы гаварылі: “Я утверждаю, что всегда ошибка начинается с маленькой и кончается большой”. Так яно і здарылася: памылка тады, калі расплыўся ў паветры славуты дым ад таго легендарнага крэйсера, была настолькі маленькай, што нават і ў мікраскоп яе нельга было заўважыць... Але маятнік стукаў, і адстукаў ён адно дзесяцігоддзе, а потым другое... Якою страшнаю, якою жахліваю стала памылка! Ды ці памылка гэта? Ці не будзе кашчунствам называць гэта памылкаю? А чаго варта Ваша заява: “Я утверждаю, что мы Конституцию соблюдаем строжайшим образом” (том 39, стр. 423). Тады ж, як толькі Вы вымавілі гэтае слова, да Вас данёсся голас з ложы: “Ого!” Зараз ужо не голас, а мільёны галасоў скажуць Вам гэтае “Ого!” Колькі слоў сказана пра Вашу празорлівасць! Яна ўзнесена да нябёс! Але хіба гэта не Вы гаварылі 22 кастрычніка 1918 года (том 37, стр. 111): “Товарищи, мне кажется, что теперешнее наше положение, при всей его противоречивости, может быть выражено, во-первых, тем, что мы никогда не были так близки к международной пролетарской революции, как теперь...” Леў Талстой[50] аказаўся больш празорлівым, калі гаварыў, што гістарычны дзеяч, які знаходзіцца ў самай плыні падзей, плыве па гэтай плыні, не ведаючы, куды яго занясе цячэнне... Значыць, і празорлівасці ў Вас не было такой, як гэта хацелася б некаму...

Далей. Працягнем размову. На малюнках вельмі часта (ды і на фатаграфіях) можна бачыць, як Вы любіце дзяцей... А нешта я нідзе не чуў і нідзе не чытаў, каб Вы асудзілі расстрэл дзяцей цара Мікалая[51]... Яго самога, канечне ж, трэба было расстраляць, паколькі ён страляў у людзей перад сваім Зімовым палацам, але навошта было расстрэльваць яго жонку і дзяцей? Нешта не чуў я Вашага

голасу на гэты конт... А наконт ладу, які пабудаваны, дазвольце заявіць Вам – гэта лад, які рыфмуецца з канчаткам “ізм”, але толькі гэта не сацыялізм...

Зараз, калі маятнік адстукаў мне больш за сорак, я так бы пагаманіў з Вамі, Уладзімір Ільіч. А тады, у 1960 годзе, я да такой размовы яшчэ не дарос. І хаця сама па сабе размова напісана паэтычна, па-майстэрску, хаця яна шчырая, але не ўсялякая шчырасць мае права на існаванне ў літаратуры. Я быў тады ўсё яшчэ Пеця Растоў[52], які з *благоговением* у натоўпе людзей пазіраў на цара, а той раскідае бісквіты, і Пецю ледзь не прыдушылі *жаждущие этого благоговения*.

***

Ура! Мая кніга[53] прымушае людзей раскашэльвацца, выцягваць з кішэні адзінаццаць капеек... Ура! Мая кніга! Яна знікла з прылаўкаў за некалькі дзён!

А я? Я пухлявы, бледнатвары, трохі касалапы, з трохі набок скрыўленай шыяй. Сам-насам я ныраю глыбока-глыбока ў сябе і падоўгу ўзіраюся ў павуціну на сцяне пры думцы, што ні адна стройная і чароўная свавольніца не будзе перад люстэркам расчэсваць пасмачку сваіх валасоў на лобе ў чаканні, калі я, пры адпрасаваным гальштуку, пастукаю ў яе пакой. Ні адна... А над зялёнымі ліпамі, зямля ля камлёў якіх аблямавана металічнымі рашоткамі, высока ўгары палыхае сляпучы блакіт, утыканы зубцамі тэлеантэн... І сярод прыгажунь, у безрукаўках і загарэлых, плыве мая слаўная Козачка, а яе пад руку вядзе **ён**. Як перамянілася яна за гэтыя шэсць гадоў! Ужо не шчабеча, як раней... Адшчабятала... Павольнасць, стрыманасць і плаўнасць аздобілі яе ўсё яшчэ тонкія, але ўжо акругленыя выгібы. Нейкімі невідушчымі вачыма ўпіўся я ў раменьчык яе басаножкі, калі яна ўсклікнула:

– Ух, я их нарожаю! Пятеро-шестеро их у меня будет!

Помню: выйшаў я пасля прагляду кінафільма. Квадраты акон былі рассыпаны ўсюды на чорным фоне. У пад'ездах туліліся спараныя цені... Зацікалі нечыя абцасікі-шпількі... Я сунуў руку ў кішэню пінжака – прашалясцела палоска паперы... Ах, гэта ж перад пачаткам сеанса штосьці мяне тузанула, і я купіў два білеты: адзін сабе, а другі... Мне чамусьці падалося, што той другі я некаму прапаную, але... але тое крэсла побач са мною пуставала ў перапоўненым зале...[54] Скамячыўшы білет, паволі пасунуўся, паплёўся паўз нейкага прахожага, які дубасіў кулаком па металічнай асветленай шафцы, якая праглынула траяка, але не пырснула лімонным сіропам... А вунь паперадзе мяне нейкія дзве постаці і, калі я наддаў хады, да мяне прыплыў галасок: “...ты даже представить себе не можешь...” Я пазнаў **яе** голас. Нібы на вочы мне нехта раптам павязаў павязку, я хістануўся ў нейкі двор, лобам натыкнуўся на нейкую сцяну... Як жа ўздрыгвалі плечы мае!..

Помню: калі нас, купка выпускнікоў, сабралася, і перад намі выступаў нехта і гаварыў нешта наконт размеркавання, яна стаяла ззаду ўсіх – тоненькая і ў сваім цёмна-сінім плацці...

Не ад сусветных пытанняў людзі вешаюцца, страляюцца... І гаварыў пра гэта не нейкі там Мапасан[55], а сам Мікалай Гаўрылавіч Чэрнышэўскі[56]...

*(Заканчэнне будзе).*

---

[1] На момант напісання эсэ А. Наўроцкі быў аўтарам раманаў “Пазыка”, “Валун” (выйшаў у 1976 г. як зборнік апавяданняў), “Пакаленні і папялішчы” (“Дуб і жолуд”).

[2] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956) – народны паэт Беларусі.

[3] “Суд у лесе” – паэма Якуба Коласа на тэму барацьбы беларускіх партызанаў з гітлераўскімі акупантамі. Напісана ў кастрычніку 1942 г., упершыню выйшла асобным выданнем у 1943 г.

[4] Маецца на ўвазе паэма “Адплата”, напісаная Я. Коласам у красавіку 1943 г. – лістападзе 1944 г.

[5] Шаршнёва Рыма (1925–1942) – удзельніца партызанскага руху і камсамольскага падполля ў Мінскай вобласці ў Другую сусветную вайну.

[6] Цытата з паэмы Я. Коласа “Суд у лесе” (раздзел XII).

[7] Багдановіч Максім (1891–1917) – класік беларускай літаратуры.

[8] Гэты матыў лёг у аснову верша А. Наўроцкага “Тваё імя”: *“Тваё імя – сваю адзіную ўцеху – / напісаў я на снезе...”*.

[9] “Ціхі Дон” – вядомы раман расійскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Міхаіла Шолахава (1905–1984).

[10] У 1949 г. сям’я Наўроцкіх пераехала з вёскі Давыдаўка Даманавіцкага раёна Палескай вобласці (цяпер Светлагорскі раён Гомельскай вобласці) у вёску Вяжны таго самага раёна.

[11] Пушкін Аляксандр (1799–1837) – класік рускай літаратуры.

[12] “Піянер Беларусі” – рэспубліканская газета для дзяцей школьнага ўзросту і падлеткаў. Выдавалася з 1929 г. З 1993 г. выходзіць пад назвай “Раніца”.

[13] Нядзведскі Уладзіслаў (1929–1973) – паэт, празаік.

[14] “Бярозка” – ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс для дзяцей і падлеткаў. Выдаецца ў Мінску з 1929 г., да 1941 г. меў назву “Іскры Ільіча”.

[15] “Чырвоная змена” – беларуская маладзёжная газета, выдаецца ў Мінску з 1921 г.

[16] “Звязда” – рэспубліканская грамадска-палітычная газета, выдаецца ў Мінску з 1921 г.

[17] Маецца на ўвазе рэдакцыя бабруйскай абласной газеты “Савецкая Радзіма” (выходзіла ў 1944–1953 гг.).

[18] Шчарбатаў Георгій (1919–1957) – празаік, журналіст.

[19] Маякоўскі Уладзімір (1893–1930) – расійскі паэт.

[20] Валасевіч Эдуард (1918 – 1997) – паэт-байкапісец, драматург.

[21] “Ранак ідзе” – верш А. Наўроцкага. Упершыню: час. “Полымя”, 1954, № 10.

[22] Пані Анэта – гаспадыня, у якой кватараваў А. Наўроцкі падчас сваёй фельчарскай практыкі ў вёсцы Вышкава Мірскага (цяпер Карэліцкі) раёна Гродзенскай вобласці.

[23] “Рыбакова хата” – паэма з 24 раздзелаў, напісаная Якубам Коласам у 1940–1947 гг.

[24] Глінка Міхаіл (1804–1857) – расійскі кампазітар.

[25] Пачатак верша “Я хацеў засмяяцца...” (1955), які ўвайшоў у першую кнігу А. Наўроцкага “Неба ўсміхаецца маланкаю”.

[26] Козачка – мянушка аднакурсніцы паэта па медінстытуце.

[27] Верш упершыню апублікаваны ў час. “Полымя”, 1957, № 6.

[28] Брыль Янка (1917–2006) – народны пісьменнік Беларусі.

[29] У.У. Маякоўскі.

[30] Кукрыніксы – творчы калектыў савецкіх мастакоў-графікаў і жывапісцаў, у які ўваходзілі Міхаіл Купрыянаў (1903–1991), Парфірый Крылоў (1902–1990) і Мікалай Сакалоў (1903–2000).

[31] Упершыню апублікаваны пад назвай “З думкай пра мір” (“ЛіМ”, 1958, 2 крас.).

[32] Упершыню – у кнізе “Неба ўсміхаецца маланкаю” (Мінск, 1962).

[33] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч; 1896–1991) – народны пісьменнік Беларусі, вядомы перадусім сваімі сатырычнымі творамі.

[34] Неруда Пабла (1904–1973) – чылійскі паэт, дыпламат і палітычны дзеяч.

[35] Хікмет Назым (1902–1963) – турэцкі паэт, празаік, сцэнарыст, драматург і грамадскі дзеяч.

[36] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген; 1912–1995) – народны паэт Беларусі, акадэмік АН Беларусі.

[37] Броўка Пятрусь (1905–1980) – народны паэт Беларусі.

[38] Глебка Пятро ( 1905–1969) – паэт, перакладчык, драматург, вучоны, грамадскі дзеяч.

[39] Бялевіч Антон (1914–1978) – паэт.

[40] Гэты верш А. Наўроцкі пазней скарыстаў у сваёй паэме “Палячыце нас, доктар!” (Наўроцкі А. Пакаленні і папялішчы. Мінск: Маст. літ., 1990. С. 35).

[41] Вялюгін Анатоль (1923–1994) – паэт, празаік, кінасцэнарыст, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

[42] “Новый мир” – савецкі і расійскі літаратурны часопіс. Выдаецца ў Маскве з 1925 г. У 1947–1991 гг. – орган Саюза пісьменнікаў СССР.

[43] Вазнясенскі Андрэй (1933–2010) – расійскі паэт, публіцыст, мастак і архітэктар.

[44] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (н. 1936) – перакладчык, рэдактар.

[45] Хлебнікаў Велімір (Віктар Уладзіміравіч; 1885–1922) – расійскі паэт і празаік, яскравы прадстаўнік авангарду.

[46] Кірсанаў (сапр. Кортчык) Сямён Ісакавіч (1906–1972) – расійскі паэт.

[47] Паэма апублікавана ў кнізе А. Наўроцкага “Неба ўсміхаецца маланкаю” (Мінск, 1962).

[48] Маецца на ўвазе халасты стрэл, які з’явіўся сігналам да пачатку штурму Зімняга

палаца ў Петраградзе 25 кастрычніка 1917 г. Узяцце рэзідэнцыі Часовага ўраду было здзейснена без істотных баявых дзеянняў, але пад пагрозай прымянення зброі. Яно стала адной з ключавых падзей Кастрычніцкага перавароту.

[49] Верш упершыню апублікаваны ў час. "Полымя", 1961, № 4.

[50] Талстой Леў (1828–1910) – класік рускай літаратуры.

[51] Мікалай II Аляксандравіч (1868 – 1918) – апошні расійскі імператар. Расстраляны бальшавікамі разам з сям'ёй і блізкімі асобамі.

[52] Пеця Растоў – герой рамана "Вайна і мір" Л. Талстога.

[53] "Неба ўсміхаецца маланкаю".

[54] Гэты выпадак стаў тэмай верша А. Наўроцкага "Зябкім холадам асіны сагрэты" (кніга "Пакаленні і папялішчы", 1990).

[55] Мапасан Гі дэ (Анры-Рэнэ-Альбер-Гі дэ Мапасан; 1850–1893) – французскі празаік.

[56] Чарнышэўскі Мікалай (1828–1889) – расійскі пісьменнік і мысляр. Алесь Наўроцкі мае на ўвазе выказванне М. Чарнышэўскага ў лісце да М. Някрасава ад 5 лістапада 1856 г.: "не от мировых вопросов люди топятся, стреляются, делаются пьяницами, – я испытал это и знаю, что поэзия сердца имеет такие (же) права, как и поэзия мысли, – лично для меня первая привлекательнее последней".

Валерый Назараў



...няма нічога патаемнага,
што не раскрылася б...

# Маленькая сага...

***«Мухтук і папка» Янкі Брыля: некаторыя разважанні над матэрыяламі пісьменніцкага архіва***

Часам жыццё падае такія сюжэты, калі ўжо амаль няма патрэбы ў мастацкай выдумцы, аднак на іх творчае асваенне можа рашыцца далёка не кожны аўтар. На прыкладзе пісьменніцкай біяграфіі Я. Брыля гэтая ісціна становіцца найбольш відавочнай.

Нейкая загадкавая гульня Вышэйшай Сілы адчуваецца ў тым, што пісьменніку амаль з самага пачатку яго творчага шляху было вядома пра пазнаванне трагічнага лёсу блізкага чалавека па яго асабістай рэчы. Яшчэ ў 1944 г. Якаў Машчонскі, селянін не такой і далёкай ад Загора вёскі Новае Сяло, расказаў Я. Брылю наступную гісторыю:

«...Сына майго, Паўлюка, нявестку Маню і трое дзяцей летам ужо, падчас аблакады, сынок, у гумне Карніцкага жыўём спалілі...

...Па чым, кажаш, я сваіх пазнаў? Па ножыку, сынок. У мяне такі складанчык быў, дзеравяныя тронкі. Павал мой кажа: — Вы мне, татка, пакіньце яго (тады гэта ў лесе), бо хлеба адрэзаць няма чым... Я яму пакінуў. А потым... ах... Іх-жа там у адным гумне,

150 жыўём спалілі... Дух забівае, сынок, ногі не дзяржаць... Бачу пяцёра: ні галоў, ні ручак... Павярнуў я найбольшы асмалак — учарнелы як вугаль, сынок, — дык ён гэтак во бокам ляжаў і складанчык мой у яго пад сцягном, у кішэні... Толькі тронкі абгарэлі. Тут я, дзеткі, і ахнуў: вось дзе яны, мая сямейка...» [3].

Ці здагадваўся пісьменнік, што з нечым падобным яму давядзецца сутыкнуцца самому, ды ўжо ў добрым веку, калі трагічная навіна значна больш узрушвае і значна мацней адбіваецца на здароўі? Магчыма, і не, бо лічыў, што такога кшталту прадбачанне не было ўласціва яму ў маладосці. Словамі аповесці: «Я ж толькі заўважаю гэта ў апошнія гады ў самім сабе і не магу назваць такую з'яву інакш, як прадчуванне, уласцівае старасці» [4, с. 182].

Але ў той самы час і трошкі *так*, бо з маленства ён цікавіўся творамі Мікалая Гогаля з усімі яго жахамі і чарамі, маладым пісьменнікам інтуітыўна адчуваў сімпатыю да Максіма Гарэцкага і кожны раз, чытаючы «Камароўскую хроніку» ці «Антона», пераконваўся ў невыпадковасці свайго адчування, а ў веку сталым, схіляючыся над старонкамі твораў ужо нябожчыка Уладзіміра Караткевіча, думаў: «І гэта — жыццё. Матэрыі? Духу? У спалучэнні іх?

Ніхто яшчэ як след не растлумачыў. Прынамсі, мне» [2, с. 599].

Наўрад ці Янка Брыль выкінуў з памяці аповед старога чалавека з родных мясцін. А быў жа яшчэ і старэйшы брат Ігнась, святар, які ўпарта імкнуўся пераканаць яго ў існаванні Вышэйшага Пачатку і ўласцівай усім людзям асабістай неўміручасці, прыводзячы пры гэтым шмат прыкладаў неверагодных прадбачанняў манахаў, нават вучоных, спасылаючыся і на асабісты вопыт, але замоўчваючы яго, бо прарок, як вядома, не прымаецца ў сваёй айчыне. І чаго варты запіс Я. Брыля ў накідах да аповесці, што гэта яму якраз было б і цікавей... [7, арк. 23].

Немагчыма абмінуць увагай і яшчэ адзін важны момант. Пісьменнік ці не заўсёды адчуваў глыбокае спачуванне да зламаных катаваннямі. У нататках 1974 года ёсць цытата — апісанне сцэны расстрэлу Федэрыка Гарсія Лоркі, пасля якой Я. Брыль занатаваў: «"Он плакал" я падкрэсліў таму, што ў нас... дакладней – пра нашага героя так не напісалі б. Адкінулі б гэтую слабасць...

У выніку такіх падчыстак і ствараецца амаль усеагульная нудота мемуараў» [2, с. 354]. Пісьменнік ужо тады быў гатовы, наколькі гэта магчыма, да сваёй місіі, да праўдзівага аповеду пра таго, хто быў зламаны катаваннямі і загінуў, але жыве ў памяці і нагадвае пра неабходнасць яе захавання.

23 сакавіка 1989 года са званка кіеўскага журналіста Сяргея Кісялёва (1954-2006) Я. Брыль даведаўся аб тым, што ў адным з лясных масіваў украінскай сталіцы, ва ўрочышчы Быкаўня, пры эксгумацыі парэштак расстраляных савецкіх грамадзян было апазнана па індывідуальнай рэчы, муштуку з надпісам, цела яго роднага брата Валодзі, арыштаванага ў 1937 г.

Тэкст на дзвюх сумежных гранях чатырохграннага, прыплюснутага з боку адтуліны для вуснаў муштука паведамляе: «В. А. Бриль»; «16 IX 1937 г.». Як перад прозвішчам, так і перад годам ён перарываецца своеасаблівым арнаментам, аднолькавым на ўсіх чатырох гранях: шэсць вертыкальных рысак, па тры ў два рады, адзін над другім, і мініяцюрнае кольца кропак пасярэдзіне паміж імі. Пазначаная дата — папярэдні выклік да пракурора, больш чым за два месяцы да арышту; пачатак пакутніцкага шляху.

Па волі Я. Брыля муштук захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі [6]. Гэты прадмет, такі будзённы і адначасова такі страшны, сведка забойства, выняты з патаемнай пахавальнай ямы, яшчэ да сваёй «матэрыялізацыі» ў жыцці пісьменніка абудзіў у яго плынь успамінаў, выклікаў жаданне расказаць пра вялікую сям'ю проста і праўдзіва, амаль без удзелу мастацкай фантазіі. У стрыманым аповедзе «Маленькай сагі» знайшлося месца для многіх блізкіх, у тым ліку для ўсіх братоў і сясцёр, з якіх першае месца па праве заняў найстарэйшы.

Уваходжанне ў апошні год жыцця брата, што застаўся ў СССР і быў знішчаны сталінскай рэпрэсіўнай машынай, — найперш усведамленне жахлівых падрабязнасцяў яго лёсу, яго ламання следчымі. У вытрымках з дзённіка адзначана: «Калі ён, як мама казала, быў «гарачы і горды», дык зламацца яму было тым больш нялёгка, а зломленым — яшчэ цяжэй...» [7, арк. 103]. Пра тое ж сведчаць накіды да аповесці, зробленыя па прачытанні архіўнай папкі з расстрэльнай справай: «Месяцы ад арышту да «прызнання» (30.XI.37 — 22.III.38) трэба памножыць на дні, гадзіны, нават хвіліны суцэльных пакутаў...

А потым, калі «следства» было закончана, а да адсылкі справы і яго ў Кіеў прайшло яшчэ паўгода, — колькі гэта дзён, гадзін, мінут зломленага, зганьбаванага дагасання?..»

І яшчэ адзін, ранейшы: «28.IX асудзілі да вышэйшай меры, а выканалі прысуд толькі 5.X. Адразу падумалася, як ён чакаў гэтыя восем дзён» [7, арк. 24, 13].

Але ў той самы час пісьменнік пакутліва спрабаваў зразумець падтэкст справы: чаму ўсё адбылося менавіта так, з канцэнтрацыяй на браце?

«Навошта ім было выбіваць з Валодзі ўсякую несусвецііцу на Клісенку, якога выпусцілі? Акцэнт не на ім? Чаму мне трэба думаць, што Клісенка мацнейшы за Валодзю, калі Клісенку за год дапытвалі толькі трое сутак? Чаму ім не прыбраць было і яшчэ аднаго — усё ж такі перавыкананне? Чаму такі націск іменна на Валодзю?

Якое логікі ты хочаш?.. Вынесі, Божа, з такога балота крывавага — да светлай чалавечай думкі!.. Чаму ты хочаш гэта зразумець?!»

Вывучэнне матэрыялаў трагічнай эпохі і ўласныя разважанні над імі прывялі пісьменніка да наступнай высновы, надзвычай актуальнай і сёння: «Білі, білі, але, відаць, не ўсіх аднолькава. І ніхто не мае права папракаць тых, што не вытрымлівалі катаванняў, ламаліся. Тым больш не маюць маральнага права меркаваць пра такое тыя, хто падобнага не перажываў» [7, арк. 47, 55].

Першыя накіды аб братах і сёстрах, «рамачцы» датуюцца 13 і 24 красавіка 1989 г. — неўзабаве пасля атрымання весткі аб знаходцы муштука. Тады ж да Я. Брыля прыйшла думка ўключыць у тэкст будучага твора і больш раннія запісы, прысвечаныя падзеям лета 1949 г., калі ён наведаў свайго адэскага дзядзьку. Год у далейшым быў прысвечаны збору матэрыялаў аб братах і іх сем'ях, у тым ліку ліставанню з беларускімі і ўкраінскімі архівамі, са следчымі, адказнымі асобамі і тымі са сваякоў, што, здавалася, маглі праліць святло на таямніцы жыцця Уладзіміра.

Нягледзячы на з'яўленне творчых планаў і ўласна накідаў, іх сістэматычнае папаўненне, Я. Брыль усё ж сур'ёзна сумняваўся ў мэтазгоднасці напісання аповесці: «Зноў я ў дзённік пра ўсё. І ці будзе патрэба пісаць асобна? Усё роўна ж «у стол»...» [7, арк. 106]. Ён цудоўна ведаў краіну, у якой жыве. Прадчуванні жніўня 1991-га (і ці толькі яго) былі таксама ў лістах блізкіх людзей. Так, дачка ўкраінскага пісьменніка Леаніда Смілянскага Валерыя ў хуткім часе напіша Я. Брылю: «...гэты нялюдскі апарат знішчэння цяпер, з «перабудоваю» не толькі не ліквідаваны, а яшчэ ўзмоцнены. І людзі — іх яшчэ многа — не ўсвядомілі, што такое манапольная ідэалогія і манапольная партыя з яе *дысцыплінаю.* Што яшчэ будзе?» [9, арк. 24]. Аднак і выключнасць жыццёвага матэрыялу, і адчуванне свайго асаблівага абавязку, нават асабістай пісьменніцкай адказнасці, паспрыялі пераадоленню ранейшых страхаў і ваганняў. У запісе за 18 лютага 1990 г. Я. Брыль выказаў імкненне прыступіць непасрэдна да працы: «Учора зусім непатрэбнай здавалася мая задума — пісаць пра Валодзю больш, чым напісаў у дзённіку ды ў запісах. А сёння ўранні (запісваю гэта ўвечары) мой учарашні стан душы, настрой назваліся мяшчанскай млявасцю, нервовай стомай» [7, арк. 122].

Вясной 1990 г. былі створаны першыя дзве рэдакцыі тэксту, на дадзены момант не выяўленыя. У чэрвені-ліпені пісьменнік працаваў ужо над трэцяй. У гэты час былі канчаткова вызначаны назвы раздзелаў, дадаліся фрагменты, прысвечаныя

магчымай высылцы сям'і Я. Брыля як сям'і нямецкага ваеннапалоннага і яго лісту, напісанаму да родных з палону. Аўтар істотна перапрацаваў эпізод, звязаны з першай убачанай пахаронкай, выдаліў згадку аб найстарэйшай сястры як сваёй малочнай маці ў гады эвакуацыі. У «чацвёртай рэдакцыі» ўпершыню паявілася жанравае вызначэнне «Маленькая сага», быў кардынальна перапрацаваны фрагмент з імёнамі «нетэарэтыкаў мужнасці» з перадапошняга раздзелу — у бок поўнай дэгераізацыі [5]. Згадка пра глыбока паважанага пісьменнікам Гаўрылу Гарэцкага, які здолеў вытрымаць прыменяныя да яго катаванні, была апушчана, таму што адводзіла ўвагу ад вельмі важнай для аўтара праблемы. Гэта апраўданне ўсіх тых людзей, якія сваіх катаванняў не вытрымалі і зламаліся. На думку аўтара, не так важна, ці магчыма было вытрымаць усё, важна тое, што нікому не дадзена (і ніколі не было і не будзе дадзена) «права рабіць *такую праверку мужнасці*» [4, с. 223].

Я. Брыль працытаваў у творы верш знаёмага паэта і згадаў выступленне прагрэсіўнага ўдзельніка тэлеперадачы, якія гаварылі пра зверствы гітлераўцаў і сталіністаў «з вышэйшай пазіцыі» і «*зусім аб'ектыўна*» [4, с. 198], бо ў іх сем'ях ніхто не быў знішчаны. Ва ўрыўку адчуваецца ўнутраная нязгода пісьменніка з падобнымі выказваннямі. У дзённіках ён акрэсліў уласнае меркаванне больш выразна: «Не разумеў я, тым больш цяпер не разумею такіх довадаў аб'ектыўнасці сведчанняў» [7, арк. 95]. Я. Брыль не імкнуўся палемізаваць з духоўна блізкімі яму Піменам Панчанкам і Алесем Адамовічам па тонкасцях пытання, аднак трэба пагадзіцца, што сам факт знішчэння чалавека знаходзіцца ўсё ж па-за межамі паняцця аб'ектыўнасці / неаб'ектыўнасці. Пісьменнік дакрануўся тут і да яшчэ больш важнай, сучаснай праблемы. Гэта выхаванне неабыякавасці да трагедый мінулага праз абуджэнне элементарнага чалавечага суперажывання, так жахліва цяпер занядбанага.

Нейкі злы рок умешваўся ў жыццё Уладзіміра Брыля яшчэ задоўга да пачатку яго пакутніцкага шляху. У накідах да твора пісьменнік некалькі разоў згадаў, на жаль, без тлумачэнняў, першы арышт брата, што меў месца ў 1920-м годзе. Вось тэкст аднаго з накідаў: «Маглі і яго вадзіць на інсцэніраваны расстрэл, і не аднойчы, маглі страшыць знішчэннем дзяцей, жонкі, сям'і... А ён успамінаў сваю таямніцу — першы, адэскі арышт...» [7, арк. 56].

Даведацца пра сутнасць справы можна цяпер з артыкула У. Калесніка «Чорны крышталь» (метафарычнае абазначэнне аповесці), у якім аўтар паведаміў: «Мне пашчасціла ўдзельнічаць у гутарках Я. Брыля з пляменнікам восенню 1991 года ў Адэсе. Тады была аказія лепш убачыць творчы прынцып Брыля – лаканізм. Не ўвайшоў у сагу, здавалася б, вельмі цікавы эпізод: арышт і вызваленне Уладзіміра Брыля ў 1920 г. Адэскім ДПУ па нагаворы, быццам ён — замаскаваны белагвардзейскі афіцэр. Выходзіла, што над лёсам старэйшага брата здаўна вісеў нейкі злавесны фатум. Валодзю выратаваў тады зямляк, рэвалюцыянер Кергет, якому ў 1905 годзе Антон Брыль памог па-зямляцку вырвацца з кіпцюроў царскіх жандараў. Плацячы дабром за дабро, Кергет пайшоў у ЧК і паручыўся за арыштаванага Уладзіміра Брыля, заявіў, што затрыманы ніякі не афіцэр, а знаёмы яму студэнт. Адэскія чыгуначнікі, чалавек пяцьдзесят, падпісаліся тады пад просьбай аб вызваленні сына паважанага калегі. Валодзя вярнуўся, не дайшоўшы нават да следства. Мажліва, пісьменніка стрымала ад спакусы ўвесці гэты сюжэтны ход у маленькую сагу тое, што аналагічны матыў ужо выкарыстаў К. Крапіва ў п'есе "Хто смяецца апошнім"» [8, с. 225].

З вялікай удзячнасцю трэба прыняць захаваную даследчыкам інфармацыю. Але цяжка пагадзіцца з яго вывадам, а таксама са спробай патлумачыць усё лаканічнасцю аўтарскага стылю. Тым больш, што ў накідах да аповесці сам Я. Брыль планаваў: «Не абмяжоўвацца, не шкадаваць асабістага і сямейнага» [7, арк. 20]. Здаецца, прычына неўключэння ў тэкст твора выяўленага эпізоду глыбейшая. Калі б пісьменнік засяродзіўся на тэме лёсу, спрэчна пачало б выглядаць яго сцвярджэнне пра асабістую адказнасць занадта дысцыплінаваных выканаўцаў крывавых заданняў, амаль немагчымым

зрабілася б абвінавачанне і асуджэнне ўсякага ладу, які трымаецца на чалавеканенавісніцкай ідэалогіі і тэроры. Я. Брыль выдатна разумеў, што кожны чалавек стварае сваё жыццё сам і сам нясе адказнасць за ўсе памылкі і злачынствы. Уладзімір стаў ахвярай не лёсу, а злой волі іншых людзей, і ён тым больш няшчасны, што, будучы гарачым і гордым, мацней раз'юшыў катаў, выклікаў у іх жаданне прымянення самых страшных метадаў ломкі асобы зняволенага. Аднак тым большай з'яўляецца віна і тым большым павінна быць асуджэнне яго забойцаў, ад высокага сакратара абкама, што падпісаў пастанову, да таго, хто, прыводзячы яе ў выкананне, стрэліў.

Пунктірам, паводле вызначэння У. Калесніка, праз аповесць праходзіць аповед пра лёс яшчэ аднаго брата, што таксама застаўся ў савецкай краіне, але яшчэ раней за першага ўведаў ласку новай улады. Гэта Ігнась, святар, якога непапраўна скалечыў, але не «перакаваў» нават Беламорканал. Я. Брыль шчодра цытуе ў творы яго лісты, напісаныя ў 1944-1960 гг. (цяпер яны захоўваюцца ў БДАМЛМ: ф. 59, воп. 3, адз. зах. 278-281). Тыя з іх, што былі дасланы да горкага для ўсёй сям'і 1948 года, поўняцца клопатамі аб фізічным здароўі, неабцяжаранасці працай, належным харчаванні і душэўным спакоі маці. І.А. Брыль востра перажываў сваю шматгадовую адарванасць ад яе, немагчымасць быць побач з-за непераадольнасці мяжы паміж Польшчай і СССР, а таксама з-за сваёй шматгадовай высылкі і пазнейшага «замятання слядоў». Працаваў на гэта і «закон подласці», асвятленне якога ў творы было апушчана. Так, у 1945-м Ігнась пісаў: «Мне должны были дать пропуск в Троицке для поездки в Загорье 25 июня 1941, а 22 июня война...» [1, арк. 2-адв.]. Ён не бачыўся з маці ад часу ад'езду бацькоў з Адэсы ўлетку 1922 года да лета 1946-га, 24 гады.

У аповесці Я. Брыль часам іранізаваў з некаторых поглядаў брата, з прапаведніцкага стылю яго лістоў, наіўнасці вершаў. Аднак пры гэтым пісьменнік не губляў глыбокай павагі да старэйшага, пад уплывам каторага нават перагледзеў многія асабістыя перакананні. Відавочна, што жыццёвы прыклад папа-зэка абумовіў сцвярджэнне ў творы апрыёрнага права чалавека на свабоду сумлення, на спавяданне рэлігіі нават тады, калі гэта супярэчыць інтарэсам дзяржавы. І вера, і аскетызм усё ж дапамаглі Ігнату прайсці праз сваю частку жыццёвых выпрабаванняў.

Тэма лёсу, у гісторыях братоў падспудная, нават не на ўзроўні падтэксту, усё ж прысутнічае ў творы яўна. Яна раскрываецца ў выказанай у фінале радасці пісьменніка, што значна лепш за братнія склалася яго жыццё, што ён не выпаў з балкона ў дзяцінстве, не быў забіты ні ворагамі на фронце, ні «сваімі» ў партызанах, не знік у пасляваенных рэпрэсіях, не зведаў лагернага зняволення. У апошніх радках аповесці аўтар рэзюмаваў:

Як тут не радавацца жыццю?!
Магло ж быць і трохі не так..» [4, с. 224].

У накідах гэта зусім відавочна: «Колькі разоў я думаў, вось і зноў думаю: я ацалеў цудам, я вельмі шчаслівы!» [7, арк. 38].

У. Калеснік пранікліва адзначыў: «Сага мае структуру крышталя, складаецца з мініяцюр, якія, нібы прызмы, зводзяць трагедыйныя матывы ў фокус катарсіса» [8, с. 222]. Параўнанне даследчыка сведчыць пра інтуітыўнае адчуванне ім яшчэ аднаго падтэксту твора. Як у крышталі прысутнічаюць бліскучыя расколіны і каштоўныя ўкрапіны, што становяцца бачнымі пры змене яго прасторавага размяшчэння ці напрамку святла, у аповесці Я. Брыля шмат загадак і недаказанасцяў.

Гісторыі братоў дапаўняюцца гісторыяй пляменніцы Валі, а таксама шматлікімі згадкамі пра пляменнікаў Віцю і Шуру. Аднак некаторыя падрабязнасці трагедый сем'яў Уладзіміра і Ігната непасрэдна пасля іх арыштаў не знайшлі месца на старонках твора. У. Калеснік захаваў аповед Віктара пра першую зіму без бацькі: «Выбросили. Без телеги, без ничего!.. Там [...] знакомый «замком» телегу пригнал, и довезли нас до станции, а там в Мелитополь, к тете Поле — сестра мамы была. И вот тетя Поля

сказала, что там жить нельзя: придет НКВД и увезет в Норильск... И жили мы под Мелитополем в лесу. Мать сделала там из елки такой шатер, и там жили. Мне было год и восемь месяцев, и я вылез босой на снег. Жили мы там месяцев пять-шесть. Мы были в лесу — я и сестра, а мать работала на комбинате в Мелитополе. Семья репрессированных не имела права жить в городе. Значит, маме здорово повезло, что не нашли нас. И мы переехали в Одессу уже в конце 1939 года. И как-то дед и мать нас пропитали» [8, с. 226]. У накідах пісьменніка гаворыцца і пра тое, як Шура, яшчэ зусім дзіця, вымушаны быў стаяць у вялікіх адэскіх чэргах, каб хаця неяк дапамагчы маці. І хто цяпер можа адказаць, якімі меркаваннямі кіраваўся Я. Брыль у адборы вартых адлюстравання фактаў у гэтым выпадку? Ці не мае рацыю С. Андраюк, які лічыць твор своеасаблівым мастацка-паэтычным рэквіемам?

Аповесць ілюструе, наколькі няўлоўнымі, незаўважнымі і незаўважанымі застаюцца адмераныя жыццём цуды. Яны выяўляюцца ў адкрыццях пісьменніка, што яго старэйшыя браты вучыліся ў Міры разам з Уладзімірам Жылкам і маглі знацца з ім і сябраваць, што жонка Ігнася працавала ў беларускай школе ў Адэсе, а арганізатарам школьнай справы там быў Міхайла Грамыка. Аўтар адзначыў, што ў час візіту да гэтага маскоўскага беларуса пачуў, як старэнькая гаспадыня прыгадала сваю беларускую радзіму, Ярэмічы, што за шэсць кіламетраў ад Загора, пасля чаго яны разам весела паўспаміналі роднае Наднямонне. І засталося загадкай, ці ведаў ён, што бацькі Лідзіі Грамыка яшчэ ў маладосці пераехалі ў Адэсу, дзе пазней і ажаніліся, і пражылі да старасці, што яна сама такім чынам — яго зямлячка яшчэ і па гэтым далёкім паўднёвым горадзе. І ці толькі проста зямлячка? Яе бацька, Іван Рытар, як і бацька пісьменніка Антон Брыль, таксама працаваў на чыгунцы, таму ў іх маглі быць агульныя знаёмствы, сяброўствы.

А колькі яшчэ сустрэч, адэскіх і кіеўскіх, што не былі падрабязна асветлены... Некалькі разоў у творы згадваецца даўні кіеўскі сябар Я. Брыля, які шукае ў Быкаўні жончынага бацьку, але не знаходзіць, які дае прытулак аўтару ў час яго кіеўскіх росшукаў. Вытрымкі з дзённікаў, перадрукаваныя для аповесці, дазваляюць сцвярджаць, што гэта — Васіль Казачэнка (1913-1995), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1971) за цыкл партызанскіх аповесцяў «Лісты з патрона» (1967).

Украінскі пісьменнік быў некалі ўцягнуты ў ганебную справу цкавання аднаго з айчынных дысідэнтаў, з-за чаго пасля і сам зведаў грамадскае асуджэнне. Стаўленне Я. Брыля да сябра засталося нязменным. Ён разумеў, што далёка не кожны мог выкруціцца ад «пачэснага» абавязку, а была ж і яшчэ больш важкая таемная прычына. Жонка В. Казачэнкі, дачка рэпрэсаванага, была так запалохана, што баялася нават называць сваё сапраўднае імя па бацьку. І не думаць пра яе ў той час ён, як муж, проста не мог.

З усіх цудаў, падораных жыццём Я. Брылю і згаданых ім у творы, найбольш канкрэтным, адчувальным на дотык застаецца братаў імянны муштук. Ён стаўся неабвержным доказам аднаго з мільёнаў злачынстваў сталіністаў і гэтым пацвярджае старажытную праўду, што няма нічога патаемнага, што не раскрылася б. А папка з чужога архіва, так пакутліва чытаная, паспрыяла ўзнікненню некалькіх папак асабістага архіва пісьменніка.

Я. Брыль адчуваў глыбокую ўдзячнасць да жыцця, да лёсу і за прыемныя, і за страшныя яго дары. Але найбольш важна цяпер, што гэтае пачуццё абумовіла ўнутраную патрэбу сплачвання доўгу перад памяццю блізкіх людзей і перад усім грамадствам. Менавіта Я. Брылю выпала сказаць новае слова ў літаратуры, і ён, ужо на восьмым дзясятку, зрабіў гэта сумленна і з усёй адказнасцю. Да таго ж, пісьменнік здолеў адлюстраваць у лёсе сям'і сапраўдную гісторыю народа, які быў падзелены, права якога на слова знішчалася ў зачатку, лепшыя сыны якога аказваліся ў гулагах і камерах смяротнікаў. Таму маленькая сага Я. Брыля, выкліканая паяўленнем горкай сямейнай рэліквіі, з'яўляецца сама па сабе рэліквіяй нацыянальнай.

Літаратура:

1. Брыль, І. А. [Ліст да Я. Брыля за 1945 г.] / І. А. Брыль // БДАМЛМ. Ф. 59. — Воп. 3. — Адз. зах. 278. — Арк. 2—2-адв.

2. Брыль, Я. Выбраныя творы. У 3 т. Т. 3. / Я. Брыль. — Мінск : Маст. літ., 1993. — 654 с.

3. Брыль, Я. Гора дзядулі Якава / Я. Брыль // Сцяг свабоды. — 1944. — № 28, 14 верасня. — С. 2.

4. Брыль, Я. Запаветнае. Выбраныя творы / Я. Брыль. — Мінск : «Беллітфонд», 1999. — 448 с.

5. Брыль, Я. Мушту к і папка: 3-я і 4-я рэдакцыі. Машынапіс / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 1. — Адз. зах. 142. — 119 арк.

6. Брыль, Я. Муштук і папка: дакументы і матэрыялы / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 2. — Адз. зах. 75.

7. Брыль, Я. Муштук і папка: матэрыялы да аповесці / Я. Брыль // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 2. — Адз. зах. 76. — 123 арк.

8. Калеснік, У. Чорны крышталь / У. Калеснік // Маладосць. — 1996. — № 1. — С. 215—227.

9. Смілянская, В. [Ліст да Я. Брыля ад 24 сакавіка 1991 г.] / В. Смілянская // АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 10. — Воп. 2. — Адз. зах. 79. — Арк. 23—24.



Алесь Бельскі



…Я яшчэ табе песню спяю,
О, нявеста мая, – Беларусь!..

# "Свой крыж"

***Слова пра Генадзя Праневіча***

Сумная вестка прыйшла з Брэста: на 67-м годзе пайшоў з жыцця літаратуразнаўца і пісьменнік Генадзь Праневіч. Вясновы дзень 27 красавіка 2017 г. стаў скрушліва-сумным, жалобным. Таму слова маё развітальнае, а пісаць яго цяжка...

Генадзь Праневіч – улюбёнец Алега Лойкі, вядомага беларускага паэта і нашага агульнага навуковага кіраўніка. Алег Антонавіч высока цаніў асобу, талент маладзейшага калегі, адным з першых разгледзеў яго значныя творча-патэнцыяльныя магчымасці. У вершы «Няма, як над Бугам...» ён звяртаўся да Генадзя Праневіча па-бацькоўску, з сардэчнай сяброўскай цеплынёй, выказваючы пачуццё ўнутранай лучнасці:

І край, што ў нас за плячыма
Да самага да Дняпра –
Край родны, і немагчыма
Нам без яго, мой Пра... –

Мой дарагі, хто не гневіць,
Мой дружа, сыне мой,
Летапісец... невіч
Краіны не нямой!

Нездарма А. Лойка сэнсава вылучыў гэтае «Пра...» ў прозвішчы Генадзя Мікалаевіча. Ён адчуваў у ягонай існасці штосьці спрадвечнае, глыбінна беларускае, духоўна роднаснае.

Алег Лойка быў свой у Брэсце, ці, кажучы па-даўняму, у Берасці. Сюды прыязджаў на літаратурныя мерапрыемствы, некалькі гадоў запар кіраваўся ва ўніверсітэт на абарону дысертацый. Шлях Алега Антонавіча пралягаў праз горад над Бугам у Польшчу, дзе ён выкладаў у Сельдцах, назапашваў матэрыял для анталогіі польскай паэзіі. Надаралася, запыняўся ў Генадзя Праневіча. Некаторыя з тых сустрэч з вядомым паэтам і сваім навуковым кіраўніком ён прыгадваў і ў Мазыры на беразе Прыпяці, калі мы майскім днём 2007 г. на аказію гаварылі пра Алега Антонавіча, і ў Мінску, калі паміналі Алега Антонавіча ў маі 2011 г. у майстэрні скульптара Івана Міско, а потым, гамонячы, разам кіраваліся на чыгуначны вакзал, дзе колькі часу сядзелі ў кавярні ў коле філалагічнай сябрыны.

У 1983 г. Генадзь Праневіч скончыў дзённую аспірантуру пры філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. А да гэтага пакаштаваў рознага хлеба: рабочага (працаваў на заводзе токарам), студэнта (вучыўся на беларуска-рускім аддзяленні філфака Белдзяржуніверсіта, які скончыў у 1974 г.), вайскоўца (два гады служыў афіцэрам у Савецкай Арміі), педагога (выкладаў у прафтэхвучылішчы будаўнікоў з 1976 г. і займаў пасаду намесніка дырэктара). З 1978 па 1980 г. працаваў у апараце гаркама партыі. Генадзь Праневіч, на той час ужо не юнак, а даволі сталы чалавек, зрабіў выбар на карысць навукі і педагагічнай працы. На шчасце, ён не стаў партыйным функцыянерам, а пайшоў па дарозе духоўна-інтэлектуальнага светапазнання, з цягам часу вырас у сур'ёзнага, глыбокага даследчыка нацыянальнай літаратуры. Над кандыдацкай дысертацыяй працаваў надзвычай удумліва і адказна, тэму імкнуўся распрацаваць канцэптуальна, грунтоўна. Навуковая «планка» кіраўніка была высокай, праца пасоўвалася няспешна, марудна, вымагала дадатковага часу і высілкаў. Пазней Г. Праневіч распавёў, з якім адчуваннем пакідаў Мінск пасля аспірантуры: «З няпэўнай перспектывай абароны кандыдацкай дысертацыі, якая здавалася мне недасканалай і незавершанай, бо ў душы я адчуваў агромністы патэнцыял і важнасць для літаратуразнаўчай навукі абранай мною тэмы, якая палягала на сувязях класічнай паэзіі Янкі Купалы з традыцыямі літаратуры беларускага Сярэднявечча і патрабавала ні больш ні менш, як стварэння цэласнай канцэпцыі пераходнага перыяду ад старой да новай літаратуры. І вось гэтай-то маёй звышзадачы не разумеў, бадай што, ніхто, акрамя Алега Антонавіча, які ўвесь час падтрымліваў мяне і верыў, што задуманае мне па сілах...» («Непаслядоўныя хронікі»).

Аспірантам і маладым выкладчыкам тады, у савецкі час, не заўсёды давалі магчымасць паўнавартасна займацца навуковай працай. Выбачайце, яны былі ледзь не ва ўсіх дзірках затычкамі. Першага верасня 1981 г. для Г. Праневіча пачыналася на сельгасработах у Круглянскім раёне. Тут, у вёсцы Круча, я і пабачыў Генадзя Мікалаевіча ўпершыню. Ён апекаваўся намі, першакурснікамі філфака. Праўда, я не ведаў, што ён аспірант, лічыў, што гэта наш будучы выкладчык. Як ні намагаюся, але не магу прыпомніць, каб Генадзь Праневіч хадзіў па полі і назіраў за намі, студэнтамі. Снедалі, вячэралі разам у саўгаснай сталоўцы – так, прыгадваю. Помніцца перадусім іншае. Неяк надвячоркам пры старой будыніне, дзе мы, студэнты, начавалі, разам з іншымі хлопцамі-аднакурснікамі я слухаў ягоныя развагі пра Янку Купалу. Зноў жа: тады я не ведаў, што Генадзь Праневіч пісаў кандыдацкую дысертацыю, уласна кажучы, сур'ёзна падымаў-распрацоўваў сваю навуковую тэму.

Разважаў ён глыбока, арыгінальна. Такога я ў школьным падручніку не чытаў, як і не чуў, каб нехта на такім узроўні свабодна, без паперак выкладаў думкі. Помню яго словы пра «гераічную традыцыю ў паэзіі Купалы», праведзеную паралель са «Словам аб палку Ігаравым». «Уразіў» – не тое слова. Агаломшыў, нават напалохаў. Здавалася, што я ніколі не змагу дасягнуць такой філалагічнай вышыні, не здолею быць такім, як ён. «Як я буду вучыцца на філфаку!» – ахапіла мяне роспач, слухаючы Генадзя Мікалаевіча. Пасля таго, як я паступіў у БДУ, ён быў першым навукоўцам-філолагам, які зрабіў на мяне моцнае, незвычайнае ўражанне сваім інтэлектам, глыбінёй ведаў.

Генадзь Праневіч вярнуўся на роднае Палессе, каб бліжэй быць да сваіх каранёў і вытокаў. Ён, сялянскі сын, нарадзіўся 3 кастрычніка 1950 г. у вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага раёна. У 1967 г. пасля сканчэння сярэдняй школы паехаў у Брэст, дзе пачыналіся яго жыццёвыя ўніверсітэты. Нялёгка Г. Праневічу было развітвацца з Мінскам, кафедрай беларускай літаратуры, дзе ён меў поўнае права на тое, каб працаваць. Але абставіны склаліся інакш, да таго ж у горадзе над Бугам яго, маладога бацьку, чакала сям'я.

Лёс прывёў Г. Праневіча ў Брэсцкі педінстытут на кафедру беларускай літаратуры да Уладзіміра Калесніка. Не адразу з яе загадчыкам склаліся роўныя адносіны, адбывалася прыцірка. Уладзімір Андрэевіч прыглядаўся і вывучаў «навабранца». Алег Лойка, ведаючы Уладзіміра Калесніка асабіста, меў веру-спадзяванне, што яму таленавіты хлопец прыйдзецца па душы. Перад ад'ездам Алег Антонавіч прарочa сказаў: «Едзь! Ён цябе палюбіць!..» Сапраўды, з цягам часу Генадзь Праневіч займеў прыхільнасць і давер з боку У. Калесніка, які ацаніў яго аналітычны склад розуму, разгледзеў навукова-творчы патэнцыял. Упэўніўся, што і лектар ён надзвычай здольны, і чалавек сапраўдны, хоць і з характарам. Ён стаў для Уладзіміра Андрэевіча цікавым суразмоўцам, духоўна блізкай асобаю. У кафедральным асяродку Г. Праневіч вылучыўся як літаратуразнавец-даследчык, таленавіты педагог. Нарэшце ў 1990 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Абарона адбывалася ў сценах Мінскага педінстытута імя А.М. Горкага. На ёй прысутнічаў і Уладзімір Калеснік. У канцы пасяджэння ён выступіў як загадчык кафедры, сказаў ухвальнае слова пра дысертацыю і станоўча ахарактарызаваў асобу прэтэндэнта на навуковую ступень. Пасля Генадзевай абароны, у перапынку, Алег Антонавіч Лойка прадставіў мяне, маладога выкладчыка, Уладзіміру Калесніку: «Сваёй абаронай сёння Генадзь планку падняў, дык вось хай раўняецца. Ён жа таксама на падыходзе». Уладзімір Андрэевіч у адказ абмовіўся: «Палешукі планку трымаць умеюць». Другім у той дзень абараняўся У. Сенькавец, Генадзеў калега і сябар. Ужо вучоны сакратар зачытваў асабістую справу прэтэндэнта, калі я падышоў і сеў побач з Генадзем Мікалаевічам, хацеў прывітаць яго і павіншаваць з бліскучай абаронай дысертацыі. Павярнуў галаву, але Уладзімір Андрэевіч Калеснік прыклаў указальны палец да вуснаў, даючы зразумець, што турбаваць новага кандыдата навук нельга. І толькі тут я заўважыў, што Генадзь Мікалаевіч, крыху схіліўшы галаву, сядзіць з заплюшчанымі вачыма. Пасля нервова-псіхалагічнага напружання ён заснуў...

Міне трохі часу, і ў сакавіку 1994 г. Генадзь Праневіч па прапанове прафесара У. Калесніка будзе абраны загадчыкам кафедры беларускага літаратуразнаўства. Ён, прагназуючы перспектыву, зрабіў стаўку на моцную творчую асобу. Зрабіў усвядомлены выбар. Безумоўна, то былі і высокае прызнанне, і вялікі гонар: сам Уладзімір Калеснік, выдатны літаратуразнавец і педагог, убачыў у ім пераемніка, адвёў яму ролю лідара-інтэлектуала на чале кафедральнага калектыву.

Праўда, і ў Генадзя Праневіча праз год пасля абароны дысертацыі надарыўся адказны момант выбару. У 1991 г. прафесар Алег Лойка ўзначаліў філалагічны факультэт БДУ. Намеснікам дэкана ён паклікаў быць Генадзя Праневіча, аднак

той адмовіўся, на што, зразумела, былі свае прычыны. Адна з іх – няўпэўненасць ва ўласным здароўі. «Першы званочак для мяне ўжо празвінеў», – прызнаўся ён, калі мы разам вандравалі па купалаўскіх мясцінах у верасні 1995 г. Усю дарогу з Мінска да Акопаў сядзелі ў аўтобусе поруч. Здаецца, гаманілі б і гаманілі... Пра той «званочак» згадалася, калі пазней чытаў Праневічавы ўспаміны пра Уладзіміра Калесніка: «Ён першы адведаў мяне ў аддзяленні сасудзістай хірургіі абласной бальніцы, куды я нечакана трапіў улетку 1989 г. пасля крывазліцця ў мозг. Сядзеў... Гаварылі... І для мяне гэта было вельмі важна, каб жыць далей...» («Непаслядоўныя хронікі»). Чулая ўвага і падтрымка Уладзіміра Андрэевіча шмат значылі для Генадзя Праневіча, як і апека, клопат сямейнікаў. Застаўся ён у Брэсце, бо, мабыць, так лёсам было наканавана.

Уладзімір Калеснік для Г. Праневіча – ідэал адраджэнца-пасіянарыя, узор сапраўднага навукоўца і прынцыповага крытыка, бясспрэчны маральны аўтарытэт. На ўсё астатняе жыццё ён захаваў у сэрцы да старэйшага калегі шчырае пачуццё ўдзячнасці і глыбокага піетэту. Генадзь Мікалаевіч спрычыніўся да выдання кнігі пра У. Калесніка «Пасланец Праметэя» (2007), напісаў да яе выдатную прадмову. Прысвяціў асэнсаванню яго творчай асобы артыкулы «Падзвіжнік духу» («ЛіМ», 2007, 3 жн.), «Поруч з Калеснікам» («Полымя», 2007, № 9), «Уладзімір Калеснік і гуманітарная навука: вопыт і перспектывы» («Веснік Брэсцкага ўніверсітэта». Серыя 3. – 2012, № 2) і інш.

Прафесара У. Калесніка не стала ў 1994 г. Генадзь Праневіч напісаў верш у вянок памяці Уладзіміра Андрэевіча, у якім выказаўся і пра ўласны лёс:

Не даручыў
Ніякіх абавязкаў...
Сказаў адно:
Жыві з сваёй душы!..
І я пайшоў
Дарогай гэтай цяжкай,
Як ён... Свой крыж
Па свеце валачыць!..

У кожнага свой крыж. Яму наканавана было жыць – і трэба было ісці праз цяжкасці, выпрабаванні. «Свой крыж» нёс да канца. На жаль, яму даводзілася цярпець уціск, несправядлівасць, змагацца за месца пад сонцам. Не ўсё складвалася так, як хацелася і жадалася. Урэшце мусіў пайсці з выкладчыцкай працы, праз тое вельмі перажываў...

Генадзь Праневіч – выбітны беларускі медыявіст, таленавіты даследчык, які цудоўна ведаў мастацтва слова. На думку А. Лойкі, ён быў на ўзроўні доктара навук і прафесара. «Зрэдку тэлефануй Генадзю, апаноўвай яго і не злазь, каб вёз доктарскую», – прасіў мяне Алег Антонавіч як вучонага сакратара савета. Ён вельмі шкадаваў, што яго ўлюбёны вучань не абараніўся, спадзяваўся, што той усё ж выйдзе на абарону доктарскай дысертацыі. Здавалася, гэта справа часу. У 1997-2000 гг. Г. Праневіч вучыўся ў дактарантуры пра Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Працу над тэмай працягваў, але... Ды, урэшце, хіба сапраўдны навуковы статус вызначаецца выключна дыпломам доктара навук? Напрыклад, вядомы савецкі філосаф, пісьменнік, перакладчык Якаў Галасаўкер ці наш беларускі крытык Рыгор Бярозкін не былі нават кандыдатамі навук, аднак сталі выдатнымі знаўцамі літаратуры, першакласнымі прафесіяналамі сваёй справы, да кніг якіх звяртаюцца і па сёння.

Творчая спадчына Г. Праневіча складае больш як 200 прац. Сярод іх вылучаецца канцэптуальнае даследаванне «Славянскі рамантызм эпохі нацыянальна-вызваленчых рухаў і вобраз беларускага нацыянальнага адраджэння ў паэзіі Янкі Купалы» (1993), якое было падрыхтавана як даклад на XI Міжнародны з’езд славістаў. Г. Праневіч на аснове праведзенай тыпалогіі вызначыў рамантызм як спалучаль-

нае звяно паміж Сярэднявеччам і новай беларускай літаратурай. Асаблівае месца ў яго творчым даробку займаюць працы, прысвечаныя Льву Сапегу, знакамітаму дзяржаўнаму і вайсковаму дзеячу, канцлеру Вялікага Княства Літоўскага, аднаму з галоўных стваральнікаў Статута 1588 г. – першай беларускай канстытуцыі. У 2003 г. асобным выданнем пабачыў свет біяграфічны нарыс Г. Праневіча «Леў Сапега: жыццё дзеля Айчыны». Ён надрукаваў артыкулы: «Літоўскія Статуты і духоўная спадчына Льва Сапегі ў літаратуры і грамадска-палітычнай думцы Беларусі XIX – першай трэці XX стст.» (2007), «Духоўная спадчына Льва Сапегі і эпоха нацыянальнага адраджэння Беларусі» (2007), «Берасце і Літоўскі Статут 1588 г.: нараджэнне маніфеста свабоды» (2010), «Сапегі ў культуры і гістарычным лёсе Беларусі: радавод» (2015) і інш. Генадзь Мікалаевіч быў не толькі глыбокім знаўцам біяграфіі і спадчыны Льва Сапегі, але і палымяным прапагандыстам, папулярызатарам ведаў (зрабіў шмат выступленняў!) пра гэтага славутага дзеяча старажытнай беларускай дзяржавы, якога ў свой час называлі «бацькам і збаўцам Айчыны». Цікавасць да асобы і дзейнасці вялікага канцлера літоўскага тлумачыцца і тым, што Г. Праневіч з 1994 па 2004 г. быў старшынёй Брэсцкага аддзялення грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі».

Першае дзесяцігоддзе новага XXI ст. было для яго ў цэлым плённым. У друку і надалей з'яўляліся навуковыя публікацыі Г. Праневіча. Яго артыкулы выходзілі адзін за адным: «Біблія як інтэртэкстуальнае поле ў творах беларуска-польскіх рамантыкаў XIX – пачатку XX ст.» (2010), «Макрына Мечыслаўская і вобраз уніяцкай царквы ў творах беларускіх і польскіх рамантыкаў XIX стагоддзя: праблема факта і мастацкага вымыслу» (2010), «Францыск Скарына і ўсходнеславянскі свет: алгарытмы культурнага ўзаемадзеяння» (2011), «Ад "Прускай вайны" Яна Вісліцкага да "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага: кантрапункты вайны і міру» (2011), «Максім Багдановіч і эстэтычны свет Скарыны» (2012) і інш. Здавалася, Генадзь Мікалаевіч быў у нядрэннай творчай форме. З кожнай працы ён паўстае як удумлівы, дапытлівы даследчык-аналітык, які прэзентуе ўласна вынашаныя і абдуманыя ідэі і погляды, версіі і высновы.

Апрача літаратуразнаўчых публікацый ён пісаў і навучальныя тэксты. На мой погляд, у школьным падручніку па беларускай літаратуры для X класа яго раздзел пра даўнюю літаратуру быў лепшым. Трэба сказаць, што доўгі час існавалі дзве праграмы па беларускай літаратуры – «мінская» і «брэсцкая», паводле якіх ствараліся два асобныя вучэбна-метадычныя комплексы. Аднак было прынята рашэнне аб'яднаць гэтыя дзве паралелі, і ў 2006 г. пабачыла свет адзіная тыпавая праграма па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйных устаноў. З'явілася патрэба і ў адным падручніку. На той час я працаваў у Нацыянальным інстытуце адукацыі на пасадзе галоўнага навуковага супрацоўніка, таму, абяркоўваючы пытанне наконт падрыхтоўкі вучэбнай літаратуры для старшых класаў, мною была агучана ідэя аб стварэнні агульных творчых калектываў з ліку мінскіх і брэсцкіх аўтараў, прычым настойваў на тым, каб захаваць лепшае з розных падручнікаў. «Неабходна аб'яднаць лепшыя творчыя сілы Беларусі», – пераконваў я. Кіраўніцтва інстытута вырашыла па-свойму, мне было даручана ўзначаліць працу па стварэнні падручніка для IX класа. Калі б ведаў, што мяне чакае, то, напэўна, адмовіўся б адразу, сказаў бы катэгарычнае «не». І ўсё ж вырашыў паспрабаваць. У суаўтары я перш-наперш запрасіў Ірыну Багдановіч, каб яна напісала раздзелы па беларускай літаратуры XIX ст. і раздзел пра жыццё і творчасць Янкі Купалы. Паколькі ў падручніку брэсцкіх аўтараў быў моцны тэкст па даўняй літаратуры Генадзя Мікалаевіча Праневіча, то патэлефанаваў даўняму знаёмцу-калегу і прапанаваў яму дапрацаваць раздзел для новага падручніка. Аднак, пэўна, пралічыўся, бо пасля рэакцыя з боку адной адказнай і амбітнай асобы ў тамтэйшым універсітэце была нечаканай, непрадказальнай. Праз дзень ці два па тэлефоне я ледзь даслухаў гнеўную тыраду: «Чаму Праневіч? Чаму ён, а не хто-небудзь іншы? Я вам

кажу: у нас палова кафедры напіша не горш, а лепш за Праневіча!» Пазней давялося пачуць пагрозу: маўляў, будзем пісаць Прэзідэнту... І менавіта тады я адчуў і зразумеў драму Генадзя Праневіча. Як гэты гнеўны крык розніўся з павагай, любоўю Калесніка і Лойкі... Падручнік мы так і не напісалі. Свае матэрыялы Г. Праневіч аформіў у выглядзе артыкулаў, якія ў 2009 г. надрукаваў у навукова-метадычным часопісе «Беларуская мова і літаратура»: «Даўняя беларуская літаратура», «Літаратура эпохі Сярэднявечча», «Літаратура эпохі Адраджэння», «Публіцыстыка Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага».

Над несправядлівасцю, нялюдскасцю і пякучай крыўдай Генадзь Праневіч мог узвысіцца толькі духам, інтэлектам, словам, творчасцю. Вось паэтычныя радкі Г. Праневіча з «Рыцарскай песні»:

Я яшчэ дакрануся кап'ём
Твайго залатога пасаду!..
Я яшчэ табе песню спяю,
О, нявеста мая, – Беларусь!..

Жыў ён для Беларусі і па-рыцарску служыў ёй. Наколькі дазвалялі дух, сілы, моц. Ён, як і ў свой час Янка Купала, добра разумеў, наколькі кардынальна мяняецца свет і людзі, быццё беларусаў. Мабыць, таму, нягледзячы на пэўныя жыццёвыя ўскладненні ды мітрэнгі, Г. Праневіч жыў літаратурай, думкай пра духоўна значнае, быў у пошуках важных гістарычных і філасофскіх сэнсаў. У мінулым ён шукаў так патрэбнае ўнутранае апірышча, «грунт пад нагамі». Г. Праневіч стаў яркім творчым інтэлегентам-мысляром, даследчыкам-філосафам, позірк якога быў скіраваны да спазнання этнакультурных вытокаў нашай нацыянальнай самабытнасці, асэнсавання ментальна-духоўнага свету беларусаў, гістарычнага лёсу Беларусі, станаўлення дзяржаўнасці, дэмакратычных асноў грамадства. У гэтай сувязі варта назваць шэраг праблемных артыкулаў Г. Праневіча: «Гістарычныя формы дэмакратыі і самакіравання на Беларусі» (1999), «Менталітэт у сістэме каардынат нацыянальнага быцця» (2001), «Беларусы: праблемы нацыянальнай тоеснасці» (2010), «Аб этымалогіі і этнагенетычным падложжы назваў "Літва", "Палессе": версіі і назіранні» (2010), «Вацлаў Ластоўскі аб волата-крывіцкім паходжанні беларусаў» (2013) і інш.

Ён пачуваў сябе сваім у асяродку інтэлектуалаў, людзей глыбокіх, годных, незалежных. Невыпадкова Г. Праневіч быў мадэратарам літаратурнага семінара «Формула творчасці: час і слова» з удзелам С. Алексіевіч і А. Разанава, які ладзіўся ў рамках Дня шведска-беларускай паэзіі ў Брэсце ў 2012 г. Затым ён даў цікавае, змястоўнае інтэрв'ю «Пачаўся шлях з грэкаў у варагі...» журналістцы «Брэсцкага кур'ера» І. Хоміч, у якім раскрыў гістарычны аспект стасункаў з краінамі Скандынавіі, гаварыў пра неабходнасць культурнага дыялогу, кантактаў дзеля наладжвання супрацоўніцтва, спазнання свету і саміх сябе, усведамлення «нашай еўрапейскай ідэнтычнасці». Генадзь Мікалаевіч, маючы грунтоўныя гісторыка-культуралагічныя веды, глыбока аналізаваў факты, з'явы і на гэтай падставе вылучаў гіпотэзы, пазначаў прыярытэты і перспектывы.

У друку Г. Праневіч зрэдку выступаў як літаратурны крытык. Звяртаўся да разгляду кніг і твораў духоўна блізкіх аўтараў: А. Лойкі, Н. Мацяш, М. Пракаповіча, А. Каско і інш. Ён чытаў тое, што жывіла розум, наталяла дух, давала спажытак душы. Ужо назва артыкула «Кельты і праблема нацыянальнага рубяжа» («Літаратурная Беларусь», 2010, 12 ліст.) красамоўна гаворыць пра ўзровень праблемна-аналітычнага асэнсавання аповесці А. Лойкі «Кельты не ўміраюць...». Бліскуча напісаны ўступны артыкул да пасмяротнай кнігі Н. Мацяш «У прыгаршчах ветру» (2009). Надзвычай тонка ён адчуваў яе паэзію, высока ацэньваў постаць гэтай таленавітай беларускай жанчыны. Вось што сказаў Г. Праневіч у адной з гутарак: «Я бачу яе поруч з такімі ахвярнымі імёнамі, як Цётка, Ларыса Геніюш, Максім Багдановіч,

Максім Гарэцкі... Фактычна яна здзейсніла духоўны подзвіг у імя Беларусі, у імя ідэй чысціні і святла» («Асобу Ніны Мацяш трэба кананізаваць»). Яна, нягледзячы на пакуты, па-хрысціянску мужна несла «свой крыж», была моцнай духам.

Вышэй ужо цытаваліся паэтычныя творы Г. Праневіча. Вершы ён пісаў з дзяцінства, але пачаў друкавацца ў сталыя гады. Ён нарадзіўся з душой паэта, таму такой асаблівай была ў яго цяга да красы, паэзіі, вобразнага і спеўнага слова. Дэбютная падборка вершаў Г. Праневіча з'явілася ў 1994 годзе ў абласной газеце «Заря» з прадмовай пісьменніка Алеся Каско, які і прапанаваў яму вынесці напісанае на чытацкі суд. З гэтага часу пачалася паэтычна-творчая дзейнасць Г. Праневіча. Яго вершы друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы і калектыўных зборніках. Добра было б сабраць параскіданыя па розных выданнях творы паэта і выдаць асобнай кніжкай. У чытача тады склалася б больш яскравае, цэласнае ўяўленне пра Генадзя Праневіча як паэта.

Маючы прыязнасць, вялікую прыхільнасць да Генадзя Мікалаевіча, я імкнуўся сказаць пашаноўнае, справядлівае, годнае і вартае яго памяці слова. Напэўна, пакуль што атрымаўся сціслы агляд жыцця і творчасці вучонага і пісьменніка. Безумоўна, ён заслугоўвае большага. Аднак пры жыцці, на жаль, асобе і дзейнасці Г. Праневіча не было прысвечана нават сціплага аглядавага артыкула...

Шкада, што апошнім часам мы не чуліся і не бачыліся. Даруйце, дарагі Генадзь Мікалаевіч... Нездаровы і незапатрабаваны, як раней, ён тым не менш рыхтаваўся да канферэнцыі, прысвечанай 460-годдзю Льва Сапегі, меўся выступіць з дакладам... Ды сэрца спынілася.

Пахавалі Генадзя Праневіча ў Косічах пад Брэстам. Родная палеская зямля-маці навечна прытуліла да сэрца свайго сына. Спачывайце, дарагі Генадзь Мікалаевіч... Няхай сняцца вам светлыя сны пра Беларусь і яе будучыню.

Ірына Саматой



…адзін з тысяч, адзін з першых – маладых, да канца няспраўджаных талентаў Беларусі…

# “Я перад музай ніхто: адзін з тысяч яе жаніхоў…”

***Штрыхі да творчага партрэта Міхася Райчонка***

***Віцебшчына – край вядомых пісьменнікаў, вучоных, культурных дзеячаў. Адны з іх дасягнулі вялікага прызнання ў беларускай і сусветнай культуры, другія – менш вядомыя руплівцы роднай нівы, чый талент не раскрыўся ў поўнай меры па тых ці іншых прычынах. Сярод іх краязнаўца, пісьменнік Міхась Райчонак, які рана пайшоў з жыцця.***

Нарадзіўся Міхась Райчонак 3 ліпеня 1973 года ў вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці ў сям’і настаўніцы і фермера. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Германавіцкай сярэдняй школе. Як дома, так і ў школе Міхась быў дапытлівым, старанным, на ўсё меў сваю думку, захапляўся гісторыяй, мовай, культурай Беларусі. Разам з маці, настаўніцай рускай мовы і літаратуры Адай Эльеўнай, збіраў матэрыялы для гісторыка-краязнаўчага музея і музея мастацтва і этнаграфіі Я. Драздовіча.

У 1990 годзе паступіў у Віцебскі педагагічны інстытут на факультэт беларускай філалогіі. У студэнцкія гады Міхась пачаў пісаць вершы і празаічныя творы, актыўна ўдзельнічаў у навуковых канферэнцыях. Навучальную ўстанову скончыў са ступенню бакалаўра гуманітарных навук, паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук. Адначасова працаваў выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры ва ўніверсітэце, вёў заняткі ў краязнаўчым гуртку "Спадчына", арганізоўваў турыстычныя паездкі са студэнтамі па Беларусі, удзельнічаў у археалагічных раскопках на Віцебшчыне, прайшоў сцежкамі Язэпа Драздовіча па Беларусі і Літве. 14 студзеня 1999 года Міхась Райчонак, малады і поўны сіл, раптоўна пакінуў гэты свет.

На станаўленне творчага таленту М. Райчонка значны ўплыў аказаў паэт, дацэнт кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П.М. Машэрава Анатоль Канапелька, які пазней успамінаў: "Чарнявы, заўсёды акуратны, з добрымі вачыма і незвычайна светлай усмешкай. Сціплы і далікатны. Ветлівы і таварыскі. Неўтаймованая працавітасць, эрудыцыя і інтэлегентнасць прыцягвалі да сябе студэнтаў і выкладчыкаў" [1, с. 4].

Віцебскі краязнаўца Алег Куржалаў браў Міхася ва ўсе вандроўкі па архівах Мінска, Вільні, Пецярбурга. Апошнюю працу малады даследчык прысвяціў краязнаўцам Дзісеншчыны, склаў бібліяграфію знакамітых людзей свайго краю: Я. Драздовіча, І. Сікоры, М. Машары, Б. Кіта, П. Сергіевіча, П. Сухога, Я. Мастовіча-Даленгі, П. Дубашынскага і іншых. Аб'ектам навуковай працы М. Райчонка стала дзейнасць Язэпа Драздовіча. У 1995 годзе стварыў культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча, марыў выдаць газету. Пад назвай "Бацькаўшчына" яна выйшла ў свет пасля смерці Міхася.

Па словах маці, Ады Райчонак, "за сваё жыццё ён паспеў многае зрабіць: правёў разам з Вітольдам Антонавічам Ермалёнкам першыя Дзісенскія чытанні, краязнаўчы маладзёжны фэст, конкурс дзіцячых малюнкаў "Шляхам Язэпа Драздовіча", тры рэспубліканскія пленэры, прысвечаныя знакамітаму мастаку. Пасля кожнага пленэра адбываліся выставы мастацкіх прац у Мінску, Віцебску, Полацку і раённых цэнтрах Віцебшчыны" [2, с. 5].

Першае апавяданне М. Райчонка "Крык" было надрукавана ў газеце "Літаратура і мастацтва." Ужо на пачатку творчага шляху ў перыёдыцы з'явіліся апавяданні "Хрыста радзі" ("Кліч Радзімы", 21-28 студзеня, 1998 г.), "Агонія мроі", "Службіст", "Божачка, ратуй!" ("Маладосць", №6, 1998 г.), замалёўкі "Камень", "Дзісна", "Люблю" ("Народнае слова", 6 ліпеня, 1999 г.).

У 2002 годзе выйшаў зборнік твораў М. Райчонка "Як сын твой родны..." Прадмовай да яго сталі артыкулы "Нябачная зорка" В. Мудрова і "Слова аб сыне" А. Райчонак. Адзіная кніга твораў М. Райчонка складаецца з вершаў, лірычных замалёвак і апавяданняў. Клопатамі Ады Райчонак пабачыў свет зборнік "Нашчадкам" (2003), у які ўвайшлі ўспаміны, вершы сяброў, настаўнікаў М. Райчонка, а таксама яго навуковая спадчына.

Лірычны талент маладога творцы найперш увасобіўся ў арыгінальных і змястоўных замалёўках або, як называў іх сам аўтар, — вершах у прозе ("Плач па Беларусі", "Святасць Беларусі", "Камень", "Апошні дзень") з выразнай патрыятычнай тэматыкай. Яны далучаюць чытачоў да праблем жыцця даверліва, цераз унутраны свет аўтара, які становіцца шчыраю і блізкаю душой. Светаадчуванне ў абразках М. Райчонка шчымліва-светлае, лірычна-тужлівае, калі размова ідзе пра свет прыроды ("Дзісна", "Раніца", "Абуджэнне"), часам трагічнае, выкліканае чарнобыльскай бядой ("Экалогія"). Асабліва гэтая шчырасць, зніtaванасць з лёсам краіны прасочваецца ва ўспамінах пра дзяцінства, родныя мясціны. Агульнае ўражанне, якое ўзнікае ад чытання замалёвак, – што яны створаны добрым, мяккім і адначасова моцным чалавекам, які мае выразную грамадзянскую пазіцыю, з адкрытай сімпатыяй адносіцца да сваіх суайчыннікаў, адчувае падвойнасць зямнога існавання, больш за ўсё любіць свет прыроды – адзіную крыніцу ўсіх жыццёвых даброт на зямлі.

Проза М. Райчонка прадстаўлена і дыдактычнымі, праблемнымі, глыбока псіхалагічнымі апавяданнямі. У іх аўтар імкнуўся да паказу трагічных з'яў рэчаіснасці, нібы папярэджваючы сучаснікаў пазбегнуць недаравальных памылак. Трывога за лёс дзяцей-сірот, падлеткаў, якія жывуць у жахлівых сацыяльных умовах, гучыць у апавяданнях "Званок", "Божачка, ратуй!" Трагедыя маладога рамантыка-мастака, асуджанага грамадствам на смерць, паказваецца ў творы "Музыка". Аблічы нашых сучаснікаў – беспрытульных тубыльцаў вуліц, згадкі іх характараў, таямніцы душы знайшлі адбітак у апавяданні "Гісторыя сіндрому". Страта сямейных каштоўнасцей прыводзіць герояў апавядання "Чаканне" да амаральнай сітуацыі.

"Літаральна за кожным ці то празаічным, ці то паэтычным радком Міхася Райчонка праглядаецца датклівая і лагодная душа, якая аж па край поўніцца Беларушчынай. Пры гэтым Беларушчыну тут трэба ўспрымаць не як нейкае асветніцтва, а як форму пратэсту супраць гвалту, невуцтва і бездухоўнасці"[2, с. 3], – адзначыў у прадмове да кнігі "Як сын твой родны..." пісьменнік В. Мудроў.

Паводле ідэйна-мастацкіх, жанрава-тэматычных асаблівасцяў творы М. Райчонка набліжаюцца да апавяданняў пісьменніцы пачатку XX стагоддзя Алаізы Пашкевіч (Цёткі), якая ў прозе адчувала сябе паэткаю, выкарыстоўваючы паэтычныя спосабы і сродкі стварэння мастацкага вобраза. Як і Цётка, М. Райчонак звяртаўся ў сваіх замалёўках, апавяданнях да жыццёвай назіральнасці, індывідуалізацыі характараў, алегарычнасці, сімвалічнасці.

У паэтычнай спадчыне М. Райчонка з характэрнымі для беларускай мастацкай творчасці ключавымі матывамі мовы, маці, вечнасці ёсць адметныя радкі: "Я перад музай ніхто: адзін з тысяч яе жаніхоў..." [2, с. 13]. Адзін з тысяч, адзін з першых – маладых, да канца няспраўджаных талентаў Беларусі.

Літаратура:

1. Райчонак, М. Нашчадкам / М. Райчонак. – Паставы: Сумежжа. –2003. – 101 с.
2. Райчонак, М. Як сын твой родны... / М. Райчонак. – Наваполацк. – 2002. – 152 с.



Канстанцін Тышкевіч



...ахвяра, пакладзеная ў маю ахвяравальную скарбонку, – гэта народная песня, альбо нейкае тутэйшае выслоўе, ці мясцовае паданне, ці нейкія гістарычныя звесткі...

# Вілія і яе берагі

## *ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах*

*Заканчэнне. Пачатак у №1-3 (86-88).*

*Друкуецца ў скароце паводле манаграфіі «Wilja i jej brzegi». Дрэздэн, 1871.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

### IX.

Надышла раніца, а з ёю, як звычайна, пачалася і праца гэтага дня. Першую яго палову мы правялі ў напісанні адказаў на лісты, ва ўпарадкаванні неабходнай карэспандэнцыі. Пасля абеду ў пп. Мілачэўскіх мы выправіліся ў далейшы шлях. Сямейства пп. Мілачэўскіх, заўсёды вельмі прыемнае, суправаджала мяне ў нашым падарожжы, праводзячы нас пару міль да Тупальшчыны, дзе, запрошаны на гарбату, я збіраўся агледзець паганскі ахвярны камень часоў старажытнай Літвы, на якім у даўніну нібыта гарэў Зніч, а не менш – тую сажалку і той вадаспад, дзе некалі стаяў млын езуітаў, пра якія так цудоўна і паэтычна піша п. Ігнат Ходзька ў сваіх "*Берагах Віліі*". Запрошанае на мой карабель сямейства пп. Мілачэўскіх прыняло мой заклік, і каля трэцяе гадзіны мы рушылі разам.

Вілія тут увесь час плыве ўздоўж маляўнічых берагоў. На паўдарозе між Жодзішкамі і Тупальшчынай – зноў чарговая перашкода на рацэ. З левага берага яна больш як напалову завалена

каменнямі. Цесныя вароты ля правага берага з'яўляюцца адзіным у гэтым месцы праходам для суднаў. Бурнае цячэнне вады, хутка падхапіўшы судна, на якім мы плылі, панесла яго праз той небяспечны праход на рацэ. Гэта другі вялікі парог на Віліі; ён празваны Равякай, напэўна, з той прычыны, што вада ў гэтым месцы рве і цягне статкі, якія рухаюцца па рацэ. Вілія ў гэтым месцы мае шырыню ў 19 сажняў, глыбіню ў саміх варотах – каля 10 вяршкоў, альбо 11 літоўскіх цаляў, як гэта можна бачыць у атласе на табліцы II. Прайшоўшы гэтыя парогі, мы затрымаліся на левым беразе ракі, у цудоўным месцы, непадалёк ад чыста, акуратна і багата забудаванай вясковай сядзібы. У той час, калі п. Шантыр заняўся вымярэннем і пераносам на паперу пяройдзеных намі парогаў, мы ступілі пад дах гэтай сядзібы. Тут жыў вельмі заможны селянін, ляснік п. Мілачэўскага па прозвішчы Хвалька. Гэта вельмі стары чалавек, якому больш за 90 год, ён увесь трося, трымаўся за кій, быў згорблены, але яшчэ гаспадарлівы, спружыністы. Трыццаць сямейнікаў жывуць у яго доме, аднак кожнаму ён можа загадваць і ўсіх умее ўтрымаць у належным парадку, прыстойных паводзінах, паслушэнстве, што наогул уяўляецца нялёгкай справаю. У ім мы бачым сапраўдны ўзор багатага літоўскага селяніна – узор таго, да якога ўзроўню можа дайсці чалавек, селянін, калі ён працуе, а Бог яго дабраслаўляе. У Хвалькі над прыгожым берагам Віліі – прасторныя, акуратныя, чыстыя пабудовы: некалькі жыллёвых хат для размяшчэння ўсяго сямейства, у адной з іх, прасторнай, светлай і чыстай патрыярх гэтай вясковай сям'і жыве сам, адзін. За хатамі ідуць свірны, за свірнамі – аборы і гумны; адразу ж за домам – вялізная пасека. Некалькі коней, некалькі сох з валамі, трыццаць галоў рагатай жывёлы складалі маёмасць гэтай гаспадаркі; пэўна, і запас грошай павіннен быць у яго. Заехалі мы да Хвалькі як да вельмі старога чалавека з мэтаю распытаць пра даўнія гісторыі гэтай мясцовасці. Гаспадар прыняў нас гасцінна: пачаставаў гарэлкаю; пакрыты абрусам стол быў застаўлены хлебам і мёдам; і як толькі мы паселі на лавах за стол, ён пачаў нам расказваць старыя гісторыі. Памяць ён меў яшчэ моцную і добрую; цудоўна памятаў езуітаў у Жодзішках, і менавіта з яго апавяданняў я галоўным чынам сабраў падрабязнасці, якія датычыліся звестак пра Жодзішкі. На працягу размовы ён распавёў нам пра шведаў, пра іх нашэсці на гэты край, пра акопы, што знаходзіліся на мяжы яго зямлі. Да іх ён правёў нас дарожкаю, якая вяла праз нівы з выдатным жытам. Былі гэта два курганы сярэдняй велічыні, якія ўжо зараслі лесам. Ёсць звесткі, што адзін з іх калісьці спрабавалі капаць. Я не ўзяўся за гэтую работу, бо сонца ўжо пачало хіліцца на захад, а мы меліся яшчэ прайсці Ашмянец – небяспечны парог, які ўвечары ніколі не разгледзіш, а таксама мы павінны былі наведаць Тупальшчыну, пабачыць паганскі Зніч і каскады, на якіх некалі стаялі млыны езуітаў. Стары Хвалька расказаў мне, што гэтых шведскіх акопаў калісьці было болей, але яны пазнікалі ад сахі, якою, спрадвеку аручы поле, выворвалі косткі, а з імі аднойчы выаралі і жалезкую сякерку. З Прытулякі (гэтак звалася Хвалькава сядзіба) мы паплылі ў Тупальшчыну. Там нас чакала гарбата, ветліва падрыхтаваная нам гаспадаром. Гарбату мы наспех выпілі, я развітаўся з усім таварыствам і паплыў далей, бо час падганяў мяне. Недалёка ад Тупальшчыны, пры пахілым беразе, парослым цудоўным сасновым борам, адкуль Вілія, скіроўваючыся налева, утварае чароўны, але разам з тым небяспечны для падарожнікаў паварот, карабель затрымаўся. Мы выйшлі з яго і накіраваліся ў бор, каб агледзець гістарычны камень, што там знаходзіцца, пасля чаго карабель паплыў у бок парога, які завецца Ашмянцам. У гэтым бары мы неспадзявана спаткалі таварыства дам і мужчын, што ішлі з Тупальшчыны. Вось яшчэ адзін прыклад далікатнасці насельнікаў цудоўнага вілейскага ўзбярэжжа: уся грамада неспадзявана пажадала суправадзіць мяне ў гэтай вандроўцы. Мы разам весела пайшлі да таго каменя.

Пасярод гэтага саліднага сасновага лесу, якім тут зарос правы бераг Віліі, на схіле гары, у каменным атачэнні, якое мае каля трох локцяў у шырыню, накшталт падоўжанага кола, ляжыць на баку камень у форме няправільнага завостранага

авала вышынёю ў пяць з паловай локцяў, па акружнасці локцяў пятнаццаць. Увесь ён, нібы сівізною, пакрыты мохам старасці. З паўночнага боку велікана каменнае атачэнне заканчваецца невялікім падземным нагрувашчваннем камянёў, якое складаецца з вялікага пляскатага каменя, пакладзенага на два іншыя, пастаўленыя на рэбры. Вялізны камень, як расказваюць мясцовыя жыхары гэтага краю, яшчэ тры гады таму стаяў на ўласнай аснове вертыкальна да зямлі, але папярэдні спадчыннік гэтага месца, надумаўшыся зрабіць з яго надмагільны помнік для жонкі, загадаў яго зрушыць, і такім чынам камень вывернулі бокам. Аднак паколькі не ўдалося яго ні ссунуць з-за пазмернае вагі, ні змацаваць, то пакінулі гэтую ідэю, і з таго часу вывернуты камень ляжыць на баку.

Гэты камень, што знаходзіцца на правым беразе ракі Віліі, насупраць небяспечнага парога Ашмянца – там, дзе груды камянёў рознай велічыні, уваходзячы з правага берага ў раку, замінаюць праход праз яе – ма́е сваё архіцікавае народнае паданне. Ва ўяўленні мясцовага люду, у любых незвычайных з'явах, якія ён не можа растлумачыць, вінаваты чорт, без магутнасці якога нічога б само не зрабілася. І вось гэтае нагрувашчванне камення ў рацэ народ таксама прыпісвае д'ябальскай справе і са шчырай верай распавядае, што калі езуіты надумаліся пабудаваць у Жодзішках касцёл і калі на месцы ім не хапіла камянёў для падмурку, яны вырашылі перавезці іх з аддаленых ваколіц. Паколькі чорт, якому ідэя будаўніцтва касцёла ў Жодзішках не прыйшлася да смаку (паколькі касцёла і крыжа, як і свянцонай вады, чорт палохаецца), не ў стане перашкодзіць езуітам у гэтым іх пачынанні (бо праз іх святасць яму нялёгка было да іх падступіцца), ён вырашыў сваімі д'ябальскімі свавольствамі перашкодзіць прынамсі іх намерам. З гэтай мэтай ён сабраў сваіх таварышаў, і ў адну ноч усё тое каменне, на якое разлічвалі езуіты, чэрці перанеслі ў ваду і заклалі імі раку, а некаторыя камяні нават паперакідвалі на другі бераг. Работа гэтая доўжылася цэлую ноч, а пад ранак, калі чорт нёс аднекуль здалёк той вялізны камень, каб ім канчаткова перакрыць раку, пачало днець; заспяваў певень, і чорт пакінуў камень у гэтым месцы. Вядомае народнае паданне аўтар "*Літоўскіх малюнкаў*" дасціпна замяніў у спаборніцтва чарцей, а ля каменя, пра які мы зараз вядзем гаворку, ён сутыкнуў чорта з братам езуітам, які там маліўся, і адкуль, дзякуючы набожнасці гэтага брата, быў прагнаны і пакінуў свой камень на гэтым месцы. Усіх, хто зацікавіўся гэтай гісторыяй, адсылаю да тэкста Ігнацыя Ходзькі "*Берагі Віліі*", у якім аўтар цудоўна і дасціпна разуквеціў у фарбы аповесці гэтае народнае паданне.

Калі б мы пажадалі паглядзець на на гэтае мясцовае паданне з гістарычнага пункту погляду як даследчыкі старажытнасці, то маглі б сказаць, што ў адным пытанні той Зніч заслугоўвае нашае ўвагі і варты таго, каб мы з цікавасцю прыгледзеліся да яго. Гэта не просты, лёсам кінуты на поле камень, калі чалавечая рука так дбайна акружыла яго падабранымі каменнямі, і ў гэтым акружэнні стварыла старанна і прадумана складзенае з каменных пліт сховішча, з якога некалі выграблі, як мне тут было расказана, два ахвярныя каменныя малаткі. Гэтае патаемнае месца сёння ўжо мала што значыць, а ў той час яно відавочна было складам ахвярных прылад. Чым жа пры ім мог быць той вялізны камень, калі не алтаром паганскай веры ў Літве? Мы ведаем са старажытнай гісторыі нашага краю, што тыя Богам асвечаныя алтары ставіліся пасярод шанаваных гаёў, над берагамі вялікіх рэк. Камень, як казалі, увесь надзелены гэтым урачыстым характарам, якога вымагала служба Божая ў старажытнай Літве. Пастаўлены пасярод саліднага бору, у раскошным зацішку, непадалёку ад чароўнага павароту маляўнічай ракі, ён не дазваляе ўсумніцца, што быў у старажытнасці святыняю, быў тым асвечаным месцам, да якога з пашанаю і пачцівасцю набліжаліся паганцы-ліцвіны.

Агонь быў найпершым і найстаражытнейшым міфам, шанаваным у Літве, на Русі і ва ўсім славянскім свеце. Славяне першыя аддавалі ўшанаванне Богу, распальваючы агонь. Літва пераняла гэты рэлігійны звычай ад славян. Адкуль жа славяне перанялі

гэты міф? Ці з міфалогіі плямёнаў, што існавалі тут яшчэ перад імі? Ці самі, упершыню, кіруючыся прыродным інстынктам, пачалі аддаваць найвышэйшую пашану агню? Заглыбленне ў падобных пошуках было б марнай справаю. Дастаткова таго, што гонар, аддаваны агню, як мы ведаем гэта з гісторыі, з'яўляўся міфам амаль усіх старажытных плямёнаў, што жылі на зямным шары. У персаў, якія ўслаўлялі Арамазда, сонца і агонь былі ўвасабленнем усемагутнасці Бога. Індыйцы таксама пакланяліся агню. У рымлян весталкі падтрымлівалі святы агонь. У Польшчы вядомыя дагэтуль Сабуткі; на Русі і ў Літве Купала было вясёлым гадавым святам, якое захавалася ў народных звычаях з часоў паганства; яно праводзіцца з танцамі і вясёлымі народнымі песнямі каля распаленага вогнішча[1]. Гэтую ўсеагульнасць абавязковага ўшанавання агню вельмі лёгка растлумачыць. Святло было найпершай рэччу, якая незразумелым чынам закранула розум чалавека. Не ўмеючы растлумачыць сабе прычын гэтых вынікаў і дабрадзействаў, якія злівалі на зямлю прамені святла, ён укленчыў і ўдарыў чалом перад сонцам, перад месяцам і зоркамі. Агонь – незразумелая для першабытнага чалавека стыхія; калі ён замяніў яму гэтае дабрачыннае сонца і святло ў цемры, і абагрэў сваім цяплом, то чалавек пакорліва пакланіўся яму і старанна аберагаў яго як міф, што нагадваў яму пра дабрачынныя і абсалютна незразумелыя прамені цяпла і святла. Можа, таксама палаючы агеньчык, які, так дзіўна і вытанчана злучаючыся з паветрам і ў ім раствараючыся і знікаючы, падштурхоўваў першабытных людзей да сімвалічнай думкі аб прасторы, бясконцасці, нібы аб нечым іншым, вечным, аб ніколі няспынным жыцці, а праз сваю разбуральную ўласцівасць – нагадваў ім пра смерць і звыклы заняпад тленных рэчаў. Так мусіў паўстаць на Літве пераняты ад славяншчыны звычай няспыннага агню, падтрымліваемага жрацамі – абранымі людзьмі, якія ўзносілі хвалу Богу. Агонь гэты называлі Знічам[2], "іменем чыста славянскім, вядомым у Ноўгарадзе Вялікім у Паўночнай Русі, які азначаў знішчэнне. Прыклады ўшанавання ў гэтых краях існавалі спрадвеку, і Літва не адмовілася ў сваім алтары ахвярапрынашэння назваць знішчальны агонь славянскім іменем. Прыняцце гэтага імя – Зніч – павінна было папярэднічаць хрышчэнню Ноўгарада і Кіева і перажыло стагоддзі. Патухлы над Віліяй, ён свяціўся нейкі час на Жмудзі над Нявяжай"[3]. І далей у гэтай самай кніжцы на стар. III яе аўтар зрабіў такі першапачатковы вывад адносна імя Зніч:

"У Гнезне, Калобжэгу, Вільні і Ноўгарадзе, – піша ён, – палаў нязгасны агонь Зніч у гонар Нія, які валодае бяздоннем. Я шукаў тлумачэння ў мове, і яна мне адкрыла стварэнне з нічога і знішчэнне, і цяпер гэта пустая прастора месца і часу, у якой творца відочна аб'явіцца самастварэннем. А гэта адпавядае нечаму тэасофскаму "штосьці, нешта", усеагульнай, безумоўнай істоце, якая праз сябе самую і сама ў сабе існуе і мае існаванне, і знікае ў цемры, пакуль не з'явілася ў выглядзе яйка (*motta*) Нія. Гэта не нейкае другараднае боства, паколькі немагчыма, каб у сталіцы Гнезна другарадныя істоты былі б вартыя галоўнага ўшанавання. У Юліне Паморскім палымнеў у катле свяшчэнны агонь Зніч, а Юлін быў горадам *civitas summi dei. Ні, нічога,* істота, якая стварае *з нічога* (стваральнік), якая з ночы стварае святло, існуе ў небыцці цяпер, заўсёды і ўсюды; і гэта

---

[1] Дэталёвае і навукова апрацаванае паведамленне пра Sobótki даў нам п. Караль Рагаўскі ў сваім даследаванні "O mogiłach"; да яго накіроўваю зацікаўленых. (Bibl. Warsz. za r. 1860 mies. Lipiec, zesz. XLIII.).

[2] Пан Бжоза ў сваёй "Pilokolni", апублікаванай у снежаньскім сшытку "Bibl. Warsz." за 1859 г., змешчанай на стар. 779, адкрыта пярэчыць таму, што распалены на паганскіх алтарах Літвы агонь называўся Знічам, і, абапіраючыся на словы хронікі Длугаша "Vladislaus ex ignem, qui peretuus ab illis putabatur... et a Sacerdotr eorum qui Znicz appelabatur, et qui Supplicationibus, ac de future rerum eventu Numen cntilentibus falsa dabat... responsa custoditum" ... пераконвае, што жрэц, які аховаў агонь, называўся Знічам ад літоўскай назвы żinicz, г.зн. варажбіт, што ў сваю чаргу паходзіць ад żinos – ведаць.

[3] Cęść bałwochwalcza Słowian i Polski – str. 68.

тое ж самае, што *е, еш, яс, яссон,* што: *бе, бог, буг, бес.* Больш істот у мове я знайсці не мог, толькі гэта адно з дапамогаю тэасофскага выкладання вытлумачанае і зразумелае”.

Такая была першая, з выгляду абстрактная, ідэя пра ўшанаванне, якое аддавалася Богу, у першабытных плямён, што аселі на гэтай зямлі. Але ўсе людзі, хай сабе і першабытныя, дзікія і без умення трымацца ў калектыве, мелі, тым не менш, у сваім жыцці дадзеныя ім інстынктам вялікае і ўрачыстае натхненне пра ўяўленне, пра ўсемагутнасць боства і пра патрэбу аддачы яму належнага ўшанавання. Калі мы пажадаем разгледзець гэтую ідэю бліжэй, калі ўважліва разбярэм гэтае стварэнне з нічога і гэтую пустату часу, у якой стваральнік аб’яўляецца зрокава сваім стварэннем, і тое, што праз сябе і ў сабе існуе і мае быццё, а ў цемры яно знікла, то напаследак ні, нічога, з нічога ствараючы твор (стварыцель), трэба прызнаць, што ў ёй крылася вялікая думка, кінутая без межаў і сапраўды ахвяраваная ўшанаванню Бога – калі ніякае чалавечае разважанне ўжо не знайшло там месца, адной толькі чыстай верай гэтую думку прыйшлося зразумець, а полымя было міфам, які выконваў гэтую думку. Аднаўленне дня і ночы ў прыродзе далі ў старажытнасці пачатак ідэі ўшанавання святла і цемры, у чым хацелі ўбачыць міф злога і добрага, цноты і ліхадзейства. Хіба гэтая думка ўшанавання святла і цемры, развітая ў паганстве, не спаткалася з хрысціянскімі ўяўленнямі пра неабходнасць чысціні сумлення, пра анёла, вартаўніка душы чалавека і пра д’ябла, які намагаецца яе пагубіць, а адсюль – пра збавенне душы і пра яе вечнае асуджэнне.

Ніхто з мыслячых людзей не запярэчыць таму, што пашана ідалапаклонства ў паганцаў мусіла быць маральнай сістэмай, калі яна сваёй сілай і павагай кіравала масамі і трымала парадак не толькі ў сям’і, племені, але і ў народзе ў цэлым.

Хрысціянства, пашыраючыся па Літве, крушачы і знішчаючы паганскія боствы, патушыла вечны агонь, а на іх месцы паставіла крыж і распаўсюдзіла сярод паганскага люду вучэнне святой веры. У асновах гэтага новага вучэння, якое апавяшчала пра бессмяротнасць душы і вечнае жыццё пасля смерці, павінна было з’явіцца асвечанае новай вераю нейкае падабенства са старой ідэяй, прывязанай да вечна палаючага дагэтуль паганскага агню. Калі пасля падзення Ромувы, святых гаёў, Крыва-Крывейтаў новыя святары Хрыстовае веры пачалі ўзводзіць святыні праўдзіваму Богу, то народ, які наведваў іх, заўсёды бачыў у вобразе новага пазнанага імі Бога свайго даўняга Зніча і не хацеў называць узведзеныя ў Літве хрысціянскія касцёлы інакш як бажніцамі. Гэтая назва паходзіць ад літоўскага *bie-Znicze* – бойся Зніча, *bajme-Znicze* – боязь Зніча, *ba-Znicze* – у спалучэнні азначае касцёл, але ў літоўскай мове *–ba* можа выражаць вокліч, які перасцерагае тых, хто набліжаецца да Зніча, каб палохаліся гэтага боства і скараліся перад ім.

Акружаны ўсім нашым гуртам камень, які ляжыць у прыгожым гаі на беразе Віліі, з’яўляецца адным з цікавейшых археалагічных помнікаў у нашым краі. А мастак, што суправаджае мяне ў маёй вандроўцы, у гэтыя хвіліны заканчваў замалёўваць у падарожным альбоме яго выяву. Гэта, несумненна, ужо апошні сёння алтар, яшчэ адзіны напамінак, які застаўся нам пасля паганскае Літвы. Мінула ўжо некалькі вякоў, як ён перастаў быць ахвярнай святыняй, але сёння ён, безумоўна, зрабіўся для літоўскай археалогіі, для нацыянальнай памяці дарагой рэліквіяй, сапраўднай навуковай святыняй, якія неабходна захоўваць і старанна аберагаць ад згубы.

У той час, калі мы, сабраўшыся над ляжачым паганскім алтаром, разважалі пра яго даўняе прызначэнне, дзівіліся яго формамі, вымяралі паверхню, на Віліі справа ішла сваім парадкам. Як толькі карабель абмінуў парог Ашмянец, ён прыстаў да берага, і пачалося яго вымярэнне і замалёўка. Вілія ў гэтым небяспечным для суднаў павароце мае шырыню 24 сажні і амаль 12 вяршкоў у глыбіню. Пераезд праз яго даволі цяжкі з той прычыны, што пасярод вялікага цячэння вады, якая гоніць прама на масу камянёў, нібыта складзеных у рацэ д’ябальскай сілаю, трэба спрытна выкручвацца па крутым павароце ракі, каб трапіць у вароты між каменняў.

Некалькі дзён на працягу майго падарожжа я ўжо чуў пра лясную саранчу, якая знішчае хваёвыя дрэвы. Ідучы з Каралеўства Польскага ад Коўна праз Віленскую губерню, яна пашырылася і ў кірунку Віліі, пасоўвалася ўверх па плыні ракі. Усе прыбярэжныя ўладальнікі хваёвых лясоў былі ў пастаяннай трывозе, бо гэтае бедства пагражала ім стратай багацейшай часткі іх маёмасці, якой з'яўляліся тутэйшыя лясы. Увесь час скардзіліся на гэта, і гэта было прадметам агульнай размовы, якая штодзённа шмат разоў даносілася да маіх вушэй. Толькі ў гаі, які хаваў у сабе таго паганскага Зніча, я ўпершыню пабачыў гэтага знішчальніка лясоў. Чутно было, як тая жамяра паядала гай – ён ажно трашчаў па-над нашымі галовамі. Бясконца сыпаліся на зямлю дробныя рэшткі сасновых іголак, перагрызеных на кавалкі гэтымі насякомымі, лічба якіх была такая аграмадная і невычарпальная, што ва ўсім лесе, на ўсіх галінах яны паперапляталіся між сабою, утвараючы нібыта рухомыя клубкі, і, бесперастанку грызучы іголкі, стваралі ў паветры гэты страшны шум. Адсюль скрозь па-над Віліяй да самога яе вусця саранча з'ядала хваёвыя і яловыя лясы. Пазбаўленыя зяляніны, большай часткаю пасохлыя, яны прадстаўлялі карціну знішчэння, калі пасярод іх, нібыта мёртвыя трупы, стаялі агаленыя дрэвы. Тут трэба вылучаць два роды саранчы, адрозныя між сабою характарам і ўласцівасцямі: адна з іх паядала сасновыя дрэвы, а зусім іншая ў гэты час нішчыла яловыя лясы. Мы ўзялі сасновую галіну, на якой знаходзілася цэлая кучка пераплеценых між сабою насякомых, каб бліжэй іх разгледзець. Калі мы дакрануліся пальцам да галіны, уся гэтая пераплеценая куча вусеняў у адзін момант пападымала галовы, і ўвесь іх клубок раскрыўся, як раскрываецца чашачка ў кветкі. Чарвяк, узяты дзеля расчлянення, назіраны намі праз лупу, аказаўся вусенем, даўжынёю амаль з цалю, ён мае карычнева-зеленаваты хрыбет, па баках уздоўж ідуць дзве чорныя паласы, бруха зеленавата-жоўтае, забяспечанае некалькімі парамі шчупальцаў, мае чатыры калючыя нагі спераду і клешчы пры галаве, у якой блішчаць два маленькія вокі, як дзве чорныя кропкі. Уколаты іголкаю, чарвяк выпусціў з сябе абсалютна жоўтую і ліпкую смалістую вадкасць, якая ўтвараецца ў ім дзякуючы пажыранню смаляністых іголак, якія ён увесь час аб'ядае; абхопліваючы іголку лапкамі і абапіраючыся на яе шчупальцамі, ён падсоўвае яе і грызе да тае пары, пакуль не з'есць дарэшты. Памёт гэтых чарвякоў цвёрды, напэўна, складзены са смалістых субстанцый.

Гэтае насякомае вядома ў навуцы пад назваю *Tenthredo pini*. Вусені, ператвараючыся ў лічынкі, з якіх, нарэшце, выходзіць поўнае насякомае ў выглядзе мухі, не былі такімі страшнымі, як адразу здавалася жыхарам узбярэжжа Віліі. Нападаючы выключна на сасновыя лясы, яны не з'ядалі іх цалкам так, як яны нішчылі яловыя лясы. *Tenthredo pini* пагражае толькі часовым змяншэннем прыросту лясоў, але не поўным іх знішчэннем, бо ніколі не аб'ядае ўсіх іголак на дрэве, а заўсёды пакідае некранутымі маладыя, г.зн. сёлетнія пабегі, абгрызаючы толькі леташнія і пазалеташнія іголкі. Сасна з'яўляецца дрэвам, якое здавальняецца малой колькасцю іголак дзеля ўцягвання пасілку з паветра, і калі толькі іголкі на маладзенькіх пабегах застануцца, то дрэва ўжо не можа засохнуць. Размнажэнне гэтага насякомага працягваецца не даўжэй, чым два гады. Куды непараўнальна больш страшны за папярэдняга *Phalena bombyx pini* – сасновы шаўкапрад, які нападае выключна на яловыя лясы. Напачатку размножыўшыся ў Прусіі і перайшоўшы ў Каралеўства Польскае, адтуль ён трапіў праз Курляндыю ў Літву і загубіў яловыя лясы ўжо над берагамі Віліі. Ён аб'ядае яловыя іголкі дашчэнту, пачынаючы ад маладзейшых пабегаў, пасля чаго дрэва, не маючы чым цягнуць з паветра пасілак для жыцця, вымушана абавязкова засохнуць. Яго рысы, адрозныя ад папярэдняга, наступныя: гэты вусень большых памераў, шэры, калматы; яго падвешаныя на дрэве лічынкі ахутаны своеасаблівым відам шаўкавістага валакна, накшталт павуціння. Поўнае насякомае, выйшаўшы з лічынкі, уяўляе сабою белага матыля плямiста-каштанавага колеру. У канцы лета матылі адкладваюць у шчылінах кары яйкі велічынёю з

ігольнае вушка. Гэтыя яйкі маюць карычнева-алавяны колер і, калі іх пакласці на жар, выбухаюць. Перыяд жыцця і размнажэння гэтага віду значна даўжэйшы, чым у папярэдняга, бо саранча, пра якую мы гаворым зараз, на працягу пяці год учыніла невымерныя страты ў лясах тых краін, праз якія яна праходзіла. Навука да гэтага часу не знайшла ніякіх сродкаў дзеля затрымання і знішчэння гэтай саранчы. Нараджаецца яна невядома з чаго, размнажаецца раптоўна і ўсёй сілаю рушыць у падарожжа, знішчаючы на сваім шляху існыя лясы. Калі ж яе сіла пачне слабнуць натуральным парадкам, яна гіне праз уласнае выраджэнне, а разнастайныя паразіты, такія, як *ichneumon* і іншыя, кормячыся ёю, знішчаюць дарэшты гэтых насякомых, і толькі дзякуючы такому канцу тая лясная саранча перастае існаваць. Першае насякомае, якое мы пабачылі на соснах, знікла ў 1857 годзе само па сабе, калі яго вусені пазасыхалі на дрэвах.

З гэтага калісьці Богам асвечанага гаю, а цяпер аб'едзенага саранчою, было вельмі недалёка да тых млыноў езуітаў, якія я хацеў агледзець. Уся наша кампанія вырашыла правесці мяне і да іх. З гаю па нешырокай дарозе ішлі мы па раскінутай раскошнай даліне, паўз прыгожа размешчаную на беразе Віліі вёсачку; ад яе направа – па крутой сцежцы, што звівалася сярод лесу па-над маляўнічымі абрывамі і страшнымі рвамі. У некалькіх сажнях ад паверхні ракі знаходзіцца невялікая ўвагнутасць, акружаная гарою, парослаю лесам. У ёй з сярэдзіны дрыгвы, якая дзівосным чынам знаходзіцца на такой высокай гары, шчодра выбіваюцца крынічныя воды, якія затым, зліваючыся ў струмень, злучаюцца ў адзін малы паток, і гэтак утвараюць рачулку, што зверху вадаспадам, з шумам разбіваючыся аб карэнне спрадвечных дрэў, якімі парос гэты бераг, ударзаючыся аб каменне, якое сустракае на сваім шляху, зверху ляціць да Віліі. У гэтым чароўным месцы, прыведзеныя ў рух такім вадаспадам, стаялі тыя езуіцкія млыны, якія разам з ад'ездам манахаў, нібы падштурхнутыя нябачнай рукою (як піша п. Ходзька), упалі ўніз і якія сённяшні спадчыннік гэтага месца задумвае адбудаваць нанова.

У гэтым прыгожым месцы я ў апошні раз развітаўся з прыемнай кампаніяй, якая суправаджала мяне ў экскурсіі, і паплыў далей. Сонца ўжо хілілася на захад. Паколькі мае думкі былі галоўнае пра тое, каб вярнуцца да прынятага ў нашай працы парадку, з якога нас збіла далікатнасць і прыветнасць тутэйшых жыхароў, ператварыўшы яе ў вясёлую забаву, я не мог прыняць гасцінна прапанаванага мне адпачынку ў Тупальшчыне, нягледзячы на тое, што мы былі б не супраць ім скарыстацца. Адплыўшы ад таго вадаспаду недзе з вярсту, за першым паваротам Віліі на яе беразе я заначаваў.

Ад першага парога, названага Прывітальным, скрозь пайшлі, як я казаў, высокія берагі пясчанага паходжання. Нідзе далей ужо не было відаць ніводнай сенажаці, ні нават месца для добрага выпасу скаціны. І надбярэжныя ўладальнікі не трымалі б яе, калі б прырода – гэта агульная наша маці, якая шчодрай рукой раздае прыбыткі і нечакана для чалавека збірае дары – не адолела б з гэты недахоп. Вось адтуль і ажно да Коўна на мелкім і камяністым дне Віліі шчодра расце ў вадзе амаль на паўтара локці даўжынёю, сцелючыся па дне ракі, трава, якую надбярэжны люд звычайна называе м о ў р а ю. Гэта тонкая, доўгая валакністая сцябліна, густа запоўненая дробнымі патрапанымі лісткамі, якая завяршаецца непрыкметнай белай кветкай з пяццю, а часам чатырма пялёсткамі і жоўтай сярэдзінай. Кветачка гэтая нечым нагадвае кветку рамонка. У батаніцы яна вядомая пад назваю *Ramunculus aquatilis* (казялец вадзяны). Расліна гэтая, не маючы ў сабе, на першы погляд, спажыўных якасцяў, не павінна была б здавацца добрым кормам, але адбываецца наадварот: рагатая скаціна з надбярэжных вёсак і двароў корміцца адзіна ёю, з прагаю паядаючы гэтыя травы. У прыбярэжных гаспадарках каровы летняй парою, харчуючыся моўраю, даюць найболей малака. Нам, падарожнікам па Віліі, нязвыклым да такога, дзіўным і арыгінальным здавалася бачыць цэлыя статкі кароў, якія пасвіліся ў рацэ,

нібыта на лузе, і апускалі галовы па шыю, каб здабыць са дна ракі гэтую смачную і сытную траву. Кармленне скаціны моўраю – з'ява, вядомая не толькі на Віліі, ёю таксама кормяць кароў і ў Францыі. "*Ramunculus aquatilis*, – піша дэ Гандоль, – гэта расліна, якую французы ў наваколлях Страсбурга здабываюць з вады, сушаць і кормяць ёю скаціну". П. Балінскі ў "*Статыстыцы Вільна*"[1], пералічваючы рэдкія расліны віленскіх ваколіц, у ліку 125 названых там раслін не згадаў пра моўру, гэтую цікавую і спажыўную расліну, якую трэба шукаць на дне Віліі. Апрача моўры, не звярнуў увагі наш шаноўны пісьменнік яшчэ і на іншыя расліны. У сваім спісе ён змясціў адну толькі *Salix psilicifolia;* у той час, калі паміж прыгожымі вербамі, якія так часта ўпрыгожваюць берагі Віліі, я налічыў чатыры асобныя віды, якія адрозніваюцца між сабою формаю лістоў і выглядам дрэва. Мноства палявой ружы [шыпшыны], звычайна вядомай у нашых агародах пад назваю гірляндавай (*Rosa canina*), сустрэў я па берагах ракі. Пры набліжэнні да Коўна дно Віліі ў некаторых месцах густа парасло парасонападобнымі раслінамі (*Butomus umbrellatus*), тоўстыя і цвёрдыя сцябліны якога, аказваючы супраціўленне вадзяной плыні, пакрываюць паверхню ракі, утвараючы цэлыя букеты бялявых кветак. Крываўнік жа лекарскі (*Sanguisorba officinalis*) вельмі часта ўдаецца назіраць на прыбярэжных сенажацях. І яшчэ я заўважыў на берагах Віліі шмат розных раслін, назвы якіх тут не прыводжу і якіх няма па-над нашымі малымі рэчкамі. Адзін экземпляр кожнай з гэтых раслін увайшоў у мой падарожны гербарый і захаваўся ў ім для навукі і для памяці.

## XI.

Мы скончылі нашу справу ў Быстрыцы, і пад вечар да ад'езду ўсё было гатова. Развіталіся з гасцінным ксяндзом, які правёў нас да самае ракі. Судна адчаліла ад берага, але дарэмнымі былі намаганні дзядулі-стырнавога, марнымі былі высілкі весляроў: моцны стрэчны вецер разгойдваў наша судна, кідаў яго ў бакі і адпіхваў назад. Быў спушчаны канат, каб з выкарыстаннем яго пацягнутае людзьмі судна магло рухацца наперад. Але нічога не дапамагала. Нягледзячы на нашы старанні, мацнейшы вецер не пускаў судна наперад. Пабачыўшы, як мы змагаемся з гэтай неўтаймавальнай стыхіяй, гасцінны ксёндз пробашч, які ўвесь час ішоў за намі берагам ракі, стаў угаворваць нас, каб мы вярнуліся ў плябанію.

– Будзеце там, як ва ўласным доме, без ніякіх клопатаў, – пастаянна паўтараў ён. – Нап'емся гарбаткі. Бо хто гэта бачыў, каб выпраўляцца такім ветрам па вадзе?

Пасля шматразовай удзячнасці, выказанай намі з судна ксяндзу за яго прыязнасць, калі судна ўжо не магло ісці далей, а ксёндз з берага працягваў свае запрашэнні – нам нічога не заставалася зрабіць, як імі скарыстацца. І мы вярнуліся ў плябанію, дзе ажыццявіліся словы ксяндза пробашча, бо без усялякіх цырымоній, напіўшыся гарбаткі, нібыта ва ўласным доме, мы знайшлі самы зручны начлег.

У доме пробашча захоўваецца вялікі алені рог, знойдзены некалі тут, на дне ракі Віліі. Неаднаразова ў розных кутках Літвы з дна рэк і азёраў здабыты пачарнелыя ад доўгага знаходжання ў вадзе, порыстыя аленія рогі, часам з цэлымі чарапамі, пацвярджаюць сведчанне Жанчынскага, што гэтая жывёліна, якую сёння ў нашым краі ў дзікім стане мы не назіраем, у старажытнасці не была госцем на Літве, а што літоўскія лясы некалі нараджалі і гадавалі аленя.

Маладзенькі хлопчык, узяты ў плябанію для прыслужвання ў пакоях, у вольныя ад работы хвіліны вельмі спрытна выплятаў з лазы, якая расце па берагах Віліі, кошыкі і капелюшы, і я атрымаў ад яго вельмі лёгкі і прыгожа сплецены капялюш, што мне як гістарыёграфу гэтай ракі вельмі адпавядала, бо ён быў сплецены з прыбярэжнай вярбы і ўжо станавіўся памятнай рэччу.

---

[1] Opisanie Statystyczne Miasta Wilna przez Mich. Balińskiego. Wilno 1853. Str. 23-28.

19 чэрвеня, а 4-й гадзіне раніцы, мы развіталіся з быстрыцкай плябаніяй, якая падаравала нам у нашым падарожжы такі сардэчны прытулак. На адлегласці ракі ад Міхалішак да Быстрыцы мы праплылі наступныя водныя ўрочышчы і камяні: за вёскай Мужылы – камень Казак, недалёка ад Казака – воднае ўрочышча Казянка. За засценкам Палонікі – два камені Макрагузы, пры вёсцы Жаломуд – аднайменнае воднае ўрочышча. Затым, праз некалькі вёрст за Быстрыцай, на высокім пагорку правага берага ракі, знаходзіцца засценак Шалмета, а каля яго, заварочваючы направа, Вілія ўтварае ўжо чацвёртыя па ліку небяспечныя парогі, названыя так па рэчцы Шалнойдзі, якая ўпадае ў яе з левага боку. Плывучы ўвесь час пасярод маляўнічых берагоў Віліі, пасля некалькіх гадзін падарожжа мы прыпыніліся ля варот гэтых небяспечных камянёў. Тут рака, ахопленая ўзгорыстымі берагамі, парослымі прыгожым сасновым лесам, пашыраецца на 60 сажняў. Невялікая пясчаная выспачка дзіўнаватай формы падзяляе гэтую прастору на дзве няроўныя паловы: левы яе бок, ля вусця рэчкі Шалнойдзі, маючы тры вялікія камяні, што выглядваюць з вады, і вельмі мелкае дно, робіць пераезд абсалютна немагчымым. Тут жа трэба браць ад засценка крута направа: спрытнасць у хуткім выварочванні на шлях пасярод воднай плыні пры пераходзе гэтага парога можна лічыць сапраўдным мастацтвам. Затым трэба добра ведаць дарогу і ўмець кіраваць суднам, каб без здарэнняў удалося праслізнуць між шматлікіх каменных перашкод, якія пагражаюць ударамі і пашкоджаннямі кожнаму, хто сюды ўваходзіць. Як толькі выспа заканчваецца, раздвоеная рака зноў злучаецца, і рэчышча яе звужаецца на 20 сажняў; гэтае звужэнне вада прабягае хутка, імкліва. Калі маё судна ўваходзіла ў гэтыя парогі, тры аднесеныя плынню вады купецкія плыты, якія не здолелі хутка выруліць на дарогу, сядзелі на тых камянях з самым роспачным выглядам; бо як толькі першы з іх асеў, то другі, непрадумана кіруемы, урэзаўся ў яго, а трэці, гонячыся за імі, урэзаўся ў другі – і так усе тры платы разам прадстаўлялі сабою выгляд бязладдзя і непарадку, да якога можа прывесці толькі неасцярожнасць стырнавога альбо сляпое здарэнне. Парог Шалнойдзя, коцячы свае воды па каменістым ложы, усюды мае празрыстае дно: у самым глыбокім месцы, калі мы яго вымяралі і замалёўвалі, апушчаны зонд паказаў усяго 1 аршын і 8 вяршкоў.

Ад парогаў Шалнойдзя ўжо блізка было да Буйвідзаў. Варта было праплысці некалькі чароўных паваротаў, як на левым беразе нам паказаліся ва ўсёй сваёй пышнасці прыгожыя руіны спустошанага палаца ў Буйвідзах. Мы прысталі да берага і паспяшаліся да працы. Пан Янушэвіч з падарожнай папкаю ў руках ужо пачаў замалёўваць гэтыя развaліны, я ж аглядаў іх і збіраў пра іх звесткі.

Буйвідзы – некалі перададзеныя Янам Казімірам роду Бжастоўскіх землі, ад якіх тыя адмовіліся дзеля Кс. Канонікаў Рэлігійных – былі аднымі з тых, з-за якіх на працягу доўгіх год ішоў настойлівы судовы працэс з манахамі, згаданы мною вышэй, калі гаворка ішла пра Міхалішкі. Пасля доўгіх судовых спрэчак, як мы ўжо гэта бачылі, у апошняй інстанцыі Духоўныя Айцы працэс прайгралі, і паколькі Бжастоўскі адваяваў сабе спадчыннае права на гэтыя землі, яны зрабіліся яго ўласнасцю. Бжастоўскі, аддаючы сваю сястру замуж за Міхала Радзішэўскага, з-за нейкіх фамільных дамоўленасцяў саступіў яму Буйвідзы. З таго часу пасля яго засялення яны зрабіліся спадчыннай уласнасцю Радзішэўскага і ператварыліся ў яго рэзідэнцыю. Радзішэўскі, чалавек, залежны ад акалічнасцяў, параднёны з усімі першымі імёнамі і ўладамі Літвы, маючы блізкія ад Вільні Буйвідзы, дзеля ўтрымання свайго таварыскага становішча патрабаваў адпаведнага спосабу існавання – і дзеля гэтага на чароўным пагорку па-над Віліяй, пры ўпадзенні ў яе невялікай, але вясёлай у сваёй плыні рэчкі, якая звалася Буйвідзкай, паводле плана Ваўжынца Гуцэвіча, за немалы кошт пабудаваў велічны палац, парэшткі якога можна здалёк пабачыць кожнаму ў Буйвідзах. Пасля Міхала Радзішэўскага Буйвідзы перайшлі ў спадчыну яго сыну Станіславу, жанатаму з Абрамавічуўнай, які нейкі час тут жыў. Потым, калі

ён перабраўся жыць у Ілію, Буйвідзы былі аддадзены дзяржаве, а той палац, некалі людны, вельмі шанаваны дваранствам і ажыўлены пышным жыццём яго мінулых уладальнікаў, быў замкнуты і застаўся ў стане спакою. Калісьці ў ім захоўваліся калекцыі рэдкіх і багатых рэчаў, ён быў скарбніцай прадметаў мастацтва і навукі. Яшчэ я сам захапляўся хараством рэчаў, што засталіся ў зборах гэтага сямейства: агромністымі каштоўнымі габеленамі, цудоўным старым саксонскім фарфорам, карцінамі высокай вартасці, зборамі ненайгоршых мінералаў і г.д. Але такою часта бывае няўстойлівасць у лёсах і прызначэнні чалавека!

Не шмат гадоў таму назад (наша памяць яшчэ ўзгадвае тую пару) гэты палац стаяў ва ўсёй сваёй пышнасці, а сёння ён – абшарпаны, без сваіх аздабленняў, без вокнаў, дзвярэй і даху, ператвораны ў поўную руіну; у ім завяліся кажаны і дзікія куніцы, а пачцівае імя апошніх спадчыннікаў, сапраўды запісанае на старонках навейшай гісторыі, вымушана цяжка зарабляць на чужой зямлі на свой кавалак надзённага хлеба.



Землі гэтыя ўжо больш як два дзясяткі год з'яўляюцца ўласнасцю ўрада. На памеснай тэрыторыі ўсе гаспадарчыя пабудовы, што стаяць за садам, – драўляныя, але акуратна ўстаўленыя ў мураваныя слупы і знаходзяцца яшчэ ў даволі добрым стане; на цяперашні момант яны аддадзены ўрадаваму селяніну. Той, арандуючы гэтую зямлю, ператварыў панадворкі ў палі і агароды, заараў прыгожыя паркавыя газоны; сёння ён у агародзе раўнадушна высякае на дровы велічныя таполі, некалі з цяжкасцю і працавітасцю пасаджаныя і дагледжаныя рукамі некалькіх пакаленняў спадчыннікаў гэтай прыгожай мясціны; і з поўнай абыякавасцю чэрпае ён ваду са струменя, які, бегучы па некалі старанна выкладзеных каменных каскадах, сваім цурчаннем ажыўляў гэты пышны сад.

Праз некалькі соцень крокаў, адразу за садам, у супрацьлеглым кірунку ад палаца, знаходзіцца цудоўнае архітэктурнае збудаванне – драўляны парафіяльны касцёл. Перад ім – прасторны квадрат, два супрацьлеглыя бакі якога запоўнены невялікімі драўлянымі домікамі, пабудаванымі з добрым архітэктурным густам. Сёння ў іх знаходзяцца кватэры касцельнай прыслугі, шпіталь для калек, кватэра мясцовага фельчара. Шырокая, абсаджаная салíднымі дрэвамі прамая алея вяла з палаца да касцёла, а мост на мураванай аркадзе, кінутай па-над мурклівым струменем, і руіны якой сёння валяюцца ў рэчцы, злучаў гэты храм Божы з тым пышным пасяленнем людзей. Калі Міхал Радзішэўскі адабраў у Кс. Канонікаў Рэгулярных маёнтак Буйвідзы, жадаючы прыбраць з яго двух манахаў de paenitentia, што яшчэ жылі там пры філіяльным касцёліку, каб канчаткова парваць стасункі ксяндзоў з Буйвідзамі, ён уступіў у 1793 годзе ў дамоўленасць з віленскім капітулам аб перанясенні парафіі са сгвалавецкага касцёла ў Буйвідзы. Дакументам, складзеным з гэтай мэтаю, ён забяспечыў штогадовае ўтрыманне пробашча ў Буйвідзах па 100 злотых – працэнта ад сумы ў 1000 злотых, укладзенай у Дарагобыль; акрамя таго, узяў на сябе абавязак штогод прывозіць шэсць ксяндзоў на фэст Найсвяцейшай Панны Шкаплернай і іх жа "за ўласны кошт утрымліваць для ўдзелу ў набажэнствах на працягу трох дзён; а каб не займацца іх утрыманнем асабіста, абавязвае выплаціць за гэта ў рукі плябана 200 злотых і на exekwie 48 злотых. На лампаду, якая павінна гарэць дзень

і ноч перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, таплёнага лою – фунтаў 80”. Менавіта такія ахвяраванні для касцёла пазначаны ў гэтым дакуменце. Асобна ж для шпіталя на ўтрыманне бедных ён пастанавіў штогодна выдаваць: “Жыта камісійную бочку і чатыры асьміны – г.зн. 216 гарнцаў, ячменю – паўбочкі, альбо 72 гарнцы, аўса – столькі ж; гароху – чвэрць бочкі, прыправы – фунтаў 30, солі – гарнцаў 10 і грошай на год – 60 злотых”.

Найбольшае ахвяраванне, якое паступіла ад Міхала Радзішэўскага, было прызначана Кс. ягамосцю Дзюрдзевічу на ўтрыманне алтарніка пры буйвідзкім касцёле – 22.000 польскіх злотых, з якіх 20.000 былі змешчаны на Ятры, у маёнтку Кашыца, што знаходзіцца ў Наваградскім павеце, а 2.000 – у самога Радзішэўскага, стваладіцкага маршалка. Капітул падтрымаў просьбу Міхала Радзішэўскага: філія ў Буйвідзах стала парафіяльным касцёлам, з якога манахі – хочаш, не хочаш – мусілі сысці.

У гэты час у Буйвідзах быў узведзены і новы касцёл. Ён, як для драўлянага храма, пабудаваны вельмі стройна і да таго ж смела, па-мастацку: цэнтр яго ўтварае 8-кутнік правільнай формы, вуглы якога не з’яднаны ў замкі, як гэта звычайна робіцца ў драўляным будаўніцтве, але пры дапамозе нейкага нябачнага сродку звонку моцна злучаны і шчыльна трымаюцца. Над гэтымі сценамі ўздымаецца высокі драўляны, не зусім традыцыйны купал; на ім – празрыстая вежа, пакрытая яшчэ меншым купалам, а на ім – жалезны крыж правільнай формы. Ад аднаго з бакоў гэтага 8-кутніка цягнецца падоўжаны неф, у якім размешчаны вялікі алтар. Спераду на чатыры калоны абапіраецца прасторны ганак, пад ім па абодва бакі ад уваходных дзвярэй стаяць выразаныя з дрэва дзве статуі каласальнай велічыні. Адна з іх уяўляе Св. Казіміра, другая – Св. Станіслава, біскупа і пакутніка. Над ганкам, на даху стаіць фігура Св. Алены, якая трымае ў руцэ вялікі крыж.



Гэты касцёл знутры размаляваны алейнымі фарбамі. Уся сістэма ўнутранага аздаблення выглядае вельмі гарманічна і нічым не раздражняе чалавека, які трапіў туды ўпершыню. Размалёўваў касцёл нейкі Гасецкі, зусім не вядомы нам сваім прозвішчам мастак. У сярэдняй 8-кутнай частцы касцёла, у стылі, адпаведным яго сценам, на дарычных калонах узвышаецца шырокая, па-наватарску размешчаная галерэя. Касцёл гэты не мае ніякіх гістарычных памятак, якія б маглі быць вартымі згадкі. Са святыняў знаходзяцца ў ім мошчы Святога Фларыяна пакутніка, якія Бжастоўскі прывёз з Рыма асабіста; цяпер яны, пакладзеныя ў шкляную ра́ку, знаходзяцца ў бакавым алтары. На правай жа сцяне, пра што я не магу не сказаць як пра рэч, якая нясе дух сваёй эпохі, у драўлянай раме за шклом, як гэта было надзвычай модна ў той час, знаходзіцца вышыты шоўкам на белым атласе надзвычай нязграбны алегарычны вобраз смерці і адраджэння. На першым плане гэтай вышыўкі ляжыць ссечанае і вывернутае дрэва, пры ім грот, а ў ім надпіс: “Le rai repos”. За паваленым дрэвам – некалькі маладых ялінак, а над усёй карцінай вышыты два наступныя вершаваныя радкі:

Te małe drzewka wzrosną i wydadzą cienie,
Ja stare padłom, bo tak chciało przeznaczenie.

Гэта работа адной з прадстаўніц сямейства п. Радзішэўскіх – памятка з апошніх часоў мінулага стагоддзя.

На могілках, направа ад уваходу, ля самага вугла, знаходзіцца дзівакаватая з выгляду ўсыпальніца Радзішэўскіх, уся запушчаная і ўжо дастаткова пашкоджаная. Гэта мураваны чатырохкутнік, які мае на ўсе бакі аднолькавую вышыню і шырыню, у нейкай меры ён утварае аснову, на якой узвышаецца таксама мураваная, вельмі высокая піраміда, якая мае чатыры вуглы з вузкім завяршэннем уверсе. На ёй заместа крыжа, які звычайна ў нас пазначае касцёлы і капліцы, размешчана вялікае гняздо з сям'ёю жывых буслоў. Такое нехарактэрнае завяршэнне даху ў доме Божым сапраўды ўражвае кожнага.

У аснове гэтай піраміды знаходзіцца капліца, якая асвятляецца двума паўкруглымі вокнамі, размешчанымі ў бакавых ад уваходу ў яе сценах. У ёй, на супрацьлеглай ад уваходу сцяне, знаходзіцца алтар чыгуннага ліцця, зроблены ў выглядзе грота, у заглыбленні якога спачывала ра́ка з машчамі Св. Фларыяна, пакуль не была перанесена ў касцёл. На левым баку алтара – два каменныя абеліскі, пад імі – дзве чорныя мармуровыя дошкі з высечанымі залатымі надпісамі – гэта надмагільныя помнікі па дзвюх жонках Міхала Радзішэўскага: адной – Мараўскай, другой – з роду Бжастоўскіх. Капліца поўнасцю разбураная, столь у ёй прагніла і наскрозь праламалася і ў любы момант пагражае канчаткова абваліцца, чыгунны алтар значна панішчаны. Цяпер капліца ператворана ў склад касцельных рэчаў і нейкіх будаўнічых запасаў. Пасярод касцельных ліхтароў і харугваў, тканін, абы-як параскіданых, маецца там і немалы запас гонты, што засталася ад нейкай майстэрні, і куча вапны, нейкія драбіны і да т.п. З гэтай капліцы няправільныя і нязручныя сходы спускаюцца ўніз і вядуць у магільны склеп сям'і колішніх уладанікаў гэтых мясцін. І тут я зноў пабачыў вялікую абыякавасць да ўпарадкавання месца апошняга спачыну рэштак гэтых людзей, якія пры жыцці з такім клопатам дбалі пра гэтую святыню. Склеп быў цёмны, патыхаў смуродам, без ніякай падлогі, пясок у ім быў такі глыбокі, што нага пагружалася па косткі, а дол такі няроўны, што нельга было па ім ступіць упэўнена. На гэтым пяску стаялі тры вялікія труны і дзве малыя, дзіцячыя. У адной з большых, зробленай з чырвонага дрэва і аздобленай серабрыстымі ўпрыгожваннямі, была прымацавана бляха з гербам, у галавах – другая, большая. Надпіс на ёй паведамляў, што тут знаходзяцца рэшткі Радзішэўскага. Труна наглуха закалочана, і яе немагчыма было адчыніць. Аднак, ахоплены цікаўнасцю, я падняў века другой труны, што стаяла побач, таксама зробленай з падобнага дрэва і прыгожа аздобленай, на якой, акрамя аздабленняў на веку, з аднаго боку была манаграма М. К., а з другога – бляха з падвойнымі гербамі Радзішэўскіх і Мараўскіх. На веку труны зверху – падоўжаная пабеленая бляха з бронзы, такая ж – з лічбай і арнаментамі, з заплаканымі анёламі наверсе і з чэрапам унізе. На ёй друкаванымі літарамі выбіты доўгі надпіс; калі я прачытаў яго пры дапамозе запаленых паходняў, то знайшоў у яго змесце важнейшыя падрабязнасці жыцця і разнастайную пахвалу дабрадзейнасцям гэтай пані, парэшткі якой былі закрытыя ў гэтым невялікім доміку для памерлых. Надпіс быў наступны:

Напоўненая рэлігійнасцю, чысцінёй і славаю вяльможная Пані
МАРЫЯ З МАРАЎСКІХ РАДЗІШЭЎСКАЯ
Жонка харунжага Страдубскага павета, 9 ліпеня 1749 г. у Віжунах
НАРОДЖАНАЯ
Якая атрымала ад Бога і прыроды шматлікія дабрачыннасці, для жыцця сапраўды хрысціянскага і грамадскага
ВЫХАВАНАЯ
Якая набожнасцю, сціпласцю і бязвіннымі паводзінамі ўсіх
ЗДЗІЎЛЯЛА
Наведваючы розныя чужыя краіны з Яснавяльможнай Тэафілай з князёў
РАДЗІВІЛАЎ МАРАЎСКАЙ

Жонкай пісара ВКЛ, сваёй братавай, у сталіцы свету Рыме ад
КЛЕМЕНТА XIV
падарункам, са святым дабраславеннем спалучаным
АБДОРАНАЯ
У сакавіку 1773 г. у Венецыі з Яснавяльможным Панам
МІХАЛАМ РАДЗІШЭЎСКІМ
Харунжым Старадуб.
ЗАРУЧАНАЯ
16 чэрвеня 1776 г. у Нясвіжы з ім жа
АБВЕНЧАНАЯ
Пакінуўшы сына Караля, дачок Тэафілію і Канстанцыю,
чулай і прыкладнай маткаю ў выхаванні дзяцей
ЗАЎСЁДЫ БЫЛА
Нарэшце 20 красавіка 1787 г. у Нясвіжы, прыняўшы св. Сакрамэнты ў іншае жыццё
ПЕРАНЕСЕНАЯ
ТУТ
У фамільным Склепе была сваім мужам 22 ліпеня 1787 г.
ПАХАВАНА
На памяць у будучыя часы
АДДАДЗЕНА
чакае ўсеагульнага ўваскрэсення.

---

*Ты, хто чытаеш – памятай, што памрэш, а за тых, што ўжо памерлі – маліся.*


Ozdoby na trumnie Radziszewskiej.

Перад могільнікавай брамай стаіць акружаны лёгкім штыкетнікам драўляны крыж на тым месцы, дзе некалі (г. зн. у той час, калі гэтая тэрыторыя належала ксяндзам Канонікам) знаходзіўся маленькі драўляны філіяльны касцёльчык, пры якім, пра што мы ўжо ведаем, заўсёды жылі два ксяндза гэтай супольнасці. Пасля збудавання новага касцёла стары быў разабраны, а крыж, пра які мы гаворым, паказвае сёння людзям, якія цікавяцца сваёй мінуўшчынай, месца, на якім стаяў той даўнейшы касцёл.

Пасля вывучэння руін палаца, касцёла і капліцы, калі нам ужо нічога тут для агляду не засталося, я нанёс візіт мясцоваму ксяндзу пробашчу, які служыў у гэтым пробастве на працягу больш як дваццаці год, быў дасведчаны ва ўсіх падрабязнасцях, што датычыліся навакольнай мясцовасці. Зазіраючы на кожную сядзібу па-над берагамі Віліі, збіраючы ў іх разнастайныя звесткі, звязаныя з мэтай майго падарожжа, я, як той прадбачлівы збіральнік ахвяраванняў, што едзе ад хаты да хаты, збіраючы паведамленні і пра людзей, якія жывуць па дарозе, таксама распытваў пра тых людзей, якія траплялiся на маім шляху, у жаданні дазнацца, чым я магу ў гэтай маёй вандроўцы аказацца прыемным і жаданым госцем. Я даведаўся, што той пробашч у Буйвідзах, нягледзячы на свае далёка не маладыя гады, бо іх было, як мне здалося, за 60, быў захоплены паляўніцтвам, і развагі пра паляванне, пра сабак і зброю былі для яго самай любімай тэмай. Пасля кароткай размовы пра мінуўшчыну гэтых мясцін, з-за паляўнічай стрэльбы, што стаяла ў бакавым пакойчыку, гаворка неяк неўпрыкмет перавялася на паляванне. Ксёндз, узрадаваны тым, што перад ім адкрылі гэтую бочку, відавочна ажывіўся. Ён забыўся пра Буйвідзы, пра сваіх Бжастоўскіх і Радзішэўскіх, пра якіх мне толькі што так сур'ёзна распавядаў, і пайшла бясконцая гаворка пра сабак, ліс, зайцоў, цецерукоў і розную зверыну. Ён з захапленнем расказваў мне, як пасярод палацавых руін страляў куніц і цэлую ноч

падпільноўваў іх – словам, мы выдатна пазнаёміліся і хутка знайшлі паразуменне. Пробашч не адыходзіў ад мяне ні на хвіліну, а, даведаўшыся, што я ма́ю зброю на судне, захоплены жаданнем яе агледзець і жадаючы аказаць мне паслугу за паслугу, пажадаў правесці нас на бераг ракі. Ішлі мы да Віліі разам, увесь час размаўляючы пра паляўніцтва. Калі мы спыніліся на беразе, я запрасіў пробашча на судна на шклянку гарбаты і на далейшы працяг размовы, пасля чаго ксёндз вярнуўся ў плябанію, а мы пайшлі вадою далей. Адплываючы, калі з маіх вачэй зніклі Буйвідзы, разам з бегам ракі я нёс з сабою балючае ўражанне, выкліканае ў мяне відамі гэтых руін, што аднаўлялі ў памяці ўпадак сям'і, якую я так добра ведаў і так шчыра паважаў.

У гэты дзень наша падарожжа выглядала больш ажыўлена з прычыны з'яўлення на вадзе мноства плытоў, што рухаліся або з таварным дрэвам у Коўна, або з дрэвам для распальвання – у Вільню. Водны рух цалкам адрозніваецца ад сухапутнага; тут людзі перамяшчаюцца іначай – зусім іншыя ўмовы забяспечанасці перавозчнага тавару. Адна хвіліна, адзін нечаканы вецер, якога нельга прадбачыць і ад якога нельга ўберагчыся, можа ўдарыць аб камень ці выкінуць на бераг, дашчэнту знішчыць намаганні і перакрэсліць надзеі гандлюючага люду, таму работнікі не жартам, а так энергічна завіхаюцца каля гэтай працы. Дасканала ведаючы дарогу на вадзе, не раз пакрытыя крывавым потам, яны стараюцца даставіць давераны іх ахове капітал у цэласці. Шкода, вельмі шкода, што на адным толькі сплаве тавару зверху ўніз заканчваецца гандлёвы рух па гэтай цудоўнай рацэ, хвалі якой так шырока і так велічна коцяцца праз прасторны край між надзвычай прыгожых берагоў. Абмінаючы ўвесь час плыты, між якіх нам неаднойчы давялося спрытна праплываць і выварочвацца, пасярод крыку плытагонаў і гучных пляскаў вады, якія ўтвараюць на платах вёслы ад энергічных рухаў стырнавых, прайшлі мы ля вёскі Вількінцы малы парог, які называецца Дзявочы карагод, і шчасліва абмінулі небяспечны камень Воўк, што ляжаў у рацэ за гэтым парогам, пасля чаго спыніліся ў Балінгрудку.

Тут я мусіў прыпыніцца ля берага не ў належным месцы, бо з парома яшчэ не быў апушчаны канат па прычыне таго, што з супрацьлеглага берага збіраліся перапраўляцца падарожныя людзі. Я выйшаў са свайго судна і, стоячы на беразе, прыглядаўся да парома, які набліжаўся да мяне. Сярод іншых фураў там стаяў доўгі воз з драбінамі, запрэжаны парай коней. Накладзеныя на яго мяхі нагадалі мне вядомы на Літве той воз, і нібыта бернардынца, які збіраў ахвяраванні. На гэты раз я не памыліўся, бо калі паром набліжаўся да берага, я ўбачыў на ім пад белым палатняным шлафрокам і белым капелюшом тоўстага дабрадушнага Бернардынца, які круціўся і размаўляў з людзьмі, што знаходзіліся на пароме. Паром прыбіўся да прыстані, і людзі пачалі з яго сыходзіць.

– Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны! – адазваўся да мяне на беразе Бернардынец.

– На векі вѐкуў, – адказаў я яму на гэта. – Адкуль жа гэта Пан Бог вядзе? – спытаў я.

– Я – брат Гілярый, з кляштара Бернардынцаў Трашкунскіх, збіраю ахвяраванні на аднаўленне алтара Маткі Боскай Шкаплернай. – Можа, і Дабрадзей будзе ласкавы ахвяраваць рубельчык – не болей! – жартаўліва выкрыкнуў брат Гілярый.

– Звычайна збіральнікам ахвяраванніяў не адмаўляюць, – адказаў я яму на гэта, – Але рубельчык – гэта немалыя грошы, прынамсі для беднага падарожніка, якім я з'яўляюся.

– А кім будзе Пан? – спытаў Берардынец.

– Я таксама збіральнік, – здымаючы капялюш і пакорна яму кланяючыся ўзаемна, адказаў на гэта.

– Х-ха-ха! – грубавата засмяяўся Бернардынец на мой адказ, гледзячы на світу маіх таварышаў па падарожжы і колькасць слуг, якія мяне акружалі, і думаючы, што я жартую.

– А на які ж гэта алтар дабрадзей збірае?

– На алтар, на якім усе сваю ахвяру складаць павінны – на алтар навукі. Ахвяра,

пакладзеная ў маю ахвяравальную скарбонку, – гэта народная песня, альбо нейкае тутэйшае выслоўе, ці мясцовае паданне, ці нейкія гістарычныя звесткі. Падумай, браце Гілярый, якую можаш даць мне міласціну, бо іначай – калі мне на маім алтары не пакладзеш, нічога і табе на твой алтар не дам.

– Ну, калі так, то раскажу дабрадзею старую малітву, якую ўзносіў жмудзін бажку Перкуну, каб той не біў яго сваімі грымотамі, а біў гуда, г.зн. любога іншага чалавека, які гаворыць на іншай, а не на жмудскай мове, альбо таксама літоўскай.

– Згода! – сказаў я і паклаў Бернардынцу жаданы рубельчык; ён жа прадыктаваў мне наступную песеньку:

Perkunas Diewajti!
Ne muszkie Żemajti!
Muszkie tą Guda
Kap szuni ruda.

Так разлічыліся між сабою два збіральнікі над берагам цудоўнай Нерысы. Брат Гілярый, накідаўшы мне паводле звычаю збіральнікаў ахвяр безліч дабраславенняў, пацягнуўся па пяску ў Трашкуны.

Балінгродак, сённяшняя ўласнасць памешчыка Турцэвіча – гэта заснаванае Ігнацыем Балінскім ліхое мястэчка, размешчанае на правым баку Віліі, на суцэльна пясчаным беразе, прарэзаным маленькім струменем, які тут упадае ў Вілію. Нічога дзіўнага, што закладзенае на такой няўдзячнай глебе, яно не магло ні разрасціся, ні ўзняцца, не кажучы ўжо пра тое, каб дасягнуць стану квітнеючага ці хоць бы сярэдняга мястэчка. Пры гэтым малым, зусім нязначным струменьчыку месціцца некалькі дзесяткаў малых яўрэйскіх дамкоў, кінутых абы-як на пяску – без садоў, без хоць якой зеляніны; а ў іх убоства і галеча – вось дакладны вобраз таго Балінгродка, які лічыцца мястэчкам. Пасярод гэтай галечы, на тым самым пяску, без усялякай агароджы, нібыта ў нейкай пустыні, уздымаецца мураваны касцёл з квадратнай, не надта высокай вежай, і дагэтуль не атынкаванай з фасаду. У ёй над галоўнымі дзвярыма ад уваходу ў прамавугольнай увагнутасці, атынкаванай знутры, чорнай алейнай фарбай напісана: *Ігнацый і Эльжбета Балінскія збудавалі. 1825 г.*

Гэта філіяльны касцёл; унутры ён бедны, аднак вызначаецца добрым веданнем і някепскім падборам абразоў. Так, напрыклад, у закрыстыі, праз якую заходзіў у яго, я ўбачыў абраз Св. Себасцяна, напэўна, арыгінал італьянскай школы. Абраз стары, вельмі добрай работы. У самім касцёле на хорах невялікі абразок – выдатная копія з нейкага цудоўнага арыгінала – затрымлівае наш позірк сваёй прыгажосцю. На ім намаляваны Евангеліст Мацвей, які ў натуральнай, нязмушанай позе сядзіць на зямлі і піша, а ў гэты час за ім выключна выпісаны анёл дыктуе яму словы Евангелля. Па абодва баکі вялікага алтара знаходзяцца два абразы не надта вялікага фармату – абодва пецярбургскай школы. Першы, які вісіць па правым баку, над дзвярыма ад закрыстыі, уяўляе сабою копію Мурыльё і прадстаўляе Матку Боскую са Св. Дзіцяткам на руках; другі, з супрацьлеглага боку – абраз Звеставання Маткі Боскай, які мае яскравы каларыт, што з'яўляецца галоўнай рысай пецярбургскай школы; малюнак усюды добры і правільны. Анёл



намаляваны лёгка, празрыста, грацыёзна. У вялікім алтары знаходзіцца буйнога памеру абраз, які паказвае ў натуральную велічыню выяву Св. Ігнацыя; на ім сярэбраныя чаканныя шаты, унізе, ля шатаў – узорыстая тканіна, пазалочаныя і аздобленыя выпуклымі featураднакаляровымі кветкамі арнат і маніпуляж на руцэ.

У гэтым абразе я адразу прывітаў свайго старога знаёмага. Нагадаў ён мне мае юнацкія гады, бо перад рэстаўрацыяй б. універсітэцкага касцёла Св. Яна ў Вільні, праведзенай паводле плана прафесара Падчашынскага, калі я яшчэ хадзіў у школу (а той касцёл я застаў такім, які ён быў пасля езуітаў і зіхацеў багата выкананымі штучнымі аздобамі шматлікіх алтароў), я пабачыў там абраз Св. Ігнацыя ў бакавым алтары па левым баку.

За касцёлам, у некалькі сотнях метраў, стаіць плябанія, у якой стала жыве вікарый. На супрацьлеглым жа беразе Віліі знаходзіцца памешчыцкі двор уладальнікаў гэтай мясцовасці.

Агляд Балінгродка заняў у нас няшмат часу. Нядаўна заснаванае над берагам Віліі паселішча яшчэ не паспела назапасіць успамінаў, каб набыць асвечаную вякамі павагу ці гістарычную спеласць. Паколькі мы не знайшлі там нічога, што б было цікавым для нашых росшукаў, пасля кароткага агляду мясцовага касцёла і яго замалёўкі мы паплылі далей. За Балінгрудкам, каля вёскі Брыжаў, праплылі мы праз малы парог, які зваўся Мармуслі, і крыху далей за ім з правага берага з Віліяй злучаецца рэчка Жаймяна. Плывучы па нізінах з глыбіні Свянцянскага павета, яна, ужо названая па-літоўску (бо ў літоўскай мове *zemaj-ejna* значыць “нізка”, “заглыблена”), плыве па балотах, размяжоўваючы між сабою Віленскі і Свянцянскі паветы, і ўтварае па гэты бок Віліі, так, як па левым баку Ашмянка, мяжу паміж дзвюма гаворкамі – русінскай і чыста літоўскай. Над берагамі Жаймяны розніцу гэтых дзвюх гаворак не настолькі выразна ўдаецца вызначыць і пачуць, як над Ашмянкаю, дзе на першым беразе цалкам заканчваецца русінская мова, а на другім ліцвіны пачынаюць размаўляць на сваёй мове. Ад Міхалішак, на левым беразе Віліі, пайшла ўжо, як мы ведаем, сапраўдная Літва.

Такім чынам, на працягу гэтых вёрст 40, дзе на супрацьлеглым беразе да вусця ракі Жаймяны яшчэ цягнецца менавіта Русь Літоўская, кантакты літоўскага племені з братняй зямлёй русінаў, якія бесперапынна назіраюцца на рацэ Віліі, значна сцерлі на правым яе беразе русінскую мову. Да таго ж, на гэтым адрэзку знаходзіцца вялікая колькасць малых мястэчак, дзе мясцовы люд паводзіць сябе звычайна не так, як у вёсках. Але калі прыезджыя чужынцы розных нацыянальнасцяў, якія аселі тут, пачынаюць гаварыць на сваёй мове, то паволі і неўпрыкмет, дзякуючы ўзаемным стасункам з вяскоўцамі, яны пачынаюць мяшаць гаворку. Паколькі як вялікія гарады, так і малыя мястэчкі, паводле свайго статуса, робяцца галоўным і цэнтральным пунктам жыцця і руху гэтага наваколля, дзе яны размешчаны, то сюды сцякаецца ўвесь вясковы люд, што жыве па суседству, са сваімі неабходнымі патрэбамі ў штодзённым жыцці не дзеля таго, каб тут навязаць свае правы і звычаі, але каб прыстасавацца да гарадскіх звычаяў. Гэтым шляхам нябачнымі сродкамі, якія не ўдаецца адразу разгледзець нікому, усе магчымыя заганы горада – гультайства, п’янства, празмернасць і розная распуста, якія патроху і штодзённа зыходзяць з гарадскога асяроддзя, усё больш пранікаючы ў спакойнае жыццё вясковага люду, псуючы яго кепскімі прыкладамі – каламуцяць яго прастату, душэўны спакой і згладжваюць першазданную чысціню. Мне здаецца, што менавіта з названай прычыны ў гэтай частцы надбярэжжа нашай ракі, на яе правым беразе русінская гаворка амаль цалкам заканчваецца, і пераважнаю робіцца польская мова. Тут кожны селянін, горш ці лепш валодаючы ёю, намагаецца, каб з прыезджым гаварыць па-польску, вядома, заўсёды пакалечанай мовай, бо звыклі да літоўскага акцэнту, працягла і спеўна калечаць польскую мову неміласэрна. Акрамя непатрэбных дадаткаў, якія часта ўжываюць у гаворцы, як, напрыклад: “Дак цуж, ото юж!” і да

т.п., зычны *к*, звыклі замяняць *х*, слова, закончанае на *ę* – яны заканчваюць зычным *м, вось такім чынам:* кухня – у іх кукня, кохам – кокам, nie chcę – nie kcem, і шмат іншага. Пасярод пачцівага і набожнага народа, які размаўляе на такой пальшчызне, мне давялося плысці аж да вусця нашай Віліі.

Вілія, пасля зліцця з ракой Жаймянай, замучаная сваёй павіннасцю размяжоўваць два паветы, перадаручыўшы гэты нудны абавязак сваёй малодшай сястры Жаймяне і вызваліўшыся ад яго сама, крута паварочваючы ўлева, крыху на поўдзень, вясёлая, смеючыся, пабегла да сваёй улюбёнай Вільні. Пасярод прыгожых, а чым далей, то і яшчэ прыгажэйшых берагоў, маляўнічасць якіх ні пераказаць, ні апісаць немагчыма, непадалёк ад вусця Жаймяны, на высокім правым беразе Віліі мы абмінаем вялікую цагельню, што стаіць на зямлі памешчыка Парчэўскага. Я згадваю тут пра яе як пра цікавы аб'ект па той прычыне, што з выробленай тут цэглы паўстаў той велічны касцёл у Няменчыне, пра які я яшчэ буду гаварыць. Ля падножжа гэтай цагельні падымае па-над вадою сваю галаву вялікі злавесны камень, аб які, праплываючы, неаднойчы стукаліся караблі. У гісторыі суднаходства па Віліі ён вядомы ўсім стырнавым пад імем Цагельніка. Плывучы далей, мы ўваходзім у пяты па ліку сяброўскі парог, які завецца Баранам і пра які, як вельмі небяспечны, увесь час нам расказваў наш стырнавы Дзядуля, жадаючы яшчэ вышэй падняць у нашых вачах свой аўтарытэт дасведчанага плытагона па Віліі; мы ўвайшлі ў яго каля 6-й гадзіны пасля паўдня. Гэты небяспечны пераход цягнецца дзесьці каля паўвярсты. Першы яго паварот, пры якім рака ў шырыні звужаецца ўсяго да 20 сажняў уваходзячым у яе з левага боку вострым мысам зямлі; парог на гэтым мысе ўтварыўся вялікай кучаю прыродай навaленых камянёў, якія ўваходзяць ажно да сярэдзіны ракі і робяць гэтае месца небяспечным. Трэба ўважліва і хутка ўпраўляцца з вяслом, каб пасярод імклівай плыні павярнуць і не збіцца з дарогі, бо пасля павароту вада з такою ж хуткасцю нясе судна паўз вялікія камяні, што вытыркаюцца з вады, у якія вельмі лёгка можна ўрэзацца, калі самавалоданне стырнавога ў такі момант не дапаможа з гэтым справіцца; і зноў хуткая плынь загоніць яго ў напоўніцу заваленую з абодвух бакоў камянямі новую цясніну, па якой рака цячэ ўжо звычнай для яе шырынёю ў 52 сажні. З гэтага апошняга парога Вілія паварочвае направа, і тут ужо небяспека заканчваецца.

Усе гэтыя небяспечныя парогі, як і сама рака, наогул неглыбокія. У самым глыбокім месцы ніводзін з іх не перавышае 2 аршыны. Вада, коцячыся ля берагоў па каменьчыках, зусім мелкая – усюды можна ўбачыць праз ваду белае дно.

## XII.

Апынуўшыся на парозе Баран, мы вымералі і замалявалі яго, пасля чаго пайшлі далей, акружаныя цудоўнай прыродай. Справа цягнуўся высокі горысты ланцуг, парослы лесам і кустоўем, прарэзаны час ад часу стромкімі глыбокімі лагчынамі, ці схілам, што, нібыта смеючыся, спускаецца да Віліі. Налева раскінулася раўніна, на ёй – узараныя палі, пасярод якіх стаяла нейкая добра адбудаваная сядзіба. У рацэ пасвіўся параскіданы тут і там статак кароў, якія апускалі галовы ў ваду, каб сарваць смачную ім моўру. На беразе, на вялікім камені, сядзела маладая, надзвычайнай прыгажосці, прыстойная, чыста апранутая дзяўчына, якая пасла каровы. Каля яе на зямлі сядзела маленькая дзяўчынка. Старэйшая шыла кашулю, і абедзве разам, каб забавіць час, піскլівымі галасамі спявалі нейкія свае песні. Так выглядаў вясковы абразок гэтай мясцовасці, сярод якой раптам затрымаўся звычайны ход нашага судна па Віліі, і Дзядуля засведчыў, што непадалёку ад нас знаходзіцца скала з крыжам, пра якую на працягу гэтага падарожжа ён нам апавядаў тройчы.

– Прыбівай, Дзядуля, да берага і правядзі мяне да яе! – крыкнуў я.

Дзядуля прышвартаваў судна, сам з яго вылез і пайшоў наперад, а я пабег за ім. Прайшоўшы ўздоўж ракі па самым яе беразе крокаў, можа, з сорак, Дзядуля затрымаўся і паказаў мне пальцам на вузкую сцяжынку пасярод густога лесу, якая вяла ўгору. На самой справе, гэта быў абсалютна новы і незвычайны для Літвы від, і пры гэтым такі раскошны і велічны, які ў першы ж момант прывёў мяне ў захапленне. Літва, якая ў сваім першародным сціплым і простым выглядзе нідзе не атрымала з рук Творцы ні скал, ні надзвычайных капрызаў прыроды, здзіўляе тут кожнага падарожніка кавалкам скалы, які рэзка выходзіць з-пад абрыву гары, пад якім сфармаваная ў дзвюх яго баках ўвагнутасць утварае грот, раздзелены натуральным выступам ад гэтай скалы, нібы падвешанай у паветры і не абапертай на зямлю. Гэты кавалак скалы пасярод лесу знаходзіцца за 55 крокаў угору ад паверхні ракі; сапраўды, нібыта падвешаны ў паветры, ён мае вышыню 6 аршынаў і 11 вяршкоў; акружнасць часткі, якая выступае акругла наперад, мае 17 аршынаў і 3 вяршкі; адтуліна грота, што знаходзіцца пад ёю, мае вышыню 2 аршыны і 14 вяршкоў. Гэтая скала відавочна вапнавага паходжання; зверху і з бакоў праз яе шчыліны няспынна выціскаецца з нябачных крыніц і спадае кроплямі на ніз вада. На версе гары дзёран выходзіць ажно на самы край, з-пад якога карэнні дрэў, што растуць на ёй, пераплятаючца, утвараючы нібыта маляўнічую карону гэтай скалы. На адной з яе выемак расце губчаты, пушысты, далікатны мох цёмна-зялёнага колеру.

Скала гэтая не толькі сама па сабе прываблівае прышэльцаў, якія яе наведваюць. Яна прыцягвае да сябе таксама чароўнай святасцю, якую ў гэтых краях прызнаў за ёй народ. Вада, што сочыцца з яе кроплямі, нібыта мела ўласцівасць вылечваць хваробы вачэй: той, хто пакутаваў на вочы, прамыўшы іх ёю, папраўляўся. Тут з набожнай верай збіраюцца тлумы людзей розных саслоўяў, адусюль прыходзячы сюды пехатою і прыязджаючы цягнікамі. Уладальнік гэтай скалы, вядомы ў Літве сваймі карыснымі памкненнямі, памешчык п. Аляксандр Парчэўскі, жадаючы ўшанаваць гэтае месца, паставіў на ім прыгожы крыж з фігураю Ісуса Хрыста і скарбонку ўнізе. Скала знаходзіцца непадалёку ад панскай сядзібы і з'яўляецца мэтаю ўлюбёных прагулак уладальніка і яго сям'і. Называюць яе тут паўсюдна Святой Скалою, ці часам Люцыянскай Скалою ад аднайменнай назвы прылеглай вёскі.



Святая Скала не пазбаўлена мясцовых легенд. Тутэйшыя простыя людзі расказваюць паданне пра тое, як аднойчы нейкая пані, прыехаўшы на гэтае месца, вымыла сцякаючай са скалы вадою вочы свайму сабачку, і ў выніку гэтая вада страціла ўласцівасць дапамагаць людзям. Існуе і іншае паданне пра тое, як ахоплены цікаўнасцю адзін з плытагонаў адбіў быў камень ад гэтай скалы і хацеў яго з сабою забраць, і тады яго плыт пачаў тануць, і да таго часу ён не зрушыў з месца, пакуль плытагон не аднёс той камень назад.

Калі я аглядаў Святую Скалу, то ўбачыў, як ля яе падножжа на каленях стаяў сівабароды старац, апрануты ў чысты палатняны капот. Склаўшы рукі і ўзняўшы вочы ўгору, ён глядзеў на крыж і маліўся Небу не словамі, бо вусны яго ў гэтую хвіліну не варушыліся, а чуллівай малітвай душы. Я шчыра парадаваўся, убачыўшы гэтага набожнага пілігрыма. Спаткаў я, нарэшце, тое, чаго так горача прагнуў; і я сказаў сам сабе: напэўна, ён раскажа мне нейкую гісторыю пра старыя часы альбо пра сваё жыццё. Было гэтаму старцу добра

за семдзесят год, меў ён у меру прыгожы выгляд, здаровы целасклад, румяны твар, доўгія сівыя валасы на яго галаве былі ўскудлачаныя, меў ён доўгую сівую бараду, насіў торбу цераз плячо, а ў ёй – свае падарожныя пажыткі. Захаваўшы здаровае аблічча і здаровую яшчэ душу, гэты старац шмат год праводзіў сваё жыццё ў доўгіх малітвах, у няспыннай размове з Госпадам Богам, адасобіўшыся ад свету, адвыкшы ад людзей. Ён дасканала зразумеў, што́ гэты свет можа даць чалавеку, і, нічога не жадаючы ад яго ўзамен, жыў шчасліва, цалкам незалежны ад людзей і акалічнасцяў; жыў ён вольна ад бурных хвілін, што нараджаюць у чалавеку пачуцці; далёкі ад турбот, клопатаў і няшчасцяў, якія людзям, што жывуць поруч, высцілае па дарозе жыцця чалавечая карысць, зайздрасць і злосць, ён меў чыстую душу і вялізны запас любові да бліжняга насіў у сваім сэрцы. Гэтыя два багатыя дары ён змяшчаў у сабе выключна дзякуючы набожнай малітве, якой прысвяціў сябе здаўна. Аддадзены богабаязным абавязкам, ён знаходзіўся ў няспынных пілігрымках да нашых святых мясцін. Быў неаднаразова ў Маткі Боскай Чанстахоўскай, у Пачаеве, у Бялынічах, у Жыровічах; маліўся перад целам дабраславёнага Баболі ў Полацку, маліўся Св. Данату ў Краславе, Св. Юстыну ў Мядзелі – а Матка Боска Вастрабрамска была яго хатняй Пані і Маткаю. Жадаючы пераняць на дарозе набожнага старца, калі той будзе вяртацца са сваёй вечаровай малітвы, і бліжэй з ім пазнаёміцца, пакуль п. Янушэвіч маляваў Святую Скалу, – нягледзячы на тое, што гасцінная Марыся, якая пасвіла каровы і з якою я пазнаёміўся бліжэй, калі яна расказвала мне паданне пра Св. Скалу і шчыра запрашала нас у сваю вёску на начлег, – я хутчэй разгарнуў мой падарожны абоз на беразе ракі, ля падножжа Св. Скалы, распаліў вогнішча і расклаў усё сваё падарожнае гаспадарства. Пасля даволі доўгага майго чакання старац, нарэшце, скончыў сваю малітву і, абапіраючыся на кій, паволі спусціўся ўніз.

– Падыдзіце да нас, божы чалавеча, і падзяліце з намі адпачынак і падарожную страву, – сказаў я гучным, каб пачуў старац, голасам, седзячы ля вогнішча.

– Бог вам заплаціць, ласкавы пане, – звяртаючыся да мяне, адказаў старац. – Хлеб сухі і малітва – гэта мая страва; цвёрдая зямля – мая пасцель, а неба – мой покрыў.

– Кім жа будзеце? – спытаў я.

– Набожны валацуга, які Богу за сябе і за бліжніх сваю малітву ахвяруе.

– Дык дзе ж вы нарадзіліся? Дзе правялі сваю маладосць? Што вас, старча, схіліла да гэтага набожнага валацужніцтва па свеце?

– О! Шмат бы давялося расказваць вам пра гэта, мой добры пане. Сіла адышоўшых гадоў пакрыла маё мінулае і аддала яго бяспамятству. А як часта хацелася б забыцца пра тое, што адбывалася калісьці: тады чалавеку неяк спакайней, неяк яму не так маркотна на сэрцы. У маладосці я служыў майму краю, потым прыслужваў панам, і вось ужо каля трыццаці год служу Богу і Матцы Яго Найсвяцейшай. У першых маіх службах я па-рознаму адчуваў сябе: часам душа пакутвала, часам сэрца крывавіла. У сённяшнім жа маім пакліканні так мне добра, так на душы шчасна, так на сэрцы лёгка, што ўжо Вам, мой добры пане, і паўтараць не хачу таго, што некалі рабілася са мною, – сур'ёзна адказаў мне старац.

– Але куды ідзяце, старча?

– Іду вельмі здалёк, ад маёй маткі Уршулі, а кірууюся да Вострай Брамы – майго сталага месца малітвы.

– Хто ж такая матка Уршуля? Адкажыце мне, калі ласка.

– О! Вельмі цікавая гісторыя з той Уршуляй. Гэта вельмі набожная жанчына, поўная хрысціянскай чысціні; у маладосці яна безразважліва ўчыніла цяжкі грэх; але Бог мусіў ёй гэтую віну дараваць, бо дазволіў за яе адпакутаваць за кратамі кляштара, і даў ёй столькі сілы і духоўнай моцы, што яна ператварылася ў святую нявесту, якою з'яўляецца і сёння. Няма ніводнага няшчаснага чалавека, які не атрымаў бы з яе рук падтрымкі; няма гаротніка, якога б яна не пацешыла духоўнай парадай; і нават тых, хто бядуе з роспачы, яна вяртае на шлях праўды і суцяшэння разумным і богабаяз-

ным словам. Мой добры пане! Гэта анёл, пасланы на зямлю Богам, каб Яго святыя дабрадзейнасці ён размяркоўваў між намі, грэшнымі людзьмі.

Пасля гэтай водпаведзі старца мая цікавасць да яго яшчэ больш абвастрылася; тым мацней я адчуў, што ў маім падарожжы я натрапіў менавіта на тое, чаго так горача прагнуў – г.зн. на нейкую цікавую гісторыю, праз якую я мог бы разнастаіць сур'ёзныя, а часам сухія рэчы, што раз за разам назапашваліся ў маёй папцы на працягу гэтай паездкі. Я падаў старцу кілішак гарэлкі, якім ён падмацаваў сябе, і я паўтарыў сваю гарачую просьбу, каб ён распавёў мне пра жыццё маткі Уршулі.

– Ну, калі ўжо так жадаеце, мой добры пане, то раскажу вам пра матку Уршулю. З вялікай ахвотаю люблю расказваць пра гэтую святую законніцу, бо хацеў бы, каб усе ведалі яе справы і каб кожны аддаваў гонар яе дабрачыннасцям.

Тут старац абаперся на кій і сабраўся распавядаць гісторыю пра матку Уршулю. Усе мы з цікавасцю акружылі распаленае вогнішча. У старца быў яшчэ досыць моцны галасавы апарат; праўда, зубоў яму ў роце бракавала, і таму некаторыя словы ён вымаўляў невыразна. Але гаворка яго была настолькі яскравая, словы яго мелі столькі моцы, праўды і прывабнасці, што, з захапленнем слухаючы яго, я праклінаў таямніцу, якою было пакрыта яго мінулае, бо ў ім павінны былі захоўвацца падрабязнасці жыцця чалавека, які, што відаць яго з яго размовы, не быў усяго толькі звычайным жабраком.

Старац распачаў надзвычай цікавае апавяданне пра свой лёс і лёс сям'і, у якой ён прыслужваў у двары падчашынай, пра яе ўнучку панну Уршулю, пра яе ўцёкі з дому бабкі, якія прыспешылі смерць старой, пра сумнае жыццё, пра ўдоўства і пакаянне ў кляштары. Расповед гэты, які жыва нагадваў даўнейшыя часы і звычаі, мы абмінаем, спяшаючыся да далейшых апісанняў нашага падарожжа.

Калі ж пілігрым, нарэшце, скончыў сваё апавяданне, пакорліва мне кланяючыся, ён сказаў:

– Досыць на сёння, мой добры пане. Ужо заходзіць сонца, пара́ адпачываць. – І, пакланіўшыся мне нізка і паважна, пайшоў ад мяне сваёй дарогаю берагам ракі.

Старац паволі знікаў з маіх вачэй паміж кустоў і зарасніку, якімі густа парос у гэтым месцы бераг ракі, а я, назіраючы за ім, выхопліваў з памяці асобныя моманты толькі што расказанай гісторыі, каб можна было некалі добра паўтарыць яе – так, як толькі што мне яе расказаў мой пілігрым.

Марыся, якая з цікавасцю слухала апавяданне старца, пасля яго сыходу, гледзячы, як мы клапоцімся пра выбар месца на начлег, яшчэ раз паўтарыла гасціннае запрашэнне ў сваю вёску, адмовіць у якім нам ужо ніяк не выпадала. Мы прынялі гэтую прапанову літоўскай дзяўчыны, і калі маладая, разважлівая, стройная пастушка пагнала наперадзе сябе каровы, што вярталіся з пашы, мы разгарнулі наш падарожны абоз, пасля чаго праз некалькі хвілін на беразе ракі ля вёскі Люцыяны перад гасподаю швагра Марысі селяніна Стэфановіча ўжо гарэў агонь маёй чэлядзі.

Люцыяны – гэта невялікая, але акуратна забудаваная вёска, размешчаная ў вельмі прыгожым месцы на правым беразе Віліі, на адлегласці амаль што адной вярсты ад Св. Скалы. Уладальнік яе – п. Аляксандр Парчэўскі. Недалёка адсюль знаходзіцца і двор гэтага памешчыка, вядомага ў Літве сваёй вельмі высокага ўзроўню піваварняй, якая забяспечвае горад Вільню і палову Літвы портэрам, баварскім півам і іншым. Гаспода Стэфановічаў ахвотна прыняла мяне, шчыра прадаставіла мне такі начлег, на які яны былі толькі здатныя. У той час, як слугі завіхаліся наконт вячэры і забеспячэння начлега, я сеў перад хатаю маіх прыветных гаспадароў. Вясковыя сяляне, якія на водгалас майго прыбыцця сабраліся на дзядзінцы сядзібы, акружылі мяне вакол, і пайшла доўгая размова. Абразок вясковай гасціннасці меў у сабе штосьці кранальнае. Марна было б намагацца апісаць такія прыгожыя рысы вясковага люду, якімі з'яўляюцца прастата́ і дабрадушнасць. Гэтыя рысы зразумее толькі сэрца чалавека, аддадзенага народу, а розныя выказванні будуць выглядаць саладжавай пахвалою.

Добрыя вясковыя людзі выгаварыліся перада мною пра ўсе беды і клопаты, якія іх толькі закраналі і мучылі ў жыцці. Скардзіліся, што нядаўна град пабіў і панішчыў іх пасевы; у гэтага вол паў і не стала каму цягнуць ярмо ў яго гаспадарцы; той вымушаны быў танна прадаць бочку збожжа, бо не было з чаго плаціць грамадскія падаткі; і ўсе разам шкадавалі, што іх пан (а ў справядлівасці яго бацькоўскай улады над імі яны не сумняваліся) у гэты час ад'ехаўся для папраўлення здароўя за мяжу. Вельмі мне спадабалася жонка Стэфановіча, гаспадыня дома, яшчэ маладая жанчына – прыгожая, ветлівая, разважлівая; як і ўвесь тутэйшы люд, гаворыць па-польску чыста, хоць і з літоўскім акцэнтам, спяваючы і расцягваючы. Адказвала яна мне на ўсе мае пытанні, а потым, разгаварыўшыся, распавяла пра сябе і пра ўсё, што датычылася яе: што Пан Бог прыносіць ёй засмучэнні, увесь час адбіраючы ў яе дзяцей, і нават тое, якое яна трымала ў гэты час на руках, было хворае; што ніяк яны не могуць паправіць свае справы, бо штогод здараюцца нейкія няшчасці ў іх гаспадарцы. Тут зноў я натрапіў на згадку пра дабрачыннасці "другой Уршулі" – пачуў з вуснаў сялян найпрыгажэйшы, які толькі можа заслужыць чыстая і пачцівая душа, успамін пра нашу знакамітую літоўскую мастачку Розу Парчэўскую. Мясцовыя сяляне называюць яе сваім анёлам, і калі ён адышоў з гэтага свету, яны страцілі разам з ім шмат сваіх суцяшэнняў, бо яна, як кажуць людзі, ніколі ні пра кога не забывалася, кожны знаходзіў у яе параду, дапамогу ў патрэбе паспачуваць няшчасцю. Яе моцнай рысай, якою славілася ў Літве гэтая жанчына, быў высокі мастацкі талент; бо менавіта Бог раздае між абранымі людзьмі вялікія таленты на тое, каб іх гучнае імя па ўсім свеце вяло за сабою астатніх людзей, было для іх прыкладам, даючы ім маральны кірунак. Геніі з'яўляюцца радзей, таленты нараджаюцца часцей, прыносяць з сабою на гэтую зямлю нейкую місію дзеля развіцця і дзеля шчасця ўсяго чалавецтва, якую яны мусяць выканаць; бо свет, запоўнены аднымі толькі простымі, звычайнымі людзьмі, не абноўлены ніякай новай думкаю, не ажыўлены ўзнёслай ідэяй, якая б мела карысны накірунак, хутка б састарэў, згніў і заплеснеў, як плеснее вада, не ажыўленая свежым струменем. Народжаная 15 верасня 1799 г., панна Роза Парчэўская ў маладосці шмат працавала ў жанры мініяцюрнага малюнка. Мініяцюры гэтай мастачкі вядомыя не толькі ў Літве сярод блізкіх ёй прыватных сем'яў, якім мастачка дарыла свае работы, але некалькі з іх мае і царская галерэя ў Эрмітажы. Ад мініяцюр Роза Парчэўская перайшла да жывапісных работ, напісаных алеем. Евангельскія сцэны сталі выключнай тэмай для яе пэндзля – мэтай працы гэтай мастачкі найчасцей станавіліся карціны, прызначаныя для новазбудаваных у Літве касцёлаў, для якіх яна рабіла сваім талентам раскошныя ахвяраванні. Дзеля атрымання дэталёвых звестак пра яе мастацкія работы мы адсылаем тых, хто цікавіцца, да пасмяротных матэрыялаў, прысвечаных гэтай мастачцы, надрукаваных у Вільні ў 1854 г., дзе творы яе з вялікім веданнем справы пералічаны ў адпаведным парадку.

Любоў да бліжніх, дабрачыннасць, гатоўнасць пайсці на розныя ахвяраванні, ціха выконваемыя ёю з найвялікшай сціпласцю, былі менш гучнай маральнай рысай гэтай асобы. І трэба было, як мне гэта надарылася, паплысці па Віліі, пабачыць яе родныя наваколлі, дзе яна, цалкам аддадзеная мастацтву, скончыла апошнія гады свайго карыснага жыцця, паслухаць галасы людзей, якім яе хрысціянскія дабрачыннасці прынеслі шчасце, каб зразумець і ацаніць усю маральную вартасць, якою Бог надзяліў гэтую жанчыну. Панна Роза Парчэўская памерла 20 кастрычніка 1852 года. Яе астанкі былі пахаваныя ў няменчынскім касцёле. Хвала гэтай жанчыне, якая здолела знайсці сярод вясковага люду такую любоў! Яна павінна была быць сапраўднай хрысціянкай!

Таленты ў гэтай сям'і не абмежаваліся толькі адной сястрою. Таксама родны брат згаданай мастачкі п. Кастанцін Парчэўскі меў вялікі музычны талент; ён віртуозна, з вялікім пачуццём, іграў на скрыпцы. Гарачая, яшчэ з часоў маладосці, захопленасць сваім інструментам як быццам несла яму нейкае смутнае прадказанне, што некалі

скрыпка стане карміць яго на чужой зямлі. Асуджаны на доўгае блуканне, ён нават не дажыў да тае часіны, калі б змог памерці на ўласнай зямлі. Нібыта праз нейкае далёкае духоўнае сваяцтва, што слепа злучае таленты і яднае разам у сферах духа, дачка вялікага нашага майстра, Караля Ліпінскага, стала жонкаю Парчэўскага. Сёння ўдава з дачкою вярнуліся на радзіму, іх бацькі і жывуць у Літве, якую п. Канстанцін Парчэўскі пасля свайго ад'езду болей не бачыў.

## XIII.

У Люцыянах з раніцы мы сабраліся запісваць народныя песні, якія спяваюць у Віленскім павеце. Тут народ больш памяркоўны і разважлівы, чым наш, і не ствараў такіх вялікіх і неадольных цяжкасцяў, з якімі я сутыкнуўся ў гэтым пытанні раней, у вярхоўях ракі. Пры пачастунку і малой узнагародзе, пасля зусім нядоўгіх цырымоній, нейкая цётка самой гаспадыні і ўчарашняя наша знаёмая Марыся селі дыктаваць песні. Яны шмат іх мне наспявалі; запісваў іх, як звычайна, пан Шантыр. Калі ўжо запасы спявачак былі вычарпаныя, калі спынілася запісванне народных песень, развітаўшыся з маёй далікатнай гаспадыняй, я пакінуў гасцінную вёску.

Недалёка ад вёскі Люцыяны сустракаюцца на рацэ малыя парогі, што ідуць адзін за адным: першы з іх зваецца Псярня, другі – Танцы, трэці – Філют, высокі абрыў на левым беразе называюць Высокая Пяняха, пяты, пад Няменчынам – Цецерукі. Бліжэй да Няменчына берагі Віліі пачынаюць выглядаць не так прывабна: тут ужо мясцовасць больш пляскатая і толькі дзе-нідзе разнастаіцца ўзвышшам. У гэтым наваколлі рыбалоўства на Віліі набывае больш арганізаваны характар: рака падзелена на часткі, якія рыбакі, больш за ўсё яўрэі, трымаюць у арэндзе. Тэрыторыя, што цягнецца на дзве ці тры вярсты, аплочваецца досыць дорага. Прадпрымальнік на гэтай адлегласці мае права спрабаваць шчасця ў вадзе ад берага да сярэдзіны ракі. Бо зноў жа, за ваду ад сярэдзіны да супрацьлеглага берага плоціць іншы і ў той яе палове спрабуе шчасця на сваю долю. Усе рыбакі строга пільнуюць свае граніцы, парушэнні якіх неаднойчы выклікаюць заўзятыя сваркі, а нярэдка заканчваюцца боем. У гэтай частцы Віліі, якая ўвесь час плыве тут мелка і па каменнях, па абодвух яе берагах штохвіліны можна бачыць нейкія малыя, з калкоў ці з каменняў часова збудаваныя запруды, нейкія расстаўленыя сеткі і бучы – словам, разнастайныя прылады, на якія здатна кемлівасць рыбакоў. Рыбу, злоўленую ў такога роду прылады, і асабліва невялікіх шчупакоў, прывязваюць працягнутым пад шчэлепы праз пашчу шнурком да загнанага на беразе калка – і такой дасціпнай хітрасцю прытрыманая рыба жыве і плёскаецца ў вадзе даволі доўга, ужо не застаючыся самой сабе гаспадыняю, а цалкам прыналежнай рыбаку. Такую жменьку шчупакоў, калі я праязджаў праз гэтае месца, я купіў у аднаго з гэтых рыбакоў, і гэтак, прывязаныя да майго судна, яны плылі са мною цэлы дзень. Увесну і ўвосень праца рыбакоў узнагароджваецца больш шчодра, бо звычайна ловяць багата рыбы, а Вільня ўсё з'ядае і добра плаціць.

Гэтая частка Віліі даволі густа заселена; праўда, не відаць па беразе вёсак, але затое паасобныя засценкі, дзе жыве то шляхта, то простыя сяляне, штохвілінна наступаюць адзін за адным. Не даязджаючы да Няменчына, недзе за вярсту ад гэтага мястэчка, на левым беразе Віліі знаходзіцца Немянчынак – прыгожы і чысты дом, пабудаваны на самым беразе Віліі – уласнасць афіцэра лясной варты. Невялікі садок з пладовымі дрэвамі і крыху living рознакаляровых кветак у ім акружаюць гэтае жытло. Усё шчыльна загароджана парканам, замкнута, чыста ўтрымана і дэманструе вайсковы парадак гаспадара. Калі маё судна прамінула гэтую сядзібу, з берага пачуўся нейкі крык, заклік, якім спрабавалі нас затрымаць, а той, хто крычаў, аказаўся маім колішнім прафесарам гісторыі пры былым Віленскім Універсітэце, а сёння – калега па Віленскім навуковым Таварыстве, вядомы сваімі навуковымі працамі п. Павел Кукальнік, які разам са сваёю сям'ёю звычайна выязджаў сюды

з Вільні дзеля правядзення лета ў вёсцы, на здаровым паветры, якім дыхаў на поўныя грудзі, стоячы на маляўнічым беразе Віліі. Мы адчулі ўзаемную радасць ад гэтага выпадковага, неспадзяванага нашага спаткання. П. Кукальнік прадставіў мяне сваёй жонцы, якая спусцілася на ніз, каб агледзець маё судна, пасля чаго мы былі запрошаны ў дом на абед. Пасля добрага абеда, пасля шматгадзіннай светлай і прыемнай размовы, што, як ранішняя раса расліннасць, – ўмацоўвае ў чалавеку маральныя сілы, мы рушылі далей, а пан прафесар паплыў з намі да Няменчына.

Няменчын – урадавае мястэчка, якое знаходзіцца за тры мілі ад Вільні, ужо ў Віленскім павеце, на паштовым тракце, які вядзе ад Свянцян да Вільні. Нягледзячы на тое, што яно мае даволі кепскі знешні выгляд, аднак з'яўляецца старым і здаўна вядомым паселішчам у Літве. Назву сваю яно бярэ ад маленькай рэчкі Няменчы, якая ў гэтым месцы ўпадае ў Вілію. Паходжанне яе назвы літоўскае, і выводзяць яе з *nie mana* – не маё, і *czynaj* – тут, што значыла б: тут не маё, ці тут чужое, адкуль некаторые вучоныя хочуць сцвердзіць меркаванне, што ў старажытнасці гэтая рэчка магла ўтвараць мяжу тэрыторыі кагосьці з літоўскіх князёў. У гэтым наваколлі існавала тры Няменчыны, якія ляжалі поруч: першы належаў Свята-Янскаму касцёлу Пад Крыжам, названага так езуітамі – сённяшняя ўласнасць гр. Тызенгаўза[1]; другі калісьці знаходзіўся ў спадчынным уладанні Масальскіх і насіў назву Чырвоны Двор, замененую віленскім капітулам пры кс. Ігнатам Масальскім, біскупам віленскім, на Веркі – сёння сталовыя землі віленскіх біскупаў з'яўляюцца ўласнасцю п. Аляксандра Парчэўскага; трэці, пра які, уласна кажучы, мы і збіраемся гаварыць – гэта сённяшняе ўрадавае мястэчка, першапачаткова перададзенае Уладзіславам Ягайлам у карыстанне няменчынскага пробаства. Праз некалькі вякоў яно стала багатым, прыносячы да 40 тысяч польскіх злотых штогадовага даходу ў беніфіцый; толькі ў 1803 годзе біскуп Страйноўскі, будучы рэктарам Віленскага ўніверсітэта, дабіўся ў цара Аляксандра I таго, што той, дзеля памнажэння даходаў універсітэта, загадаў аддаць яму дзесяць багацейшых беніфіцый, у ліку якіх быў і Няменчын.

Калі Няменчын быў далучаны да адукацыйных фондаў Віленскага ўніверсітэта, рада ўніверсітэта выказала пажаданне раздаваць гэтыя бенефіцыі ў якасці пенсіі заслужаным прафесарам духоўнага саслоўя. Аднак частка яго прадстаўнікоў не пагадзілася, і на радзе была прынята пастанова, каб даходы ад гэтых беніфіцый паступалі ў касу ўніверсітэта, а заслужаня прафесары духоўнага саслоўя, дзеля ўраўноўвання іх са свецкімі, атрымлівалі з іх штогод па 1500 рублёў пенсіі. Пасля таго, як тагачасны міністр народнай асветы зацвердзіў пастанову, яна стала лічыцца для ўніверсітэта законам.

Гэта маленькае і вельмі непрывабнае драўлянае мястэчка. Яго ўпрыгожваюць толькі дзве мураваныя будыніны – паштовая станцыя і заезная карчма. Трэцяй у ім, і раскошнейшай, пабудовай з'яўляецца дом Божы – толькі нядаўна завершаны касцёл.

Касцёл у Няменчыне належыць да ліку тых сямі першапачатковых ахвяраванняў, якія Уладзіслаў Ягайла на згадку пра прыняцце ім разам з каралевай Ядвігай каталіцкае веры заснаваў у розных месцах сваёй дзяржавы ў 1387 годзе. Першапачатковы касцёл, напэўна, быў пабудаваны з дрэва і асвечаны пад назваю Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і Святых Войцеха і Ежы. Пра гэта мы ведаем толькі з гістарычных хронік і паданняў, бо першапачатковы прывілей Ягайлы на гэтае ахвяраванне невядома па якой прычыне загінуў, а ў новым дакуменце на ахвяраванне, зробленым Жыгімонтам I у 1525 годзе, які ў аўтэнтычным выглядзе на пергаменце з прывязанай да яго пячаткай сёння захоўваецца ў архіве віленскага капітула, пасля таго як згінуў папярэдні прывілей, кароль выказваецца так: "*per incuriam aliorum plebanorum aut quadam alio sinistro eventu est deperditum*". Жыгімонт

[1] Менавіта пра гэты Няменчын згадвае Сарбеўскі ў сваёй одзе "Пахвала манаскаму спакою" – Гл. "Przekłady poetów polsko-łacińskich" Wł. Syrokomli. T. V, str. 91.

III у 1623 г., а Станіслаў Аўгуст у 1776 г. вышэй прыведзены прывілей пацвердзілі. Аляксандр Ягелончык у прыдачу да першага ахвярадаўца дадаў няменчынскім пробашчам лугі, называныя Аквяны, што знаходзяцца паміж Віліяй і Няменчай.

Вельмі добра забяспечаны няменчынскі бенефіцыум часцей за ўсё заставаўся ў руках вышэйшых саноўнікаў касцёла – біскупаў і пралатаў віленскага капітула. Меў ён час ад часу на сваім пробастве то вельмі заслужаных людзей, то гучныя навуковыя імёны. Сярод славутасцяў, якія адзін за адным займалі гэтае пробаства, варта назваць трох каралеўскіх сакратароў. Першым быў ксёндз Ян Куніцкі, натарыюш караля Жыгімонта I. З 1617 г. да 1651 г. – ксёндз Войцех Жабінскі, прэлат, дэкан і віленскі афіцыял, сакратар Жыгімонта III быў няменчынскім плябанам. Каля 1680 г. зноў быў тут пробашчам каралеўскі сакратар, канонік і віленскі афіцыял, ксёндз Піянткоўскі. У апошнія часы няменчынскае пробаства ўпрыгожвалі імёны нашых знакамітых пісьменнікаў. Станіслаў Аўгуст аддаў іх свайму ўлюбёнцу, біскупу луцкаму Адаму Нарушэвічу, які з аказіі атрымання гэтага пробаства напісаў прыгожую оду[1]. Гэты гісторык і паэт быў больш як дзясятак гадоў пробашчам у Няменчыне. Пазней, калі няменчынскі бенефіцыум аказаўся далучаны да фондаў Віленскага ўніверсітэта, то, паводле жадання рэктара Яна Снядэцкага, вядомы літоўскі натураліст, ксёндз Баніфацый Юндзіл прыняў кіраўніцтва гэтым пробаствам, а ў 1824 г. атрымаў ад Віленскага ўніверсітэта прэзенту на немянчынскае пробаства вучоны аўтар “*Лацінска-польскага слоўніка*” ксёндз Фларыян Баброўскі.

Першы драўляны касцёл існаваў да 1680 г. – да таго года, калі першапачаткова збудаваны касцёл увесь нахіліўся ад старасці, і тады тагачасны няменчынскі пробашч, ксёндз Хэрубін Янкевіч пабудаваў сваім коштам новы драўляны касцёл, а Мікалай Слупскі, біскуп грацыянапалітанскі, яго асвяціў. Толькі ў пажары, які ўзнік у Няменчыне 20 жніўня 1842 г., разам з мястэчкам згарэў і няменчынскі касцёл з усім абсталяваннем і ўсёй закрыстыяй[2].

Пад тую пару, калі касцёл спасцігла гэтая бяда, пробашчам у Няменчыне быў рэктар Віленскай семінарыі Кс. Антоній Кіткевіч. Страта Дома Гасподняга ахапіла глыбокім смуткам набожнага святара. Адразу ж у яго нарадзілася думка пабудаваць новую святыню на месцы згарэлага касцёла і, заклікаўшы Бога на дапамогу, ён, падтрыманы добрымі памкненнямі сваіх парафіянаў і асабліва руплівым памешчыкам п. Аляксандрам Парчэўскім, распачаў сваю справу. Пачалося назапашванне неабходных матэрыялаў, нібыта з нейкай чароўнай наканаванасцю збіраліся сродкі і ахвяраванні – так, што 15 мая 1848 года рукою тагачаснага кіраўніка віленскай дыяцэзіі, а сёння архібіскупа і мітрапаліта ўсіх каталіцкіх касцёлаў у Расіі, Яснавяльможнага Ксяндза Вацлава Жылінскага, быў закладзены ў распачатую будову першы камень, на якім вырас гэты прыгожы касцёл пад назваю Св. Міхаіла Арханґела; ён мае 17 сажняў у даўжыню, 8 1/2 у шырыню, з франтальнага боку – адну стройную вежу, і сваім выглядам упрыгожвае сёння Няменчын.

Унутры няменчынскі касцёл зручна спалучае між сабою дзве супярэчнасці: ён з’яўляецца ўзорам вытанчанай прастаты і разам з тым – творам пышнага стылю. Памеры яго значныя і велічныя, але няма ў ім ніводнага лішняга, празмернага ўпрыгожвання, як звычайна гэта здараецца ў нашых касцёлах. Усё ў адзіным стылі ўтварае спакойную гармонію, і кожны можа бачыць, што гэта не рэшткі, не астаткі чагосьці іншага, складзеныя і прыстасаваныя між сабою, а што ўсё сумысле зроблена спецыяльна дзеля гэтага касцёла, і кожная дэталь выканана з такой дакладнасцю, з такой вялікай элегантнасцю і смакам, што не пакідае жадаць нічога лепшага. У вялікім алтары ёсць вялікага памеру пісаны алеем абраз Перамянення Гасподняга, копія з Рафаэля, выкананы с. п. Розай Парчэўскай.

---

[1] Tom I str. 222.
[2] Гл. Historyczną wiadomość o kościele Niemenczyńskim, napisaną w 1846 r. przez X. S. K.

Калі я любаваўся касцёлам у Няменчыне, ксёндз Кіткевіч ужо памёр, і я не мог пацалаваць яму руку за тое, што гэтай прысвечанай Богу святыняю, узведзенай з жабраваных цаглінак, ён пакінуў для краю прыгожую і цудоўную памятку. Мінула каля месяца з дня смерці кс. Кіткевіча. Бог дазволіў яму пажыць нібыта дзеля сканчэння гэтай працы. Стварыў кс. Кіткевіч касцёл і, як толькі яго канчаткова завяршыў, Бог паклікаў яго да сябе па ўзнагароду, якой людзі яму даць не маглі.

Якраз у той момант ішла праца над пабудоваю невялікай капліцы, якую ўзводзілі коштам пана Аляксандра Парчэўскага, прызначанай для фамільных захаванняў іх сям'і. Яна павінна ўтвараць адзін з вуглоў у праектаванай будучай агароджы гэтага касцёла.

Праз мілю пасля Няменчына абмінаем на правым беразе маёнтак Любаў. Калісьці гэта была любімая рэзідэнцыя ксяндза Мікалая Тышкевіча, каноніка віленскай катэдры, пробашча капліцы Св. Казіміра. Гэты набожны прэлат звычайна праводзіў тут лета. Пасля Мікалая Тышкевіча, пры падзеле яго маёмасці, Любаў перайшоў да Вінцэнта Тышкевіча, рэферэндарыя ВКЛ, вядомага на Літве заснавальніка гімназіі ў Свіслачы. Пасля яго шляхам дамоўленасцяў гэты маёнтак узяў яго стрыечны брат Дамінік Тышкевіч. Вінцэнт, сын Дамініка, быў наступным спадчыннікам Любава; ад яго атрымала гэтыя землі яго сястра, пані Слізянёва, сённяшняя спадчынніца Любава. У часы каноніка Тышкевіча Любаў быў абсталяваны як рэзідэнцыя багатага, але старасвецкага ўладальніка, бо ў старасвецкім уладкаванні захоўваліся зусім іншыя, чым сёння, умовы. Калі цяперашнія густы гоняцца за знешнім аздабленнем, то для старасвецкіх людзей на першым месцы была зручнасць. Таму і ў Любове быў малы, але зручны драўляны дамок, у якім канонік жыў і які звычайна называлі палацам. Шматлікія і глыбокія каналы, выкапаныя ў пэўным парадку, акружалі дзядзінец і былі напоўнены рыбаю. Старыя адвечныя дрэвы давалі цень, а вялікая, двухпавярховая, у раскошным стылі мураваная брама з пакоямі наверсе, з прасторнымі жылымі памяшканнямі ўнізе праводзіла прыехаўшага госця на дзядзінец і змяшчала ў сабе яго шматлікі двор, бо акрамя сакратара, капелана, апрача ўпраўляючых і прыдворных, ксёндз канонік трымаў таксама шматлікіх музыкаў, якія штодзённа гралі яму па вечарах у садзе. Ад той мураванай брамы канонік распачаў быў забудову сваёй рэзідэнцыі, а пасля яе павінен быў узводзіць і адпаведны палац. Але паколькі яму ў тым малым драўляным дамку на старасці гадоў было зручна і ўтульна, то кс. канонік так і не выбраўся будаваць палац – на адной толькі браме ён і завяршыў свае пачынанні. Пасля кс. каноніка яго наступнікамі, якія не мелі тут сваёй рэзідэнцыі, доўга яшчэ ўтрымліваліся без нагляду тыя самыя збудаванні. І толькі калі ў Любове пасялілася малодшае пакаленне спадчыннікаў, яноператварыла старую сядзібу каноніка ў сучасную рэзідэнцыю. Знікла ўсё, што патыхала смакам сямнаццатага стагоддзя, а калі нейкі жартаўнік дасціпна сказаў наконт неадпаведных памераў паміж мураванай брамай і драўляным палацыкам, што трэба баяцца, каб калі-небудзь палац праз браму не ўцёк, то гэтую двухпавярховую браму разбурылі, бо, па праўдзе кажучы, на працягу доўгіх год яна стаяла занядбаная, яе сцены руйнаваліся і патрабавалі надта ўжо вялікага аднаўлення.

За Любавам, насупраць засценка Братанішкі, знаходзіцца ў Віліі небяспечны камень, які завецца Каршуном. Далей, насупраць двара Біры – выспа Солка[1], а пры ёй парог Альховец. Далей за ёю ідзе парог Заравок. Калі ноч акрыла нас сваёй цемраю, то перад гэтым, найменш небяспечным парогам асцярожнасць падказвала

---

[1] У народнай гаворцы вялікая выспа на рацэ Віліі завецца Сола, а тая, што меншых памераў – Солка. Калі мы пажадаем знайсці паходжанне гэтай назвы, то хутчэй затрымаемся на падабенстве з *insula* ці *isola*. Хіба падабенства літоўскай мовы з італьянскай у назве выспы не пацвярджае меркаванні гісторыкаў пра Палемона, які, высадзіўшыся са сваімі таварышамі на беразе нашых рэк, даў пачатак першаму пакаленню літоўскага народа.

нам прыпыніцца ля берага ў чаканні надыходу новага дня. У месцы, дзе мы міжволі затрымаліся, складзеныя на беразе вялікія запасы дрэў абвясцілі нам, што мы знаходзімся ўсяго за адну вярсту ад закладзенай некалі Аўэрам паперні, якая пасля яго сумнага заняпаду перайшла ва ўласнасць банкіра Хеймана, а сёння гэтае прадпрыемства належыць фабрыканту Пехляу. Тут мы прыпыніліся да надыходу дня, і калі сонца ледзь пазалаціла прыгожую раніцу, мы праплылі парог, што знаходзіўся перад намі, а за ім і наступны, які зваўся Буры. Пасля яшчэ некалькіх чароўных паваротак, па якіх вада хутка несла наша судна, на высокай, зарослай дрэвамі гары, паўстаў перад нашымі вачыма, нібы ўзняты ў паветра чарадзейскай сілаю, той велічны палац італьянскай архітэктуры са стройнай вежай пры ім – рэзідэнцыя князя Вітгенштэйна ў Верках, прыгожыя абрысы якога вядомы кожнаму з “*Віленскага альбома*” п. Вільчынскага. На беразе, ля падножжа гары, у гаспадарчых майстэрнях, у прасторным доме, прызначаным для падарожнікаў і для тых, хто з’явіўся на пагулянку з горада, куды і я прычаліў дзеля адпачынку перад Вільняю і ўпарадкавання маіх спраў, якія я павінен быў прадставіць перад нашай камісіяй, – усё ўжо рухалася ў дзённай працы. Тут, ля падножжа гэтай велічнай, магчыма, адзінай у нашым краі, гары, жылі людзі, абсалютна абыякавыя да паданняў, якія калісьці нараджаліся на яе вяршыні. Іх ніяк не абыходзіла тое, што на яе вяршынях у пушчах, якія зарастаюць з-за граху, учыненага Крыве-Крывейтэ, нарадзілася дзіця, якое, каб пакрыць бацькаву віну (за што таго чакала цяжкае пакаранне), менавіта ў гэтым месцы, на вяршыні гэтай гары, дзе сёння знаходзіцца рэзідэнцыя, у прыгожай бліскучай, падвешанай на дрэве калысцы, было знойдзена князем, які там паляваў у той час, выхавана ім і ў будучым стала першасвятаром, вядомым у гісторыі Літвы пад імем Ліздзейкі, ад якога нібыта вядзе свой род знакаміты дом Радзівілаў. І менавіта ад плачу дзіцяці, што па-літоўску завецца *werkt,* паходзіла назва гэтага месца, дадзеная князем пры тым здарэнні. Не ведалі яны ні пра тую вялікую бітву, што адбылася ў 1390 г. паміж Крыжакамі пад камандаваннем маршала ордэна Энгельгарда Рабы і Скіргайлам, намеснікам Уладзіслава Ягайлы, камандуючым літоўскімі войскамі; ні пра тое, што ў 1659 г. наш Гетман Вінцэнт-Корвін Гасеўскі пасля бітвы пад Веркамі быў узяты ў палон Юрыем Даўгарукім. Усё, што магло прадстаўляць гісторыю гэтага месца, было мёртвай рэччу для жыхароў гэтага прыгожага ўзбярэжжа. Жылі яны тут, як усюды жывуць у нас людзі, змагаючыся толькі з тымі турботамі, якія нас датычацца цяпер. Дзе ж тут можна было ўзяць ад іх звесткі пра старажытнае нараджэнне Ліздзейкі, калі запытаныя мною абсалютна нічога не ведалі, ці знаходзіцца зараз у Верках малады князь, які жыве ў адзін час з імі, і што наогул робіцца на гары ў княжацкай рэзідэнцыі?

## КАМЕНТАРЫ

Да IX раздзела:

*Весталкі* – у старажытным Рыме жрыцы, якія ахоўваюць святы агонь у храме Весты, багіні хатняга агменю.

*Сабуткі* (ад польскага Sobótki) – Купалле.

*Vladislaus **Rex ignem, qui perpetuus ab illis putabatur... et a Sacerdote eorum qui Znicz appelabatur,** et qui Supplicationibus, ac de futuro rerum eventu Numen consulentibus falsa dabat... responsa custoditum* – Кароль Уладзіслаў, агонь, які яны лічылі вечным і які ахоўваў іхні святар, зва̀ны Знічом, што даваў ілжывыя... адказы на іх запыты да боства пра вынік будучых справаў.

*civitas summi dei* – валадарства Усявышняга Бога.

*Нявяжа* – шостая па даўжыні рака Літвы, адзін з галоўных прытокаў Нёмана.

*...у гонар Нія* – Ній (Ный) – польскі бог падземнага свету, багаццяў, чараў, падводных глыбіняў і свету памерлых. У Польшчы яму пакланяліся яшчэ ў пачатку XV ст.

*Ромува* – адно з галоўных язычніцкіх свяцілішчаў у сярэднявечных прусаў.

*Крыва-Крывейты* – меркаваная назва вярхоўных жрацоў у продкаў балтыйскіх народаў і беларусаў.

Да XI раздзела:

*Ян Казімір Ваза* (1609 – 1672) – кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1648–1668). Апошні кароль і вялікі князь з дынастыі Вазаў. Сын Жыгімонта III Вазы. У 1668 Ян II Казімір адрокся ад трона і назаўсёды выехаў у Францыю.

*Аркада* (ад фр. *arcade*) — шэраг аднолькавых па форме і памеру арак, якія абапіраюцца на калоны ці на прамавугольныя або квадратныя слупы.

*Фэст Найсвяцейшай Панны Шкаплернай* – ад *szkaplerz* (царк.) абразок, ладанка.

*на exekwie* – на паніхіду, памінальную службу.

*Найсвяцейшы Сакрамэнт* – адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту — ушанаванне Боскасці і праслаўленне Хрыста.

*Неф* (фр. *nef*, ад лац. *navis* — карабель) — выцягнутае памяшканне, частка інтэр'еру (звычайна ў будынках тыпу базілікі), абмежаванае з аднаго ці з абодвух прадольных бакоў шэрагам калон ці слупоў, якія аддзяляюць яго ад суседніх нефаў.

*"Le rai repos"* – "Адпачынак рай".

*"Te małe drzewka wzrosną i wydadzą cienie, / Ja stare padłom, bo tak chciało przeznaczenie"*. – "Гэтыя малыя дрэўцы вырастуць і дадуць цень, / А я, старое, упала, бо так наканавана лёсам".

*Накладзеныя на яго мяхі нагадалі мне вядомы на Літве той воз, і нібыта бернардынца, які збіраў ахвяраванні.* – Верагодна, тут ідзе гаворка пра вядомы ва ўсёй Літве і Польшчы вобраз Яцака Сапліцы, які прыняў аблічча бернардынца, ксяндза Робака («Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча). Гэты персанаж і згадаў К. Тышкевіч, пабачыўшы на перавозе бернардынца.

*Perkunas Diewajti! / Ne muszkie Żemajti! / Muszkie tą Guda /Kap szuni ruda.* – Бог Пярун! Не бі жамойта, бі таго гуда (беларуса), як рудога сабаку.

*Барталаме Эстэбан Мурыльё* (1617 — 1682) — вядучы іспанскі жывапісец «залатога веку», глава севільскай школы.

*Арнат* (лац. *ornatus*) — верхняе літургічнае адзенне рымска-каталіцкага і лютэранскага духавенства.

*Маніпуляж* – у рымскай літургіі частка касцельнага ўбрання накшталт шарфа, змацаванага на канцах, накладзенага духоўнымі асобамі на левую руку.

Да XII раздзела:

*Падчашына* – жонка падчашага.

*Роза Парчэўская* (1799 – 1852) – мастачка, жыла ў маёнтку Красны Двор пад Гродна, стварала палотны для Віленскага кафедральнага і Гродзенскага фарнага касцёлаў, для храма ў Няменчыне і інш. Талент мастачкі быў адзначаны Уладзіславам Сыракомлем.

*Караль Ёзаф Ліпінскі* (1790 — 1861) — польскі скрыпач, кампазітар і педагог.

Да XIII раздзела:

*Павел Васільевіч Кукальнік* (1795 — 1884) — рускі гісторык, паэт, педагог, літаратар, драматург, брат Нестара Кукальніка.

*Сталовыя землі* – землі, перададзеныя князямі і каралямі епіскапам; даход ад іх быў прызначаны на патрэбы епіскапа і яго епархіі.

*Беніфіцыі* – касцельнае кіраўніцтва, якое кантралюе даходы.

*per incuriam aliorum plebanorum aut quadam alio sinistro eventu est deperditum* – быў страчаны праз нядбайнасць іншых плябанаў альбо пры нейкім няшчасным здарэнні.

*Натарыюш* – у старой Польшчы служачы, які кіраваў каралеўскай канцылярыяй і архівам.

*Пробаства* – парафія, якая падпарадкоўваецца пробашчу, а таксама пасада пробашча або яго сядзіба.

*Прэзэнта* – прадстаўленне біскупу дзеля зацвярджэння кандыдатуры свяшчэнніка на пасаду ў касцёле.

Лія Салавей



...Крыж пада мной,

Бог нада мной...

# Гавэнды майго краю

## Наш хутар

Вялікае балота некалі спрабавалі асушыць, яшчэ пры цары, а мо і раней была пракапана пасярэдзіне канава для хутчэйшага стоку вады, праўда, у той час яна была моцна зарослая. Значна пазней, у пасляваенныя гады па старых, ледзь прыкметных канавах прайшлася магутная меліярацыйная тэхніка, і балота стала сухім, як ток, трава перастала расці. Трэба спадзявацца на прыроду, можа, яна калі зноў сваё верне. Наш хутар быў, можа, за паўкіламетра ад балота, тады яшчэ неасушанага, дзе тату прырэзалі аж 4 гектары.

А наогул наш хутар быў у неблагім месцы: з усходу непасрэдна ні з кім не межаваў, прымыкаў да "новай дарогі", гэта добра; з захаду – з зямлёй засцянкоўцаў паселішча Курганы, мяжа старая, засцянкоўцы былі багатыя на зямлю, людзі прызваітыя, ганаровыя, так што ў перспектыве не магло ўзнікнуць канфліктаў; з поўдня да нас прылягалі дзве невялікія дзялкі людзей, якія тут не жылі, а часам прыязджалі накасіць сена ці засеяць ніўку. З маімі бацькамі яны былі ў добрых адносінах, дазвалялі пасвіць

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (88).*

жывёлу па атаве, аржышчы ці дзірванах, што вельмі выгодна. Толькі з поўначы наша зямля межавала непасрэдна з зямлёй двух аднавяскоўцаў, з якімі мы хоць і не сябравалі, але ніколі і не сварыліся. А вядома, чым меней суседзяў мяжуе з табой, тым спакайнейшым, без канфліктаў будзе тваё жыццё.

Месца хутара мела назву Сялішча. Апавядалі, што некалі тут было сяльцо, і дарога праз яго ішла з Гуляў праз засценак Курганы на ўсход на Мацэлаўку міма даўняй царкоўкі, падмурак якой з вялікіх камянёў мама аглядала, а я так і не сабралася туды. А што ж гэта за Мацэлаўка такая, думалася, што гэта нешта з далёкай гісторыі. Аж не, такое месца існавала да апошняга часу ў суседнім Докшыцкім раёне, за якіх 15 км ад Навасёлак якраз ва ўсходнім напрамку. А потым, калі зямлю падзялілі на валокі ды ўсіх ссялілі да гасцінца, на свае валокі, засталася толькі назва – Сялішча, а вёска займела назву Навасёлкі, што адпавядала рэчаіснасці. Дужа хацелася мне знайсці якія знакі ранейшага чалавечага жытла на нашым хутары, чарапкі ці якія прылады, але нічога не трапілася. Я ўсё прыглядалася да зямлі над даволі высокім абрывам, што спускаўся да крыніцы, але, мусіць, не там шукала. З нашай крыніцы ды з крыніц на зямлі суседзяў выцякаў тоненькі ручай, што не высыхаў і ў летнюю спякоту, а ў паводку шырока разліваўся па ўсім лузе, з вялікім шумам несучы жоўтую, бо з палёў, ваду. Наша хата і гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся на досыць роўнай дзялцы паміж сталым і сезонным ручаямі. Калі капалі калодзеж, то хутка дакапаліся да падземнай жылкі, дзе па слаі з дробненькіх каменьчыкаў журчэла вада. І што ж гэта была за вадзіца, такая прыемная, такая свежая, празрыстая! Старыя людзі казалі, што ў нас лекавая вада. Лепшай у ваколіцы не было ні ў кога. За ручаём ніўка называлася Калопнішча (Каноплішча), а далей была ніва, што называлася “Пад яблынькай”. І вялікая лясная яблыня там сапраўды расла, у яе дупле штогод гняздзіліся круцігалоўкі; пасунеш руку ў дупло, а з яго змяінае шыпенне – так птушаняты адганялі ад сябе ворагаў. А яшчэ ж былі дзве амшары – каля новай дарогі, дзе на высокай купіне сярод досыць глыбокай вады вясной гняздзілася дзікая качка, пакуль наша залішняя ўвага да яе не прымусіла яе шукаць сабе лепшае месца, і другая амшара на сумежжы з курганоўскім полем, зарослая чорнай вольхай, рабіннікам ды лазой. Гэтая вялікая амшара ў вайну выкарыстоўвалася як схоў, туды ўсё заводзілі ад лішніх вачэй жарабка, хоць гэта яго не ўратавала. Там хавалі некаторыя прадукты ды інш. Мне яна здавалася ўвасабленнем дзікай пушчы, цёмнай, таямнічай і грознай. З недалёкага балотнага лесу пад назвай Дарашова ў Калядніцу даносілася ваўчынае выццё, зімой уночы згаладнелыя ваўкі наведвалі нас, каб скрасці сабаку ці наогул чым пажывіцца. І восенню пад прыкрыццем густых тумано́ў ваўкі падыходзілі ледзь не да самых агародаў – іх вабілі гусі, салодкі пах цяляці, што было навязана на памежку. Ні мы іх асабліва не баяліся, ні яны нас – зброі ні ў кога не было, а крык вялікай шкоды не зробіць.

Аднойчы мама адганяла ваўка традыцыйным крыкам “Цю-га-а! Цю-га-а!”, і я далучылася да яе ды з дубцом кінулася за ваўком, які і так няспешна адступаў. І колькі я ні крычала, ні махала дубцом, ён не палічыў патрэбным прыспешыць ход, разумнік такі.

Мама апавядала, што некалі дзядуля паехаў пад вечар у недалёкі лес забраць нарыхтаваныя жэрдкі, якраз на цэлы воз. Наладаваў ён воз, увязаў тоўстымі вяроўкамі, агледзеўся – з лесу воўк выйшаў. Крыкнуў на яго дзядуля, воўк адышоў крыху, сеў. Дзядуля хоць і не спужаўся, ды ўсё ж збянтэжыўся: пугі ён ніколі не браў з сабой, бо моцна шкадаваў коней, сякеры таксама пры ім не было, жэрдку з воза не выцягнеш, бо моцна ўвязаны... А воўк як бы адчуў яго настрой і зразумеў сітуацыю – усё бліжэй падыходзіць. Як на тое ліха, воз цяжкі, сунецца павольна, воўк набліжаецца. Урэшце ён наогул перастаў звяртаць увагу на дзядулевы ўшчуванні, хапаўся зубамі за самы доўгі канец жэрдкі і, сеўшы на с...ку, ехаў па мяккім снезе. І так бавіўся аж да самай вёскі. Відаць, малады быў, гуляць, дурэць хацелася, зрабіў выснову дзядуля.

Невялікі быў наш хутар, а здавалася, колькі тут разнастайнасці, прастору: розныя дрэвы, травы, кветкі, птушкі звычайныя і сезонныя (гілі, амялушкі, курапаткі), летам перапёлкі ў жыце так крычаць, што прасынаешся ад іх “Піць-палоць!” Улетку сабраліся мы абедаць, нешта як бы мільгнула на дварышчы. Глянулі, аж гэта вялікі шэры заяц няспешна пашыбаваў па сваіх справах па дарожцы. А чаго баяцца? Паляўнічых тут блізка не было. Такіх уражанняў хоць і набіралася небагата, але яны запаміналіся, адкладваліся ў душы, рабілі нашу шэрую будзённасць крыху цікавейшай. Аббягаючы штодзённа ўсе цікавыя куточкі, мы з малодшым братам найбольш затрымліваліся каля ручая, дакладней, каля маленькага вадаспаду, дзе мы часам рабілі з камянёў запруду, каб ён больш шумеў, каб вада пырскамі ляцела ўверх ды пенілася. Вечарам была расплата – ногі пакрываліся цыпкамі, пра іх казалі “пятухі пяюць”, мама прымушала мыць ногі цёплай вадой, пасля чаго змазвала вяршынкамі. Я то, старэйшая, цярпела, а малы брат кожны раз галасна якатаў.

Нам не дазвалялася бегаць абы-дзе па памежках, таптаць траву, бегалі мы толькі па сцяжынках, і кветкі рваць ды прыносіць дадому ў хату таксама нельга было. Толькі перад Сёмухай мама дазваляла сабраць букет з розных палявых кветак і траў, ставілі яго ў невялікім збанку, праўда, ён хутка асыпаўся. Яшчэ мне даручалася перад Купаллем вечарам нарваць “багатак”, па якіх варажылі пра дабрабыт і здароўе ўсіх сямейнікаў і хатняй жывёлы.

І яшчэ амаль кожны год да нас наведвалася цётка Мар’ечка з тарыздворскага хутара, стрыечная сястра бабулі. Худзенькая, беленькая, з маркотнымі, заклапочанымі сінімі вочкамі прыходзіла да нас па зёлкі ад хваробы сэрца, збірала толькі залататысячнік, ён рос на адным жвірыстым узгорачку, я яе туды вадзіла, бо яна гэтае месца не магла запомніць. Цётка Мар’ечка ўвесь час захаплялася нашым хутарам, нашым жытам, што расло ля самай хаты; нашай сенажаццю з такой буйной травой і кветкамі; нашай хатай, у якой былі новыя вокны і новая падлога з тоўстых шырокіх дошак, мамінымі кужэльнымі палотнамі і дыванамі і да т.п. Яна была незадаволена сваім хутарам і сваім другім мужам (першага закатавалі палякі за тое, што не хацеў ісці ў іх войска), вясёлым і добрым Васілём Чэпікам. Мае бацькі казалі, што яна яго грызе, “як аржа зялеза”. Мар’ечка патрабавала ад мужа і дачок дасканаласці ва ўсёй рабоце, ва ўсім, а як не выходзіла па-ейнаму, то пакутавала, хварэла. Ды ўсё ж пражыла больш за сотню гадоў, перажыўшы многіх сваіх блізкіх.

## Нашы госці

Кожны госць на хутары – гэта нібы свежая газета: тут і афіцыйная частка, бо госць з’яўляўся не так сабе, а па нейкай пільнай патрэбе, і навіны бягучага дня, і прыгадванні мінулага, і навуковыя развагі, і жарты-анекдоты.

Нечакана з’явіўся дзядзька Пётра, татаў швагер, муж татавай старэйшай сястры Наталькі. Дзядзька меў нетутэйшы выгляд у новай эстонскай шапцы, бо толькі што вярнуўся з Эстоніі з заробкаў, быў поўны тымі ўражаннямі. Ён працаваў у багатага гаспадара, фермера, сказалі б цяпер, нагледзеўся даволі, як гэтакія гаспадары вядуць гаспадарку. Асабліва яго ўразіла, як эстонцы паляпшаюць сенажаці. Сухадольныя ўзорваюць цяжкім параконным плугам, барануюць, угнойваюць ды засяваюць сумесямі траваў, канюшынай са злакамі. Але ж і вырастае! З той плошчы ў некалькі разоў будзе больш карысці, болей жывёлы можна трымаць, болей прыбытку. А сенажаць на нізкіх месцах, дзе расце адно нясмачная травіца, барануюць ды ўгнойваюць штучнымі ўгнаеннямі. Таксама ўсё мяняецца ў лепшы бок, і не пазнаць той сенажаці – такія травы разрастаюцца! А нашто баранаваць? Каб павыдзіраць мох, што пакрывае ўсю зямлю ля каранёў, не пускае паветра, зямля закісае.

Потым доўга разважалі навасельскія хутаранцы, каб і самім так рабіць, дык нязвычна гэта, і цяжка самім, і коні заслабыя. Зноў жа, уздзяры той дзірван, сена там

рэдзенькае, але ж смачнае, мурожнае, авечкі яго любяць, а як на ўзараным нічога не вырасце – людзі засмяюць. Не, у нас такія прыёмы не прыжывуцца, будзем падаўнейшаму, як дзяды рабілі.

Добрае мурожнае сена было своеасаблівым гонарам нашых сялян. Як пашанцуе з надвор'ем, то чалавек хутка высушыць тое сена, звязе ў прывен у пуні, складзе ў тарпу, цешыцца з яго, а часам і пахваліцца суседу: "Сёлета, дзякуй богу, сянцо ў мяне як ніколі – сухонькае, як іскрынка, зялёнае, як мураўка, ядкое, здаецца, каб абасцаў, дык і поп з'еў ба".

Усё ж сёе-тое з Эстоніі ці багатай Латвіі да нас пранікала. Найперш прывезлі новы гатунак бульбы. У Навасёлках вырошчвалі два гатункі бульбы – паспешку для ранняга выкарыстання і ружовую альманку, позні гатунак, на зімовае спажыванне. А тут з'явілася сіняя – з цёмна-фіялетавай лушпінкай, жоўтая ўсярэдзіне, сярэдняспелы гатунак, клубні моцныя, цвёрдыя, як каменне, смак прыемны. Па бульбінцы, па тры пазычалі яе на насенне, і так хутка яна заняла сваё месцы ў бульбяным асартыменце. І яшчэ цукровыя буракі, пра іх апавядалі, што латышы іх шмат насаджваюць, здаюць у цукроўні, ім плацяць грашыма ці цукрам, то бывала, што гаспадар прывязе дадому два мяхі цукру – саладзі, гаспадыня, стравы. Дзівам здавалася такая раскоша, у нас калі купляў хто цукар, то не болей за кілю, калі дзіцяці трэба было даваць сысолку. Калі немцы ў маёнтках сталі садзіць цукровыя буракі, а даглядаць пасадкі хадзілі па чарзе нашы жанчыны, то набралі флянцаў і насадзілі сабе. Надта вялікія выраслі. Іх дзёрлі на вялікіх тарках, сок выціскалі і варылі з яго "мёд", вельмі смачны, а аджымкі з'ядалі каровы.

Мама таксама варыла такі "мёд", бо сапраўдны пчаліны мёд у нас скончыўся: нейкія нядобрыя людзі позняй восенню знішчылі нашых пчолак, не пакінуўшы ні аднаго вулля. Дзеля мёду загубілі божых жывёлак, пра пчалу нельга было нават сказаць "здохла", а толькі, як пра чалавека, "памерла". А яшчэ ў Сярэднявеччы ў еўрапейскіх народаў і ў нас таксама быў выпрацаваны прававы кодэкс – разбуральніку адной борці пагражала пакутніцкая смерць. Як гэта важна для людзей, каб былі справядлівыя законы, бо бандытаў і сеяць не трэба, вырастаюць самі па сабе.

Запомніўся вельмі цікавы наш госць, татаў швагер, муж яго стрыечнай сястры Дарылі. Яна была прыгожая і вельмі свавольная; тая Дарыля як падрастала, нікога не слухала, усё яна сама лепей ведала і ўмела. Да яе сваталіся хлопцы, але мудры бацька за самастойных хлопцаў яе не аддаваў, меркаваў, што двое надта самастойных не ўжывуцца. Аддаў яе за ласкавага, рахманага і вясёлага дзівака Мацюка (Мацея) – вось табе мужык, кіруй ім, упраўляйся. І ўгадаў, яшчэ як файна яны жылі.

Дзядзька Мацюк даволі доўга ў нас бавіўся. Ён ахвотна прымаў удзел у гаспадарчых работах, насіў з гумна ў рэзгінах скаціне трасянку, памагаў выносіць цэбар запаранай сечкі каровам, паіў жывёлу і інш. Ходка яго была незвычайная, з прытанцоўваннем. І надта ж ён быў гаваркі, гадзінамі апавядаў пра радню, знаёмых і незнаёмых, пра розныя здарэнні, выпадкі, паданні, пра ўсё на свеце. Маме было цікава слухаць пра знаёмых людзей з баравой стараны. А тата дык стамляўся, казаў, што яму галава баліць ад бясконцых аповедаў. Мама была асноўным слухачом, ну, і мы сядзелі наваструыўшы вушы. Смешна было чуць, як кожны абзац сваёй бясконцай прамовы дзядзька пачынаў зваротам: "Каб ты ведала, Надзейка..." Пасля яго ад'езду гэта было наша любімае выслоўе, мы паўтаралі яго і да месца і так сабе.

## Сусед Мікалай Чымчык

Мае бацькі на хутар перасяліліся за адно лета, дапамаглі родзічы перавезці і сабраць на новым месцы хату і гаспадарчыя будынкі. А ў суседа Мікалая Чымчыка гэта справа зацягнулася – хата стаяла без печы, трысцен заставаўся без страхі, а ўжо надыходзілі восеньскія халады. Дамовіўся сусед з печнікам, але яму няма дзе

начаваць, ды і свае дзеці мерзнуць. Прыйшоў ён дамаўляцца з маімі бацькамі, каб пажыць у нас які тыдзень, пакуль сваю печ змуруюць. Восем чалавек сям'і ды яшчэ і муляр у дадатак. Як жа адмовіць суседзям? Але і размясціць няма дзе. Хіба на падлозе? Мікалай паглядзеў на нашу новенькую жоўтую падлогу ды й кажа, што лепшага месца яго дзеці і ў родная хаце не будуць мець. Нанеслі саломы, заслалі посцілкамі і ўсе з задавальненнем начавалі, хата ператварылася ў лагер для бежанцаў. Было шмат смеху, жартаў, анекдотаў, ніхто не наракаў на цяжкую долю. Дарэчы, сусед казаў праўду, аж да калгаснага часу ў яго хаце не было падлогі, пад ложкам была выкапана яма на бульбу, у ложку была наслана салома (для бацькоў), дзеці спалі, дзе хто паспеў захапіць месца – на печы, на палку. Дзіўны быў у суседа стол – ён хістаўся, як п'яны, праліваючы з міскі страву, калі была поўна налітая. Але ж гаспадару не прыйшла думка ў галаву, каб той стол як замацаваць. Гэтаксама не дадумаўся ён і трысцен накрыць, і тут выдаткаў ніякіх – салома свая, лаціны таксама можна высекчы не сыходзячы з свайго хутара. Але гаспадару тое не ў галаве, ён нагадаваў тытуню (на плантацыі, разведзенай немцамі ў маёнтку, накралі расады, насення), на рагу стала ён крышыў спачатку звяленае лісце, потым цвёрдыя сцяблы і ўжо ў канцы карэнне: карашкі – таксама пойдуць у дзела, як не будзе лепшага.

Упартыя сцябліны з цяжкасцю паддаюцца не надта востраму нажу, стол ходзіць ходырам, як не ўпадзе, у хаціне аж сіне ад табачнага дыму. На шасцёра дзяцей адна пара лапцей, хто першы захопіць, той зімой зможа некуды выйсці, астатнія сядзяць у астылай хаце на печы. Ну, а па пільнай патрэбе выскокваюць на снег босымі. З адзеннем таксама праблема, дзеці даношваюць нейкія лахманы, сама гаспадыня мела толькі адну спадніцу, як казала "шавятовую" бурачковага колеру. Каб не выцвіла і не страціла выгляд, у будні дні яна апраналася "на найніцу", а ў святы – "на добрыцу". Напрасці ды наткаць палатна на вялікую сям'ю ёй было не па сілах. Ужо і падлетак дачка Манька навучылася прасці, стала прапускаць заняткі ў школе. Настаўнік загадаў мне перадаць бацькам, каб Марыя ішла ў школу. Я, сумленны пасланец, зайшла пасля школы да суседзяў, кажу:

– Цётка Анеля, настаўнік пытаў, чаму Манька ў школу не ходзіць?

А сама ж я бачу, што Манька ў кутку сядзіць і благую кудзелю (патрап'е) верацяном прадзе на тоўстыя, кастрывыя ніткі.

– Скажы свайму настаўніку, – кажа Анеля, седзячы за калаўротам, – Сталіну на штаны прадзець.

– Цётка Анеля, як жа я гэта скажу настаўніку?

Бо сваім людзям можна было і не тое сказаць, тым болей, што перадаць сказанае, але ж настаўніку – ніяк.

– А насяру і твайму настаўніку, і Сталіну.

Храбрая была Анеля, а ўжо якая языкатая, што лепшай пашукаць трэба, але назаўтра Манька ўсё ж з'явілася ў школе.

Што за жыццё было ў гэтай сямейкі! Здаецца, каб не бульба ды карова, што давала добрае малако, сям'я памерла б з голаду. А яны былі вясёлымі, гарэзлівымі, вострымі на язык. Усе хлопцы мелі мянушкі, якімі пад злосць узнагародзіла іх родная маці. Памятаецца, толькі паказалі фільм па кнізе Віктора Гюго "Сабор Парыжскай Багамаці". Усе былі пад уражаннем лёсу беднага Квазімода. Цётка Анеля адразу перайменавала свайго Іваньку, у якога ад нараджэння быў крыху крывы рот, у Квазімоду, гучна лаяла яго пры людзях, ані не думаючы, як гэта слухаць падлетку. Аднак ніхто не ўпадаў у роспач. Маці ля печы таўчэ ў вялікім чыгуне бульбу на кашу. Толькі адхінулася на хвіліну адставіць другі чыгунок ад агню, а з печы саскоквае адзін з хлапцоў і з воклічам "Пакаштаваць!" хапае прыгоршчы гарачай, яшчэ не засквараная кашы. Маці хвартухом лупцуе гарэзніка, той сігае на печ і адтуль памяркоўна: "Анелька, нашто б'ессы?" А то напячэ Анеля піражкоў з бульбы і ячнай мукі, ды баіцца, што не ўсцеражэ да абеду. Прымудрыцца схаваць у рэшаце

ды павесіць яго на цвік пад самай столлю. Аднак пах выдае бульбянікі, ідучы за водарам, усё ж вечна галодныя яе жэўжыкі знаходзяць схоў, качаргой паварушаць рэшата, адтуль пасыплюцца жаданыя бульбянікі. Расхватаюць імгненна і наўцёкі, хто за парог, хто – на печ. Бацька пагражае: "Вот адперажу дзягу!", але дзе ж там, да таго ніколі не даходзіць, бацька нават цешыцца, што дзеці ў яго такія здагадлівыя.

Галоднай вясной невялічкая, але цягавітая Анеля кожны дзень цягнула з лесу вялізную вязку бабоўніку ды шніткі – не было чым карміць жывёлу. Ды і самі харчаваліся часта дарамі прыроды – шчаўем, шніткай, насеннем асакі, нейкімі праснакамі з тоўчанай ільняной мякіны з дадаткам жытняй мукі. Потым паспявалі суніцы (паземкі), маліны, выкідваліся грыбы і завязвалася ранняя бульба. А каша з недаспелага, яшчэ зеленаватага жыта безадносна да голаду лічылася выключным ласункам. Так усе дзеці і выраслі, ніхто і не хварэў.

## Пятрусь-манюка

З новых суседзяў найбольш каларытнай асобай быў Пятрусь Глухі. Глухі – гэта не сапраўднае прозвішча, а мянушка, бо ён сапраўды недачуваў, часта перапытваў суразмоўцу, але не бяда: што недачуваў, тое дакладаў сам, калі яму было выгадна, прытвараўся зусім глухім, а іншы раз і зусім вольна размаўляў, усё пад настрой. Наогул ён лічыўся хворым, усю гаспадарскую работу рабілі жонка і дзеці, ужо досыць моцныя юнакі. Ён жа дома вязаў венікі, плёў лапці, сек хворост ды ўкладваў яго ў пучкі, каб зручна было запіхваць у печ, нарыхтоўваў лыка, віў вяроўкі. А як занудзіцца, то йдзе па суседзях разносіць навіны, якія часта сам і прыдумляў. Апранаўся ён па-старасвецку – летам у лёгкую світку (сярмяжку), зімой і восенню – у кажушок да каленяў, падпяразаны вузкай самаробнай дзяжкай. На нагах летам меў лапці, а ўзімку – кляпанікі, такія хадакі з гумы ад колаў машын. Зрэдку абуваў боты, старыя боты, у якіх захаваўся толькі верх, падэшва знасілася, яе замянілі драўлянай. У абутку на драўлянай падэшве было цёпла, але з непрывычкі можна было лёгка паслізнуцца, паваліцца. Падчас вайны на драўлянай падэшве рабілі дзеўкам вятроўкі (басаножкі), танна абыходзіліся, патрэбна была толькі добра выразаная платформа і некалькі раменьчыкаў, вось і маеш элегантныя стукалкі. Пятрусь аддаваў перавагу традыцыйным лапцям – мякка, прыступна, зручна. Праўда, снегу на іх набіраецца воз; калі іх добра не абтрэсці, не абабіць венікам, то ў хаце пад табой утворыцца лужа. У хатах, дзе не было падлогі, то гэта не шкодзіла, меней будзе пыліцца зямля пры падмятанні. А ў нас чыстая падлога, пад Петрусём кожны раз утвараецца балота. Да таго ж ён заўсёды моцна кашляў, пляваў на падлогу, сыпаў незнарок тытунь пры скручванні цыгарак, а потым страсаў, палячы, попел – нібы там была зямля. Найперш ён дастаўаў капшук з бычынай ці баранняй машонкі, туга набіты самасадам, трут у бляшанай пушачцы ад ляндрынак (такія цукеркі манпасье, ці што), рабіў велізарную цыгарку, потым выкрасаў агонь і напускаў поўную хату смуроднага дыму, затым страшна закашліваўся, у яго скрыпела ў грудзях, казалі, што ў яго там скрыпкі граюць, ледзь не задыхаўся. Неяк супакоіўшыся, ён бліскаў вясёлымі сінімі вочкамі, рыхтаваўся нешта апавядаць. Твар яго быў такі зморшчаны, нібы той смарчок. Здавалася, што ён вельмі стары. Хоць і ведалі, што Пятрусь маніць, лудзіць (відаць, ад польскага *złuda* – падман, ілюзія) здумляе, петрусіць, але ж усё роўна яго слухалі нібы якую казку. Тэмы былі розныя.

Вось, напрыклад, прароцкія сны, чым не тэма. Пятрусь даводзіў, што такія сны часта бываюць перад важнымі падзеямі. Так, калі ён толькі падумваў жаніцца, сасніўся яму сон, нібы ў Дарашове ён збірае маліны і перад ім надта спелая буйная гронка з трох ягадак. Дык ён самую спелую і сашчыкнуў. І што б вы думалі? Паехаў у сваты ў Выгалавічы, там у аднаго бацькі было тры дачкі, дык ён старэйшую – Матрунку – і засватаў. Успамін яго расчульваў, ён сціхаў, і пэўны час яго вочкі весела блукалі

ў тым цудоўным свеце маладосці. Слухачы кіслі са смеху, бо надта ж неадпаведныя вобразы – спелыя, салодкія, прыгожыя маліны і старая, чорная, як грак, з калючымі вочкамі непрыветная Матрунка ў доўгай шарачковай спадніцы і цёмнай хустцы.

Успамінаў Пятрусь з замілаваннем, як ён разам з усёй навасельскай моладдзю хадзіў на фэст у Весялуху, старыя ехалі на калёсах, а моладзь гурмой ішла пешшу – так весялей. А ўжо ж на фэсце чаго толькі не было: і карузэля круцілася, і музыкі йгралі, і пернікаў-цукернікаў мора, і рузнага рузнення. А бліноў!.. Нам, малым, што яшчэ не пабывалі ні на якім фэсце, усё там уяўлялася казачным і каляровым. Надта ж нас інтрыгавала гэтае "рузнае рузненне", дапытваліся мы, што там было, акрамя празаічных бліноў, ды канкрэтызаваць Пятрусь не мог – нейкая драбяза. Пэўна ж, дробныя гандляры карысталіся момантам ды прапаноўвалі якія грабяні, пярсцёнкі, шпількі, стужкі, хустачкі, шапкі ды капялюшы, ды наш апавядальнік у гэта не ўнікаў, таму і не памятаў. А была ж там і карчма ці шынок, пацвярджэннем таму мой аднакласнік Коля Малевіч з Весялухі, вясковае прозвішча іх сям'і было Шынкар.

Быў нейкі перыяд, што над нашай мясцінай надта нізка лёталі вялікія нямецкія самалёты, ляцелі з усходу на захад; нехта казаў, што немцы адвозілі параненых. Але чаму так нізка ляцелі, што добра відаць было пілота, і гук такі, што ўсё трасецца, ніхто растлумачыць не мог. Тут Пятрусь прыдумаў несусветную ману: калі самалёт ляцеў над яго хатай і нібыта ледзь не сарваў страху, дык ён паспеў усё ж падаць пілоту на жэдцы збаночак малака, хай жа будзе параненым палёгка. Ну, чым не Мюнхгаўзэн? Смеху было з яго фантазій, яго показкі пераказвалі, паўтаралі, па сутнасці, тут можна бачыць, як ствараюцца казкі, жарты, адным словам – фальклор.

Петрусёвы фантазіі былі часта з падтэкстам. Яго хутар праз дарогу быў насупраць хутара нашага багатыра Васіля Махрача, з усходняга боку. Пасля вайны стары Васіль сядзеў і тросся, баяўся высылкі ў Сібір, бо надаваўся на кулака. А тут Пятрусь ходзіць ды ўсім апавядае, што будзе перагляд дзяржаўнай мяжы, Заходнюю Беларусь аддадуць Польшчы, але мяжа пойдзе па-новаму. Дзе ж яна пройдзе? – пытаюцца цікаўныя. "Па Новай дарозе, – адказвае, – мы з вамі з заходняга боку, то ідзем пад Польшчу, а Махрач застаецца пад Саветамі". Махрач тое чуе і ведае, што гэта лухта, але навошта гэты здзек – нагадванне, што над ім, як чорная хмара, навіслі Саветы. Ці пранясе?

Суседкай Петруся была немаладая ўдава Барбарка. У яе было няшмат зямлі, маленькая хатка, а сама яна была надта ж ашчадная, усе казалі, што скупая. Бульба, як вядома, нават у склепе калі даляжыць да лета, то псуецца, чарнее, некаторыя не даюць яе нават свінням. А ашчадная Барбарка толькі тады дазваляе сабе напячы з яе дранікаў. Дранікі тыя страшныя, цёмныя. Дык жа і маладая бульба ўжо вырасла. А хай будзе на далейшае, невядома ж, які налета год будзе. Пятрусь не ўтрываў ды й паджартаваў: "Барбара, а Барбара, навучы, як гэта ты два гады бульбу трымаеш?" – "А вось жа трымаю, Пятруська, сваю трымаю, у цябе не ўкрала", – сказала пакрыўджаная Барбарка.

Казалі, што ашчадная Барбарка зберагае да лепшых часоў галаву цукру з часоў першай сусветнай вайны і вялікі зялёны чайнік, хоць было малаверагодна, што яна некалі дазволіць сабе такую раскошу – піць гарбату з цукрам. Да ашчаднасці прывучыла яна і Гітлера, так звалі завочы яе нявестку, за востры нос, падобны да носа нямецкага фюрэра, і рэзкі голас. Нават малых унукаў прымусіла пасціць увесь Вялікі пост перад Вялікаднем. А да Вялікадня нарабілі макаронаў ды паставілі на сонца падсушыцца на невысокай стрэшцы склепа. Дык хлопчыкі залезлі туды і з'елі тыя макароны нягаранымі. І наш кот Гярвель, такі дужы, непераборлівы, рыжы мужычышча, нанёс ашчаднай Барбарцы вялікую шкоду: падпільнаваў, як Барбарка пакінула без нагляду лівер на кілбасы-вантрабянкі, ды з'еў печані дашчэнту. Гаравала гаспадыня, а Гярвель тры дні "хварэў" на гарышчы, толькі з цяжкасцю злазіў напіцца вады. Піў сквапна, шмат.

Часам Пятрусь звяртаў увагу і на нас, малых. Толькі ён усядзецца каля стала,

як мы шмыг за стол, каб жа чаго не прапусціць са спектакля. У добрым настроі Пятрусь адразу:

– А ну, скажыця мне скорынька: “Сеў, скібу хлеба з’еў перад каталікамі”.

Якая гэта задача! Мы з ёй адразу спраўляемся. Тады ён:

– Адгадайця загадку: “Адзін кажыць: «Пабяжым!» Другі кажыць: «Паляжым!» Трэці кажыць: «Паківаімся»”.

А мы адгадку ведаем, мама загадвала. Брацік першы: “Ручэй, ка̀мінь і трава”. Пятрусь здзіўлена:

– Гм! Малайчына! Толькі асцерагайся, каб куры табе стручок не адарвалі. Куры такіх хлапцоў ох любяць дзяўбці.

Брацік напалоханы, збянтэжаны да мамы: “Праўда, што Пятрусь кажыць?” Мама супакойвае: “Няпраўда, Пятрусь маніць, не бойся”. Тады Віця, стаўшы перад носам у Петруся:

– Пятрусь, ты манюка!

– Гм? Я не чую.

Тады Віця як наймацней: “Пятрусь, ты манюка!!!” А той робіць выгляд, што зусім аглух, не чуе. Тады мама загадвае загадку Петрусю, хай жа і ён пакруціць галавой.

– Ішоў Тота каля плота, пытаўся ў Жмуры, ці дома Ляпа.

Але Петруся на загадках не зловіш, ён іх ведае процьму, дык неўзабаве выдае адгадку: “Ішоў воўк каля плота, пытаўся ў ката, ці дома сабака”. Разыгранка атрымалася, Пятрусь задаволены.

Часта наведваў нас Пятрусь, якраз тады, бывала, як мама старанна памые падлогу. Пойдзе Пятрусь – адразу юшку адкладай, каб дым сышоў, і замывай падлогу. Нам табачны дым так моцна дакучаў яшчэ і таму, што наш тата не курыў. Мама не раз гаварыла, убачыўшы яго на сцежцы, што ізноў яго ліха нясе. Але ж сусед, не забароніш. Наша невялічкая разумная сучачка памятала ўсіх суседзяў, хто б ні ішоў, яна, нібы званочак, падасць голас. На Петруся ж так уядалася, не пускала ў хату, што аж дзіва, адкуль ведала, што гаспадыня не хоча такога госця. Пятрусь на дварышчы адмахваўся кіем ды патрабаваў: “Запрыця сучку!” Дык запіралі ці проста не пускалі яе ў хату. Аднойчы яна ціхенька за кімсьці забегла ў хату, непрыкметна, каля сцяны падпаўзла да Петруся ды цапнула яго за лытку. Усім здалося гэта дзівам, каб так жывёліна спрыяла гаспадыні, разумела яе клопаты.

Даволі незвычайная рэч, ва ўсякім разе нячастая ў нашым асяроддзі, здарылася з Петрусём: калі памерлі яго цесць і цешча, Матрунка, жонка Петруся, сабрала хатулёк і з’ехала ў родную вёску, стала жыць у бацькоўскай хаце, пакінуўшы мужыка з амаль дарослымі дзецьмі – развод па-навасельску. Гэта так было нечакана, што і дасціпныя нават не смяяліся, не кпілі з Петруся, далікатна абыходзілі гэтае складанае пытанне. І казачнік Пятрусь пра гэтую падзею ані слова. А майстрыха Матрунка падрамантавала старую бацькоўскую хату, уласнаручна пераклала па-свойму печ і зажыла сабе адна, як пані, пэўна надта ўжо надакучыў Пятрусь. Араць і сеяць ездзілі хлопцы, памагалі маці.

Хадзіў-блудзіў Пятрусь, паліў бязбожна свой тытунь, складаў смешныя байкі, здавалася, што так будзе вечна, ды раптам яго не стала – пайшоў у лепшы свет. Пытаюся я ў таты, колькі гадоў магло быць старому Петрусю. Тата памаўчаў, падлічваючы, ды кажа, што гадоў 55 ці 56. Толькі? Як жа многа беларускіх мужыкоў адправіў без пары на той свет танны, з свайго агарода, тытунь.

## Незразумелыя прыгоды святой Ганавэфы

Неяк зімой надумалі мае бацькі з’ездзіць у госці да бабулі, мамінай маці, бо татава – мудрая добрая Мартуська – даўно ўжо была памёршы. Гэтая пастанова мяне вельмі абрадавала, цікава было ўсё: і сама паездка ў такую далечыню – 25 вёрст – праз

многія вёскі, праз лес, балота, і госці ў бабулі, дзе так многа цікавага і ў двары ды хаце, і ў вёсцы. Ды і так нязвычна, узбуджальна, калі падумаеш, што мы ўсёй сям'ёй пакінем сваю хату, звычныя аж да надакучлівасці малюнкі нашых ваколіц і пабачым штосьці новае, нябачанае. На гаспадарку паклікалі жанчыну з рэштак вёскі, яна ў старэнькай хаціне там жыла, здаецца, у яе зусім не было зямлі і марная гаспадарка. Яна прыйшла напярэдадні ад'езду, мама ўвяла яе ў курс спраў, паказала, дзе захоўваюцца прадукты, чым карміць курэй, кабана, дзе нарыхтавана трасянка для кароў і да т.п. Вечарам жанчына прыглядзелася да нашай заснежанай пусткі, якую халодным святлом таямніча абліваў досыць поўны месяц, прыслухалася да абсалютнай, нават без брэху сабак, цішыні, адчула аддаленасць людскога жылля, бо суседскія хутары нібы патанулі ў свежым і спорным снезе, і рашуча заявіла, што ніяк не можа застацца ў нас на гаспадарцы – баіцца. Чаго баіцца? – Ну, страх яе бярэ ды і ўсё. Кажа, гатова застацца, калі пакінеце дзяўчыну, г.зн. мяне, шасцігадовую ахоўніцу. Рашучая мама тут жа і сказала мне, што я застануся з цёткай Анютай. Жалем і крыўдай напоўнілася мая душа – яны паедуць, а я тут буду гараваць. Пачалі мяне намаўляць, што я тут так патрэбна цётцы Анюце, яна будзе баяцца без мяне, я ёй буду ўсё паказваць і тлумачыць. І тая цётка так ужо паддобрываецца да мяне, так просіць. Адлягло ў мяне крыху ад сэрца, згадзілася, дурненькая. Паехалі мае бацькі з брацікам у госці, мы з цёткай вядзём гаспадарку. І дзіўна мне, мама гэтыя справы робіць сама, нават праганяе мяне ў хату, каб не застудзілася, а новая гаспадыня ні на крок не адпускае мяне, куды яна ідзе, туды і мяне вядзе – і ў ток, і ў хлеў, і ў варыўню. Дзіва мне, што корм жывёлам нанач дае рана, мама дык прыцемкамі, бо начы доўгія, скаціна прагаладаецца. Потым цётка Анюта пры маім асісціраванні старанна замыкае ўваходныя дзверы на засаўку і кажа як бы для парады са мной, што лямпу сягоння не будзем запальваць, залезем на печ і будзем грэцца. Ну, няхай будзе так, мне што. На печы яна размяшчаецца каля сцяны, а я – з краю, я ахова. Прыпамінаю прыгаворы дзяцей, якіх клалі спаць разам па двое, па трое:

Хто каля сцяны, таму грэбень касцяны,
Хто – пасярод, таму мёду ў рот,
Хто на краі, таму рыбка ў раі.

Ага, значыць, я на краі – мне рыбка ў раі, я задаволена. А цётка пачынае апавядаць, нібы казку, пра жыццё святой Ганавэфы, поўнае такіх неверагодных прыгод. Што ж, калі яно выклікала больш пытанняў, чым было знойдзена адказаў. Напачатку ўсё ішло добра: прыгожая і добрая Ганавэфа выйшла замуж за цара, што можа быць лепей?, але цар паехаў на вайну, яна, застаўшыся адна, нарадзіла хлопчыка, а ліхія людзі напісалі пісьмо цару ды наманілі многа несусветнага, дык цар загадаў жонку забіць. Не ведаю, ці так апавядаецца ў пісьмовых крыніцах, я не чытала, хоць студэнткай бачыла ў камісійным магазіне тоўстую кнігу Пятра Скаргі "Жывоты свентых" (на польскай мове), не купіла, кніга была дарагая. Бедная кабета з дзіцёнкам у адной сукеначцы бяжыць у пушчу. Там пасяляецца ў дупле вялікага дрэва. Воўк нёс авечачку, дык яна адабрала, з аўчынкі зрабіла кажушок для сынка, а з мяса варыла булёнчык яму. Тут пачаліся мае роздумы. Пушчу я ніколі не бачыла, але ўявіла яе як нашу вялікую амшару, там на краі стаялі вялікія дрэвы, але дуплаў у іх не было. Зноў жа, дзе брала Ганавэфа кацёл, каб зварыць булён, а ці быў у яе нож, каб адрэзаць мяса, а запалкі яна з сабой прынесла, ці ёй хто даў, а як яна ў адной сукенцы зімавала? Пытанні, пытанні, на якія апавядальніца адказвала няўпэўнена, ды потым зусім страціла ахвоту да апавядання. Урэшце, яна перайшла на пацеры, але і тут патрэбны былі каментары, якія яна адмовілася даваць, бо гэта грэх. Так бедная кабета, не знайшоўшы ўва мне ўдзячнага і некрытычнага слухача, больш нічога і не прапанавала, і мы сталі чакаць, калі ж, нарэшце, прыедуць нашы з гасцей.

## На Тасіным вяселлі

Рэдка дазвалялі сабе мае бацькі пакінуць сваю гаспадарку, паехаць у госці, але тут здарылася патрэба – маміна стрыечная сястра Тася выходзіла замуж, нельга не паехаць. У вяселле павезлі і мяне, пяцігадовую. Вельмі мне там спадабалася, бо ўсе былі вясёлыя, незаклапочаныя, іграла музыка і было шмат тварожных коржыкаў, засалоджаных мёдам – яны мне прыйшліся да густу, гэта я і запомніла. За сталом госці ўвесь час спявалі, і на хаце чужыя кабеты – таксама. Вясёлыя цётачкі і мне прапанавалі паспяваць, мама падказала песню – “ А ў лузе каліна...”

Паставілі мяне на лаўку, і я выдала, як цяпер разумею, карагодную песню з паўторамі, якую спяваюць рухаючыся ў коле, адпаведна прытупваючы. Песня нішто, дасканалая, я яе адрасавала маладым – Ягору і Тасі. Яна гучала так:

А ў лузе каліна,
На ей цвету нету,
Нашага Ягоркі,
Даўно дома нету.
Паехаў Ягорка
На Русь ваяваці.
На Русь ваяваці –
Дзевак выбіраці.
Выбраў сабе дзеўку
Чорную цыганку.

Затым гэты ўвесь блок паўтараецца, малады Ягорка выбірае сабе яшчэ “сляпую жыдоўку”, затым ізноў паўтор, і Ягорка выбірае “маладу Тасеньку”. Завяршаецца песня так:

Чорная цыганка
Белу пасцель слала,
Сляпая жыдоўка
Панчошкі вязала,
Малада Тасенька,
Малада Тасенька
З сабой спаці клала,
З сабой спаці клала,
Цесна абнімала.
Жарка цалавала.

Песня мела вялікі поспех, самае важнае – гэта тое, што мяне і маладыя пахвалілі, такімі яны мне сталі мілымі, прыгожымі. Яны і сапраўды былі прыгожымі, васямнаццацігадовымі, так моцна кахаліся, ледзь дачакаліся часу, калі можна пажаніцца.

Вечарам, калі госці размяркоўваліся, дзе каму адпачываць, я заявіла, што буду спаць з такімі ласкавымі да мяне Тасяй і Ягорам. З мяне пасмяяліся і абяцалі так і зрабіць. Цётка Вольга, якая сядзела перад палаючай печкай, падкладвала паленцы, узяла мяне на пеляну, прытуліла, тут я і заснула, мой удзел у вяселлі на гэтым скончыўся.

## Сяброўка дзяцінства Лёдзя

Дзецям на хутарах даводзілася няньчыць сваіх малодшых братоў і сясцёр, пасвіць гусей, жывёлу, не вязанкі кветак збіраць, а кошыкі пустазелля набіваць, каб пакарміць ім пражорлівых кабанчыкаў, і іншай шмат было работы. Свабоднымі дзеці былі ў святы і нядзелі, ды і то часта не цэлы дзень, але ўсё ж аднагодкі стараліся сабрацца, наладзіць якую гульню. Мы з Лёдзяй у святы таксама збіраліся разам, то я да яе першая прыбягу адразу пасля снядання, то яна да мяне, калі ў нас позні святочны абед (не блытаць з палуднем). Агледзім усе цікавыя куточкі на нашым

хутары – гняздо белахвосціка ў крушні камення, гняздо ўдода з вялікімі ўжо птушанятамі, якія могуць пырснуць у твар цікаўным смуроднай вадкасцю, агледзім жоўты касачнік у нашай латоцы, цвітучую каліну на беразе ручая, прабяжым ўсімі дарожкамі, паспрабуем залезці на рабіну, што расла каля пчальніка, адчынім дзверцы ў рамовіку, каб паназіраць праз шкло, як там поўзаюць пчолы – толькі такімі забавамі я магла пачаставаць сваю госцю. Вычарпаўшы запас цікаўнага, мы беглі да Лёдзі, дзе падобным спосабам забаўляліся. У лялькі мы не гулялі і ніякіх цацак не мелі. Калі я што спрабавала прымяніць сабе за цацку, мама тут жа выкідала ці паліла ў печы, каб не засмечвала хату.

Аднойчы нашы таты, Лёдзін і мой, дамовіліся і паехалі ў Дунілавічы на кірмаш, ехаць далекавата, ці мала што ў дарозе здарыцца, удваіх бяспечней. З кірмашу прывезлі нам падарункі – капялюшыкі з асінавай саломкі, Лёдзі з ружовай стужкай, мне – з блакітнай. А тут якраз надышло свята Сёмуха; мы з Лёдзяй у новых сукенках і новых капялюшыках збегліся святкаваць, забаўляцца. Паглядзелі адна на адну: мне адразу спадабаўся яе капялюшык, бо з ружовай стужкай, а Лёдзі – мой, бо з блакітнай, адразу мы неўзлюбілі свае капелюшы, а каб памяняцца, дык не дадумаліся. Так па-святочнаму прыбраныя, мы адчувалі сябе трохі скавана, нязручна, пакуль камусьці з нас не прыйшла шчаслівая думка кідаць уверх капелюшы, хто кіне вышэй. Ох жа мы стараліся, намагаліся, толькі дарэмна: лёгенькія капялюшыкі не хацелі ляцець высока, неяк дзіўна луналі, садзіліся то ў траву, то ў авёс, па якім нельга хадзіць, словам, не слухаліся нас. Тады мы сталі кідаць іх удалечыню – той жа вынік. А давай будзем кідаць на альховы куст (вакол пня ссечанай на дровы вольхі густа-буйна выраслі парасткі-атожылкі з шырокімі клейкімі і горкімі лістамі). Тут мы папрактыкаваліся доўга, урэшце захацелі есці, надышоў час палуднаваць. Мы надзелі свае капялюшыкі, паглядзелі адна на адну, і нам адразу стала сумна: бо здагадаліся, што скажуць нашы мамы наконт нашых паводзінаў – капялюшыкі былі зламаныя, скамечаныя, стужкі мокрыя ад расы, нечым забруджаныя, жах ды й годзе. Засмучоныя, падаліся мы дадому, спадзяючыся на цуд збавення ад кары. Але цудаў не бывае, трэба самім ратавацца. Вот і ратаваліся.

Потым я падслухала кавалачак размовы нашых мам. Мая мама кажа, што знайшла ў сенях на цвіку ў цёмным кутку, а Лёдзіна мама кажа, што прапаў, як бы ніколі і не быў. Пры гэтым смяяліся, значыць, яны не шкадавалі страт. На ўсялякі выпадак ні я, ні Лёдзя ніколі не ўжылі потым слова “капялюш”, каб не навесці незнарок нашых мам на які-небудзь выхаваўчы ўчынак.

Неяк я пачула размову дарослых пра красналюдкаў. Яны, можа, гаварылі пра нейкую польскую кніжачку для дзяцей. Мне растлумачылі, што красналюдкі – гэта такія малюсенькія чалавечкі, што жывуць у крушнях камення ці ў дуплах старых дрэваў. Так хацелася пабачыць тых красналюдкаў, як было б цікава, каб яны жылі дзесьці каля нас. Як бы здзівілася Лёдзя! Але мама развеяла мары, сказала, што ў нас красналюдкаў няма. А шкода! Тады я наляпіла маленькіх чалавечкаў з гліны, паставіла іх на жардзіне ў таку, і як толькі з’явілася Лёдзя, павяла яе глядзець маленькіх чалавечкаў-красналюдкаў. Дужа яны Лёдзю зацікавілі, але зайсці ў будыніну яна не адважылася, як ні ўгаворвала я і нават падштурхоўвала. Тады я прызналася, што гэта не сапраўдныя красналюдкі, гэта я іх зляпіла, не трэба баяцца – не памагло, Лёдзя іх асцерагалася і блізка не падышла. Ну дык і нецікава, сабрала я тых прыблізных чалавечкаў ды выкінула, каб бацькі не сварыліся, што нацягваю ў будынак смецця, граззі. А чым здзівіць Лёдзю? Вырашыла я зляпіць з гліны вялікую птушку, ну, такую, як варона. Але што гэта за птушка без пер’я? Мама пасмяялася з майго клопату, сказала, што вось наша чорная курыца пачала лінаць, збірай пер’е, налепіш на сваю птушку. Я таго пер’я назбірала, і шмат, але на птушку яго патрэбна куды болей, і выйшла яна нейкая трохі голая, трохі кудлатая, а ўсё ж птушка. Пасадзіла я яе на слупок у плоце сушыцца, а тут і Лёдзя з’явілася. Вельмі ж ёй хацелася ўзяць тую птушку ў рукі, я

забараняю, бо трэба, каб высахла. Але ж колькі чакаць таго часу. Схапіла Лёдзя мой твор ды наўцёкі. Я за ёй, вось-вось даганю. Тут Лёдзя шмякнула гліняны шэдэўр аб зямлю – і канец справы. Пасварыліся мы з Лёдзяй, але хутка забыліся пра сварку, зноў гуляем разам. Тут я думаю, што трэба зрабіць з гліны лялькy, і прыступіла да справы. Зляпіла тулава, галоўку круглую, прыляпіла качалачкі ног, ручкі. Падобна на чалавечка, але зусім не тое! Мне хацелася, каб лялька была такая, як Лёдзіна малая сястрычка Зойка. У нядзелю, калі Лёдзя прыйшла да нас са сваёй Зойкай, мы пасадзілі яе на лаўку, і я стала глядзець, як зляпіць лялькі ножкі, падобныя на Зойчыны. А тыя ножкі былі крываваценькія, пухленькія, ні адной простай лініі, усё расплывалася, дзіўна пераходзіла адно ў другое. Як гэта спасцігнуць, перадаць у гліне? Тут я сама дадумалася, што, відаць, трэба доўга вучыцца, каб выяўляць складаныя формы жывых істотаў, гэта цяжка, не кожны зможа навучыцца. І Зойка рашуча адмовілася сядзець нерухома на пасцілцы, яна жадала бегаць. Так закончыліся мае спробы лепкі, якая, як выявілася, патрабуе ведаў, таленту і дужа працы.

З Лёдзяй мы аддаліліся вельмі рана, у школу пайшлі разам перарасткамі ў 1944 г., потым мяне з другога класа перасадзілі ў чацверты, Лёдзя засталася ў трэцім, а ў пяты клас трэба было хадзіць у Слабаду, за 5 кіламетраў. Я пайшла, а іншых дзяцей бацькі не пускалі, бо цяжка, не было чаго абуць-апрануць, і Лёдзя засталася дома даглядаць меншых дзяцей. А пасля сёмага класа я паступіла ў Пастаўскае педвучылішча, дамоў з'яўлялася рэдка, не было транспарту, нашы зацікаўленні разышліся; потым Лёдзя пэўны час працавала "на свеце", але вярнулася дадому, выйшла замуж, выгадавала сыноў, а сама засталася ў вёсцы. І зараз разам з малодшай сястрой Фаняй яна жыве ў Навасёлках, сцягнутых на ранейшае месца падчас калгаснай эпапеі назад з хутароў, не дазваляючы гэтай вёсцы канчаткова сысці "з яснай явы, як сон марудны, нецікавы".

Сям'я Лёдзі была праваслаўнай, але ў чым тое праваслаўе праяўлялася ва ўсіх, дык, пэўна, толькі ў тым, што каталікі святкавалі гадавыя святы раней, а праваслаўныя тыя ж святы пазней. Разважлівыя сяляне, праўнукі вуніятаў, на гэта глядзелі як на чужую выдумку, якая не мае сэнсу. Бо многія сем'і былі двухканфесійныя. Вось і Лёдзя выйшла за Яна, па хрышчэнні каталіка, а Янава сястра Юзэфа – за Колю, праваслаўнага. "Хоць і праваслаўны, абы хлопец слаўны!" – гэтым лозунгам кіраваліся нашы аднавяскоўцы. І слушна рабілі. А пра некаторых каталікоў языкатыя навасёлкаўцы казалі: "Толькі лік, што каталік, а вера паганая".

Нават пры Польшчы навасельскія каталікі не адносілі сябе да палякаў, хоць і казалі, што яны польскай веры, але паняцце "свае людзі" было мацнейшым. Жыццё, запоўненае цяжкой штодзённай працай, амаль не пакідала часу на рэлігійныя разважанні, ды й што там разважаць – адзін Бог, адзін Езус, як іх дзяліць, навошта? Ды ўсё ж польскія нацыялістычныя ўлады стараліся нас апалячыць праз школу, касцёл, урадавыя ўстановы (добра, што ў той час радыё было вялікай рэдкасцю, а тэлебачання не было зусім (у нас сказалі б "саўсім").

## Адкрыццё з царкоўнага вакна

Мае бацькі, ценгля занятыя пільнай працай, не мелі ні мажлівасці, ні звычкі аддавацца рэлігійным марам, ды і перакананні іх былі далёкія ад рэлігійнага фанатызму. Тата, прывучаны з дзяцінства сваёй маці, аўтаматычна, непрыкметна хрысціўся, сядаючы за стол да пасілку. Была адвечная павага да хлеба, да ежы, заробленай цяжкой працай. Мама таксама па інерцыі з дзяцінства захоўвала звычай сказаць перад сном ахоўную малітву-замову:

Спацькі лажуся,
На Бога здаюся.

Крыж пада мной,
Бог нада мной.
Крыж – у рэнцы,
Бог – у сэрцы.
Анелі мае,
Станьце пры мне –
Што вам, тое й мне.

Іншых пацераў я ад мамы і не чула, хоць і гаварылася часам, што нешта трэба ведаць, як “Ойча наш”. Але даводзілася чуць, як дарослыя жартавалі, цытуючы гарэзнае:

Ойча наш,
Бацька наш,
Куры краў,
Пад печ клаў.

Словам, рэлігійнасць у нашай ся’мі была народна-традыцыйная, святкаваліся рэлігійныя святы, прысвяткі толькі часам успаміналіся дзеля арыентацыі ў календары сельгасработ, працавалі часам і ў нядзелю – што ж, для прыкладу, пакідаць сухое сена пад дождж з-за таго, што нядзеля? Калі быў час, то з задавальненнем хадзілі жанчыны ў царкву, потым дзяліліся навінамі, пабачыўшы сваякоў, знаёмых. Рэлігійная складовая частка свята заставалася прывілеяй святара, парахвянак хвалявалі зусім свецкія рэчы.

Аднойчы летам мама ўзяла мяне з сабой. Яна хадзіла хутка, мне патрэбна было паспяваць за ёй, і пяць кіламетраў дарогі досыць мяне прытамілі. Хацелася прысесці, адпачыць, але ні каля царквы, ні ў царкве не было ніякай лавачкі. Я ўсё пераміналася з нагі на нагу каля мамы, яна зразумела, што мне цяжка ў натоўпе ды пасадзіла мяне на спускліві царкоўны падаконнік. Было лепей, але не зусім, бо з гэтага косага падаконніка лёгка можна было спаўзці, сядзі, не варухніся. Сонечныя праменні добра асвятлялі царкву, а з падвышэння мне выдатна бачыўся вялікі, ледзь не да падлогі, абраз двух святых: адзін з іх з ключамі, пэўна, ад раю. Апранутыя ў доўгую святую вопратку, яны былі амаль босыя, у нейкіх вятроўках (як праз шмат гадоў сказала мама, “у в’етнамках”). Увесь абраз быў даволі цёмным, а босыя ногі – у светлым кружку, вакол якога быў, як шэры хамут, таксама круг. Угледзелася я і не магла нічога зразумець. Аж тут падышла бабулька, укленчыла, апёршыся рукамі спачатку на затаптаную падлогу, потым стала прыладжвацца, каб пацалаваць святых у самыя босыя ножкі, дзеля чаго ўпіралася рукамі ў абраз, якраз трапляла рукамі ў той шэры “хамут”. І тут я зразумела, што шэры хамут – забруджанне ад рук, а светлая пляма вылізана пацалункамі. Падумала тады, што ніколі не буду цалаваць абразы. Такое маё было адкрыццё ў царкве, але маме я нічога не сказала, баялася, што яна мяне не зразумее, гэта трэба было бачыць.

## Заўвагі пра польскі ўплыў

З тых часоў у мове навасёлкаўцаў і не толькі іх засталіся асобныя польскія словы, напрыклад, *нажутка* (жаночы жакет), *гафты* (праразная манахромная вышыўка), *шыдэлак* (кручок для вязання), *фрэндзлі* (кутасы ці бахрама), *торэбка* (жаночая сумачка), *галька* (аздобная кашулька пад сукенку), *шмінка* (губная памада), *андуляцыя* (трывалая завіўка), *вятроўкі* (басаножкі), *снягуўцы* (гумовыя боцікі на туфлі), *цёнгле* (пастаянна, заўсёды), *нігды*, часам двухмоўнай таўталогіяй, – *нігдыніколі* (“Глядзі, аддасць ён табе пазыку на святыя Мігды, а можа і нігды”), *вадзіцца* (вылічаць у злосці адзін аднаму вады – недахопы, промахі, усё негатыўнае, звязанае з чалавекам; “Я з сваім Яначкам нігды-ніколі не павадзілася”; “Няма той хаткі, каб не было вадкі” – прыказка), *мэнка*, *мэнчыцца* (пакутаваць), *трошчыцца* (клапаціцца), *магнась* (цяга да чагосьці), *хэньць* (ахвотка да якой работы, занятку) і інш.

З польскай школы прыйшлі да нас *зэшыт* (сшытак), *атрамант* (чарніла), *бібула* (прамакатка), *ксёнжка* (кніга), *пшэрва* (перапынак), *тюрнік* (пенал), і інш.; з касцёла, пэўна, такі воклiч *"Духу свенты!", "Матка Найсвенша!", "Каб цябе панбух не множыў!"* – праклён, а гарончка, запаленне плуцаў (лёгкіх) і застшык – з медыцыны.

З тэхнікі – *ровар, кіха* (веласіпедная камера), *глоснік* (радыёпрыёмнік, які можна слухаць без навушнікаў-слухавак), *кары* (павозка) і інш.

Наогул тутэйшыя і сяляне і шляхта вельмі натуральна і хораша размаўлялі па-беларуску, ім хапала беларускіх слоў, каб пахваліць ці аблаяць (ды яшчэ і як!), маглі выказаць узнёслае, маркотнае, жалоснае, вясёлае, смешнае, святое і грэшнае. Памятаю, размаўляюць дзве суседкі, дзеляцца навінамі.

– Ці чула ж ты, прыдсядацяля мядзельскага знялі?

– Такой бяды, балота без чорта не бываіць.

– А й праўда, ужо новага прыслалі.

– Ну во, адна варона з куста, другая – на куст.

Мова нашай шляхты з засценкаў Курганы і Ванькова адрознівалася толькі тым, што часцей ужываліся звароты "пан", "пані".

– Дзень добры!

– Дзень добры, пані Надзея! Мае пані да мяне якую патрэбу?

– Так, пані, можа пані пашые мне блюзку, купіла кавалак батысту, к вясне хацела б...

– А можна, можна пашыць, то няхай пані сядзе.

Калі старога Стася Рачыцкага прыехала забіраць пляменніца, што раней выехала ў Польшчу, то ён, прыбраны ўжо, як у дарогу, у цёмны гарнітур і такі збялелы, змізарнелы, не раўнуючы, як нябожчык, прыйшоў на выган, дзе навасёлкаўцы чакалі сваіх кароў з пашы, збіраліся загадзя, каб абмяняцца навінамі. Гжэчна з усімі развітаўся стары шляхціц, казаў, што надта цяжка яму ехаць ад сваіх людзей, з усяго найдаражэй свае людзі, ды што зробіш, тут не было каму яго даглядаць. Павыязджалі людзі то ў гарады неабсяжнага Савецкага Саюза, то за мяжу, пераважна ў Польшчу, страцілася, згубілася гэтае адчуванне сваіх людзей, з якімі трэба было ўсё вырашаць па-добраму. Пра былыя засценкі, хутары ды і многія вёскі сведчаць толькі падмуроўкі будынкаў, што хаваюцца ў дзікіх зарасніках, ды рэшткі вялікіх колішніх садоў. А старыя клёны ды ліпы звяліся, ці то пассыхалі, ці іх паспілоўвалі на дровы. Пуста.

## Верасень месяц, сямнаццаты дзень

Я ўвесь час пераскокваю з аднаго часу ў другі, для мяне неістотна, што нейкая дата аддзяляе вельмі адрозныя кавалкі часу, можна сказаць, што цэлыя эпохі, нашае ж жыццё паціху сунулася, абмежаванае хутарам, гаспадарчымі клопатамі, тутэйшымі дробнымі навінамі; вялікія навіны звальваліся на нас са спазненнем. Шмат было разгубленасці, калі з радыё даведаліся, што немцы пачалі вайну супроць Польшчы ды што яе хутка і закончылі, падпісаўшы пагадненне Молатава-Рыбентропа пра новы раздзел Польшчы. З дня на дзень чакалі з'яўлення Саветаў, многія з вялікім страхам. Пан Снарскі пусціў сабе кулю ў галаву. Іншыя кудысьці з'язджалі. Каму не было куды збегчы, сядзелі на месцы – што Бог ні дасць, тое і будзе. Нарэшце, наступіў сямнаццаты дзень верасня 1939 года. "Верасень месяц сямнаццаты дзень зняў з нас навекі смутак і цень", – пісаў, можа і шчыра, паэт. Насамрэч многія чакалі буры, навальніцы, вялікай навалы. Іншыя тупа і абыякава глядзелі на ўсе гэтыя змены – вечна тут ходзяць чужынцы, не пытаючы нас, надакучыла, гары яно гарам.

Нарэшце, прайшла чутка, што ўжо блізка савецкае войска. Стала цікава, якое ж там яно. Польскае войска выглядала вельмі зухавата, надта шмат увагі ўдзялялася знешняму выгляду, ахайнасці жаўнера, яго выцвічанасці. Як аказалася, войска як бы добра ні выглядала, нічога не можа зрабіць супраць д'ябальскай вайсковай тэхнікі; нават выпеставаная добра кавалерыя мала што значыць супраць танкаў і кулямётаў.

І вось з’явілася савецкая пяхота. Салдацікі нейкія малыя, смуглявыя ды касавокія (з Азіі), выцвілыя гімнасцёркі ледзь не да каленяў, ногі абутыя ў запыленыя грубыя чаравікі ды абкручаныя да каленяў абмоткамі, усе нейкія замардаваныя, маркотныя, конікі ў абозе кудлатыя, невялікія, запрэжаны неяк не па-нашаму. Дзіва.

У той год было ў садах надта многа яблыкаў. Старая Трахіміха набрала бульбяны вялікі кошык, вынесла на вуліцу, прапануе – бярыце, хлопчыкі, не шкода. Але раздалася строгая каманда: “Не браць!”, бо можа быць атручаным. А няхай на вас кадук, няхай! Кантакту не атрымалася.

Расказвалі мне, як адбылася сустрэча з вызваліцелямі каля Кабыльніка (Нарачы). Там людзі жылі больш заможна, і перад вайной пайшла мода на ровары, кожны стараўся набыць ровар сыну ці дачцы, яно і выгодна для ся’мі, але ж маладым і пахварсіць хацелася. А як шанавалі, як даглядалі гэтыя ровары! Ніхто з двара не выедзе не агледзеўшы механічнага каня, патрабавалася, каб усе дэталі блішчэлі, ззялі – ведама, новая і нятанная цацка. А дзяўчаты да руля сваёй “дамкі” абавязкова прымацуюць вясёлы букецік кветак, і не сядзе на ровар ў будзённай вопратцы. Едзе такая дзяўчына на ровары і ўся зіхаціць, вецер гуляе прыгожай сукенкай, надзімае парусам шаўковую касынку, гладзіць кветкі на кіраўніцы; колерамі радугі-вясёлкі свеціць ахоўная сетка на заднім коле – люба глянуць. Дык вось такі роварны гурт моладзі рушыў да гасцінца паглядзець на савецкае войска. Хлопцы, дзяўчаты весяляцца, жартуюць – маладым весела разам. Назіраюць за вялікім паходам. Адзін хлопец, настроены вельмі прыхільна да Саветаў, начапіў на дубчык чырвоны сцяжок, махае ім. Да яго падышоў камандзір: “Таварыш, а гдзе народ? Чаму нас встрэчаюць толькі паны?” – “Якія паны, гэта наша вясковая моладзь, тут няма ні аднаго пана ці паненкі”. – “Эта сельская маладзёж, гаварыце? А я што, не віжу, какая эта маладзёж? Таварыш, вы занімаецеся вражескай прапагандай”. Так пачалося жыццё заходніх беларусаў пры расейска-савецкім сацыялізме, казалі: “пры тых Саветах”. Калі аднаму багатаму хутараніну паведамілі, што на гасцінцы ўжо савецкае войска, а ён у гэты час палуднаваў – еў таўсты прасняк з малаком – то ўскочыў, заціснуўшы кавалак прасняка ў жмені і памчаўся пераканацца ў гэтым сваімі вачыма. Хадзіў да вечара з заціснутай жменяй і толькі калі дамоў прыйшоў, заўважыў гэны кавалак праснака. Так ён спалохаўся, думаў, што адразу загрыміць у Сібір.

## Абрабаванне пана Снарскага

Казалі, што як толькі пан Снарскі пачуў праз радыё, што чырвонаармейцы перайшлі савецка-польскую мяжу, то адразу застрэліўся. Засталася ў маёнтачку пані ды аконам з жонкай. Дварок гэты, здаецца, быў бедны, хіба калісьці багацейшы. Старая капліца мураваная на высокім узгорку, руіны мураванага бровара над зарослым ставам – гэта прыкметы даўнейшага дабрабыту. Жылы будынак некалі згарэў, яго не адбудоўвалі, атынкавалі ранейшую стадолу, прарэзалі вокны, паклалі падлогу, зрабілі перабіўкі і сталі жыць. То ж не ад вялікага багацця такое рашэнне. Але ж прыроджаныя паны з дзеда-прадзеда. Дапытвалася я ў чалавека, што служыў у пана гаёвым, чым вызначаліся панскія пакоі. Ён нічога такога не мог успомніць, толькі што стол стаяў пасярод пакоя, замест вясковых лаваў – крэслы ды на стале букецік у збаночку.

І вось на такі бядотны маёнтачак наляцелі мужыкі з забалотных вёсак, хто пешкі, хто на конях. Пабралі ўсё, што знайшлі: тапары, пілы, вілы, граблі, посуд, зерне са свірнаў, муку ды крупы са скрыняў – пані маўчала, а як сталі ламаць века ў куфры, яна загаласіла. Толькі гэта не спыніла хцівых. Разрабавалі, але ніхто з іх не пабагацеў, як былі галотай, так і засталіся. А навасёлкаўцы – малайцы: ні адзін чалавек не спакусіўся чужым “багаццем”, захавалі свой гонар і не зрабілі прыкрасці свайму чалавеку, хай сабе і пану. Дзе дзелася пані і яе дачка Гіленка – невядома, бо пры немцах тут з’явілася нейкая іх сваячка ў ролі гаспадыні.

## Навіны з Бору

Зімой 1940 года наведалі нас маміны цёткі з Бору. Бор – гэта ўся баравая старана Мядзельшчыны, малая радзіма мамы з татам, па якой яны сумавалі, якую так любілі. Цёткі ехалі ў вялізных кажухах і валёнках, ды яшчэ ў бурках, здаваліся такімі груваскімі, а як распрануліся, то аказаліся зусім не тоўстымі і прыемнымі. Пачаставалі нас яблыкамі, падмерзлымі ў дарозе, але ж якімі духмянымі! Падзівіліся маёй забаве: мама зрабіла мне ў хаце арэлі – павесіла на гужышчах паланачкі (малыя начовачкі для выпалвання вотруб'я з круп), прымацавала да бэлькі, я на тых паланачках так раскалыхвалася (аж пад столь), што цёткі ахалі, думалі, што я вот-вот грымнуся далоў. А я ўжо была спрактыкаваная, трымалася ўпэўнена.

Мае добрыя цётачкі Вольга і Тацяна засыпалі маму баравымі навінамі, і нават мне здавалася, што ў тым Бары сапраўды жыццё ідзе весела, актыўна, што там цікавей, неяк святлей, утульней, там столькі нашай дружнай паміж сабой радні, у іх там вечныя адведкі, госці, сустрэчы, а ў нас – пустэча.

Тут яны паведамілі такую незвычайную навіну: "прыязджаў Жэня Скурка, ён складаіць вершыкі і змяніў фамілію, цяпер ён – Максім Танга". Мама з Жэнем разам хадзіла ў польскую пачатковую школу ў сваёй роднай вёсцы Шкальнікова (Шкленнікова). Жэня на клас апярэджваў, хоць быў і маладзейшы гадамі. Бялявенькі і жвавы Жэня жыў на кватэры там у сваёй цёткі, што была замужам за маміным дзядзькам. Толькі мама пасля той школкі не вучылася, дакладней, вучылася прасці, ткаць, шыць і шмат чаму іншаму, а Жэня пайшоў у вялікі шлях па вялікую навуку. Яго там вельмі паважалі і любілі, як усюды любяць таленавітых, прыязных, добрых юнакоў. Да таго ж і прыгожых. А трэба сказаць, што народны паэт і ў юнацтве быў прыгожым, і ў мужчынскім сваім веку глядзеўся выдатна. Вот толькі навошта ён змяніў імя і фамілію неяк непрыгожа? Што такое танк, яны не ведалі, бо па-польску танк – *czołg*, ім жа пачулася знаёмае, вядомае перад вайной танга. Але гэтае "танга" прычапілася да Яўгена Іванавіча, перайшло ў фальклор. Думаю, што гэта была рэакцыя (адмоўная) яго землякоў на рэвалюцыйна-збройную пафаснасць псеўданіма, не вельмі адпаведную добраму і разумнаму чалавеку, якім лічылі паэта. Але і Танк да яго прыжыўся, пасаваў яму. Калі ўзбуйнялі раёны, то Крывіцкі невялікі раён далучылі да Мядзельскага, стварыўшы праблемы і немалой колькасці службоўцаў, і перспектыве развіцця мястэчка Крывічы. А як такія вядомыя дзеячы – Сяргей Прытыцкі і Максім Танк пабывалі кіраўнікамі Вярхоўнага Савета БССР, то на іх і ўсклалі адказнасць за нежаданыя перамены:

Максім Танга і Прытыцкі
Прапілі раён Крывіцкі.

Што ж, вельмі дасціпна, па-добраму, без гневу і палітыкі.

## Пра вараных "цыганоў" альбо "гультаёў"

Калі мама варыла штосьці асабліва смачнае, і мы елі з задавальненнем, тата пасмейваўся і казаў: "А вараных "цыганоў" вы яшчэ не елі, вот гэта дык смак!" "Не цыганы а гультаі", – папраўляла мама, у іх вёсцы была іншая назва. Натуральна, што мы прасілі маму зварыць цыганоў, ды тая казала, каб адчапіліся, ніякіх цыганоў ніхто не варыць. Мала што не вараць, а нам хочацца пакаштаваць.

Так выпала, што маме патрэбна было пайсці ў Бор па нейкай справе, узяць *дэсань* (узор) дывана, ці што іншае. Мы спахмурнелі, сталі ныць, пратэставаць, бо як можна жыць без мамы? Тата нас паклікаў і паціху сказаў: "Хай ідзе, мы не прападзём, заўтра наварым цыганоў". І мы спакусіліся, але так няўпэўнена. Тады тата яшчэ падмацаваў спакусу абяцаннем спячы нам яешню з яек дзікай качкі,

хтосьці набраў іх на балоце, даў тату на пакаштунак. Тут мы канчаткова здаліся. Мама пайшла, а мы як дурненькія чакаем заўтрашняга снядання. Высветлілася, што “цыганы-гультаі” – гэта нескрабаная бульба, парэзаная на палавінкі і звараная ў падсоленай вадзе. Варыянт для гультаёў. Трохі адрозніваецца ад цэлай, што ў шалупінах, але не дужа. Мы былі разгублены – ну нічога ж асаблівага. А яешня з яек дзікай качкі зусім не ўдалася, можа тата тлушчу не паклаў, была нейкая сухая, не трэба нам такая. А самі вінаватыя, нашто адпусцілі маму?

## Няўдалы выступ майго браткі

З прыходам Саветаў сталі прыязджаць нейкія палітрукі, дэпутаты, тлумачыць міжнароднае становішча, новую палітыку і да т.п. Ды хутаран цяжка было сабраць, асабліва з такіх далёкіх хутароў, як наш. То прыезджыя абмяжоўваліся мінімумам, тымі, што жылі бліжэй да цэнтру, былой вёскі, а ўскраіны задавальняліся потым пераказам навін, праўда, для нашых сялян мала што было зразумелым, палітычная рыторыка новай улады вельмі адрознівалася ад канкрэтнасці патрабаванняў і прапаноў польскай улады.

Аднойчы да нас прывялі на начлег чалавека сярэдніх гадоў, размаўляў па-беларуску, дэпутата нейкага вялікага (можа Вярхоўнага?) савета ці то кандыдата ў дэпутаты, што ўсё адно. Ён дастаў з сваёй ёмістай тэчкі папяровы ражок з цукеркамі і пачаставаў нас з браткам – даў гасцінца. Мама заклапацілася, бо наступаў вечар, яна паіла і раздавала корм жывёле, увесь час выскаквала з хаты. Мы хрумстаем пацiху тыя цукеркі. Нарэшце мама пачынае гатаваць госцю вячэру. Тут з печы выглядвае Віця і гучна кажа маме, паказваючы цукеркі: “Як із’ем, хай болей дась!” Маме сорамна, ды што тут зробіш з малым, а госць нават хваліць яго, кажа, што вырасце добры калгасны брыгадзір. А можа, і спяваць умее? А чаму ж не, Віця рады паспяваць добраму дзядзьку. І, доўга не думаючы, высунуўшыся з-за печкі:

А як Ленін паміраў,
Сталіну прыказаваў:
Хлеба ўволю не давай,
Сала не паказавай.

Тут мама канчаткова збянтэжылася, сціркай прагнала нас на печ, а сама стала ставіць на стол вячэру для госця. А госць, відаць, і не такое чуў, ён зрабіў выгляд, што нічога не адбылося – ведама, малы, што ён разумее. Потым бацькі дзівіліся, адкуль тое ў Віці, бо ніхто яго адмыслова не вучыў, але ж ён чуў усё, што гаварылася ў хаце, прыходзілі суседзі, апавядалі, цытавалі розныя творы актуальнага фальклору, смяяліся, бо сярод навасёлкаўцаў, можа, 2-3 сям’і чакалі нечага добрага ад новай улады, іншыя глядзелі на рэчы рэальна.

## Мы – беларусы

У нашай сям’і словы “беларус”, “беларускі” былі звычайнымі, не памятаю, калі я ўсвядоміла іх значэнне. А нідзе болей іх чуць мне не даводзілася. У час вайны, калі мне трэба было ісці ў школу, дык партызаны ўзарвалі мураваную прыгожую школку ў Баярах, пабудаваную пры Польшчы, такую з класамі і кватэрай для настаўніка пад адным дахам. Ды і настаўніка не было, польскі настаўнік знік у 1939 годзе, ніколі пра яго нічога не было чутно. Я нудзілася, тата раздабыў мне буквар, выявілася, што ён рускі. Дармо, паказаў мне тата ўсе літары, дык я яго хутка асіліла. А некаторыя дзеці, што ў саракавым годзе хадзілі ў беларускую школу, казалі, што яны не ўмеюць чытаць па гэтым буквары, гэта мне здавалася дзіўным – колькі тых адрозных літараў. Потым мама ў кагосьці з суседзяў выпрасіла польскі буквар –

*элемэнтаж* (лемантар, казалі некалі беларусы) і беларускую чытанку “Чырвоныя зорачкі” – савецкі дапаможнік для другога класа з партрэтамі Сталіна і Варашылава. З гэнай чытанкі запомнілася мне апавяданне пра чалюскінцаў на льдзіне, бо яго абмяркоўвалі і мае бацькі.

Польскі Лемантар мне вельмі спадабаўся забаўнымі тэкстамі і цікавымі ілюстрацыямі, якія імітавалі дзіцячыя рысункі. А калі мама ў некага пазычыла выдадзеную падчас вайны кніжку з беларускімі малітвамі, нейкую шэрую, мне нецікавую, я трохі пачытала, адно запомніла, што там было напісана: “Янка Купала і Якуб Колас – беларускія паэты”.

Аднойчы мой тата з татам Лёдзі сабраліся ехаць у дровы, добры бярэзнік рос на даволі далёкім востраве сярод балота. Казалі, што там, на Высокім востраве, траплялiся ўзброеныя людзі, забіралі ежу, што-небудзь з вопраткі. Таму мужыкі ездзілі ў дровы па двое, па трое, так надзейней. Сядзіць дзядзька Васіль каля стала, чакае, пакуль тата запрагае ў сані каня, глядзіць, як я пільна чытаю Лемантар, ды такім асаблівым голасам кажа: “Во, як Лійка чытае”, маючы на ўвазе, што я раблю выгляд, быццам чытаю. Тут мама ўмяшалася, кажа, што я напраўду чытаю. Дзядзька Васіль узяў кніжку, убачыў, што надрукавана па-польску, а польскую мову ён паважаў і любіў, вывучыў у войску, і давай мяне правяраць, загадваючы чытаць у розных месцах. Праверыў, пераканаўся, што ўсё па праўдзе. Потым задумаўся, ды кажа, што яго дзеці ані літаркі не ведаюць. Ды і навошта яно гэткім часам? А мама кажа, што я і па-беларуску ўмею чытаць. Тут дзядзька Васіль неяк нядобра выказаўся наконт нашай простай мовы, нашто яна ў кнігах, калі ёсць такая дасканалая польская мова. А мама так далікатна, бо нельга быць мудрэйшай за мужчыну, можа, вельмі пакрыўдзіцца, стала тлумачыць, што як мы беларусы, мова наша беларуская, то і кніжкі павінны быць на беларускай мове. А я сядзела, як ваўчок, злосная, і думала, чаго гэта мама яму, дурному, лісціць, стары чалавек, а не ведае, што мы беларусы, што ёсць беларускія кніжкі, я – малая, і тое гэта ведаю.

## Урок лічэння

Неяк на Вялікдзень пасля абеду тата лёг адпачыць, так прылёг на неразабраны ложак, сумна яму, няма з кім перакінуцца словам, мама кудысьці выскачыла. Тата паклікаў мяне: “Лія, хадзі сюды, будзем з табой лічыць”. Я падышла да яго і кажу, што ўмею лічыць, і палічыла да дзесяці. Тата палічыў да дваццаці, я за ім паўтарыла. Потым тата сказаў, што далей трэба лічыць дадаючы да дваццаці адзін, два, тры. Я падхапіла, стала лічыць далей – дваццаць дзевяць, дваццаць дзесяць. Не, тлумачыць тата, будзе трыццаць. Так мы паступова далічылі да ста, потым да дзвюхсот. Неяк прынцып я хутка засвоіла, тата толькі назваў трыста, чатырыста і ўрэшце тысяча. Тут тата сказаў, што на першы раз хопіць, можна мне ісці гуляць. Урок наш закончыўся, праводзіўся ён без належнай паступовасці, без наглядных дапаможнікаў, але калі ў школе настаўнік тое ж доўга тлумачыў, дык мне было сумна, нецікава.

## У гасцях у цёткі Палюты

Нарэшце і мне пашанцавала: мама вырашыла адведаць сваю сястру цётку Палюту, што жыла ў вёсцы Азаркі-Пудавінка, ля самага возера Баторына, а там яшчэ была радня ў Азарках-Дворышчы, што за Старымі Азаркамі. Так цікава было пабачыць тое возера і вадзяны млын каля возера ды пагуляць са стрыечнымі сёстрамі – яны крыху старэйшыя за мяне, мне шмат што пакажуць. Паездка прыпала якраз на чэрвень 1941 года. І вось мы рушылі з мамай у дарогу, найперш з асцярогай праехалі грэблю праз балота на вёску Канчані, было небяспечна, воз куляўся, масток праз канаву падгнілы, дзякуй Богу, што неяк пераехалі. Я ўпершыню ўбачыла там каля мастка белыя гар-

лачыкі – вадзяныя лілії, так яны мне спадабаліся. Потым ехалі праз Каньчані, Качаны, Бадзені, Зані, Раманаўшчыну, затым барамі-лясамі, ужо не ў памяці, як прыехалі: закалыханая доўгай дарогай і лясным паветрам, я соладка спала. Гэта была субота. У цёткі нас з радасцю сустрэлі. Цётка Палюта з тэмпературай у ложку, мама з ходу ўключылася ў работу, падаіла карову, спарадкавала малако, памыла посуд, зварыла вячэру, пакарміла хворую, тая аж падужэла, павесялела, а дзядзька Васіль, замучаны жаночымі работамі, так шчыра дзякаваў маме за дапамогу. Мяне сястрыца Волька павяла на возера, якое я бачыла ўпершыню, агледзелі мы і вадзяны млын, прытым я смела скакала па запрудзе, цікава было, як вада збягае. Млынар-жыд пацікавіўся, што гэта за дзяўчынка чужая тут скача, а даведаўшыся, што мяне завуць Лія, старазаконнае імя, пашыранае ў мядзельскіх жыдовак, тут жа выклікаў з хаты тоўстага, з румянымі шчочкамі хлопца маіх гадоў: глядзі, якая смелая дзяўчынка ў нас з’явілася.

Потым мы з крыкамі гулялі на вуліцы ў мячык, трэба было пралятаць праз “поле”, а цябе збівалі мячыкам, прытым паіменна выклікалі воклічам: “Гарэлка гарыць, Волька (ці Лія, ці яшчэ хто) ляціць!” Мы так набегаліся, што пасля вячэры заснулі імгненна. А раніцай я прачнулася ад шуму на вуліцы – рыкалі каровы, п’яна спявалі мужыкі і галасілі бабы. Што здарылася? Немцы напалі на Саветаў – вайна. Гэта ж была нядзеля 21 чэрвеня. Святочны настрой адразу знік, запанавала трывога і прыгнечанасць. Трохі счакаўшы, усе пайшлі да адной хаты, якая хавалася ў зараслях бэзу, там выступаў вайсковец, ён заклікаў да спакою, нашы войскі дадуць адпор і прагоняць ворага, зараз будзе мабілізацыя, мужчынам прызыўнога ўзросту трэба з’явіцца ў ваенкамат. Тут бабы як загаласілі, як завылі зноў, за імі дзеці, аж страх, ледзь іх мужыкі супакоілі.

Раптам з’явіўся нейкі мужык з Мядзела, кажа: “Ціхуця вы, не крычыця, якая мабілізацыя? Ваенкамат грузіць паперы на фурманку, усё начальства ў вялікім спеху пакідае мястэчка, уцякае”. Тут стала яшчэ страшней, гэта значыць, што не прагоняць адразу тых немцаў, вайна сюды прыйдзе.

Мама кажа, што няма як гасцяваць, трэба дабірацца дадому, там жа тата і малы Віця. Запрэглі каня, развіталіся, паплакалі – вайна да нас прыйшла, што будзе далей? Як мы назад ехалі, дык і не ў памяці, на выездзе з вёскі былі дарогу перакрыўшы салдаты, што строем некуды крочылі, але нядоўга мы іх перачэквалі. Прыехалі на свой хутар – ціха, спякотна, пчолкі гудуць актыўна, мёд збіраюць па зацвіцелых травах, так мірна, спакойна. Але адчувалася, што няма спакою ў бацькоў на душы. Сустрэнуцца з суседзямі, ціха пагавораць, няма ніякіх навін, радыё адсутнічае, савецкае начальства знікла, ніякіх стрэлаў, шуму не чуваць. Так жылі ні на тым свеце, ні на гэтым тыдні два.

## У Буду па соль

Пайшла чутка, што людзі з навакольных вёсак ездзяць у Буду (Будслаў) па соль. Там на станцыйнай платформе яшчэ Саветы навезлі солі, згрузілі гарой без тары па навесам, людзі насыпаюць мяхі ды на воз, абы конь пацягнуў. Паехаў і тата, бо ў вайну, казалі старыя людзі, данімае не толькі недахоп хлеба, але і адсутнасць солі. Прывёз тата мяхі тры ці чатыры, схавалі яе на печы, у сенях і яшчэ дзе. А Антось Качарга, такі законапаслухмяны, не хацеў ехаць красці, пакуль Манька, ягоная жонка, не ўталкавала яму, што будзе есці несалёнае, купіць не будзе дзе. Паехаў адным з апошніх, а можа нават і апошні. Толькі стаў набіраць, глядзь – узброены немец. Вот жа пашанцавала! Што рабіць? Дзядзька Антось, што ўкалываў восем гадоў на заводах Францыі, кажа таму немцу па-французску: “Мсье, я хацеў набраць солі, бо яе ніхто не ахоўваў, а мне яна пільна трэба. Калі б вы дазволілі, я даў бы вам крыху сала, мне жонка паклала на абед”. – “Добра”, – кажа немец па-французску, пяшчотна бярэ гэны невялічкі кавалачак сала з лустай хлеба, чакае, пакуль Антось награбе солі ў мяхі, і нават памагае яму падняць мяхі на воз. Шчаслівы, што жывы і з соллю, прыехаў Антось дадому, гэты ж немец мог і стрэліць з перапуду ці са злосці, непаразумення.

## Першыя візіты немцаў

Навокал вайна, а ў нас ціха, нічога ваеннага мы не бачым. Лета, спякота, адвечныя клопаты па гаспадарцы. На дварэ ў вялікіх начоўках мама выціскае бялізну. Бялізна ў нас уся ільняная, тэхналогія яе мыцця вельмі простая: закладаецца бялізна ў цэбар, абвязваецца зверху кавалкам палатна, трохі яго ўціскаюць уніз, насыпаюць туды попелу, праз які працэджваецца вар у колькасці, каб заліў усю бялізну. І пакідаецца так пастаяць з паўдня, каб вопратка прапарылася і вар астыў. Тады цэбар адвязваюць, рэшткі попелу выкідаюць на агарод, бялізну па адной штуцы дастаюць і выціскаюць, потым выкручваюць. Апрацаваную такім спосабам вопратку нясуць паласкаць да ручая ці возера, калі такія ёсць, а то і недалёка ад студні выбіваюць пранікам і выпаласкваюць, змяняючы ваду, выкручваюць ды развешваюць сушыцца.

І раптам без ніякага шуму на дварышчы з'яўляюцца немцы. Мама ледзь не абамлела са страху. З гэтага перапуду яна нават потым хварэла. Адзін папрасіў малака. Мама прынесла, запрасіла жэстам сесці на лаўку. Немец адмовіўся, сказаўшы па-польску: "Цалон ноц ехалы на ровэрах – дупа болі". Ну, як не, то як сабе хочаце. Напіліся малака і пайшлі сваёй дарогай.

І яшчэ бачылі мы немцаў на сваім хутары разы са два. Адзін немалады немец паказваў бацькам фатакарткі сваіх родных – швэстар, тохтар. Мы з братам, мусіць, надта пільна ўзіраліся ў яго, дык ён зрабіў фокус – пашчоўкаў перад намі белымі зубамі, потым выняў чэлюсць, памахаў ёю перад намі ды зноў шчоўк! сабе ў рот. Гы-гы-гы! – смяецца. Мы здранцвелі, такога не толькі мы, але і наша мама ніколі не бачыла. Што значыць дасканалая тэхніка (нямецкая!) пратэзавання. Нам здавалася, што гэта цуд.

Аднойчы на хутары з'явіліся два маладыя немцы ў пляжным убранні, адзін быў у чырвоных трусіках і такога ж колеру шлёпанцах, абое з пісталетамі. Яны ўзагналі нашых курэй, што ляжалі пад слівай, хаваючыся ад спякоты. Тоўстую старую курыцу, якая ўжо перастала несці яйкі, можна сказаць, жыла на пенсіі і надта аплыла тлушчам, гэны, што ў чырвоным гарнітуры, лоўка падстрэліў з пісталета, узяў за ногі і, не сказаўшы гаспадарам дзякуй, панёс. Мама смяялася, што доўга трэба будзе ім варыць старую, цвёрдую курыну, затое суп будзе тлусты. Відаць, некаторым маладым парушальнікам армейскай дысцыпліны здавалася, што яны на вясёлай экскурсіі ці якім паляванні, так упэўнены яны былі ў сваёй бяспецы. І нікому з іх у галаў не прыходзіла думка, што прадукты могуць быць атручаны ці як інакш папсаваны – заходзілі ў хаты, пілі малако і сырыя яйкі, намазвалі тоўста на хлеб масла і з апетытам з'ядалі, тое што ў нас лічылася смачным ды карысным, тое і ў немцаў.

Потым мне дазволілі схадзіць на цэнтру паглядзець немцаў, шмат якіх, нейкая вайсковая адзінка, спынілася на адпачынак. Мяне вельмі здзівіла, што ў машынах з афіцэрамі на пярэдніх сядзеннях свабодна сядзелі непрывязаныя сабакі ваўчынай пароды – вялікія, вушы стаячыя. Дурненькая была, здзіўлялася, што сабакам ды такая раскоша. А гэта ж дарагія, разумныя службоўцы. Маладыя, спартовага выгляду салдаты адпачывалі, вялі сябе дысцыплінавана, ні да кога з нашых людзей не чапляліся, акрамя паходаў па яйкі, маслам, малаком ці салам. Не крыўдзілі яны ў той час і дзяўчат, няма чаго маніць, як кажуць, Бога гнявіць.

Знаходзіліся, аднак, гарэзнікі, што выраблялі такія штукі, да якіх бы век не дадумаўся наш нармальны чалавек. На шырокім драўляным зрубе старога Трахімавага калодзежа ўселіся чатыры салдаты галяком, ногі спусцілі ў калодзеж, асверам даставалі ваду ды палівалі сябе. Рагаталі, дурэлі. Запаскудзілі ваду, давялося гаспадарам рабіць немалую работу – выліваць усю ваду з калодзежа. Зноў жа гэтае парадаванне ў пляжных касцюмах так было нязвычна нашым людзям, абразліва, што старыя кабеты пры сустрэчы жагналіся ды потым пляваліся. А яны так адпачывалі ў вёсцы, на прыродзе, не ведалі, напэўна, што іх чакае ў недалёкай будучыні.

## Жыццё пад новай уладай

Паступова пачало праяўляцца нямецкае кіраванне. Польскага старога солтыса абавязалі працягваць работу старасты. Выдалі ўсім разліковыя кніжачкі на здачу малака – на дзень адзін літар. Надпісы на кніжцы на нямецкай і беларускай мовах – у які малочны пункт здае малако, а зверху – *In welchen Milchpunkte Milch abgibt*. Здавалі толькі ў 1942 годзе, потым перастала працаваць млячарня, ці што, больш не здавалі. У панскім маёнтачку Жосна заклалі плантацыі тытуню, па чарзе хадзілі дзяўчаты і маладзіцы даглядаць той тытунь, вялікі рос, духмяны, не паверыш, што з яго такое злое зелле робяць. Жанчыны накралі расады, развялі на сваё гора гэтага тытуню, найлепшыя дзялянкі агародаў потым занялі ім. Памятаю, у Лёдзі на гарышчы ўся прастора была завешана тытунём, дзе яго вялілі ці то сушылі, лісце пахла мёдам. Мужыкі сталі бязлітасна курыць – тытунь жа лічы дармавы.

У маёнтачку Лейці немцы таксама сталі гаспадарыць па-свойму. Там у іх з'явіліся сельскагаспадарчыя машыны, розная тэхніка. Хутар дзядзькі Паўлюка быў у блізкім суседстве з тым маёнткам. Загадчык маёнтка, паглядзеўшы на ніву пераспелага аўса, заўважыў Паўлюку, што пара жаць. Той тлумачыць, што няўпраўка, дзеці малыя, жонка занятая, няма каму рабіць. Той кажа, што заўтра раніцай прышле жняярку конную, сажне. Каля васьмі гадзін з'явілася параконная жняярка. Дзіва, як добра працавала гэта машына – яна зжынала паласу і выкідвала звязаныя шпагатам снапы. Такога навасёлкаўцы яшчэ не бачылі. Зноў жа для апрацоўкі міжраддзяў на агародах з'явіліся вельмі эфектыўныя прыстасаванні, такія разрыхляльнікі на калёсіках: працягні яго паміж радкоў культурных раслін, дык пустазелле будзе знішчана і зямля падрыхленая на невялікую глыбіню. Шмат часу прайшло, а наша прамысловасць усё працягвае выпускаць матыкі, вынайдзеныя таленавітымі агароднікамі дзесяць тысяч гадоў таму назад.

## Шараварка, альбо Рамонт гасцінца

Вёска Навасёлкі размяшчалася ўздоўж гасцінца, што ішоў з захаду, з Мядзела, на ўсход, на Ваўкалата і далей. Ён быў абсаджаны старымі бярозамі, падтрымліваўся шараваркамі, быў у неблагім стане. Але немцам не спадабаўся. Яны навезлі рабочых з Польшчы, іх нашы людзі звалі варшавякамі. Ох жа і выраўнялі яны наш гасцінец, высыпалі каменьчыкамі, утрамбавалі каткамі, зрабілі ў патрэбных месцах вадастокі, гасцінец стаў роўненькі, як стол. Павольна, як найпавольней рабілі палякі. Нашы людзі смяяліся, дзівіліся, як у немцаў цярпення хапае глядзець на такую марудную работу. Але дармо, дарогу ўсё ж так адглянцавалі, якой яна ніколі не была. Палякі-рабочыя часам уцякалі ненадоўга з свайго лагера, хаваліся ў пунях на хутарах, каб адпачыць, вылежацца, а есці яны выпрошвалі ў нашых сялян. Аднойчы два варшавякі назбіралі паўкапы яек, прыйшлі да нас, каб спячы іх. Мама дала ім масла, вялікую патэльню, вот яны і спяклі рэкордную яечню па-польску, увесь час перамешваючы. Потым гэтую яечню з 36 яек за адзін раз і з'елі з добрым акрайцам хлеба. Смяяліся задаволеныя – *ютро не здонжымы працоваць*.

Але як многа чаго на свеце робіцца марна, марнуецца, руйнуецца. Незадоўга перад тым, як немцы павінны былі пакінуць Беларусь, прыйшлі партызаны, загадалі ўсім выйсці на работу, перакапаць гасцінец упоперак канавамі і заваліць спілаванымі прыдарожнымі бярозамі. Немцы гэтым шляхам не адступалі, гэтым гасцінцам наступалі чырвонаармейцы. Зноў гналі людзей сцягваць бярозы і засыпаць канавы. Але рабілі гэту работу адчэпнага, сяк-так, то савецкая тэхніка потым раўла, буксавала і ламалася пад праклёны і мат да ўсяго звычных савецкіх людзей.

Леанід Галубовіч



...аўтар скрозь слёзы пасміхаецца
са свайго і нашага савецкага мінулага,
але і светла ўспамінае той час,
калі "дрэвы былі вялікімі"...

# Беларускае дзяцінства ў Таяма

***Рэцэнзія на кнігу Вячаслава Казакевіча***

***Вечеслав Казакевич. За мной придет Единорог. Издательство Н. Филимонова, М., 2016. – 256 стр.***

Рускамоўны паэт і празаік родам з Бялынічаў Вячаслаў Казакевіч (1951), які ўжо амаль чвэрць веку жыве ў Японіі, адпрацаваўшы там да пенсіі прафесарам рускай філалогіі ўніверсітэта ў Таяма, нядаўна пераслаў мне сваю новую кніжку "За мной придет Единорог" (Масква, 2016). З Вячаславам мы знаёмыя яшчэ з канца васьмідзясятых, калі я вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Ён стаў перакладчыкам маёй паэтычнай кніжкі, якая выйшла на рускай мове. На той час Казакевіч быў аўтарам двух зборнікаў паэзіі: "Праздник в провинции" і "Кто назовет меня братом?" Аднак на самым пачатку 1990-х паэт з сям'ёй з'ехаў у Японію. Трэба было лячыць сына ад цяжкай стадыі дыябету, што магчыма было толькі ў гэтай высокаразвітай краіне. На сёння сын яго скончыў такійскі ўніверсітэт, ажаніўся з японкай, мае дачку і працуе па кантракце ў японскай фірме ў Маскве. Жонка Вячаслава, украінка, дарэчы, таксама прафесар




універсітэта ў Таяма (заняла месца Вячаслава пасля яго выхаду на пенсію, а дагэтуль працавала ва ўніверсітэце Осака). Раз на некалькі гадоў Казакевіч прыязджае на радзіму, у Бялынічы, дзе да гэтай пары жыве яго састарэлы бацька. Тут ён скончыў сярэднюю школу. Адсюль з'ехаў вучыцца ў Расію.

Жывучы на далёкіх астравах, Вячаслаў напісаў і выдаў (у Маскве і ў Японіі) паэтычныя кніжкі: "Лунат", "Ползи, улитка!", "Жизнь и приключения беглеца", "Сердце-корабль", "Из вихря и луны", а таксама кнігі прозы: "Прославление заката" ў перакладзе на японскую мову, "Охота на майских жуков" (на гэтую кніжку дзесяць гадоў таму я надрукаваў даволі разгорнутую рэцэнзію ў тыднёвіку "ЛіМ").

Трэба зазначыць, што В. Казакевіч застаецца лірыкам ва ўсіх сваіх жанрах. Гэта яго натуральны адпрыродны стан душы. І хоць проза яго рамантычна-спавядальная, яна густа насычаная метафорыкай і выкладзеная арыгінальным стылем, які падтрымлівае сюжэтную інтрыгу і часта змушае чытача быць калі не суўдзельнікам гісторыі, то суперажываць дзеянне разам з яго героямі. У новай кніжцы "За мной придет Единорог" пісьменнік распавядае пра свае летнія вакацыі на радзіме маці. Было тое ў падлеткавым узросце нашага героя, на самым пачатку 1960-х... Дарэчы, пісьменнік захаваў сябе ў расповедзе пад сваім сапраўдным імем, хоць, яшчэ раз зазначу, твор не зусім аўтабіяграфічны. Гэта не скразная выдумка, але і не фактычны дакумент часу. Як напісаў мне сам аўтар: *"Единорог" – это побег от себя. Эта книга налетела на меня и захватила, как вихрь, совершенно неожиданно. Мой брат покончил с собой, и я был в таком мраке, что не знал, как из него выбраться. Саськовка меня спасла!"* Той жа сэнс застаўся, калі б замест Саськаўкі Вячаслаў Сцяпанавіч напісаў бацькаўшчына, радзіма, Беларусь.

Дык вось, на самым пачатку хрушчоўскіх 1960-х падлетка Славіка з гарадскога пасёлка бацькі выпраўляюць на летнія канікулы ў вёску Саськаўка да мамінага малодшага брата Эдзіка, у сям'і якога таксама гадуюцца два падлеткі, адзін з якіх нямко.

А зачын кнігі такі – займальны і прыцягальна-загадкавы, хоць жанр твора і не пазначаны, але я дазволю сабе называць гэты тэкст аповесцю: *"...ехали мы не на верблюде, а служебном "козле", который, оставив асфальт, задрал заоблачный хвост пыли и стал подпрыгивать, бренчать, утробно завывать, валиться то на один свой брезентовый бок, то на другой, шумно купаться в лужах, короче говоря, повел себя так, будто был не машиной, а заправским козлом, истосковавшимся на государственной службе и обезумевшим от радости, что вырвался, наконец, на волю".* Старэйшыя з нас памятаюць гэты ўніверсальны від транспарту калгасных старшыняў, што ездзілі па разбітых дарогах вакол палеткаў.

Насмелюся сказаць, што сама ідэйная сутнасць (гумар, іронія, сарказм) аповесці нярэдка асацыіюецца з прозай М. Гогаля (стылем і манерай пісьма). Асабліва ўражваюць прыбіральня і лужа пасярод вуліцы:*"На улице мне с гордостью показали необъятную исполинскую лужу. Оказалось, в Саськовке две такие лужи. Одна на въезде, другая – у нас под боком. Въездная лужа в жару иногда слегка сжималась в размерах, и тогда не только гусеничный, но и колесный трактор отваживался сунуть в нее нос с трубой. Но наша лужа не теряла лица при любой погоде, будто ее подпитывал подземный источник. Заезжий чужак на колесах, счастливо преодолев первую лужу, перед второй все равно вынужден был бы остановиться, потому что одного взгляда на нее хватало, чтобы понять: вваливаться в этот*

*водоем никому, кроме водоплавающих, не стоит. Пройти по улице можно было, только прижавшись к частоколу и хватаясь за него руками.*

*– Глубокая? – предположил я.*

*– Тебе с головой будет! – уверенно ответил Валик”.*

У той жа вёсцы на той жа вуліцы жыве яшчэ адзін мамін брат Пеця. Эдзік – шафёр, Пеця – брыгадзір. Адзін рулюе на машыне, другі ездзіць на брычцы. Абодва – зайздроснікі і аматары прыбраць да рук калгаснае. Вось характэрны партрэт дзядзькі Эдзіка (шчыра скажам, па тым часе не характэрнае для беларуса імя): *“Дядя приезжал с работы при последних клочках заката, глушил за баней грузовик, тяжело ступая, входил во двор и звал тетю Олю. Если она визгливо отвечала, что занята (...), дядя голосом, которого испугался бы сам Карабас-Барабас, гремел: “Кидай в манду свое молоко!” Словечко, на первый взгляд, казалось связанным с мандолиной. Но чем чаще оно повторялось, тем яснее было, что никакого отношения к музыкальным инструментам оно не имеет. Начало приказов дяди Эдика никогда не менялось. Варьировалась только их вторая часть. Если тетя включала газ, звучало: “Кидай в манду газ!” Если шла доить корову, надлежало кинуть по тому же адресу подойник или – что было куда более трудной задачей – корову. И тетя торопливо и испуганно семенила к мужу. Вдвоем они возвращались к грузовику и, кряхтя, в четыре руки притаскивали грузные таинственные мешки, которые прятали в сарае”.*

А вось як выпісаны яго брат Пятро: *“... у дяди Эдика было одно любимое слово, а у дяди Пети совсем другое. Был дядя Петя бригадиром. Ничего генеральского в нем будто не было. Но, как впоследствии выяснилось, дома его боялись все, начиная от сердобольной тети Зины, кончая последним желторотым цыпленком, что по неосмотрительности мог попасться под рыжие дяди Петины сапоги:*

*– Куда, курва? – так мрачно и раскатисто басил дядя, что цыпленок, напрочь позабыв, к какому зернышку или песчинке он присматривался рыбьими глазами, летел со всех ног неизвестно куда”.*

Трэба сказаць наперад, што браты так кпілі і пакеплівалі, так не палюбілі адзін аднаго (ці то праз жонак, ці то праз сваю сацыяльную няроўнасць), што ў фінале аповесці ледзь не да смерці скалечыліся ў бойцы між сабой. А ўсё зайздрасць і скнарнасць. Савецкая прыгнечанасць і беднасць змушалі іх не толькі працай у калгасе, але і ўсімі іншымі магчымымі метадамі здабываць “штодзённы хлеб” для сябе і сваіх дзяцей. Безумоўна, што паводзіны дарослых падсвядома накопліваліся ў дзіцячай псіхіцы і характарах. І ўсё ж як не запыніцца на тэксце, чытаючы пра цётку Волю такое: *“Слова сыпались из неё так густо, что ими можно было наполнять самосвалы. А вот ее взгляд поймать было невозможно. Один тетин глаз смотрел вправо, другой – влево, и как я ни старался угадать, на что они обращены, ни в первый день, ни в последующие – это не удалось. Возможно, ее навсегда разбежавшиеся в разные стороны глаза гнались не за обыкновенными рассыпными галками или собаками, а были затянуты в недоступные простым смертным фантастические миры”.*

Гратэск, гіпербала, яркая маляўнічая метафара – вось тыя літаратурныя тропы, якімі найчасцей аперуе аўтар. Таму, чытаючы аповесць, захапляешся не столькі яе сюжэтам, але, найперш, арыгінальным стылем пісьменніка і яго неардынарнымі карцінамі правінцыйнага жыцця і вобразамі вясковых дзівакоў. Трэба адзначыць, што, захапляючыся дзіцячым светам падлеткаў, аўтар не забывае (ці то наўпрост ці то ў падтэкстах) паказваць сацыяльны і ментальны зрэз правінцыйнага беларускага грамадства падчас развіцця сацыялістычнага савецкага ладу ў СССР, у прыватнасці ў беларускай Магілёўшчыне. І хоць пісьменнік не ставіў сабе за мэту глыбока раскрыць ідэалогію і бальшавіцкі метад кіравання сялянствам і аграрнай сістэмай, а хацеў толькі вымаляваць па памяці тыя жывыя чалавечыя

(і найперш уласныя дзіцячыя і безадносныя да грамадскага ладу) суперажыванні таго часу. У аўтара не было зададзенасці паказаць і выявіць вачыма падлетка ўсе сялянскія з'явы такімі, якімі яны былі насамрэч, а толькі абазначыць іх на фоне дзіцячай псіхалогіі і ў працэсе станаўлення характара падлетка. Можам толькі ўявіць, якім склалася б жыццё галоўнага героя аповесці, калі б ён застаўся жыць у той вёсцы. На гэта нам намякае заключны раздзел твора (па сутнасці эпілог). Бо з сюжэтнага ходу чытач бачыць, што бацькі крадуць калгаснае дабро (бо яно ж амаль як сваё), а, гледзячы на іх, пачынаюць красці і іх дзеці, пакуль яшчэ не недаступнае ім калгаснае, а – бацькоўскае, мазалём нажытае і грэшнымі чынам набытае. Словам, чытач апынаецца ў эпіцэнтры побыту сялян 1960-х гадоў, калі ўжо савецкай сістэмай адсунутыя на другі план нацыянальныя традыцыі і звычкі, адносіны да калектыўнай працы і выхавання дзяцей. Адчуваецца, што камуністычная прапаганда і прамінулая вайна прыглушылі і загналі глыбока ўнутр затоенае негатыўнае стаўленне да калгаснага і савецкага ладу жыцця і яго бесперспектыўнасці...

Але пра гэта ўсё забываеш, уяўляючы намаляваныя аўтарскай памяццю непамысныя і запамінальныя метафарычныя вобразы і характары. Такое не прыдумаеш, гэта трэба было пераЖыць і захаваць у памяці, каб праз паўстагоддзя выкласці на паперы з такой непадробнасцю. Ці не адчуваеце вы вось у гэтым фрагменце асацыятыўны пераклік з маркесавай "жесткосердной бабкой Эрендиры": *"Из-под стола выглянула мышь. Осмотревшись, она бесстрашно подбежала к табуретке и принюхалась к бабушкиному тапочку. Бабушка вдруг молниеносно склонилась и схватила мышь за тонкий хвост. Пару раз крутнула ее в воздухе, так что у той, наверно, закружилась голова, она с размаху шмякнула мышку об пол. Затем открыла окно и бестрепетной рукой вышвырнула покойницу в сад. И сразу, будто ему позвонили или дали телеграмму, из-за груши показался знакомый розово-белый кот".*

Аўтар скрозь слёзы пасміхаецца са свайго і нашага савецкага мінулага, але і светла ўспамінае той час, калі "дрэвы былі вялікімі"... Напрыклад, сустрэчу з каровай Мартай: *"Пятнистая морда с невидящими глазами и слюнявым, как у младенца, ртом приближалась с такой скоростью, что оставалось только вжаться спиной в изгородь. Земля задрожала. Корова надвигалась, чужая и жуткая, как марсианский треножник. Вымя под ней болталось, будто корзина, наполненная захваченными в плен землянами. Острые, мертвенно-серые рога, подпрыгивая, неслись ко мне. Я уже слышал отвратительный хруст, с которыми они входили в мое тело, исторгая из него струи крови. Корова несомненно и сама произошла от крови, мимоходом догадался я и закрыл глаза. Обдав меня сопеньем, жаром и грохотом, опасность пронеслась мимо".*

Пра каня, якога назвалі Партфелем:

*"Почему Портфель?" – спросил я.*

*"Гладкий", – немногословно ответил Валерик.*

Пра кнігі (амаль сённяшняя сітуацыя):

*"Почитать у вас что-нибудь найдется?" – с надеждой спросил я.*

*"Кто летом читает?" – ответил Валерик.*

*"Мы зимой читаем", – улыбаясь, разъяснил Женик.*

*"Они читают!" – скорчила гримасу Галька".*

Усе дзіцячыя гульні былі набліжаныя да рэальнага жыцця дарослых. Для іх прыстасоўвалі хатнія гаспадарчыя рэчы, скрадзенае з дому ружжо, чыгуначны семафорны ліхтар, запалкі, вёдры, рыдлёўкі, нават бутэльку самагонкі, а прыпамінаючы партызаншчыну, ладзілі шалашы і капалі зямлянкі... І ўсё гэта ў арэоле рамантыкі. Найбольш шчымлівая і душэўная гісторыя, якая праходзіць праз усю аповесць – гэта першае пачуццё закаханасці. Яго насамрэч цяжка выказаць

у сапраўднасці, а тым больш на паперы. Ды так, каб гэта выклікала ў чытача суперажыванне, спагаду і замілаванасць. Казакевіч змог. У Саськаўцы жыла дзяўчынка Ція, якая і парушыла сон героя аповесці. Вельмі даткліва выпісаны іх падсвядомасныя перажыванні і стасункі, якія, між іншым, асіметрычна кладуцца на эпізоды, калі наш "Рамэа" ў сне абпісьваецца ў дзедавым ложку... Гэта самая лірычная лінія аповесці, тонкая, светла-элегічная навела пра нараджэнне чалавечай душэўнасці сярод сярмяжна-брудлівага хаосу паўсядзённага жыцця.

*"Я обернулся и погиб. В золотом от солнца дверном проеме стояла девочка, при взгляде на которую будто оголенный высоковольтный провод задел мое сердце, и со счастливым ужасом всем своим существом от пяток до макушки понял, что влюбился навсегда и бесповоротно. Ее светлые вьющиеся волосы сверкали, как молнии, были растрепаны, как гроза. Казалось, расческа никогда не встречалась с ними. Травянистого оттенка глаза смотрели так, словно предлагали встречным глазам померяться силами. Хлипкая, чуть ниже меня ростом, босиком, она была в длином пасмурном балахоне, то ли купленном на вырост, то ли доставшемся с чужого плеча, как достались мне необъятные штаны, про которые я с немым проклятьем сейчас вспомнил".*

І далей:

*"Со вчерашнего дня, смущая и волнуя меня, перед взглядом прокручивалась одна и та же сцена: Тия, предлагая отдать грибы, простодушно вскидывает подол платья и высоко открывает ноги. Темно-коричневые внизу они поразили меня таинственной белизной выше коленей. Слепящей белизной, будто обрывом кинопленки, кончалось мое видение. Ради этой белизны я запускал воображаемую ленту вновь и вновь, словно самым интересным для меня был миг, когда фильм прерывается и в глаза бьет голый экран".*

І нарэшце: *"...я хорошо помнил, что должен теперь поцеловать Тию. Но впервые оказавшись с ней наедине, видя так близко ее расширенные, охваченные блестящей тревогой глаза, чувствуя ее дыхание, растерянно узнавая, что она вымыла волосы земляничным мылом, я с ужасом сознавал, что не только поцеловать ее не смогу, пошевелиться не в состояни.*

*– Пойдем посидим, – внезапно поднырнув под мою руку, отделилась от изгороди Тия.*

*– Идем, – с бесконечным облегчением и с таким же бесконечным презрением к себе согласился я".*

Аднак аповесць канчаецца не джульетаўскімі слязьмі, а глыбокім абрывам ва ўспамінах аўтара даўжынёю ў палову чалавечага веку. Вакацыі скончыліся. У дзіцячай кампаніі пачаліся суровыя дарослыя будні, фінал якіх наводзіць на сур'ёзныя высновы, што тычацца ўжо сучаснай беларускай гісторыі: *"Стась погиб, перевернувшись на тракторе. Славик окончил училище для глухонемых и получил девять лет за групповое изнасилование. Галька на "Жигулях" везла на базар свиную тушу, въехала в разбившийся грузовик, и ее проткнул стальной прут. Тетя Зина умерла через неделю. Дядя Эдик хвастался, что у него на книжке уже пятьдесят тысяч рублей. Но тут подоспела денежная реформа. Валерик занялся бизнесом. Директора Женикова совхоза выбрали президентом, Женика назначили главным контролером области и взорвали, подложив в мусоропровод авиационный фугас. Валерика посадили за махинации. Дядя Петя выбросился в городе из окна.(...) Я так мечтал, как однажды вновь с широко открытыми глазами пошагаю по сказочному поселку, что порой пожимал плечами: зачем, собственно говоря, я хочу через столько лет вернуться в Саськовку? Чтобы дочитать "Незнайку"? Но я и так знал, что с ним случилось. Асфальт оборвался у кладбища. Я вылез из кабины. Внушительных размеров заиндевевший замок торчал на воротах. Открыть его можно было лишь единственным способом".*

Так заканчваецца, на першы погляд, ідылічная аповесць пра маленства.

Мая жонка пасля прачытання прасіла пры чарговым электронным кантакце з Вячаславам спытаць: а што з Ціяй? Але адказ на гэтае пытанне аўтар пакінуў пры сабе. Яго права.

Колькі заўвагаў напрыканцы гаворкі. На жаль, і гэта трэба прызнаць, што ў кнізе сярод абсалютна ўсяго беларускага амаль няма духу і аўры самой беларушчыны. Аўтар не надае гэтаму асаблівай увагі, хоць мы не можам не заўважыць нацыянальных праяў нават у яго мове (*буракі*, *панчохі*, *нясмачна*, *кадушка*, *ёлуп*, *хлопец*, *здор*...), у апісанні прыроды, характараў герояў... і поўнай адсутнасці ўпамінання СССР. Усё гэта недзе як бы там – далёка, а тут – сваё, блізкае, ***суверэннае*** правінцыйнае сялянскае жыццё...

Рэдка, але дзе-нідзе заўважаюцца ў кніжцы здраджванні аўтарскай памяці. Да прыкладу: *"торговые центры"*, альбо: *"тетя включала газ"*. Такога тады яшчэ не было ў савецкай рэчаіснасці. Ну, і гэтак цынічна беларускія дзеці тады яшчэ, дзякаваць Богу, не гаварылі: *"А ху-ху ты не хо-хо?"*

І ўвогуле, гэта дзіцячая чытанка ці кніга для дарослых? Скажам так, гэтая кніга не для тых, хто ўсё яшчэ будуе паветраныя замкі, а для тых, хто жыве ў даўно збудаваных шапаткіх буданах свайго дзівоснага дзяцінства... Гэтая кніга – прытул для супакаення зняверанай на жыццёвых раздарожжах душы.

Мне падалося, пра што намякнулі людзі, якім я даваў пачытаць кнігу, што аповесці бракуе натуральнай людской цеплыні і любові, не стае некаторых традыцыйных, ненаўмысна прыцененых аўтарам выразных прыкмет нашай беларускай ментальнасці. Хутчэй за ўсё, гэта адбылося з прычыны таго, што аўтар пісаў кнігу памятлівымі вачыма сябе-хлапчука, а падсвядома (падтэкстава) разважаў сённяшнім, аддаленым ад напісаных дзеяў, прафесарскім розумам... Аднак, як ні дзіўна, такі творчы сімбіёз надае мастацкаму складніку аповесці не толькі крэатыўнасці, але і перасільвае сённяшні магчымы чытацкі недавер да нашага мінулага – прасветлага і незабыўна-настальгічнага, не зважаючы ні на што...

Я думаю, беларусы, і не толькі рускамоўныя, адцэмяць для сябе пісьменніцкае імя Вячаслава Казакевіча як адно з самых таленавітых, хоць яшчэ як след і неспазнаных на Бацькаўшчыне, каб у будучым разлічваць на выданне яго кніг на Радзіме. Давайце будзем усё вартае, створанае беларусамі, дзе б і кім яны ні былі, лічыць Сваім скарбам. У дадзеным выпадку – літаратурным.

# Пад вольным небам

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***




**Васіль Быкаў. Сваякі. Графічны раман. Ілюстрацыі Яна Жвірблі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 32 с.**

Адмыслова да Дня народзінаў Васіля Быкава Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў апавяданне “Сваякі”, зробленае ў жанры графічнага рамана маладым мастаком Янам Жвірблем. Жорсткі твор Васіля Быкава пра тое, як маці, паспадзяваўшыся на сваяцтва з вясковым паліцаем, неўпрыцям адпраўляе дваіх сыноў на смерць, праілюстраваны гэтак жа бязлітасна востра. Экспрэсіўныя, натуралістычныя і поўныя трагізму малюнкі мастака нагадваюць, што гэта зусім не просценькі комікс для дашкольнікаў, а паўнавартасны графічны раман. Апавяданне Быкава ў аздабленні Яна Жвірблі робіць фанатам коміксаў і аматарам авангарднай кніжнай графікі сапраўдны падарунак.




**Валянцін Дубатоўка. Чужы. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка“; вып. 95). – 240 с.**

Галоўным творам з тых, што ўвайшлі ў новую кнігу гарадзенскага мецэната і старшыні абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі, ёсць вострасюжэтная аповесць “Чужы”, якая распавядае пра жыццё ў Беларусі 1939-1950-х гадоў. У цэнтры твора – жыццё заходнебеларускага хлопца Кастуся Саўчыка, на долю якога выпалі цяжкія выпрабаванні, але не зламалі яго... Дэтэктыўнасць, псіхалагізм, трапнасць мастацкіх дэталяў уласцівыя апавяданням “Брат” і “Іосіф”. Вось, як кажа пра адметнасць сваёй новай кнігі сам спадар Валянцін: “*Яна для мяне вельмі значная. За свае 50 год колькі напісана, колькі ўсяго зроблена... І па-сутнасці гэтай кніжкай я падводжу рысу свайго творчага жыцця. Канешне, гэтая кніга ў першую чаргу пра каханне. Пра каханне звычайнага заходнебеларускага хлопца да дзяўчыны. Каханне няўдалае, бо часы, калі жыў галоўны герой, гэта якраз самыя трагічныя часы сучаснай беларускай гісторыі*”. *(Радыё “Рацыя”).*

**Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША. – 2-е выд., дапрац. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 31). – 632 с.**




У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" пабачыла свет другое выданне кнігі патрыярха беларускай эміграцыі на Захадзе Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША". Кніга ў больш як 600 старонак багата ілюстраваная, дапрацаваная і дапоўненая новай інфармацыяй з улікам апошніх двух дзясяткаў гадоў, што мінулі ад часу яе першага беларускага выдання ў 1993 годзе. Як адзначае навуковая рэдактарка кнігі Наталля Гардзіенка, "падрыхтоўка другога выдання заняла каля двух гадоў супольнай працы самога Вітаўта Кіпеля, архівіста Лявона Юрэвіча і маёй як рэдактара. Гэтае выданне стала асабліва важным для мяне як магчымасць выказаць павагу і падзяку чалавеку, якога бязмежна паважаю як асобу, як даследчыка, як беларуса". Другое выданне "Беларусаў у ЗША" пабачыла свет да 90-х угодкаў аўтара. Пытайцеся ў кнігарнях!

**Аксана Спрынчан. Смачная кніга: вершы, загадкі. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2017. – 71 с.**




Усе вершы ў гэтай кнізе звязаныя са смакатою. Кожны чытач, і маленькі і вялікі, мае магчымасць назбіраць грыбоў на суп гасцям разам з вожыкам, даведацца, якую страву выдра рабіла бабру, чаму морж згубіў голас, хто любіць камароў у шакаладзе, што можа згатаваць мама-беларуска. Усіх чакаюць «Агародная хованка» і «Смачныя загадкі». Кніга цудоўна праілюстраваная мастачкай Вольгай Максімовіч. Смачна чытаць!

**Тумас Транстромер. Пад вольным небам. Пер. са шведскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 204 с.**




Кніга выбраных вершаў шведскага паэта-набеліста Тумаса Транстромера ў перакладзе на беларускую мову стала сумесным праектам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Амбасады Каралеўства Швецыі ў Беларусі. Над перакладамі працаваў квартэт: Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Алеся Башарымава, Андрэй Хадановіч. Укладальнікам выступіў Лявон Баршчэўскі, аўтарам прадмовы-эсэ – Уладзімір Арлоў, аўтарам паслямовы – шведскі даследчык, літаратурны крытык Ніклас Шолер, кансультантам – шведскі дыпламат і літаратар Стэфан Эрыксан.

Як адзначаецца ў анатацыі да выдання, мастацкай і чалавечай скарбонкай Тумасу Транстромеру (1931-2015), лаўрэату Нобелеўскай прэміі 2011 года, служыла сусветная літаратура. Антычныя ды біблійныя крыніцы, а таксама хрысціянская містыка і барочная паэзія ўдыхнулі жыццё ў яго тонкую і пранікнёную лірыку. Пры гэтым ён дасканала бачыў традыцыі, якімі наўпрост прасякнутая сучаснасць.

# Нашыя аўтары

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976–2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў, частка якіх друкавалася ў розных тэматычных зборніках, а таксама ўвайшла ў кнігу «Мосцік над вечнасцю». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Васілевіч Уладзімір** – фальклагыст, этнограф, перакладчык. Працаваў у БДПУ імя М. Танка. Перакладае з польскай мовы. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Драздоў Генадзь** — мастак. Працуе ў галіне графікі, жывапісу, займаецца распрацоўкай аўтарскіх канцэптуальных праектаў. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, прыватных калекцыях Расіі, Германіі, Польшчы і інш. Старшыня Рады творчай суполкі «Пагоня» (2011–2016). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Паддуб’е на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Ірына** – бібліст, філасаф. Доктар філасофіі, доктар сакральнай тэалогіі. Акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюма Нарадзілася ў 1964 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дэбіш Васіль** – паэт. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі», «Лісты да Марыі», «Праз дождж», «Чуйнар». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Жыве ў Брэсце.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Каўка Аляксей** — публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык. Аўтар кніг «Тут мой народ», «Жывом!», «Будам жыць!», «Каб не забыцца», «От Скорины до Купалы», «Мае беларусы» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеншчыне. Жыве ў Маскве.

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў «ЛіМе», «Нашай ніве» і інш. выданнях. Аўтарка кніг «Матылі», «Гняздо-2». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Міхалёва Вераніка** – паэтка. Працуе фармацэўтам. Студэнтка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (праграма Медыя і камунікацыі). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Магілёве, дзе і жыве.

**Назараў Валерый** – літаратуразнаўца. Аўтар кнігі «Тайнапіс Андрэя Мрыя: Падтэкст рэалій у творчасці пісьменніка», адзін з укладальнікаў 16, 17 і 20 тамоў Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Наўроцкі Алесь** – паэт, празаік. У 1964 г. прыняты ў сябры Саюза пісьменнікаў СССР. У 1978 г., пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах, выйшаў з Саюза пісьменнікаў. У 1981 г. прымацаваны да псіханеўралагічнага дыспансера і пазбаўлены працы ўрача. Аўтар кніг вершаў «Неба ўсміхаецца

маланкаю», «Гарачы снег», «Пакаленні і папялішчы», кнігі апавяданняў «Валун». Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Давыдаўка на Гомельшчыне. Памёр у 2012 годзе.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах», «З'яўленне Інфанты», «Дагератып» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Салавей Лія** – фалькларыстка, этнограф. Аўтарка кнігі «Беларуская народная балада», раздзелаў у калектыўных манаграфіях, укладальніца шэрагу тамоў акадэмічнай серыі БНТ. Перакладае з польскай мовы. Кандыдатка філалагічных навук. Лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзілася ў 1934 годзе ў вёсцы Навасёлкі Пастаўскага павета (цяпер Мядзельскі раён). Жыве ў Мінску.

**Салейчук Яўген** – перакладчык. Скончыў Брэсцкі педуніверсітэт. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Пінску. Жыве ў Пінску.

**Саматой Ірына** – літаратуразнаўца. Аўтарка артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1961 годзе ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сільнова Людка** – паэтка, публіцыст, крытык. Аўтарка кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...», «Рысасловы», «Зеленавокія вої і іх прыгажуні», «Зачараваная краіна», «Горад Мілаград» кнігі візуальнай прозы «Агністыя дзьмухаўцы», кнігі крытыкі «Крышталёвы сад». Нарадзілася ў 1957 годзе ў Маладэчне. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** — паэтка, празаік. Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009). Аўтарка кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ», «Смачная кніга» і інш. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Сцяпан Сяргей (Юрась Гуліцкі)** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг вершаў «Буслы на ржышчы», «Снежань». Творы друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Крыніца», «Беларусь», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Шавялі на Ляхавіччыне Жыве ў Мінску

**Тышкевіч Канстанцін** — беларускі гісторык, археолаг, географ, краязнаўца, этнограф, фалькларыст. Чалец навуковых таварыстваў Вільні, Кракава, Масквы, Прагі, Парыжа, Лондана. Аўтар кніг «Вілія і яе берагі ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах», «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай», «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва». Нарадзіўся ў 1806 годзе ў Лагойску. Памёр у 1868 годзе ў Мінску.

# Contents

***PROSE***

**Ludmiła Rubleŭskaja.** Mnemosyne's Sandal. *A novel.*
**Adam Hłobus.** Parisian Fairy Tales.
**Palina Kačatkova.** A Fridge in the Flat No.0. *A short story.*
**Aksana Sprynčan.** My Private War. *Poems.*
**Zarasłava Kaminskaja.** "Tutejšyja". *A short story.*

***POETRY***

**Ludka Silnova.** There Will Be Mountains in the End. *Poems.*
**Siarhiej Vahanaŭ.** A Poet Is Alive as Long as the Nation Is Alive... *Poems.*
**Vasil Debiš.** Where the Love Is... *Poems.*
**Siarhiej Sciapan.** The Plasticine People. *Poems.*

***DEBUT***

**Veranika Mikhalova.** My Heart Is Always Here... *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**The Moon Is the Fairy.** An Athology of Italian Poetry.
*Translated by Aksana Danilčyk.* **Giacomo Leopardi, Giosuè Carducci, Giovanni Pascoli, Carlo Mickelstaedter, Dino Campana.**
**Ryszard Kapuściński.** The Kyrgyz Dismounts. *(Ending).*
*Translated by Jaŭhien Salejčuk.*

***500-HODNAŚĆ***

**Iryna Dubianieckaja.** A Book of Genus. *The new Belarusian Bible. (Continuation).*
**Alaksiej Kaŭka.** To Go Out and Stay Yourself. *Thinking on Skaryna's line.*

***MEMORY***

**Adam Varłyha.** The Second War. *Foreward and edition by Natalla Hardzijenka.*
**Hleb Herasimaŭ.** The Branch of My Genus. *My Grandfather Anatol Baranoŭski.*

***ANNIVERSARIES***

**Alieś Naŭrocki.** A Word about Word. *(Beginning).*
*Preparing for publication, foreword and comments by Viktar Žybul.*
**Valeryj Nazaraŭ.** A Little Saga... *Janka Bryl's «mouthpiece and folder»: thinking on writers' archive materials.*

***MEMORY***

**Alieś Belski.** "The Own Cross". *A word about Hienadź Pranievič.*
**Iryna Samatoj.** "I Am Nobody in Front of the Muse: One of the Thousands of Her Fiances..." *Touches to the creative portrait of Mikhaś Raičonak.*

***SOURCES***

**Konstanty Tyszkiewicz.** Viliya and Its Coasts: Hydrographically, Historically, Archaeologically and Ethnographically. *Translated by Uładzimir Vasilevič. (Ending).*

***MEMOIRS***

**Lija Sałavej.** Talks of My Land. *(Ending).*

***BOOKRONCLE***

**Leanid Hałubovič.**
Belarusian Childhood ў Таяма. *Review of the book by Viačasłaŭ Kazakievič.*

***DZIEJASŁOÚ'S STOCK***

*New books on **DZIEJASŁOŬ's** shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.